АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ



МІНСК
«НАВУКА І ТЭХНІКА»
1983

ББК 82.3 Бел-6
Л33



Складальнікі:
**М. Я. Грынблат, А. І. Гурскі**

Рэдактар тома
**А. С. Фядосік**

Л33 **Легенды і паданні** / [Склад. М. Я. Грынблат і А. І. Гурскі; Рэд. тома А. С. Фядосік].— Мн.: Навука і тэхніка, 1983.— 544 с.— (Беларус. нар. творчасць / АН БССР, Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору).

У пер.: 3 р. 30 к.

У чарговым томе шматтомнага выдання «Беларуская народная творчасць» упершыню найбольш поўна сабраны асноўныя жанры няказкавай прозы беларускага эпасу — легенды і паданні. У іх пададзены старажытныя міфалагічныя ўяўленні пра паходжанне сусвету, зямлі, чалавека, жывёл і раслін, легенды сацыяльнага зместу, а таксама адносіны да бога і святых; паданні апавядаюць пра гістарычныя падзеі і гістарычных асоб, пра паходжанне беларускіх гарадоў, вёсак, урочышчаў і іх назваў. Да змешчаных тэкстаў дадзены ўступны артыкул-даследаванне, каментарыі і паказальнікі.

Разлічана на фалькларыстаў, гісторыкаў, выкладчыкаў, студэнтаў, журналістаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй культуры і творчасцю свайго народа.

Л $\frac{4702120100-162}{М316-83}$ 129—83

ББК 82.3 Бел-6

# ЛЕГЕНДЫ І ПАДАННІ

## I

Сярод жанраў вусна-паэтычнай прозы поруч з казкамі значнае месца ў беларускім фальклоры займаюць легенды і паданні. Яны складаюць адну з важнейшых частак беларускага народнага эпасу. Між тым да гэтага часу беларускія легенды і паданні не зрабіліся прадметам спецыяльнага і сістэматычнага збірання і таму амаль зусім не даследаваны. З гэтай жа прычыны мы не мелі і асобных выданняў легенд і паданняў беларусаў. У дарэвалюцыйных публікацыях беларускай народнай творчасці, ды і ў фальклорных зборніках савецкага часу, легенды і паданні ў невялікай колькасці звычайна змяшчаліся разам з казкамі або адзінкавымі тэкстамі раскіданы ў агульных фальклорна-этнаграфічных апісаннях і ў перыядычным друку.

Усё ж нельга сказаць, што беларускія легенды і паданні зусім не прыцягвалі ўвагу збіральнікаў фальклору, этнографаў, гісторыкаў, пісьменнікаў. Ужо ў першай палавіне XIX ст. легенды і паданні беларускага народа ў той або іншай меры знаходзяць сваё месца ў радзе рускіх і польскіх выданняў. Так, у 1837 г. некалькі беларускіх паданняў у перакладзе на польскую мову трапіла ў зборнік польскага гісторыка К. Вуйціцкага [1]. У гэты ж час некаторыя беларускія народныя легенды і паданні з'яўляюцца ў літаратурных апрацоўках або ўплятаюцца ў мастацкую тканіну твораў вядомых і малавядомых пісьменнікаў — беларускіх, рускіх і польскіх.

Геній польскай паэзіі Адам Міцкевіч, які нарадзіўся і быў узгадаваны на Навагрудчыне, напоены чароўным хараством народнай творчасці, апаэтызаваў многія старажытныя беларускія сялянскія павер'і, звычаі і легенды. У паэме «Свіцязянка» ён узнаўляе даўняе народнае паданне. Стаяў сярод лесу квітнеючы горад. Мірна жылі ў ім гараджане. Але напаў на горад вораг, знішчыў усіх яго абаронцаў-мужчын, Тады жанчыны, каб не даць чужынцам завалодаць родным горадам, патапілі яго ў возеры.

Прыгожыя даўнія легенды беларусаў натхнілі паэта таксама на стварэнне «Свіцязі», «Гражыны» і «Пана Тадэвуша» [2].

Нямала чэрпалі з беларускіх паданняў для сваёй творчасці беларускі і

---

[1] Wójcicki K. W. Klechdy, starożytne podanie i powiaści ludu polskiego i Rusi.— Warszawa, 1837. (Перавыдавалася ў 1851, 1876 і 1879 гг.)

[2] Лойка А. А. Адам Міцкевіч і беларуская літаратура.— Мн., 1959, с. 28—81 («Адам Міцкевіч і вусная паэтычная творчасць беларускага народа»).

польскі паэт У. Сыракомля (Л. Кандратовіч) і польская пісьменніца Эліза Ажэшка.

З'яўляюцца асобныя беларускія легенды ў літаратурнай апрацоўцы. Адной з найбольш ранніх спроб падобнага роду было не вельмі ўдалае рускае пералажэнне «магілёўскага павер'я» «Кучута ў рове», якое было эроблена В. Троіцкім [3].

На матэрыяле беларускіх легенд і паданняў узнікаюць і асобныя літаратурныя творы. Так, буйнейшы твор беларускага і польскага пісьменніка першай палавіны XIX ст. Яна Баршчэўскага «Шляхціц Завальня» [4], які складаецца з асобных аповесцей, пабудаваны ў значнай ступені на легендах і паданнях, што бытавалі на Віцебшчыне (у Полацкім, Себежскім і Невельскім паветах). Каштоўнасць гэтага твора перш за ўсё ў тым, што ў ім аб'ектыўна раскрыта багацце беларускіх легенд. А легенды гэтыя і паданні Баршчэўскі чуў сам у час сваіх вандровак па Беларусі, Рамуальд Падбярэскі ва ўступным артыкуле да «Шляхціца Завальні» пісаў пра Я. Баршчэўскага: «Трэба яго ведаць асабіста, трэба яго бачыць з падарожніцкім кіем у руцэ так, як я страчаў яго ў маіх падарожжах, пешкі, сярод вясковага люду беларускага, на плытах Дзвіны, у прыдарожных корчмах, на ледзьве ўбітых лясных сцежках і вялікіх гасцінцах» [5]. І хоць ён лічыць, што Баршчэўскі «не з'яўляецца збіральнікам паданняў», а толькі выяўляе іх у мастацтве, што ў яго апавяданнях «толькі ядро належыць вясковаму люду», а ўсё астатняе — «вымысел аўтара, афарбаваны ў народныя колеры» [6], гэта не зусім так. Сам Баршчэўскі адзначыў: баючыся, што, магчыма, «не ўсе чытачы зразумеюць беларускую мову», ён выпрашыў пачутыя з вуснаў народа апавяданні «*ў як мага даслоўным перакладзе* напісаць па-польску» [7] (курсіў наш.— *М. Г.*). Такім чынам, скарыстаныя Баршчэўскім беларускія легенды і паданні можна лічыць сапраўднымі народнымі творамі, толькі пададзенымі ў перакazе на польскай мове.

Зварот да скарбаў народнай творчасці і стварэнне літаратурных твораў на аснове беларускіх легенд і паданняў у першай палавіне XIX ст. звязаны з развіццём рамантызму ў заходнееўрапейскіх і славянскіх літаратурах. Гэта становіцца свайго роду модай. Тут можна яшчэ прыгадаць польскае апавяданне М. Асарыі аб Райградзе, створанае на аснове беларускіх і літоўскіх народных паданняў Гродзенскага Панямоння [8].

Паданні аб легендарным горадзе Райградзе і зараз яшчэ жывуць на паўночнай Гродзеншчыне. У 1953 г. паданні пра Райград, які нібы праваліўся

[3] Русский вестник, 1841, т. 4, с. 361—373.
[4] Barszczewski J. Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach, t. 1—4.— Petersburg, 1844—1846.
[5] Barszczewski J. Szlachcic Zawalnia..., t. 1, c. XXXIX.
[6] Там жа, с. XXXVII.
[7] Там жа, с. 23.
[8] Ossoryja M. Rajgród: Opowiadanie na miejscowych podaniach okolic Druskienik oparte.— Ondyna Druskienickich źródeł, II. Grodno, 1845, zesz. 6, c. 15—32.

скрозь зямлю, нам давялося чуць у Гродзенскім, Шчучынскім і Воранаўскім раёнах.

У рускім друку на працягу першай палавіны XIX ст. беларускія легенды і паданні ў адносна «чыстым» выглядзе, хоць яшчэ не ў фальклорным запісу, але ўжо і не ў літаратурнай апрацоўцы, а ў пераказе на рускай мове, з'явіліся толькі адзін раз. Мы маем на ўвазе асобную публікацыю П. Шпілеўскім некалькіх беларускіх паданняў у 1846 г.[9]

Марудна працягвалася публікаванне беларускіх легенд і паданняў і ў другой палавіне XIX ст. У 50—70-я гады яны яшчэ трапляюцца ў рэдкіх публікацыях і ў вельмі невялікай колькасці. Але характэрна ўжо, што ў гэты час беларускія легенды і паданні, хоць і адзінкамі, з'яўляюцца ў агульных этнаграфічных і краязнаўчых апісаннях асобных частак Беларусі. Тут трэба адзначыць вядомы этнаграфічны нарыс, які прыпісваецца М. Анімеле. У нарысе змешчана некалькі паданняў з Себежчыны (пра могілкі, курганы і камень-пястун)[10]. Варта адзначыць таксама этнаграфічна-краязнаўчыя апісанні П. Шпілеўскага[11], А. Славуцінскага (легенды пра Івана Купалу, Іова-праведнага, Стрыгу-дамавіка, Мару́)[12], К. Тышкевіча (легенда пра ператварэнне аратага з сахой і валамі ў камень)[13], Ю. Ф. Крачкоўскага (два паданні пра замак у Лідзе, заснаванне мястэчка Лебедзева і легенда пра стварэнне шляхты і мужыка)[14], С. В. Максімава (паданне пра Кабылячча балота пад Гомелем)[15] і інш. Апрача таго, асобныя публікацыі легенд, запісаных беларускімі этнографамі, зрэдку з'яўляліся ў перыядычным друку[16].

На жаль, амаль усе легенды і паданні публікаваліся не ў сапраўдных запісах, г. зн. не ў аўтэнтычных тэкстах, а ў пераказах, нярэдка не зусім дакладных. У гэтым праявіліся, відаць, адносіны тагачасных збіральнікаў народнай творчасці да легенд як да твораў другарадных і нібы пазбаўленых мастацкіх вартасцей, уласцівых іншым жанрам фальклору.

Толькі пачынаючы з 80-х гадоў XIX ст., з выхадам у свет класічных фальклорна-этнаграфічных зборнікаў Е. Р. Раманава, П. В. Шэйна, М. Федароўскага, а пазней і У. М. Дабравольскага, якія ўпершыню раскрылі ба-

---

[9] Белорусские народные предания.— ЖМНП, 1846, кн. 1, 4.

[10] Быт белорусских крестьян.—Этнографический сборник ИРГО, 1854, вып. 2, с. 266—269.

[11] Шпилевский П. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю.—Современник, 1853—1854, т. 40, 48.

[12] Славутинский А. Этнографические очерки Гродненской губ.— Виленский вестник, 1867, № 119, 120.

[13] Tyszkiewicz K. Wilija i jej brzegi.— Drezno, 1871, с. 33.

[14] Крачковский Ю. Ф. Быт западнорусского селянина.— Чтения в О-ве истории и древностей российских при Московском университете, 1873, кн. 4. М., 1874, с. 210—212.

[15] Максимов С. В. Обитель и житель: (Из очерков Белоруссии).— Древняя и Новая Россия, 1874, т. 2, № 7, с. 203.

[16] Дмитриев М. Озеро Свитязь.— Виленский вестник, 1860, № 41; Васильева А. Легенды и поверья в Минской губернии.— Минские губернские ведомости, 1873, № 9—11; яе ж: «Князь-озеро».— Там жа, 1877, № 52; Подобед Ф. Машека.— Могилевские губернские ведомости, 1851, № 8.

гацці казачнага эпасу і іншых відаў народнай прозы беларусаў, з'явіліся і першыя дакладныя фальклорныя запісы беларускіх легенд і паданняў, хоць і змешчаныя не асобна, а побач з казкамі [17]. Але і тут разам з непасрэднымі запісамі на народнай мове траплялася яшчэ нямала легенд у пераказах на рускай мове [18].

У пераказах беларускія легенды і паданні ў канцы XIX ст. працягваюць з'яўляцца і ў іншых выданнях. Найбольш такіх паданняў пра курганы, гарадзішчы і іншыя помнікі змясціў у працы «Беларускія старажытнасці» гісторык-краявед А. М. Семянтоўскі, пра міфалагічныя персанажы — П. П. Дземідовіч [19]. Паасобныя беларускія легенды, пераказаныя на польскай мове, публікаваліся ў той час у розных польскіх выданнях [20].

Тут варта прыгадаць таксама пераказы народных легенд і своеасаблівыя «мантажы» з іх, якія былі зроблены этнографам Е. Р. Раманавым, добрым знаўцам беларускай народнай творчасці, асабліва казак і легенд [21].

У апошнія дзесяцігоддзі XIX ст. «мода» на літаратурныя апрацоўкі беларускіх легенд і паданняў набывае новую сілу. З'яўляецца рад літаратурных твораў, асноўным зместам якіх паслужылі беларускія легенды сацыяльнага гучання. Тут перш за ўсё трэба назваць вершаваную легенду-паэму «Ад чаго завяліся паны на Палессі» рускага пісьменніка У. У. Крастоўскага (1840—1895) [22], аўтара вядомага рамана «Пецярбургскія трушчобы», якога вабіла таксама жыццё Беларусі.

Вядомы яшчэ літаратурныя апрацоўкі беларускіх легенд С. Крапівіна [23],

---

[17] Романов Е. Р. Белорусский сборник.— Витебск, 1887, вып. 3; 1891, вып. 4; Могилев, 1901, вып. 6; Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края.— СПб, 1893, т. 2; Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник,— СПб, 1891, ч. 1; Federowski M. Lud Białoruski na Rusi Litewskiej.— Kraków, 1879—1903, t. 1—3.

[18] У пераказах на рускай мове падаў рад легенд, якія раскрываюць вобразы так званай ніжэйшай міфалогіі беларусаў, М. Я. Нікіфароўскі ў кн.: Нечистики. Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе.— Вильна, 1907. У Шэйна з 99 апублікаваных ім легенд, паданняў і вусных сказаў толькі 51 твор пададзены ў запісах, а астатнія 48, г. зн. каля палавіны, змешчаны ў пераказе на рускай мове.

[19] Сементовский А. М. Белорусские древности.— СПб, 1890, вып. 1; Демидович П. П. Из области верований и сказаний белорусов.— Этнографическое обозрение, 1896, № 1—3.

[20] Гл., напр., Siemieński L. Podania i legendy polskie, ruskie i litewskie.— Poznań, 1880; Karłowicz J. Podania i bajki ludowe, zebrane na Litwie.— Kraków, 1887.

[21] Гл., напр., яго: Кара за сто лет: Белорусская легенда.— Витебские губернские ведомости, 1894, № 73—78, 81; Из мира русских народных преданий. Милостивый Осип, или милости хочу, а не жертвы. Быль изложил Е. Радимич.— Витебские губернские ведомости, 1896, № 13—23, 26—33.

[22] Крестовский В. Отчего завелись паны на Полесье: Белорусская легенда.— Заря, 1870, № 12, с. 93—97.

[23] Крапивин С. Цветок папоротника: Белорусская легенда.— Семья и школа, 1876, кн. 1, № 6, с. 7—39.

П. Раеўскага [24], «Беларускія апавяданні» Д. Лапо, у якіх скарыстаны беларускія паданні [25]. Поўную даніну гэтай «модзе» аддаў і беларускі этнограф А. Я. Багдановіч, стварыўшы на аснове народных вусных сказаў і паданняў апавяданне пра жыццё беларускіх прыгонных сялян [26].

У пачатку XX ст. і перадрэвалюцыйныя гады беларускія легенды ў запісах, але зноў-такі ў зусім невялікай колькасці з'яўляюцца ў лепшых фальклорна-этнаграфічных выданнях таго часу. Так, некалькі легенд пра бога, святых і іншых змясціў А. К. Сержпутоўскі ў выдатным зборніку палескіх казак [27]. Асобныя запісы беларускіх легенд былі апублікаваны ў зборніках Е. Р. Раманава [28] і І. А. Сербава (дзве легенды, прасякнутыя мяккім народным гумарам, пра паходжанне мядзведзя і рака) [29], а таксама ў іншых выданнях і перыядычным друку [30]. Па меры ўзрастання публікацый у запісах памяншаецца колькасць апублікаваных легенд у пераказе. З апошніх варта адзначыць цікавую легенду, пераказаную А. Мілавідавым [31].

У цэлым за ўвесь дарэвалюцыйны перыяд, з першай палавіны XIX да пачатку XX ст., дакладных запісаў беларускіх вусных легенд і паданняў было абнародавана зусім мала: агульная колькасць такіх запісаў, надрукаваных у розных выданнях, не дасягае і сотні. Больш пашыранымі, як адзначалася ўжо, былі ў той час фіксаванне зместу легенды і пераказ яе на рускай або польскай мове. Зразумела, што падобныя публікацыі не вызначаліся патрэбнымі навуковымі якасцямі.

У тую пару, у пачатку XX ст., народныя паданні і легенды працягваюць жывіць творчасць лепшых беларускіх паэтаў і пісьменнікаў. На аснове легенд, пачутых з вуснаў народа, Янка Купала стварыў рад дзівосных паэм, што ўвайшлі ў нацыянальную скарбніцу беларускага пісьменства. Дастаткова назваць яго паэму «Нікому» пра трагічны лёс двух закаханых сэрцаў, бязлітасна растаптаных сваволлем пана-прыгонніка. Асновай гэтага твора паслужылі шматлікія вусныя сказы-паданні пра прыгонны час, якія так шырока жылі на Беларусі. Аб гэтым гаворыць сам паэт:

---

24 Раевский П. Вор-благодетель: Полесская легенда.— Киевлянин, 1877, № 38.

25 Лаппо Д. Белорусские рассказы.— Казань, 1895.

26 Богданович А. Про панщину: Рассказ из белорусской жизни времен крепостного права.— Гродно, 1894.

27 Сержпутовский А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков Слуцкого уезда.— СПб, 1911.

28 Материалы по этнографии Гродненской губернии / Ред. Е. Р. Романов.— Вильна, 1912, вып. 2.

29 Сербов И. А. Белорусы-сакуны: Краткий этнографический очерк.— Пг., 1915, с. 179—180.

30 Белорусская легенда о «Люцыпере».— Зап. С.-З. отдела Русского географического общества. Вильна, 1911, кн. 2, с. 386—387 (Перадрук. з газ. «Белорусская жизнь», 1911, № 71); Казанович Е. Легенда о Святом озере в Белоруссии.— Живая старина за 1915 г., 1916, № 3, с. 273—276; Беларускія легенды. Вужава карона.— Гоман, 1916, № 15.

31 Миловидов А. Историческая легенда пинчуков «О начале веры католической в Пинском крае».— Живая старина, 1908, № 4, с. 427—434.

З дзедаў на ўнукаў,
З бацькоў на дзяцей
Ланцугом пляцецца,
Што было даўней.

І гэта здарэнне,
Спісанае вам,
Расказаў мне так жа
Стары дзед Адам. [32]

Змест народнага магілёўскага падання пра Машэку паслужыў таксама асновай купалаўскай паэмы «Магіла льва» [33], якая мае і падзагаловак «З народнага падання».

З вялікім замілаваннем ставіўся да народных паданняў Карусь Каганец.

Прайшло многа дзесяцігоддзяў ад тых часоў, як абудзілася цікавасць да беларускіх легенд, да таго, як у 80-я гады з'явіліся першыя сапраўдныя запісы іх.

Мала пасунулася справа збірання і публікацыі беларускіх народных легенд і паданняў у савецкі час. Толькі ў апошнія гады ў сувязі з падрыхтоўкай шматтомнага акадэмічнага выдання беларускага фальклору збіранне легенд і паданняў некалькі актывізавалася, яно пачало ўключацца ў планы фальклорных экспедыцый. Але публікацый легенд было мала. Пералік усіх іх склаў бы невялікі спіс.

Адзначым важнейшыя публікацыі беларускіх легенд і паданняў у савецкі час. Асобных выданняў твораў гэтага жанру беларускага фальклору не было. Як і раней, легенды змяшчаліся ў агульных або тэматычных фальклорных зборніках, звычайна разам з казкамі. Адзінкавыя тэксты друкаваліся таксама ў часопісах і газетах. Выдатна расказаныя легенды і вусныя сказы апублікаваў А. Сержпутоўскі [34]. Некаторыя гістарычныя паданні і вусныя сказы аб барацьбе беларускага народа з іншаземнымі захопнікамі змешчаны ў працах М. Грынблата, прысвечаных гэтай тэме [35].

Новыя запісы легенд, паданняў і вусных сказаў ёсць у той або іншай колькасці ва ўсіх тэматычных зборніках, якія выдадзены ў даваенныя і пасляваенныя гады Акадэміяй навук БССР [36].

---

32 Купала Я. Збор твораў. У 7-мі т.— Мн., 1974, т. 5, с. 30.
33 Там жа, с. 96—115.
34 Сержпутоўскі А. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета.— Л., 1926; яго ж: Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў.— Мн., 1930.
35 Грінблат М. Я. Відображення боротьби білоруського народу з іншоземними грабителями в фольклорі.— У зб.: Полтавська битва. Київ, 1940, с. 167—177; яго ж: Фальклор аб барацьбе нашага народа з іншаземнымі захопнікамі.— Беларусь, 1946, № 5—6, с. 45—46.
36 Беларускі народ супраць папоў і рэлігіі / Пад рэд. М. Н. Нікольскага.— Мн., 1939 (18 запісаў); Жанчына ў беларускай народнай творчасці / Пад рэд. М. Н. Нікольскага і М. Я. Грынблата.— Мн., 1940 (34 запісы); Беларускі эпас / Пад рэд. П. Ф. Глебкі і І. В. Гутарава.— Мн., 1959 (11 запісаў); Беларускі фальклор Вялікай Айчыннай вайны / Пад рэд. П. Ф. Глебкі і І. В. Гутарава.— Мн., 1961 (10 запісаў).

Цыкл паданняў і сказаў пра герояў-партызан Вялікай Айчыннай вайны Заслонава і Каўпака сабралі і апублікавалі Л. Г. Бараг і М. С. Мяровіч [37]. Некалькі легенд з запісаў Э. Дмухоўскай канца XIX ст. пададзены ў зборніку, складзеным У. Анічэнкам [38]. Цікавыя легенды, паданні, але ў літаратурнай перадачы змясціў у кнігах нарысаў Л. Пракопчык [39]. Апрача таго, паасобныя беларускія легенды сустракаюцца ў газетах і часопісах.

Змяшчаліся беларускія легенды (і перадрукаваныя са старых зборнікаў, і ў новых запісах) таксама ў розных выданнях, перыядычным друку і календарах, якія выдаваліся па-за межамі Беларусі, асабліва ў Літве (Вільнюсе і Каўнасе). У 1925 г. выйшаў надрукаваны ў Вільнюсе на польскай мове невялікі асобны зборнік паданняў і легенд Віленшчыны, складзены У. Загорскім [40]. Збіраў легенды і паданні ў беларусаў Латвіі С. П. Сахараў (захаваліся ў рукапісе). З перыядычнага друку часцей змяшчалі легенды беларуская газета «Гоман», якая выдавалася ў Вільнюсе, і каўнаскі часопіс «Крывіч». Праўда, некаторыя легенды і там перадрукоўваліся з дарэвалюцыйных зборнікаў.

Даволі часта з'яўляліся беларускія легенды і паданні ў беларускім штотыднёвіку «Ніва» (Беласток, ПНР), праўда, не заўсёды ў дакладных запісах.

Апублікаваныя да гэтага часу беларускія легенды і паданні разнастайныя па сваіму зместу. Тут і легенды пра бога і яго святых апосталаў, божую маці і персаніфікаваныя хрысціянскія святы, не пазбаўленыя пэўнага налёту рэлігійнай павучальнасці; тут і легенды касмаганічнага характару, этыялагічныя, пра паходжанне свету і ўсяго жывога на зямлі; паданні гістарычныя і тапанімічныя — аб паходжанні розных населеных пунктаў, урочышчаў і іх назваў.

Асноўнай асаблівасцю наяўных публікацый беларускіх легенд і паданняў, як ужо адзначалася, з'яўляецца тое, што пераважная большасць іх пададзена ў пераказах на рускай або польскай мове, а не ў непасрэдных запісах. Апрача таго, збіранне легенд праводзілася бессістэмна, часта выпадкова. Усё гэта не магло не адбіцца адмоўна як на якасці самога матэрыялу, так і на вывучэнні гэтага важнага раздзела беларускага фальклору.

Па сутнасці беларускія народныя легенды і паданні яшчэ застаюцца амаль недаследаванымі. Асобных прац, прысвечаных беларускім легендам і паданням, да апошняга часу не было. У гэтай галіне робяцца яшчэ першыя крокі.

Ва ўсёй дарэвалюцыйнай навуковай літаратуры па беларускаму фальклору толькі Я. Ф. Карскі спецыяльна спыняецца на беларускіх легендах, разглядаю-

---

[37] Бараг Л. Г., Меерович М. С. Белорусские народные предания и сказки-легенды о Заслонове и Ковпаке.— Советская этнография, 1948, № 2, с. 147—155; іх жа: Беларускія народныя казкі-легенды аб Заслонаве і Каўпаку.— Полымя, 1948, № 1, с. 88—95.
[38] Беларускі казачны эпас / Склад. У. В. Анічэнка.— Мн., 1976.
[39] Пракопчык Л. Даўгінаўскія вёрсты: Нарысы.— Мн., 1977; яго ж: Адкуль у вёскі імя: Нарысы.— Мн., 1981.
[40] Zagorski W. Podania i legendy wileńskie.— Wilno, 1925.

чы казкі ў фундаментальнай працы «Беларусы». Легендам ён прысвяціў няпоўных 10 старонак [41].

Закранае беларускія легенды таксама М. Ф. Сумцоў у сувязі з аглядам прац Е. Раманава, у прыватнасці 3-га і 4-га выпускаў «Беларускага зборніка», якія пераважна складзены з казак [42]. Але Карскі і Сумцоў вельмі звузілі кола разглядаемых легенд, абмежаваўшы яго толькі рэлігійна-этычнымі творамі, якія, як мы ўбачым далей, зусім не вызначаюць змест і ідэйную накіраванасць беларускіх легенд. Карскі абыходзіць усе іншыя віды легенд — касмаганічнага, гістарычнага і іншага характару, або тыя ж легенды пра бога, але з выразнымі праявамі атэістычных поглядаў народа, якімі так багаты беларускі фальклор; ён не ўпамінае таксама пра шматлікія народныя паданні. Карскі разглядае толькі чатыры легенды (пра мужыка, які спаліў жорсткага пана і трапіў за гэта ў «панскае пекла»; «Хрыстоў брат»; пра разбойніка, што раскайваецца; і «Прамудры Саламон»). На яго думку, яны вызначаюцца «высокімі этычнымі ўласцівасцямі» і тлумачацца «агульным рэлігійным светапоглядам народа» [43]. Тут Я. Ф. Карскі ішоў за М. Ф. Сумцовым, які бачыў у беларускіх легендах толькі праяўленне «хрысціянскай любві і пакорлівасці» народа.

Такім чынам, у дарэвалюцыйнай літаратуры фактычна няма ніводнай працы, якая характарызавала б у цэлым беларускія легенды і паданні як жанры народнай прозы з усімі ўласцівымі ім асаблівасцямі.

Няма яшчэ абагульняючых прац пра беларускія легенды і паданні і ў савецкай фалькларыстычнай літаратуры. З'явіліся невялікія даследаванні асобных аспектаў, цыклаў. Гэта артыкулы Л. Р. Барага і С. М. Плужнікавай пра асілкаў беларускіх паданняў [44], В. К. Сакаловай пра тапанімічныя паданні ўсходніх славян [45].

Пра легенды і паданні бегла гаворыцца ў «Нарысах па беларускаму фальклору» К. П. Кабашнікава (Мн., 1964). Спецыяльна не разглядаюцца яны і ў больш разгорнутым даследаванні беларускага фальклору — калектыўнай манаграфіі, якая выйшла ў 1967 г.[46]

---

41 Карский Е. Ф. Белорусы.— М., 1916, т. 3, ч. 1: Народная поэзия, с. 475—484.

42 Сумцов Н. Ф. Разбор этнографических трудов Е. Р. Романова.— У кн.: Отчет о пятом присуждении премий митрополита Макария. СПб, 1895.

43 Карский Е. Ф. Белорусы, т. 3, ч. 1, с. 475—476.

44 Бараг Л. Да пытання аб волатах-асілках старажытных беларускіх паданняў.— Полымя, 1945, № 10, с. 103—112; яго ж: «Асілкі» белорусских сказок и преданий: К вопросу о формировании восточнославянского эпоса.— У кн.: Русский фольклор, т. 8. Л., 1963, с. 29—40; Плужникова С. Н. Образ осилков в белорусских преданиях и сказках.— Советская этнография, 1960, № 4, с. 80—89; яе ж: Білоруські перекази про осилків.— Радянське литературознавство, 1968, № 7, с. 52—61.

45 Соколова В. К. Типы восточнославянских топонимических преданий.— У кн.: Славянский фольклор. М., 1972, с. 202—233.

46 Беларуская народная вуснапаэтычная творчасць: Гісторыка-тэарэтычнае даследаванне / Пад рэд. П. Ф. Глебкі, І. В. Гутарава і М. Я. Грынблата.— Мн., 1967.

Крыху больш увагі звярнуў на легенды і паданні ў працах па беларускаму фальклору П. П. Ахрыменка. Так, у кнізе «Беларускія песні і казкі» (Мн., 1965), разглядаючы казкі, ён вылучае два спецыяльныя параграфы: «Казкі-легенды», якія ён падзяляе на «казкі-быліччкі» і «казкі рэлігійнага характару», і «Гістарычныя паданні, легенды і казкі». Тое ж, амаль без змен, П. П. Ахрыменка паўтарыў у вучэбным дапаможніку па беларускаму фальклору, складзенаму калектывам аўтараў. Даследчык разглядае легенды і паданні таксама ў главе пра казкі і ўжо нават не вылучае іх асобным параграфам [47]. У названых дзвюх кнігах агляд беларускіх легенд і паданняў, на жаль, вельмі павярхоўны, а самі назвы жанраў народнай прозы надзвычай заблытаны. Няўдалай трэба прызнаць і спробу даць азначэнне легенды і блізкіх разнавіднасцей гэтага жанру, акрэсліць іх адметныя асаблівасці.

Пэўны зрух у вывучэнні беларускіх легенд, паданняў і іншых жанраў няказкавай прозы акрэсліўся ў сувязі з Усесаюзнай канферэнцыяй па празаічных жанрах фальклору народаў СССР, якая была праведзена ў Мінску ў маі 1974 г. На канферэнцыі беларускія фалькларысты выступілі з радам спецыяльных дакладаў, прысвечаных паданням і легендам: М. Я. Грынблат — «Беларускія легенды і паданні (Пытанні збірання, вывучэння, сістэматызацыі)»; У. К. Касько — «Беларускія тапанімічныя паданні»; Р. М. Кавалёва — «Сучасны стан тапанімічных паданняў Беларускага Палесся»; Л. М. Салавей — «Узаемасувязі беларускай балады з казкай і легендай» [48].

Легенды і паданні занялі адпаведнае месца ў агульных дакладах К. П. Кабашнікава — «Празаічныя жанры беларускага фальклору» і В. А. Захаравай — «Сучасны стан празаічных жанраў беларускага фальклору» [49].

Усё ж легенды і паданні застаюцца бадай самымі недаследаванымі жанрамі. Яны аказаліся незаслужана абыдзенымі даследчыкамі беларускай народнай творчасці. Таму збіранне, публікацыя і вывучэнне легенд і паданняў павінна стаць адной з тых важных задач, над вырашэннем якіх працуюць зараз беларускія фалькларысты.

## II

Сістэматызацыя і тыпалогія легенд і паданняў належаць да найбольш складаных пытанняў у галіне вывучэння народнай прозы. Няясна яшчэ само размежаванне паміж асобнымі апавядальнымі жанрамі фальклору, існуе блытаніна ў тэрміналогіі — казка, легенда, паданне, легендарная казка, гістарыч-

[47] Беларуская вуснапаэтычная творчасць / Пад рэд. М. Р. Ларчанкі.— Мн., 1966, с. 110—114, 117.

[48] Гл. Прозаические жанры фольклора народов СССР: Тезисы докладов на Всесоюзной научной конференции «Прозаические жанры фольклора народов СССР». 21—23 мая 1974 г., г. Минск,— Мн., 1974, с. 199—202, 208—210, 212—216, 139—141 (АН СССР. АН БССР).

[49] Там жа, с. 42—44, 48—53. К. П. Кабашнікаву належыць таксама параграф «Легенды і паданні» ў вучэбным дапаможніку «Беларуская народнапаэтычная творчасць» / Пад агульнай рэд. М. Р. Ларчанкі.— Мн., 1979, с. 288—296.

ная казка, сказание, так зв. былічка і г. д. Няма таксама дастаткова дакладнага і прызнанага азначэння паняццяў «легенда» і «паданне».

У дарэвалюцыйнай фалькларыстычнай літаратуры фактычна разглядаліся толькі рэлігійныя легенды. Гэта можна бачыць нават у такім грунтоўным выданні па рускаму фальклору, як першы том «Гісторыі рускай літаратуры»,— калектыўнай працы пад рэд. Я. В. Анічкава, А. К. Бараздзіна і Д. Н. Аўсяніка-Кулікоўскага [50]. Глава гэтай працы, прысвечаная легендам (аўтар Анічкаў), проста названа: «Хрысціянскія легенды ў народнай перадачы». Як сведчыць ужо сам загаловак, аўтар лічыў, што «хрысціянская легенда... належыць да чыста кніжнага напластавання на народнай славеснасці» [51]. Так абмежавана разглядалі народныя легенды і паданні ў пераважнай большасці дарэвалюцыйнай спецыяльнай літаратуры.

Шмат нявырашаных пытанняў у галіне народнай прозы ёсць і ў савецкай фалькларыстыцы. Яшчэ выразна не вылучаны асобныя празаічныя жанры, існуе разнабой у тэрміналогіі. Каб пераканацца ў гэтым, дастаткова пазнаёміцца з найбольш вядомымі вучэбнымі дапаможнікамі па фальклору і некаторымі спецыяльнымі працамі, якія прысвечаны даследаванню народнай казкі.

Выдатны рускі фалькларыст Б. М. Сакалоў у вучэбным дапаможніку для філолагаў-завочнікаў, разглядаючы казкі, побач з чарадзейнымі і бытавымі казкамі вылучаў казкі-легенды. Апошнія ён у сваю чаргу падзяляў на тры групы: а) казкі-былічкі, бывальшчыны, у якіх адлюстраваны народныя вераванні ў лесуноў, дамавікоў, мерцвякоў і г. д.; б) казкі-паданні або гістарычныя казкі і в) казкі-легенды павучальнага характару, казкі «боскія», насычаныя ідэямі і вобразамі хрысціянскай міфалогіі [52].

Такім чынам, Б. М. Сакалоў разглядаў легенды і паданні разам з казкамі, лічыў іх адной з разнавіднасцей казак, а ў легендах бачыў толькі творы рэлігійна-хрысціянскага зместу. Па традыцыі, якая ўсталявалася ў рускай фалькларыстыцы, ён не прызнаваў за легендамі і паданнямі права на самастойнае існаванне іх як асобных жанраў з уласцівымі ім адметнасцямі.

Такой жа думкі трымаўся і Ю. М. Сакалоў. Ён таксама разглядаў казкі-былічкі, гістарычныя легенды і паданні, рэлігійныя легенды ў агульнай главе аб казках разам з іншымі іх відамі [53].

У адным радзе казак разглядае «казкі-легенды» і У. І. Чычараў, змясціўшы іх паміж чарадзейнымі і авантурна-навелістычнымі казкамі [54]. Пад легендамі, услед за традыцыяй, ён разумее «казачныя апавяданні з рэлігійнымі сюжэтамі» [55]. Аб гістарычных паданнях у яго курсе лекцый па рускаму фальклору зусім не гаворыцца.

Пра «легендарныя казкі» вельмі сціспла (літаральна на адной старонцы)

---

[50] История русской литературы.— М., 1908, т. 1: Народная словесность.
[51] Там жа, с. 108.
[52] Соколов Б. М. Русский фольклор.— М., 1930, вып. 2: Сказки, с. 68—72.
[53] Соколов Ю. М. Русский фольклор.— М., 1941, с. 342—346.
[54] Чичеров В. И. Русское народное творчество.— М., 1959, с. 295—298.
[55] Там жа, с. 295.

сказана і ў вядомым падручніку па рускай літаратуры для настаўніцкіх інстытутаў А. А. Кайева. Да «легендарных казак» ён адносіць хрысціянскія легенды, «былічкі», гістарычныя легенды і паданні, а таксама «мясцовыя легенды». Ён дакладна не размяжоўвае гэтыя жанры народнай прозы, а лічыць іх разнавіднасцямі казак [56].

Такі ж разнабой у тэрмінах, у разуменні легенд і паданняў і іх асаблівасцей, зусім недастатковую ўвагу да гэтых жанраў можна бачыць і ў іншых вучэбных дапаможніках па фальклору.

Не праясніла гэта пытанне і класіфікацыя ўкраінскіх легенд, якую прапанавала Г. С. Сухабрус. Яна падзяліла гэты від вуснай прозы на тры групы: міфалагічныя легенды, апакрыфічныя легенды і гераічныя легенды і паданні [57].

Першая група — «міфалагічныя легенды», якую вылучыла Сухабрус, зусім невыразная. Яна з'яўляецца фактычна штучным злучэннем, сумессю чарадзейных казак, народных вераванняў і так званых былічак. Аўтар адносіць да гэтай групы «кароткія фантастычныя апавяданні пра цудадзейнае ператварэнне людзей у звяроў і птушак, у розныя кветкі і расліны; апавяданні пра дамавікоў, вадзянікоў, лесуноў, русалак, ваўкалакаў і г. д.» [58] У гэту групу Сухабрус уключыла і легенды пра паходжанне розных мясцовасцей і іх назваў, праўда, называючы іх ужо не міфалагічнымі, а этымалагічнымі або анаматалагічнымі легендамі.

Апакрыфічнымі легендамі Г. С. Сухабрус называе «вусныя апавяданні, у якіх парадыйна трактуюцца біблейскія і евангельскія тэмы» пра стварэнне свету, ліха, пра вандраванні Хрыста і г. д.[59] Нарэшце, творы, якія адлюстроўваюць гістарычныя падзеі. Іх Сухабрус вылучае ў асобную групу «гераічных легенд і паданняў». Прытым паданні адрозніваюцца ад легенд сваім рэалістычным характарам, большай «дакументальнасцю зместу» і сваімі стылявымі асаблівасцямі, амаль пазбаўленымі казачнай абраднасці [60].

Такая класіфікацыя легенд і паданняў наўрад ці можа задаволіць навуковыя запатрабаванні. Ёй нестае стройнасці, дакладнасці ў акрэсленні жанравых рамак і адзінага прынцыпу, пакладзенага ў яе аснову.

Нас цікавіць, як размяжоўваюцца паміж сабой асобныя віды народнай прозы, чым адрозніваецца, напрыклад, казка ад іншых блізкіх да яе жанраў. У некаторых працах гэта пытанне, хоць і мімаходзь, ставіцца. Так, Э. В. Памяранцава лічыць адной з істотнейшых уласцівасцей казкі «ўстаноўку на выдумку». Гэта адзнака «адрознівае казку ад іншых жанраў вуснай прозы: сказа, падання і былічкі, г. зн. ад расказаў, што падносяцца апавядальнікам

---

[56] Кайев А. А. Русская литература: Учебник для учительских институтов. 2-е изд.— М., 1953, с. 107—108.
[57] Сухобрус Г. С. Легенди та перекази.— У кн.: Українська народна поетична творчість. Київ, 1958, т. 1: Дожовтневий період, с. 401.
[58] Там жа.
[59] Там жа, с. 403.
[60] Там жа, с. 405, 406.

слухачам як апавяданне пра падзеі, якія сапраўды адбыліся, якімі б малаверагоднымі і фантастычнымі яны часам ні былі» [61].

Сэнс такога азначэння сутнасці казкі заключаецца ў тым, што казка расказваецца і ўспрымаецца як фантастычная і займальная выдумка. Гэту агульную для ўсіх відаў казак рысу, «якая адрознівае іх ад суменных відаў вуснай прозы — гістарычнага падання, рэлігійнай легенды, фантастычнай былічкі», зноў падкрэслівае Памяранцава ў пазнейшым падручніку па рускаму фальклору [62].

Усё ж трэба прызнаць, што такое азначэнне не зусім дакладнае. У гістарычных паданнях і легендах сустракаецца таксама нямала фантастычных казачных матываў. Уся сутнасць у тым, што паданне і легенда, нягледзячы на наяўнасць у іх фантастыкі, успрымаюцца ў адрозненне ад казкі як апавяданні пра сапраўдныя падзеі, пра гістарычна-рэальнае. У гэтых адносінах можна пагадзіцца са сцверджаннем У. П. Анікіна: «Увайшоўшы ў сістэму вобразаў былічкі, сказа, падання, фантастычны элемент не прыводзіць да страты гэтымі жанрамі іх характэрнай агульнай уласцівасці як праўдападобных расказаў... Ён ніколі не разбурае зусім пэўнай фактычнай асновы гэтых апавяданняў» [63]. Аднак больш дакладна будзе, калі сказаць, што, хоць фантастычны элемент і ўспрымаецца часта як казачны, «фактычная аснова» легенды ці падання застаецца непахіснай, яна ўспрымаецца як сапраўднае, рэальнае.

Знаўца старых беларускіх казак і легенд А. К. Сержпутоўскі адзначаў: «Сапраўдныя падзеі змешваюцца ў расказах беларуса разам з пачварнай выдумкай. Часта сам апавядальнік не ўсведамляе, дзе канчаецца сапраўднасць і дзе пачынаецца выдумка. Такія, напрыклад, расказы пра страхі, пра хаджэнні мерцвякоў, пра штукі ведзьмароў і г. д.» [64]

Пэўнае ўдакладненне ў азначэнне і размежаванне жанраў легенды і падання ўнёс В. Я. Проп. І хоць легендамі, па ўсталяванай традыцыі, Проп называе толькі тыя вусныя апавяданні, «змест якіх проста або ўскосна звязаны з хрысціянскай рэлігіяй», ён даволі выразна аддзяляе гэты від народнай прозы ад блізкага яму віду — падання. Да паданняў Проп адносіць тыя вусныя апавяданні «аб гістарычных асобах і падзеях, якім прыпісваецца некаторая гістарычная верагоднасць і важнасць» [65].

Найбольш адчувальны ўклад у справу вывучэння жанравых асаблівасцей легенд і паданняў і іх класіфікацыі ўнеслі рускія савецкія фалькларысты К. В. Чыстоў і С. М. Азбелеў. Замест прынятага ў літаратуры прынцыпу сістэматызацыі легенд і паданняў па характару асноўнай дзеючай асобы К. В.

---

61 Померанцева Э. В. Сказки.— У кн.: Русское народное поэтическое творчество / Под ред. П. Г. Богатырева. М., 1956, с. 295.
62 Там жа, с. 137.
63 Аникин В. П. Русская народная сказка: Пособие для учителей.— М., 1959, с. 222.
64 Сержпутовский А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков, с. 111.
65 Пропп В. Я Легенды.— У кн.: Русское народное поэтическое творчество. М.; Л., 1955, т. 2, кн. 1, с. 378.

Чыстоў, грунтуючыся на рускім матэрыяле, прапануе пры тэарэтычным вызначэнні жанраў народнай прозы кіравацца аналізам іх сацыяльна-бытавой функцыі [66]. Апошняя, зусім слушна ўказвае даследчык, «прадвызначае выбар тэматыкі, кола ідэй і ўслед за гэтым тып герояў, прынцыпы пабудовы сюжэта, адбору і спалучэння пэўных мастацкіх сродкаў і г. д.» [67]

З пункту погляду функцыі, якую выконвае той або іншы жанр, Чыстоў падзяляе рускую народную прозу на дзве групы: групу жанраў з выразна выяўленай эстэтычнай функцыяй (у спалучэнні з функцыяй этычнай, сацыяльнай, палітычнай) і групу жанраў, у якіх першарадную ролю адыгрывае якая-небудзь пазаэстэтычная функцыя. Першую групу складаюць усе віды казак, а таксама прытчы, небыліцы, анекдоты, а другую — паданні, легенды, сказанні, сказы, бывальшчыны, вусныя расказы, якія «апавядальнікамі і слухачамі звычайна не ўспрымаюцца як творы мастацкія», а служаць «практычнай мэце перадачы гістарычных, касмаганічных, рэлігійных, бытавых або іншых вестак ці навін» [68].

К. В. Чыстоў спрабуе таксама, хоць і з меншым поспехам, у межах вылучаных ім груп народных апавяданняў акрэсліць іх унутраную дыферэнцыяцыю. У якасці прынцыпаў, якія можна было б пакласці ў аснову такой дыферэнцыяцыі, ён прапануе ўлічваць, па-першае, адрозненні апавяданняў у залежнасці ад сістэмы, да якой яны належаць,— гістарычнай, касмаганічнай, тапанімічнай і г. д., і, па-другое, наяўнасць або адсутнасць у іх фантастыкі. Зыходзячы з гэтага, фантастычныя апавяданні Чыстоў прапануе называць легендамі, апавяданні аб мінулым, без элементаў фантастыкі — паданнямі, паданні ж герaічнага характару — сказаннямі, а рэалістычныя апавяданні аб сучаснасці або недалёкім мінулым — сказамі [69].

Такая «ўнутраная дыферэнцыяцыя» здаецца нам даволі хісткай, недастаткова выразнай. Ці можа служыць надзейным крытэрыем пры размежаванні падання і сказа вызначэння часу, аб якім вядзецца апавяданне,— мінулае і нядаўняе мінулае? Або размежаванне легенды і падання ў залежнасці ад наяўнасці або адсутнасці фантастыкі? І ў паданнях аб канкрэтных гістарычных падзеях, як будзе відаць ніжэй, у многіх выпадках можна лёгка выявіць элементы фантастыкі, цудадзейнага. Відавочна, што крытэрыі пры размежаванні асобных жанраў вуснай народнай прозы павінны быць больш устойлівымі і выразна акрэсленымі. У той жа час думкі і меркаванні К. В. Чыстова адносна класіфікацыі жанраў народнай прозы, асабліва аб падзеле іх на групы згодна з іх функцыямі, заслугоўваюць самай сур'ёзнай увагі.

Увагі даследчыкаў вуснай народнай прозы таксама заслугоўваюць і мерка-

---

66 Чистов К. В. К вопросу о принципах классификации жанров устной народной прозы.— М., 1964, с. 4.
67 Там жа, с. 5.
68 Там жа.
69 Там жа, с. 7—8; яго ж: Прозаические жанры в системе фольклора.— У кн.: Прозаические жанры фольклора народов СССР, с. 18—25.

ванні пра суадносіны падання, легенды і казкі, якія выказаў у спецыяльнай працы С. М. Азбелеў [70]. Пры навуковым размежаванні гэтых апавядальных жанраў аўтар зыходзіць з адрозненняў іх адносін да рэчаіснасці.

Высвятляючы жанравыя асаблівасці легенд і паданняў, Азбелеў зыходзіць таксама перш за ўсё з іх бытавой і сацыяльнай функцыі, з таго, што легенды і паданні «паведамлялі ў першую чаргу нейкія веды» [71]. Карэннае адрозненне падання ад легенды ён бачыць у тым, што паданне не мае ў сваёй аснове нічога чарадзейнага. Легенда ж таксама з'яўляецца апавяданнем з устаноўкай на верагоднасць, але асноўным яе зместам служыць нешта незвычайнае. Сутнасць заключалася ў тым, што паданні ствараліся з практычнай, а не эстэтычнай мэтай [72]. З гэтым палажэннем, аднак, нельга цалкам пагадзіцца. Практычную мэту праследавала не толькі паданне, у спалучэнні з эстэтычнай мэтай яно заклікана задаволіць цікаўнасць, дапытлівасць чалавека. У гэтым перш за ўсё грамадская функцыя і падання, і легенды, якія маюць усе падставы вылучыць іх у асобныя жанры вуснай народнай прозы.

На жаль, у літаратуры гэта не знайшло належнага адлюстравання. Не адасоблены былі легенды і паданні адпаведным чынам і ў вядомых міжнародных паказальніках казачных сюжэтаў. Згодна з сістэмай Аарнэ, М. П. Андрэеў, напрыклад, вылучае невялікі раздзел «легендарных казак», які налічвае ўсяго сто сюжэтаў (№ 750—849). Гэты паказальнік не вызначае, што належыць да казак, а што да легенд і паданняў [73]. Ды іх у паказальніку проста няма і не можа быць, паколькі ён рэгіструе сюжэты казак. А сярод сабраных у каталогу Андрэева сюжэтаў «легендарных казак» толькі нязначная частка знаходзіць аналогіі ў беларускім матэрыяле (№ 750-АВ, 756-С, 785, 791, 804 *, 831, 834-А, 846 і некаторыя іншыя).

У апошнія гады былі распрацаваны спецыяльныя паказальнікі сюжэтаў беларускіх казак. Гэта больш разгорнуты паказальнік сюжэтаў і матываў Л. Р. Барага [74] і паказальнік сюжэтаў К. П. Кабашнікава [75], у якім улічаны тэксты, што захоўваюцца ў архіве Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Апрача таго, з'явіўся параўнальны паказальнік усходнеславянскай казкі [76]. Усе яны пабудаваны паводле міжнароднай класіфікацыі

---

[70] Азбелев С. Н. Отношение предания, легенды и сказки к действительности (с точки зрения разграничения жанров).— У кн.: Славянский фольклор и историческая действительность. М., 1965, с. 5—25.

[71] Там жа, с. 10.

[72] Там жа, с. 12, 13, 17.

[73] Гл. Андреев Н. П. Указатель сказочных сюжетов по системе Аарнэ.— Л., 1929, с. 52—60.

[74] Бараг Л. Р. Сюжэты і матывы беларускіх народных казак: Сістэматычны паказальнік / Рэд. І. У. Саламевіч.— Мн., 1978.

[75] Кабашнікаў К. П. Паказальнік сюжэтаў беларускіх казак.— У кн.: Чарадзейныя казкі. Мн., 1978, ч. 2, с. 603—686.

[76] Сравнительный указатель сюжетов: Восточнославянская сказка / Сост.: Л. Г. Бараг, И. П. Березовский, К. П. Кабашников, Н. В. Новиков.— Л., 1979.

сюжэтаў Аарнэ-Томпсана [77], у пэўнай меры дапоўненай тыпамі і падтыпамі беларускіх казак. Але зноў-такі ў беларускіх і ўсходнеславянскіх паказальніках фігурыруе той жа, хоць і пашыраны, раздзел «Легендарныя казкі». У радзе выпадкаў для азначэння тыпаў мы спасылаемся на яго ў каментарыях, паколькі некаторыя легендарныя казкі, найбольш блізкія да легенд, змешчаны ў даным томе.

Аднак каталога тыпаў беларускіх легенд і паданняў, паўтараем, мы дагэтуль не маем. М. П. Андрэеў у дадатку да свайго паказальніка казачных сюжэтаў паспрабаваў акрэсліць прыблізную схему такога каталога ў дастасаванні да рускага матэрыялу, выкарыстаўшы паказальнік Аарнэ, які ён склаў для фінскай пазаказачнай прозы. У дадатку Андрэева дзве часткі — «паданні і інш. апавяданні» і «этыялагічныя легенды». У паданнях ён вылучае прыкладна такія дванаццаць груп, не нумаруючы сярод іх тыпы: пра мерцвякоў, пра чарцей, пра ведзьмаў, пра лесуноў і вадзянікаў, пра дамавікоў і іншых духаў, пра знахароў і чараўнікоў, пра пярэваратняў, пра змеяў, пра скарбы, пра цэрквы, пра разбойнікаў, гістарычныя і мясцовыя паданні. Этыялагічныя легенды Андрэеў размяшчае па такой схеме (восем груп): стварэнне і ўпарадкаванне свету, чалавек, млекакормячыя, птушкі, паўзуны і земнаводныя, рыбы, насякомыя, расліны [78].

Будапешцкая міжнародная нарада 1963 г., наладжаная Міжнародным таварыствам па даследаванню народных апавяданняў, выпрацавала праект схемы агульнаеўрапейскага каталога легенд і паданняў. Паводле яе, усе легенды і паданні падзяляюцца на чатыры раздзелы: этыялагічныя і эсхаталагічныя; гістарычныя і культурна-гістарычныя; звышпрыродныя істоты і сілы (міфічныя); міфы пра багоў і герояў. Другі і трэці раздзелы маюць яшчэ рад падраздзелаў [79].

Пэўную цікавасць мае каталог літоўскіх народных паданняў, складзены Б. Кербелітэ [80]. Сярод іх, як і ў іншых галінах культуры літоўцаў, знаходзім нямала аналогій у беларускім матэрыяле. Каталог, які ахоплівае каля 2000 запісаў, падзяляецца на два асноўныя раздзелы: паданні пра паходжанне прыродных аб'ектаў і паданні пра гістарычныя помнікі і падзеі. У сваю чаргу гэтыя раздзелы падзяляюцца на тэматычныя падраздзелы (напрыклад, у першым: волаты і сляды іх дзейнасці, асаблівыя камені, вандруючыя азёры; у другім: паходжанне гарадзішч, войны, патанулыя гарады, маёнткі, касцёлы, спячае войска, патанулыя званы, ахвяры ў час будаўніцтва, паходжанне паселішчаў і іх назваў і іншых тапонімаў), а ўсе запісы згрупаваны ў тыпы і

---

[77] The types of the folktale: A classification and bibliography / A. Aarne's «Verzeichnis der Märchentypen» translated and enlarged by S. Thompson. Second revision.— Helsinki, 1964.

[78] Андреев Н. П. Указатель сказочных сюжетов, с. 116—118.

[79] Гл. Азбелев С. Н. Проблемы международной систематизации преданий и легенд.— Русский фольклор. X: Специфика фольклорных жанров. М.; Л., 1966, с. 182; Arbeitsresultat der Sonderkomission der international Society for Folk-Narrative Research.— Tagung in Budapest, 1964, c. 130—131.

[80] Kerbelite B. Lietuvių liaudies padavimų katalogas.— Vilnius, 1973.

падтыпы. Усяго Б. Кербеліта вылучае 175 тыпаў літоўскіх паданняў з некаторымі пропускамі ў нумарацыі для далейшага іх запаўнення па меры выяўлення новых матэрыялаў. Тут жа адзначым, што ў літоўскім каталогу мы выявілі каля 50 розных супадзенняў з тыпамі беларускіх легенд і паданняў.

Знаёмячыся са схемай каталога рускіх легенд і паданняў М. П. Андрэева, будапешцкім праектам схемы агульнаеўрапейскага каталога легенд і паданняў, каталогам літоўскіх паданняў, няцяжка заўважыць, што ў іх нестае выразнага адрэзмежавання паміж легендай і паданнем, што ў іх складзе значнае месца адведзена забабонным апавяданням пра міфічных персанажаў, якія няпэўна залічаюцца то да легенд, то да паданняў, і што, нарэшце, усе схемы імкнуцца найбольш дэталёва вылучыць тыпы-рубрыкі твораў.

Усё гэта, і асабліва падрабязная і дробная рубрыкацыя, прыдатная і карысная для складання паказальнікаў сюжэтаў, не можа замяніць класіфікацыю жанраў, якія нас асабліва цікавілі пры сістэматызацыі матэрыялаў данага тома, вызначэнні яго структуры. Класіфікацыя легенд і паданняў не можа грунтавацца толькі на сюжэтах або персанажах ці дзеяннях, розных па часе, абставінах і сацыяльнай функцыі. Апрача таго, што прыгаданыя схемы каталогаў дакладна не вылучаюць асобна легенды і паданні і не адзначаюць розніцу паміж імі, у паказальнікі ўключаюцца і вусныя апавяданні пра мерцвякоў, чарцей, лесуноў, ваўкалакаў і г. д., якія вядомы ў рускім фальклоры пад назвай «былічак». Падобныя расказы пра сустрэчы з «нячысцікамі» і іх учынкамі былі значна пашыраны ў мінулым сярод беларусаў ў розных мясцовасцях. Абысці іх, зразумела, мы не маглі.

Гэтыя апавяданні пра міфічных істот цалкам належаць да даўніх народных вераванняў і дэманалогіі. Яны складаюць адметны жанр вуснай народнай прозы — «страхі», і таму мы групуем іх асобна, але ўмоўна, паколькі спецыяльны том не плануецца, змяшчаем іх тут, услед за легендамі пра веру, бога, святых, персаніфікаваныя святы, бо па свайму зместу яны з'яўляюцца нібы іх працягам.

Пры адборы легенд і паданняў і вызначэнні іх жанравых асаблівасцей, улічваючы дасягнутае ў гэтай галіне фалькларыстыкі, мы зыходзілі з таго, што такія творы ў свой час перадаваліся і ўспрымаліся не як казкі, заснаваныя на выдумцы, а як апавяданні аб нібыта сапраўдных падзеях. Гэта акалічнасць павінна быць аднесена да рыс найбольш вызначальных для абодвух важнейшых жанраў пазаказкавай прозы — легенды і падання. Пры гэтым да легенд мы адносім апавяданні, у якіх адлюстраваліся даўнія ўяўленні аб паходжанні свету, асобных з'яў жывой і нежывой прыроды, з'яў сацыяльнага характару, а таксама апавяданні з персанажамі царкоўна-рэлігійнага круга, пераважна пра бога, багародзіцу, святых і персаніфікаваныя святы. Да паданняў жа, на наш погляд, належаць вусныя апавяданні пра гістарычныя падзеі і асобных дзеячаў, а таксама апавяданні, прымеркаваныя да канкрэтных мясцовасцей, іх узнікнення і гісторыі.

Любая класіфікацыя з'яўляецца ў пэўнай меры ўмоўнай. Не пазбаўлены некаторай умоўнасці і тыя прынцыпы, якія пакладзены ў аснову класіфікацыі

жанраў вуснай народнай прозы, хоць да іх і прад'яўляюцца строгія навуковыя патрабаванні. Гэта дазваляе нам у дадатак да сказанага прапанаваць адзін істотны крытэрый, які можа дапамагчы вызначыць, да якога жанру павінен быць аднесены той ці іншы апавядальны твор — да легенд або паданняў. І легенды і паданні звычайна павінны былі задаволіць дапытлівасць людзей, адказаць на хваляваўшыя іх пытанні — адкуль і як усё з'явілася на зямлі, у прыродзе і грамадстве. Тыя вусныя апавяданні, у якіх народ прыпісваў паходжанне той або іншай з'явы (звычайна прыроднай) нейкай звышнатуральнай сіле ці богу, мы адносім да легенд. Тыя ж народныя апавяданні, у якіх узнікненне розных з'яў (звычайна сацыяльных) тлумачылася дзейнасцю людзей, павінны быць аднесены да паданняў. Няхай гэты крытэрый у пэўнай меры ўмоўны, але ён, на наш погляд, дастаткова выразна і правільна дазваляе размежаваць жанры легенды і падання.

Што датычыць фантастыкі, то яна не здольна служыць той адзнакай, па якой можна размежаваць легенды і паданні. Легенды, паколькі ў іх дзейнічаюць звышнатуральныя сілы, ужо самі па сабе насычаны фантастыкай. Тут перш за ўсё праявілася ўздзеянне казак, асабліва фантастыкі чарадзейных казак, з якімі ў легенд наглядаецца значная блізкасць: апошнія ніколі не існавалі ізалявана ад казак. З другога боку, фантастыка рада легенд, асабліва этыялагічных, аказалася пад моцным уздзеяннем біблейскай міфалогіі, апакрыфічнай і жыційнай літаратуры — адной з крыніц узнікнення падобнага роду легенд.

Але нельга сцвярджаць, што паданні цалкам пазбаўлены фантастыкі. Нямала знойдзецца гістарычных і мясцовых паданняў, у якіх рэалістычнае арганічна пераплятаецца з фантастычным. Наяўнасць або адсутнасць фантастыкі ў вусным апавяданні не можа служыць надзейным крытэрыем пры размежаванні жанраў легенд і паданняў. Таму мы не можам згадзіцца з такім катэгарычным сцвярджэннем С. М. Азбелева, што «ва ўсіх выпадках паданне, калі яно застаецца такім, не змяшчае ў сваёй аснове цудадзейнага, г. зн. такога, прынцыповую мажлівасць чаго немагчыма дапусціць. У гэтым — карэннае адрозненне падання ад легенды» [81]. Не можа гэта служыць карэнным адрозненнем, бо элементы цудадзейнага не чужыя і некаторай частцы паданняў.

Пераходзячы да пытання навуковай сістэматызацыі тэкстаў у межах асобных жанраў беларускіх легенд і паданняў, мы не бачым іншага прынцыпу такой сістэматызацыі, як прынцып гісторыка-тэматычны. Толькі храналагічна-тэматычнае размяшчэнне легенд і паданняў або максімальнае набліжэнне да яго дазволіць лепш раскрыць унутраны змест гэтых эпічных жанраў, вывучыць гісторыю іх узнікнення і развіцця.

Зыходзячы з выказаных меркаванняў, па мажлівасці не вельмі адхіляючыся ад схемы агульнаеўрапейскага каталога, рэкамендаванага Будапешцкай міжнароднай нарадай 1963 г., але грунтуючыся перш за ўсё на нацыянальным

---

[81] Азбелев С. Н. Отношение предания, легенды и сказки к действительности, с. 12.

матэрыяле і пры некаторай змене тэрміналогіі, мы падзяляем беларускія легенды і паданні на такія групы.

Легенды: этыялагічныя або касмаганічныя — пра паходжанне сусвету, нябесных свяціл, зямлі, чалавека, жывёл, раслін і іншых з'яў прыроды; этнасацыяльныя або гісторыка-культурныя — пра паходжанне плямён, народаў, класаў і розных сацыяльных і культурных з'яў; духоўна-этычныя — пра бога і святых, паходжанне свят, пра розныя вераванні.

Паданні: гістарычныя — пра гістарычныя падзеі (войны, барацьбу народа з іншаземнымі нашэсцямі, пра эпідэміі, моры і інш.) і гістарычных асоб; тапанімічныя — пра паходжанне гарадоў, вёсак, урочышчаў, рэк, азёр, каменняў, пра ўзнікненне прозвішчаў; пра заклятыя скарбы. У такім прыкладна парадку беларускія легенды і паданні размешчаны і ў томе.

Найбольш пашыранымі ў беларускім дарэвалюцыйным фальклоры былі легенды і паданні этыялагічнага, гістарычнага, духоўна-этычнага і тапанімічнага зместу. Кожная легенда, паданне, апавяданні пра міфічных істот даносяць да нас пэўную часцінку духоўнага жыцця нашых далёкіх продкаў, раскрываюць таямнічы свет іх светаадчування, міфалогіі, творчасці і іх зямную глебу.

## III

Большасць беларускіх легенд і паданняў сваім зместам абвяргае няправільнае, тэндэнцыйнае сцверджанне М. Ф. Сумцова аб тым, што «беларуса ў маральных адносінах вылучае не багацце міфічных казак на шаблонныя матывы аб барацьбе са змеямі і г. д., а багацце мяккіх і гуманных легенд, у якіх сацыяльна-эканамічныя пытанні вырашаюцца ў духу хрысціянскай любві і лагоднасці» [82].

Вывучэнне матэрыялаў беларускіх легенд і паданняў паказвае, што сярод іх хоць і была некаторая частка старажытных твораў, пазней афарбаваных хрысціянскай рэлігіяй або знявечаных царкоўнымі пропаведзямі, аднак не гэтыя творы вызначалі характар такой важнай часткі беларускага народнага эпасу, як легенды і паданні. Буржуазныя даследчыкі свядома абыходзілі тыя шматлікія народныя творы гістарычнага зместу, у якіх выразна выступала іх антыпанская і антырэлігійная накіраванасць і выражаліся зусім іншыя сацыяльныя ідэалы і ўяўленні аб жыцці.

Многія легенды і паданні беларусаў вельмі старажытнага паходжання. Ва ўсякім разе гістарычныя паданні, як сведчаць летапісы і іншыя помнікі даўняй пісьменнасці, былі вядомы ўжо ў перыяд існавання старажытнарускай дзяржавы — Кіеўскай Русі.

Вусна-паэтычная творчасць, і перш за ўсё народныя легенды і паданні, займала далёка не апошняе месца сярод крыніц рускага летапісання, і летапісцы шчодра чэрпалі з яе. «Нашы першыя гісторыкі-летапісцы, — адзначае

---

[82] Сумцов Н. Ф. Разбор этнографических трудов Е. Р. Романова.— СПб, 1895, с. 169.

акад. Б. Д. Грэкаў, — лічылі народную творчасць зусім дабраякасным матэрыялам, якім можна карыстацца для задач праўдзівага апісання мінулага, і надавалі гэтаму матэрыялу сілу доказу»[83].

У пачатковым рускім летапісу — «Повести временных лет», у Іпацьеўскім і іншых летапісных зводах ёсць многа вядомых гістарычных паведамленняў, якія заснаваны на вуснай традыцыі — паданнях, песнях і былінах [84].

Прыгадаем толькі некаторыя летапісныя паведамленні, якія грунтуюцца на вусна-паэтычнай традыцыі народных паданняў. Паданне пра заснавальнікаў Кіева, трох братоў — Кія, Шчэка і Харыва, якія «отвориша град во имя брата своего старейшаго, і нарекоша имя ему Киев». Паданне гэта ўдакладняецца яшчэ асобнымі легендарнымі апавяданнямі пра самога Кія. Па аднаму варыянту падання ён быў перавознікам, а па другому, да якога схіляецца летапісец,— князем палян [85]. Такім чынам, у аснову летапіснай гісторыі заснавання Кіева, відавочна, пакладзена адно з ранніх паданняў этнагенетычнага зместу аб усходнеславянскіх князях — роданачальніках плямён, такое ж, як паданне аб братах Радзіме і Вятку, ад якіх нібы паходзяць радзімічы і вяцічы [86].

Паданне аб забойстве Ігара і страшэннай помсце Вольгі. У ім апавядаецца, як драўляне на чале са сваім князем Малам, абураныя патрабаваннямі дадатковай даніны і гвалтамі, якія чыніў вялікі кіеўскі князь Ігар, паўсталі і забілі яго (945 г.). За гэта Вольга (пам. у 969 г.), праявіўшы вераломства, з вялікай жорсткасцю адпомсціла драўлянам за свайго мужа. Яна загадала ўкінуць драўлянскіх паслоў-сватоў у глыбокую яму «и повеле засыпати я живы», жыўцом спаліла ў лазні «лучьшие мужи, иже дерьжаху Деревьску землю» і, апрача таго, «повеле дружине своей сечы деревляны; и исекоша их 5000»[87].

Паэтычнае паданне пра смерць старажытнарускага князя Алега (912 г.) ад свайго каня [88]; паданне гэта, як вядома, натхніла А. С. Пушкіна на стварэнне яго славутай «Песні аб вешчым Алегу».

Апрача шматлікіх паданняў пра старажытных рускіх князёў і іх ваенныя паходы, ёсць нямала летапісных апавяданняў, якія заснаваны на вусных паданнях і легендах пра воінскія подзвігі асобных герояў у барацьбе супраць ворагаў Русі — хазараў і печанегаў. Часта гэта апавяданні пра выключную адвагу і кемлівасць, што праяўляліся простымі рускімі людзьмі пры абароне сваёй

---

83 Греков Б. Д. Киевская Русь.— М.; Л., 1944, с. 331—332.
84 Падрабязна аб летапісных апавяданнях і іх фальклорных вытоках гл. Лихачев Д. С. Возникновение русской литературы.— М.; Л., 1952, с. 25—91; яго ж раздзелы аб народнай паэтычнай творчасці перыяду старажытнарускай дзяржавы і феадальнай раздробленасці (X—XIII стст.) у кн.: Русское народное поэтическое творчество, т. 1.— М.; Л., 1953, с. 141—247. Гл. таксама Лихачев Д. С. «Устные летописи» в составе «Повести временных лет».— Исторические записки, 17. М., 1945, с. 201—224.
85 Повесть временных лет / Подгот. текста Д. С. Лихачева.— М.; Л., 1950, ч. 1, с. 12—13.
86 Там жа, с. 14.
87 Там жа, с. 39—42.
88 Там жа, с. 29—30.

зямлі. З гэтай групы вусных паданняў, якія знайшлі адлюстраванне на старонках летапісу, асабліва вылучаюцца:

Летапісны расказ-паданне пад 968 г. пра адважнага рускага отрака, які з абложанага печанегамі Кіева хітрасцю прабраўся праз варожы стан і паведаміў рускай дружыне аб смяротнай небяспецы, што навісла над стольным горадам. Дзякуючы адвазе маладога кіяўляніна своечасова падаспела дапамога, печанегі «побегоша разно от града», і жыхары Кіева былі выратаваны [89].

Паданне аб кажамяку, простым рускім юнаку «середним телом», які ўступіў у адзінаборства з самым дужым печанежскім воінам, перамог яго і выратаваў рускіх ад ворага. «Печенези побегоша, и Русь погнаша по них секуще, и прогнаша я». Перамога над печанегамі была настолькі значнай, што нібы ў памяць аб ёй князь Уладзімір залажыў горад і «нарече и Переяславль, зане пероя славу отроко то»[90].

Паданні пра героя-кажамяку, якія былі скарыстаны ў старажытным рускім летапісу, захаваліся ў той або іншай ступені ва ўсходнеславянскім казачным эпасе. Легендарныя казкі пра Кірылу або Мікіту Кажамяку запісваліся збіральнікамі фальклору яшчэ ў канцы XIX ст. і пазней на Беларусі, на Украіне і ў Расіі [91].

Вядома такога ж роду паданне пра адзінаборства двух магутных волатаў — рускага тмутараканскага князя Мсціслава Уладзіміравіча Храбрага (пам. у 1036 г.) з касожскім князем Рэдэдзем. І тут, падобна адзінаборству ў казках і былінах, паміж «ставшема обема полкома противу собе» выступаюць два найдужэйшыя воіны «и яста ся бороти крепко». Перамагае Мсціслаў і падначальвае сваёй уладзе касогаў [92].

Падобных гістарычных апавяданняў, якія грунтуюцца на вуснай эпічнай традыцыі, даўніх народных паданнях, у пачатковым і іншых рускіх летапісах многа. Няма патрэбы прыводзіць іх болей. Ужо тыя нямногія прыклады, якія разгледжаны тут, сведчаць аб значным развіцці гістарычнага эпасу, і ў прыватнасці гістарычных паданняў, у старажытнарускай народнасці і, відаць, яшчэ раней — у даўніх усходнеславянскіх плямён.

Неабходна падкрэсліць важную ролю, якую наогул адыгрывала вусная народная творчасць у культурным і грамадскім жыцці Кіеўскай Русі. Гэта відаць з таго, як шчодра карысталася скарбамі вуснай творчасці старажытная руская пісьмовая літаратура, ідэйны змест і мастацкія вартасці якой ужо з першых крокаў яе развіцця ў значнай меры вызначаліся фальклорам. І калі ўзяць асобна летапісы, то яны сярод іншых фальклорных жанраў аддавалі

---

89 Повесть временных лет, с. 47—48.
90 Там жа, с. 84—85.
91 Гл. Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 2, с. 170; Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 3, с. 217; Афанасьев А. Н. Русские народные сказки. В 3-х т.— М., 1957, т. 1, с. 327—328; Українські народні казки, легенди, анекдоти / За ред. П. М. Попова.— Київ, 1958, с. 123—125.
92 Повесть временных лет, ч. 1, с. 99.

перавагу народнаму паданню, бо яно асвятляла даўно мінулыя гістарычныя этапы і падзеі.

У фальклоры Кіеўскай Русі і часоў феадальнай раздробленасці асаблівае значэнне набылі тыя жанры і творы вуснай паэзіі, якія ў мастацкіх вобразах найлепш адлюстроўвалі абарону старажытнарускай дзяржавы ад няспынных нападаў знешніх ворагаў і рост нацыянальнай самасвядомасці, а таксама народныя хваляванні супраць уласных прыгнятальнікаў. Усё гэта, асабліва барацьба з чужаземнымі захопнікамі, запоўніла сабой адзін з ранніх гераічных перыядаў гісторыі Русі і вызначыла асноўны змест, ідэйную накіраванасць і адпаведныя жанры фальклору таго часу.

Вядучы напрамак у развіцці фальклору Старажытнай Русі — гістарычны і гераічны эпас выяўлены пераважна гістарычнымі паданнямі, легендамі і гераічнымі песнямі пра адважных абаронцаў Русі — былінамі.

Асобныя фалькларысты схільны былі лічыць паданні і легенды найбольш пашыраным жанрам фальклору Старажытнай Русі. У. І. Чычараў пісаў, што ў часы Уладзіміра Святаславіча (пам. у 1015 г.), «відаць, асабліва шырокай папулярнасцю карыстаўся жанр гістарычных паданняў і легенд, у якіх нават выдуманыя гісторыі расказваліся як сапраўдныя»[93].

З такім меркаваннем цяжка пагадзіцца. Нельга лічыць паданні і легенды асноўным і найбольш пашыраным жанрам старажытнага рускага фальклору толькі таму, што імі шырока карыстаўся аўтар летапісу. Наадварот, можна больш упэўнена сказаць, што паданні і легенды ніколі не належалі да масавых і шырока распаўсюджаных фальклорных жанраў. Носьбітамі паданняў і легенд заўсёды было абмежаванае кола людзей. Іх выканаўцамі былі найбольш састарэлыя члены роду, грамады, захавальнікі гістарычных традыцый. Паданні і легенды, аб якіх мы даведваемся з летапісу, таму не маглі быць вядучым відам фальклору Кіеўскай Русі, што яны бяруць свой пачатак з вельмі старадаўніх часоў. Многія з гэтых паданняў змяшчаюць успаміны аб жыцці славянскіх плямён да ўтварэння раннефеадальнай рускай дзяржавы, іншыя тлумачаць паходжанне назваў урочышчаў, сёл, гарадоў, апавядаюць пра ваенныя паходы, бітвы і г. д. І калі мы ставім паданні і легенды побач з былінамі і адносім іх да вядучага напрамку ў развіцці фальклору старажытнарускай народнасці, то гэта толькі таму, што яны ў новых сацыяльна-палітычных умовах Кіеўскай Русі неслі важныя грамадскія функцыі. Многія гістарычныя паданні, асабліва пра паходы рускіх князёў на Царград, пра перамогу над варожым войскам, разам з былінамі славілі магутнасць Русі, неслі ідэі абароны радзімы, садзейнічалі ўздыму народнай самасвядомасці і згуртоўвалі сілы народа ў часы небяспекі.

Указваючы на народныя паданні, гістарычныя песні і быліны як на адну з важнейшых крыніц пачатковага рускага летапісу, В. Ключэўскі ў «Курсе рускай гісторыі» пісаў: «Гэта народная кіеўская сага праходзіць яркай ніткай як адна з асноўных крыніц зводу па IX і ўсяму X ст.; сляды яе відаць нават з пачатку XI стагоддзя, іменна ў апавяданні аб барацьбе Уладзіміра з печане-

---

[93] Чичеров В. И. Русское народное творчество, с. 139.

гамі. Па гэтых уцалелых у зводзе абломках кіеўскай быліны можна заключыць, што ў палавіне XI ст. ужо склаўся ў Кіеўскай Русі цэлы цыкл гісторыка-паэтычных паданняў, галоўны змест якіх складалі паходы Русі на Візантыю»[94].

## IV

Беларускі фальклор такі ж багаты рознымі легендамі і паданнямі, як і чарадзейнымі і сацыяльна-бытавымі казкамі. Яны толькі не сабраны яшчэ ў поўным аб'ёме і разнастайнасці зместу і формы.

Сярод беларускіх легенд значную групу складаюць легенды этыялагічнага, тлумачальнага зместу. Яны своеасабліва расказваюць пра паходжанне свету, зямлі, неба, чалавека, розных жывёл і раслін. Яны нібы прызначаны адказваць на пытанні, якія спрадвеку цікавілі чалавека,— адкуль і як усё ўзялося на свеце? Найбольш гэта датычыць з'яў прыроды, што асабліва прыцягвалі ўвагу людзей. Толькі ў другім томе «Матэрыялаў» П. Шэйна змешчаны запісы легенд пра паходжанне каня, мядзведзя, ваўка, бусла, дзятла, кажана, пчалы, шэршня, пра тое, чаму жытні колас малы, чаму грэх забіць ластаўку, і інш.

У падобных легендах заўважаецца змешванне даўнейшай міфалогіі з біблейскай і апакрыфічнай касмагоніяй. Апошняя паступова пачала пераважаць, усё больш адцясняючы ранейшыя, дахрысціянскія ўяўленні. Стварэнне ўсяго жывога і нежывога на зямлі легенды пачалі прыпісваць богу, хоць вобраз яго набываў усё болей «зямны» характар. Так, гáды, напрыклад, распаўзліся па зямлі з меху, які бог загадаў аднаму чалавеку занесці і кінуць у мора і не заглядаць у яго. Парушыўшы богаву забарону, чалавек пацікавіўся, што ў тым мяху, і развязаў яго. За такое «злачынства» бог пакараў чалавека, ператварыўшы яго ў бусла, і загадаў яму вечна збіраць гадаў, якія распаўзліся па зямлі.

У радзе выпадкаў у касмаганічных легендах праяўляецца ўласцівы даўнім народным вераванням дуалізм, сляды якога захаваліся і ў хрысціянстве. У той час, як стваральнікам усяго прыгоднага на зямлі прызнаваўся бог, творцам усяго шкоднага і варожага чалавеку з'явіўся чорт, д'ябал — крыніца зла па хрысціянскаму вучэнню. «Працэс феадалізацыі, — адзначае Д. С. Ліхачоў,— адкінуў старую рускую язычніцкую рэлігію далёка назад: дажываючы свой век, яна стала тормазам у развіцці грамадскага жыцця. Новы ідэйны, класавы змест народнай творчасці адцясняў элементы культу, якія часткова былі ў ёй у мінулым»[95]. Гэта быў заканамерны працэс: рэлігійная ідэалогія ў эпоху феадалізму рабілася пануючай, бо, як вядома, у кожную эпоху думкі пануючага класа ёсць пануючыя думкі.

Безумоўна, пануючай ідэалогіяй народных мас была ідэалогія рэлігійная, ды іншай яна і не магла быць у класавым грамадстве. Гэта знайшло адлюстраванне ў многіх легендах, у прыватнасці касмаганічных. Так, легенды «Адкуль

---

[94] Ключевский В. О. Соч. В 8-ми т.— М., 1956, т. 1, с. 86.

[95] Лихачев Д. С. Народное поэтическое творчество времени расцвета древнерусского раннефеодального государства.— У кн.: Русское народное поэтическое творчество. М.; Л., 1953, т. 1, с. 149.

свет пайшоў», «Стварэнне свету» можна лічыць своеасаблівым пераказам, народнай «рэдакцыяй» біблейскай версіі. Але дарэмна мы будзем шукаць у ёй сапраўднага абагаўлення «творца свету». І тут неабходна падкрэсліць адну важную адметнасць, уласцівую многім беларускім «рэлігійным» легендам: пэўнае іранічна-жартаўлівае, мы б сказалі, панібрацкае, паблажлівае, вельмі заземленае стаўленне да бога, яго апосталаў і святых, да іх дзеянняў, у тым ліку і да стварэння богам свету і ўсяго, што на ім. У запісах канца XIX ст., такім чынам, ужо наглядаецца стыхійны працэс паступовага пераасэнсавання і пераадолення біблейскай касмагоніі ў асяроддзі беларускага сялянства. А. С. Фядосік, даследаваўшы пытанні сатыры ў беларускім фальклоры, адносна легенд адзначыў: «З развіццём «вальнадумства» ў народзе легенды па сутнасці ператварыліся ў сатырычныя пародыі, у якіх востра высмейваліся асобныя біблейскія міфы»[96]. І сапраўды, некаторыя народныя легенды пра стварэнне свету і чалавека, узнікшыя на аснове біблейскіх сказанняў, гучаць яўна парадыйна, успрымаюцца як сатыра на біблейскую касмагонію.

У той жа час легенды пра паходжанне свету, чалавека, розных жывёл і раслін не ёсць вынік наіўнага або прымітыўнага светаўспрымання. Народ, стварыўшы рэалістычна-крытычныя вобразы бога і святых, узняўся да пэўнай, як назваў гэта А. М. Горкі, матэрыялістычнай свабоды мыслення[97].

Легенды падобнага роду дастаткова пераканаўча сведчаць аб іранічным стаўленні беларускага селяніна да біблейскай касмагоніі, якую так старанна імкнуліся ўкараніць у яго свядомасць папы і ксяндзы, і аб выспяванні стыхійна-матэрыялістычных уяўленняў аб прыродзе і грамадстве. Нездарма многія беларускія легенды і паданні забараняліся царскай цэнзурай[98]. Міжволі напрошваецца такое супастаўленне: у наш касмічны век у штаце Арканзас ЗША прыняты закон, які абавязвае выкладаць у школах гісторыю стварэння свету толькі ў адпаведнасці з біблейскай версіяй[99].

Адным з пашыраных відаў легендарных твораў, безумоўна, былі духоўна-этычныя легенды маралізатарскага характару. Гэта апавяданні пераважна пра вандраванні бога з яго апосталамі і святымі па зямлі; яны брылі па дарогах, пад выглядам здарожаных людзей або жабракоў заходзілі ў вёскі, у сялянскія хаты, прыглядаліся да ўсяго, каралі людзей за негасціннасць і, наадварот, узнагароджвалі прыветлівых, часцей бедных, што дзяліліся з «падарожнікамі» апошняй скарынкай. Апавяданнямі падобнага роду з'яўляюцца вядомыя легенды «Бог і бедная ўдава», «Бог карае зайздросных», «Бог, Юры і Мікола», «Святы Пётра і скупая баба», «Чаму бабы працуюць, не адпачываючы» і інш. Гэта яшчэ легенды пра грахі і іх дараванне, пра паводзіны людзей, дабрачыннасць, пра розныя цуды святых-пустэльнікаў, цудатворныя абразы і інш.

---

[96] Фядосік А. С. Праблемы беларускай народнай сатыры.— Мн., 1978, с. 64—67.
[97] Горький М. Собр. соч. В 30-ти т.— М., 1956, т. 27, с. 190.
[98] Гл. Шлюбскі А. Беларускія народныя легенды, не дазволеныя да друку царскай цэнзурай.— Крывіч, 1926, № 1, с. 67—70.
[99] Правда, 1981, 28 снеж.

На першы погляд можа здацца, што амаль усе гэтыя легенды выражаюцца ў духу хрысціянскай маралі, але калі глыбей уцікнуць у яе сутнасць і ўчынкі персанажаў, то яскрава відаць, што ў іх адлюстраваны агульнапрынятыя нормы чалавечай этыкі і гуманізму, якія ўзніклі і развіліся на жыццёвай аснове ў асяроддзі народных мас. Мы бачым тут часта народную мараль у рэлігійнай абалонцы, пэўнае прыстасавальніцтва царквы, так як яна гэта зрабіла ў адносінах да старадаўніх народных свят, абрадаў і звычаяў.

Вядома, што народ заўсёды сурова асуджаў парушэнне такіх адвечных маральных норм, як працавітасць, гасціннасць, спагадлівасць да падарожных людзей, удзячнасць за дабро і г. д., але часам звязваў гэта з богам («Скупасць — не радасць»).

З пазіцый патрабаванняў народнай маралі якраз намаляваны ў «рэлігійных» легендах вобраз бога. Яго паводзіны не маглі выклікаць сімпатыі слухачоў легенды. Наадварот, яго ўчынкі асуджаліся. Бог паўстае в легенд істотай злой, помслівай, жорсткай. Ён адабраў хлеб у чалавека, а злітаваўся толькі над сабакам і катом («Чаму цяпер на полі колас малы?»). За тое, што нехта не пусціў яго начаваць, ён затапіў цэлыя вёскі, людзей ператварыў у каменне. Толькі за тое, што адна жанчына-жняя, занятая кармленнем свайго дзіцяці, не здолела як след паказаць богу дарогу, не праявіўшы, такім чынам, належнай павагі да яго, ён асудзіў усіх жанчын на вечныя турботы і цяжкую працу без адпачынку: «Будзець жа табе некалі да веку, пакуль ты жыва будзеш»[100].

У такім жа непрывабным выглядзе паўстаюць у легендах вобразы святых угоднікаў. Яны надзелены не найлепшымі зямнымі рысамі, часта сатырычна афарбаванымі, такімі, якімі звычайна народ надзяляў вобразы пана і папа ў казках. У легендзе «Чаму зязюлька куе толькі да Пятрова дня» святыя Мікола і Пётра — круцялі і п'яніцы. Яны прапілі ўсе грошы, якія ім даў бог на набыццё коней для бедных, а коней ўкралі, каб было з чым вярнуцца да бога. Варона выкрыла злачынства «святых», каркаючы: «Укралі, укралі!» Зязюля ж ілжыва засведчыла перад богам у карысць святых-злодзеяў: «Купілі, купілі!» І бог паверыў ёй.

Заўважаецца пэўная блізкасць паміж некаторымі «боскімі» легендамі і духоўнымі вершамі. Гэту блізкасць можна ўгледзець у тэматыцы і ідэйнай накіраванасці рада легенд і духоўных вершаў, у супольнай іх крыніцы — царкоўна-рэлігійнай літаратуры, жыціях, апокрыфах,— з якой паходзяць многія творы аднаго і другога жанру ва ўмовах бытавання гэтых твораў. Як вядома, ні духоўныя вершы, ні духоўныя легенды (як і іншыя віды легенд) не належаць да агульнадаступных, у сэнсе выканання, жанраў вуснай творчасці, падобна песні або нават казцы.

Духоўныя вершы, як і рэлігійныя легенды, не ўвайшлі шырока ў народны вусны рэпертуар. Іх хавальнікамі і выканаўцамі, як ужо падкрэслівалася, былі звычайна старэйшыя члены грамады. Нямала духоўных легенд успрынялі і

---

[100] Усе прыклады, назвы твораў, якія тут прыводзяцца, узяты з тэкстаў, змешчаных у томе.

вандроўныя жабракі-старцы, якія расказвалі іх уперамежку са спяваннем пад ліру духоўных вершаў. Прычым гэтыя старцы — выканаўцы рэлігійных легенд, як і духоўных вершаў, былі вельмі далёкія ад «святасці», бо гэта была іх прафесія, якая давала ім пэўны заробак. У адным этнаграфічным апісанні быту беларускіх «старцаў» пачатку XX ст.—«розных вандроўных слепакоў, казачнікаў і псалмапеўцаў»—адзначана, што «яны больш заняты збіраннем міласціны, чым рэлігійным роздумам, і літаратурным таварам сваім гандлююць, як разносчыкі галантарэі»[101].

Героямі духоўных легенд выступаюць сам бог, Хрыстос, божая маці, розныя іншыя евангельскія персанажы, святыя Мікола, Юр'я, Ілья-прарок, Пётра або Пятро і Паўла, «заступнікі» земляробства, сялянскай працы. Апрача таго, у беларускіх легендах часта дзейнічаюць персаніфікаваныя святы або святочныя дні — Вялікдзень, Нядзеля, Пятніца. Звычайна яны з'яўляюцца ў постаці чалавека, часцей жанчыны, да тых, хто не пільнуе свята, а працуе ў той дзень, і сурова караюць іх за гэта або папярэджваюць аб небяспечных выніках такіх учынкаў у далейшым.

На Беларусі былі шырока вядомы легенды аб ператварэнні аратага разам з сахой і валамі ў камяні за тое, што ён араў поле на вялікдзень. Камяні, якія мелі нейкае падабенства да фігур чалавека і пары валоў і з якімі звязаны адзначаныя легенды, былі зафіксаваны, напрыклад, каля в. Камень на р. Віліі, паблізу фальварка Лазовічы недалёка ад Нясвіжа, на Мазыршчыне і ў іншых месцах.

Вядомы легенды пра з'яўленне Нядзелі да жанчын, якія, парушаючы царкоўнае ўстанаўленне, працавалі ў «святы дзень». Такія легенды былі пашыраны асабліва ў заходніх раёнах Беларусі і запісаны ў розных варыянтах М. Федароўскім. Не менш легенд і пра Пятніцу. У гэты дзень жанчыны не пралі і не выконвалі некаторыя іншыя работы. Але даследчыкі даўно давялі, што ўшанаванне пятніцы не мае нічога агульнага са штучным царкоўным культам святой Параскевы Пятніцы, а карэнні яго вядуць да больш сівой даўніны, да старажытнаславянскага жаночага божышча Макош[102].

Бытаванне легенд аб «боскім» пакаранні за працу ў нядзелю і святочныя дні нельга лічыць выпадковай з'явай. Думаецца, гэта можа быць звязана і з рэальнымі ўмовамі жыцця сялянства ў часы прыгону, калі паншчынныя павіннасці часта давалі селяніну магчымасць працаваць на сваіх загонах толькі ў нядзелю і святы, а здаралася нярэдка, што паны, не лічачыся ні з чым, выганялі сваіх прыгонных на тэрміновыя прымусовыя работы ў іх гаспадарцы іменна ў святочныя дні. Такім чынам, легенды аб працы ў нядзелю і святы маглі быць своеасаблівым праяўленнем сацыяльнага пратэсту, які прыняў рэлігійную форму. Гэтым, відаць, і трэба тлумачыць пашырэнне падобных легенд, першапачатковай крыніцай якіх маглі паслужыць апакрыфічныя рэлігійныя прытчы. Тут жа варта адзначыць, што эсхаталагічныя легенды — пра канец

---

[101] Казанович Е. Легенда о Святом озере в Белоруссии.— Живая старина за 1915 г., 1916, № 3, с. 273.
[102] Рыбаков Б. А. Язычество древних славян.— М., 1981, с. 386—392.

свету і страшны суд — сустракаюцца ў беларускай прозе даволі рэдка.

У касмаганічных і так званых духоўна-павучальных легендах богу часта супрацьстаяў чорт, або сатана, Люцыпар, д'ябал. Разам з богам ён прымаў удзел у стварэнні свету. Падобнае знаходзім таксама ў рускіх і ўкраінскіх легендах[103]. Перад падкопамі чорта бог аказваўся бездапаможным.

Дарэмна шукаць у вобразах бога і святых народных легенд што-небудзь «неземное», тое, што ідзе ад канонаў царкоўнага вучэння. Яшчэ А. М. Афанасьеў падкрэсліваў: «Народная песня і казка... не раз звярталася да свяшчэннага пісання і жыція святых... Песня ператваралася ў *верш*, казка ў *легенду*... Запазычаны матэрыял... больш або менш падначальваецца волі народнай фантазіі». І «дзіўна было ў гэтых творах шукаць рэлігійна-дагматычныя погляды народа»[104]. Ад усяго гэтага вобразы бога і святых, створаныя народнымі легендамі, вельмі далёкія. Бог і святыя беларускіх легенд настолькі «абмужычаны», ім у такой ступені ўласцівы ўсе чалавечыя заганы, што яны амаль не адрозніваюцца ад звычайных людзей.

У адносінах да бога і святых саміх стваральнікаў і выканаўцаў легенд нязважка заўважыць негатыўнае, часта з'едліва іранічнае стаўленне народа да царквы і афіцыйнай рэлігіі. У такіх легендах з бога нібы спадае арэол святасці. Дзе толькі падзелася боская літасцівасць, усемагутнасць, усюдыіснасць? Перад слухачамі легенды бог паўстае часта мізэрным, бездапаможным, такім, як ён абмаляваны і ў некаторых беларускіх казках. У казцы «Іванка-прастачок», напрыклад, расказваецца, як калісьці людзі жылі, «бы ў раю: гаравалі, працавалі, ды і бяды не малі» датуль, пакуль не з'явіўся «страшны Змей» і не развёў тут паноў-крывасмокаў, што «ўсё к сабе грабуць, з мужыкоў скуры дзяруць». Дзівосныя «тры старцы», у якіх угадваюцца бог і яго апосталы, што з'явіліся да Іванкі, аказаліся бездапаможнымі перад сацыяльнай несправядлівасцю, якая панавала на свеце[105].

Часта ж у беларускіх легендах пра бога і святых прыкметна праявілася ўздзеянне сатырычных бытавых казак і народнага анекдота. Ёсць легенды, якія спрабуюць адказаць на некаторыя пытанні сацыяльнага жыцця. Напрыклад, Я. Ляцкі запісаў у б. Мінскай губ. легенду пра паходжанне шляхты, зноў-такі не пазбаўленую з'едлівай іроніі і сатыры. «Калі бог стварыў людзей,— расказваецца ў легендзе, — то рэдка хто ведае, з чаго ён іх рабіў, але шляхціц, усім ведама, зроблен з тварагу»... Гэтаму, аднак, перашкодзіў «кундэль» (сабака), які з'еў тварожнага шляхціца, за што і быў пакараны богам: «Ну, кааць, бяжы ж ты сабе па свету: аб што ні зачэпішся, з таго выскачыць шляхціц. З гэтага і назвіскі пайшлі вядомыя: Беразоўскія, Каменскія, Хамутоўскія, Тварагоўскія,— з гэтага шляхты і пайшлі...» Варыянты гэтай легенды запісаны і ў іншых месцах Беларусі.

---

[103] Барсов Е. В. Народные предания о миротворении.— Чтения в О-ве истории и древностей российских.— М., 1886, кн. 4.
[104] Афанасьев А. Н. Народные русские легенды.— Казань, 1914, с. 3—4.
[105] Сержпутовский А. К. Сказки и рассказы белоруссов-полешуков Слуцкого уезда, с. 149.

Нярэдка і ў «рэлігійных» легендах і паданнях падкрэсліваецца сацыяльная несправядлівасць, якая існавала на свеце, выражана яўнае абурэнне, незадавальненне народа ладам, заведзеным богам ва ўгоду панам, багацеям і на пакуты, на паднявольную працу прыгонных сялян. Сэнс такіх легенд красамоўна выражаны народнай прыказкай: «За тым і бог, хто бедака перамог».

Нават тыя чатыры легенды, якія так старанна падабраў для разгляду Я. Ф. Карскі [106] і якія ён лічыў асабліва «высокамаральнымі», зразумела, з пункту погляду хрысціянскага вучэння, не пазбаўлены выразнай сацыяльнай афарбоўкі. Тут асабліва цікавай з'яўляецца легенда пра разбойніка, які каецца ў сваіх страшэнных злачынствах. Не знайшоў ён збавення, старанна выконваючы невыканальную эпітымію, і дараванне грахоў атрымліваў толькі пасля таго, як забіў яшчэ больш небяспечнага разбойніка, людаеда або войта, панскага прыганятага, ад якіх невымерна пакутаваў народ, гібела запрыгоненае сялянства. Толькі тады, калі «вялікі грэшнік» ажыццявіў сацыяльную расплату з яшчэ больш вялікім грэшнікам — з войтам-мучыцелем сялян, забіў яго, ён атрымаў адпушчэнне сваіх мінулых важкіх грахоў, «на тым месцы парахнёй рассыпаўся; кончыў пакуту — і пайшла яго душа на той свет».

Легенды пра двух вялікіх грэшнікаў вядомы таксама ў рускім і ўкраінскім фальклоры (па паказальніку Андрэева — Аарнэ 756 С). Літаратурныя першакрыніцы гэтых легенд—апакрыфічныя сказанні пра разбойнікаў, якія каюцца, грунтоўна даследаваны яшчэ А. М. Весялоўскім [107] і іншымі даследчыкамі старажытнай рускай літаратуры. У народных рэдакцыях легенды пра вялікіх грэшнікаў хоць і захавалі некаторыя рысы хрысціянскай маралі — ідэі пакорлівасці, замольвання грахоў, але ў той жа час набылі выразную сацыяльную накіраванасць. Народ цалкам апраўдвае знішчэнне лютых прыгнятальнікаў — катаў працоўнага чалавека. Народная мараль легенд пра вялікіх грэшнікаў-разбойнікаў вельмі цікавіла А. М. Горкага [108].

Наогул, сацыяльная накіраванасць многіх беларускіх легенд і паданняў выражала ідэалогію пераважна бяднейшых пластоў сялянства і гарадскіх нізоў, светапогляд народных мас у пэўны гістарычны перыяд. Сацыяльны момант яскрава выступае ў легендах не толькі пра бога і святых, але асабліва ў легендах пра паходжанне класаў — паноў, шляхты і розных з'яў грамадскага жыцця. Выразную сацыяльную завостранасць маюць і многія паданні, асабліва пра гістарычныя падзеі.

Нельга абысці ўвагай даволі шырокае кола дэманалагічна-забабонных легенд пра вобразы старажытнай славянскай дэманалогіі — палявых, лясных, водных і гаспадарча-дамавых духаў. Гэты асобны жанр легендарнай вуснай прозы — так званыя былічкі, або страхі. Звязаныя з першабытнымі вераван-

---

106 Карский Е. Ф. Белорусы, т. 3, ч. 1, с. 475—484.

107 Веселовский А. Н. Разыскания в области русского духовного стиха. Х.— Сборник Отделения русского языка и словесности Российской АН. СПб, 1897, т. 32.

108 Сцяпунін І. Р. Беларускія казкі і легенды ў ацэнцы М. Горкага.— Весці АН БССР. Серыя грамад. навук, 1966, № 3, с. 74—76.

нямі і ўяўленнямі аб духах — гаспадарах розных стыхій прыроды, легенды гэтыя ператварыліся ў хвалюючыя апавяданні пра апаэтызаваных міфалагічных істот і іх свавольства пры нібыта сапраўдных сустрэчах і сутыкненнях з чалавекам. На начлезе, попрадках, ігрышчах і пры іншых абставінах апавяданні пра ваўкалакаў, русалак, лесуна, нячысціка ўспрымаліся даўней абвострана, з нязгаснай цікавасцю і шчымлівым пачуццём страху.

Былічкі-страхі, якія з'яўляюцца водгаласам далёкіх мінулых эпох і адлюстроўваюць першабытныя ўяўленні людзей аб навакольным свеце, могуць служыць важнай крыніцай вывучэння міфалогіі, народных вераванняў і гісторыі іх развіцця.

Многія міфалагічна-дэманалагічныя вобразы народных легенд увайшлі ў класічную беларускую літаратуру. В. А. Каваленка піша: «У мастацкія творы беларускіх пісьменнікаў, асабліва Янкі Купалы, хлынулі ў якасці дзеючых асоб дзіўныя істоты ведзьмакоў, кажаноў, ваўкалакаў, начніц, груганоў, змеяў, злыдняў, злыбед, страхаў, хохлікаў. Усе гэтыя вобразы чарадзейных істот сведчылі перш за ўсё аб узмацненні рамантычнай тэндэнцыі ў беларускай літаратуры»[109].

Яшчэ большае месца ў беларускім фальклоры займалі паданні, звязаныя з мясцовай гісторыяй, мясцовым ландшафтам, людзьмі, што пакінулі свой след у памяці народа. Яны ўзнікалі пераважна на аснове гістарычнай рэчаіснасці, той або іншай гістарычнай падзеі, канкрэтнага паселішча, вадасховішча, адметнага прыроднага аб'екта. Паданні розныя па сваймý зместу і спосабу мастацкага выражэння, па ступені выдуманага і верагоднага.

Гістарычныя паданні, як ужо адзначалася, звычайна звязаны з канкрэтнай мясцовасцю, той або іншай падзеяй, гістарычнай асобай. У памяці народнай захаваліся гістарычныя паданні пра месцы даўніх пабоішчаў, пра барацьбу з «крыжакамі», татарамі, літоўскімі, польскімі і «сваімі» феадаламі, са шведамі, напалеонаўскай арміяй, туркамі, а таксама пра эпідэміі, езуітаў, уніяцтва, сялянскія паўстанні і інш. Ёсць паданні пра асобных гістарычных дзеячаў — беларускіх і літоўскіх князёў, польскіх каралёў, рускіх цароў (Івана Грознага, Пятра I), пра розных паноў-прыгоннікаў, якія пакінулі ў народзе ліхую памяць сваёй жорсткасцю, нечалавечымі здзекамі з паднявольных людзей.

Свята захоўвае народ у паданнях памяць аб сваіх героях — змагарах за свабоду. У Рагачоўскім раёне, напрыклад, было вядома паданне, якое, на жаль, не захавалася ў запісе, пра двух братоў-бунтароў, Хаму і Рыгора, што былі жорстка замучаны панамі. Захаваліся паданні пра казацкіх атаманаў, пра паўстанне 1863 г. у Беларусі, пра Рымшу і іншых народных герояў. Былі пашыраны ў Беларусі таксама паданні пра Сцяпана Разіна і Емяльяна Пугачова. Узорам гістарычнага падання можа служыць паданне пра замак у Гомелі, якое пераказаў у кнізе «Беларускія апавяданні» Д. Е. Лапо. Паводле гэтага апавядання, замак у Гомелі пабудаваны на чалавечых касцях. Яго пачалі ўзводзіць польскія паны, каб абараніцца ад гайдамакаў, г. зн. паўстаўшых сялян, якія

---

109 Каваленка В. А. Міфа-паэтычныя матывы ў беларускай літаратуры.— Мн., 1981, с. 136.

уліваліся ў казацкія атрады. Тысячы заняволеных сялян былі прыгнаны на будаўніцтва замка ў Гомелі. Дабудоўвалі замак ужо графы Румянцавы — бацька і сын [110].

Яскравым узорам гістарычных паданняў можа служыць і паданне «Векавечная мяжа» аб тым, як гістарычна склалася мяжа паміж суседнімі беларускім і польскім народамі. Многія паданні і легенды праліваюць святло на гісторыю народа, даюць народную ацэнку тым або іншым падзеям і дзейнасці гістарычных асоб. «У нас, як і ў розных народаў,— пісаў М. В. Каяловіч,— найпершае ўсведамленне свайго гістарычнага жыцця выразілася ў народных легендах. Легенды гэтыя прыкметны на першых старонках нашага летапісу»[111]. Значэнне народнай творчасці ў цэлым як гістарычнай крыніцы падкрэсліваў А. М. Талстой: «Рускі народ стварыў вялікую вусную літаратуру, дарэмна думаць, што гэта літаратура была толькі вынікам вольнага часу народа. Яна была годнасцю і розумам народа. Яна станавіла і ўмацоўвала яго маральнае аблічча, была яго гістарычнай памяццю»[112].

Паданняў пра гістарычныя падзеі і гістарычных дзеячаў сабрана параўнальна невялікая колькасць. Гэта пераважна ўспаміны пра нашэсце іншаземнага войска — татар, шведаў, французаў, пра войны і г. д.

Найбольш значную групу складаюць паданні тапанімічнага характару — пра паходжанне гарадоў, мястэчак, паасобных вёсак, урочышчаў, рэк, азёр, замчышчаў, гарадзішч і курганоў у Беларусі і іх назваў. Наяўнасць вялікай колькасці такіх «тлумачэнняў» можна лічыць адной з характэрных асаблівасцей беларускіх вусных паданняў.

Беларускія тапанімічныя паданні, а іх вельмі многа, самыя разнастайныя па зместу і характару, пачынаючы з зусім кароткіх, простых народных этымалогій, якія раскрываюць назвы, выходзячы з сугучнасці («Адкуль вёска Берштыэ») або рэльефа мясцовасці, аж да разгорнутых апавяданняў пра розныя падзеі, асобы («Пра Магілёў», «Як паўстаў Мінск», пра буйнейшыя рэкі і азёры і г. д.). Многія назвы вёсак тлумачацца імёнамі першапасяленцаў, заснавальнікаў («Адкуль Вільнюкі», «Адкуль вёска Бабій Лес», «Баб'я Гара»). Ёсць сярод тапанімічных паданняў творы з выразнымі сацыяльнымі матывамі («Дзявочая горка») і інш.

Асобны цыкл складаюць паданні пра зачараваныя скарбы, што нікому «не даюцца» ў рукі, ахоўваюцца звышнатуральнай сілай. Былі пашыраны таксама паданні пра нібы ўвайшоўшыя ў зямлю або патанулыя цэрквы, капліцы, званы, пра дзівосныя камяні, у тым ліку загадкавыя камяні-краўцы, камяні-шаўцы і г. д. Як відаць, і ў паданнях нямала, «таямнічага», хоць ёсць тут факты, эпізоды, якія звязаны з дзейнасцю людзей.

Па сродках мастацкага выражэння, стылістычных асаблівасцях беларускія легенды і паданні мала чым адрозніваюцца ад бытавых, рэалістычных казак.

---

[110] Лаппо Д. Е. Белорусские рассказы.— Казань, 1895, с. 176—178.
[111] Коялович М. О. История русского самосознания по историческим памятникам и научным сочинениям.— СПб, 1884, с. 75.
[112] Толстой А. Н. Полн. собр. соч. В 15-ти т.— М., 1950, т. 14, с. 161.

Праўда, ёсць пэўная частка легенд, а таксама паданняў, насычаных казачнай фантастыкай. Такія легенды па свайму стылю бліжэй прымыкаюць да чарадзейных казак. У падобных легендах сустракаецца больш традыцыйных сродкаў народнай паэтыкі, уся абраднасць іх формы больш паэтычная і складаная. К. Маркс пісаў: «Фантазія, гэты вялікі дар, які так многа спрыяў развіццю чалавецтва, пачала **цяпер ствараць няпісаную літаратуру міфаў, легенд і паданняў,** аказваючы ўжо магутны ўплыў на чалавечы род»[113].

Легенды больш, чым паданні, змяшчаюць у сабе элементы фантастычнай выдумкі, казкі. Значная ж частка паданняў пазбаўлена фантастыкі і ўспрымаецца як рэалістычнае апавяданне аб сапраўднай падзеі.

Так ці інакш легенды і паданні — гэта дайшоўшыя да нас сведчанні светасузірання нашых далёкіх продкаў, іх уяўленняў аб прыродзе, аб чалавеку, яго працы, маральных асновах. На жаль, не ўсе гэтыя вусныя сведчанні захаваліся ў памяці людзей. Тое, што змешчана ў гэтым томе, здабыта на паліцах бібліятэк, з пажоўклых камплектаў старых газет мінулага стагоддзя, у архіўных сховішчах, але многае яшчэ пашчасціла запісаць ад старэйшых людзей у час фальклорных экспедыцый. Тым самым удасца захаваць для нашчадкаў цэлую галіну вуснай творчасці беларусаў. А зразумела, што трэба ведаць, шанаваць і скарыстоўваць не толькі матэрыяльныя помнікі гісторыі і культуры, але і духоўныя здабыткі, паданні свайго народа.

Публікуемыя легенды і паданні маюць не толькі навуковую каштоўнасць. Яны могуць служыць і пазнавальна-выхаваўчым мэтам. У прыватнасці, многія легенды могуць быць скарыстаны ў атэістычным выхаванні працоўных. У. І. Ленін указваў, што «растлумачэнне нашай праграмы неабходна ўключае таму і растлумачэнне сапраўдных гістарычных і эканамічных карэнняў рэлігійнага туману»[114].

Апрача непасрэдных фальклорных запісаў у томе змешчана некаторая колькасць легенд і паданняў у літаратурнай перадачы або ў пераказе на рускай і польскай мовах (у перакладзе на беларускую), узятых з розных публікацый. Зроблена гэта дзеля таго, каб захаваць сюжэты і змест тых беларускіх легенд і паданняў, запісаць якія ў жывым бытаванні зараз ужо немагчыма. Усе гэтыя тэксты вылучаны ў томе зорачкай, якая пастаўлена злева ад назвы твора.

Распрацоўка класіфікацыі тэкстаў, асноўная частка каменціравання іх і паказальнік прадметаў, з'яў, імёнаў і міфалагічных істот належаць аўтару ўступнага артыкула. А. І. Гурскі прымаў удзел у сістэматызацыі матэрыялаў, напісанні каментарыяў, а таксама склаў алфавітны спіс збіральнікаў і геаграфічны паказальнік.

У тэхнічнай падрыхтоўцы тома да друку прымалі ўдзел В. І. Скідан і Дз. А. Бабрыцкая.

*М. Я. ГРЫНБЛАТ*

---

113 Маркс К. и Энгельс Ф. Об искусстве.— М., 1967, т. 1, с. 248.
114 Ленин В. И. Полн. собр. соч., т. 12, с. 145.

# ПРА ПАХОДЖАННЕ СУСВЕТУ, ЗЯМЛІ, ЧАЛАВЕКА, ЖЫВЕЛ, РАСЛІН

## 1. АДКУЛЬ СВЕТ ПАЙШОЎ

Як бог сатварыў свет, та вялеў сонейку свяціць на добрых і на ліхіх. Сонейка не хацела свяціць на ліхіх і пачало жаліцца богу, што яму цяжка заўжды свяціць. Тагды бог пакараў сонейка й вялеў яму свяціць толькі ўдзень, а ўночы, як гуляюць ліхія, не свяціць, а адпыхаць.

## 2. АДКУЛЬ СВЕТ ПАЙШОЎ

Неба зроблена так, што яно мае сем ста́лак, ці пёнтраў. Мы бачым толькі першае неба. А бог жыве аж на сёмум. З чаго зроблена неба, ніхто не ведае.

## 3. [ЗЯМЛЯ]

Святая зямелька корміць нас і ўсякага звера; носіць на сваіх плячах, ніколі не наракаючы, не стогнучы, а як бог пашле смерць, то яна прыгорне і не гідзіцца, калі нас чэрві точаць.

Маці зямля ўсё прымае, а найбольш усякае нечысці, да шчэ і дзякуе за ета, а калі хочаш ведаць, як яна дзякуе, то навязі гною да й пасей жыта, дак і будзеш знаць. Нашы дзяды і бацькі не дарма казалі: тым, што зямля родзіць, падзяліся з ёю, на́цца, еш сам хлеб, а салому аддай роднай зямельцы...

Няма нікога і нічога багачэй за зямлю: сколькі яна родзіць хлеба, сколькі дае жалязá да ўсяго іншага? З яе капаюць усякую гліну на печы, на гаршкі да на пабелку, а мала ж то ўсюды закопана грошай? Хто ж, урэшце, дае чыстую здаровую ваду? Дае святая маці зямля...

## 4. [ЯК УЗНІКЛІ БАЛОТЫ]

Балота да ўсялякую тхланю да нетру зрабіў чорт. Ён падгледзеў, што бог сее зямлю, от ён схапіў трохі зямлі да й схаваў яе ў горла.

Азірнуўся бог да й пытае, што ён есць. Чорт, каб адперціся, хутчэй праглынуў тую зямлю. Толькі ён тое зрабіў, як у ём зямля пачала расці. Бачыць чорт, што зямля распёрла яго, от ён давай рыгаць. От дзе толькі чорт рыгнуў, там і зрабілася балота да такая нетра, што там і да тых час толькі й жывуць чэрці.

## 5. ЧОРТАВА БАЛОТА

Бачыце, якая тут нетра, якая тхлань: цэлы тыдзень ідзі, то да краю не дацягнешся. Даўней тут была чыстая вада, усё лялела да блішчэла на сонейку, бы шкло. Бог ездзіў па вадзе ў чоўне да аглядаў, дзе зрабіць зямлю. Раз плыве бог у чоўне да мяркуе, як і дзе што ўродзіць; а тым часам чорт закмеў бога да й паплыў за ім назіркам: падплыве к чоўну да ад страху нырне ў ваду, бы нарэц, і зноў плыве. Вельмі яму хочацца пранюхаць, што бог мае рабіць. Бачыць бог, што чорт прэцца следам, як тая мара́, бачыць да ўсё маўчыць. Пасеяў бог зямлю,— сыпануў жменю зямлі, а тут разам расступілася вада, і высунулася сухая зямля, з лесам, з полем да з сенажацямі. Глядзіць чорт да толькі дзівіцца, адкуль тое ўсё бярэцца. Плыве бог да жменю з чоўна, бы з сяўка, раскідае насенне. Прыгледзеўся к таму чорт і думае сабе: «Каб мне дастаць гэтага насення,— нарабіў бы я мудрэй бога, нарабіў бы так, што сам Нічыпар пазавідаваў бы». Пабачыў бог думкі чорта да й пазволіў яму ўзяць таго насення. Павярнуў бог човен да акурат на чорта і наткнуўся. Скорчыўся чорт, хацеў шмыгнуць у ваду, зачапіўся хвастом за пастырчак да й круціцца на віру, бы ўюн.

Тым часам бог адвярнуўся ў другі бок, а човен плыве каля самага чорта. Скорчыўся чорт, што божы човен апёк яму бок, але тым часам ухапіў з чоўна жменю насення, а каб бог не ўбачыў таго да не адабраў, хуценька кінуў насенне ў горла да й глынуў. Не прыкмеціў нібыта бог і паплыў далей. Рад чорт і ад радасці сунуў у бок, далей ад бога. Але вось бачыць чорт, што яго чэрава расце, бы на дражджах, расце, аж бакі распірае. Расце чэрава ўсё больш і больш, расце так, што чорту нельга й дыхаць. Давай гэта ён блявацъ да выплёўваць тое насенне. Куды плюне чорт, дык там і вырасце корч або куст лазы. Прэцца чорт па вадзе да так блюе, што аж з яго вантробы выпірае. А тым часам усё больш і больш па вадзе заплёўваецца чортава лаза. Моташна чорту, хочацца яму ўсё насенне з жывата выкінуць, от ён снуе па вадзе, бы павук, да ўсё блюе. Па немалым часе ўся вада закрылася лазою да ракітаю. Зачапіўся чорт за лазу да як рыгне, дык ўсё насенне і выскачыла з жывата ў ваду; і пачала з яго расці ўсялякая непатрэбная трава. Запаганіў чорт чыстую ваду і абярнуў яе ў паганае чортава балота.

Зірнуў бог, што нарабіў чорт, да аж за галаву схапіўся. Што тут рабіць, што пачаць? Як тут лазу выгубіць? А, ведама, куды ўжо лаза ўплюнецца, дык яе нічым не выгубіш. Паслаў бог сонейка, каб яно спаліла чортаву лазу. Прыпякло сонейка, нагрэла ваду, а лаза хоць бы што,— яшчэ лепш расце. Узялася лаза па балоце, бы вязель. Бачыць сонейка, што нічога не парадзіць, кінула пекці і пайшло к богу на скаргу. І вялеў бог марозу вымаразіць паганыя кусты. Хапіў мароз, трашчыць, гняце. Замерзла вада, а лаза і нігадкі,—сядзіць сабе да вясны чакае. Што ні рабіў мароз, як ні цісնуў лазовыя карчы, марозіў, аж з сілы выбіўся, і пайшоў к богу на скаргу.

Падумаў, падумаў бог да й вялеў, каб лаза аставалася расці: бо, ведама, пакуль згубіш ліхое, то добрае само згіне. Расце лаза і закрывае не толькі балота, але й сенажаці, а то лезе і на поле. Пабачыў чалавек, што лазы так многа, да й думае сабе: «Ці няможна і з лазы што-небудзь патрэбнае зрабіць». Пайшоў чалавек у чортава балота, наздзіраў з лазы кары да й давай віць вяроўкі. В'е да песні пяе. Убачыў тое чорт і спужаўся. Падходзіць ён к чалавеку да й пытае:

— Што ты, чалавеча, робіш?

— Хіба табе бельма павылазілі, што не бачыш,— кажа чалавек.

— Бачыць, то я добра бачу, але не ведаю, навошта табе гэтая работа.

— А вось дай пакажу.

Узяў гэта чалавек, скрампаваў чорта лычаком да й прывязаў яго к таўшчэразнаму дубу...

Спалохаўся чорт да як рванецца, дык і вырваў дуб з карэннем. Вырваў да і сунуў наўцекача з дубам разам. Бяжыць па балоце, а дуб карэннем да сукамі баранує зямлю, толькі выскаці да глыбокія равы ззаду астаюцца. А чалавек сеў на рала таго дуба да пакрыквае на чорта:

— Вяртай налева, вяртай направа!

Бегаў, бегаў чорт, узвярнуў усё балота. Ад таго часу яшчэ стаяць на балоце выжары, азярыны да выскаці. Доўга круціўся чорт, пакуль вылузаўся з вяровак, а потым як сунуў наўцекача, дык чорт ведаў, куды й дзеўся. Астаўся тут чалавек і заўладаў чортавым балотам. Давай гэта ён церабіць лазу, драць яе то на лапці, то на лычакі. Выцерабіў трохі, пабудаваўся сярод лесу, ускарпаў поле, высек на сенажаць, але да гэтага часу нічога не парадзіць з чортавымі карчамі: высячэ адзін, то дзесяць вырасце. І астаецца чортава балота чортавым балотам да гэтага часу.

## 6. БОГ І Д'ЯБАЛ

### [Адкуль узяліся горы і балоты]

Калісь гасподзь хадзіў па воздуху. Бача — пузыр вісіць, і ў пузыры штось пішчыць. Гасподзь спрашуя:

— Што ты там такое пішчыш у пузыры?

А ён гавора:

— Бог!

— А хто ж я?

— А ты,— кажа,— над богамі бог,— у пузыры атвет дае.

— Ну, калі ж я над богамі бог...— узяў і разадраў пузыр.

Вышаў адтуль чалавек, з пузыра, і ідзе поплеч з ім. Ідзе. І цяперака гавора гасподзь:

— Як бы нам з табою зямлі атыскаць? Патаму хоць нам без зямлі тожа можна жыць, ■ па-настаяшчаму нельзя. Е,— гавора,— у акіяне бяздным зямля — ідзі ты дастань адтуль: ты ета можаш здзелаці.

Гасподзь гавора таму ўжэ таварышу свайму. Ну, той палез, узяў зямлі ў рукі і попрыч у рот; і тую, з рук, богу аддаў, а тую затаіў ад бога.

Потым гасподзь гавора:

— Ну, мы ж ету зямельку пасеям.

Гасподзь зямельку пасеяў, зямелька стала росць. І ў яго ў роце стала росць. Яму стала трудна тагды ўжэ. Потым ён з трудоў тых кінуўся ад бога і давай харкаць, із рота зямлю выкідаць. І дзе харкане з рота паболей, там горы, курганы дзелаюцца,— і дзе зямлі больш выкінецца ■ рота, і дзе трохі харкане, там раўней; і дзе плюне — там мохі, балоты...

## 7. АДКУЛЬ ГОРЫ ДЫ БАЛОТЫ

Рабіў бог зямлю. Выгладзіў, выдзелаў — люба пaглядзець. Гладзенькая, кругленькая, як шпакова яйка. Адляцеў троху воддаль дый дзівіцца з сваёй працы, што добра ўдалося.

Тым часам чорт ужо быў, сядзеў ён за кустом і ад злосці аж тросся. Зайдрасць яго брала, што бог гэтак добра зрабіў. Як толькі бог схаваўся за нябеснымі брамамі, а іх цэлых сем, чорт давай са злосці кіпцямі зямлю дзярці ды кідаць. Куды кіне — гара, куды са злосці плюне — балота. Зрабіў зямлю такой, як мы зараз бачым. Сам зарыўся глыбока ў зямлю і зрабіў пад зямлёй сваё княства.

Зямлю бог перарабляць не захацеў, бо былі ўжо людзі, іх некуды было выганяць пад час рамонту. Так і засталася да нашых часоў.

## 8. АБ СТВАРЭННІ БАЛОТ

Перш-наперш была адна толькі вада; па ёй кой-калі хадзіў бог. Вот толькі раз ён ідзець, ажно відзіць—плывець вадзяны пузыр. Во й кажыць бог:

— Стой!

Пузыр астанавіўся. Кажыць бог:

— Лопні!

Пузыр лопнуў, з яго выскачыў чорт і кажыць:

— Што табе нада, божухна?

Тагды бог кажыць:

— Нада б было здзелаць што пацвярдзей, а то няўдоба хадзіць.

Во і стаў бог з чортам меркавацца, як ета зрабіць нада. Тады ўздумаў бог, што ў вадзе ляжыць кавалак зямлі і кажыць чорту:

— Дастань-ка ты тую зямлю.

Чорт як буўтыхніць! Ажно чэраз тры дні прыскочыў; набраў чорт по́лан по́дал зямлі дый шчэ за шчаку напіхаў. Тады бог стаў раскідываць тую зямлю па вадзе. Куды ні сыпнець — станіць зямля; і рассыпаў усю зямлю з падала́. А што залажыў чорт за шчаку, пра тое змоўчаў, богу не сказаў. Тагды бог кажыць:

— Штоб па зямлі параслі дзяро́вы і травы.

Во як сталі расціць на зямлі дзяровы і травы і ў чорта за шчакой сталі росць дзяровы і травы. Раздула чорту рот, не можна яму ні піць, ні есць. Аднача доўга крапіўся чорт. Тагды відзіць, што ні ў магату... а тут і бог ідзець... Пусціўся чорт убягаць, ды як плыванець, ды як кірханець — так усё і павыкірхаў з роту. Куды толькі пляваў чорт, там і стала вадзяная зямля з дзярэўямі і травой. Дык во як балоты!..

## *9. ПРА ПАХОДЖАННЕ Д'ЯБЛА І БАЛОТАЎ

Ішоў Спас па сіняму мору, бачыць — мора пачынае пеніцца, пачынаюць біць незвычайна моцныя хвалі, з'явіўся аграмадны вадзяны стоўб. Спас падыходзіць да гэтага стаўба паглядзець і бачыць у сярэдзіне гэтага стаўба жывога волата, які паварочваецца, але не можа ўстаць. Спас узяў гэтага волата і выкінуў на бераг. З'явіўся такі прыгажун, што прыгажосці яго здзівіўся сам Спас.

Спас узяў гэтага прыгажуна і паставіў яго начальнікам над усімі анёламі. Ён і пачаў намаўляць анёлам непаслушэнства богу.

— За што,— гаворыць,— будзем слухмянымі богу? Што такога дзіўнага зрабіў бог,— стварыў чалавека? Мы і самі зробім такога ж чалавека, яшчэ лепшага.

Некаторыя з анёлаў і паддаліся на словы гэтага волата і паду-

малі пра сябе: і сапраўды, за што мы будзем слухацца бога? Пойдзем і зробім такога ж чалавека.

Пайшлі і давай муціць азярцы і рэкі; напрацаваліся, што аж счарнелі як вугаль. Доўга яны муцілі рэкі і азёры, з'явіліся рознага роду насякомыя і паўзуны, але чалавека зрабіць не змаглі.

Тады прыйшоў да іх Спас і паглядзеў на іх гнеўна. Твары гэтых непакорных зрабіліся вельмі страшнымі, на галовах выраслі рогі, замест языкоў у іх з'явіліся вогненныя джалы. Іншыя анёлы, зірнуўшы на іх, спужаліся і адракліся ад іх, а яны засталіся. Раз яны змуцілі воды,ператварылі іх у балоты, дык ім і назначана жыць у іх. З той пары і да цяперашняга часу чорныя жывуць у балотах, месцах, якія яны самі стварылі. З цягам часу гэтым чорным сталі даваць розныя імёны чорт, д'ябал, шайтан, нячысцік і гэтак далей...

## 10. [ПАХОДЖАННЕ ГОР І БАЛОТ]

Дз'явал дабыў пяску са дна мора, а гасподзь з етага пяску прасцёр зямлю роўна-шырако, як кляновы ліст. Дз'явал (ён быў у вобразе лебедзя) утаіў у насу зямлі і панатварыў з тэй зямлі балот, трасін, гор.

— Зачым ты панадзелаў такіх гор? — спрасіў гасподзь у чорта.— Якаво-та чалавеку будзець падымацца на іх?

— Ах, госпадзі, ета і харашо, што трудна,— гаворыць чорт,— аб вас успомніць чалавек і мяне-та не забудзець... Вот, як ён будзець, задыхаючыся, на гару падымацца, скажаць:— Памагі, госпадзі! А як з гары станець спускацца, верна, і мяне ўспамянець:— Чорт мяне панёс на такую высату: тут галаву зламаць можна. Абаім нам будзець няплоха.

## 11. ЧАМУ ЧЭРЦІ У БАЛОТАХ ЖЫВУЦЬ

Быў адзін дужа прыткі а́нял на небе і не хацеў ужо бога слухаць, дык бог яго выкінуў з неба далоў за Анцыпара. Сядзеў гэты Анцыпар доўга адзін на зямлі, а пасля і просіць бога:

— Надта,— кажа,— мне аднаму нудна; змілуйся, зрабі мне таварыша другога!

Бог узяў атра́манту, пусціў капельку, дык і стаў другі чорт. Анцыпар замеціў, дзе бог паставіў атрамант той, украў яго ды давай пырскаць усюды — дык нарабіў цэлы мільён войска чортаў і павёў іх к богу на неба:

— Выхадзі,— кажа,— на пляц, будзем ваяваць. Цяпер каралеўства ужо мае́.

Бог стаіць сабе. Нешта здалёку загурчэла, бліснула. Анцыпар дзівіцца:

— Што гэта?

Бог кажа:

— Гэта маё войска ідзець.

Толькі сказаў,— гром і бліскавіцы як загрымелі, заблісталі, сталі перуны страляць — страх! Усё неба скалыхнулася, затраслося, дык чэрці і пападалі — куды каторы: хто ў балота, каторы ў ваду, каторы ў лес, каторы ў поле — куды папала. З тых пор там і сядзяць. Цяпер святы Ілля як увідзе дзе каторага і смáле яму перуном туды.

## 12. КАМЕ́НЕ

Даўней камéнё раслі вялікія, так, як хаты. Аднаго разу ішла матка найсвéнта і збіла пальцы аб камень, так заплакала, раўнé і кажа:

— Ах, дай божа, каб вы ўжо гэтакія не раслі!

Так ужо ад гэтае пары хаця растуць, але памалу і ўжо невялікія.

## 13. ЯК БОГ ПУСЦІЎ СЛОНКА У ХАТУ

Як свет пачаўся, людзі не ведалі, як хату станавіць, нарэшце паставілі якусьці хату; зноў не ведалі, што зрабіць, каб відно было. Так адна жонка ўсё носіць рэшатам слонка і пускае ў хату, а мужык мяшком.

Анножідзе чалавек, хоць бедны, а такі разумнейшы ад іх. Падышоў, даў пахвалёны і кажа:

— Што гэта вы, людзі, робіце?

Яны пачалі бедаваць:

— От паставілі хату да ніяк слонка не наносім, усё цёмна да цёмна.

Той чалавек кажа:

— Што вы мне дасце, то я вам упушчу слонка ў хату?

Яны кажуць:

— Што хочаш, тое дамо.

А не ведалі, што гэта быў сам бог. Так ён ім кажа:

— Я нічога ад вас не хачу, адно дайце слова, што кажон тыдзень прымеце жабрушчага чалавека, якога пакорміце і пазволіце пераначаваць.

Яны згадзіліся на тое. Тады бог ім вокна паўрэзваў і відно ў хаце стала.

## 14. [ПРА МЕСЯЦ]

Месяцу бог вялеў свяціць людзям уночы, покуль сонейка сапачывае. Толькі Месяц вельмі гультаяваты, ён кепска свеціць, затое бог вялеў, каб ён кожныя чатыры нядзелі перараджаўся. От затым ён адну нядзелю малады, другую расце аж да поўна, трэцюю поўны, а чацвёртую саўсім прападае.

## 15. [ПРА НАРАДЖЭННЕ МЕСЯЦА]

З паданняў пра нараджэнне Месяца найбольш запала ў памяць адно: бог, калі месяц састáрае, крышыць яго на зоры. Адзін кавалачак кладзе ў дзяжу, на закваску. Зоры ападаюць туды, з іх пачынае рабіцца рошчына, цеста падыходзіць і пераліваецца цераз край. Гэтак і нараджаецца Месяц.

## 16. МЕСЯЦ

Былі ў бацькі два сыны, два ўдалыя малайцы. Не захацелі яны жыць дома, займацца чорнаю мужыцкаю работаю, а пашлі ў свет шукаць лёгкага хлеба да харошае жыткі. Вышлі яны з дому разам, да й пашлі па адной дарозе, але хутка падышлі к растанцом. От большы й кажа:

— Чаго нам хадзіць разам. Разам мы знайдам толькі адно дабро, а як пойдам асобна, то можам трапіць два.

— Хадзем асобна,— кажа малодшы брат,— та хто што трапіць, што дабудзе, та тое будзе яго, тое зробіць яму славу.

Як сказалі яны, так і зрабілі. Большы пайшоў направа, а меншы — налева. Свет вялік. Доўга яны хадзілі, доўга шукалі шчасця; кожын па-свойму шукаў тое, што яму падабалася. Большы брат прышоў у чужое царства, наняўся там на службу к аднаму багатаму да знатнаму пану. А той пан ездзіў аж к самаму цару да й браў з сабою свайго вернага да лоўкага слугу. Пабачыў раз яго цар, спадабаў да й забраў к сабе. Жыве большы брат у цара пан-панам, усяго яму даволі, хіба ж птушачага малака не хапае. Жыве, ніякае бяды не знае.

Доўга хадзіў і малодшы брат па ўсяму свету, многа бачыў і добрага і ліхога, але ліхога больш, чым добрага. Яму не хацелася сядзець да спажываць тое дабро, якое ён меў, але яму хацелася ўсё бачыць, усё папробаваць, ці то салодкае, ці то горкае. От так ён хадзіў, як непрыкаяны, покуль патрапіў і сам туды, дзе быў большы брат. І пачаў ён там вучыць людзей, як на свеце жыць, каб усім

было добра, каб усе былі шчаслівыя. Пашлі аб ём гаварыць усе кругом, пачалі к яму збірацца людзі да слухаць яго разумныя рэчы. Дачуўся й большы брат, пашоў і ён пранюхаць, які-такі з'явіўся там мудрэц, што ён вучыць да бунтуе людзей. Прышоў ён, але не пазнаў брата, паслухаў яго да й данёс цару, што з'явіўся такі-сякі чалавек да й бунтуе людзей. Паверыў цар да і вялеў яго страціць. Захацеў большы брат падслужыцца цару, сабраў шайку царскіх слуг, пашоў да й забіў меншага брата сваімі рукамі. Але яму так стала страшна, што ён не ведаў, куды дзецца. От бяжыць ён аб ноч праз лес, зірне на Месяц, аж і той бяжыць, пераймае яго. Ён стане, дак і Месяц стане. Ён пабяжыць, дак і Месяц пабяжыць. Бег, бег ён, пакуль аж выбіўся з сілы да й упаў. Ляжыць ён да пазірае на Месяц. Прыгледзіцца ён, аж там і бачно, як брат забіў брата. Тагды ён дагадаўся, каго гэта забіў сваімі рукамі. Але тут і дух з яго выперла. От з тых часоў заўсюды відаць, што на Месяцы стаіць брат над забітым братам.

## 17. ЧАГО ПЯРУН

Гэта споруваў бог (Ілля) з нячысцікам:

— Я цябе,— ка́ець,— заб'ю!

— А як ты мяне заб'еш: я схаваюся.

— Куды?

— Пад чалавека.

— Я чалавека заб'ю, грэху яму адпушчу, а цябе заб'ю.

— А я пад каня.

— Я й каня заб'ю; чалавека на гэтым месцы нагараджу, а цябе заб'ю.

— А я пад карову схаваюся.

— Я й карову заб'ю; хазяіну на гэта места нагараджу, а цябе заб'ю.

— А я пад будынак.

— Я й будынак спалю, чалавека на гэтым месцы нагараджу, а цябе заб'ю.

— А я пад дзерава схаваюся: там ты мяне не заб'еш.

— Я дзерава разаб'ю і цябе заб'ю.

— Ну, я пад камень схаваюся.

— Я й камень разаб'ю і цябе заб'ю.

— Ну, дык я,— каець,— схаваюся ў ваду пад корч, пад калоду.

— Ну, там тваё места, там сабе будзь.

Дык гэта калі ўдарыць дзе пярун, дык гэта бог нячысціка б'ець. Ён, як находзіць хмара, здаецца ці сабакам, ці свіннёй, ці кошкаю — абы чым, дый хаваецца пад каго-небудзь. Тады там пярун б'ець.

## 18. ГРОМ ГРЫМІЦЬ — БОГ ПАРАЖАЕЦЬ ДЗ'ЯВАЛА СТРЭЛАМІ

Када гром грыміць ва ўрэмя гразы, то бог паражаець дз'явала стрэламі і не шчадзіць ён чалавека, калі ва ўрэмя гразы схаваецца ў яго сатана: уб'ець гасподзь такога чалавека...

Б'е гасподзь такіх (у каторых чорт схаваўся) і жывотных, паліць страéнія.

— Ні падаражу чалавекам — уб'ю яго.

## 19. [ПРА ГРОМ І МАЛАНКУ]

Гром і маланка бываюць тагды, як па небу едзе святы прарок Ілля. Ён так хутка ездзіць на сваіх колах, што тыя грукацяць, бы на мосце, як вязуць пустыя бочкі.

## 20. ВЕСЯЛУХА

Кажуць, што ваду на неба цягне з рэк і азёр весялуха. Вада там хмарамі разносіцца па ўсяму свету, прасяваецца праз абалакі, бы праз сіта, й падае на зямлю дажджом. Часамі абалакі прадзяруцца, тагды ліне дождж бы з вядра, а з ім разам падаюць і кускі абалакоў. Нашы дзяцюкі колькі раз самі находзілі после дажджу гэстыя абалакі. Яны саўсім пахожы на жабурэнне ці на квашаніну, от так і дрыжаць.

## 21. САТВАРЭННЕ ЧАЛАВЕКА

Думаець гасподзь: што ж я сатварыў неба і зямлю,— нужна сатварыць людзей.

Сатварыў бог Адама і атлучыўся, патаму што была недастаўка матэрыялу (для дальнейшага тварэння).

Баясь, што áггал асквярніць сатварэннага чалавека, гасподзь сатварыў абáку і прыставіў карауліць Адама:

— Ні пускай нікога к етаму чалавеку, пакеліча я не прыду.

З'яўляецца аггал:

— Пусці мяне, абак, к Адаму.

Абака грыміць.

— Пусці мяне, а то я цябе змарожу.

Дз'явал напусціў холада на абаку, а абака (ён быў галэй і дужа холаду баяўся) сагнуўся і стаў дрыжэць.

— Пусці мяне, табе шубу дам!

Абака дапусціў дз'явала к чалавеку, за то яго дз'явал шэрсцю пакрыў.

Ад таго-та, што абака божага павялення аслушаўся, яго ў цэркаў божую ні дапускаюць, а кошку (яна ў гэтым не павінна) запіраюць часценька ў цэркві мышэй лавіць.

З тых-та пор абака прызываецца ўж ні абака, а сабака.

А сатана ўдаліўся, толькі ахаркаў, апляваў, агáдзіў чалавека.

Прыходзіць гасподзь.

— Што, абака, саграшыў ты? Адкуль на табе такая шэрсць?

— Госпадзі, вінават я перад табою: смуціў мяне сатана.

Дз'явал случыўся па блізасці.

— Як ты смеў, дз'явал, чалавека змушчаць?

— Не ізвольце, госпадзі, беспакоіцца: [redacted] здзелаў харашо.

— Как так?

— Вазьміце скверну з етага чалавека і вывараціце яе ва ўнутр. Еслі ад унутранняй нечыстаты здзелаецца ў яго кашаль, то ён, кашляючы, перва на вас уздумаець і вас памянець:

Ах, госпадзі, какой кашаль!..— Ну, как плюнець, потым нагою разатрэць: — Пфу, нячыстая сіла ка мне прывязалась...

Як чорт пасаветаваў, так бог і здзелаў. Патаму чорт гаварыў:

— Еслі Адам будзець здароў, то на вас, госпадзі, і на мяне ён пазабудзець.

З тых пор у чалавека бываець кашаль.

## 22. [ПРА ЧАЛАВЕКА]

Перш у людзей уся шкура была, бы ў нас пазногці, ад гэтага ім не было холадна, але як людзі саграшылі, дак хутка тая спала, толькі засталіся адны пазногці.

## 23. ЧАМУ ЖОНКУ СВАЮ АДАМ НАЗВАЎ ЕВАЙ

Уж гасподзь прыдзелаў Адаму рай, і Адам ужо нескалькі ўрэмені прасіўся ў рай.

Адумаўся гасподзь, што ў яго адзін чалавек:

— Давай, выну ў Адама ва ўрэмя сна дзявятае рабро і сатвару із рабра яму жану.

Гасподзь палажыў сатвароную ім жэншчыну окала спяшчага Адама.

Адам працнуваецца:

— Е-во! Што такое значыць: лёг я адзін, а тапер ужо двое.

Гасподзь і не перамяніў назвоцця Адамавай жане — так і засталася яна Ева.

## 24. [АДКУЛЬ КАДЫК, АБО АДАМАЎ ЯБЛЫК, У ЧАЛАВЕКА]

Гасподзь павадзіў Адама і Еву па раю і ўказаў ім, каторыя вінаграды можна кушаць, а каторыя не.

Доўга Адам і Ева жылі ў раі сагласна, наканец, а́ггал падкасаўся к Еве і змусці́ў яе.

— Усе вы вінаграды кушайце, а етат вінаград за то, што ён самы харошы, гасподзь вам яго запрасціў.

Ева, па савету аггала, сарвала вінаград з непаказанага дрэва і Адаму дала.

Вінаград етат не ўдалося праглаціць настаяшча ні Адаму, ні Еве: ён так і застраў у іх горле костачкай, і з тых пор у чалавека ў горле і сядзіць ета костачка.

## 25. [ПРА ЛЮДЗЕЙ]

Сын астатняга слянога велікалюда забачыў, гаручы, нашага чалавека, так узяў на далонь з валамі і сахою, прынёс да бацька і пытае:

— Што гэта за чарвяк такі зямлю точыць?

А бацька яму сказаў:

— Наша ўжо пакаленне гіне, а гэта новыя людзі, што па нашай галаве застануцца.

## 26. [ПРА ВОЛАТАЎ]

Кажуць, што людзі перад намі такія былі вялізныя, што цяперашнія на́ат ім да калена не дасталі б. Кажуць, найглыбейшыя рэкі ім не глыбей як да калена былі. У іх галовы, кажуць, былі, як цабры, вялізныя.

## 27. АСІЛАК

Куды цяперашнія людзі — здрабнелі, асунуліся саўсім, бы камары. От старыя расказваюць, даўней людзі былі дужэй мядзведзя, да што я кажу мядзведзя, даўнейшых асілкаў мо ніхто не мог адалець. Даўней у людзей былі чортавы рэбра, бы абручы кругом, з таго была й такая сіла. Але ж, кажуць, калі б бог даў свінні рогі, та б яна й свет перавярнула. Так і тыя асілкі. Як пачуліся на сілу, дак давай барука́цца, давай рызыкаваць да гразіцца аж на самога бога. От за тое бог і адняў ад іх глузд, так што яны пачалі ілбамі разбіваць каменныя горы. Разгоніцца той асілак, бы баран, да як рэнецца ілбом аб камень, дак мазгі й пацякуць, а ён сам бурдык на

зямлю, патрапеча трохі нагамі да й дух вон. Так суздром перавяліся асілкі, толькі дзе-нідзе засталіся такія, у каторых было па аднаму або два рабра; засталіся такія, каторыя толькі трохі былі дужэй звыклых людзей. Яшчэ й цяпер трапляюцца такія асілкі, у каторых е цэлае чортава рабро. Тых асілкаў ніхто не пабора, бо яны не чуюцца ў сваёй сіле. Кажуць, тут недалёка быў такі асілак; так ён таўшчэзную калоду круціў у руках, бы палку. Я сам не бачыў, але людзі гаворацць, та, мабыць і праўда.

## 28. [ПРА АСІЛКАЎ]

Гэта цяпер людзі здрабнелі да сталі нядужыя, а даўней былі такія вялізарныя, бы дуб, да дужыя, што хацелі з богам дужацца. Дак за тое бог іх пакараў да й абярнуў у малых да кволых людзей, якія й цяпер жывуць. Толькі гады ў рады трапіцца сустрэць асілка, да й то хіба ж такога, у каторага е чортава рабро.

## 29. АСІЛКІ

Даўно, даўно, калі яшчэ людзі жывалі па лясах дрымучых, прыйшлі ў цяперашнюю Утужыцкую вобшчыну асілкі, і занялі яны два места: адно на рэчцы Вараўхе ў Забарышчах, а другое — на Іванхе пры той жа рэчке. У тых мястах у тое ўрэмя ніякага народу не було, мясты былі вольныя па ўсёй Жанвіль-Утужыцкай старане. У лясах той стараны жылі звяры ўсякія: мядзведзі, ваўкі, ласі, кабаны, лісіцы, рысі, а па рэкам і азярам жылі выдры; рыбы ў вадах было такое множаства, хоць палоўнікам чэрпай.

Асілкі тыя былі людзі здаровыя, росту ў касую сажань, у плячох аршыны з два, голас мелі, як звон немалы, бывала, калі крыкнецць ва ўвесь голас ды свіснецць, дык якое б дзерава не было бальшое, а зваліцца. Вот якія былі яны людзі, тыя асілкі. І жонкі іхнія былі па ім: бальшога росту, сільныя і раджалі кожны раз па два, па тры рабёнкі, адначы выкармлівалі, як другая цяпер і аднаго не выкарміць.

Хазяйства яны нікакога не садзержывалі, не было ў іх ніякай худобы, ні скацінкі дамашняй, ні прыпасу, ні запасу. Ні хлеба, ні лёну не сеялі. Карміліся яны тым, што лавілі па лясам звярэй ды па вадам рыбу. Адзежу сабе яны строілі з звярыных шкур. Вот так і жылі. Мусіць, пра бога яны саўсім не зналі, бо ніхто не чуў ад старыкоў, штоб яны мелі дзе-небудзь царкву алі папа. Асілкі, пажыўшы на раке Вараўхе, спадабалі Жанвіль-Утужыцкую старонку, бо тут ім усяго досыць было. Звяр'я па лясам було відзіма-нявідзіма і рыбы ў вадах тожа, а ім больша нічога і не трэбавалася.

Вот і задумалі яны тутацька абсяліцца і пачалі зразу строіць два гарадзішча — Забыркі і Іваніху. Народу тут было многа, шутка сказаць, кажынны год бабы прывадзілі па два ды па тры рабёнкі. Струменту ў іх пашці ніякага не было. Кажуць, што ў іх быў на ўсіх адзін тапор, ды і той не жалезны, а якісь медзяны, а, можа, і жалезны, пра гэта дзяды не сказывалі настаяшча, мусіць, запомнілі. Адно звесна, што асілкі не мелі струменту, а гарадзішчы строілі. Гарадзішчы гэтыя і цяпер ёсць на Вараўхе, вот січас ідзі і паглядзі. Не меўшы досыць струменту, асілкі перабрасывалі тапор з гарадзішча і на гарадзішча, бо не хацелі траціць часу на хаджэнне. Зыкнець, бывала, асілак з аднаго гарадзішча ў другое: тапор давай! Той возьмець тапор дый кінець яму. Такая была ў іх сіла, зато і празываліся асілкамі. Гэта яшчэ нішто — тапор перакінуць вярсты за тры, а то, бывала, нада на пастройку дзераво, пайдзець у лес, вырвець дзераво з карнём ды так і прэць на гарадзішча, а то камень прыдзецца прыставіць, дык ён возьме яго дый кінець за вярсту і больш прама на гарадзішча. Другія кідалі такія бальшушчыя камні, што будзець у паўсажня велічыною, але такія камні не ўсягды закідывалі да гарадзішча. А то ёсць такія мясціны, што саўсім закіданы камнямі. Дзяды казалі, што на гэтых самых мясцінах асілкі друг супроць дружкі ваявалі, кідаясь камнямі. Яны і звярэй убівалі камнямі, адтаго камні і ляжаць аж да сягоння па лясу. А далі, сказывалі старыя, што асілкі ўшлі адсюль, як толькі пераяліся ў лясах звяры і пазменшала рыбы ў вадзе, бо ім не з чаго стала жыць. З тых пор і гарадзішчы іхнія запусцелі, бо послі іх не скора прыйшлі сюды нашы дзяды, каторыя ababралі сабе другія мясціны, каторыя больш спасобны для хлебапашаства і для разводу скаціпкі.

## * 30. АСІЛКІ

У горадзе Веліжы ў даўнія часы жылі два браты асілкі. Але як загадала маці, якая адна толькі ведала пра іх сілу, яны не паказвалі яе ні перад гараджанамі, ні перад сваімі. Каб хоць зрэдку выпрабаваць сваю страшэнную сілу, яны ўначы ішлі да Дзвіны і, размясціўшыся на адным і другім беразе, перакідвалі адзін аднаму млынавыя жораны.

Адзін паўночнік, які пачуў незвычайны шум, падышоў да таго месца і быў настолькі здзіўлены ўсім, што там убачыў, што спалохаўся і незнарок ускрыкнуў. Асілкі заўважылі яго, нічога яму не зрабілі, а толькі вельмі прасілі пайсці адтуль і нікому не рассказваць пра тое, што ён бачыў. Паўночнік не стрымаў свайго слова, скора ўвесь горад даведаўся пра асілкаў, ад чаго адразу ўпала іх чарадзейная сіла.

## 31. ВЕЛІКАНЫ

Гэта цяпер людзі здрабнелі, даўней яны былі такія вялізазныя, што чуць-чуць не раўняліся з лесам. Кажуць, што яшчэ й нядаўна дзе-нідзе траплялiся такія веліканы, але гэта ўжэ толькі вырадкі да й то мо адзін на ўсю акругу, а перш усе людзі былі такія вялізазныя. Толькі кажуць, што яны не ведалі, куды дзець сваю сілу. Гэта яны папракопвалі рэкі, панасыпалі горкі да параскідалі ўсюды па свету вялізазнае каменне, якое й цяпер трапляецца дзе-нідзе на полі ці ў лесе. Яны, бáла, набяруць камення вялізазнага, бы валы, да як шыбануць, дак яны толькі ввуу!.. да й паляцяць угору так, што аж схаваюцца з аччу. А як пойдуць барукацца ці біцца да пачнуць рваць дуб'ё, дак аж зямля стогне. Яны павытоптаюць зéмею, так пааруць яе карчамі, што й да тых час на том месцы стаяць азёры да рэкі. Не было на зямлі нікога, хто б мог з імі памерацца сілаю. От яны вольна хадзілі сабе да сваволілі. Ведама, калі хто нікога не баіцца, калі над ім няма ніякага ўшчуну, то ён заўжды пачне дурэць, пачне рабіць ліха. Так і тыя багатыры пачалі губіць на зямлі ўсялякае жывёла й усялякую расліну, а ў неба шыбаць каменнем. От за тое бог збольшага загубіў іх, а рэштку абярнуў у звычайных людзей. Яшчэ да тых час находзяць косці тых веліканаў. Дак у іх пушка мізенага пальца чуць не кóсы сажэнь. От якія то былі веліканы.

## *32. [АСІЛКІ]

На курганах, што знаходзяцца паміж Студзянцом і сялом Касцюковічамі, каля ракі Мадуні, у чатырох вярстах адзін ад аднаго жылі такія моцныя магутныя асілкі, што маглі перакідваць адзін да другога стопудовыя камні і схопліваць іх на ляту, як мяч.

## 33. ЧАМУ МЫ НЕ ВЕДАЕМ, КАЛІ ПАМРЭМ

Даўней людзі ведалі той час, калі да іх смерць прыдзе, а цяпер, акромя бога, ніхто не ведае. Як гэта зрабілася? Шоў бог па дарозе і відзіць: гародзіць чалавек саломай плот.

— Чаму ты гародзіш саломай плот? — пытаецца бог у чалавека.

— Вядома чаму,— гавора чалавек,— вот скора памру, то зачым мне мацнейшы плот? Гэтага даволі будзе на мой век.

Вот бог і пазнаў, што нядобра тое, што ведае чалавек час, калі ён памрэ. Што ж? Кожны тыкеля сабе робіць, тыкеля на век свой, а на даўжэй і не хоча. Падумаў бог, падумаў,—нядобра гэтак! Нічога не будзе. Вот зачым бог і зрабіў, каб чалавек не ведаў, калі памрэ.

## 34. ЗАЧЫМ ЛЮДЗІ ПЕРАСТАЛІ ЗНАЦЬ АБ СВАЮ СМЕРЦЬ

Упярод людзі, бывала, ведалі, калі ўміраць будуць. Раз гэдак пазнаў чалавек, што скора памрэць. Выйшаў ён на вуліцу; калі паглядзіць — аж яго згародаваліцца. От ён узяў ды саломаю і прывязвае колікі. А тады ды шчэ бог хадзіў па зямлі з учанікамі. От ён стаў гэта колікі прывязваць, а бог і ідзець.

— Што гэта ты,— ка́ець,— чалавечак, саломаю звязваеш колікі? Ты ж ба ўзяў увіткамі звязаў.

— Ат, сколькі мне жыць! Я зараз уміраць буду. На мой век саломы хваціць; а хто будзець жыць после мяне, той тады і звяжаць.

Ну, бог тады ўсердзіўся і так даў, што не сталі людзі болі знаць, калі ўміраць будуць.

А той чалавек як стаў жыць, як стаў жыць, дык і згарода яго разваліласся, і новую паставіў — і тая развалілася.

## 35. ЗАЧЫМ ДЗЕЦІ, ЯК РОДЗЯЦЦА, НЕ ХОДЗЯЦЬ

З істары, бывала, ніхто не хадзіў, як родзіцца: ці сабака, ці кот, ці карова — ніхто. Носіць хазяйка цэлы год ды гадуець, як дзіцёнка. І патуль гэдак было, пакуль ужо стаў бог хадзіць з вучанікамі па зямлі.

Тады прышоў раз бог к хазяйцы. А яна на руках качаець цялёнка, ведама, ён не ходзіць. Жалка стала богу; ён і кажаць:

— Дай ты мне, што ў цябе родзіцца, я перакіну чара́з зярод, і яно будзець хадзіць, як толькі родзіцца: хто б сабе не быў — ці шчанёнак, ці парасёнак.

Баба тая падала тады богу парасёнка. Ён узяў і перакінуў яго чараз зярод. Парасёнак той і пабег. Тады яна дала яму жарабёнка. Ён перакінуў яго чараз зярод — і жарабёнак пабег. Дала яму цялёнка — і цялёнак пабег. І каго толькі ні давала — і шчанёнка, і кацянёнка, і ўсіх,— ён як толькі перакінець чараз зярод, так яно й пабяжыць. Перадавала яна гэдак усіх, хто толькі ёсць у хазяйстве. І быў у яе дзіцёнак малы ў хаце. Бог кажаць:

— Давай дзіцёнка. Я перакіну чараз зярод, ён тады, як родзіцца, будзець хадзіць.

А яна кажаць:

— А не, баюся. Ён заб'еццa.

І не дала.

Дык вот затым дзеці цяпер і не ходзяць, як родзяцца.

## 36. ЯК ЗВЯРЭ НАРАДЖЫВАЛІСЯ ПАМІЖЫ САБОЮ

Забраліся звярэ ў грамаду і гаварылі адны з другімі, чыё найсмашнейша мяса і кроў. Усяго каштавалі, а чалавечага не. Так яны надумаліся — у каго запытаць, аж здумалі, што камар п'е чалавечу кроў, то павінен ведаць, ці смашна. Паслалі па камара. Камар тылька напіўся чалавека і ляцеў сабе нізка, а ластаўка падляцела і гап! Ухапіла яго.

Так яны не дайшлі практыкі, а то, падобна, чалавеча кроў сладка, то каб даведаліся, то хваталіся б людзей есць, а так — то не.

## 37. АБ ПАХОДЖАННІ КАНЯ

Даўней, кажуць, баранаваў чалавек, а чорт прыйшоў, сеў на барану і чалавек не мог пацягнуць бараны. Тагды бог сказаў на чорта, штобы ён быў канём,— і чорт стаў канём, і з тых пор сталі на свеце коні.

## 38. ЧАМУ КОНЬ НІКОЛІ НЕ ПАД'ЕСЦЬ

Вядома, што вол пад'есць трохі і ляжа, а конь есць, есць і ніколі не пад'есць. А чаму гэта так бог даў? Таму, што калісьці, яшчэ як найсвенша панна хадзіла па свеце, то трэба ёй было перайсці праз ваду.

Яна ўперад прасіла каня:

— Перавязі мяне.

А конь кажа:

— Я яшчэ не пад'еў.

Тады яна да вала:

— Перавязі мяне, воліку, праз ваду.

Так волік:

— Сядай, зараз перавязу.

Яна села на яго, і ён перавёз яе на той бок. Но так за тое вол хутка под'есць і адпачывае, а конь есць дзень і ноч і не наесца...

## 39. АДКУЛЬ КАЗА

Бог усё саставіў: авец і кароў, і коней, і людзей. Усё, усё чыста, што здзелаець, дык божае ўсё жывое. А чорт здзелаў казу, ды не жывую, без духу, духу не ўпусціў. Дык ён яе паставіць, яна стаіць, не ідзець; папхнець — яна паваліцца. Бог глядзеў, глядзеў, ды падышоў, ды дунуў — і стала каза жывая, і пашла каза. А на чорта і цяпер паходжа: і рогі чарціныя, і барада, і вочы шклянэя.

## 40. АБ ПАХОДЖАННІ МЯДЗВЕДЗЯ

Здаўна бог хадзіў па зямлі, цяпер ужо не ходзіць. Ну, і захацелася мужыку з жонкай спужаць бога. Яны прыбяднелі, бедна жылі.

— А што ён ходзіць, нас нічым не надзяляець,— спужаем жа і мы яго.

І сталі думаць, як яго спужаць. Падлезем пад мост і замычам, а бог успудзіцца нас.

А бог сказаў:

— Калі ж вы так замычалі, то і будзеце век мычаць.

І абярнуў іх мядзведзямі. З таго і мядзведзі сталі.

## 41. АДКУЛЬ МЯДЗВЕДЗЬ

Мядзведзь быў чалавекам, як яшчэ бог хадзіў па зямлі. Хадзіў там бог гэдак старэнькім старычком, старцо́м. Вот другей старац увідзеў яго ды думаець: «Дай-ка я яго спужаю, каб ён не хадзіў тут па маёй акрузе». Ды ўзяў ды пад мост і падлез. На тэй дарозе мост быў. Толькі бог на мост, а старац:

— Э-гэ! — і зароў, пужаць стаў.

А бог кажаць:

— Будзеш жа ты раўці ўвесь свой век.

Так той старац і стаў мядзведзем, толькі ступні чалавечыя.

## 42. МЯДЗВЕДЗЬ

Ці ведаеце, скуль узяўся мядзведзь? Мядзведзь перш быў такі ж самы мужык, як і ўсе мы гарапашнікі. Даўно тое было. Людзей было мала. Гэта цяпер так народу намножылася, што чуць зямля іх паднімае. Каб не ўмерлі, та б неба падперлі. А даўней людзі жылі сям-там па лесе, лавілі звера, птушак, а ў азёрах да ў рэках — рыбу. Улетку збіралі ягады, грыбы або капалі карэнне й запа́сілі на зіму. Больш усяго запасілі арэхі й мёд. Пчол тагды было багацька. Яны самі вадзіліся ў дуплях і ў зямлі ў норах. Па лесе і цяпер яшчэ е пчолы ў дуплях. Іх называюць слепат. Людзі шукалі пчол у дуплях, і хто перщы знайшоў, таго й былі тые пчолы. Ён абвязваў тое дзерава, гдзе знайшоў пчолы і ўжэ ніхто не май права іх чапаць. Але быў адзін гультаяваты мужык. Яму не хацелася самому шукаць пчол, дак ён выдзіраў чужыя. Толька цяжка было яму ўзлазіць на дзерава. От і пачаў ён шукаць такога калдуна, каб так удзеяў, штоб лягчэй было лазіць на дзерава.

За сямю лясамі да сямю балатамі жыў такі калдун, што ўсё мог

рабіць. Пайшоў той чалавек к таму калдуну. Ідзе ён да йдзе лесам, бачыць — ліпа абвязана, думае — пчолы. Падышоў бліжэй, зірне, аж дуплé суздром нізка, а ў ём мёд. Выдраў ён тыя пчолы й пайшоў далей. Бачыць — другое дзерава абвязана. Выдраў ён і тыя пчолы. Падходзіць ён к зямлянцы таго калдуна. А калдуна няма дома. Глядзіць ён, аж тут жа пры самай зямлянцы ў дзераве пчолы. Давай гэта ён іх драць. Але ось ідзе калдун. Зірнуў калдун на таго чалавека да й кажа:

— Ну, з гэстае пары й ты, й твае дзеці, й усё тваё котла будзеце толькі пчол драць.

І абярнуў калдун таго чалавека ў мядзведзя. Так от адкуль узяўся мядзведзь.

## 43. МЯДЗВЕДЗЬ

Даўно тое было. Але, мабыць, і тагды людзі гаравалі, працавалі, каб зарабіць крыху хлеба да ўзгадаваць дзетак. Ведама, маркотна кожын дзень ад самых пеўнёў аж да змроку цягнуць яром, бы вол, што табе аж вочы выпірае. Зірнеш на божы свет, дак дакола так гожа: птушачкі весела паюць да радасна шчабечуць на зялёных ветках. Не трэ ім клапаціцца, каб у добрую пору паараць ці пасеяць; не трэ ім пасляшаць, каб за пагоду пажаць да звезці з поля збожжа; нічога не трэ, бо бог ім дае гатовы корм. А зірнеш, якая ў іх вопратка, што колькі ты ні гаруй, такое ты й праз сон не ўбачыш. Зірнеш на большых птахаў, як яны смела ўздымаюцца ў гору пад самае неба, к яснаму сонейку, да як яны кружацца да купаюцца ў паветры, дак так зробіцца зайздросна, так каля сэрца заўе, што от, здаецца, пакінуў бы сваю слімаза́рную гаспадарку да чорную хатку, падняўся б угору да й паляцеў бы над лесам зялёным, над жоўтымі горкамі, над цёмнымі вёскамі туды далёка — к яснаму сонейку, к дробненькім зорачкам, паляцеў бы к богу на скаргу, каб там горкімі слёзкамі выплакаць сваю ліхую долю, выплакаць тое гора, што гняце да точыць табе сэрца на зямлі цэлую жытку. Але бог крылаў не даў, а вялеў усю жытку лазіць у гразі чорным да цёмным і няма табе ніколі супачынку, няма радасці. От як палезе ў голаў думка, што мо шчаслівейшы ад цябе той камень, каторага таўкуць да перакідаюць на дарозе, дак кінеш дзела, кінеш думкі да й нап'ешся так, як мо ў небе не трапяць... І не дзіва, чаму наш брат-гарапашнік робіць, робіць, як чорны вол, клапаціцца, клапаціцца, а як ужо нельга больш вытрымаць, дак і лыкне жывое вады да й забудзе сваю горкую жытку.

От, кажуць, быў у нас такі адзін чалавек, што ён не меў налогу да гарэлкі і не любіў яе піць кожын дзень, а толькі прымаў тагды, як душа з цела вылазіла да праглася радасці да лепшага жыцця.

Ужо колькі раз ён чуць не засіліўся, хацеў прадаць чорту душу, каб толькі ён даў гарэлкі, але, мабыць, дрэнна была ў яго душа, калі за яе й сам чорт не захацеў даць кварту свае га́ры. Няма гарэлкі й няма за што купіць, дак ён валяецца, бы калода, да спіць, каб хаця прысніўся радасны сон, бо жытка гарэй ад пекла. Гэ спаў ён мо паўжыткі, аж бокі адлежаў. І кажуць яму людзі:

— Чаго ты валяешся, абібок, гэта ж ад людзей смех і ад бога грэх.

— За што ж мне грэх,— адказвае ён,— няхай таму грэх і смех, хто не дае мне гарэлкі, а без гэстае жывучкі я ні на што не гож.

— Да гэта ж ты апусціўся, бы мокрая курыца.

— Мабыць, так бог даў,— мыркнуў ён да й сунуўся зноў у бярлог.

— Дзецюкі,— кажа адзін чалавек,— давайце купімо яму гарэлкі, та мо ён сваімі штукамі й у нас крыху адгоніць плягу, а то от так каля сэрца і ўе, аж моташна.

— Добра,— кажуць тыя.

От яны злажыліся, прынеслі дзве пляшкі гарэлкі, далі таму чалавеку такі добра выпіць, а самі толькі душу падражнілі. Выпіў той мо [illegible] пляшку да й пачаў вычвараць розныя штукі. Але ось ідуць якіясь старцы. Пабачыў той п'яніца, апрануўся ў кажух, вывернуўшы яго ўверх шэрсцю, да й пабег пужаць тых убогіх. Але то былі не простыя старцы, а сам бог з анёламі. Зірнуў бог на таго чалавека да й абярнуў яго ў мядзведзя.

Пайшлі старцы далей, а ён папробаваў распрануцца, дак куды там — кажух і прырос. Сунуўся ён к людзям, але тыя спалохаліся да й пахаваліся, хто куды трапіў. От і пацёгся ён у лес да там і да тых час жыве. Улетку цягаецца да пужае людзей, а ўзімку спіць да ссе сваю лапу. От затым у мядзведзя чалавечыя ногі і ён вельмі любіць гарэлку да салодзенькі мядок.

## 44. [АБ ПАХОДЖАННІ ВАЎКА]

Бог сатварыў чалавека з гліны, а чорт сатварыў воўка,— і сталі [illegible] сабой заклада́цца. Бог гаворыць:

Маё лепша.

А нядобры гаворыць:

— Маё лепша.

Спіраюцца. А бог кажаць:

— Ты сам на сваю работу будзеш тукаць, а мая работа будзець усяму свету радасць. Вот толькі паглядзі на маю работу,— з яе ўвесь свет завядзецца, а вот адступі і глянь на сваю.

Нядобры адступіў, а воўк ускочыў і пабег, і вужакі за ім папаўзлі. Тады чорт адвярнуўся і крыкнуў:

— Гаму!

А бог і засмяяўся:

— А што,— гаворыць,— чы не казаў я, што ты і сам будзеш на сваю работу тукаць?

Ну, і век усе на воўка тукаюць...

## 45. ЯК ЧОРТ ЗРАБІЎ ВОЎКА

Па стварэнні света чорт зрабіў воўка з дзерава, але такога вялікага, як каня. Прынёс да бога і кажа:

— Ці добры будзе?

— Э, не, вялікі.

Чорт зноў стругаў, стругаў, зрабіў, як добра жарабя, і прынёс да бога, а бог кажа:

— Яшчэ вялікі.

Так ён зноў давай стругаць і выстругаў ужо якраз.

Прынёс да бога, бог кажа:

— Цяпер добры.

Так чорт крыкнуў:

— Кусі, воўча, бога!

А бог:

— Кусі, воўча, чорта!

Воўк сунуў да чорта, а чорт няма дзе. Тут, дзе быўшы, схапіўся на альшыну і раздзёрся.

Цяпер, от як здзярэш кару на альшыне, то дзерава чырвона, а гэта кроў чорта.

## 46. АДКУЛЬ ВАЎКІ

Гэта было так. Засталіся дробныя сіроты ад бацькі, ад маткі. Некаму было карміць іх, а ні даглядаць; нейдзе було ім падзецца. Тады бог зжаліўся над імі і здзелаў ваўкоў. А ўперадзі скот быў без пастухоў, самапасам хадзіў. Ну, ваўкі як сталі скот есці, шкоду дзелаць, людзі і давай наймаць пастухоў. І гэтых сірот нанялі. Сталі яны і сыты і адзеты. А ваўкі так і пашлі адгэтуль.

## 47. [САБАКА — НАЙЛЕПШЫ ПРЫЯЦЕЛЬ ЧАЛАВЕКА]

Сядзелі чалавек і чорт на полі. Была той час вялікая бура і гром. Чалавек кажа чорту:

— Адыдзіся ты адгэтуль, а то цябе заб'е.

Чорт адскочыўся. Зараз так — бах! — на тым месцы стрэліла.

— Добра,— сказаў чорт,— ты мяне ад смерці збавіў, прыдзі ж ты ка мне на гэта месца з тым, хто ў цябе ў доме найлепшы прыяцель — я табе нешта дам.

Прышоў чалавек дадому і думае: «Хто ж у мяне найлепшы прыяцель, як не жонка,— пайду з ёю».

Прыходзіць ён назаўтра на поле і лёг спаць, а жонка стала шукаць яго. Зараз прыляцеў чорт.

— Зарэж свайго мужыка,— гаворыць ён жонцы,— я табе дам многа грошай.

— Добра,— кажа жонка,— дай толькі мне нажа.

Чорт узяў некую трэску, зрабіў з яе нож і даў жонцы. Жонка падышла к мужыку і хацела ўжэ шаснуць яго па горле, адно ж чорт узяў і разбудзіў мужыка. Бачыць ён: стаіць жонка над ім з нажом. Дагадаўся мужык, што жонка хацела яго зарэзаць. А чорт яму пад тое і кажа:

— Бачыш, ты думаў, што жонка твой найлепшы прыяцель, а яна хацела дзеля грошай зарэзаць цябе, падзякуй мне, што я хаця ў пору пабудзіў цябе... Не, чалавеча, у цябе ў гаспадарстве ёсць лепшы прыяцель, як жонка.

На другі дзень мужык зноў прышоў на тое месца. Увязаўся за ім з дому сабака. Лёг мужык спаць. Зараз чорт стаў спускацца. Сабака як пачуў, дак зараз абцасам кінуўся на грудзі к гаспадару і пабудзіў яго. Устаў мужык, разгледзеўся — і цяпер толькі дагадаўся, што ў гаспадарстве ў яго найлепшы прыяцель — сабака. Тагды чорт аддаў мужыку ўсе тыя грошы, што даваў яго жонцы, і яны разышліся.

## 48. [ЧАМУ КОТ МЫЕЦЦА]

Ухапіў кот вараб'я. Да ўпярод стаў мыцца. Да той уцёк. Другі раз злавіў і кажа:

— Не, я ўпярод цябе з'ем, а тады памыюся.

Так зара кот паесць да мыецца.

## 49. МЫШ

Як Ной будаваў карабель, то чорт доўга з ім і з панам богам спрачаўся, што карабель затопіцца, а каб стала на яго, так намовіў сабе мышу, каб прагрызла дзірку ў караблі, і дакляраваў ёй, што зробіць яе вялікаю паняю за тое.

Як карабель пачаў плаваць на вадзе, мыш закралася і давай грызці дзірачку, а кот гэта прыглядзеў, да яе за горла. Але Ной угледзеў і адпрасіў у ката мышкі, каб не душыў, засадзіў яе ў за-

лезну клетачку і сказаў катку пільнаваць яе. А Ной дзеля таго не позволіў катку з'есці мышкі, бо дакляраваў богу ўсялякай рэчы па пары вытрымаці ў караблі.

Для таго-та на сягодняшні дзень кот мышы ненавідзіць, што хацела затапіць карабель.

## 50. [ПРА ПАХОДЖАННЕ БУСЛА]

Етае было тады, як бог хадзіў па зямлі. На зямлі развялася такая многасць гадаў, што не стала ад іх жыцця ні людзям, ні жывёле, і парашыў бог знішчыць іх, патапіўшы ў якойсьці бяздонніцы. Бог сабраў гадаў у торбу, завязаў яе, узваліў на плечы аднаму неразумнаму чалавеку і загадаў укінуць у паказанае месца. Як толькі чалавек рушыў з мейсца, то ўся сволач, якая была ў торбе, засквірлася, засіпела, засвістала, і ўзяло цікаўства, што ён такое прэць.

Чалавек развязаў торбу да і аслупянеў ад страху. Гады ж тым часам вылезлі з торбы і распаўзліся ізноў па зямлі. Бог не захацеў другі раз збіраць гэтую дрэнь, і ён накінуў на чалавека парожную торбу і загадаў збіраць у яе паўцякаўшых гадаў, дзеля гэтага ён дапасаваў цела неразумнага чалавека так, каб той мог даступіцца да гада на любым мейсцы. І ходзіць гэты пératвораны чалавек з накінутай паміж плеч торбай па лугах, палёх, балотах ды збірае гадаў, але да гэтай пары ніяк сабраць не можа, нягледзячы на тое што бог для дапамогі паслаў яму жонку і дзяцей. З прычыны сваёй крэўнасці з чалавекам гэты пераварацень не адыходзіць далёка ад людскіх сяліб і мала баіцца людзей.

## 51. ПАКАРАННЕ БУСЛА

Калі бог зрабіў жабаў, ящчарыцаў і вужоў, то злажыў іх у мяшок і даў яго трымаць бацяну, сказаўшы, каб ён туды не глядзеў.

Бацяна ўзяла цікавасць і ён расхіліў мяшок, каб паглядзець, што там ёсць. Як гэта ён расхіліў мяшок, так усе яшчарыцы, жабы і павыскаквалі. Прышоў гасподзь да як увідзеў, што бацян павыпушчаў усіх з меху, то ўзяў дубца і зачаў бацяна гасіць па заду, ад гэтага ў бацяна зад чорны, і казаў яму бог:

— Усю жысць хадзіць табе па балоту і збіраць тых жаб, што павыпушчаў.

## 52. БУСЕЛ

Уперад не было ні гадзюк, ні жаб, ніякага гэтага плюгаўства. От раз бог падазваў к сабе чалавека й даў яму завязаны гаршчочак.

— На,— кажа,— занясі гэты гаршчочак і ўкінь у мора; толькі, глядзі, не развязвай.

Прышоў чалавек да гасподы й пачаў збірацца ў дарогу: узлажыў чыстую белую сарочку, абуў новыя лапці й 'прануў чорную світу.

— Куды ты збіраешся? — пытае жонка.

— А ось,— кажа,— пасылае бог занесці гэты гаршчочак і ўкінуць у мора.

— А што ў ём такое?

— Не ведаю.

— Давай паглядзім.

— Бог вялеў не развязваць,— кажа чалавек.

Хочацца бабе паглядзець, што там такое ў гаршку. Ведама, баба вельмі цікава. Аж з шкуры пражэцца баба, хоча пагл!дзець у гаршчочак, але чалавек упёрся й не пазваляе. Ужэ сусім сабраўся ён у дарогу. Бачыць баба, што нічога не зробіць. Ужэ не так ёй хочацца ведаць, што ў гаршчэчку, як паставіць на сваём наперакор гаспадару.

— Ну й куды ты пойдзеш перад вечарам? Лепш пераначуй дома,— кажа яна гаспадару.

— Што там ноч, я не баюся,— кажа чалавек.— Уночы яшчэ лепш іці: не так горача.

Баба ў слёзы, давай галасіць да ўпікаць гаспадара, што ён яе не любіць, калі не хоча пераначаваць з ёю апошнюю ночку.

— Калі ж небудзь да ўсё ж будзе апошняя ноч,— кажа чалавек.

Куды тут! І слухаць не хоча ўпартая баба: галосіць аж разліваецца. Падумаў сабе чалавек, што ўсё роўна, калі ні занесці ў мора гаршчочак, і астаўся дома. Рада жонка, напрагла яна яечні, дастала гарэлкі,— частуе гаспадара, як госця. Наеўся, напіўся чалавек і лёг з жонкаю спаць.

Немаль усю ноч не дала баба заснуць,— ведама, маладая да здаровая маладзіца. Толькі ўжэ пеўні заспявалі, як ён звёў вочы, але ж затое як заснуў, дак як убіты. Спіць сабе, храпе чалавек на ўсе застаўкі, а жонка тым часам ціхенька ўстала да й развязала гаршчочак. Толькі яна яго адкрыла, а адтуль і выскачылі ўсялякія гадзюкі, яшчаркі й жабы. Спалохалася баба, нарабіла крыку. Прахапіўся чалавек да так босы, у белай сарочцы, толькі накінуўшы на плечы чорную світу, давай збіраць тую нечысць. Збіраў, збіраў,— нічога не зробіць. Але ось прыходзіць бог і кажа тым людзям:

— Вы выпусцілі гадаў, вы й збірайце іх.

І абярнуў бог тых людзей у буськоў. Ходзяць з тае пары па балоце босыя, з чырвонымі нагамі, у белых сарочках і чорных світах буські да й збіраюць усякую нечысь. Яны й стараюцца жыць бліжа к сваім братам — людзям, знаюць, што іх, як братоў, людзі не будуць біць. От адкуль узяліся буслы.

## *53. ЛЯСНЫЯ МАНАХІ

### [Адкуль чорныя буслы]

Гавораць, некалі яны таксама жылі побач з людзьмі — майстравалі сваё жытло на страсе хаты або хлява і кожную раніцу вясёлым клёкатам будзілі вясковых пастушкоў. Радаваліся такому суседству і дзеці, і старыя... А людзі кожную вясну сустракалі іх з далёкага выраю, як самых дарагіх і блізкіх.

Але, кажуць, у вёсцы аднойчы пасяліўся злы, нядобры чалавек. Яму было ўсё не так, усё не гэтак. Не мог цярпець ён і буслінага клёкату. Каб не чуць яго, палез на страху, паскідаў буслянят, і гняздо разбурыў.

Доўга кружылі ў той дзень птушкі над непрыветнай хатай. Потым паляцелі ў лясныя нетры, дзе не было ні вёскі, ні людзей, і заначавалі на высозным дубе. Калі ўзышло сонца, птушак было не пазнаць. Ад крыўды і несправядлівасці яны ажно пачарнелі.

Потым на тым дубе яны пабудавалі сабе новае гняздо.

А пазней у іх з'явіліся і бусляняты. Надзвычай даверлівыя і бялюткія... Але калі падраслі і даведаліся ад бацькоў пра тую вялікую крыўду, таксама апранулі жалобнае адзенне... Так і паляцелі яны, чорнымі, у далёкі вырай.

А вясною вярнуліся.

Толькі не ў вёску, а ў пушчу...

І хоць таго нядобрага чалавека даўно няма на свеце, птушкі ніяк не могуць забыцца пра сваю крыўду і кожны год стараной аблятаюць людскія паселішчы...

Праўда, іншы раз чорны бусел світанкам прылятае на нёманскі плёс, заходзіць па калені ў цёплую ваду і з тугою паглядае на стрэхі хат.

## *54. [ПОМСТА БУСЛОЎ]

Чалавеку, які разбурыў буслянку, прадказваюць: чакай бяды, будзе кара нябесная. І выпадае, кара прыходзіць. Знаходзіць бусел таго, хто пакрыўдзіў яго, і помсціць злосна, жорстка — то прынясе і кіне на дах галавешку, і схопіцца хата агнём, а то і спрытней яшчэ ўтворыць — гадзюку кіне ў калодзеж: піце слёзы мае...

## 55. ПРА ЗЯЗЮЛЮ

Быў брат бедны і сястра дужа багатая. Пайшоў брат да сястры, каб чым памагла, памілавала. А сястра скупая была, сказала, што ключы ад клеці згубіла. І стала яна нібы шукаць ключы, а брат стаяў, стаяў пад вакном, чакаў, чакаў і нарэшце не вытрымаў і пайшоў. На дарозе паваліўся, памёр ад голаду. Сястра адумалася, стала клікаць брата:

— Якуб, Якуб, вярніся, ключы знайшліся.

За сваю скупасць яна стала зязюляй і цяпер увесь час кліча:

— Якуб, Якуб!

Толькі чуваць:

— Ку-ку, ку-ку!

## 56. ЗЯЗЮЛЯ

Калісь жыў на свеце вельмі багаты пан. Быў у яго аканом Якуб, добры старык, са сваёй жонкай. Жылі яны вельмі добра і вясёла. Але гэта цягнулася нядоўга. Здарылася бяда: згубіў аканом ключы ад усіх дзвярэй, клеці і пуні. Разгневаўся пан на аканома. Спужаўся аканом і пабег у лес, дзе і павесіўся. Забедавала жонка, а тут яшчэ пан пачаў яе журыць. З таго году абярнулася жонка аканома ў зязюлю і да гэтага часу лётае па лесе і ўсё крычыць:

— Я-куб, Я-куб! Аддай ключы!

Або:

— Я-куб, вярніся, ключы знайшліся!

І няма ёй спакою, няма часу дзетак ані выседзець, ані выкарміць. Устае разам з сонейкам і кліча свайго Якуба або лічыць гады людскога жыцця. А прыляціць да каго-небудзь на плот пад вакно або ў сад на дрэва і закукуе а смерці гаспадару ці гаспадыні або дзеткам.

## 57. [АДКУЛЬ ЗЯЗЮЛЯ]

Сабраліся дзеўкі і пашлі купацца. Пакупаліся і выходзяць на бераг адзявацца. Адна пачынае адзявацца, аж у кашулі вуж сядзіць і пачынае гаварыць, як чалавек:

— Я табе аддам тваю кашулю, як ты скажаш, што будзеш маёй жонкаю.

Яна кажа:

— Буду.

Усе вярнуліся дадому, а яна ўжэ з ім пашла ў мора. Пашла яна з ім — жывуць да жывуць пяць лет разам. Нажыла яна з ім трое дзяцей. На шосты год просіцца яна сваго мужа, штоб пусціў ё к мацы. Ён не хацеў ё пусціць, бо ведаў, што як яна пойдзе, то

будуць пільнаваць, адкуль яна вышла. Но яна яго прасіла да й прасіла, так ён і згаласіўся, пазволіў, дай сказаў:

— Будзь там пяць дні, толькі не кажы нікаму, адкуль ты і няхай цябе ніхто не праводзіць. Як вернешся із берагу, так гукні: «Якуб!» І калі пакажацца кроў, то я не жыў, а калі пакажацца пена, то ■ жыў.

Пашла яна дадому з дзецьмі. Былі ёй усе рады і началі яе пытацца: адкуль яна. Да й яна не сказала.

Так яны ўзялі старшага хлопчыка і сталі прасіць яго, штоб сказаў, адкуль яны. Ён не сказаў. Да пачалі яго мучыць, да ён не сказаў. Узялі другога і сталі біць вельмі, штоб ён сказаў, да і той не сказаў. А найменша дзевачка сказала, павяла іх на той бераг марскі і наўчыла, як сказаць: «Якуб!» такім тонкім галаском. Клікнулі яны. Як пачуў вуж той голас, то вышаў на бераг і яны яго ўбілі.

Яна, тая жонка, нічога не знала пра яго. Узяла дзеці на пяты дзень на бераг. І стала гукаць: «Якуб!» На ета гуканне толькі кроў паказалася.

Заплакала яна да й зарыдала, да й скінулася зязюляю і паляцела па лесу гукаючы: «Якуб!» І цяпер яшчэ гукае. А сыны сталі: адзін бярозаю, другі хвояю, а дачка горкаю асінаю.

## * 58. [АДКУЛЬ ЗЯЗЮЛЯ]

Калісьці жыла на свеце багатая княгіня, у якой была прыгажуня-дачка. Чамусьці ўздумалася княгіні выдаць сваю дачку за нейкага старога. Доўга дачка працівілася волі маці: маліла, заклінала ўсім светам не аддаваць яе за старога, але калі ніякія просьбы не схілілі княгіню, вырашыла дачка, нарэшце, назначыць дзень шлюбу.

Назначаны дзень настаў; госці сабраліся, жаніх з'явіўся прыбраны; хапіліся — князёўны маладой няма. Маці пачала шукаць яе па ўсіх пакоях; нарэшце, пайшла ў сад, стала гукаць яе па імю, але князёўны не было, а ў адказ на поклічы княгіні ў садзе пачуўся толькі нейкі дзіўны смех. Тут княгіня разгневалася і ў злосці пракляла сваю дачку:

— Дык хавайся ж назаўсёды і адзывайся вечна смехам.

У той момант князеўна скінулася птушкаю і стала кукаваць...

## 59. ЧАМУ ЗЯЗЮЛЯ КУКУЕ

У аднае жонкі была дочка. Да ў тае дочкі быў чалавек, да ёго забілі. І дочка вельмі плакала па ём. А маці гаворыць:

— Не плач, дочка, на Пятро я табе куплю чалавека.

Да так от лётае зáра кожны год да Пятра і куе:
— Куп-лю, куп-лю, куп-лю...
Да ўсё ніяк не вубера.

## 60. ЗЯЗЮЛЯ І КУК

У птушак быў свой цар — Кук. Лятаў ён па лесе, разганяў ваўкоў і лісіц, змей — усіх, хто нападаў на птушынае царства. Аднойчы Кук не вярнуўся ў сваё гняздо. Зажурыліся ўсе лясныя птушкі:

— Хто ж нас цяпер абароніць?

Сталі раіцца. Што рабіць? Трэба ісці шукаць свайго заступніка. А хто пойдзе? У кожнага — справа: той гняздо ўе, той яечкі наседжвае, той дзяцей гадуе; адзін — стары, другі — малы... Рашылі яны адправіць зязюлю — у яе гнязда няма і дзяцей няма. Спалохалася зязюля, што трэба ісці ў вялікую дарогу, і знесла яечка.

— Куды ж я яго дзену? — гаворыць зязюля.

— Пакладзі сваё яечка ў любое гняздо! — адказалі ёй птушкі.

— А хто яго будзе выседжваць?

— Каму пакладзеш, той і глядзець будзе.

— А хто ж маё птушанятка гадаваць будзе?

— Хто будзе сваіх гадаваць, той і тваё дагледзіць.

І паляцела зязюля шукаць Кука.

Праляціць трохі, сядзе на галінку і кліча:

— Ку-ку!

Праляціць і зноў кліча.

## 61. [ЗЯЗЮЛЯ, САЛАВЕЙ І ЖАБА]

Быў бацька з жонкай, і быў у іх сын і дачка. Ну, дык ведзьма закляла яго бацьку: ён скінуўся змеем і пайшоў у лес. Яго звалі Якуб. А жонка стала ў яго прасіцца к братом схадзіць з дзецьмі. Ён каець:

— Ідзі сабе, а толькі дзе ж мне тады сачыць цябе?

— А я,— каець,— увайду ў лес і закукую,— ты й прыхадзі туды.

— Дабра,— каець.— Толькі ж ты глядзі: не кажы там нікому, дзе ты жывеш, за кім, хто я ёсь.

Ну, пашла яна к братом; тыя сталі ёй дужа рады, сталі частаваць яе. І сталі пытацца:

— Дзе ж ты, сястрыца, замужам? За кім ты? Хто ён такей?

Яна вазьмі, дура-баба, да й скажы. А дачка шчэ прыбавіла. Толькі сын маўчаў, нічога не казаў. Тады браты тэя ўчаставалі іх ладна.

— Ну,— каець,— пойдзем мы вас праваджаць.

Прышлі з ёю ў лес. Яна закукавала, ён і прыпоўз. Тады браты тэя ўзялі дый забілі яго. Ён перад смерцю і кажаць на яе:

— Будзеш жа ты ўвесь век свой кукаваць.— А на дочку: — А ты будзеш ёй падмагаць.— А на сына:— А ты як маўчаў, так і будзеш маўчаць.

Ну, дык яна скінулася зязюляю, а дачка — лягушкаю, а сын — салаўём. Дык яны й цяпер: яна ўсё гукаець мужыка: Якуб! Якуб! (ку-ку). А дочка ёй падмагаець: Няма! няма! (ква). А салавей усё маўчыць, толькі ночы пяець.

## 62. ЗЯЗЮЛЯ, СОКАЛ І ЛЮГАШКА

Жыў сабе адзін чалавек багаты, Якубам звалі. І была ў яго жонка, і дочка, і сынок. І дом у яго быў на памосце. Вот прышлі к яму разбойнікі ноччы, абкрадаць яго, бо ён быў дужа багаты. Прышлі разбойнікі,— ён тады пад памост схаваўся. А яна выскачыла ды на дзярэўню ўцякла, засталіся толькі дзеці, дочка й сын. Разбойнікі тады падышлі к сыну і давай у яго пытацца:

— Дзе твой бацька?

Ён маўчыць.

— Дзе бацька?

Маўчыць.

Ну, яны набілі яго і пашлі к дачцэ.

— Дзе бацька?

— А пад памостам ляжыць...

Яны памост разабралі, а ён там сядзіць. Ну, яны яго вынялі і забілі, а грошы пабралі.

Тады прышла матка з дзярэўні дый кажаць на сына:

— Сынок, мой галубок. Паляцім мы з табою ў барок, а яна пяхай увесь свой век сквярэцца, як ета кроў заскверлася на памосце.

І здзелалася яна шэрай зязюлей, а сын ясным сокалам і паляцелі ў лес; а яна, дачка, скінулась люгашкай і паскакала ў балота.

Дык матка стала кукаваць: ку-ку! ку-ку! Значыцца, завець Якуба, жалобу па ім носіць; а сокал усё маўчыць; а люгашка сквярэцца. Дык во і цяпер: пакуль зязюля не закукуець, люгашка не будзець сквярчаць.

## *63. ПРА СІВУЮ ЗЯЗЮЛЮ, ЛАСТАЎКУ І САЛАЎЯ

А было гэта так. Аднойчы пайшлі дзяўчаты купацца ў лясную рэчку. Выкупаліся, выйшлі на бераг і пачалі апранацца. Адна з дзяўчат пабегла да свае вопраткі і бачыць: на яе сукенцы аграмад-

5. Зак. 1230

ны вуж ляжыць. Схапіла яна гольку і давай яго адтуль зганяць. Вуж жа падняў галаў, паглядзеў на яе і людскою моваю кажа:

— Калі згодзішся выйсці за мяне замуж, дык аддам тваё адзенне.

Дзяўчына засмяялася і, не падумаўшы, згадзілася:

— Добра,— гаворыць,— выйду.

Пачуўшы гэта, вуж споўз з вопраткі і падаўся ў рэчку.

Апрануліся дзяўчаты, расчасалі косы, заспявалі вясёлую песню і пайшлі ў сваё сяло. Не спявалася толькі адной той дзяўчыне, нейкая трывога ў яе сэрца закралася. Прыйшла яна дамоў, села на лаве, абаперлася локцем на край стала ды задумалася. Заўважыла гэта маці і пытае:

— Што з табою, доню?

А дачка так і так, расказала ёй, што ля рэчкі здарылася.

Маці засмяялася ды кажа:

— Кінь сумаваць, яшчэ такога і на свеце не чуваць было, каб вуж жаніўся з дзяўчынаю.

Хоць дзяўчына крыху павесялела, але размова з вужом усё ж з думкі не сыходзіла.

Прайшло колькі часу, аж аднаго дня бачаць яны: у бок іхняй хаты паўзе аграмадная чарада вужоў, а наперадзе яе адзін самы найбольшы.

Прытулілася пабялеўшая ад жаху дзяўчына да матчыных грудзей, заплакала:

— Ой, матулю, гэта ж мой суджаны са сваёй вясельнаю дружынаю па мяне ідзе!..

Кінуліся яны абедзве ў хату ды дзверы — на засаўку.

Вужы абпаўзлі вакол хаты, але нідзе дзіркі ў хату не знайшоўшы, сабраліся ў гародчыку перад акном і нешта зашыпелі між сабою.

Раптам адзін з іх скруціўся ў пружыну, узвіўся ў паветра і ўсім целам па акне — трах! Пасыпаліся шыбы, павыляталі і рамы. Вужы ўпаўзлі цераз выбітае акно ў хату і забралі дзяўчыну.

Міналі дні і месяцы, праходзілі гады, а пра дзяўчыну і слух прапаў. Плакала маці, сумавалі родзічы. Але ж аднаго разу пайшла маці да крыніцы па ваду і бачыць: ідзе яе дачка з двума дзецьмі, хлопчыкам і дзяўчынкаю. Абрадаваліся яны, у абдымкі кінуліся, цалуюцца, плачуць. А калі ўжо нацешыліся, на сябе гледзячы, маці і пытае:

— Дзе твой муж, доню, дзе ж ты жывеш?

— Дома мой муж застаўся, матулю, а жывем мы ў вадзяным царстве.

— А ці хоць добры твой муж?

— Добры ён і ласкавы і дзяцей надта ж любіць.

— А як жа ты цяпер вернешся да яго?

— Зайду на бераг рэчкі і крыкну: «Восіп, выйдзі і вазьмі мяне!» Ён выплыве з вады і забярэ нас.

Пагаварылі яны, пагаварылі, дачка і кажа:

— Час ужо на нас, пойдзем дахаты.

Маці ж пачала прасіць:

— Век цябе не бачыла, пабаўся яшчэ хоць крыху.

І ўгаварыла дачку з дзецьмі пераначаваць. Калі тыя паснулі, узяла маці сякеру і пайшла на рэчку. Стала на беразе і крыкнула:

— Восіп, выйдзі і вазьмі мяне.

Ускалыхнулася вада і з яе вынырнула вужачая галава. Маці замахнулася сякераю і — цях! Забушавала рэчка, забурліла, а маці вярнулася дахаты, нічога не сказала ды лягла спаць.

Сабралася раніцаю дачка з дзецьмі да мужа вяртацца. Зайшла на бераг рэчкі ды бачыць: закрываўленая галава мужа на хвалі гойдаецца, а далей і ўсё яго мёртвае цела плавае. Заламала яна рукі, загаласіла, заплакалі дзеці.

— Жыць мне цяпер удованькай бяздольнаю,— прычытвала,— а вам, дзеткі, сіротанькамі бязроднымі.

Схілілася да рэчкі, далонню вады з мужавай крывёй пачарпнула, на сябе ды на дзяцей ёю пырснула. Абярнуліся яны ў птушак: маці ў шэрую зязюлю, дачка ў ластаўку, а сын у салаўя. Ад таго часу ластаўка і салавей штогод уюць сабе гнёзды і дзетак выводзяць, а шэрая зязюля сабе гняздзечка не ўе, вечнаю ўдавою па пушчы кружыць. А ў спевах іх няспынна гаротны сум па бацьку чуваць.

## * 64. ЧАМУ ВАРОНА КАРКАЕ

Даўным-даўно зязюля падклала сваё яйка ў вароніна гняздо. Усім вядома, што зязюля гнязда не ўе і яек не выседжвае.

Варона нічога не прыкмеціла і з мацярынскай клапатлівасцю сядзела на яйках.

Нарэшце лупінкі яек пачалі трэскацца і з іх паяўляліся галоўкі маленькіх варанятак.

Здзівілася варона, калі ўбачыла, што з аднаго яйка вылупілася асаблівае вараня. Яна радавалася, што нарадзіўся такі прыгожы сынок. Лепш і часцей карміла яна яго і называла панічыкам. Панічык рос і прыгажэў.

Аднойчы, калі панічык быў ужо вялікі, варона прынесла спажыву і пачала карміць дзяцей.

Панічык-зязюля кінуўся на варону-матку з кіпцюрамі і драпежнай дзюбай. Ледзь, бедненькая, вырвалася з яго кіпцюроў, задыхалася. Яна адляцела на суседнюю галінку і пачала галасіць: «Кат! Кат! Кат!»

З той пары і да гэтага часу варона не перастала каркаць.

## * 65. [ЧАМУ КРУМКАЧ ТАК РАНА ПЛОДЗІЦЦА]

...У нас дзецям кажуць, што крумкач затым так рана ўстае, што пайшоў з мурашкаю аб заклад, хто большую кучу за ноч наносіць, той будзе есці другога. Крумкач з крумкачыхаю насілі-насілі і на гняздо сабе не нанасілі. А мурашка, як склікала ўсіх сваіх сясцёр, дык за ноч муравейнік стаў. Дзеля таго крумкач стаў заранне гняздо закладаці, каб, пакуль мурашка прачнецца, можна было дзяцей пагадаваць, а то мурашка нападзе ды паесць іх...

## * 66. [ЧАМУ КРУМКАЧ РАНА ВЫВОДЗІЦЬ ПТУШАНЯТ]

...Мурашка і крумкач паспрачаліся аб нечым, і паколькі — якая ж у крумкача ці мурашкі маёмасць — абодва голыя, як бічы, то заклаліся на самае каштоўнае, на дзяцей. Крумкач прайграў. І вось вымушаны выводзіць дзяцей, пакуль мурашкі яшчэ спяць у сваіх гарадах. Сам мерзне, і дзеці мерзнуць...

## 67. КА́НЯ І САРОКА

Раз бог сказаў усім птушкам чысціць мора. Ну, яны ўсе сталі чысціць і вычысцілі. Толька сарока не чысціла. Тады, як вычысцілі мора, каня ўзяла дый абмылася. А сарока ўбачыла гэта, ды абдзелалася ў гразь, дый паляцела к богу.

— Божа, божа! Я чысціла мора, во я ўся ў гразі абдзелалася; а каня не чысціла мора,— во яна якая чысценькая ўся.

Тады бог кажаць на каню:

— Ну, калі ж ты не чысціла мора, дык ты і не пі вады з мора, а пі толькі ваду з каменя ды з лісту.

Дык вот яна цяпер, як доўга няма дажджа, лётаець і крычыць: піць! піць! Просіць у бога піць.

А после бог гэта дзела разабраў, што сарока яму салгала. Дык яна як была белая, дык стала рабая: тыя плямы на ёй асталіся, і цяпер ёсь, што яна ў гразь абдзелалась. Яна дужа хітрая птушка.

## 68. [ЧАМУ КА́НЯ УСЁ ПРОСІЦЬ ПІЦЬ]

Як сатварыў гасподзь бог наш свет, дык уся вада была ў вадном месцы. Вот і сабраў гасподзь усіх птушак і сказаў ім:

— Птушачкі мае, работнічкі мае! Сабярыцеся вы ўсе на ўсе і разнясіце вы ваду гэту дый па ўсяму свету, разаліце вы яе ў рэчкі

бягучыя, у азёры стаючыя, у крыніцы халодныя. І сабраліся ўсе птушкі і сталі насіць ваду. Насілі-насілі, пакуль усю разнасілі. Адна толькі ка́ня не паслухалася госпада бога, не насіла вады, за што і пракляў гасподзь каню, сказаў ёй так:

— Ты вады не насіла, не могіш і напіцца ні ў рэчкі бягучай, ні ў возеру стаючым, ні ў крыніцы халоднай і ждзі ты разве дажджу майго заліўнога.

І стала з тых пор прасіць каня піць — хачу піць, піць —і ждаць дажджу. Напіцца жа дык ні ў якой вадзе не можаць, а толькі як дожджідзець, дык яна разінець рот і зловіць каплі.

## 69. [АДКУЛЬ УЗЯЛІСЯ У НАС КНІГАЎКІ]

Раней, калі ішла вайна са шведамі, то шведы навязлі ў Расію кнігаўкаў. Пры сустрэчы з чалавекам кнігаўкі громка крычалі. Тады шведы ішлі на зоў птушак і забівалі людзей. І цяпер кнігаўкі, як убачаць людзей, громка крычаць.

## 70. СТРАЦІМ-ПЦІЦА

### [Як перавяліся лебедзі]

Бог ведаець, калі гэта было: строіў сабе Яной кальчэг,— як затопу бог насылаў. І прыказаў Яной сабраць у кальчэг усіх зяроў, усіх пціц, усякую скаціну. Ну, усе сабраліся, а лебедзь адзін — Страцім зваўся па іменню:

— Я,— каець,— не пайду ў кальчэг, я спраўлюся з вадой, усю ваду абплыву.

Багатыр сільны быў. Ну і паплыў. І плаваець.

Стала затопа. Некуда протчым пціцам дзявацца. А Страцім плаваець сабе. Вот тыя протчыя пціцы лятылі, лятылі, да ■ яму, ды на яго і панасядалі. Дык покуль садзіліся на спіну, дык нічога, ну, а то і на дзюбку сталі садзіцца — у яго дзюбка вялікая была. Ну, як панасядалі на дзюбку, ён носам у ваду — і затапіўся. З [тых] пор і равёўся.

## *71. [ЧАМУ ВЕРАБЕЙ СКАЧА АДРАЗУ ДЗВЮМА ЛАПКАМІ І ЧАМУ У САВЫ РОЗНАЕ ПЕР'Е]

Праштрафіўся верабей. Усе птушкі пагналіся за ім і загналі ў дупло. Але той быў такі хітры, што выбраў дзірку ў дупле якраз па сабе: большы за яго не ўлезе, а меншы калі ўлезе — ён яго вы-

кіне. Вырашылі браць яго, як моцную крэпасць, на змор. Чакалі-чакалі, аж настала ноч і ўсе захацелі спаць. Каго пакінуць на варце? Ясна каго, саву. Яна ўначы не спіць. А сава была ў той час голая, як абшчыпаная курыца. Ну, і паставіла сваю ўмову:

— Усе ў пер'ях, то чаго я маю голая хадзіць? Скідайцеся па перыйку. Ну, усе і скінуліся. Адзін шэрае пер'е даў, другі — рудае, трэці — белае ці карычневае. Стала сава, як і ўсе, толькі што пер'е дужа рознае. Сядзела яна ўсю ноч, сядзела. А раніцай птушкі заспалі, і яна, начная істота, пачала куняць. Верабей вылез і ўцёк... Урэшце яго ўсё ж спаймалі. І ў знак пакарання звязалі ногі. Вось ён цяпер і скача адразу дзвюма. А птушкі, як толькі ўбачаць саву, дык адразу кожная сваё пяро дзярэ з яе. З гвалтам:

— Аддай мае перыйкі, бо няма чаго было браць, калі ўсцерагчы не магла.

## 72. РАК

Бог тварыў сабе мір. Усе твары прышлі к яму і пакланіліся. Бог уставіў кожнай твары вочы, штоб усе паглядзелі на яго. Пасля ўсех прывоўкся рак.

— І дзе ж ты, рак-небарак, валачыўся дасюль? — спрашвае бог.

— Поркаўся тамака ў карчох,— атвячае рак і не кланяецца богу.

— Азьмі, рача, сабе во етыя вочы, якія тутака засталіся,— сказаў яму бог.

Рак пашчупаў сваімі клюшнямі тыя вочы да й кінуў іх пад ногі богу.

— Азьмі іх сабе, етыя паганыя вочы, і ўстаў куды хочаш, а мне такія вочы не трэба.

Рак горда сказаў і адвярнуўся ■ самому богу задам.

— Дак не мне ж етыя вочы трэба, паганы рак, а табе,— загрымеў бог і ўставіў раку вочы ў зад.

З тых пор ва ўсіх тварэй вочы як вочы, а ў рака вочы ззаду.

## 73. РАК

Як стварыў бог свет, так стварыў то сёе, то тое, а нарэсце ра́ка. Потым зрабіў бог для яго вочы, прынёс і кліча:

— Раку, раку, на табе очы!

Рак памацаў — не ўпадабаліся яму, так кажа да бога найвышшага:

— Такія брыдкія, уваткні ў ...

Так бог узяў і ваткнуў тыя очы, і ў рака па сягонняшні дзень очы сядзяць там, дзе ён сказаў.

## 74. ПЧАЛА

Бог даў людзям пчалу і сказаў, што яна будзе найлепшая казюлька для людзей, што яе ўсе будуць любіць і паважаць. Пчала ад радасці дужа зачванілася і кажа:

— Каго я ўкушу, той памрэць.

А бог тут зазначыў:

— Не! Не той памрэ, каго ты ўкусіш, а сама перастанеш жыць.

І вось цяпер усе пчалу любяць як найлепшую і найкарыснейшую казюльку. А яна, як толькі каго ўкусіць, зараз жа і ўміраець.

## 75. ПЧАЛА, ГОЛУБ

Пчала сярдзітая. Яна дазвалялася ў бога, што каб каго яна ўкусіць, каб той уміраў. Ну, а бог кажаць:

— Не, гэдак ты мне многа народу папорціш. А лепі ты, як укусіш, дык і памры.

Дык вот яна, як укусіць каго, дык кішкі вон, і памрэць.

На яе не можна казаць, як на скаціну: здохла, а трэба казаць: умéрла. Бы ў яе і ў голуба, і ў чалавека адзін дух. А на чалавека ж не кажуць — здох, а памёр, дык і на іх так трэба казаць...

## *76. ПРА ПЧОЛЫ

Стварыў бог чмялёў, а чорт пчол. Бачыць бог, што мала ў яго толку і прыбытку; рой увесь у яго разляціцца куды ні пападзі, дый мёду няма. Зайшоў ён да чорта паглядзець, што ў яго дзеецца. Той пакарміў яго мёдам. Спадабаўся богу мёд, і яму завідна стала.

— Будзем,— кажа ён чорту,— мяняцца.

Чорт, зразумела, не згадзіўся.

— Ну, дык добра,— кажа бог.— Бачу, што з табою нічога не зробіш, дык саступі мне хоць адну пчалу.

Падумаў, падумаў чорт, дый згадзіўся. Бог узяў ад чорта пчалу, дунуў на яе, і зрабілася яна маткаю. Запела матка, зазвінела і пачала ўздымацца ўверх. Пчолы ўсе ўзняліся за ёю да й паляцелі. Вось чорт і застаўся ні з чым, а ў бога — і мёд і воск.

## 77. ЯК БОГ ПЧОЛЫ ЗА АГАРСТВА ПАКАРАЎ

Кажуць, што даўней пчолы мелі найлепшы выхад са збожжа. Раз бог сабе ідзе, аж ляціць пчала з мёдам, так бог у яе пытае:

— Скажы ты мне, з чаго вам найлепшы выхад?

Так пчала думае сабе: пэўна бог хоча на мёд уняць,— пажджы ж, ні дурная і я! — дый кажа:

— З ліпы.

Так бог:

— Ну, калі з ліпы, то не хадзіце ніколі на збожжа; лепш я ад вас ведаю, з чаго найбольш мёду!

І на той час на збожжу ані пылінкі мёду няма.

## *78. [ШЭРШАНЬ]

Пчол спачатку бог стварыў адных карысных для чалавека. Чорту гэта стала зайздросна, і пачаў ён неадступна прасіць бога даць яму на карыстанне хоць некалькі такіх пчол.

Раззлаваны гэтай дзёрзкасцю чорта, бог схапіў цэлую траціну пчол і кінуў іх простра яму ў твар. Ад моцнага ўдару пчолы раптам зрабіліся вялікімі і разляцеліся ў розныя бакі, а ад датыкання да чортавага твару — чорнымі і набылі здольнасць больна кусацца.

І цяпер яшчэ шэршань перш, чым укусіць чалавека, стараецца ўдарыць яго ў твар.

## 79. [АДКУЛЬ МОШКІ, КАМАРЫ, АВАДЫ ДЫ ЎСЯЛЯКІ ГНЮС]

Мошкі, камары, авады ды ўсялякі гнюс ось як аб'явіліся на свеце. Як бог тварыў усялякае звяр'ё да птушак, та чорт стаяў здалёка да цікаваў. От бог узяў жменю пяску, кінуў яго на вецер да й кажа:

— Ляцеце ўсялякія птушкі.

І птушкі паляцелі й пачалі цыркаць да пець у паветры.

Пабачыў тое чорт да й захацеў сам зраўняцца з богам. От ён узяў жменю пяску, шыбануў яго ўгору да й кажа:

— Ляцеце.

А хто й забыў сказаць. А тут як сыпануць мошкі, камары, авады да ўсялякі гнюс, як нападуць на чорта да пачнуць яго рэзаць, дак ён круціўся-круціўся, бегаў-бегаў, а яны следам за ім роем. Бачыць ён, што няма чым іх суняць, разагнаўся да боўць у воду. Камары да мошкі туды да давай пілнаваць, покуль ён вылезе з вады. От затым і да тых час камары, мошкі да ўсялякі гнюс заўсюды снуе да ўецца над вадою.

## * 80. [ЧАМУ АВАДНІ ДЫ ЗДРОКІ Ў ДОЖДЖ НЕ ЛЯТАЮЦЬ]

Усё на свеце мае свой парадак. Як пачаў тварыць гаспод свет, то вось і бачыць, што ад здрокаў і авадоў не будзе жыцця ні людзям, ні жывёле, бо заядзяць усіх. Але раз што ўжо сатварыў, то нельга нішчыць, то гаспод і парашыў пакінуць, але каб даць перадышку і людзям і жывёле, парашыў адарваць ім галовы, а на іх месца прыставіць з гліны. Як пойдзе дождж ці робіцца сырасць, галава намакае і цягне ўніз, вось авады ды здракі й не лятуць, але як толькі пагода, галава высыхае, дык вось у пагоду і лезуць сляпіцаю.

## 81. [ГНЮС]

Кажуць, што бог даў чалавеку ў гаршчочку насенне ўсялякага гнюса, га́даў да тое плягі, што нас есь, да й вялеў укінуць у воду. Як чалавек нёс, дак чорт падмовіў яго развязаць гаршчок да паглядзець, што там такое. Чалавек развязаў, а адтуль папаўзла й паляцела ўсялякая пошкудзь. Хаць бог абярнуў таго чалавека ў бусла да вялеў яму збіраць га́даў да жаб, але ён ужэ нічога не парадзіў, бо гнюс і ўсялякая пошкудзь разышлася па ўсяму свету. От з тае пары чорт і камендуе гэстаю пошкуддзю да й пасылае яе на людзей да й на жыўёла.

## 82. ПАВУК, ХЛЕБНЫЯ КРОШКІ

Мужчына работаў на полі, ды выраніў крошку хлеба. А павуку вызначана ад бога глядзець за хлебам. Дык ён узяў гэту крошку хлеба ды на дзерава з ёю. Тады, як стаў вецер, ён і пусціў сваю павучыну. Вецер як панёс яе, і яго з ёй як панёс,— да во́балак а́жны. Крошка гэта падрасла ўжо і заплеснявела. Тады ён сеў на вобалака, ды на неба. Прышоў к богу, паказаець яму гэту крошку:

— Божа, божа, нашто ты даеш ім столькі хлеба, што яны не можуць паесці? Глумюцца з дара гасподняга, валяюць пад нагамі, усюдых.

— Ну,— каець бог,— я буду ім ме́ні даваць.

Дык вот, як ясі, не нада крошак кідаць, бо павук сабіраець і к богу на неба носіць. А бог ме́ні хлеба даець.

## 83. ЦАР РЫБАЎ

Даўней па лясох было многа звераў і птушак, а ў рэчках і азёрах — рыбы. Яны мелі і сваіх цароў, якія сцераглі іх ад паляўнічых і рыбакоў. Даўно-даўно рыбакі ўсяляк прабавалі ставіць сеткі, бучы ды крукі ў Дзвіну, але заўжды пуста было ў іхніх нератах.

Аднойчы недалёка да берагу Дзвіны, каля Юзыфова, гулялі вяселле. Госці былі вясёлыя, пялі і скакалі. На вяселлі быў і адзін рыбак-чараўнік, які ўбачыў, што разам з усімі танцуе нейкі вясёлы паніч з рыбным хвастом, але хвост бача толькі ён, чараўнік, другія не бачаць. Рыбак сцяміў, што гэта рыбны цар з Дзвіны. І шпарка выйшаў і апавясціў сваіх сяброў рыбакоў. Рыбакі пачалі лавіць рыбу і да раніцы нацягалі яе цэлыя горы, многа-многа пудоў. Калі ж з зоркай вярнуўся рыбны цар і ўсё ўбачыў, дык з вялікага жалю праз цэлы тыдзень гэтак плакаў, што ўся Дзвіна жалабна хвалявалася і стагнала. З тэй пары рыбнага цара ўжо ніколі не бачылі сярод людзей.

Гэткі ж цар уладарыў і ў Стронскім возеры, каля Дзвінску. Аднойчы рыбакі ў гэтым возеры праз дзень-ноч з мукамі злавілі маленькага ёршыка, дый з гора кінулі яго на агонь каля берагу. У возеры пачуўся голас, які чулі і рыбакі:

— Усе дома?!

Нейкі рыбар тоненькім галаском гукнуў:

— Няма толькі дохлага ёршыка!

Ёршык скочыў з вуголля — і ў возера. Рыбары толькі рукамі развялі на гэта дзіва.

## 84. ЯКУЮ ХЛЕБ РАДУ ДАЎ

Адзін чалавек хадзіў адно на паляванне і рыбы лавіў, так у яго ніколі хлеба не было. Аднаго разу ён сеў і бядуе, што хлеба няма, а хлеб кажа:

— Пакінь стрэльбу і вуду, то я ў цябе буду.

Так ён пакінуў і ад таго часу меў хлеба столькі, што не было дзе падзець.

## * 85. [АДКУЛЬ ЖЫТА]

Калі бог стварыў чалавека, дык доўгі час хлеба не было: людзі елі рознае карэнне. Кажуць, нават бульбы не было. Больш усіх галадалі сабакі. Таму яны, узняўшы свае морды ўверх, страшна завылі, просячы ў бога хлеба. Бог пачуў іх просьбу і кінуў ім з неба адзін жытні колас. Але сабак было вельмі многа, дык адзін колас не змог накарміць іх усіх, таму яны сталі яго адбіраць адзін ад аднаго і рваць у розныя бакі, пакуль нарэшце не разарвалі яго на шматкі і не патапталі нагамі. Адтаго зерне рассыпалася па зямлі і на другі год ад аднаго коласа пайшоў такі багаты ўраджай, што людзі намалацілі цэлую бочку жыта. І з таго часу сталі разводзіць хлеб — а ўсё па пачыну сабак.

## 86. [ЧАМУ ЖЫТА МАЛА РОДЗІЦЬ]

Як бог першы раз сваёю рукою засеяў жыта, то такое было хароша! Зярнята, як боб, каласы — то так, як сейрукі ў гаросе, ад самаго нашня ўверх раслі, а расло на салому высокае, аж у трубу вілося... Але як чорт прыдумаў з жыта гарэлку гнаць, то цяпер дзесятай долі такое не родзіць.

## * 87. [ЧАМУ ЧАЛАВЕК ШАНУЕ ХЛЕБ]

Быў час, калі на свеце нікога не было, апрача аднаго чалавека. У гэтага чалавека было многа ўсякага дабра, але найбольш хлеба. Кавалкі яго валяліся і па дварэ, і пад лаваю, і ў хляве, усюды. Убачыў бог такую непавагу да хлеба і адабраў яго ад людзей. Настаў голад, і людзі памерлі б усе. Але іх кот і сабака ў той час, калі бог адбіраў хлеб у чалаавека, падышлі да яго і пачалі прасіць хлеба. Бог і даў ім па каласку. Чалавек адабраў у іх гэтыя два каласкі і пачаў сеяць. Прайшло некалькі год і чалавек ізноў нажаў многа хлеба. Але з таго часу ён пачаў ужо шанаваць хлеб.

## 88. ПАХОДЖАННЕ ЯЧМЕНЯ І РАКА

Чорт здзелаў ячменя і здзелаў рака і не знаў, як назваць іх. Гасподзь ім імя даў — ячмень і рак — і сказаў:

— Ета будзець хрысціянскі пропіт, а табе, чорт, асот да лебяда, чортава яда.

## 89. [ПРА БЯРОЗУ І АСІНУ]

Бяроза і асіна — гэта няверная жонка і яе палюбоўнік. Жонка пры дапамозе палюбоўніка забіла мужа, за што бог у асобе жабрака-дзядулі замяніў яе ў бярозу, якая штовясну асокаю плача над сваім злачынствам. Палюбоўнік жа стаўся асінаю, якая ўвесь час трасецца са страху дрыжачаю ліствою.

## 90. [АД ЧАГО АЛЕШЫНА ЧЫРВОНАЯ]

Алешына ў нас ідзе толькі на дровы, а больш ні на вошта, бо гэтае дзерава заліта чортаваю кроўю. Ось як тое было. Пазавідаваў чорт богу, што на свеце ўсё так гожа сатворана, да й схацеў сам зрабіць яшчэ лепш. «Пагадзі,— думае сабе чорт,— які гэта сабака: малы, нядужы. От я зраблю большага, здаравеннага, да з такімі

зубамі, што яго ўсе будуць баяцца». Падумаў ён да й вылепіў з гліны воўка. Тым часам акурат на той час ішоў бог. Не пазнаў чорт бога, а думаў, што то просты чалавек, да й давай яго цкаваць да гуськаць:

— Кусі, кусі яго!

А гліняны воўк стаіць і не варухнецца, ведама, гліна. Азірнуўся бог да й цюкнуў на чорта:

— Кусі, воўча, чорта!

Толькі бог гэта прамовіў, як воўк рынуўся на чорта да й схапіў яго за лытку. Чорт туды, сюды,— не мажэ вырвацца ад воўка, бо той як хапіў за лытку, та немаль усю й вырваў. Льецца кроў, бы з вапрука, як яго заколюць. Скочыў чорт на адной назе да дзерава да й усхапіўся на яго. Сядзіць там чорт на галіне да пазірае на воўка, а кроў з нагі ліецца па ўсяму дзераву, аж яно стала чырвонае. А гэта была алешына. От затым яна й чырвоная.

## *91. ПЕРАЛЕТ-ТРАВА, АБО ЛЯТУЧАЕ ЗЕЛЛЕ

Расказваюць пра яе, што яна здольна пераносіцца з месца на месца, кветка яе з колераў вясёлкі, надзвычай жывая і прыгожая, а ў сваім начным палёце блішчыць, нібы зорка. Шчаслівы той, хто яе сарве, не пазнае гора ў сваім жыцці, усе яго жаданні збудуцца, гэта — зелле шчасця...

## 92. ЗЯЗЮЛЬЧЫНЫ СЛЁЗЫ

Ніхто з нас не памятае старажытных гадоў. А вось калісь, даўно, даўно, у нейкай старонцы, мо' гэта і ў нашай, жыў бедны-прабедны Максім. Меў ён хатку сякую-такую (хоць, праўду кажучы, вуглы яе падпіраў). Каня ці кароўку якую Максіму мецi бог не даў. На дзетак бог не скупіўся, знаць, моцна беднага любіў, хоць нядаўна той Максім ажаніўся, а ўжо пяць яму паслаў.

Была ў Максіма сястрычка багатая, але зайздросная і скупая. Усім на здзіўленне. Прыйшоў год неўраджаю, прапалі хлябы на палях Максімкі, хоць і ў працы старанны. Як хоць да зімы дажыць, пракалатацца. Настала зіма. Плача, енчыць галодная дзетвара, а стравы нават і лыжкі няма. І з думкаю: можа, сястра забудзе сваю скупасць ліхую для бедных галодных дзяцей — ён крочыць уперад жывей. Прыйшоў, перад харамамі сястры ён стаў. Сястрыца ў акно зірнула.

— Прапалі,— кажа,— ад клеці ключы, нат сабе хлеба не дасталі. Свабодна, шчаслiва ты сабе, Максімка, дамоў ідзі.

І ў тых пакоях нават агню не паліла, а Максім перад харамамі сястрыцы стаяў і ад холаду, голаду ды крыўды вялікай сканаў на тым месцы. На ранак сястра ў акно глядзіць і крычыць:

— Прачніся, Максімка, прачніся, знайшліся ключы!

Бяжыць і мёртвае яго цела калоціць і крычыць:

— Максімка, знайшліся ключы!

Але дарэмна нясліся жахлівыя крыкі сястры. У міг у зязюлю замянілася скупая сястра, адзін узмах крыллямі, другі, і над гумнамі парэяла яна.

З тых пор яна лётае над гняздзечкамі, сваіх не ўе і толькі сумна кукуе: ку-ку, ку-ку, а як прыслухацца к гэтаму кукаванню, то ў ім чутна:

— Прачніся, Максімка, прачніся, Максімка, знайшліся ключы!

Кукуе яна і слёзы льець, а дзе тыя слёзы на зямлю ўпадуць — там пышныя і прыгожыя кветкі цвітуць, і тыя кветкі зазюльчынымі слязьмі завуцца.

## 93. АДКУЛЬ ПАЙШЛІ ГРЫБЫ

Кажуць, што добры казляк лепш кепскага мяса. А ў пост і квас не квасам, калі ў ём няма казлякоў. Без казлякоў, ці, як кажуць, грыбоў, людзі не маглі б пасціць пятроўку. Мо затым у пятроўку больш усяго ядзяць грыбы, што яны й пашлі з таго, як святы Пятро ўкраў у Хрыста хлеб.

От як гэта было. Хадзіў Хрыстос з Пятром па зямлі да вучыў людзей, як жыць на свеце. Хадзілі яны ад вёскі да вёскі. Часам іх кармілі добрыя людзі, а часам паганыя й не прымалі. От гэтак адзін раз ішлі яны цераз вялікае поле. Доўга не было ніякае вёскі. Пятро любіў добра ўжываць, а тут у яго саўсім каля сэрца завіло, бо вельмі прагаладаўся. Было ў іх трохі хлеба. Пятро нёс яго ў торбачцы, за плячамі. Ідуць яны да йдуць: Хрыстос спераду, а Пятро ззаду. Кончылася поле, вайшлі яны ў лес. Не вытрымаў Пятро, ушчыпнуў крыху хлеба да й есь. Пазнаў Хрыстос, што робіць Пятро, да й пытае яго: што зрабіць людзям на патрэбу? Хацеў Пятро адказаць да не мажэ, бо повен рот набіў хлебам; от ён выплюнуў, а з таго й пашлі расці грыбы...

# ПРА ПАХОДЖАННЕ ПЛЯМЁН, НАРОДАЎ, КЛАСАЎ І РОЗНЫХ САЦЫЯЛЬНЫХ З'ЯЎ

## 94. [АДКУЛЬ ПАЙШЛІ БЕЛАРУСЫ]

Калісь яшчэ свет толькі зачынаўся, дык нічога нідзе не было. Усюды стаяла мёртвая вада, а пасярод вады тырчэў нібы камень, нібы што. Адзін раз пярун як разыграўся і давай пыляць стрэламі ў гэты камень. Ад яго стрэлаў выскачыла тры яскаркі: белая, жоўтая і чырвоная. Упалі тыя яскаркі на ваду; з гэтага ўся вада скаламуцілася, і свет памуціўся, як хмары. Але па некаторым часе, як усё высветлілася, дык і адзначылася — дзе вада, дзе зямля. А яшчэ па некаторым часе завялося і ўсякае жыццё і ў вадзе, і на зямлі. І лясы, і травы, і звяры, і рыбы, а пасля і чалавек завёўся: ці ён прыйшоў адкуль ці вырас тутака.

Па некаторым часе гэты жыхар стаў завадзіць свае чалавечыя парадкі. Ці доўга ён так жыў, ці мала, але меў ён ужо сваю сялібу, меў многа жонак, а яшчэ больш дзяцей. Было яму прозвішча Бай. А як прыйшла яго гадзіна смерці, дык ён склікаў сваіх сыноў і падзяліў усю сваю маёмасць. Толькі аднаго сына запамятаваў. Той у гэты час быў на палешні і з ім былі любімыя бацькавы сабакі Стаўры і Гаўры. Прозвішча гэтаму сыну было Белаполь.

Неўзабаве после смерці бацькі вярнуўся Белаполь з палешні. А браты яму кажуць:

— Вось бацька падзяліў нам усю сваю маёмасць, а табе ён адказаў сваіх сабак, ды яшчэ наказаў, каб ты іх пусціў па волі: аднаго — у правы бок, а другога — у левы; колькі яны зямлі аббягуць у дзень, дык гэтая ўся зямля твая будзе.

Вось пайшоў Белаполь і злавіў дзвюх птушак, прыляцеўшых адну з паўднёвага мора, другую з заходняга. Пусціў адну птушку на поўдзень, ды і кажыць аднэй сабацы:

— Бяры!

Пусціў другую на захад і кажа другой:

— Хапай!

Як паляцелі тыя птушкі: адна ў адзін бок, другая ў другі... Як пабеглі сабакі за птушкамі, дык ажно зямля закурылася... Як пайшлі тыя сабакі, дык і да гэтага часу не вярнуліся, а па іх слядах

дзве рэчкі працягнуліся, у адзін бок прайшла Дэвіна, а ў другі бок — Дняпро.

Вось у гэтых абшарах Белаполь і пачаў сяліцца ды завадзіць свае лады...

У гэтага Белаполя ад розных жонак яго развяліся розныя пляменпя пад прозвішчам Беларусы. Яны і да гэтага часу там ходзяць, зямельку скародзяць ды жыта сеюць.

## 95. ПАЛЕШУКІ І ПАЛЕВІКІ

Было ў бацька дванаццаць сыноў, да ўсе яны былі вельмі ўдалыя хлопцы. Жылі ў цёмным лесе, дзе вадзілася многа ўсялякага звяр'я, пасцілі сваё гаўяда да лавілі звярыну. Суседзі жылі далёка і рэдка рабілі ім шкоду, бо баяліся ўдалых хлопцаў, каб не нагрэлі ім па затылку. Жылі яны разам і слухалі старога бацька, а ён ужо сівенькі, бы лунь, сядзеў сабе ў кажушку і па лету да камандаваў. І быў у іх лад і ўсім было добра.

Яны ўсе пажаніліся, і было ў іх многа дзяцей, але ўсе слухалі старога і кожын рабіў сваё дзела. Толькі ось памёр стары бацька, і пачалі жанкі сварыцца паміж сабою, пачалі калаціцца да падбухторваць сваіх гаспадароў. І такая ў іх пайшла калатня, што й жыткі няма. Ведама, калі бабы чаго захочуць, то й сам чорт іх не пераставіць. А тут яны ў адзін голас крычаць: дзяліцца да дзяліцца. Пачалі браты дзяліцца. Калаціліся, калаціліся яны, пакуль дзялілі гаўяда да ўсё дабро, а як пайшлі дзяліць зямлю, дак так пачалі біцца, што чуць адзін другога не пазабівалі, да так і не падзялілі, можа, да тых часоў. Калоцяцца браты паміж сабою за зямлю, захватваюць чужыя дзялянкі і ніколі ў іх няма спакою.

Толькі два малодшыя браты жылі паміж сабою вельмі згодна: куды адзін, туды і другі. Не захацелі яны калаціцца з братамі; кінулі сваю бацькаўшчыну да й пайшлі ў свет шукаць сабе зямлі. От занялі да й пагналі яны свой статак, зрабілі з двух дубоў з карэннямі вялізныя сані, запраглі дванаццаць пар валоў, наклалі ўсялякага дабра да яшчэ пасадзілі жанок з дзецьмі да й паехалі па пяску. Працяглі трохі валы дый сталі, не могуць цягці сані па пяску. От больцы брат давай падкладваць упоперак пад палазы круглыя калодкі. Коцяцца калодкі, і сані паўзуць уперад. Надаела меншаму брату падкладваць калодкі пад палазы, от ён і кажа:

— Давай, братка, зробім такую прыладу, каб калодкі заўсёды круціліся пад палазамі,— да і зрабілі яны колы.

Лёгка пацяглі валы, так што яшчэ і яны самі селі на воз. Едуць яны да едуць і пад'язджаюць к вялікай рацэ. Шукалі яны, шукалі, нідзе не знайшлі плыткага месца, каб пераехаць уброд. А тут заха-

дзілася вялікая бура. Лес раве, бы звер. Вецер ломіць дзераўлякі, бы бабы кастрыцу, да й кідае на зямлю і ў рэку. Плыве па вадзе дзерава, бы плыты. Зірнуў на тое малодшы брат да й дагадаўся, як перабрацца цераз раку. От давай яны з братам лавіць на рацэ дзерава да звязваць яго разам, навязалі да й зрабілі плыт. От сунялася бура, падагналі яны той плыт шчыльна да берага ракі, запраглі валоў да й узвезлі воз на плыт. Стаяць яны на плыце да кіруюць доўгімі жэрдкамі, а плыт і сам плыве з вадою. Аднесла плыт далёка з вадою, але вось ён і прыстаў к другому берагу. Пабачыла гаўяда, што валы паплылі па рацэ, да й вышла на другі бок, кінулася яно ў ваду да й пераплыло цераз раку. Паехалі яны далей і забраліся ў такі лес, што й канца яму нямашака. Не могуць далей ехаць—лес мяшае. Пачалі яны церабіць дарогу да масціць грэблі. Але дзе там: чым далей, тым лес усё гусцее, а ў ім стаіць такая тхлань да нетра, што й выбрацца нельга. От і кажа большы брат:

— Астануся я тут, бо не магу выбрацца з лесу.

І астаўся ён сярод таго лесу. І назвалі яго і дзяцей яго палешукамі. Малодшы ж брат працярэбліваў дарогу, масціў грэблі да клаў кладкі і ехаў усё далей. Мо й да тых часоў на Палессі яшчэ ёсць тыя прасекі да грэблі, што нарабіў той чалавек. Не доўга яны ехалі на сваіх колах, як убачылі, што лес пачаў радзець, пачалі трапляцца прагаліны, палянкі ды палі, дак яны атаўбаваліся там і пачалі разрабляць поле, затым-то й назваліся яны палевікамі. Потым размножыліся як палешукі, так і палевікі, занялі пусты лес да й пачалі жыць адны каля другіх побач.

Праз немалы час у палешукоў і палевікоў развялося многа гаўяда, да й усялякага звяр'я ў іх лясах было больш, чым у тым месцы, дзе атаўбаваліся тыя дзесяць братоў. От яны пашкадавалі, што пусцілі сюды меншых братоў і што далі ім многа гаўяда, пашкадавалі да й уздумалі адабраць назад. Даведаліся палешукі і палевікі, што тыя падходзяць к ім з разбоем, нарабілі ў лесе завалаў да накапалі глыбокіх ямаў да й зацянілі іх мохам, а самі пахаваліся ў гушчэчы да й цікуюць, што будзе далей. Але вось падышлі тыя разбойнікі да й пачалі падаць у ямы, а ў іх была вада. Адны патапіліся, а другія заплуталіся ў засеках да й загінулі ў нетры без яды. От адагналі апошніх разбойнікаў палешукі й палевікі да й давай выхваляцца адны перад другімі. Палешукі кажуць, што гэта яны сваімі засекамі ў лесе загубілі разбойнікаў, а палевікі кажуць, што разбойнікі загінулі ў тых ямах, што палевікі выкапалі. Пашлі яны выхваляцца да спрачацца. Спрачаліся, спрачаліся — да за чубы, да за калы... І пайшла тут такая перапалка, што гарэй як ад разбойнікаў. Б'юцца палешукі з палевікамі, паляць вёскі, нішчаць дабро да парываюцца спрэсу загубіць адны другіх, гарэй як самыя лютыя ворагі. Доўга біліся яны, але не могуць адалець адны другіх,

толькі што далей, то ўсё больш і больш слабеюць як тыя, так і другія.

Дачуліся ворагі, што палешукі і палевікі калоцяцца паміж сабою, што яны не бароняць свае рубяжы, от яны зноў сабралі вялікае войска да й пашлі паліць вёскі да забіваць як палешукоў, так і палевікоў. Ачухаліся палешукі і палевікі, годзе калаціцца самі з сабою, давай біцца з ворагам. Біліся яны, біліся, мо ўжо палавіна іх палягло, а нічога не могуць зрабіць, бо ворагі лезуць усё новыя і новыя. Многа палягло і ворагаў у чыстым полі, многа заблудзілася ў лесе да ў балотах і там загінула ад голаду, ад холаду, ці патапілася ў гразі, але яшчэ многа засталося. Лезуць яны, як свінні ў агарод, лезуць да забіраюць палешукоў і палевікоў у палон, забіраюць іх зямлю, гаўяда і ўсё дабро, а старых і малых забіваюць ці травяць сабакамі. Забілі яны ў калодкі ўсіх палешукоў і палевікоў да й вялелі сабе служыць, Нічога не парадзіш.

Служаць палешукі і палевікі тым ворагам, бо не свая воля, служаць год, служаць два, а можа, і больш. Працуюць яны на ворагаў, бы чорны вол, і ніякае палёгкі не маюць, працуюць, гаруюць да праклінаюць сваю жытку. А ворагі пануюць да здзекуюцца з простых людзей, а тыя рады, што хоць засталіся жывымі. Бачаць паны, што простыя людзі змірыліся, от і скінулі з іх калодкі. Рады простыя людзі, дзякуюць богу і за тое. І пачалі яны працаваць на паноў так шчыра, як самі сабе. А панам тое толькі і трэба. Працуюць простыя людзі, а паны толькі камандуюць да падганяюць. І адучыліся паны ад усялякае работы, да так адучыліся, што без простых людзей не могуць і жыць, бы тая птушка, як яе выпусцяць з клеткі на волю. Бачаць тое простыя людзі да толькі смяюцца з паноў. Яны смяюцца, а паны хоць бы што, балююць сабе да яшчэ больш прыбаўляюць работы. «Бо яны,— кажа,— рагочуць, бы жарабцы, затым, што мала дзела».

Яшчэ гарэй стала людзям, і пачалі яны рабіць панам помсту: то свіран спаляць ці гумно, то кароў загоняць у такую тхлань, што яны там і пагінуць, то свіней патопяць, але ад таго і самі не маюць чаго есці, бо, ведама, жывуць па ардынар'і: пана чорт не бярэ—ён у суседа дастане, а людзі падыхаюць да пухнуць з голаду. Што тут рабіць, што парадзіць? Ні з якога боку нельга пазбавіцца ад тых паноў. Але вось прыходзіць туды якісь старэнькі дзядок дый кажа:

— Людзі, людзі, вас многа, а паноў жменя, і гэтая жменя здзекуецца да ездзіць у вас на карку. Ці гэта ж вы людзі, а не авечкі?

Пагаманіў ён гэтак у адным месцы да ў другім, от і схамянуліся людзі да й пачалі варушыцца. Знайшліся ўдалыя хлопцы, сабралі сабе шайку добрых малайцоў да й пашлі пярэсціць да мясіць тых паноў. Бачаць тыя, што гэта не пярэліўкі, да і пусціліся наўцекача: хто ў лес, а хто ў чужыя краі.

## * 96. КАСЦЯНЫЯ ІГОЛКІ

У ўрочышчы Корасці, дзе знаходзіцца так званы бальшы пуць каросценцаў, — убітыя ў балота сваі, — жыў калісьці народ вельмі дзікі, але міралюбівы. Жыллё іх было таксама на сваях, і толькі па дошках, якія на ноч хаваліся, гэты народ хадзіў у лес страляць дзічыну, звяроў, а на беразе лавілі бяброў. Суседзі ўжо не раз прыходзілі, каб паглядзець на прышлых і параіць ім пабудаваць жыллё на зямлі, але яны пры з'яўленні людзей хаваліся ў свае хаты і паспешна забіралі дошкі, якія служылі замест маста, і толькі адзін стары выходзіў насустрач гасцям з якім-небудзь гасцінцам, але будаваць жыллё так, як ім раілі, не згаджаўся.

Аднойчы ў аднаго з нашых людзей парвалася адзежа і ён не ведаў, што яму рабіць. У гэты час да іх падышоў стары, што жыў у хаце на сваях, сказаў, што гэта не бяда, і хуценька пайшоў у сваю хату. Праз нейкі час ён вярнуўся з дачкою, якая пачала зашываць адзежу, і вось тут нашы людзі здзівіліся: іголка, якою шыла дзяўчына, была касцяная. Прайшло некалькі часу і той чалавек, якому дзяўчына зашывала адзежу, прынёс ёй некалькі стальных іголак. Усе жыхары на сваях вельмі ўзрадаваліся і здзівіліся тым іголкам і абяцалі за іх звярыныя шкуры і прасілі яшчэ прынесці іголак. Дзякуючы гэтаму выпадку «свайнікі» здружыліся з суседзямі.

Праз некаторы час нашы людзі ноччу ўбачылі зарава над тым месцам, дзе жылі каросценцы. У пажары згарэлі ўсе свайныя хаты. Загінула жывёла, і людзі ледзь ураталіся. Пасля гэтага каросценцы пабудавалі сабе хаты на зямлі каля вялікай дарогі і сталі так жа жыць, як і нашы продкі.

## 97. ВЕКАВЕЧНАЯ МЯЖА

Жыў калісь у нашай зямлі князь Радар, які спярша кавалём быў, а пасля ж яго выбралі ў князі. А ў Ляцкай старане жыў кароль Лях, у якога быў змей Крагавей. Панадзіўся змей Крагавей у нашу старану хадзіць: прыдзе, людзей паядае, а што не з'есць — пабівае. Думаў-думаў Радар: што рабіць? І пачаў ён лемяшы каваць да дубы ламаць: здумаў грамадную саху зрабіць. Кожды лемех па пяцьсот пудоў, а паліцы са старога дуба, а вобжы з найбольшых сосен, якія былі ў пушчы. Зрабіўшы саху, занёс Радар у поле, палажыў яе пад лесам, а сам давай камяні цягаць ды вежу мураваць. Замураваўся ў каменнай вежы, запёрся на трое жалезных дзвярэй, а дружыну схаваў пры сабе. Прыбягае змей, а Радар яму:

— Стой, змей, не чапай людзей, а вось калі ты пралізнеш гэтых

трое дзвярэй, то я табе сам сяду на язык і ты мяне з'ясі, — тады рабі што хочаш у маёй старане.

— Добра, — кажа змей.

І ён раз лізнуў, другі раз лізнуў і пралізаў трое дзвярэй. Тады Радар цапель ды за язык кляшчамі, ды давай гваздзіць яго па галаве стопудовым молатам, а дружына чым барджэй упрагаць змея ў саху.

Змей вярцеўся, круціўся, а ўрэшце скарыўся:

— Давай,— кажа,— будзем мірыцца.

— Добра, — кажа Радар, — давай мірыцца. А каб нам назаўсёды ведаць, дзе чыё, то валачы саху, правядзем граніцу.

І вось аралі яны лес, аралі луг, аралі поле і дааараліся да вялікай ракі; тут Радар крыкнуў змею, кіруючы яго ў ваду:

— Гайда, бух! — значыць, каб ён скакаў у раку.

Змей скочыў з прыгорка, ледзь не ўтапіўся, але сахі пазбыўся: яна сарвалася з хамута і станула рагачамі ўверх. Рад змей, што жыў астаўся, пыліць, не азіраецца, аж дамоў, у нару пад гарой, дзе жыў князь Лях. Як убачыў свайго князя змей, то яшчэ ў стра́ху тым здалёк крычыць яму:

— Помні, Ляша, па Бух наша! — І як толькі дапаў сваёй нары, то і апрогся.

З гэтых часоў на векі вечныя тая разора, якую празвалі Бухам ці Бугам, сталася граніцай паміж нашым і ляшскім краем. А вежа, якую будаваў тады Радар, і дагэтуль стаіць у мясцовасці, Камянцом званай. Доўга і тыя жалезныя лемяхі тырчэлі з ракі і цяпер, кажуць, ляжаць там жа на дне.

## 98. АДКУЛЬ ТАТАРЫ НА БЕЛАРУСІ

Гаворань, кагда-та, сямсот лет больш таму назад, кагда ваяваў з Польшчай швед, тагда ён пабіў Польшчу крэпка, зайшоў аж у Чанстахоў.

Польскі кароль прасіў какога-та там хана, ён даў яму некалькі дзесяткаў тысяч помач.

Кагды разбіў шведаў, літоўскі кароль прасіў, каб асталіся татары. Але, паколькі не было жанчын, ім разрашылі жаніцца на тутэйшых: хто толькі не замужам, павінны былі пайсці. Таму мы і пацяралі свой язык.

Па закону мы — літоўскія татары... імелі права́... Літоўцы прымалі на розныя должнасці, і рускія.

Потым жаніліся толькі татары з татаркамі.

## 99. АДКУЛЬ ТАТАРЫ НА БЕЛАРУСІ

Гавораць, што была вайна, кароль польскі аставіў пленных татар... Дазволіў ім жаніцца, на кім хто хацеў... Вот жана і дзеці гавораць па-беларуску, а ён па-татарску — і пацяралі язык свой. А ўжо багумале́нне асталося на арабскім.

## 100. [ПЕРАСЯЛЕННЕ ТАТАР З КРЫМА]

Не раз даводзілася мне чуць ад дзеда, а той чуў яшчэ ад свайго дзеда гісторыю нашага перасялення з Крыма. Было гэта ў пачатку пятнаццатага стагоддзя... Літоўскі князь Вітаўт, не маючы іншых саюзнікаў, прапанаваў татарам выступіць супраць польскага караля.

На гэты раз да вялікай вайны не дайшло. Спалілі некалькі мястэчак, напалохалі каралеўскае войска, тым справы і скончыліся. Князь Вітаўт быў прызнаны гаспадаром — вялікім князем усёй Літвы. Ён папрасіў татарскага цемніка пасяліць коннікаў у мястэчках для вайсковай службы.

Татар жанілі з мясцовымі дзяўчатамі. З таго часу ў некаторых захаваліся двайныя прозвішчы, як, напрыклад, Бут-Гусаінаў. Плакалі красуні, не хацелі выходзіць замуж за «нехрышчоных татарскіх разбойнікаў». Ды воля князя была законам. Князь шчодра плаціў наёмнікам. Не шкадаваў золата, надзяляў зямлёй.

Спачатку татарскія коннікі спраўна неслі службу ў атрадах гвардыі князя. Па меры заняпаду Вялікага княства Літоўскага татары пачалі займацца гандлем і саматужніцтвам — выраблялі скуры. У гэтым яны былі выдатныя майстры. Вядома, рэлігія адмяжоўвала іх ад мясцовых людзей, і трымаліся яны адасоблена. Але час рабіў сваё, татары паступова асіміляваліся, страцілі сваю мову, набылі мясцовыя імёны. У касцёл або царкву, праўда, не пайшлі, маліліся ў мячэці, чыталі каран.

## 101. ЧОРТАЎ МОСТ

Даўней не так было, як цяпер: людзі жылі па сваіх гарадах ды па местах, і ў кожным месцы быў свой цар над сваім племенем, і празываліся тады людзі не то штоб рускімі, як цяпер, а кожнае племя па свайму месту празывалася. Вот і ў нашам баку над Свібельскім возерам жылі даўней два народы, адзін народ па гэтую старану, дзе цяпер Клюеўская воласць, і празываўся свевы, а па тую старану празываўся ліві, дзе цяпер цэрква ліўская ёсць. У тое ўрэмя возера ніяк не называлась, значыць, не было яму ніякага імя, апрача названня возера, і ўсё табе тут. У каждага народа быў

свой цар, і яны часта хадзілі друг на дружку вайною, бо блізка жылі адзін ад другога. Кажуць, што на тым месцы, дзе цяпер дзяраўня Пешыўка, быў свеўскі горад, і ў ём жыў іхні цар. Быў ён чалавек вумны, багаты і дужа сільны. Была ў яго жонка, кажуць, дужа прыгожая і празывалася яна Ягодай і спарадзіла яна дачку, ды такую прыгожую, што ў тышчу раз прыгажэйшую за сябе, а сама з тых радоў і памерла. Цар дужа гараваў, плакаў, убіваўся, хацеў другую жонку ўзяць, але больш не нашоў такой прыгожай і застаўся ўдаўцом, гадуе ды мілуе сваю дачку, каторую ён і людзі празвалі Рожай. Расла, гадавалася Рожа пры ўсякім удавольствіі і вырасла на здзіўленне ўсяму свету, бо была так прыгожа, як і пышна, як васход соўнышка, белаліца, як сняжынка, а вочы гарэлі, як звёзды нябесныя. І душа-та ейная была ад усіх людзей адменная, бо бацьку свайго яна шанавала, паважала, народ свой любіла, як сваю душу, усякаму, хто што прасіў, аддавала, пра сябе забываючы; случыцца няшчасце якое, яна і саветам, і дзелам запаможыць, бо ка ўсяму была ахці вумная, такая вумная, што другой такой тады і на свеце не было. І бацька ейны, свеўскі цар, дужа яе пачытаў і заўсягды з ёй савет дзяржаў.

Ад жаніхоў ёй не адбіцца было. Сваталі яе і свае і суседнія жаніхі, прысылалі сватоў к ёй з далёкіх старон — царскія і княжаскія сыны, дажа аж з-за мора прыязджалі сватацца, ды яна ні за каго не хацела выходзіць, бо ніхто яшчэ па сэрцу не прыходзіўся; адзін толькі ліўскі цар не прысватаўся к ёй, бо ніколі не відзеў яе. Вот яка была свеўская царэўна.

Адзін раз захацелася ёй па возеру пагуляць, села яна ў лодку з дзявіцамі і паехала па Свібельскім астравам, на каторых у тое даўнейшае ўрэмя, да яно і цяпер ёсць, дужа многа расло смароды і краснай і чорнай, значыць, што б ягадкамі ім, дзявіцам, пабалавацца да на вольным сяту пагуляць, паразвіцца, а можа дзе к месту пакупацца ў чыстай вадзіцы. Вот плывуць з вострава на востраў, гаворац, смяюцца, звестна, як і ўсягды цешуцца на волі дзяўчаты, а таго не відзяць, што на небе чорная туча паднялася з іх роднага берага. Паднялася тая туча ды як пусціць па возеру вецер у ліўскую старану; падняліся валы барашкамі, падхвацілі лодку з дзявіцамі, панеслі з шумам яе, кідаюць іх з стараны ў старану, заліваюць дзявіц брызгамі белымі, а дождж зверху стаў мачыць. А ну! Прапаў і смех і жарты, перапужаліся ўсе дзявіцы, крычаць гвалту, адна толькі царэўна сядзіць ды ўсміхаецца, угаварвае таварак сваіх заспакоіцца, а сама тым часам не гуляець, правіць як след быць рулём, ды з такой сілай, што гож бы і добраму моладцу ў чэсць. Адначы ж доўга лі, коротка лі, а так дык і прыбіла іх к самому берагу ліўскаму.

Увідзеў іх сам цар ліўскі, ён аб ту пору рыбу лавіў у берага, бо

яе валамі ўсягда выбіваець з возера ў бераг. Хацеў ён паэваць народ свой, штоб забраць дзевак у палон, ды як зірнуў на царэўну, дык аж самлеў і ні з места, стаіць разінуўшы рот і вачэй не спушчаець з яе, а яна на яго глядзіць дый думаець, а вот якей гэта парынь прыгожы, здаровы, магушчы, кроў з малаком. А нада сказаць, што ліўскі народ быў бальшога росту, чарнявы, з доўгімі курчавымі валасамі, ліцом прыгожы, адэежу насіў белую, а паршні красныя, шапку чорную, вайлаковую, з заткнутым пяром ад цаплі. А далі яна і кажаць яму:

— Хто ты есь, чалавек?

А ён маўчыць, не можа слова сказаць, захаланулася ягонае сэрца ад радасці, што ўвідзеў такую прыгожую дзявіцу. Паждаўшы троху, яна зноў давай пытаць у яго, а сама тым часам глядзіць яму ў вочы з ласкаю і ўсміхаецца, бы сваім сэрцам яна адразу згадала, што дужа спадабалася яму. Ад ласкавых слоў да ад усмешкі ейны свет яму змяніўся і прышоў ён да памяці і кажа ёй:

— Я цар ліўскага народу Ліграй, хачу забраць вас, дзевак, у палон.— А сам смяецца і не ведае, што рабіць, падае ёй рыбу:

— На, вазьмі,— кажаць,— свежанькая, сейчас толькі паймаў.

Яна ўзяла тую рыбу, дый кажаць яму:

— Што ж ты не пытаешся, хто я такая ёсь і аткуль тутака праявілася?

— Не нада,— кажаць,— здагадваюся. Ты, мусіць, свеўская царэўна Рожа, з падружкамі гуляеш, пра цябе я ўжо даўно чуў, што ты вумніца, харошая, прыгожая, да, прызнацца, не думаў, што такая есь. Застаніся,— кажаць,— тутака, будзь мне жаной разлюбезнай.

— Не, не можна,— адказала яна,— нада перш у таткі спытацца, калі ён дасць пазваленне, дык са ўсей душой рада за цябе пайсці, бо ты мне прышоўся па сэрцу з першага ўзгляду.

Пакуль тое ды сёе, хмара перашла, вецер сціх і зноў соўнышка зачало свяціць і грэць. Папрашчалася царэўна з ліўскім царом і, вярнуўшыся дамоў, усё расказала свайму роднаму татку. Зачала яна прасіць у яго дазвалення выйсці замуж за цара Ліграя, патаму, кажыць, што ён мне спадабаўся, а другое, што і табе будзець харашо мець суседняга цара заместа роднага сына. Цар на гэта і нішто. І рад бы, кажаць, бо і ў запраўду нам гэта з рукі прыходзіцца, але цяпер ніяк няможна, патаму што пакуль ты гуляла на возеры, прыбыў к нам якісь рыцар нямецкі, празываецца ён Ліхдзеем, прывёз з сабою якісь непанятны народ з пікамі ды з мушкетамі і прывёз на канях многа золата і серабра, самацветных камней усякіх, просіць, штоб выдаў цябе замуж за яго, а калі, кажыць, не аддаш дачкі, то я ў палон цябе з народам з тваім забяру, а дачку ўсё роўна вазьму. Ні з кожы, ні з рожы ён мне не нравіцца, ды к таму ж, мабыць,

ён ні хращчоны. Вот сама паглядзі, якой ён ёсь. І павёў цар яе да пакою, дзе знаходзіўся тым часам рыцар Ліхдзей.

Паглядзела царэўна на Ліхдзея і ўжахнулася: доўгі, худы, тонкі, як шчэпіна, ногі быццам з палак выструганы, абцянуты вузкімі штанамі з пугаўкамі і абуты ў жоўтыя чаравікі з бліскучымі пражкамі; надзета на ём нешта такое куцае, а зверху пакрыта ні то хусткай, ні то лоскутам якім; каля шыі пушчаны белыя кругі, адзін на адзін паложаны, як бліны, з краёў зморшчаны. Мабыць, [redacted] той прычыны, што шыя дужа длінная, як у цаплі, з ліца рыжы, морда вузкая, бародка схожая з казлінаю, вусы пушчаны стрэлкамі. Языком лапочыць, вачамі так і шныркаець па ўсім вуглам, а голас скрыпіць, як не мазаны калёсы. Народ ягоны такой жа, як ён. Як увідзеў ён царэўну Рожу, дык і закруціўся каля яе, як чорт перад завутраней, давай к ёй пад'язджаць. Падарункі ёй суець у рукі, языком так і лапочыць, лапочыць невесць што, суліць і то, і сёе, а сам у вочы не глянець, мусіць, чыстыя дзявочыя глаза яму страшны былі.

Паглядзела, паглядзела на яго царэўна і, слова не сказаўшы, пашла да свайго пакою і татку з сабою ўзяла.

— Ну,— кажаць,— гэтат чалавек пагубіць і мяне і цябе, [redacted] ім нада таргавацца. За ўсё ягонае золата і самацветныя каменні не аддавай ты яму мяне, бо будзець ліха і мне, і табе. Калі б ліўскі цар знаў ды ведаў, што прышло нам такое ліха, дык ён прышоў бы на памогу к нам, ды дзе, далёка яму з-за возера, другое б было дзела, калі б ён меў столькі лодак, штоб пераплыць возера сваім народам, але перайсці праз мост, калі б ён быў. Але што ж? Не прападаць жа нам. Ці ведаеш, што нада зрабіць? Скажы ты Ліхдзею, што даўно маещ абіду на ліўскага цара і пакуль за тую абіду яму не адплаціш, ні аб чым думаць не можаш. І скажы ты яму, што калі ён за адну ноч пастроіць каменны мост праз возера, дык аддасі яму мяне ў жоны, а не, так пусць убіраецца, бо, скажы яму, што ён не што, як толькі хвастун. Смела кажы яму так, бо я маю надзею на памогу і ў тым і ў другім разе на ліўскага цара.

Сказаў свеўскі цар Ліхдзею, як навучыла яго дачка, штоб ён пастроіў у адну ноч мост праз усё возера, а без таго, кажыць яму, дачкі табе не аддам, як тут сабе хочаш.

Паморшчыўся Ліхдзей. Цар ужо думаў, слава табе госпадзі, адвяжацца. Ну, дзе тут пастроіць мост праз возера, ды яшчэ ў адну ноч? Аж не, Ліхдзей адказаў:

— Трудную то трудную ты мне задаў работу, ды я не баюся, суполню табе яе з прыўдавольсцвіем, ніхто гэтакага дзела на ўсім свеце не можыць справіць, а я спраўлю, патаму што [redacted] сільны чалавек і ўсё магу зрабіць.

І пашоў языком лапатаць, хвастацца ды хваліцца.

Так ды сяк і дзень прайшоў, настала ночанька, а з ёй прышла і трудная рабоцінька рыцару Ліхдзею.

Падняўся па возеру гул, гоман ад нясметнага чысла галасоў, быццам з цэлага свету сабраліся сюды людзі на ігрышча,—крычаць, рагочуць, смяюцца, свішчуць і невесць што лапочуць. Па возеру нібыта вецер ходзіць, такей падняўся шум, якога не бываець і восенню ў ветраныя дні. Вада так і плескаецца, плескаецца, валы пайшлі па возеру, а кругом яго ўсё ціха; ні вятрынкі, ні шалясцінкі, чутно толькі, што на возеры бултыхаецца вада, стукаюць камні адзін аб другей, бразкаець жалеза, быццам ні бог весць сколькі тут народу сабраўшыся, вайну правяць, альбо што ящчэ.

Ад гэтага шуму, гулу ды лязгу прабудзіўся свеўскі цар. Прабудзіўся дый думаець,— авой ліханька, што ж гэта значыла, кругом ціха, а на возеры людзі пасабраліся? Ды як уздумаў, што можа ліўскі цар, праведаўшы, што ён дачку сваю абяшчаў аддаць рыцару Ліхдзею, плывець па возеру к яму з вайною, так пералякаўся, што насілу сыскаў свае боты. Як-ніяк сабраўся, выскачыў з хаты і пабег на возера даглядзецца, што там такое дзеецца. Прыбег к берагу — глядзіць, людзей не відаць, а шум, гул, рагатанне, лязганне, бултыханне страсць якое. Ён прыщчурыўся ды як прыглядзеўся харашэнька, дык і ўвідзеў, што па воздуху самі лятаюць камні і кідаюцца ў возера і ўжо зазначыўся каменны мост, большы як на тры чэцверці праз усё возера.

Не пужліў быў свеўскі цар, умеў пастаяць за сябе на вайне ў чыстым полі, нікога з урагоў сваіх ніколі не баяўся, а тут так ужахнуўся, што і ножанькі крэпкія падагнуліся, і ручанькі сільныя затрасліся і не двігаецца. Дагадаўся свеўскі цар, яка-та гэта работа і з кім ён маець дзела. Калі ящчэ прыбавілася такей мукі, не вярнуцца б яму дамоў. Але на яго шчасце раптам пятух запяяў, рукі пачулі сваю сілу і ён першым дзелам перахрысціўся. У гэтую самую мінуту з бальшущчым гулам прыляцеў і з трэскам шмякнуўся агромны, сажні ў два, калі не большы, камень, блізёханька ад яго; цар адшатнуўся і чуць-чуць на нагах устаяў, бо зямля кругом закалыхалася, вада ад берага адкацілася, і лес ад ветра зашумеў. З гэтым усё і на возеры і кругом сціхла, быццам і не было нічога. Паглядзеў цар на возера — стаіць як шкло: рыба ў ім гуляець па спакою, свежым вецярком чуць-чуць пахнула яму ў ліцо, кругом стаяць лясы, быццам заснулі, ніякага шуму — стаіць чорнай сцяной, упіраясь у сіняе далёкае неба, а ў небе ціхія, ясныя звёздушкі гараць так роўна ды спакойна, як царэўніны глазкі. І ўспомніў тут цар пра дочку сваю і скарэй, скарэй пабег дамоў, бо баяўся, штоб Ліхдзей яе не ўкраў. Паглядзеў, аж дачка спіць з падружкамі спакойна. Паблагадарыўшы госпада бога за ўспамажэнне, і ён прылёг аддыхнуць з большага пераляку.

На утра вышаў цар з дачкою з народам на возера і глазам сваім не верацъ, дзівуюцца, адкуль з камення пастроен чуць-чуць не праз усё возера, вярсты на паўтары, кажысь, выцягнуўся мост. І калі б яшчэ трошкі, упёрся б у іхны бераг, а на берагу, процiў маста, ляжыць камень з небальшую гару, а перш яго тут ніколі не было. Рыцар жа Ліхдзей з сваім войскам прапаў, як у ваду кануў, скрозь зямлю праваліўся. І не стала аб ём ні слуху, ні духу.

Памаліліся свеўляне госпаду богу, што ён ратаваў іх з такой незвычайнай бяды, і прыняліся ў спакойнасці жыць па-прэжняму, толькі царэўна рада была, што цяпер можна будзець праз мост к лівам хадзіць. Аднойчы ліўлянам гэта не спадабалася, бо яны думалі, што свеўляне нарочна пастроілі мост, штоб хадзіць на іх старану, пакідалі сваё гарадзішча і ўшлі к сіняму мору, там яны абабралі сабе месца, заселі на ём, панастроілі сабе дамоў і назвалі сваё новае гарадзішча Лівоніяй.

Царэўна як перша рада была з маста, так после, як ушлі к мору ліўяне, глядзець на яго не магла. Паглядзіць, бывала, паглядзіць на мост ды за возера, ды як ударыцца ў слёзы, што аж сэрца захаланецца, глядзя на яе, як яна заліваецца дзень з ноччу. І з ліца быццам змянілася, пахудзела, і вочы не светлыя сталі, як перш былі. Падружкі сколькі не ўцяшалі яе, нічога не маглі зрабіць, бо яна ім не гаварыла пра сваю любоў к ліўскаму цару, не гаварыла і таго, што ліўскі цар нарочна ўшоў к сіняму мору, штоб не ваяваць з яёным бацюшкай, свеўскім царом. Зналі пра гэта толькі яна сама ды цар, яе бацюшка. Кажуць, што блізка з год прайшло з таго часу, як ліўяне ўшлі к мору, а царэўна ўсё плакала да гаравала і ні на какіх жаніхоў глядзець не хацела, а іх сваталася к ёй цьмацьмушчая, і бацька хацеў за некаторых аддаваць, ды яна ўперлася і не выхадзіла, хоць ужо і надзею страціла ўвідзець калі-небудзь свайго мілага Лігрыя, бо пра яго і слуху ніякага больш не было, як толькі тое, што ён з сваім народам ушоў к мору. Прашла восень і зіма, наступіла вясна другога году, а царэўна наша, Рожа, усё плачыць і гаруець.

Пашла гэта яна адзін раз з падружкамі на ліўскую старану паглядзець на тыя мяста, дзе жыў-быў яе мілы цар Лігрый, мусіць, ёй хацелася сваю душаньку адвесці, успамінаючы пра яго, як відзела першы і паследні раз у сваёй жызні. Прышлі яны на тое самае места, куды хмарай прыгнала іхную ў той раз лодку, глядзь, аж на том самым месцы цар Лігрый цягнець сетку.

Увідзеў ён царэўну Рожу, кінуў сетку ды к ёй і падскачыў, а яна так і кінулася яму на шыю, як раненая галубка. І рады ж былі. Было тутка ўсяго: і плакалі, і смяяліся, і цалаваліся, і расказвалі адзін другому кажды пра сваё жыццё, пра сваё гаротніцтва, толькі не слухалі, перабівалі адзін другога, яны, мусіць, без слоў зналі

ўсё адзін пра другога. Пасярод смеху ўспомнілі пра сетку, кінуліся разам к ёй, сталі цягнуць, а ў сетку так многа panaлезла рыбы, што і выцягнуць цяжка. З смехам ды з жартамі пры помачы падружак выцягнулі сетку, абабралі рыбу, і павяла царэўна Рожа цара Лігарая к сабе ў госці.

Бальшое было вяселле ў свеўскага цара, нядзелі з тры, пакуль свадзьбу піравалі. Як ужо пажаніўся Лігрaй на царэўне Рожы, то ён аддаў свайму цесцю, свеўскаму цару і яго народу ліўскую старану, патаму што яна была ўжо яму ні к чаму, а к таму жа не чужому аддаў, а свайму. З таго часу свеўскі цар даў імя таму возеру Свеўліў, штоб паказаць, што два царства зліліся ў адно на векі вечныя. Цяпер гэта самае возера людзі называюць разно: адны завуць яго Свібло, другія — Свеўло, а іныі — Свейліўскім, а настаяшчае яго імя толькі садзержываем мы, ляўшчэўцы, патаму нашы прэдкі тут жывалі спакон самага веку, і луччы, як усякі, знаем пра ўсё гэта па прада́нню ад нашых дзядоў. Можа каторы з нас з царскага роду праісходзіць, але толькі пра гэтае ніхто нічога не знаець, зато і не абідна.

Як жылі Лігрaй з Рожай у Лівоніі, што каля сіняга мора, нічога не звестна. Мусіць, харашо жылі, патаму што калі б худа, то павярнулі б на старыцу і дзяды пра гэта расказвалі бы, а то не, нічога пра іх больш не сказывалі.

## 102. [АДКУЛЬ СЯЛЯНЕ І ПАНЫ]

Бог вылепіў пана з пшанічнага цеста, а мужыка з гліны, да паклаўшы, штоб сохлі, пашоў абедаць, а пад той час, дзе ён узяўся, прышоў сабака, просты мужыцкі падваротнік, панюхаў мужыка..., шкрабануў усімі лапамі, ды, дабраўшыся да пана, чыста яго з'еў. Толькі стаў аблізвацца, калі вось прыходзіць бог, ды як пабачыць, што зрабілася, то, ухапіўшы сабаку за хвост, давай трусіць, а з сабакі сыплюцца паны і бягуць куды від, а дзе каторы астановіцца, так бог яго і называе. Астанавіўся пад бярозаю — пан Беразоўскі, пад дубам — пан Дубінскі, пад ольхаю — пад Альховіч, пад гарою — пан Падгурскі, а як каторы ачнуўся за балотам або за ракою, то пан Заблоцкі і пан Зажэцкі...

## 103. [АДКУЛЬ СЯЛЯНЕ І ПАНЫ]

Бог першага чалавека вылепіў з гліны, да расставіўшы пад плотам, штоб сох, сам кудысь пайшоў; тагды прыбег чорт, да з тае гліны, што асталася, вылепіў такога самюсенькага другога чалавека, да й кажа сам да сябе:

— Як жа я пазнаю, калі бог ажывіць абодвух, каторы яго, а каторы мой? Трэба неяк свайго назначыць.

Зірнуў ён кругом, ці няма якое ламакі, ды не знайшоў нічога, а тут чуе, што бог падходзіць, дык барджэй плюнуў сваёй ляплёнцы ў лоб дый пабег. Бог прышоў ажыўляць, ды бачыць, што стаяць дзве ляплёнкі, як адна, нача дзве краплі вады.

— Хіба ж, — кажа, — я дзве вылепіў? Здаецца, адну... А мо і дзве? Не прыпомню.

Узяў дый ажывіў абедзве, а як яны заварушыліся, то з божае выйшаў хадзяін-пахар, а з чортавае—нейкае благароддзе ў казённай шапцы, з кругленькаю бляшкаю, акурат на тым месцы, дзе чорт плюнуў. Тагды хадзяіну бог сказаў:

— Ідзі да гасподы!

А благароддзю, узяўшы за шыварат, даў каленам... Нача выгнаў, не даўшы ніякага спосабу.

## 104. АБ СТВАРЭННІ МУЖЫКА І ПАНА

Бог стварыў мужыка з гліны, а пана з цеста. Сабака, які круціўся ў час гэтай работы, рассмакаваўся ў цесце і з'еў пана. Заўважыў гэта бог, страшна разгневаўся ды пачаў трэсці сабаку, з якога пачалі сыпацца на ўвесь свет паны. Пан, які ўпаў пад дубам, назваўся Дубінскім, пад вольхаю — Альхоўскім, пад бярозаю — Беразоўскім і г. д.

## 105. АДКУЛЬ ПАНЫ

Заспрачаўся мужык з панам, адкуль хто ўзяўся. Мужык расказвае:

— Як тварыў бог людзей, то мужыка зрабіў з простай гліны. Узяў, зляпіў і паставіў сушыць. А з чаго зрабіць пана, думаў бог? Дастаў пшанічнай мукі, замясіў, зляпіў пана ды пасыпаў яшчэ цукрам ды яйцом памазаў.

Пан рады:

— Бачыш!

А бяжыць сабака. Абнюхаў мужыка — гліна. Падняў лапу, абмачыў мужыка.

Пан ізноў смяецца, рады ўжо.

Падбег сабака к пану, абнюхаў. О, пшанічнае! Узяў да з'еў.

Прыходзіць бог, бачыць, няма пана. А сабака ляжыць, як гара.

От узеў бог кія і давай яго перыць, то з яго і пасыпаліся паны, мо тысяча, розныя.

Цяпер ужо мужык смяецца з пана.

А пан:

— О, хаме!

А мужык:

— Як мяне сабака абмачыў, то ты смяяўся, то цяпер я з цябе пасмяюся.

## 106. [АДКУЛЬ ШЛЯХТА]

Калі бог тварыў людзей, то рэдка хто ведае, з чаго ён іх рабіў, але шляхціц, усім ведама, зроблен з тварагу.

Паставіў яго бог на слонцы сушыцца, каб ён трохі ачарсцвеў.

Пакуль ён сох, бог адвярнуўся, кундэль яго з'еў.

Прыходзіць бог, глядзіць — шляхціца як і не было. Туды, сюды — дзе дзеўся?

Аж кундэль лохмамі затрос, кажыць:

— Я!..

Як усердзіўся ж бог:

— Ну, — кажа, — бяжы ж ты сабе па свету: аб што ні зачэпішся, з таго выскачыць шляхціц. З гэтага і назвы пайшлі вядомыя: Беразоўскія, Каменскія, Хамутоўскія, Тварагоўскія, — з гэтага шляхты і пайшлі. Так і кажуць: шляхціц-махціц, кундэлю сын!

## * 107. [АДКУЛЬ ПЕСНЯ]

Даўным-даўно жыў на нашай зямлі жорсткі, люты пан. Людзі працавалі на яго ад цямна да цямна, а яму ўсё было мала... Выпраўіў ён аднойчы сам паглядзець, як працуюць сяляне. Пад'ехаў на ўскраек поля і чуе — гучыць песня: «Жніце, жнеечкі, жніце ды на сонейка глядзіце. Сонейка зайшло, а мы ўсё жнём».

Раззлаваўся пан, кажуць, многіх сваіх людзей закатаваў да смерці, усё хацеў даведацца, хто склаў тую песню. Панскія паслугачы падказалі свайму ўладару, што жыве ў лесе дзіўны хлапчук-музыка. Як зайграе на дудачцы вясёлую «Лявоніху», здаецца, снапы на полі скачуць. А як заспявае песню сумную, нібы туман па зямлі сцелецца, сонца за хмарку хаваецца. Напэўна, той хлапчук і склаў песню жнеям.

І загадаў пан адшукаць малога музыку. Ідуць слугі дзень, два, тры. Нідзе няма хлапчука, а наўкола ўсё спявае, гамоніць. Прыклаў адзін з іх вуха да зямлі ды і кажа: «Браткі мае, дык гэта ж зямля спявае, зямля тут такая...»

## * 108. [АДКУЛЬ ПЕСНЯ БЕЛАРУСКАЯ]

Ці то полем, ці то лесам ішлі тры падарожнікі. Ішлі яны тры дні і тры начы, ды яшчэ паўдня. Прытаміліся. Прыселі. Раптам чуюць — спявае нехта. Прыслухаўся першы:

— Відаць, жаўранак.

— Не, — кажа другі, — гэта лес шуміць.

А трэці прыпаў вухам да зямлі і прашаптаў:

— Ды гэта ж зямля наша спявае.

## 109. З ЧАГО ЛІХА НА СВЕЦЕ

Цяпер, куды ні зірні, усюды ліха на свеце. Кажуць — служыў адзін парабак, і ўсе яго застаўлялі малоць у жорна. Меле ён ды меле, прыслухаецца, дак млын у клопаце ўсё кажа:

— Там лепш, там лепш!

Наслухаўся таго парабак, пакінуў тут хаджаіна да й пайшоў туды, дзе лепш. Прыйшоў ён і наняўся к другому хаджаіну. Але й там заставілі парабка малоць у жорна. Малоў ён малоў дай давай прыслухоўвацца, што кажуць жорна. Чуе, аж млын у клопаце ўсё кажа:

— Як і там, так і тут! Як і там, так і тут!

Кінуў парабак і таго гаспадара да й пайшоў шукаць, дзе лепш. Але колькі ён ні хадзіў, усюды застаўляюць малоць у жорна, і яны ўсё кажуць:

— Як і там, так і тут! Як і там, так і тут!

— Цяпер усюды парабко́м ліха на свеце, — кажа парабак.

Пачуў тое хаджаін, паківаў галавою да й кажа:

— Не, мабыць, цяпер усім і ўсюды ліха на свеце.

Дак от я раскажу вам, з чаго ліха на свеце. Калі праўду скажу, смякайце, а прыхлушу — не мяшайце да прабачайце, бо як устарыцца, дак і праўда будзе:

— Даўным-даўно спрадвеку жылі сабе людзі, пажывалі, ніякага ліха не зналі. Свет вялікі: усюды вольна. Як патрудзіўся, так і пажывіўся. Не было тады ні паноў, ні мужыкоў, а так сабе людзі жылі-пажывалі да бога выхвалялі, а ні аб чым яны не клапаціліся. А бог тады яшчэ жыў на зямлі, прыходзіў да людзей, бы свой брат, вучыў іх, як на свеце жыць да дзетак пладзіць, дзетак пладзіць да гадаваць, да землю напаўняць. І не было на зямлі ні ліха, ні дабра. Людзі, бы кветкі, цвілі: жылі, нібы птушкі ў небе, ці рыба ў вадзе; жылі, што стрэлі, то ўжывалі,— ні шчасця, ні бяды не мелі. Але што такое жыццё? Так жыве і звяр'ё ў лесе, так жыве і дзераўляка. Бог убачыў тое да й пачаў вучыць людзей, як лепей дастаць ім

жыўнасць, як зрабіць адзежу, як схавацца ў непагоду, як лавіць рыбу ды звера, ды птушак. І пазналі тады людзі, што каму ўлажыў бог розум, той можа рабіць, што хоча.

— Гэ, мы і самі з вусамі, — кажуць людзі, — што захочам, тое зробім. Мы й самі, бы багі, толькі бог затым не даў нам сілы, улады, што баіцца, каб, зямлёю заўладаўшы, мы не ўздумалі і самога бога сапхнуць з неба. І адступіўся тагды бог ад гордых людзей і пайшоў сабе на неба. Узялі тады людзі ўладу на зямлю, на ўсё, што расце на зямлі; на ўсялякае звяр'ё, што жыве па лесе, па палях, балотах, на зямлі і пад зямлёю; над птушкамі, што купаюцца пад небам; над рыбамі, што ў вадзе гуляюць вольна. І будуць мець людзі ўладу над усім, што ёсць у зямлі й на зямлі. І будзе людзям добра жыць на свеце, калі яны не захочуць мець улады адзін над другім, а калі ўздумаюць над людзьмі панаваць, то пазнаюць і дабро і ліха, і датуль будзе ліха, пакуль людзі будуць мець уладу над людзьмі. Але я даў людзям розум, каб яны самі пазналі, з чаго ліха на свеце. І розум пакажа людзям дарогу, як ліха адалець і як так жыць і мець уладу над усім на зямлі, каб усім было добра і каб не было ліха. І просяць бога святыя анёлы, каб ён паслаў іх на зямлю служыць людзям і бараніць іх ад ліха. І пазволіў бог анёлам сцерагчы людзей, а сам вялеў яснаму сонейку свяціць людзям, каб ад таго свету яны набіраліся розуму, таго вялікага розуму, што мацней усяго на свеце. Пакланіліся анёлы богу, да й паляцелі на зямлю сцерагчы людзей. Тым часам, пакуль святыя анёлы благалі бога, шатан не спаў. Убачыў ён, што бог адступіўся ад людзей і пакінуў зямлю, давай гэта падбіваць дужэйшых, каб яны бралі ўладу над слабейшымі. Давай гэта дужэйшыя адбіраць ад слабейшых, што тыя зробяць. Давай іх прымушаць рабіць на сябе, давай імі ўладаць, бы сваім дабром. От гэты шатан дужэйшых ды хітрэйшых зрабіў панамі і аддаў ім у рукі ўсіх слабейшых людзей. І пашло з тае пары ліха на зямлі, пайшло такое ліха, што і сказаць не можна. Пачалі паны лавіць людзей, бы звяр'ё, пачалі іх мучыць ды здзекавацца, быццам гэта і не людзі, а гаўяда. Прыляцелі святыя анёлы, сунуліся туды-сюды, пачалі падбухторваць людзей, каб яны не слухалі паноў. Ды куды там! — стала яшчэ горай: паны ўзялі ўладу на зямлю, пачалі марыць людзей голадам, пачалі іх біць да забіваць, да аднаго на другога насылаць. Папробавалі святыя анёлы сказаць, што ёсць бог на небе, што ён усё бачыць і чуе, што за такое ліха ён пакарае паноў. Слухалі, слухалі тое паны да й кажуць:

— Э, што вы нам баеце! Вы там сядзелі на небе й нічога не знаеце, што тут робіцца на зямлі. Мужык без пана абайсціся не можа: б'ецца, дзярэцца, сцеражы ты божа! Над мужыком трэба стаяць з бізуном над каркам ды яшчэ трымаць воз лазы за хвальваркам, бо ў мужыка такая натура, што без бізуна свярбіць шкура.

Ён, бы свіння, напрэцца, нажрэцца, улезе ў гразь да й думае, што князь. Мужык без ушчунку не знойдзе сабе ратунку, бо ён да панскага дабра хцівы, а на работу лянівы; будзе ад голаду падыхаць, а на баку ляжаць. Адно ліха на свеце будзе, як мужык вольнасць дабудзе. Свет перавядзецца — адна бяда астанецца.

Учуўшы тое, святыя анёлы паляцелі к богу на скаргу. Тым часам паны запанавалі й ліха б не зналі, калі б не пачалі вымышляць ды адзін другога есці, пажыраць. Паны праміж сабою б'юцца-дзяруцца, а ў мужыкоў гіры трасуцца, ды ілбы трашчаць, аж сківаіцы вішчаць. І паслаў бог на зямлю святых анёлаў з чарцямі ваяваць, а святых пракокаў людзей навучаць. Але ні анёлы, ні пракокі нічога не зрабілі, бо яны слаўцом, а ліха дубцом. Яны па-божаму праўду ладзяць, а паны ў вус смяюцца да чэрава гладзяць. Так да тых часоў мужыкі гаруюць, мужыкі працуюць, і хлеба не маюць, часам голадам падыхаюць, бо што ні зробяць, то паны здзіраюць. А паны пануюць, нічога не робяць, ды ліха вымышляюць, бо за сабою чортаву сілу маюць. І няма ратунку ад такога жыцця, бо яно ўсё, бы камення куча: зверху цяжкае каменне дробных на пясок расцерла доле; зверху іх гнятуць другія, а на тых ляжаць і ціснуць долу яшчэ цяжэйшыя; зверху ж лёг адзін вялікі камень. От гэтак спрадвеку і да тых часоў ліха людзей давіць, ліха ціснe людзей зверху к долу, бы ў кучы той каменне. Трашчыць куча, трэ каменне, на жарству іх трэ на доле; трашчыць і хутка асядае, асядае ніжэй-ніжэй, да ўсё ніжыцца дадолу. Мабыць скора затрашчаць падпоркі і рассыплецца ўся куча. Так і ў жыццю: усё горай-горай бедным людзям, бо народ множыцца, а свет адзін. І так цесна людзям на зямлі, а тут і тое, што ёсць слімазарнае, дужэйшыя людзі захвацілі, да й трымаюць, бы воўк зубамі. Забіваюць, паядаюць людзі адзін другога горай, як звер звера. Яны не знаюць таго, што адзін чалавек не мае моцы, бы чарвяк, бы тая былінка ў полі; наляціць вецер, закруціць хвіля да й сатрэ, зраўнуе з зямлёю. Быў чалавек — пхх! — й няма, бы й на свет не радзіўся. Толькі тады чалавек моцны, як ён не адзін, а жыве з другімі людзьмі ў згодзе ды ў ладу. І чаго толькі не зробяць людзі, калі возьмуцца за дзела грамадою, бы адзін чалавек. Але вось гэтага й не зналі людзі, не зналі, як жыць на свеце, каб усім было добра. Кожны цёг да сябе, кожны кошкаў к сабе, кожны на другіх, як на ворагаў, пазіраў і кожны другіх ворагамі меў. І затрацілі людзі ўсе свае сілы толькі на тое, каб адалець сваіх ворагаў — такіх самых людзей, як і яны. Так спрадвеку біліся людзі, нішчылі адны другіх. От ад чаго ліха на свеце. Але як сказаў бог, так і сталася: радзіўся на свеце ясны розум і пачаў расці; толькі расце ён так ціха, так памаленечку, што чалавек век пражыве, а розуму чуць на крыху прыбудзе. Адны людзі ўміраюць, другія раджаюцца. Яны пражывуць век і аслабаняюць месца другім. Тыя гэта ж сплодзяць

дзяцей і памруць. Так і жывуць людзі, бы вада цячэ ў рацэ. А розум хоць ціха, памаленечку, ды ўсё расце, расце й паднімаецца на ногі. От як вырасце той ясны, бы сонейка, розум да пачне свяціць людзям у вочы, то тагды ўсе пазнаюць, з чаго ліха на свеце, пазнаюць праўду, паднімуцца ў згодзе, бы адзін чалавек, прагоняць паганую нечысць і зажывуць на зямлі, бы ў раю. Мы ўжо не дачакаемся таго, але мо нашы дзеці ці ўнукі такі дачакаюць.

## 110. АДКУЛЬ ПОП

Бог хацеў з чалавека здзелаць ільва. От ён здзелаў кашлатую галаву, з даўгіміваласамі, з бальшымі зубамі. Дый спухваціўся, што ўсяго толькі дзве нагі. І дзе ж яшчэ ўзяць дзве? От ён думаў-думаў дый кажа:

— Ну, не будзеш жа ты чалавекам, а будзеш папом.

## 111. БОГ І ПОП

### [Чаму поп бярэ з жывога і мёртвага]

Адзін поп быў такі скупы, не дарыў нікога. Як прыдзець нішчы каторы, ён яго за руку і вон пхаець. Потым, адзін раз, у празнічный дзень еты поп пераадзеўся і ідзець з хаты, каб ужо абедню служыць. З'яўляецца яму старык і просіць у яго міласціны:

— Падары, бацюшка, хрыста радзі!

Ён гаворыць:

— Вон! Ты відзіш, што я сабраўся на абедню. Вас не мала тут таскаецца. Вон!..

Старычок вараціўся вон, і поп за ім ідзець, і сабакамі яго затравіў. Ён махнуў рукою, еты старык,— не аказалася нічога. Толькі адзін поп да ён — ні двара, нічога. І места ета аказалася папу незнакомае. Ну, старык еты пашоў сваім пуцём, а поп еты за ім услед: баіцца ўжо адзін астацца. Ну, і ішлі яны цэлы дзень. І дужа поп еты захацеў есць. Тады еты старык падходзіць — пасець пастух скаціну. Ён узяў адкупіў аднаго барана, гаршчоначак там быў, што пастуху прыносілі есці, ён і гаршчоначак еты адкупіў і пашлі. І баран за імі ўслед пашоў. Адыйшлі яны троху, вялеў ён папу разлажыць агонь. Агонь поп разлажыў, ну й разрэзалі барана етага. Выняў поп почкі дзве і сэрца. Старык гаворыць:

— Звары ета, а я засну. Потым мяне ўзбудзіш, як зварыш.

Поп еты гатаваў-гатаваў і дужа есць захацеў. Узяў адну почку з'еў. І лёг сам спаць і захроп. Устаець старык і на папа гаворыць:

— Уставай, будзем кушаць, што ты згатаваў.

Ён устаў, падаў яму кушанне. Бог памяшаў-памяшаў і гаворыць:

— І дзе ж ета адна почка дзелася?

Поп гаворыць:

— Я не знаю, я звaрыў і лёг спаць сам.

— Ды што ты гаворыш, хто тут міжда намі быў?

Поп давай клясціся, бажыцца, што ета не ён з'еў. Старык еты гаворыць:

— Полна табе клясціся, можа, хто з'еў, як мы заснулі. Вазьмі астальное еш.

Поп еты даеў почку, сэрца і юшку пахлябаў.

— Ну, пойдзем дальша.

Прайшлі некалькі — ляжыць куча золата на дарозе. Потым старык гаворыць:

— Да, вот і находка нам найшлася харошая. Як будзем дзяліць? — гаворыць.

А поп атвячаець:

— Ды як вы самі знаеце, дзядуля.

Ён узяў, разгарнуў на тры кучкі:

— Вот ета табе, а ета мне, а ета трэцяя часць таму, хто почку з'еў.

Папу стала жалка грошай, ён гаворыць:

— Я, дзядуля, з'еў почку.

— Ну да,— гаворыць.— Як грошы ўвідзеў, дык ты з'еў; ты ж мне раньша казаў, што ты не еў?

— Не,— гаворыць,— каб я праваліўся, як стаю! І так і етак, што я з'еў почку.

— Ну,— гаворыць,— калі не ты з'еў, бяры ж ету кучу і маю і сваю — няхай табе ўсё, калі ты даў дзве клятвы: адну — што не еў, а другую — што з'еў, як увідзеў золата. Тады ты пага́ліўся на почку — з'еў, а цяпер — на золата.

І благаславіў яго:

— Будзеш ты браць з жывога і з мёртвага, і з беднага, і з багатага, і ўсё табе мала будзе.

Махнуў рукой — і стаў і дом той, і царква. А самога не стала.

## 112. ХТО ВЫДУМАУ ГРОШЫ

Быў сабе адзін чалавек да такі скупы, што шкадаваў нават даць людзям напіцца. У яго ўсяго было многа: поўны хлявы гаўяда, а ён трасецца, як здохне паршывае парасятка; свіран ломіцца ад хлеба, а яму ўсё мала,— крукам вісіць над кожным зярняткам і нікому не дась і панюхаць. Сваё гніе ў засеках, а ён завідуе, калі ўбачыць у людзей якую-небудзь слімазарную пашніцу. Ад хцівасці высах, як ражон, а нішто яго не наталіць. От ён пачаў ужэ есці

толькі адзін раз у дзень, да й то бульбу, або мякіну намесіць з бульбаю, спячэ на вуголлі да й есь з халоднаю вадою, а каб было смачней, дак яшчэ пасыпле попелам. Смяюцца людзі з таго дурнога чалавека, што й сабе шкадуе хлеба да есь мякіну. І празвалі яго Мякіннікам. Трасецца Мякіннік над сваім дабром да пражэцца, каб нажыць яшчэ больш. Але, ведама, з працы рук многа не нажывеш, бо ў гаспадарцы адно прыбывае, а другое ўбывае, от бы вада ў рацэ. Скупы збірае, трасецца, а чорт з яго смяецца, заханчае да ў мех забірае. Не мажэ Мякіннік вытрымаць, аж пукаецца, так яму хочацца ўсё больш і больш. Дачуўся ён ад людзей, што каб чалавек знайшоў цвет папараці, дак тагды ўсялякае дабро паўзло б к яму само. Пачаў ён распытоўваць людзей, а тыя кажуць, што папараць цвіце толькі аднэйка ў рок на купала, але што той цвет вельмі трудна ўзяць, бо яго сцерагуць чэрці да ўсялякая нечысь. Пражэцца Мякіннік, каб мець больш дабра, так пражэцца, што й страху не баіцца, бо не мажэ вытрымаць, такая апанавала яго хцівасць.

Па немалым часе прыходзіць купала. Яшчэ сонейка не зайшло, а Мякіннік узяў торбачку да й пайшоў у лес. От сонейка схавалася за землю; на небе заблішчалі зоркі, да толькі там іх, што й ліку няма. І думае Мякіннік, што так многа на свеце ўсялякага дабра. І гарэй яго бярэ хцівасць, каб заўладаць тым дабром. Сцямнела ў лесе, бы ў мяшку, толькі дзе-нідзе праз веткі блішчаць зоркі. «Мо так блішчыць цвет папараці»,— думае Мякіннік і прыглядаецца на папараць над густымі лапамі галля. Лазіў ён, лазіў у гушчэчы, чуць вочы сабе не павыдзіраў, зайшоў у глухі лес так, што й выбрацца не мажэ. Пачаў ён прыслухоўвацца, ці не забрэша дзе сабака, але нічога не чуваць. Сеў ён на пні да й не ведае, куды йсці. Але ось па лесе штось загуло, затрашчала, аж у яго мароз пабег па шкуры. Куды ён ні зірне, дак бачыць, аж чэрці скачуць, з ведзьмамі абняўшыся, а ўсялякая нечысь стаіць вокала да ў ладкі плешча, толькі вочы блішчаць, бы жар, да зубы ляскацяць. Спалохаўся ён да няма чаго рабіць, сядзіць да трасецца, бы сабака на марозе. Толькі ось убачыў ён, што непадалёчку ў папараці штось блішчыць, от бы зорачка. Дагадаўся ён, што гэта цвет папараці, да кінуўся туды. Але куды там! Не паспеў ён і два-тры разы ступіць, як усялякая нечысь з крыкам і піскам наляцела туды да й засланіла яму дарогу. Стаў ён, стаіць і не варухнецца, толькі зубы ляскочуць, бо яго трасца трасе. Перш хацеў ён перахрысціцца, але падумаў, што багацце туды йдзе, дзе няма крыжа. «Ну,— думае,— усё роўна прападаць, чорту душу запрадаў бы, каб толькі было за што». Толькі ён гэта падумаў, як адзін чорцік тут як тут. Падбег к яму да й кажа:

— Ты зваў мяне? Я тут. Дам табе багацтва, якое толькі ты схо-

чаш, а ты дасі мне тую сваю плюгавую душу, што яна табе саўсім не патрэбна, бо часамі толькі есь да скрабе табе сэрца.

Згадзіўся Мякіннік аддаць чорту душу за багацтва да й пытае толькі, які тэрмін ён будзе спажываць тое багацтва.

— Яно заўжды будзе тваё,— кажа чорт,— бо цябе людзі ніколі не забудуць, пакуль і свет будзе стаяць, то будуць казаць, што ўсё багацтва — тваё.

І пачалі яны таргавацца, колькі гадоў чорт дась яму жыць. Нарэшце старгаваліся, і чорт узяў з Мякінніка распіску, катору ён напісаў сваёю кроўю з мезенага пальца.

От чорт даў Мякінніку цвет папараці да й навучыў, як яго ўжываць. З тых часоў паплыло к Мякінніку ўсялякае дабро, як вада ў рацэ; хутка ў яго сабралася столькі багацтва, што й месца яму няма. Бачыць Мякіннік, што нельга яму сабраць багацтва са ўсяго свету, бо яно вельмі многа займае мейсца да й такое цяжкае, што яго й зямля не выдзержыць, от і заве ён к сабе таго чорта. А той і кажа:

— Добра, я дам табе такое зелье, што яно збярэ к табе ўсё багацтва й мала будзе займаць месца.

От назбіраў чорт поту, слёз да крыві людзей, наліў у кацёл, варыў, варыў да й выварыў золата. Зірнуў Мякіннік на золата да й кажа:

— Давай сюды, бо ў мяне яшчэ няма такое бліскучае рэчы.

— Не,— кажа чорт,— мы яго перш пусцім у людзі; яно там забярэ ўсё багацтва й потым прыдзе к табе.

І выдумаў чорт грошы да й пусціў іх па свету гуляць да людзей абіраць. Па нямалым часе сабралася ў Мякінніка вельмі многа грошай, так многа, што ён мог купіць увесь свет з усім багацтвам і з усімі людзьмі. Але бачыць Мякіннік, што скора канчаецца тэрмін і што прыдзецца паміраць. Папробаваў ён падкупіць смерць, але тая толькі зарагатала з дурнога чалавека так, што аж усе косточкі да забрашчалі. Папробаваў ён падкупіць знахароў да дахтуроў, каб ад смерці адперці, але тыя ў адзін баюць, што ўсе людзі паміраюць. Бачыць ён, што нельга выкруціцца, дак і пусціўся на хітрасць. От ссыпаў ён золата ў пограб, набраў сабе ўсялякае стравы да й сядзіць там, хаваецца ад чорта. Але ось прыходзіць смерць і кажа:

— Чым было, тым і стань.

Як яна гэта прамовіла, дак усё золата разлілося ў пот, слёзы й кроў людзей да й заліло пограб аж даверху й утапіла таго хціваага Мякінніка. Тут акурат з'явіўся чорт па яго душу, схапіў яе да й кажа:

— Пакуль мае свет стаяць, датуль будуць цябе памінаць, што ўсіх дурыў, потам, слёзкамі да кроўю жыў.

## 113. [НЯМА ГОРШАЙ КАРЫ, ЯК У ПРЫМАХ]

Даўным-даўно ў вёску папаўся па няшчасці воўк. Людзі яго злавілі і думаюць, якую яму даць кару. Адзін кажа — лапу адсекчы, другі кажа — вока выкалаць, трэці — хвост адсекчы.

У той вёсцы жыў прымак і, прышоўшы да людзей, ён сказаў:

— Ніякай кары яму не даваць, а ў прымічы яго аддаць.

З таго часу людзі прызналі, што няма горшай кары, як у прымах.

## 114. ВЯЛІКІ ГРЭШНІК

Даўно гэта дзеелася. Чула я ад старых людзей, а яны лгаць не будуць — значыцца праўда была. Жыў на свеце дужа бальшы грэшнік, такі грэшнік, што не было таго граха, каб ён не саграшыў. Такі быў злодзей, якога і свет не бачыў: ён і краў, і чыніў разбоі, губіў людзей без пакаяння. Нават на бога забыўся,— чорту душу запрадаў, чараваў, калі краў, абарачваўся ваўкалакам, пушчаў моравыя паветры — і не было ліку яго грахоў.

Прышлося яму паміраць. Тут такі страх яго агарнуў, што не магла яго душа пакінуць цела. Няма яму смерці, дый годзе. Тут успомніў ён на бога. Захацеў паспавядацца, душу ачысціць. Колькі не прыводзілі к яму папоў, ксяндзоў — як раскажыць ім свае грахі, не даюць адпушчэння. Такі ён быў грэшнік. А смерць не прыходзіць, а душа яго мучыцца, з целам не можа разлучыцца. Раздаў ён сваё багацце ўбогім і пайшоў па свету шукаць такога ўгодніка, каб замаліў яго грахі, разлучыў душу з целам. Ідзець, распытвае...

Параілі яму людзі даведацца к аднаму пустэльніку, што цэлае жыццё жыў у пушчы, пасціў,— еў толькі хлеб з вадой, маліўся — душу спасаў і ўгодны быў богу. І пайшоў ён к яму. Прыходзіць, так і так,— кажа,— я дужа вялікі грэшнік, ратуй,— кажа,— мяне, выспаведуй. Ты ўгодны богу,— можа, адпусціць мае грахі. Стаў спавядацца. Выслухаў яго той пустэльнік і кажа:

— Ты такі грэшнік, што цябе смерць не возьме, зямля не прыменць, пакуль ты свае грахі на гэтым свеце не адпакутаваеш, пакуль ты не зробіш столькі дабра, каб яно тваё грахі пераважыла. А датуль ты будзеш мучыцца на гэтым свеце.

І пайшоў той грэшнік заслужваць спасення. Хадзіў ён на афяры і хадзіў на каленях, марыў голадам сваё цела, нанімаўся к сярдзітым гаспадаро́м на работу, каб яго білі, лажыўся за другіх пад розгі, услужыў хворым і ўбогім,— смерць не прыходзіць. Хацеў на сябе рукі налажыць: тапіўся, вешаўся і рэзаўся — ўсё няма смерці, толькі мукі прынімаў надарэмна.

І так прайшло многа лет. Раз ідзець ён полем. Ідзець і праклінае сваю долю. Узяла яго злосць, што няма яму смерці. «Дакуль я буду мучыцца?» — думае ён сабе. А быў першы дзень вялікадня. Ідзець ён і бачыць многа-многа народу на полі — пашуць, барануюць. «Што ж бы гэта значыла? — думае ён,— першы дзень вялікадня, такое свята, што і птушкі святкуюць — гнёзды не ўюць, а тут народ хрышчоны марудзіцца». Падыходзіць бліжэй — бачыць: войт пахаджвае между работнікамі, крычыць і бізуном іх падганяе. Тыя плачуць, жалюцца:

— Што гэта,— кажуць,— ты зусмыхаешся над намі? Хіба няма ў цябе бога ў серцы? Б'еш нас, ка́таваеш у будні, у свята не даеш адпачынку. І нават сягоння, на вялікдзень вышаў на прыгон.

А войт равець, як апантаны, бізуном лупіць.

Глядзеў, глядзеў той грэшнік: «Во,— думае,— акаянны, не папушчы мяне. Думаць гэта, як народ мардуе!» Падышоў ён к войту і кажа:

— Што ты робіш? За што ты людзей мучыш?

А войт, ні слова не кажучы, як нахлысне яго бізуном цераз лоб,— аж іскры з воч пасыпаліся.

Азвярэў наш грэшнік, схваціў камень, як пусціць ім у войта. І разбіў яму чэрап. Войт і не айкнуў — сасвяжыўся. А грэшнік на тым месцы парахнёй рассыпаўся: кончыў пакуту — і пайшла яго душа на той свет.

## 115. [ГРЭШНІКІ]

Такрок каля Гродна адзін багаты пан улюбіўся ў маладзіцу, і яны там саграшылі. Потым адумаўся той пан і кажа да яе:

— Няма рады, трэба ісці да святога Рыму і выспавядацца.

Так і зрабіў. Ідзе ён так, ідзе, аж у цёмным лесе заступаюць яго разбойнікі. Адзін кажа:

— Куды ідзеш?

— Да Рыму!

— Чаго?

— Так і так.

Так той кажа — пусціць, другі кажа — забіць, а трэці кажа:

— Стойце, браткі, ён такую анно рэч зрабіў і ідзе да Рыму, а я ж столькі людзей перавёў! Пайду і я ж разам з ім.

Тады разбойнікі завялі яго да свае зямлянкі, пераначаваў ён там, а на заўтрашні дзень набралі ўсяго ўсялякага з сабою да й пайшлі да Рыму.

Прыходзяць туды, выспавядаліся, так ксёндз кажа:

— Ідзеце да касцяла, адзін стане па правай старане, а другі — па левай алтара і ўглядайцеся.

Вайшлі яны там і стаяць, ажно па неякамсь часе пан пытае ў разбойніка:

— Ці ты стаіш на зямлі?

— Стаю,— каа,— а ты?

— Я,— каа пан,— па костачкі ўпаў.

Паждаўшы крыху, зноў пан пытае:

— Стаю,— каа,— а ты?

— Я па калені ўпаў і няма як вырабіцца.

Пасля пан упаў па рукі, а разбойнік як стаў, так і стаіць: пасля зусім пад зямлю ўпаў, а разбойнік стаіць.

Ажно ўходзіць ксёндз у касцёл:

— Ну, ты,— каа,— астаўся шчаслівы, ідзі сабе з богам і не грашы больш, а ён пракляты астаўся.

## 116. ЧАМУ БОГ ЗРАБІЎ МУЖЫКА СТАРШЫМ НАД ЖОНКАЮ

Была ў аднаго жонка вельмі ліхая: ба́ла, прыйдзе з карчмы запіўшыся, гракане́ ў дзверы:

— Адчыні!

Ён, небарака, мусіць уставаць да і бардзей адчыняць. А як часам няхутка прачхнецца, так яна зараз за качаргу і чыста яго заб'е.

А ў том часе хадзіў Пётр з панам Езусам глядзець, ці ўсё на свеце добра дзеецца. Так пан Езус пытае ў яго:

— Што ты хочаш, каб хто быў вышы, ці мужык ці жонка?

Так Пётр давай прасіць, каб жонка. Так пан Езус кажа:

— Добра, зойдзем да гэтай хаткі нанач.

А ў гэтай хатцы жыла тая баба ліхая з сваім мужыком. Прыйшлі яны і просяцца:

— Чалавеча, прымі нанач.

— Чаму,— ка,— прыняў бы б, але мая баба вельмі ліхая, прыйдзе з карчмы запіўшыся, то яна і мне і вам задасць.

— Не бойся,— кажуць,— не будзе зачапаць.

— Добра.

Той з найбольшаю ахотаю прынёс салому, паслаў ім харашэнька, яны пакладіся. Анно ж грак! грак! у дзверы:

— Адчыні!

Ён гэта схапіўся з пасцелі да на пальчыках пабег, адсунуў адныя дзверы, другія, яна ўвайшла да і давай крычаць:

— А ты, халера: я буду мерзнуці на дварэ, а ты тут спіш?!

Да за качаргу, ён упроч. Нарэшце, глядзіць: нехтась на зямлі спіць:

— Хто гэта,— ка,— такі?

— А гэта — такая і гэтакая дзядкі старэнькія прыйшлі і прасіліся начач.

— Ато ты дзядкоў туды,— ка,— назводзіў? Я ж табе дам! Да калі возьме яго акладаць качаргою! А после:

— А я і тваім дзядком дам!

Да як Пётр з краю ляжаў, так па ём гоп! да гоп! После:

— Пастой, я і таму дам!

І хацела пана Езуса ўдарыць, але Пётр перакаціўся праз пана Езуса, так яна зноў па Пётру. Ударыла разы з дзесяць, а пан Езус сабе спіць. Так баба кажа:

— Яшчэ таму мала.

А Пётр зноў шлык! на сваё месца, так баба зноў па ём. Узяла мужа прагнала, сама легла.

Назаўтра рана яны пайшлі, так пан Езус пытае:

— Што хочаш, каб было вышэйша, ці мужчына, ці баба?

Так Пётр давай прасіць, каб мужчына, і гэтак сталася.

## 117. ЧАМУ БАБЫ РАБОТАЮЦЬ НЕ АДДЫХАЮЧЫ

Ну, а калі слухаеш, дык і скажу табе яшчэ пра то, за што баба ўсягды работае, і ні ў будзень, ні ў празднік ёй навек няма ўгамону.

Ідзе раз бог па полю і бача: маладзіца нешта жне.

— Здароў, галубка!

— Здароў.

— Хадзі-ка ты сюды, раскажы мне тут адно дзела.

— А ідзі ты! Мне без цябе некалі, лядзі во не дажнеш да тавару.

— Ну, каб жа табе і павек некалі было.

Сказаў, да й пайшоў далей. Арэць мужык паласу. Падышоў ён.

— Здароў,— гаворыць,— добры чалавек! Ты, брат, як бачу, дужа стаміўся, хадзі, брат, трохі пасядзі, табакі панюхай, да мне тут пра дзела раскажаш.

Падышоў мужык, панюхаў табакі і сеў. Пагаманілі сколькі там яны, устаў бог, устаў і мужык.

— Ну, прашчай, брат, спасіба табе, дай бог у пару справіцца, у пару праклажацца.

Пашоў ён, а з той пары мужык у пору заўсягды параболае, у пору і аддыхнець, а баба к аднаму кінецца, другое справіць, а аддыхнуць некалі, глядзі, што яшчэ што-ліба найдзецца.

## 118. БОГ, БАБА І МУЖЫК

Даўно ета было; калі шчэ бог хадзіў па зямлі. Ішоў ён раз кала лесу і бача — баба жыта жне.

— Памажы божа табе!

— Спасіба! — кажа.

— Ці не знаеш ты, бабка, дарогу датуль-то, датуль?

— Чаму? Пойдзеш во так прама, завернеш направа, а тагды ідзі ўжэ так, прама.

— Не, бабка, так я не траплю. Ці нельзя б табе паказаць мне дарогу?

— А не, мой галубок, мне некалі. Бач, трэба жыта жаць.

— Ну, што б жа ты ніколі не ўпраўлялася ў рабоце,— кажа бог.

Ідзе ён далі. Бача — мужык паша.

— Бог помач, чалавеча!

— Спасіба, нябожа. Садзісь-тка, аддыш. Можа, замарыўсь у дарозе.

Ну, бог сеў. Сеў і мужык. Выняў з запазухі табакерку і частуе бога. Бог панюхаў, нюхнуў і мужык. Сталі гаманіць аб тое, аб сёе. Троху аддыхаўшы, бог і кажа:

— А ці не знаеш ты, чалавеча, дарогу датуля й датуля?

— А йдзі во так прама, там звернеш налева, а там яшчэ направа, да тагды ўжэ і ідзі прама. Да я табе луч сам пакажу.

Адпрог каня, спутаў.

— Хадзім,— кажа.

І пайшлі. Мужык давёў яго да самай дарогі, куды яму трэба было йці.

— Ну,— кажа,— ідзі з богам! Шчасліва!

— Спасіба! Будзеш жа ты, чалавеча, заўсягды ўпраўляцца ў рабоце.

З тых сама пор мужыкі заўсягды здзелаюць за ўрэмям сваю работу, а бабы ніколі не справюцца: здзелаюць адну, а сем яшчэ просіцца. Няма ёй і свята.

## 119. ОТ ЯК ДАУНЕЙ ЛЕТНІХ БАЦЬКОУ ТРАЦІЛІ

Даўней у нас, як старыя людзі паказываюць, была такая ўстанова: як чалавек застарэе, то сын вывезе дармаеда ў пушчу і кіне звяром.

Ну, аднаго разу вязе сын сваго бацька (а ён гэта надта любіў, але што рабіць, калі такая ўстанова!), аж бацька кажа:

— Няўжэ ж ты, сынку, мяне пакінеш?

— Я вас, татку, не пакіну, але вязу назмысне, каб мяне не каралі, а ўночы вас прывязу і буду дзяржаць у каморачцы пакрыёму.

Ну, так як ноч надышла, ён у лес паехаў зноў, узяў бацька і прывёз дахаты. Ну, у год потым трапілася, што град жыта выбіў і не было чым нават насеяць, так ён кажа да бацька:

— Так і так, як мы жыць будзем?

— Не бядуй,— кажа,— сынку, як ты яшчэ быў малы, я гумно ставіў, а быў утэды надта вялікі ўраджай, што я немалочаным жытам гумно пакрыў, цяпер абдзяры і мецьмеш насенне.

Перайшоў якісь час, анпож хлеба няма, так кажа да бацька:

— Так і так.

— Не бядуй,— кажа,— сыночку, у мяне ў хаце пад катухом кацёл золата закопаны, дастань, то будзеш найбагатшы за ўсіх гаспадароў.

І праўда: усе з голаду здыхалі, а ён пірагі пшонныя да й бабкі выпякаў і еў. Усе дзівіліся, скуль гэта бярэ. Тады няма што, прызнаўся да ўсяго. Ну, так з тае пары ўжо не трацілі старых бацькоў.

## 120. [ЯК УПЯРОД ХАВАЛІ ЛЮДЗЕЙ]

Гэта, кажуць, бувала, людзі дужа па многа жылі. Дык вот састáраецца бацька, нічога не робіць, а пішч плахая з істары была — божа, божа: ад коласа да коласа не чуць чалавечага голаса — ну, дык што з ім дзелаць, із старым? Дык сын возьмець ды на саначкі яго, ды ў роў завязець, дый укінець туды. А равы былі дужа глыбокія. Дык ён адтуль не вылезець, памрэць там.

Ну, дык адзін сын дужа любіў свайго бацьку. Дык як прышлі тыя гады, ён узяў, бацьку пасадзіў у склеп, а саначкі завёз порожнія ды ў роў і ўкінуў, каб суседзі гэтага не зналі. Ну, бацька тэй сядзіць у склепі, ён яму есці носіць туды; і суседзі гэтага не знаюць. Прайшло так гады два, ці скольні там, і не зарадзіўся нешта хлеб, і так што стаў голад у іх, гнілую калоду таўклі ды елі. І з семянаў звялісь. Тагды сын тэй пашоў к бацьку і кажаць:

— Што будзець, тата: што гэта сеяць?

— А што ж, сынок. Вазьмі, старую страху раскрый, ды салому гэту парэж, парэж дробненька, дый пасей.

— Ну, дык што з таго будзець?

— А, што бог дась, то і будзець...

Ну, сын тэй салому з страхі зняў, пакрышыў-пакрышыў, дый засеяў. Як зарадзілася тое жыта — дык з нівы валіцца.

Тады тэя суседзі дзівюцца: што гэта ёсь? Ні ў каго жыта няма, а ў яго з нівы валіцца. Ну й давай у яго пытацца:

— Ад чаго ды ад чаго ў цябе такое жыта ўрадзілася?

Ён тады ўзяў і расказаў ім — некуды ўжо хавацца:

— Так і так,— гаворыць,— я бацьку пажалеў у роў везці ды пасадзіў у склеп. Баяўся вас. Ну, дык ён мне й парáдзіў:

— Вазьмі,— каець,— з старыя страхі саломы, ды пакрышы яе, ды пасей. Я так і зрабіў.

Ну, дык яны тады дагадаліся, што гэта яму бог за тое ўрадзіў, што ён бацькі ў роў не завёз. Тады яны з таго бросілі старых закідываць у роў.

## 121. ЛОПАУШЧЫНА

Вот, значыцца, так-то было здаўну, спачатку, у старыну, што як выйдзе чалавеку восемдзесят гадоў ці семдзесят, і ён ужэ, значыцца, стане дрáгол, работаць не здолее, дак што з яго? Дак яго трэба ўжэ ў лопаўшчыну. Звалі, бывала, якога граматнага, адпраўлялі паніхіду, адчытаець, значыцца, малітвы над галавой, усё 'дно, да й у лоб. А з чаго яно перакрацілась, дак вот з чаго.

Так жыў сабе адзін стары і два сыны ў яго. І сыны міласлівыя ў яго. І яны ета дзела аставілі, лопаўшчыну ету, значыцца. І здзелалі яму склеп, штоб наш бацька — будзем пітаць яго, пакудава памрэ сваёй смерцю. Ён жа ж такі наш бацька! Ну, здзелалі склеп яму і пасадзілі туды, штоб обчаства-грамада не зналі, і пітаюць. І так, значыцца, гадоў з дзесяць дзяржалі яго.

І случылася ім цяперака, брацец ты мой, выходзе такое-та дзела — рахуба, о, няшчасце вялікае, неўраджай хлеба. І такое, брацец ты мой, худолецце было, што не ўрадзіла жыта ані кусціка. Ну што ж, людзі кару елі з ільма, папараць, ліпавы ліст рвалі да таўклі, да із етага хлеб пяклі. І да таго, брацец ты мой, дайшло, што хлеба нечым сеяць, няма семянó, нічым чаго, ні божа мой. Цяперака яны пайшлі ік бацьку ў склеп:

— Што нам цяперака, татулька, дзелаць, так і так, такое і такое дзела, нечым нам сеяць поле, сышлось з плода жыта.

Ну, ён ім сычас атвясціў:

— Арыце, мае сыны, талаку ўсю. Што госпадзі сашле, то я выдумаю.

І вялеў ён араць поле ўсё чыста. Ну, пааралі яны поле ўсё чыста, прыходзяць к яму.

— Ну што, тат, як скажаш?

— А во што, мае сынкі, дзярыце крышы із хат, салому, із хлявоў усю чыста і вазіце на поле. Цяперака, услучай, мае сыны, завіце сваіх дзяцей і жон, ганіце на поле і кладзіце салому ў баразну і прывóруйце зямлёй. Што госпадзі дасць, тое й будзе...

Ну, цяперака яны ўзялі ета, пазвалі і давай ета араць, а яны давай ета ў межы класць. Цяперака... к восені такое жыта! Здзелала-

ся з тае саломы жыта такое, што божа мой! Цяпер уздзівіліся людзі, каторыя суседзі і сельскія мужыкі, што ні ў каго няма ні коласа, а ў іх жыта такое. І здзелалі прыцясненію на іх:

— Хто вам паказаў ета? Скажыце, да скажыце.

І баяліся яны атвецiць ета слова, што прочых старыкоў усіх прыбралі, а наш дзесятак год лішніх жыве: ці будзе ім за ета штрап, ці не? От яны ўзялі да ў том слове і павініліся — вызналіся обчаству:

— Ну што ж,— гавораць,— гаспада грамада! Мы вам вінуемся: наш стары бацька, значыцца, жыў шчэ, мы яго, значыцца, аставілі на пракармленне, і ён ета нам выдумаў. І цяперака мы благадарым свайму старыку да веку вяком.

— А гдзе ж ён?

— А ў склепе ў нас.

Прыходзяць к яму.

— Ці ты ета выдумаў?

— Я!..

Ну з тых пор развялось апяць жыта на зямлі.

Дайшло дзела ета дальша да дальша, да саната. Разабраў сенат, што іменна ў старыкоў — як яны многа жывуць — іменна, выходзіць, харошыя словы і выдумкі. Саставілі савет сваім санатам, што астаўляць старыкоў да свае ісцiннай смерці, пакуль бог прыбярэ яго душу, а ў лопаўшчыну не адпраўляць.

### 122. ТРЭБА ШКАДАВАЦЬ СТАРЫХ

Коліся ўбівалі старыкоў. У адном сяле так усіх перабілі. А адзін сваго бацька шкадаваў, узяў да схаваў яго ў лёх.

— А дзе,— кажа,— твой бацька?

— Я ўжэ яго ўбіў да схаваў.

А ўзяўся голад. Няма есці, людзі падыхаюць з голаду, пасеяць няма чым. Гасподзь не зарадзіў ані! Сын бацьку кажа:

— Баце, што рабіць, пасеяць нечым?

А вон кажа:

— Азьмі із старога гумна здымай крышу, ту крышу бяры да малаці. Бі яе на потру, ты бяры,— кажа,— і сей па полю.

Узяў вон так і зрабіў. А тыя людзі так не сеялі. Да глядзяць:

— Шо вон робіць? Кастрыцу сее!

Восень. Зазеляneў, як мы кажам, урун. Прыходзіць вясна — жыта расце. Прыходзіць к яму стараста ці якія начальнікі тыя колішнія:

— Шо ты,— кажа,— зрабіў? Хто цябе навучыў, падказаў табе?

— Мне бацька сказаў.
— А дзе твой бацька? Ты яго не ўбіў?
— Не, пашкадаваў.

Ад таго годзі тых старых убіваць, да няхай жывуць да сваёй смерці старыкі.

## * 123. [КУВАДА]

Вітахмоўць, кажуць, калісьці былі чарадзеі. Перад родамі муж доўга глядзеў жонцы ў вочы, а потым знікаў з хаты, ішоў у пушчу і там крычаў і біўся аб дрэва. І жонкі раджалі лягчэй, а мужчыны, кажуць, нават адчувалі боль, яны нібыта бралі частку пакут на сябе.

Потым, як заўсёды, ад гэтага засталася адна абалонка. Ніхто амаль не ўмеў «браць на сябе», але ў пушчу ўсё адно ішлі...

## 124. [ПАХОДЖАННЕ АГНЮ]

Першы агонь з неба, з перуна паходзіць, бо як бог прагнаў Адама і Еву з раю і разам з імі таго чорта, што іх скусіў, так наслаў на іх страшную буру, грымоты. Так чорт схаваўся пад ясень, а бог — трах у яго перуном! Так аж ясень запаліўся. І Адам ад тае пары развёў таго агню і па сягонняшні дзень мы маем.

## 125. ЯК ЧАЛАВЕК ЗРАБІЎ АГОНЬ

Першы агонь к нам прыляцеў з перуном, да як загарэўся адзін хварастовы курэнь, дак людзі збегліся адусюль хапаць галавешкі, да па сваіх куранях і зямлянках у попелі пераховываць. Аднача еты агонь не шанцаваў нікому, аж пакуль бог аднаму старому калесніку, каторы акрым калодак тачыў і верацёны, не паслаў шчаслівае думкі, штоб ён папробаваў кружкі на верацёнах вышмуліваць ясяновым клінком да не нажом вырэзваць, як досі.

— Чаму не,— кажа калеснік сам сабе,— ясень цвердзей, дак павінен узяць мякчэйшую бярозу, і давай папробуем.

Застручаўшы ясяновы клінок, прыставіў яго к верацяну, моцна прыжымаючы, і зачаў смычком шморгаць то сюды, то туды, што раз скарэй, аж палянь,— пашоў дым з верацяна, да так пахне, бы з вогнішча. Ён ета далей шморгаць да яшчэ скарэй, да хутчэй, аж покуль лоб стаў мокры да з верацяна іскры пасыпаліся. Дак ось як чалавек знайшоў справядлівы агонь, тагда людзі ўсюды патушылі перуновае цяпло да завялі свойскі агонь. І з тых пор сталі лучшай жыць.

## 126. [АГОНЬ]

Як бог выгнаў першага чалавека з раю, та чалавек пачаў дрыжаць ад холаду. От бог вялеў яму ўзяць два кускі моцнага дзерава й церці іх. Як чалавек паслухаў бога й тое зрабіў, та дзераво й загарэлася й сагрэла чалавека. Падгледзеў чорт, як чалавек грэецца, украў у яго трохі на ожагу агню да як упёк стос лому, дак агонь шыбануў роўна з лесам. От чорт, каб пагрэцца, як скочыў у вагонь, дак на ём уся шэрсць пасквerлася, а сам ён абгарэў, бы галавешка. От затым ён такі чорны, што аж блішчыць, толькі зубы да бялкі белыя. Пабачыў чорт, што агонь пячэцца, да й занёс яго ў пекла, каб там агнём мучыць грэшныя душы. Ад тых часаў агонь служыць і людзям і ліхім. Агонь нам свеціць, грэе, дае цяпло, але ён і служыць ліхому й мажэ нарабіць нам шмат ліха.

## * 127. [ПРА КАСУ І ДОЛАТА]

Аднойчы пайшоў чорт супастат з богам касіць. У бога долата, а ў чорта каса. Чорт пачаў касіць першым і накасіў многа. Бачыць бог, што кепская яго справа. Паснедалі і прылеглі аддыхнуць. Чорт заснуў, а бог устаў, украў касу і давай касіць на ўсю моц. Потым паставіў касу на месца дый прылёг. Супастат прачнуўся і пабачыў, што бог накасіў.

— А твая каса лепшая за маю,— сказаў ён,— давай-ка памяняемся.

З таго часу чорт і застаўся з долатам.

Яго час — бабіна лета; што накосіць у той час, то й яго...

## 128. АДКУЛЬ УЗЯЛАСЯ ГАРЭЛКА

Гэта было яшчэ ў тую старадаўнюю пару, калі людзі верылі, што чэрці ходзяць па зямлі ў постаці чалавека. Вось да аднаго не вельмі багатага чалавека — селяніна — прыйшоў хлапец і папрасіўся на працу (гэта быў чорт). Селяніну хлапец вельмі спадабаўся, і ён узяў яго да сябе.

Наступіла вясна, пачалі людзі араць поле і сеяць збожжа. Тады хлапец і кажа гаспадару:

— Гэты год будзе макравы, а таму збожжа трэба сеяць на узвышшы.

Праўда, год быў макравы і ва ўсіх сялян амаль што ўсё збожжа прапала, а ў яго добра ўрадзіла. Селяніну гэты працавік так добра спадабаўся, што ён яго затрымаў і на другі год.

Прайшла зіма, ізноў наступіла вясна. Працавік і кажа:

— А гэты год будзе надта сухі, а таму трэба сеяць збожжа па нізкіх мяйсцох.

Так і зрабілі. Парасло ў гаспадара шмат хлеба, што нават і дзяваць няма куды.

— А цяпер,— кажа працавік,— навару райскага піцця,— і пачаў варыць гарэлку.

Гаспадар склікаў шмат гасцей і пачаў іх частаваць зваранай чортам гарэлкай. Сам гаспадар і госці ўсе так перапіліся, што не маглі ўтрымацца на нагах, а таму качаліся, дзе хто заваліўся, а там і без лаянкі не абышлося. Усе чэрці надта ўсцешыліся гэткай выдумкай і з вялікай насмешкай глядзелі, як п'яныя качаліся і сварыліся адзін з другім. Вось таму і цяпер п'янага чалавека чэрці зводзяць да благога.

# ПРА БОГА, СВЯТЫХ, НАРОДНЫЯ СВЯТЫ І ВЕРАВАННІ. СТРАХІ

## 129. АБ ДАЎНЕЙШАЙ ВЕРЫ

На пачатку света людзі не ведалі, што гэта значыць бог, так адзін разумнейшы глянуў раз на неба, на зоры, дый кажа:

— Такі ж е такі, што гэта ўфундаваў.

Глянуў на зямлю і зноў кажа:

— Такі ж мусіць быць такі, што яе так увабраў, трэба ж да яго мадліцца, ну, але як?

А ляжала там калодка, так ён да сваіх так кажа:

— Рабеце гэтак, як я.

І гэта, пераскочыўшы праз калодку:

— То табе,— кажа,— божа!

А назад:

— То мне, божа!

І ўсе так:

— То табе, божа, то мне, божа!

А як спацее, уцера, гіншыя скачуць, і бог ім прымаў гэта за мадлітву. От якім спосабам даўней людзі мадліліся.

## 130. ЯК ДАЎНЕЙ ЛЮДЗІ БОГА ХВАЛІЛІ

Кажуць, што даўней на пачатку света людзі не ўмелі мадліцца, так адзін паказаў, каб так мадліцца. Скочыць праз калодку і кажа:

— Табе, божа! — Потым назад: — Мне, божа!

Анно ж едзе ксёндз і кажа:

— Ля, як гэта ты модлішся?

— Ля, бо не ўмею іначай.

Так то ксёндз, узяўшы, научыў яго пацераў і сам паехаў.

Ну, трэба ж, што ён забыўся аднаго слова, так гэта за ксёндзам у пагонь, а якраз трэба было ісці праз ваду, так ён паверх вады да паверх вады, прыбег да ксёндза засопшыся, дый кажа:

— А мой ойча духоўны, а то ж я забыўся аднаго слова,— навучэце.

А ксёндз кажа:

— Рабі і гавары так, як даўней...

Так людзі перасталі гаварыць пацераў і яшчэ доўга скакалі і мадліліся па сваему.

## 131. ЯК ДАУНЕЙ МАЛІЛІСЯ

### [Пра царкву ў Лукаўцы]

Даўней былі цэрквы рэдка. Некаторыя мае суседкі хадзілі ў царкву за некалькі вёрст. Пяшком хадзілі ў Мінск, у Вільна. Я дык ні разу не схадзіла разам з імі. Усё хварэла.

Адзін раз наш сусед Цімох узяў бальшое палена і выразаў бога. Патом абгарадзіў адно месца, каб туды не хадзіў скот, і паставіў свайго бога. Сам хадзіў маліцца да гэтага бога штораніцу. А маліўся так: пераскакваў праз гэтага бога і гаварыў:

— Гэта, божа, табе, а гэта, божа, мне!

Гаварыў так тры разы, таму што бог любіў тройцу. Тры заўсёды лічылася святым. І яго гэта малітва была крапчэйшая, чым у царкве. Цімох гаварыў, што грамадой ходзяць не маліцца, а абгаварваць людзей. Яны болей грашылі, чым маліліся. А гэты Цімох маліўся ад чыстага сэрца. Ён угаварыў многіх так маліцца.

Потым людзі пастроілі на тым месцы каплічку і хадзілі маліцца туды. Пасля павесілі там абразы. А, пачакаўшы, там жа пастроілі царкву. Цяпер людзі сталі здалёку прыходзіць маліцца ў царкву. Нават прыносілі ахвяры: палатно, лён, ручнікі, дзеньгі, яйкі, на абразы вянкі шлюбныя вешалі, вэліны.

А Цімох стаў вялікай галавой у царкве, папом.

## 132. ШТО БОГ ДАУ, ТО УСЁ ДОБРА

Доўга думаў мудры Салімон, на што бог даў тры рэчы. Думаў-думаў, але нічога не мог прыдумаць. Гэта: першае — на што на свеце шалёныя да дурныя людзі; другое — на што бог сатварыў ядавітую гадзіну; і трэйцяе — павука. Мудры Салімон нарэшце сказаў, што гэта бог абмыліўся, што даў гэтыя тры рэчы.

От прайшло год, а мо два ці больш, толькі ось за штось падданыя цара Салімона ўчынілі мяцеж да й хацелі Салімона забіць. Ведама, усім і бог не ўгодзіць, так і Салімон, колькі ён ні рабіў дабра, а нашліся такія, што захацелі яго загубіць.

Бачыць Салімон, што хочуць яго забіць, от ён кінуў свой дварэц, парваў на сабе адзежу да й пайшоў у свет. Ідзе ён да йдзе,

але ось супыняе яго варта да й пытае, хто ён і куды йдзе. Тут Салімон прыкінуўся ашалелым да й кажа, што ён сам цар, а што ён ідзе, каб заўладаць небам, бо на зямлі яго людзі зрабілі мяцеж.

Пачула тое варта да зірнула на рваную адзежу да й падумала, што гэта шалёны. Што тут рабіць з шалёным? Пасмяялася варта з яго да й пусціла.

Пайшоў Салімон далей да й думае сабе,— не, мабыць, бог ведаў, што рабіў, як пускаў на свет і шалёных, бо калі б не шалёныя, то б мяне не пусціла варта, а пазнаўшы, пэўне б, забіла.

От пайшоў ён далей да й застаўся ў лесе нанач. Назаўтра пагналіся за ім, каб схваціць да забіць. Падышлі яны ■ таму лесу да й убачылі, што там шмат гадзюк.

— Не,— кажуць яны,— тут нікога не можа быць, бо вельмі шмат гадзюк,— і пайшлі міма.

Зноў падумаў Салімон, што бог ведаў, што рабіў, як тварыў гадзюк.

Нарэшце-такі чуць-чуць не дагналі Салімона. Бачыць ён, што няма як увільнуць, от ён і залез хутчэй у пячору, сядзіць там сагнуўшыся й не варухнецца. Тым часам павук давай хутчэй снаваць свае цянёты акурат у дзвярах тае пячоры. Покуль ворагі Салімона шукаюць яго ўсюды, падышлі да тае пячоры, та павук і кончыў сваю работу, а сам сеў пасярэдзіне й чакае, покуль учэпіцца муха. Падышлі яны й да тае пячоры, да як зірнулі, дак і кажуць, што тут няма чаго й шукаць, пэўне, нікога нямаш, бо павук нават зрабіў павуценне,— да й пашлі далей.

Астаўся Салімон жыў. Ён пазнаў, што ўсё добра, што бог даў на свеце.

## 133. [БОГАМАЛЕННЕ]

Так жыў адзін чалавек, што не ўмеў па-пісьменнаму богу маліцца і ў царкву ніколі не хадзіў, а ўгодны быў богу, бо добрай душы быў чалавек. Жыў ён у адзіноце, нікому злога не рабіў, не заядаў чужога дабра, не піў сіроцкіх слёз, не смактаў людскога поту. З усходам сонца ўставаў, браўся за работу, працаваў шчыра, да поту; з заходам спаць лажыўся.

Устаўшы ранкам і кладучыся спаць, пойдзе, бывала, к калодзе і скача цераз калоду, скача і прыгаварвае:

— Табе, божа! Мне, божа! Табе, божа! Мне, божа!

Раз трыццаць пераскочыць калоду — і ўсяго яго богамалення. А потым доўгага веку дажыўся, спасення заслужыў, і людзі яго шанавалі за яго справядлівасць. Але, вядома, дурны народ: думалі, што кепска яму будзе на тым свеце за то, што ён не ўмее богу маліцца і ў царкву не ходзіць. І сталі гэта яго ўгаварваць:

— Схадзі ды схадзі ў царкву хоць раз у сваім жыцці, без гэтага,— кажуць,— і ў рай не пападзеш.

Паслухаў ён людзей і пайшоў з імі на вялікдзень у царкву. Каб хутчэй дайці, пайшлі яны пуцінкамі. Прыходзяць к рацэ, праз раку маста не было, а так, ляжала кладачка. І сталі людзі пераходзіць на другі бераг па кладачцы, а гэты чалавек пайшоў прама па вадзе, як па сухому. Перайшоў і нават ног не замачыў. Людзі аж дзівіліся.

Прыйшлі ў царкву. Народу там сабралася многа-многа, вядома, вялікдзень. Народ гэта ціскаецца ўпярод, штурхаюць друг дружку, самі не моляцца і другім не даюць. Бабы сабраліся ў кутку і як тыя сарокі сакочуць, адна другую абгаварваюць, толькі сваркі заводзяць, а іншыя дрэмлюць стоячы. Хлопцы з дзяўчатамі смяюцца. Папы бяруць на малебны, таргуюцца, свянцонага свенцяць, мяркуюць, каб сабе болі адрэзаць: вядома, паповы вочы ніколі не поўны.

Вот табе і богамаленне і спасенне душы. Адно грэхаводдзе!

А чэрці сядзяць ды на валовыя скуры грахі запісваюць. І ніхто іх не бачыць, толькі той спасённы чалавек: ён і грэхаводдзе бачыў, як чэрці людзей змушчаюць і як грахі іх запісваюць. Чым больш народу, тым больш грахоў, нават і чэрці не спадзяваліся, што столькі будзе ім уцехі: скур мала падрыхтавалі, не было на чым запісваць. Адзін нячысцік стаў зубамі скуру расцягваць і так зубы ашчэрыў, што і спасённы чалавек не ўцерпеў — засмяяўся. Толькі ён засмяяўся, чэрці ў ладошкі заплясkалі.

Кончылася богамаленне, пайшлі людзі дамоў разгаўляцца. Ідучы назад, папробаваў гэты чалавек перайсці праз раку — і да кален аказаўся ў вадзе. Аж заплакаў небарака, абярнуўся ён к людзям і кажа:

— Добрыя людзі, ішоў я ў царкву, грахоў не меў, з царквi варочаюся — і грахі нясу: гэта яны мяне ў воду пацягнулі. Мабыць, што ў царкві і спасённы саграшыць.

## 134. ЯК МІКОЛА І ПЕТР ЛАШАДЗЕЙ НА УКРАЙНЕ ЗАКУПЛЯЛІ

Гасподзь завёў свет не так, штоба ўвіздзе ўсяго было пароўну: ската, людзей, коні. Сначала была ўсяго болі на Украйне.

Наступаець вясна. Відзіць гасподзь, што беларускаму мужычку пахаць нечым — коні нетуці. Не прападаць жа хоць сабе і нашаму брату з голаду.

Даў гасподзь Міколі, апосталу Пятру дзенег па рашчоту і паслаў іх вабаіх на Украйну закупляць коні.

Мікола вочынь любіў выпіць, і зайдзі ён з Пятром у кабак.

Узялі паўштоф, другей — выпілі. Как завяло ў Міколі ў галаве, Мікола стаў вочынь прост і прапіў усе дзеньгі, што яму бог даваў—да капейкі. Міколы з Пятром цяпер не на шта купляць лашадзей. Сматрыць: бягуць два табуны лашадзей.

Мікола сеў на первую лошадзь, табун за сабою гоніць, а там Пётр на лошадзь з другога табуна — другей табун за сабою гоніць.

І пагналі яны етых лашадзей з сабою, ■ відзець етага ніхто не відаў, толькі што былі свідзецелі: первая — варона, другая — сарока, трэцяя — какушка.

Прыводзяць яны етых коній к богу і хацелі яны, штоба бога абманіць.

Спрашыець у іх бог:

— Што вы етых кані купілі?

— Купілі.

— А свідзецелі ў вас былі, як вы купялі?

— Не, свідзецеляў не была.

Січас жа прылятаець варона.

— А вы пра варону забылі. Што яны купілі коні?

— Укра-алі, укра-алі!..

Сядзіць на веткі да сваё ароць.

Прылятаець сарока.

— Што ты скажаш, сарока?

Сарока з жэрдачкі на жэрдачку перапрыгіваець:

— За ета ім, госпадзі, чы, чы, чы!..

Прылятаець трэцяя какушка,— ета ўзмілавалася:

— Госпадзі, яны купілі, да ку-у-пі-лі, да ку-у-пі-лі!..

Пётр і Мікола ўзрадаваліся, што хоць какушка іх руку дзержыць, тады і гаворуць:

— Вот ты кукуй толькі да Пятра, там табе далі свабодна; а вы, сарока і варона, што сказалі няправільна,— вам цэльны год какуваць: ня будзець вам роздыху нікóды.

## 135. СВЯТЫ ПЁТРА І СКУПАЯ БАБА

Была адна баба страшна скупая; ніколі нічога ніводнаму ўбогаму не давала. Раз, калі палола агарод, прыйшоў жабрак і так доўга і настойліва прасіў, што ўзяла і галоўку цыбулі з пёркам кінула яму. А той жабрак быў святы Пётра, які часам хадзіў па зямлі. Па нейкім часе тая кабета памёрла.

Раз, калі пан Езус са святым Пётрам па тым свеце хадзілі, бачаць, што нехта ў глыбокай пропасці ў полымі страшныя пакуты церпіць. А была то тая самая скупая баба, якая святому Пётру та-

ды кінула пёрку ад цыбулі. Пан Езус злітаваўся і просіць святога Пётру, каб ён яе з полымя дастаў; тады святы Пётра, сарваўшы паблізу росшую пёрку, нахіліўся да пропасці, выцягнуў руку і кажа бабе ўзяцца за пёрка цыбулі, каб яе наверх выцягнуць; але пёрка парвалася і баба ізноў у пропасць упала. Колькі раз святы Пётра рабіў тое самае, і кабета ўсё ў яму вярталася; і далей яе там навекі кінулі.

## 136. БОГ, ЮРЫЙ І МІКОЛА

Ішлі раз праз адно сяло бог, святы Юрый і святы Мікола. Ужо была ноч, а ў сяле ўсе спалі, толькі ў адной лазенцы гарэў аганёк. Узяла цікавасць Міколу і захацеў паглядзець праз ваконца, што там робіцца ў лазенцы. І стаў ён падходзіць к ваконцу. А Юрый яму кажа:

— Не будзь, Мікола, такім цікавым, бо дастанецца табе калі-небудзь за тваю цікавасць.

— Якая табе справа,— кажа яму Мікола,— калі бог маўчыць, дык маўчаў бы і ты, старшы знайшоўся.

І пайшоў святы Мікола пад ваконца. А там, у лазенцы, маладзіца дзіця раджала і баба-пупарэзніца ёй памагала. Толькі стаў Мікола прыглядацца, аж яго з лазні ўбачылі. Які гэта, думаюць сабе, шыбельнік падглядвае: парадзіху хоча сурочыць. Баба, не доўга думаючы, схваціла камень з печкі і як пусціць яго ў вакно, і разбіла лоб святому Міколу, аж заплакаў ён бедны. А святы Юрый над ім смяецца, за бокі хватаецца:

— А што я казаў, што дастанецца табе на барышы за тваю цікавасць. Ой, добра! Не будзь такім надта цікавым.

Усердзіўся святы Мікола.

— Ну,— кажа,— каму, каму, а гэтаму вырадку, што цяпер радзіўся, я дамся ў знакі. Будзе ён мяне помніць. Каб яму дабра не было!

І пайшлі яны далей.

Прайшло пасля гэтага гадоў з дваццаць. Хлопчык, што тады зрадзіўся, як баба святому Міколу лоб разбіла, ужо вырас і зрабіўся гаспадаром... Але не шанцавала яму, ні ў чым дабра не было. Працаваў ён шчыра; б'ецца, як рыба аб лёд, а ўсё няма шчасця. Сядзіць ён раз на заваліне і плача, сваю горкую долю праклінае. А ішоў тудою бог з святым Юр'ем і святым Міколам. Убачыў бог, што плача чалавек, і паслаў святога Юр'я запытацца ў яго, чаго ён плача, і дапамагчы яму. Падышоў Юрый, бачыць: знаёмы чалавек і тады дагадаўся, што ў яго за гора. Але потым пытае:

— Чаго ты плачаш, чалавеча?

Ён яму і расказвае:

— Так і так,— кажа,— няма мне ні ў чым шчасця. За што ні вазьмуся — няшчасце, дый годзе. Працую, гарую, а смаку не чую.

Падумаў святы Юрый, падумаў і кажа:

— Кінь ты гаспадарку, а стань за пастуха і рáдзіся, каб табе плацілі рабым і перапялёсым статкам. Я табе буду спрыяць і ты разбагацееш.

Сказаў так святы Юрый і пайшоў даганяць бога і святога Міколу.

А гэты чалавек паслухаў святога Юр'я: наняўся за пастуха і змовіўся, каб яму плацілі гаспадары за пáсту рабымі і перапялёсымі цялятамі. Папасвіў ён лета, другое, ручыць яму: цяляты родзяцца найбольш рабыя, увесь статак быў здаровы і ніколі не было, каб карова прапала ці каб воўк задраў яе. Паслужыў гэты чалавек два леты людзям, а на трэцяе лета стаў толькі свой статак пасці. Пасвіў ён статак, прадаваў кароў і толькі з гэтага і жыў. І развялося ў яго статку больш, чым ва ўсім сяле. І разбагацеў гэты чалавек. Толькі на яго няшчасце ішоў раз бог, святы Юрый і святы Мікола каля яго статку і стаў святы Мікола дзівіцца:

— Чый гэта такі статак? — пытае ён у бога,— прайшлі мы вялікую акругу, а такога рослага і тлустага статку не бачылі.

Бог і кажа:

— Гэта статак таго чалавека, што табе на яго радзінах бабы лоб разбілі.

Узяла злосць Міколу і кажа ён богу:

— Божачка! Зрабі ты так, каб ён са ўсяго гэтага статку не меў карысці.

Бог Міколу паслухаў — і напаў на статак мор: перадох увесь статак.

Пасля гэтага ізноў праходзіў тым месцам бог, святы Юрый і святы Мікола: бачаць, плача гэты чалавек. Бог і пасылае святога Юр'я запытацца, чаго плача, і памагчы яму. Святы Юрый распытаў і кажа таму чалавеку:

— Прадай ты скуры ад кароў і купі пшаніцы. Засей гэтай пшаніцай поле, і як будзе ісці каля твайго поля бог, папрасі яго, каб ён перажагнаў тваё поле. Будзе табе вялікі ўраджай.

Сказаў так і сам пайшоў.

Так і зрабіў гэты чалавек і ўрадзіла ў яго пшаніца... Глядзіць чалавек,— не нарадуецца.

Аж ішоў раз яго полем бог з святым Юр'ем і святым Мікалаем.

— Чыя б гэта была такая пшаніца? — пытае Мікола ў бога.

— А гэта таго чалавека, што на радзінах табе бабы лоб разбілі,— кажа бог.

І просіць святы Мікола:

— Дай, божа, каб ён яе толькі рашато з гумна прынёс.

Бог яго паслухаў: наслаў град на гэтае поле — пабіў град усю пшаніцу, і толькі рашато намалаціў яе той гаспадар.

Ізноў плача ён на сваю долю. Аж бачыць: ідзе бог. І пайшоў той чалавек да бога на скаргу.

— За што ты, божа,— кажа ён,— пасылаеш на мяне такія плягі? Чым я правініўся? Дай мне які спосаб к жыццю!

Бог яму і кажа:

— Займайся гаспадаркай, як і займаўся, але толькі на вясноўскага Міколу спраў Мікольшчыну.

Так і зрабіў гэты чалавек. Справіў гучную Мікольшчыну і запрасіў на яе чуць не ўсё сяло. Аж неўзабаве падышоў і бог з Юр'ем і святы Мікола. Прайшлі яны дарогу дужа вялікую і былі галодныя. І папрасіў іх гаспадар у бяседу, пасадзіў іх на куце і стаў частаваць, як мог. Мужыкі падвыпілі і сталі Мікольшчыну пяяць, святога Міколу выхваляць:

А хто, хто святога Міколу любіць,
А хто, хто святому Міколу служыць,
Таму святы ўгоднік памагае,
Ад зла, напасці зберагае.
А хто, хто святога Міколу моліць,
А хто, хто святога Міколу просіць,
У таго ніўка дожджыкам паліта,
У таго жыта градам не пабіта.

А святы Мікола сядзіць і радуецца. Пад канец бяседы ўзяў святы Мікола чарку і п'е да гаспадара, кажучы:

— Дай жа, божа, каб табе весела жылося, усё шчасліва вялося!

Бог кажа:

— Добра! Але ці ведаеш за каго ты просіш? Гэта ж той чалавек, што табе на радзінах бабы лоб разбілі.

Святы Мікола так улагодзіўся, што перастаў на таго чалавека гневацца. І з той пары стаў ён шчасліва жыць...

## 137. БОГ І СВЯТЫ МІКОЛА

Ішоў раз бог і святы Мікола, і ішлі яны дарогай і ноч іх заспела. Прыйшлі яны ў вёсачку і сталі ў мужыка на ноч прасіцца, а мужык той і не пусціў, кажа:

— У мяне цесна, ідзіце сабе з богам далей.

Пайшлі яны, нічога не зробіш. Ідуць, ідуць — глядзяць, ажно ў лазні агонь свеціцца. Бог жа ведаў, які гэта агонь свеціцца, а Мікола і кажа:

— Што гэта ў лазні агонь свеціцца, хто б гэта там уночы сядзеў, пайду пагляджу.

А бог кажа:

— Ідзі, калі хош.

Вот ён і пайшоў. Толькі што дзверы адхутаў, ажно яму плёск у вочы вадой з начовак. А ў гэтай лазні ды была радзіха. Баба толькі што дзіця пакупала і стала воду выліваць, ажно тут Мікола падаспеў. Разгневаўся той Мікола.

— Ну,— кажа,— не будзе ж гэтаму дзіцяці шчасця.

І пайшлі яны з богам далей. Вот дзіця гэтае як расці, дык расці і вырасла вялікае, толькі было дужа беднае, маці яго памерла, не было ў яго ні што насіць, ні што есці і на работу яго ніхто не браў. Вот і сустрэў раз яго гасподзь бог. І стаў пытаць:

— Куды ты ідзеш, хлопчык?

А ён кажа:

— Іду, дзядзенька, куды вочы глядзяць, няма ў мяне ні кала, ні двара, хоць бы хто ў пастухі наняў.

А бог кажа:

— Ідзі вунь у тую вёску, там ёсць багаты мужык, ён цябе найменць, ты ў яго платы не бяры, а папрасі самую драную цялушку ў стадзе.

Паслухаў той хлопец бога, пайшоў к мужыку і стаў яму ў пастухі нанімацца. Мужык пытае:

— Што ж табе заплаціць?

А ён кажа:

— Не трэба мне ніякай платы, а дай ты мне што ні на ёсць драннейшую цялушку ў стадзе.

Мужык кажа:

— Ладна, дам табе цялушку.

Вот і пасець ён статак мужыка і сваю цёлку, і разраслася яго цёлка, проста такая зрабілася карова, што ў стадзе роўнай ёй няма.

Вот ідуць раз зноў бог з Міколам, ідуць дый каля таго стада мужыка. І стаў Мікола дзівіцца:

— Ой,—кажа,—чыя-то такая карова, вот жа гладкая, і ні разу ж я нідзе такой гладкай не бачыў.

А бог кажа:

— Гэта ж таго хлопца, што з яго табе вочы залілі.

— Ну, так,— кажа тады Мікола,— з'ядуць жа гэту карову ваўкі.

Толькі што ён так сказаў, адкуль ні вазьміся — тры ваўкі, як беглі, так прама за хлопцаву карову і разарвалі яе на кусочкі. Стаў той хлопец плакаць, бедаваць, а бог кажа яму:

— Не плач, папрасі цяпер у мужыка горсць пшаніцы і пасей сабе на лядзе.

Вот і стаў хлопец той прасіць у мужыка:

— Дай мне трошку пшаніцы, я сабе пасею.

Мужык даў яму гарнец. Вот ён узяў высек з пяток кустоў, капнуў разкі з два і пасеяў тую пшаніцу. Налета як урадзіла ж яна, дык божа мой! З кожнага зярна — дзесяць калоссеў, а на кожным коласе — сто зярнят.

Ідуць раз бог з Міколам улетку каля той пшаніцы і стаў Мікола дзівіцца:

— Чыя-та такая пшаніца? Ад роду такой не бачыў.

А бог кажа:

— Гэта таго хлопца, што табе вочы заліваў.

— Калі ж так,— не быць жа гэтай пшаніцы.

Адкуль ні вазьміся — хмара з громам, з бліскавіцай, збіла, скруціла, з зямлёю змяшала яму пшаніцу, так што і следу не засталося.

Плача зноў бедны хлопец, гаруе.

Мужык кажа:

— Не плач, што ж рабіць, калі цябе бог усё крыўдзіць, як-та, кажуць, з богам не біцца.

Вот і ішоў раз зноў бог і сустрэў таго хлопца і кажа яму:

— Папрасі ты ў гаспадара горсць жыта і пасей дзе-небудзь, а на лета, як ужо гэта жыта вырасце, вазьмі ды прадай яго папу, можа, ты з тых грошай разжывешся.

Паслухаў хлопец, стаў у мужыка жыта прасіць:

— Дай мне,— кажа,— хоць горстачку жыта пасеяць, можа, я як-небудзь разжывуся.

Даў яму гаспадар гарнец жыта і абмежак зямлі, дзе пасеяць. Пасеяў той хлопец жыта,— як вырасла ж яно, дык яшчэ лепшае за тую пшаніцу.

Улетку, як ужо стаў бачны ўраджай, узяў дый прадаў папу. Вот і ішлі раз зноў бог з Міколам каля поля. Стаў Мікола пытацца:

— Чыё-та такое жыта, вот жа жыта, дык жыта.

А бог кажа:

— Папова.

І пайшлі сабе далей. А поп тое жыта зжаў, хлопцу заплаціў і разжыўся наш хлопец з тых грошай, і абшукаў бог Міколу.

## 138. ЮРАЙ, МІКОЛА І МУЖЫК

Арэ мужык, а едуць якіясь два паны вярхамі. Пагнаўсь мужык у другі канец, а яны пад'ехалі к яго калёсам і прывязалі сваіх коней к траве к яго. На калёсах трава была. Вярнуўсь мужык назад ужо, з канца таго, другога, прыязджае к калёсам. Яны гавораць мужыку таму:

— Ты мо травіцы жалееш тае?

Дык ён:

— Не,— кажа,— паночкі, на здароўіка коням вашым, паночкі. Паелі, паелі, яшчэ найдзем...

Тады Юрай гавора ўжо:

— Запражы-тку майго каня, свайго выпраж. Ці багата палос у цябе ё?

— Дзве паласы яшчэ ё.

Ну, дык ён перапрог каня, свайго выпраг, а Юравага запрог. Як паехаў — адну паласу адразу ўзараў. Тагды той ужо, Мікола, кажа: «Ну, цяперака запражы майго каня».

Ён запрог, паехаў, узараў яшчэ паласу адразу ўсю... Тагды Мікола кажа мужыку:

— А што, каторы лучча конь?

— Во ета, паночкі, лучча конь,— на Юрава каня гавора.

Ну, яны і паехалі. Тагды Мікола ўжо кажа Юраю:

— Я,— кажа,— мужыку адаб'ю гразью ўсё чыста, марозам вымаражу.

Ну, Юрай, пачуўшы гэта, к мужыку:

— Так і так,— кажа,— дзелай. Буры не дажыдай, тое ўрэмя дзелай.

Ну, мужык так і здзелаў. Цяперака жыта ўрупіла харашо. Юрай цяпер гавора мужыку:

— Прадай,— кажа,— жыта яўрэю якому, ці каму.

Ну, мужык пашоў набіўся яўрэю. Яўрэй той бача, што рунь харошая, даў яму грошы,— наградзіў так, што божа мой.

Ну, цяпер яўрэй той даждаўся, знатца, вясны ўжо,— няма руні тэя ніўдзе. Ён тады на мужыка:

— Давай,— кажа,— грошы мае тыя. Што я за пустую зямлю плаціць буду,— кажа.

А Юрай пад'едзе к мужыку дый наўчае:

— Аддай,— кажа,— а жыта тваё,— кажа,— ізноў як было, так і будзе.

Ну, потым яўрэй узяў свае грошы,— аддаў мужык грошы. Жыта тое такое ўзялось,— немаведама адкуль.

Ну, цяперака Мікола кажа:

— Я,— кажа,— градам, бурай паламаю ўсё.

Юрай тагды к мужыку:

— Лядзі ж,— кажа,— у тое і тое ўрэмя вазьмі,— кажа,— наймі і сажні — і ў ёўню; сычас у гумно перавязі.

Ну, мужык так і здзелаў. Нічога яму Мікола не згразіў. Ну, тагды прыязджаюць яны ізноў удваіх.

— О, хіцер,— кажа,— мужычок! Ну, ды я на яго злыдню,— кажа,— нашлю.

А таго Мікола нічога не ведае, што Юрай научае мужыка. Ну, Юрай сычас мужыку кажа:

— У парожні,— кажа,— амбар прасячы вакошкі два малых, а дзверы пазабівай на завал.

Ну, прыслаў Мікола злыдню. Яна прышла ў амбар, сядзела, сядзела — нечага есць, з голаду прападае. Ну, яна і вышла. Знатца, нічога не здзелала па прыказу Міколаву. Мужычок жыта памалаціў і жыве — спажывае яго.

## 139. [ЮРЫЙ, МІКОЛА І МУЖЫК]

Хадзіў Мікола з Юр'ем па зямлі. Раз ідуць яны дарогай, аж пашыць мужык пшаніцу каля самай дарогі. Яны гавораць яму:

— Здрастуй, мужычок! Бог помач.

— Здароў, дзякуй!

Ну, прайшлі яны дальшы і заспаравалі: каму з нас мужык здрастуй даў? Мікола каець:

— Мне даў, бо я чалавек стары.

А Юр'я гаворыць:

— Мала што ты стары, ды ён мне даў здрастуй, а не табе.

— Ну, калі так — вернемся назад і спытаемся.

Вярнуліcь назад к мужыку:

— А што, брат, каму ты з нас здрастуй даў?

Мужык падумаў-падумаў ды й кажыць:

— Канешне етаму староому чалавеку.

Мікола тады кажыць:

— А што, Юр'я, я табе казаў, што мне мужык даў здрастуй, а не табе, блазну.

Юр'я рассярдзіўся і гаворыць:

— Ну, калі ж ён табе даў здрастуй, дык я яму ету пшаніцу ўсю градам паб'ю.

Вырасла тая пшаніца ў мужыка дужа ладная. Жалка стала Міколу мужыка. Прыходзіць ён к мужыку і гаворыць:

— Здзелай-тку ты так, як я табе скажу: схадзі ты к багатаму куму к свайму і прадай яму ету пшаніцу, хоць за асміну жыта, а то яна саўсім прападзець.

Мужык так і здзелаў. Прыходзіць к куму і гаворыць:

— Вот што, кум, я к табе хаджу: дай ты мне асміну жыта, а сабе вазьмі маю пшаніцу. Прызнацца, хлеба ўмалення, купляць незашта, новага выжыдаць няскора, шчэ далёка песня, а дзяцей карміць нада; грошай у мяне няма, дык ты хоць пшаніцу вазьмі. Без грошай жа ты не дасі.

— Канешне, без грошай не дам. А на пшаніцу можна. Ідзі скарэй за мяшкамі ды не гавары нікому.

Рад стаў, што етую пшаніцу за асміну жыта купіў, і ўсё счытаець, колькі ён нажнець, намалоціць. Аж найшла сільная бура і пабіла градам пшаніцу, усю чысценька ўмясіла ў зямлю.

Тады гаворыць Мікола Юр'ю:

— Ты разумен, а мужык яшчэ разумней: ён жа ж прадаў пшаніцу за асміну жыта багатаму куму. Ета ты кумаву пшаніцу пабіў!

— Ну ж калі так, я нараджу з етай саломкі дужа харошую пшаніцу. А той багаты кум стаў кума ругаць:

— Хто цябе знаіць, можа, ты якей чараўнік: давай назад маю асміну жыта, няхай табе твая пшаніца.

Што тут дзелаць мужыку: ні грошай няма, ні пшаніцы, і жыта наеў. Жалка Міколу стала мужыка, прыходзіць к яму і даець грошы:

— Купі, — каець, — асміну жыта і аддай куму, а пшаніцу вазьмі назад сабе. Толькі як паспеіць — ва адзін дзень звязі з поля.

Ну, тэй так і здзелаў. Тады Мікола гаворыць Юр'ю:

— Ты разумен, а мужык разумней: ён аддаў куму асміну жыта, а пшаніцу ўзяў назад сабе, і ты нарадзіў не куму, а яму.

— Ну, калі ж так, дык я не дам умалоту етай пшаніцы: хоць ён пасадзіць на ёўню тры копы — вымалаціць тры меркі, хоць усю разам пасодзіць — усё тры меркі.

Прыходзіць апяць Мікола к мужыку:

— Ну, пшаніца твая ўрадзілась добрая, але ты садзі яе на ёўню ўсё па тры снапы.

— Добра, старычок, буду так дзелаць, як ты кажаш.

Пачаў мужык малаціць пшаніцу; і содзіць па тры снапы, а бярэць па тры меркі чыстае пшаніцы. Насыпаў повен амбар. І стаў прадаваць, і на ноў у паўтора раздаваць, стаў багацець. Тады Мікола гаворыць Юр'ю:

— Разумен ты, а мужык яшчэ разумней: ён садзіў на ёўню па тры снапы, а браў пшаніцы па тры меркі.

— Ну, калі ж ён хіцёр, дык я пастаўлю ля дзвярэй, ля амбара Прорву: яна паесць яго пшаніцу.

Пайшоў Мікола апяць к мужыку і каець яму:

— Прысячы ты ў сваім амбары дзверы ў другой сцяне, на гарод; ці сам будзеш браць пшаніцу, ці прадаваць, дык усё ў тыя дзверы. А еты закалаці!

Ну, мужык так і здзелаў. Раздаў, распрадаў пшаніцу і стаў багатым хазяінам. А Прорва стаіць ля забітых дзвярэй, з голаду дохнець.

Тады Мікола гаворыць Юр'ю:

— Што, брат, разумен ты, ды мужык усё-ткі разумней: ён жа ж забіў еты дзверы, дзе ты Прорву паставіў, а праз другія пшаніцу распрадаў, разбыў і стаў багатым.

Рассердзіўся тут Юр'я.

— Ну, калі ж так, дык я яго спалю з усім яго дваром і дабром...

Стала жалка Міколу мужыка. Ідзець ён к яму:

— Што, брат, ці празнуюць у вас у восень Юр'ю?

— Празнуюць, і не то што Юр'ю, дык і Міколу празнуюць.

— Дык вот што я табе скажу: ссучы ты к Юр'ю тры свечкі — адну бальшую, другую паменшую, а трэцюю саўсім маленькую. І бальшую пастаў у цэркві Юр'ю, другую — Міколу, а самую малую — усім святым.

— Добра, здзелаю!

Ну, прыйшло Юр'я. Ідзець мужык у цэркву к абедні і нясець тры свячы. Стрэлісь з ім Мікола і Юр'я.

— Здрастуй!

— Здрастуйце, мае дарагія!

— Куды ты ідзеш?

— А к абедні.

— А свечкі каму нясеш?— пытаецца Юр'я.

— А каму ж я нясу: бальшую — ету Юр'ю: яго сягоння празнік, памаліцца яму, святому ўгодніку, трэба. А меншую — Міколу, а самую малую — ету ўсім святым.

— Ну, маладзец, што ты дагадаўся — мне самую бальшую свечку нясеш ставіць, а то я ўжо хацеў цябе спаліць. Цяпер жыві сабе з богам.

Папрашчалісь і пайшлі сабе дальшы. Мужык шапку зняў і ў землю пакланіўся, прашчайце! Тут ужо ён узнаў, што ета былі людзі не простыя, а абое ўгоднікі — Юр'я і Мікола.

## 140. МІКОЛА, ЯГОРЫЙ І МУЖЫК

Жыў сабе мужычок адзінокі, старацельны чалавек. Пашоў ён у ляда і пачаў біць. Ішоў Мікола і Ягорый па дарозе, міжда сабою разгаварываюць. Ягорый гаворыць Міколу:

— Во што, Мікола.

— Ну, сказывайце, Ягорый.

— Сходзім-ка мы к етаму мужыку: хто ў нас, міжда дваіх, красівей.

Мікола гаворыць яму:

— Ягорый, не нада нам распрашываць у яго, хто ў нас красівей.

— Не, брат, сходзім.

— Ат, што ты, брат, гаворыш: табе што скажы, то, Ягорый, ты тады ўгневаешся.

Ягорый атвечаець:

— Не-е. Пойдзем, Мікола.

— Хадзі сабе.

Пашлі. Прыходзяць к мужыку.

— Бог помач, чалавеча!

— Спасіба!

— Ну, што, добры чалавек, хадзі з намі пасядзі, пагамані.

— Братцы! Рад бы я з вамі пагаманіць, ды мне некалі: адзінокі я чалавек, памагаць мне некаму. Сямёра ў мяне, — гаворыць, — з ложкаю, а я адзін із сошкаю.

— А хадзі, добры чалавек, пасядзі, пагамані.

Прыходзіць еты чалавек.

— Ну што, добры чалавек, будзем у цябе распрашываць: хто ў нас, міжда дваіх, красівей?

Браты, вы абаі роўныя, і красівыя і прыгожыя.

— Не, няпраўду ты нам гаворыш. А скажы, хто міжда нас красівей?

— Не, братцы, абаі харашы, усё роўна як браты аднаго атцамацеры.

— Не, скажы, добры чалавек, хто ў нас красівей?

— Ну, хочацца вам, братцы, сказаць: вы абаі на ліцо харашы, толькі ў етага вот нос курнос,— на Ягорыя.

Ну, Ягорый угневаўся, і пашлі яны па дарозе. І Мікола Ягор'ю гаворыць:

— Ці я табе не казаў, Ягорый, што ты ўгневаешся?

— Ну, — гаворыць, — нічога: няхай работаець, я ў жыта ядра не ўкладу. Больш не будзець вымалачываць — з авіну тры меркі.

Узбіў еты мужычок ляда, пасеяў жыта. Як зарадзіла тое жыта, што лучча не нада быць. Але саломаю хароша, а зярнят няма.

Прыходзіць Мікалай к яму ў дом:

— Ну што, мужычок, не скучай, не клапаці. На-ка табе руб грошай і пі гарэлку і пей песні.

Начаў еты мужык гарэлку піць і песні пець. Гавораць суседзі бліжаюшчыя:

— Пей, пей песні! Ды шчэ з чым ты будзеш зімаваць, што ў жыці ў тваём няма нічога? Адна салома толькі.

Ну, прыходзіць урэмя жыта жаць. Пажаў. Прыходзіць Мікола к яму і гаворыць:

— Вот што, мужычок, што я табе скажу: ты Ягор'я ўгнявіў, дык Ягорый сказаў, што з авіна будзеш вымалачываць толькі тры меркі. А ты, мужычок, садзі на авін па дзевяць снапоў, будзеш браць па тры меркі.

Начаў еты мужычок малаціць, па дзевяць снапоў на авін саджаць і па тры меркі браць. Намалаціў мужык жыта, што й дзяваць нейдзе.

Прыходзіць Мікалай к Ягор'ю:

— Ягорый, ці знаеце вы што?
— Скажыце.
— А вот што я вам скажу: той жа мужык па дзевяць снапоў саджаў на авін, а па тры меркі браў.
— Ну, харашо! Я пашлю на яго хлеб чарвей...
Як началі етыя чэрві разнашаваць хлеб з кляцей! Етый мужычок стаў сільна плакаць. Прыходзіць к яму ў дом Мікалай:
— Што, мужычок, не плач, ідзі ў царкву, купі свечак: мне за капейку і пастаў і скрыві, а Ягор'ю за рубля свячу купі і пастанаві перад Ягор'ем і станавісь на каленках, і ўкланяйся слёзна...
Пашоў мужык у царкву і купіў свечку Мікалаю за капейку і паставіў і скрывіў. Тады купіў свячу за рубля і пастанавіў перад Ягор'ем, а сам станавіўся на каленках серадзі царквы і стаў сільна плакаць, і сашчапіў рукі, і начаў кланяцца і прасіць бога і Ягор'я, і Мікалая:
— Госпадзі, не выстаў мяне, рабы твае!
Мікалай гаворыць:
— Ягорый, перастаньце вы гневацца! Вот вам свячу купіў за рубля, а мне за капейку і тую скрывіў, а я і то не гневаюся.
— Ну,— гаворыць,— заўтра марозчык будзець і памарожу я чарвей...
Ну, даў гасподзь марозчык і памарозіў чарвей. Той хазяін як жыў, так і жывець.

## 141. НЕСЦЕРКА

Як жыў сабе Несцерка, было ў яго дзяцей шэсцерка. Ён круціў, матаў і гэтым душу сваю і дзяцей пітаў.
Вот раз ехаў святы Юрый-Ягорый па сваім дзялам к богу на савет, тады Несцерка стаў прасіць Юрыя-Ягорыя, каб ён папытаў у бога, як яму, Несцерку, жыць; але каб Юрый не забыўся на яго, так Несцерка ўзяў да й адвязаў адно страмяно залатое ў Юрыя.
Вот Юрый-Ягорый пабыў у бога і хацеў ехаць у двор, але як зірнуў, што стрэмя няма, тады ўздумаў на Несцерку, вярнуўся ізноў к богу і папытаў, як Несцерку далі жыць.
А бог яму і кажа:
— Няхай так жыве, як жыў.
Як вярнуўся Юрый ад бога, Несцерка і пытаець у Юрыя, ці пытаў ён у бога пра яго. Юрый кажа, што пытаў, і бог казаў:
— Няхай так Несцерка жыве, як жыў.
Тады Юрый-Ягорый кажа:
— Ну, Несцерка, давай маё залатое страмяно.
А Несцерка:

Якое? Я не браў, і ў мяне няма ні страмяна, ні сядла, і каня няма, адкуль яно будзе ў мяне?

І не даў.

## 142. ІЛЬЯ І ПЯТРО

Даўно тое было, як яшчэ сам бог па зямлі хадзіў. Аддаў бог увесь свет Ільі й Пятру. Але, ведама, дзе два паны, там ніколі ладу няма. Адзін пасылае дождж, а другі — пагоду. Плачуць хмары, не ведаюць, што рабіць, каго слухаць. Пойдзе дождж, та Пятро бяжыць да крычыць, лаецца, на чом свет стаіць:

— Што вы, патаскухі, робіце, нашто мочыце сена, цяпер жа людзі косяць!

— Нам, — кажуць, — Ілья прыказаў.

— Ах, вы... — лаецца Пятро, — я вам пакажу Ілью! Ілья заўсёды наробіць гнілля.

Ухваціць Пятро мятлу і паразганяе хмары па куткох, а неба чысценька падмяце. Та ось, адкуль ні вазьміся, тарахціць, едзе Ілья, крычыць, як на жывот, аж неба й зямля дрыжыць. Хмары таўкуцца, як непрытомныя, вылазяць з куткоў, і ўжо ліне такі дождж, што не толькі берагі, але і груды паплывуць. Жаляцца людзі богу, што паны дзяруцца, а ў мужыкоў чубы трасуцца, жаляцца й просяць, каб бог даў пагоду. Прызаве бог Ілью, насварыцца на яго, а той кажа, што тольки развялося нечысці-чарцей, што трэ іх громам пабіць, бо ўвесь свет запаганяць. Прызаве бог Пятра і кажа, што няхай Ілья трохі папалюе чарцей. А Ілья тым часам падніме такія грымоты, што аж зямля стогне: няма ні дня, ні ночы; хмары таўкуцца, як уюны ў рэшаце; на небе кіпіць, як у гаршку; маланка бліскае, аж у ачу цёмна становіцца, а пярун смаліць раз-паўразу, паласуе хвоі, дубы да паліць будоўлю альбо стагі. А Ілья ездзіць сабе па небу ды камандуе:

— Так, так, так! Го-го-го! Яшчэ, яшчэ... Лупі, лупі яго, гада... от так-так... Го-го-го! Трэсні яго па затылку! Го-го-го! У патыліцу, у патыліцу лупі яго, гада! Трах-трах! Так-так-так! Го-го-го!

Просяць людзі на прамілуй бог, каб уняліся грымоты, а Ілья не слухае. Ходзіць Пятро да плюецца бяззубым ротам ад злосці. Нацешыцца Ілья, пачысціць сваю каляску і паедзе к сонейку ў госці. Тут Пятро падмяце неба ды давай сушыць зямлю. От ужо падыходзіць пара сеяць жыта, а зямля сухая, як прысак, — зноў бяда! Бяда ўжо, што няма дажджу. А Ілья сваволіць сабе з сонейкам, а пра зямлю забыўся. Не маюць вока адзін на другога Ілья і Пятро, сярдзітыя, баяцца, каб і не сустрэцца. Але от раз уздумалі яны пахадзіць па зямлі, папытаць людзей, каго яны больш любяць: Пятра ці Ілью. Як сышлі яны на зямлю, так па немалым часе і сустрэліся. Ідуць яны разам і спорацць: Пятро кажа, што яго больш любяць лю-

дзі, а Ілья кажа, што яго. Як даканацца, чыя праўда? Бачаць яны, аж чалавек сее грэчку.

— От, — кажа Пятро, — давай папытаем, каго мужыкі больш любяць?

— Папытаем, — маўляў Ілья.

— Памагай бог! — кажа Пятро.

— Дзякаваць.

— Скажы, добры чалавеча, каго вы больш любіце, Пятра ці Ілью?

Мужык зняў з плеч сявок, паставіў яго на зямлю, пачасаў патыліцу дый кажа:

— А багі яго знаюць, каго мы больш любім: мо Ілью, мо Паўла-Пятра.

— Ты не гарадзі плота, — кажа Пятро, — кажы проста.

Ілья і Павел-Пятро — добрыя святкі; мы іх і любім.

А каго больш?

Бачыць мужык, што тут не выкруціцца, і кажа:

— Пэўне ж Паўла-Пятра.

Аж затросся Ілья ад злосці. Пайшлі яны далей, а Ілья і кажа:

— Ото ж спяку я за гэта яму ніву — нічога не зародзіць.

А Пятро кажа:

— А я намачу і зараджу.

— Калі так, дык я зраблю ось як: хто першы ўкусіць з гэтае нівы перапеч, той падавіцца.

Ухмыліўся Пятро і пайшлі яны далей.

Было вельмі добрае лета: аб дзень пагода, цяпло, а ўначы ці цёплая раса, ці ціхенькі цёпленькі дожджык. Расце ўсё як на дражджах; здаецца, пасадзі на поле дзіця, та й тое вырасце. Зарадзіла грэчка па пояс, аж палегла. Набіў мужык паўгумна.

От намалаціў ён грэчкі, намалоў, і напякла баба свежых перапеч поўну печ. На той час прыходзяць у тое сяло Ілья з Пятром і заначавалі ў таго мужыка. Забыўся Ілья, не пазнаў таго мужыка.

От селі яны вячэраць.

— От жа, дзякаваць богу, — кажа мужык, — зарадзіла цяпер грэчка, папробуйце, госцікі, свежых перапеч.

А Ілья такі добра прагаладаўся. От ён як хваціў перапеч, — так і падавіўся. Туды-сюды ён, і вадою запіваць, і кулаком біць у грудзі і ў спіну — от хоць бы што. Дагадаўся ён, што гэта праклятыя ім перапечкі, і давай ён перапрашаць мужыка й Пятра. Дак насілу ачухаўся.

От з тае пары годзе Ілья мяшаць людзям сена касіць. Але ўсё б было добра, каб Пятро не быў такі стары да глухі. Бог кажа:

— Пасылай тагды дождж, як людзі просяць.

А ён не дачуе, да й пасылае дождж, як людзі косяць.

## 143. БАГАЧ І БЕДНАЯ УДАВА

Даўней, як яшчэ людзі былі не так грэшны, хадзіў па свету бог з сваімі апосталамі. Раз ішлі бог, святы Юрый і святы Мікола. Прайшлі яны дарогу дужа вялікую, замарыліся, захацелі есці і піць. Прыйшлі ў сяло! Падыходзяць да новай вялікай хаты. І кажа святы Юрый:

— Божа, у гэтай хаце пэўна жывець багаты чалавек, зайдзем да яго і папросімся начаваць, можа, ён нас чым-небудзь пачастуе.

Зайшлі. Сам багатыр ляжыць, выцягнуўшыся на по́лку, пасярод хаты стаіць светач, а ў светачы лучынка гарыць, пад лучынкай стаіць жлукта з вадой, каб вуголле падала ў жлукту, а не на падлогу.

— Пусці, чалавеча, нас пераначаваць, — кажа святы Юрый.

— Няма дзе. Ідзіце далей.

— Дай хоць вады напіцца.

— Пі, калі хочаш, вунь стаіць у жлукце.

І багатыр паказаў ім на жлукту, куды вуголле ад лучыны падала.

Папробавалі гэтай вады святы Юрый і святы Мікола і выйшлі. Перайшлі ўсё сяло. На канцы сяла стаяла маленькая хатка. У гэтай хатцы жыла бедная ўдава. Дзяцей у яе як бобу, а хлеба ні дробу. І кажа бог святым Юр'ю і Міколу:

— Вот тут мы пераначуем.

Зайшлі ў хатку.

— Пусці, кабета, нас пераначаваць.

— Начуйце, — кажа, — добрыя людзі, на здароўе. Вам жа сваёй хаты на адну ноч не будаваць.

Была ў гэтай удавы адна кароўка. Удава падаіла кароўку і дала малачка павячэраць сваім начлежнікам, а сама з дзеткамі і так спаць легла. На заўтрашні дзень бог падзякаваў удаве за начлег і пайшоў са святымі сваімі далей, людзей дабру вучыць.

Ідуць яны, ідуць — аж коціцца ім насустрач бочка з золатам. І пытае бочка ў бога, куды ёй каціцца.

— Каці, — кажа бог, — у гэтае сяло к таму багатыру, што нас на ноч не пусціў.

І кажуць святы Юрый і святы Мікола:

— Божа, няхай лепей коціцца яна к добрай удаве, што нас прыняла...

Бог іх не паслухаў.

Бочка і пакацілася к багатыру. Ідуць далей. Спатыкае іх галодны воўк. Стаў воўк прасіць бога пазволіць яму з'есці чыю-небудзь карову.

— Бяжы, — кажа бог, — у гэтае сяло і з'еш карову той удавы, што мы сягоння начавалі.

Тут ізноў сталі прасіць бога святы Юрый і святы Мікола, каб

бог сказаў воўку звесці карову багатыра, бо ў яго многа кароў, а ў удавы толькі адна. Што яна будзе есці з дзеткамі? Бог іх не паслухаў. І кажа воўк богу:

— Як жа я пазнаю ўдовіну карову?

— Яна сама чорная, а на лбу белая метачка.

Воўк і пабег.

Прыйшлі ў другое сяло. Бог стаў народ вучыць. І кажа Мікола святому Юр'ю:

— Пакуль бог будзе вучыць людзей, збегай ты ды замаж маззю ў удовінай каровы белую метачку — воўк і не пазнае яе.

Юрый пабег. Збегаў, замазаў і назад вярнуўся. А воўк бегаў, бегаў — не знайшоў ні адной чорнай каровы з беленькай метачкай. Прыбег к богу і гаворыць гэта яму.

— Панюхай, каторая пахне маззю, тую і еш.

Убачыў Юрый, што яго праца прапала дарма...

## 144. БОГ І ЎДАВА

Ну, вот так ішоў сабе гасподзь там з Юр'ю і з Міколаю, і абняла іх цёмная ноч. Зайшлі яны на ноч к удаве, і захацелася ім есь... А ў яе нету нічога, толька крайчык хлеба на стале. Тады йны тэй хлеб укралі і з'елі, Мікола з Юр'ю. Тады яна агледзелася — ругала, сварылася на іх:

— У мяне дзяцёнку нечага есці. На ноч пусціла, а вы ў мяне хлеб укралі...

Ну, пайшлі яны тожа дарогаю — бяжыць воўк.

— Божа, божа, пішчы мне дай, я есь хачу.

Гасподзь каець:

— А йдзі, у тое ўдавы, дзе мы начавалі, ляжыць падсвінак пад полам, — дык ты яго вазьмі.

Яны да й упрашваць бога:

— Мы ж хлеб у яе, — гаворуць, — укралі, а ты, госпадзі, шчэ падсвінка аддаеш яму.

— Нічога, — каець, — хай, дармо.

Патом воўк пабег ды ўхапіў падсвінка і пабег.

Ідуць яны дарогаю — коціцца бочка грошай.

— Божа, божа, — гавора, — куды мне каціцца, — мне места няма?

А кацісь, гавора, к багатаму мужыку і рассыпся ў варотах; дык ён выйдзець, цябе хараша прыбярэць.

А тыя апосталы гаворуць:

— Божа, божа, пашлем гэтую бочачку ўдаве: вы парасёнка аддалі, а мы хлеб укралі, — дык ёй бедна.

А гасподзь каець:

— Не, у ёй схавацьь нейдзе гэтай бочкі грошай.

Пайшлі яны апяць. Ішлі, ішлі, паўтаміліся і сталі аддыхаць. І дужа ў скверным месці: вады нету, змеі, гады, нялюбае места. Пабылі яны там усяго тры часы, ім паказалася тры гады, тым-то. Ну, тады пайшлі яны далі. Сталі начаваць. І ў таком-то месці ўдачнам. Удобнае места, усяго даволі. Пабылі яны там тры гады ў удачным месці. Ну, гасподзь каець:

— Пойдзем.

— Не, пабудзем яшчэ. Тут удачнае места, і мы мала былі.

— Ну, як жа мала, — гаворыць, — мы тут жывем тры гады, а вам паказалася тры часы, — патом, што ўдачнае места.

Ну, цяпер ён гаворыць:

— Ці знаеце, — гаворыць, — хто па гэтых местах будзець жыць? У гэтым месці, няўдобнам, будзець той багач жыць, што мы паслалі бочку золата. А ў удобнам месці, у гэтым, будзець удава тая жыць.

## 145. [СВЯТЫ ЮРАЙ ПРЫЗНАЧАЕ ВАЎКУ, ЯКУЮ КАРОВУ З'ЕСЦІ]

Жыла адна ўдава. Была ў яе чорная з лысінаю карова. Прызначыў святы Юрай ваўку з'есці гэтую карову. Дачулася пра гэта ўдава. Суседзі ёй парадзілі замазаць лысіну ў каровы чым-небудзь чорным. Удава гэтак і зрабіла. Прышоў у быдла воўк, шукаў-шукаў чорнае каровы з лысінкаю і не знайшоў.

Пашоў ён да святога Юр'я і стаў жаліцца яму, што не знашоў такое каровы, як трэба. Святы Юрай знаў, што за штуку зрабілі ваўку, і сказаў яму з'есці чорную карову. Прышоў воўк зноў у быдла шукаць ужо чорнае каровы. А ўдава тым часам дачулася і абмыла ў каровы лысінку. І гэты раз воўк не знашоў свае каровы. Хадзіў доўга гэтак воўк, шукаў усё каровы то з лысінкаю, то чорнае, а ўдава ўсё падшуквала яго — і здох воўк з голаду.

## * 146. [ЯК ЮР'Я ЗРАБІЎСЯ АПЕКУНОМ КАНЕЙ]

Аднойчы бог склікаў усю жывёлу пад вялікі дуб (недзе на краю света). Тут разам з богам былі ўсе святыя, толькі аднаго Юр'я не было, не паспеў з'явіцца, бо доўгая дарога была. Ззаду за святымі стаяў нячысты дух.

На тым сходзе бог пазначыў кожнаму стварэнню асобны харч, які каму падабаецца.

Д'ябал выпрасіў для сябе ў бога авёс, жадаючы такім чынам быць панам над конямі. У гэты час падаспеў і святы Юр'я і пачаў прасіць у бога і яму даць чаго-небудзь з тварэнняў.

Бог даў Юр'ю асот. Юр'я стаў прасіць у бога што-небудзь лепшае. Бог сказаў яму:

— Калі адбярэш у д'ябла, дык будзе твой авёс. Юр'я, не трацячы ні мінуты, паспяшаўся апярадзіць д'ябла і засеў недалёка ад той нары, якою чэрці прабіраліся з пекла на гэты свет і назад.

Д'ябал, каб не забыць, што прызначыў яму бог, увесь час паўтараў: авёс, авёс, авёс...

А тут святы Юр'я выскачыў з-за куста і крыкнуў міжволі: ага!..

Чорт спужаўся, пачаў трэсціся, пляваццa:

— Цьфу, забыўся нават, што гаварыў.

— Ты гаварыў асот, — падказаў яму Юр'я.

Чорт стаў паўтараць асот замест авёс і адправіўся ў сваё царства.

Юр'я паспяшыў да бога і быў назначаны апекуном скаціны і ў сваё ўладанне атрымаў авёс. Таму пастухі лічаць вялікім грахом не пабываць на Юр'я ў царкве, а сяляне — не наварыць аўсянага кісяля.

## 147. ІВАН ЗАЛАТАВУС І КАСЬЯН

Былі то некалі, кажуць, ва святых Іван Хрысціцель і Касьян. Давялося ім адзін раз нешта правіць абедню ўмесце ў аднэй цэркві. Служылі, служылі, тады Касьян нешта спамыліўся. Іван ка́ець:

— Не так ты малітвы правіш, як трэба, — во як праў.

А Касьян кажаць:

— А табе якое, — каець, — дзела: ці так я праўлю, ці не?

Ну й заспаравалі адзін з адным. Спіраліся, спіраліся, а тады Касьян не ўцярпеў: торк агнём у Івана! Як трымаў свечку ў руцэ, дык так і таркануў у бараду. Ды не папаў у бараду, ды ў вусы. Вусы і загарэліся.

Ну, Іван тады кажаць:

— Калі ж так, — гаворыць, — будзем судзіцца.

Ну й засудзіліся. І пашлі к богу. Стаў Іван жаліцца:

— Божа, госпадзі, рассудзі ты нас. Правілі мы ўмесце абедню, дык Касьян не так стаў малітвы правіць. Я яму ку: «Не так». А ён на мяне пачаў сварыцца, ды тады свечкай таркануў і вусы мне абпаліў.

Разабраў бог гэта дзела, бачыць, што кругом Касьян вінен. Хацеў ён яго з свят скінуць, але ўжо каець:

— Хай у тры гады раз табе святкуюць. А табе, — каець, — Іван, [redacted] здзелаю вусы другія, шчэ палепшы, чымсі былі.

І здзелаў яму залатыя вусы.

Ну, дык вот з тых пор Івана і сталі зваць Залатавус; а ў Касьянаў год што-што да пракінецца: ці на людзёх, ці на скаціне, ці на лясох — дзе-дзе да пракінецца.

## 148. МІКОЛА І КАСЬЯН

Рана, чуць свет на зорачку, сышлі з неба на зямлю святы Касьян і Мікола-чудатворац. Ідуць яны сабе па дарозе і гамоняць, што як ета бог хораша ўсё на свеце падзелаў. Ішлі, ішлі святыя ўгоднікі і бачаць, што мужык завяз у гразі із возам дроў. Убачыў мужык святых угоднікаў, бух ім кулем у ногі:

— Святы Касьян, угоднічак божы, вызвалі! Свечку табе пастаўлю.

А Касьян кажа:

— Ат, буду я радзі цябе сваю райскую адзежу мараці.

А на ім адзежа ўся залатая да з бліскучых каменняў.

Пашкроб мужык патыліцу, бача, што з Касьянам рады няма, павярнуўся к Міколу-чудатворцу,— ён такі мужыцкі заступнік, на ім і адзежа мужыцкая: світачка беленькая, да аборачка замест пояса.

— Мікалай, угоднічак божы, заступнік ты наш, навышні, аслабані.

Паслухаў Мікола мужыка. Засучыў світку і палез у гразь; пораўсь, пораўсь і выцяг воз мужыцкі.

Паехаў мужык. Пахадзілі ўгоднікі шчэ там колькі па зямлі, прыходзяць на неба. Убачыў іх бог і пытае:

— Ну, што, Мікалай-угоднік і святы Касьян. Дзе былі, што бачылі, што чувалі?

Касьян кажа:

— Былі мы, госпадзі, на зямлі; бачылі, як мужык вёз на базар дровы да ў гразь угруз.

— Ну, што ж, ці пасобілі вы мужыку?

— Не, — кажа Касьян, — я пажалеў мараць сваю райскую адзежу.

— А ты, Мікола?

— Я троху, — кажа, — памог; бач, во ў гразь упэцкаўся.

— Дзякаваць табе, святы Мікола. За ета табе людзі будуць празнаваць два разы ў год; а табе, святы Касьян, у тры гады раз...

## 149. КУЗЬМА-ДЗЯМ'ЯН

Кузьма-Дзям'ян былі калісь кавалі. І была змяя калісь. Дак яна ўбірала людзей. І дабіраецца да іх ужо, знаццa.

— Што, брат, ідзелаем мы зялезную саху.

Здзелалі яны цяперака саху і кажуць змяі:

— Пралізнеш трое от этых дзвярэй, дык мы табе сядам на язык, ты нас і з'ясі.

Цяперака яна раз лізнула, другі лізнула і трэці — і пралізала трое дзвярэй. Яны тагды — цапель! Ды за язык яе кляшчамі. Да адзін гвоздзе па галаве, а другі запрагае ў саху. Як запраглі яе, дак аралі яны на ёй лес, аралі яны луг, аралі яны поле, аралі ўсё і не давалі піць, пакуль прыараліся к Няпру. Як прыараліся к Няпру, яна як вырыла роў, як стала піць, як стала піць, — апраглася. А яны тагды і прыстанавіліся.

## 150. ПРА МЯРКУРЫЯ

Мяркуры быў кажамяка; раз ён мяў сорак кож, як асярчаў, рвануў кожы — і ўсе папалам. Як прыйшла лютва, сеў на лошадзь і давай яе пабіваць. Самаму галаву знялі. Аднача ён едзіць на лошадзі, а буйну голаву нясець на капіі, чым сражаўся. Пад'язджаець к малахоўскім варотам. Нясець багатырка сорак ушатаў вады і гаворыць:

— Ах, Аўра́мі, пацяраў ты буйну голаву.

Мяркуры тут самлеў,— упала на зе́мель буйная галава.

## 151. [СВЯТЫМ СМЯРДЗІЦЬ МУЖЫЦКАЯ АДЗЕЖА]

У нас аднаму хлопцу, як пасвіў скаціну, з'явілася матка боска і казала, каб ён усім людзям расказаў, каб ніхто ў свае работы адзетку не прыходзіў да цэркві, бо надта смярдзіць, так што святыя не могуць даступіцца да цэркві.

## 152. [НЯДЗЕЛЯ]

Ці вы ведаеце, што Міхась у сераду Нядзелю вёз, едучы з Баранавіч? Едзе ён, аж бяжыць паненка ўсянютка ў белі прыбрана і просіцца:

— Чалавечку! Падвязі мяне.

Ён кажа:

— Сядай.

Яна села. Едзе Міхась, ажно бачыць здалёк бяжыць два сабакі белыя. Паненка, як сабак угледзела, схавалася пад хвартух у брычцы і просіцца ў яго:

— Чалавечку, не кажы ж ты сабакам, што ты мяне вязеш.

Аж даганяюць сабакі і пытаюцца ў яго:

— Чалавеча, не бегла сюдэма паненка ў белі?

Ён кажа:

— Не, не бегла, не бачыў.

Яны яго памінулі дый пабеглі на сухі лес. Тады паненка ўстала да і кажа:

— Добра, што ты ім не сказаў, бо гэта я то Нядзеля. Каб ім сказаў, яны мяне б разарвалі б, дый ужо ў вас не было б ніколі нядзелі, быў бы цёнгле будзень.

Тады злезла з брычкі дый сама недзе згінула.

## 153. СЕРАДА Й ПЯТНІЦА

Серада й Пятніца сустрэліся раз на растанцох да й пашлі далей разам. От ідуць яны да йдуць да й сустракаюць чалавека, каторы варочаўся з кірмашу дамоў. Параўняўся чалавек да як зірнуў, што йдуць якіясь падарожныя жанчыны, сказаў ім «дабрыдзень» да й паехаў далей. Адышліся Серада з Пятніцаю да й пачалі спрачацца, каму гэта чалавек даў «дабрыдзень». Адна кажа — мне, а другая — мне. Доўга спрачаліся яны, нарэшце згадзіліся вярнуцца да папытаць самога чалавека. От яны пераляцелі назад да й зноў сустракаюць таго чалавека. Зірнуў чалавек да адразу й пазнаў, што гэта тыя самыя.

— Што за ліха, — думае ён, — што гэта за праява. Хіба якая марока. Бацэ я сустрэў іх на растанцох ці кала пaveraткі, а тут ці ося ад'ехаў, а яны зноў ідуць насустрэк. Але ж людзі кажуць: бога хвалі да й чорта не гняві, бо часам ліхое й бога перамагае. Ліха іх вазьмі, дам ізноў ім «дабрыдзень».

Тут ён аж целюхнуў да й кажэ:

— Дабрыдзень!

— Чалавеча, — пытае Серада, — каму ты даў дабрыдзень?

— Чаго? Тпру! Каб цябе ваўкі зарэзалі! — Крыкнуў чалавек на каняку, супыняючы яе.

— Каму ты даў дабрыдзень? — пытае ўжо Пятніца.

Чалавек зірнуў та на адну, та на другую да й кажа:

— А ці я ведаю! Багі вас ведаюць, хто вы такія.

— Мы Серада й Пятніца, дак каго ты больш шануеш, сераду ці пятніцу?

— І серада й пятніца добрыя дзянькі. Мы іх і шануем.

— А каго больш?

— Звесна, гэта посныя дні. Поп, як едзіць па малітве, та заўжды нам кажа, каб мы пасцілі і сераду, і пятніцу.

— Але каго больш?

— Каго? Мабыць жа, пятніцу, бо сераду ляхі саўсім не посцяць.

— Не, але каго вы больш любіце, сераду ці пятніцу?

— Мы больш любім нядзельку, бо гэта свята.

— А з нас каго больш?

— У серадную ўсё ядуць, а ў пятніцу ні прадуць, ні аруць.

Пабачылі Серада і Пятніца, што ад хітрага мужыка нічога не дапытаешся, плюнулі да й пашлі далей. Мужык ад'ехаў, азірнуўся, ці няма каго да й кажа:

— Ото́ ж, патаскухі, яшчэ пытаюць, каго мы больш шануем. Абедзве голадам морацы да яшчэ пашано́ты хочуць. Той пашаноты нажыве, хто нам есці дае.

## 154. ПЯТНІЦА

Гэта цяпер сталі людзі хітрыя да вельмі разумныя. Усё яны знаюць, навошта яно й зачым гэ, а не йнак. А даўней людзі былі простыя, працавалі да гаравалі, дак бог ім усё даваў. Радасна яны сустракалі сонейка, як яно падымаецца з-за зямлі да аглядае, ці ўсё на сваём мейсцы, ці накормлена да расою напоена, ці сагрэта да памыта. Радасна браліся за дзела, шчыра працавалі, аж бог вялеў на ўсіх долю да сабе на карысць. Радасна ж і праваджалі яснае сонейка на супакой да й самі, пасілкаваўшыся чым бог паслаў, лажыліся аддыхаць. Дзякуваць богу, нарабіўся за дзянёчак, насыціўся, а цяпер і аддыхаю. Нічога мне больш не трэ.

Гэ казалі даўней людзі, дак і добра жылося ім на свеце. А як пашлі вельмі разумныя да пачалі вымышляць, пачалі й бога вучыць, дак настала такая жытка, што хоць ты жыўцом лезь у землю або засіліся да прадай чорту душу. Колькі ты ні працуй, колькі ні старайся, як ні збірай дабро, а на яго чорт мех шые. Запхнеш адну дзірку, а тут табе дзесяць, — усіх не наталіш, бо ж кажуць, што адзін рабоч, да не багат.

От была адна маладзіца. Яна не слухала старых людзей, бо, ведама, маладая, дак вельмі разумная. Яна й свята не святкавала, й пятніцы не шанавала. Жанкі, бывала, яшчэ сонейка не схаваецца за лесам, а ўжо зложаць свае руча́йкі да верацёны, вынесуць у камору або на гору кудзелі да прасніцы да й сустракаюць нядзельку або другое свята. А яна прадзе яго да поўначы перад святам і з поўначы па святу, а ў пятніцу ўсё робіць, бы ў будзень.

Быў раз у чацвер святы Мікола. Усхапілася яна назаўтра, у пятніцу, з першымі пеўнямі, села на прасніцу, схапіла верацяно да давай пасука́ць, давай круціць так, што тое аж гудзе. Але ось чуе яна, што хтось бразнуў у вакно. Зірнула яна туды, аж пад вакном стаіць старэнькая баба да такая старэнькая, што чуць-чуць на нагах трымаецца. І пытае яна тую маладзіцу, чаму яна так рана прадзе да яшчэ ў святую пятніцу. Змяшалася маладзіца, не ведае, што казаць.

— Гэта ж свята, — кажа старэнькая баба.

— Эй, бабка, грэх лянавацца, а рабіць не грэх,— кажа маладзіца.

— А хто ж табе гэта сказаў?

— Ніхто. Я сама ведаю.

— Дак на ж табе ось гэтыя верацёны, а на іх напрадзі ты мне сягоннячы да вечара. Я зайду.

Сунула баба праз вакно мо з копу верацён, а сама й знікла, от бы ў землю правалілася.

Спужалася маладзіца, не ведае, што рабіць. Зірнула на тыя верацёны да й думае, што трэ цэлы тыдзень, каб іх напрасці. Не паслухаць жа бабу — страшна, бо бачна, што гэста не простая баба, а ці святая, ці ліхая. А, ведама, людзі кажуць, што бога хвалі да й чорта не гняві, бо як прыдзе́цца, так адрыгне́цца.

Сядзіць маладзіца, чуць не плача. Але ось і ўходзіць у хату сівенькі-прасівенькі дзядок. Зірнула на яго маладзіца да й пачала ўспамінаць, дзе б гэта яна бачыла яго. Яе не здзівіла тое, што дзядок не браскаў ні ў вакно, ні ў дзверы, а яны былі на засаўцы да й завалены калом.

— Дзень добры! — кажа дзядок.

— Здаро́венек быў!

— Памагай бог!

— Дзякуй за добрае слова! Садзіся да супачынь.

— Дзякуй!

Не садзіцца дзядок да ўсё пазірае на тыя верацёны, а потым і пытае:

— Навошта табе, дзеткі, так багацька верацён?

— Гэта не мае, дзеду.

І расказала тут маладзіца, як перад ім падходзіла к вакну якаясь бабка й што яна заставіла гэстыя верацёны да вялела ў вадзін дзень усе напрасці.

— Што мне рабіць, дзеду, з гэстаю бабаю? — пытае нарэшце маладзіца.

— А ты паслухай мяне. Наві з клубка на гэстыя верацёны пакрысе пражы да скажы, што напрала.

Сказаў тое сівенькі дзядок да й знік. Толькі тагды ўспомніла маладзіца, што ўчора бачыла яго ў цэркві, як перад яго вобразам ставіла свечку.

— Дзякуй жа табе, святы Мікола-чудатворац, што навучыў мяне, як выбавіцца з бяды.

Памалілася маладзіца да й абяцала яшчэ паставіць Міколу свечку. От наматала яна з клубка гатовае пражы на ўсе верацёны да й чакае тае бабы. Толькі сцямнела, як ось і браскае яна ў вакно. Адчыніла маладзіца вакно, а баба й пытае:

— А што, напрала мае верацёны?

— Напрала, — кажа маладзіца да й падае тыя ручайкі.

— Ну, шчасце тваё, што ты дагадалася, як зрабіць, а то б я скруціла цябе, як вяроўку.

— За што ж мяне караць? — пытае маладзіца.

— За тое, што ты святое Пятніцы не паважаеш да яшчэ досвіткі прадзеш.

Знікла тая баба, зніклі й ручайкі, а маладзіца стаіць каля вакна і не ведае, ці гэта было сапраўды, ці ў ва сне. Дачакала яна святое нядзелькі, выпаліла раненька ў печы да згатовіла абед, а потым хутчэй пабегла ў царкву да й паставіла Міколе тоўстую свечку. Выходзіць яна з царкві, абярнулася, перахрысцілася да й зірнула яшчэ разок на святога Мікалая. А ён як убачыў яе, дак ківае галавою да трасе сівою барадою. «Ну, — думае, — ублагатварыла святога Мікалая, дак і Пятніцы не баюся».

Расказала яна аб тым жанкам, от з тых часоў людзі ў пятніцу не прадуць і не ўюць, каб не прагнявіць святое Пятніцы.

## 155. [РАЗУМНАЯ ПРАЛЯ]

Сядзела раз позна ў пятніцу баба пад ва́кном і прала. Чуець, нехта ў вакно стукаецца. Адхутала яна вакно, глядзіць: баба старэнькая, зморшчаная, як сучок, стаіць і пытаецца ў яе:

— Што ты, маладзіца, так позна прадзеш?

— Як жа мне не прасць, калі ў мяне дзеткі малыя, не пасобяць — самой нада.

— Ну, калі ж ты такая пільная, на ж табе сто верацён, каб жа ты мне іх к заўтраму ўсе напрала.

Як сказала гэта баба, так і падзелася нiві́сь куды, як скрозьдонную праваліласъ.

Спужалася маладзіца, відзіць, што нешта няладна, думала-думала, што ёй дзелаць, дый прыдумала: не стала руцнёў прасць, а ўзяла ды па адной нітачцы на кожнае верацяно наматала, так усе сто верацён да дня і заматала. Да свету зноў старуха прыходзіць і пытаецца:

— А што, маладзіца, чы пазапрала мне мае верацёны?

Маладзіца паказала ёй верацёны, і сказала ёй старуха:

— Разумная ты, маладзіца, што так здзелаць дагадалася, не здзелай ты гэтага, а аддай мне голыя верацёны, я б цябе самую як голае верацяно скруціла ды ссушыла. Я святая Пятніца. Глядзі, барані цябе божа, ні разу ў пятніцу не прадзі.

## 156. [БОГ І ЯГО УГОДНІКІ ПЯТНІЦА І СУБОТА]

Паслаў раз бог святых угоднікаў сваіх Пятніцу ды Суботу паглядзець, што на свеце робіцца ды дзеецца. Вот і пашлі святыя ўгоднікі рана-ранёханька, яшчэ сонца куды не ўсходзіла. Ідуць яны, ідуць, ажно ім на дарозе дзеравушка папалася; заглянулі яны ў першую хату, ажно, глянь, дзеўка бальшая, прыгожая, здаровая ўжу і ўстала, і памылася, і пачасалася, і богу памалілася, і кароў падаіла, хату падмяла, печку затапіла дый покуль гаршкі варацца, села на перадку і прадзець. Падзівіліся ўгоднічкі на працавітую дзеўку і пашлі дальшы.

Прашлі дзярэўню, вышлі на поле, у полі яшчэ пусцёханька, ні душы, толькі на аднэй ніўцы маладзец маладэй, прыгожы, ужо, знаць, даўно арэць, з яго і з каня ажно ўжо пот ліецца; падзівіліся зноў угоднічкі на малойца. І калі ета ён толькі ўспеў выспацца і ўжэ столькі наараў. Падзівіліся, падзівіліся дый пашлі дальша.

Ішлі яны, ішлі, ужо і сонца ўзышло, па дарозе сталі людзі пападацца то з сохамі, то з баронамі, глядзяць, глядзяць, зноў дзеравушка стаіць. Сталі яны ў хаты заглядваць, да ўжо мала і дзе людзі відны, разве старухі. Мужыкі на палях, бабы на гароды, толькі, глядзяць, у вадной хатцы дзеўка бальшая, тоўстая, толькі што яшчэ вочы прадзёрла, сядзіць на палу ды зяваіць, ды пацягваецца, каса ўся ў пер'і, ажно глядзець праціўна. Пагдядзелі святыя ўгоднічкі, падзівуваліся дый пашлі дальшы.

Прашлі дзярэўню і вышлі на поле, глядзяць, пад кустом ляжыць маладзец, ляжыць дый спіць, ажно храпіць на ўсю галаву. Каля яго кабыла ў сахе стаіць, траўку шчыплець, знаць, як выехалі, так нічога і не рабілі і ніўка не пачыната. Паглядзелі, паглядзелі святыя ўгоднічкі, плюнулі дый пашлі дальшы. Прышлі яны к госпаду богу, і спрашываіць у іх бог:

— Ну, што, мае ўгоднічкі, Пятніца і Субота, што вы там добрага на зямлі відзелі, што чулі?

І сталі ўгоднічкі расказваць пра дзявок ды пра малойцаў і гаворацы госпаду:

— Вот, божа, па-нашаму жаніць ды добрага малойца дый з добрай дзеўкай, а лянівага — з лянівай: былі бы дзве пары якраз, адзін у аднаго.

А гасподзь вазьмі дый скажы ім так:

— Дуракі вы, дуракі, як я пагляджу, калі б я так дзелаў дый так злучаў, як вы гаворыце, людзі і пра мяне і пра вас бы забылі. Рабацягі б усё самі панадзелалі і бог бы ім ніколі не панадабіўся, а лянівы ды глупы і падаўна на бога не ўспомняць, а вот як злучу я разумнага з глупай, а глупую дый з разумным і пойдуць яны ў

мяне божкаць ды божкаць. Паглядзіць, паглядзіць разумны мужык на глупую жонку, во і скажыць:

— Боханька мой, божанька, лучша б я ці ўтапіўся, ці ўдавіўся, чым я з табой ажаніўся.

Прыб'ець разумны мужык глупую жонку, станіць яна плакаць ды прычытываць.

— Паслухай-ка, як божынька, ды божынька, што слоўца скажаць і божаньку ўспамянець і святых угоднічкаў пазавець, а здзелай я па-вашаму, па-глупаму, людзям бы не бог, не святыя не нада былі. Вот за етым-то за самым і не гадзіцца прасць у пятніцу, а то, няроўны час, нагды Пятніца падгадзіць і дасць прадзёхі дурака мужыка.

## 157. [ПРА ШЧОДРЫЯ ВЕЧАРЫ]

Адна кабета была надта лакома і любіла ўсё рабіці, так што яна перастала абсарвавацi шчодрыя вечары. Прала яна, прала раз, аж да паўночы. Удруг чуе, што нехта стукае ў вакно. Так яна пытае:

— Хто там?

Ён і кажа:

— Я прынёс табе, кабета, работу. Глядзі, каб ты за нынешнюю ноч напрала дванаццаць пачынкаў.

Спалохалася мая кабета. Валасэ на ёй дыбам сталі — страх. А ён кажа другі раз:

— Глядзі ж ты, ідзі зараз ты, вазьмі работу да й прадзі, бо коль не будзе гатова нынешней ноч, то заўчасне прыгатуй ты сабе на другую ноч труну, бо ты больш не будзеш ужэ жыці на гэтум свеці.

І вот мая кабета ні жыва, ні мёртва пераважгналася тры разы, вышла на двор — нікога, кажа, няма. Толькі бачыць ляжыць ворах лёну. Так яна ўзяла да й прынесла ў хату і падумала яна сабе: «Што ж я цяпер, бедная, буду рабіці?» Узяла, пераважгналася, тры пацеры сказала і падумала: «Воля божжа, трэба прасці».

Намесці цэлага пачынка яна ўхітрылася — вазьмі да і на кажда верацяно акруціла, абматала кудзелю пакулем, а на верх крыху напрала нітак па два радэ і гэдакім спосабам усе дванаццаць верацён напрала.

Усе ў хаці храпяць, спяць, а яна, бедна, прадзе. Потым усе паўставалі, ужэ начала світаць, і ўсе глядзяць. Устаўшы, а матка кажа:

— Ты цэлу ноч, ці што, прала, што зусім прыстала, да ў цябе ў прасніцы кудзеля якая е! Ці не наша?

Маўчыць. Яна нікому нічога не гаворыць. Кончыла яна дванаццаць пачынак, вынесла яна ў каморку, палажыла ў кублі, потым, кажа, вынесла і лён, што застаўся недапрадзёны, але гэты лён, каб

усенка спрасці, то наймней трэба дванаццаць дзён і вечароў прасці. Нічога яна нікому не гаворыць, усе ўжэ паўставалі, а яна кажа:

— Буг дай! — палажылася спаць.

Спала яна цэлы дзень да вечара, нічога не піла, не ела. Устала яна вечарам, памалілася богу, а ўсе дамашнія зноў палажыліся спаць. Думае яна сабе: «Што ж з гэтага выйдзе, што мне ўчора страх пад хатаю паказаўся, да і работу задаў?» Толькі яна што гэта падумала, пашла ў камору пaглядзець работу сваю і лён, што не дапрала яшчэ, глядзіць у кублі — аж няма; паглядзела на вышкі — аж і лёну няма таго, што не дапрала. Падумала яна сабе: «Мусіць, хто-кольвек, дачка ці сын, альбо мужык захаваў дзе-кольвек» — і выходзіць сабе з каморкі ў сені, аж у сенях пад дзвярамі на дварэ гаворыць:

— Ну, шчасце тваё, кабета, што ты напрала дванаццаць пачынкаў, а то табе ўжо канец прышоў бы, што ты шчодрых вечароў не захаваеш. А калі ты яшчэ будзеш прасці гэдакімі вечарамі, то я табе тры разы столькі прынясу.— І пашоў.

Аж яна пашла трасучачы, як трасца, у хату да і паглядзела ў вакно. А як ноч была месячная, то яна і бачыла, што якісьці стары з даўгою і белаю барадою пашоў ад хаты і панёс на плячах дванаццаць пачынкаў, што напрала. Так яна, бедная, палажылася спаць, але як палажылася, то роўна дзве нядзелі ляжала ў цяжкой хваробе і нічога не піла, не ела і мову было адабрала, чуць-чуць не ўмерла...

## 158. НЕЧЫСЦЬ ЗАМАНЬВАЕ У БАЛОТА

Што вы ні кажэце, а я сам добра чуў, як пішчала нячыстая сіла, як падманьвала мяне да зазывала перш у лес, а потым у балота. Ось як было тое здарэнне. Як цяпер памятаю, павёў я на круговіну пасці коні. Я ўжэ быў хлопец нелапы, мо ўжэ гадоў дванаццаці, як ось бацька кажа:

— Вазьмі, дзетка, да папасі коней. Чаго яны ў хлеве галодныя зубамі звоняць? Завядзі на круговіну, ці што, няхай папасуцца, пакуль нямашака за́ядзі.

Я, ведама, як хлапчук, вельмі любіў ездзіць на конях. От надзеў я на коней о́брацi, ускочыў на каня, а кабылу вяду поруч да й пагрукацеў на круговіну. Мой бацька жыў на хутару. Да круговіны было мо з паўвярсты. Я хутка па вузкай дарожцы праехаў праз густы лес, саскочыў з каня каля круговіны, пусціў коней на пашу, а сам садраў бяросту да давай рабіць кузобчыкі на ягады. Толькі я скруціў у ражок бяросту, як чую, аж блізенька ў хвойнічку плача дзіця. Я кінуў кузобчык да й пабег проста туды. Расхіліў я густы маладняк, пралез у самую гушчэрню, аж чую, што дзіця плача

саўсім блізенька, але ў другом баку. Доўга не думаючы, я кінуўся туды. Чую дзіця плача ў мяне ззаду. Пабег я туды. Яно далей. Я бегці, а яно ўсё ад мяне ўцякае. Я даганяць, а яно далей. От здаецца яно плача так блізка, бы кала самых ног, але нічога не відаць і ніяк нельга дагнаць. Бег я, бег, аж засопся, чуць аччу не выдраў у гушчарні, а ўсё не магу дабегці да таго дзіцяці.

Адбег я ўжо мо з паўвярсты да й упёрся ў балота. А балота ў нас гразкія да глыбокія, так што можна саўсім праваліцца ў такую тхлань, што й не вылезеш. Тут толькі я дагадаўся, што гэта не дзіця, а нечысць кпіць з мяне да пад'юджвае, каб заманіць у балота. Спалохаўся я да давай хрысціцца. Дак насілу я нашоў свой хутар, у такую гушчарню да нетру завёў мяне паганец. Кінуў я й коней да й кажу бацьку, што не пайду к круговіне. Ён пытае, чаму. Я й расказаў, як мяне падманьваў нячысцік. Бацька кажа:

— Мо шуткаваў сусед.

Але толькі пакруціў галавою да й пайшоў сам па коні, запытаўшы, аднак, куды я палажыў аброці.

Дак от якое са мною было здарэнне.

## 159. [СТРАХ]

Ішоў вечарам з хрысцін адзін чалавек з жонкаю. Жонка несла дзіця ззаду. Бачаць яны, што нехта ідзе за імі. Яны барджэй іці, і той чалавек прыбаўляе шагу; яны бегчы, і ён бегчы. Дагадаліся тагды яны, што гэта некі страх, да дай, божа, ногі! Як мага пабеглі да хаты.

Прыбеглі яны гэтак к дзвярам, толькі што ўскочылі ў сені, адно ж і страх на ганку. Добра, кажа, што гэтак яшчэ захваціліся. Залезлі тагды ўсе хатнія на печ і сядзяць, вельмі напалохаліся.

Зараз страх прынёс азяродную жэрдку, падсадзіў яе пад падрубу і стаў падваліваць хату. Чалавек набіў ружжо грашмі, бо чорта нішто інадшае не бярэ, прыцэліўся і гаворыць:

— Адстэмпся, шата́не, а то ў лоб запале!

А страх нават і не турае, да ўсё стараецца, каб як вышай падняць зруб і ўлезці ў хату. Наўперад былі відаць яго ногі толькі чуць-чуць, а то вот ужэ высадзіліся па самыя калені, яшчэ ўсё вышай зруб падымаецца. Яшчэ горай напалохаліся ўсе ў хаце, адно ж зараз запяваў певень — і ўсё прапала.

## 160. [ЛОБ У ЛОБ]

Быў у нас войтам Мікалай. На паншчыну, бывала, рана ганялі людзей, дак войту трэба было яшчэ раней уставаць. Вот гэтак раз заказаў ён ісці ўсім на паншчыну ў Падзерычы, а сам пашоў туды

наўпярод. Толькі што перабрыў ён Нёман, дак наганяе яго чалавек. Пашлі яны разам. Заманулася Мікалаю занюхаць табакі. Дастаў ён табакерку і стаў нюхаць. І той чалавек, што нагнаў Мікалая, дастаў сваю табакерку і гэтак сама нюхае табаку, а пасля папрасіў нават Мікалая запробаваць яго табакі. Мікалай узяў у рукі табакерку, а тая, падла, уся аж зіхаціць, вядома, залатая. Бачыць той чалавек, што Мікалаю вельмі ўпадабалася яго табакерка, і гаворыць да яго:

— А ведаеш што, чалавек, можа, замянемся з табою на табакеркі?

А ў Мікалая была табакерка некая старая з бярозавай кары, дак Мікалай вельмі зарадаваўся ды пытае:

— Можа, вельмі многа прыдатку захочаш?

— Не, лоб у лоб.

— Добра.

Памяняліся яны на табакеркі, падышлі шчэ трохі разам, а потым разышліся: адзін пайшоў на адну дарогу, а другі — на другую. Прыйшлі людзі на работу. Вот Мікалай захацеў пахваліцца, як ён падмануў пóначы некага чалавека. Стаў ён даставаць сваю табакерку з-за пазухі, адно ж адтуль заміж табакеркі выняўся конскі капыт. Усе паднялі рогат. Дагадаўся тагды Мікалай, з кім гэта прыйшлося яму сустрэцца. Вечарам, як пашлі ўсе дадому, Мікалай зайшоў на тое месца, дзе мяняўся на табакеркі, адно ж ляжыць там яго табакерка.

## 161. [ПАМЯНЯЎ]

Ішоў адзін чалавек уночы дадому з Наваґрадка. Нагнаў яго ў лесе некі чалавек. Выбраны ён быў хораша, як пан, і за плячыма нёс двухрульнае руж'ё. Падышлі яны трохі разам, пагутарылі, а потым пан і кажа:

— Замяняем на руж'і.

А ў таго чалавека быў некі зломак з аднэю руляю. Чалавек гэта паглядзеў на панскае руж'ё і думае:

— Каб яго ліха не ведала, мусіць, дурны гэты пан, ці што? А не, можа, дзе ўкраў, што хоча гэтакае ладнае руж'ё замяняць на зломак.

Падумаў ён гэтак, падумаў трохі, а потым-такі замяняў. Прыходзіць, гэта, ён дадому, запаліў агонь і хоча паставіць руж'ё на покуць. Хатнія дзівяцца, што гэта ён робіць. Вот жонка і пытае яго:

— Нашто ты гэту падлу садзіш на свянцонае месца?

— Якую падлу? — вырачыўся чалавек. — Гэта ж не тое, што было; я ўжэ новае вымяняў, ты толькі паглядзі, што за руж'ё?

— Што ты гаворыш? Разгледзься: гэта ж у цябе конская галёнка, а не руж'ё.

Разгледзеўся чалавек, адно ж і папраўдзе ў руках яго конская галёнка. Выкінуў ён яе са злосці на двор. Назаўтра раненька схадзіў ён на тое месца, дзе мяняў руж'ё, дак яно там і ляжала.

## 162. [ЧОРТ]

Ведаеце, дзе гэты дуб пад дваром каласісты, што цяпер сцялі? То, бала, пагонім жывіну на дворна, то ўсюдачкі можна пасвіць, а пад дуб падагнаць не можна, бо зараз выскачыць некі белы кот, пачне енчаць, зубы выскаліць — адганяе жывіну і што ты яму ўра́дзіш, калі гэта чорт заміж ката.

## 163. [ПЯРУН І ЧОРТ]

У Вароніне [вёска Сенненскага п.] над рэчкай ёсь гара (Дрэўні гарадок). Дык тут на гэтай гарэ пярун чорта забіў. Дык ён там трое сутак ляжаў. А тады найшлі яго і сталі хаваць. Дык вазілі, вазілі зямлю на яго, вазілі, вазілі — не можна зарыць яго. Што за дзень навозюць, закапаюць, назаўтраго палядзяць, а ён навярху ляжыць. Білісь, білісь — ані! Пакуляцькі ўжо — ці саснілась каму, ці што — узялі ды ў ватопак пеўня запраглі. Дык толькі тры разы зямлі прывязлі на ім, дык і засыпалі яго.

## 164. [ПЯРУН І ЗМЕЙ]

А то так, з паўвярсты ад Пачаевіч дык ёсь бярозкі. Асоджан так кругом кавалачак зямелькі небальшэнькі. Дык тут пярун забіў змея. Ну, дык як толькі забіў, дык як пашоў дождж, пашоў дождж — двое сутак узапар ішоў, усё чыста пазатаплювала. Тады людзі сталі яго хаваць. Выкапалі ямку, уклалі яго туды і засыпалі. Толькі засыпалі, а ён узноў навярху. Яны апяць яго засыпалі, а ён апяць навярху. Што тут рабіць? А дождж ідзець і ідзець. Думалі яны, думалі і прыдумалі вазіць зямлю на пеўню. Ну, сталі вазіць, сталі вазіць — і засыпалі. Як засыпалі і дождж перашчук. А тая мясціна і цяперака «Змяёўкай» завецца.

## 165. СКУЛЬ У ЧОРТА РОГІ ЗНАЙШЛІСЯ

На пачатку света чарты былі без рагоў, але раз чорт спраціўляўся з панам богам, дый кажа на яго:

— Які ж ты дзіўны.

А бог:

— А то ты дзіўны, бо на табе рогі.

Чорт то мац, мац на галаве асё ж, праўда, ёсць.

І гэта, застыдаўшыся, пайшоў. Ад гэтай пары ў кажнага чорта рогі.

## 166. ЧОРТ У ВІХРЫ

Гэта было ўлетку, якась кала Макавея. У нас вырасла вельмі добрая атава на поплаве. Дзядзька памог мне скасіць такі добрае лапікло. Накасілі мы мо вазоў са тры вельмі лоўкага сена, бы шапран. Была харошая пагода. Сенца высахла, аж трэцца. Забраў я баб, і пашлі мы грабці тое сена. Зграблі мы перш у валы і толькі пачалі класці ў копы, аж прыходзіць Сцяпан Дазорцавых закурыць люльку. Ён, бачыце, згубіў краменьчык і не было чым выкрасаць агню. От убіў граблі ў землю, наклаў у люльку тутуну да й пачаў красаць агонь. Тым часам бабы зложылі тры ці чатыры капы сена да й кажуць:

— Ой, зірніце-бо толькі на захад, што гэта там такое. Мабыць, будзе дождж.

Абярнуліся мы — аж на захадзе чорная хмара, бы клубок, так і коціцца на нас, так і расце. Выбілі мы люлькі да хутчэй кінуліся памагаць бабам класці копы. Дак то скажэце, не паспелі мы зложыць і аднае капы, як хмара завалакла ўсё неба. Раптам закруціў віхар, схапіў нашы копы і падняў увышкі да давай церусіць. От Сцяпан Дазорцавых барджэй адвязаў ад пояса свой канчáты нож да як шыбане ў самы віхар, дак чорт толькі піснуў, а віхар невядома куды й дзеўся, толькі наша сена падае ўніз, дзе на землю, дзе завісае на дзерава. Стаім мы да толькі дзівімся, што гэта такое. От упала дадолу ўсё сена, паказалася сонейка. Зірнулі мы на неба, аж там аніводнага абалачка. От тагды Сцяпан і кажа:

— Мабыць, я забіў ліхога. Памажэце шукаць майго нажа.

Кінулі мы ґраблі да давай шукаць нажа. Доўга шукалі мы, немаль споўзалі ўсю сенажаць, нарэшце, я натрапіў нож на купіне.

— Хадзі сюды, Сцяпане, — ку я, — зірні, што тут робіцца.

Падышоў Сцяпан туды, зірнулі мы, дак аж зляkaліся. На купіне ляжыць вужака, перарэзаная пасярэдзіне нажом. Яна яшчэ трапяталася. А канчаты нож з разгону аж у землю ўбіўся войстрым канцом. Узяў Сцяпан нож, аж на ём яшчэ відаць кроў.

— Гэта не вужака,— кажа Сцяпан,— а сам ліхі, што хацеў раскідаць сена.

Дак от мае вы саколікі, гэта я сам бачыў сваімі вачамі. І нікому не паверу, што б мне ні казалі.

## 167. [СУСЕД-ЧОРТ]

Прышоў уночы чорт да аднаго чалавека і стаў зваць яго па імені. Чалавек той прачнуўся і пытае:

— Хто там?

А чорт адказвае яму:

— Ці ты не пазнаў мяне? Уставай, брат, прэндзінка і пагонім валы на ранкі, аднаму нек сцішна.

Чалавек чуе, што гаворыць пад акном сусед яго, устаў, гэта, барджэй, заняў валы і гоніць. Бачыць ён, што і сусед ужэ выгнаў. Пагналі яны разам і загналі далёка ў лес. Засмяяўся тагды ні сваім голасам і прапаў разам з валамі.

## 168. [СВАТ-ЧОРТ]

Ішоў п'яны чалавек дадому. Сустрачае яго сват:

— Добры вечар!

— Вечар добры!

— Куды ідзеш, сват?

— А дадому.

— Чаго табе цягнуцца аж дадому, вот мая хата, пераначуй у мяне.

— Добра.

Завёў гэтага чалавека сват к сабе ў хату, памог яму ўзлезці на печ, разуў яго і развесіў на жэрдках анучы і лапці. Назаўтра праснуўся чалавек і дзівіцца, як ён гэта ўзабраўся на стог сена. Пачаў ён кругом сябе разглядаць, адно ж бачыць, што лапці і анучы яго вісяць недалёка на дубе. Стаў прыпамінаць чалавек і дагадаўся, што гэта, мусіць, учарашні сват яго туды ўсправіў.

## 169. ЧОРТ У ПОСТАЦІ ЦЯЛЯЦІ

Пашоў у нас адзін чалавек у лес наглядаць сабе здатнае дзерава, каб зрабіць адзёр на пчолы. Доўга хадзіў ён, блутаўся та ў адну, та ў другую параслю, та ў гушчэчу, блутаўся пакуль, што аж збіўся з панталыку да й не ведае, з якога боку прышоў і ў які бок іці. Пачаў ён пазіраць на неба, каб па сонейку пазнаць, у яком баку гаспода, да от бяда, на яго ўсё ліха, што якурат трапіўся хмурны дзень.

Што тут рабіць, — думае ён, — ось хіба ж пазнаю на ветру.

От выбраўся ён з гушчарні на прагаліну да й пачаў цікаваць, скуль цягне ветрык. Але на той час у лесе стала ціха, як у вусе. Пачасаў ён гіру, патупаў на месцы да й пасунуў, куды вочы глядзяць. Толькі крыху прайшоў, аж трапляецца яму насустрэк цяля да такое гожае, гладкае, бы мянёк.

Дай, — думае ён, — паганю гэстае цяля да гасподы.

От заняў ён тое цяля да й пагнаў. Толькі прагнаў ён ганоў п'яць, як зірне, аж і гаспода відаць. Абрадаваўся ён, узваліў тое цяля на карак да й пап'ёр. Плішчыць ён тое цяля да й думае, што гэта чым далей, тым яно становіцца цяжэй. Перш было лёгка, а тут стала так цяжка, што нельга й несці. От прып'ёр ён ужэ да двара да й спусціў цяля на землю. Тут яно падбрыкнула, зарагатала да чорт ведае, дзе й дзелася. Дагадаўся ён, што гэта быў чорт, а не цяля, што ён толькі пашуткаваў з яго да накпіў.

## 170. ЧОРТ СКІНУЎСЯ БАРАНОМ

Гэтак кала багатніка прычапіўся ка мне Янкель Чараваты да пачаў кучыць, каб я яго адвёз у Петрыкаў. Што тут рабіць, нельга адкаснуцца... Баба й не пускала, але я мусіў згадзіцца. От запрог я пару коней у лёгкія драбінкі, набіў дзяругу мурагу, узяў з паўасмінкі аўса, пасадзіў яго дай патарахцеў ва ўсю ноч. От раненька мы й прыехалі ў Смятанічы, а к абеду — у Петрыкаў. Рад Янкель Чараваты, заплаціў умоўленыя дзесяць злотых да яшчэ, апрыч таго, даў мне добрую кватэрку. От пахарчаваў я коні, купіў сабе солі да тараноў, узяў жонцы лычка абаранкаў да за́палачы да й папхаўся памаленьку назад. Еду памаленьку да й думаю сабе, ці не заехаць к сябру ў Млынок. У мяне, бачыце, з Яўхімам у Млынку заедныя пчолы, от затым мы й сябры. Падумаў я гэта да й звярнуў на Курыцічы. Толькі што я ўехаў у алёс, аж бачу стаіць кала самае дарогі вельмі гожы баран да так бляе, што аж мае коні не хочуць іці. Што за ліха, думаю сабе. Мае коні ніколі не былі наравістымі, а тут сталі бы ўкопаныя да й ні з места. Я й так, я й сяк, я й пад чэрава, я й пад хвост — хоць ты што, — на дыбы становяцца, а ўперад ні на пядзю. Злез гэта я з воза, узяў з дзяругі жмак сена, зайшоў уперад да й вяду коней за павады. Коні храпуць, але йдуць за мною. Толькі я параўняўся з тым бараном, як ён замекатаў да пабег у алёс. Перахрысціўся я, сеў на воз да па конях. Гнаў я, што есь духу, покуль прыехаў у Курыцічы. Супыніўся я кала карчмы да й зайшоў туды закурыць люльку. Ула́жу я ў карчму, аж там людзей поўна. Ведама, як у карчме, там стаіць гоман. Стаю я кала печы ды прыслухоўваюся, аб чом гаворацьлюдзі; а яны ўсе, як у бубен б'юць, усе гамоняць аб том, якія хто бачыў страхі. Толькі ось падходзіць да мяне Гараська да й кажа:

— Чалавеча, з табою сягонячы было ліхое здарэнне.

Як пачуў я тое, дак чуць не прысеў. Бачыце, я даўно знаў, што Гараська калдун, але не даваў веры, каб ён быў такі моцны знахар, што пазнаў маё здарэнне. Спалохаўся я Гараські, нічога яму не сказаў да хутчэй шамялях з карчмы. А ён мне ўдагонку:

— Пачакай, яшчэ сягоннячы будзе другое здарэнне.

Я ненарокам спалохаўся, але падумаў, што Гараська толькі шуткуе ці кпіць з мяне. Не ведаю, як я даехаў да Млынка да хутчэй к сябру. Сябер якраз у той дзень падглядаў пчолы. От давай ён мяне частаваць. Паставіў на стол пляшку гарэлкі, баба нарабіла на скавародзе. От давай мы піць да закусваць. А як трохі выпілі, дак адкуль тая гаворка ўзялася. Не вытрымаў я да й расказаў сябру, якое са мною было здарэнне і што мне казаў Гараська-калдун. Сябер і кажа:

— Эй, сябрэ, не вер ты Гараську, ён толькі чмуціць.

— Як жа, — кажу, — не верыць, калі ён усё бачыць, калі яму, мабыць, чэрці служаць.

От пагасціў я добра ў сябра да й збіраюся пхацца да гасподы, а Яўхім да й кажа:

— Чаго табе сунуцца, нанач гледзячы, начуй у мяне, а заўтра раненька халадком, як піць дасі, даедзеш да гасподы.

— Не, — кажу, — баба будзе сварыцца.

От упёрся я на сваём да й паехаў. Толькі я пераехаў за палянкаю пералесак да грэбельку, як ось зноў бачу, што пры дарозе стаіць баран. Пад'ехаў [redacted] бліжэй, дак ён узышоў да й стаў пасярод дарогі. Я гнаць коні, а тыя ані з места.

Што тут рабіць, — думаю сабе. — Пачакаю, мо хто пад'едзе. Баран бляе, коні храпуць, я сяджу на возе, бы на йголках, а шапка на галаве расце. Чакаў я, чакаў, аж напрыкрала.

Чакай, — думаю, — папробую я зрабіць адну штуку.

У мяне з лейцаў было зроблена ў драбінках гертаванне. От я давай распутваць гертаванне да аслабаняць лейцы. Нарэшце распутаў я тыя лейцы, зрабіў з іх пятлю, злез з воза да й пайшоў уперад коней. Стаў я, прынаравіўся да як шыбануў пятлю, дак акурат і закінуў таму барану на шыю. Не паспеў ён і варухнуцца, як я зашмаргнуў пятлю да й пацёг барана к сабе. Звязаў гэта я таго барана, узваліў яго на воз да й хацеў ехаць далей. Пагнаў гэта я коней, а тыя ані з места. Я біць, я гнаць, а коні пнуцца, аж жылы ў іх трашчаць, а не могуць пацягці воза. Бачу я, што гэста не просты баран, а якісь нячысцік, от я развязаў лейцы да й скінуў яго з воза. Баран забляяў, зарагатаў да й рассыпаўся па дарозе, бы мяшок жару. А коні як рвануць да панясуць, дак я думаў, што й косточкі мае растрасуць. Трымаюся я за аглабіны да малюся, каб бог злітаваўся. Агляну́ўся я назад, аж за мною прэ па дарозе, бы клубок з жару. Перахрысціўся я да й кажу:

— Згінь, ліхое, прападзі.

У той момант усё й згінула, а коні выбіліся з сілы да й супыніліся. Я ніколі не забуду, якога страху набраўся ў тую дарогу.

## 171. [БАРАН-ЧОРТ]

Ехалі вечарам з кірмашу людзі з нашага сяла. Бачаць яны: бяжыць дарогаю баран. Яны за ім — баран далей. Вот, здаецца, ужэ саўсім дагналі, можна злавіць, — не, закруціцца нек і ўцячэ. Бегалі яны, бегалі, змардаваліся чыста. Вот адзін чалавек і гаворыць:

— Мусіць, чорт гэта, а ні баран.

Дак у тую самую мінуту і прапаў той баран.

## 172. [ПРА ЧОРТА]

Чорт уночы ўвасабляецца ў барана або ката́... На дарозе каля Галасоўкі, побач балотачка, да праходзячага ноччу чалавека калісьці выбягаў чорны кот, круціўся навокал, старающыся збіці з дарогі ды вывесці ў поле. Калі ж чалавек настойліва ішоў па кабыльніцы (конскаму тракту), тады кот нічога зрабіць не мог і, давёўшы ідучага да прыдарожнага крыжа, з дзікім рогатам скрываўся недзе. У гэтай жа ваколіцы часам знаходзілі на дарозе і звязанага чорнага барана, які потым аказваўся нячыстай сілай.

## 173. [САБАКА-ЧОРТ]

Ехаў удзень раз на валох Даміян. Пад'язджае ён у Буды, дак бяжыць такі харошанькі сабака. Злез, гэта, Даміян з воза, злавіў яго, пасадзіў на воз і паехаў. Пад'ехаў ён да броду, дак бачыць, што на валох аж шум пастаў. Дзівіцца Даміян і сам не ведае, што ім такое сталася. Стаў ён пераязджаць Нёман, дак валы і саўсім прысталі. Засярдаваў Даміян і пачаў біць іх. Вот валы пашлі ўжэ. Зірк Даміян на сабачку, адно ж той сядзіць ужэ на другом беразе і смяецца. Толькі што хацеў Даміян іці па яго дак і згінуў, як у вадзе растаў.

## 174. ЧОРТ ДУРЫЦЬ ПАДАРОЖНЫХ

Гэта недалёка было, у суседнюм сяле, ці што. Я быў на варце ў воласці, дак там расказаў адзін чалавек, што яго стрэчны брат якраз ехаў з дзецюкамі з места, куды яны вазілі збожжа, як іх нячысцік дурыў чуць не ўсю ноч у дарозе. Дак ось як тое было.

— Ссыпалі, — каа, — мы збожжа ў імбар, пахарчаваліся трохі ў карчме да й паехалі ўлехцы да гасподы. Ужэ цямнела, як мы выехалі з места. Марозік быў невялічкі. Едзем мы, шуткуем, смеімося,

а адзін дзяцюк аж запеў песню. Пад'ехалі мы к карчомцы, от дзецюкі й кажуць:

— Не па чом сем карчом, абы грошы, дак усё абайдзём, — да й супыніліся. Зайшлі мы ў карчомку люлькі закурыць да й выпілі па чарцы, па другой, а мо й больш, але ніхто не быў п'яны. От ні ў годным воку!

Паехалі мы далей. Толькі праехалі гаёк, от з пярэдняе фурманкі хтось і крычыць:

— Дзецюкі, мы не туды паехалі.

Не туды, дак не туды. Павярнулі мы коней і паехалі далей. Толькі трохі праехалі, зірнулі мы на грушку пры дарозе, — от здаёцца нам, што не туды едзем. Зноў павярнулі мы назад і хутка прыехалі к той самай карчомцы, адкуль выехалі, толькі не з таго боку. Чорт ведае, што гэта такое! Знаёмая карчомка, але абозня не з таго боку, калодзезь не там. Улезлі мы ў карчомку. Той самы ландар з доўгімі пейсамі. Выпілі мы дзеля разону па чарцы, па другой, а можа й больш, закурылі люлькі да й паехалі.

Дарога была харошая, коні трохі прамерзлі. Чуць мы селі на сані, дак не трэ й паганяць, нашы канякі духам пруць, толькі скрыпіць пад палазамі. Толькі мінулі мы каплічку да крыж, што стаіць кала дарогі, дзе пахован якісь старац, зірном мы дакола, аж зноў збіліся з пуці. Згрудзіліся мы да купы і давай гаманіць, куды тут ехаць. Адзін кажа — проста; другі кажа — назад; трэці кажа — трэ павярнуць направа; чацвёрты жупіць, што трэ трымацца налева. Нарэшце закрычалі ўсе разам, дак і сам куцы не разбярэ, куды тут ехаць. Дак от так цалюсеньку ночку мы й ездзілі з аднаго месца да другога. От ужэ падходзіў дзень, а нячысты ўсё нас дурыў да круціў у полі. Нарэшце, мабыць, і яму напрыкрыла з намі валэндацца, от ён зарагатаў у гайку, бы жарабец, да й знік, бо мы ў той час убачылі сваю вёску. Дак от як нячыстая сіла здзекуецца да дурыць людзей.

## * 175. БУТРЫМАВА ПРЫГОДА

У Засуллі ў сяле, што абапал рэчкі дзвюма вёскамі раскінулася, быў гаспадар, Бутрымам празываўся. Тады ён быў яшчэ малады, гадоў колькі як жанаты, ды любіў часам загуляці.

Што буду гаварыць, то не выдумка якая, на то сама жонка яго, Марцэля, будучы ўжо ўдавою, клялася ды бажылася.

Зышоўся гэта твой Бутрым са сваім кумам у Мэндалевай карчме, павялі гутарку пра сёе-тое і згадалі пра грошы.

— Ведаеш,— кажа Бутрымаў кум,— дзе нам грошай узяці?

— А дзе? — пытае Бутрым.

— А ў панскім лесе... Я ўчора нагледзеў на Папоўшчыне, каля

балота, брускі ляжаць. Дык ты пайдзі, запражы вала ды едзь пад Туры, а я там чакаціму цябе. А там узложыш адзін у Стоўбцы... Вот і будзе які рубель...

Як параіў, так і зрабілі. Бутрым запрог вала. Прыехалі пад бруссе, узлажылі адзін на воз і паехалі. Не праехалі яны і дзвюх вёрст, як валы чагось утарапіліся. Калі глядзець — ажно на дарогу чалавек выходзіць. Яны дужа спалохаліся, бо думалі, што хтось са двара. Адно, прыгледзеўшыся, пазналі, што гэта хтось чужы: у кароткім сурдуціку, у вузенькіх штоніках, у капелюшы і, залажыўшы рукі назад, як бы кійком памахівае. Сказаць пан — не пан, бо на пана затонкі; жыд — дык у жыда полы доўгі, а не кацап — хоць з барадою, бо ў капелюшы і дужа падхірысты... Адным словам, хтось такі незнаёмы. А каб яны лепей прыгледзеліся, то б убачылі, што гэта ззаду ў яго не кіёк, а хвост касматы, і ён адно для віду, рукі залажыўшы, яго прыдзержывае, і што з-пад капелюша рожкі невялікія тырчаць. Ды ім гэта няўцямкі было.

— Кудысь гэта, людцы, едзеце? — пытае той ягомасць.

— У Стоўбцы, паночку,— кажуць мужчыны.

— Гэ, гэ! Да вы,— кажа,— заблудзілі.

— Не можа быць, паночку! Мы ж не толькі дарогу, а кожную хвою, так сказаць, тутака знаем.

— Аднак жа вы заблудзілі, вот прыгледзьцеся добра.

Калі яны сталі прыглядацца, дык і ім здалося, што заехалі ў незнаёмае месца, і, скрабучы за вушамі, кажуць:

— А-а, дык ваша праўда! І што мы цяпер рабіцімем?.. Хіба, панок, будзь так ласкаў, і пакажы нам дарогу.

— Дык добра, я вас аж у Стоўбцы завяду, бо і сам туды ж іду. Вярнеце налева і едзьце за мною.

Тыя, яму падзякаваўшы, паехалі за ім. То як стаў ён іх вадзіць па нейкіх невядомых дарожках, па карэнні ды па балоце, а яны скрозь за ім.

І няма б ведама, як доўга б ездзілі, але адзін вол паў. Тады яны, дагадаўшыся, давай хрысціцца ды богу маліцца, дык той храпт перш за ўсё корчыўся, пляваў, а далей — як зарагоча ды ў балота як скоча — адно пырскі выш лесу паляцелі.

А нашыя мужчыны назаўтрае на адным вале дамоў прыбіліся.

## 176. У ЛАЗЕ

Эта дзед расказваў. Пашоў вон у лозу. Дзяру, кажа, я лозу й дзяру, а там другі чалавек буў з ім. Той надраў да й пашоў. О, я ж бачыў, шо той пашоў, а хто та стаіць у лазе, на 'дном месці? Кажа, у таком белам, у капелюшу. Стаіць, а я, кажа, дзяру й дзяру гэту

лозу. А дале кажу: «А ты ўжэ надраў?» А вон нічога, нічога мне не кажа. Я й шчэ, кажа, шчоб той адазваўся. Ой, дале бачу, шо не, эта не лозу дзяру. Я, кажа, эту лозу ек бурануў, да ек даў драпака ад тае лозы і не азіраўся. А там, кажа, некі чалавек ёму трапіўся па дарозе да гаворыць: «Шо бяжыш? Нагледзеўся? Эта ж тут, кажа, навек хто не пойдзе, так, кажа, чорта пабачыць!»

## 177. [ПРА ЧОРТА]

Калі нехта падаваўся лясным трактам праз лясное балота Лізы ў Супрасль ці Беласток, дык, напэўна, прыблукваўся да яго спáсены чорны баран. Круціўся ён вакол воза ды бляяў, як быццам прасіўся ў рукі. Вядома, чалавек не мог стрываць, каб такое дабро марна ў крэкаці прападала. Вязаў барана ды ўвальваў у палукашкі на воз. Конь хроп пры гэтым, быццам звочыўшы воўчую зграю, і рваў улезлы па восі ў зямлю воз, ажно аглоблі трашчалі. Але такія дзівы няўцям былі чалавеку — ён ужо прыкідваў у галаве, колькі возьме на рынку за такую знаходку. Марна! Як толькі ранкам сярод стромкіх сосен і ялін бліснулі на купалах Супрасльскай царквы залачоныя крыжы, баран саскокваў з вазка і кідаўся ў лес з такім рогатам, што ажно кастрыца з хвояў дажджом сыпалася.

Во якія кепікі з людзей строіў тут калісьці нячысцік.

## 178. [ЯК АДНА БАБКА БАБІЛА ЧАРЦЯНЯ]

Была адна баба ў сяле вельмі добрая. Дзе толькі родзіцца дзіця, дак усе яе звалі — уночы і апоўначы. Раз гэта баба і гаворыць:

— Усюды я была бабаю, толькі яшчэ ў чорта не была.

Пазней прыязджае к гэтай бабе шасцёркаю некі пан і просіць яе за бабу. Прыезджаюць яны ў дом к пану. Адно ж там ляжыць паражаніца. Прыняла гэтая баба дзіця — унука бог даў. Тут яе не ведаюць, дзе й пасадзіць, частуюць усім усякім. Пажыла баба ў гэтага пана доўгі час. Прыгледзела яна, што пан некаю масцю вельмі часта мажа сабе вочы. Вот яна ўзяла раз і памазала сабе тою масцю адно вока. Бачыць яна, што на стале ляжаць усякія косці — сабачыя, конскія,— а гэта ўсё яна ела. Агледзелася баба, што саўсім у кепскае месца папала, і стала прасіць свайго ўнука, каб ён адаслаў яе дадому. А вока тое, што намазала, яна завязвала. Унук у яе пытае:

— Чаму ты гэтае вока ўсё завязваеш?

А баба яму адказвае:

— Нешта вельмі баліць, аж нельга на свет божы глядзець.

Даў бабе ўнук шасцёрку коней і баба паехала. Паглядзіць баба тым вокам, што памазала, дак саўсім добра відаць, што яе вязуць ні на конях, а на асінавым калу, і чэрці ўсе папіхаюць. Прыехала баба дахаты і нікому не сказала, якое ёй здарэнне было. Вот рэз зайшла яна ў карчму, а там поўна народу назбіралася: той п'е, той так сядзіць, а некаторыя ўжэ так набраліся, што ўстаць не могуць, некаторыя сварацца, некаторыя б'юцца — вядома, як у карчме. Бачыць баба, што яе ўнук каля п'яных усё ўвіхаецца: таго ўшчыпне, таго рване, таго пацягне — усё, каб біліся. Баба і гаворыць да ўнука:

— Што ты, унучак, так тут убіхаешся?

— А ці ты ж мяне, бабка, бачыш?

— А няўжо ж.

— Каторым жа вокам ты, бабка, мяне бачыш?

— А вот гэтым,— паказала баба чорту.

— Дак калі ж гэтак!.. — сказаў чорт і вырваў бабе тое вока. Баба нарабіла крыку і бразгу. Кінуліся людзі да яе, глядзелі-глядзелі і нічога не ўгледзелі, а баба тым часам асталася без вока.

## 179. ДЗЯЎЧЫНА І ЧОРТ

Колісь хадзіў чорт к дзеўцы, словам, гуляў з ёю. Так маці і бацька яе так глядзяць і кормяць, а вана сохне, усыхае. Ваны гавораць:

— Што ж эта дзе е?

А вана ўцякала да чорта, коб маці не бачыла і бацька. Так ваны пабачылі. А ім пасаветаваў адзін чалавек:

— Уплеціце ёй у косу буркун-тою. Эта значыць, брат і з сястрою — буркун-тоя. Тоя сама не гадзіцца, а й буркун сам не гадзіцца. Нада ўмесце шоб.

То ўжэ ўплялі ёй у косу этай буркун і тою. Тагды чорт перастаў хадзіць. Да сказаў:

— Еслі б эта не буркун да не тоя, ты б була дзеўка мая.

## 180. [ЯК ВЫГНАЛІ ЧОРТА З БАЛОТА]

Разлажыў адзін падарожны чалавек агню, уссадзіў кусок сала на ражон і прышчыць сабе. Сала стане капаць, дык ён падставіць хлеб ды мажа салам па хлебе. Выскачыў чорт з балота, злавіў жабу, уссадзіў яе на ражон і пячэ. Стане цячы з жабы, дак чорт возьме ды памажа ёй чалавеку па сале. Глядзеў гэта чалавек, гля-

дзеў, а пасля як суне салам у зубы чорту, дак зуб іываліся ў чорта. Палез чорт у балота і ўсё балота запаскудзіў кроўю. Узяў старшы ды выгнаў яго на бераг. Прышоў чорт зноў да таго чалавека і стаў страшыць яго:

— Будзе табе за тое, што ты мне павыбіваў зубы, вот паглядзіш, казаў старшы, што дасць табе!

А чалавек і гаворыць:

— Але ж, думаеш, і спалохаўся я тваго старшóга. Гэтак я і яго баюся, як цябе. Што ж вы мне зробіце? Думаеш, я не ведаю, колькі вас.

— А колькі? Скажы.

— Шэсць. Вот я вам дак дам!

Пабег чорт к старшому і гаворыць яму, што чалавек думае даць добра ўсім чартом у балоце.

Засердаваў старшы на чорта і паслаў яго, каб ён паміры́ўся з чалавекам. Чорт не паслухаў, не паміры́ўся. Вот яго старшы ўзяў ды прагнаў з балота. Шукаў сабе чорт месца, шукаў, а пасля нек асталяваўся каля млына, каля самага става. Што ні направіць става мельнік, дак чорт разгуляецца і пазносіць усё. Думаў-думаў мельнік, што яму рабіць; ездзіў і да знахароў і да знахарак — ніхто нічога не памог. Вот нек мельнік сустрэўся з тым чалавекам, што выбіў чорту зуб. Мельнік расказаў яму пра сваю бяду. Чалавек зразу пазнаў, чые гэта штукі, і кажа мельніку:

— Добра, я памагу табе.

— Гэта б і вельмі добра было,— гаворыць мельнік,— калі ты толькі не смяешся. Здаецца, ужэ немаведама што даў бы, каб хаця збавіцца ад гэтай заразы.

Пашоў, гэта, чалавек к мельніку, зрабілі яны новы стаў,— зараз чорт і стаў гуляць — ламаць стаў. Вот чалавек сапхнуў чайку, сеў у яе і паехаў на самае тое месца, дзе вада круцілася, да як дасць нажом у тое месца, дак тым часам усё і згінула, і ніколі болей стаў не ламаўся.

## * 181. ГРАЙ, ГРАЙ, ІГРАЧУ

Гэтай легенды, магчыма, і не было б, калі б колішні нейкі музыка-скрыпач з Войшкаў на развітанне з маладой парай не асушыў лішняй кварты. Вяселле гулялі ў карчме, што некалі стаяла на левым беразе ракі Нарвы, непадалёку затокі Калінаўка, якраз у тым самым месцы, дзе цяпер красуецца заезны дом «Заглоба». І падаўся тады скрыпач знаёмаю дарогаю праз усе тры масты цераз Нарву ў сваё сяло.

Ідзе-брыдзе ён так сабе: то падспявае крыху, то па струнах

смыкам урэжа — лёгка на сэрцы чалавеку, што і куды! Але ж адкуль ні вазьміся — на гасцінцы ладны паніч, перапыняе ён скрыпача ды і кажа:

— Надта ж звітна ў цябе смык па струнах гуляе, чалавеча. Зайграй і для мяне што-небудзь.

А той і прасіць доўга не даўся: як урэзаў польку-трасуху, то не толькі ў паніча ногі самі захадзілі, бы ў жарэбчыка на прывязі, але нават зоркі на чорным небе заскакалі ды ў розныя Вужы і Курачкі збягацца пачалі. Тут паніч і стаў прасіць:

— Граеш ты хвацка. Цаны тваёй ігры няма. Пайграеш нам у палацы на балі — шчырым золатам абсыплем.

Згаладаму войшкаўцу такога двойчы паўтараць не трэба было. Паніч размашыста пакрочыў некуды, а музыка следам за ім подбежкам падрыпаў.

Прыходзяць яны ў шыкарны палац. Поўна там стройных панічоў ды разадзетых паненак прыгожых, а ўсё навокал аж зіхаціць ад крышталяў ды мармураў. Як толькі ў палацы звочылі музыку, паненкі адразу пасадзілі яго на самае ганаровае месца, а панічы падскакваюць ды кожны залатую папяросніцу яму пад нос тыцкае і пахучымі цыгаркамі частуе.

Курыць войшкавец дарагія цыгаркі ды такія вальчыкі і кадрылі смыкам са струн высцёбвае, што аж свечкі ў срэбных кандэлябрах вянуць. Панічы ж тыя з паненкамі, як віхор у лютаўскую завейку, у няспынным карагодзе круцяцца.

Граў так музыка, граў ды і прытаміўся. А як прытаміўся, то і падумаў: «Да танцаў то яны ўсе ахвочыя, але як жа ж з абяцанаю платаю будзе?» А падумаўшы так, узяў і спыніў сваё гранне.

Падбеглі да яго паненкі і панічы і давай упрошваць:

— Грай, шаноўны, грай! Ты так дзіўна граеш, што ў нас ногі проста самі ходзяць... Грай!..

А музыка ім на тое:

— Маё гранне вы ўжо пачулі і нават натанцаваліся ўдосыт, а я вашых грошыкаў на вочы не бачыў і ў руках сваіх не трымаў.

Зняў ён шапку і перад сабою на падлогу паклаў.

Падскочылі тут да яго распаленыя танцамі панічы, выхопліваюць са сваіх кішэняў кашалькі, сыплюць, не лічачы, залатыя чырвонцы ў музыкаву шапку ды просяць:

— Грай! Грай! Грай жа!..

Зарадаваўся войшкавец, такое багацце каля сваіх ног бачачы. Схапіў ён скрыпку ды смык і зноў хацеў урэзаць тую шалёную польку-трасуху. Ажно чуе — недзе певень закукарэкаў.

На той голас усё тут зашумела-загуло. Зніклі панічы з паненкамі. Расплыўся, бы ранішні туман, палац. Глядзіць скрыпач: сядзіць ён на купіне пасярод самай топкай багны, што непадалёк

Нарвы прасціраецца. Побач у жарале тоне яго шапка. Кінуўся ён да яе, каб чырвонцы ратаваць, а там замест золата — поўна іржавай балотнай руды. Тут і хмель у яго з галавы выскачыў. Глянуў ён сумным вокам на дрыгву ды і давай хутчэй з яе выбірацца. Чаго добрага, яшчэ людзі звочаць, куды яго нячыстая сіла завалакла.

## 182. [ПРА ЧАРТОЎ]

Недалёка ад нашай вёскі Азяблы (Беластоцкі павет) ёсць возера Горбач. Расце там малады багон. Цяпер дайсці да возера можна дарогаю, якая праходзіць праз лугі і лес. Калісьці гэты лес і навакольныя абшары былі недаступнаю дрыгвою. Здаралася, што хтосьці ноччу, зблытаўшыся з дарогі, трапляў у непраходны лясны гушчар. Тады адбывалася самае страшнае.

Нейкая постаць хадзіла перад чалавекам і вызначала яму дарогу. Выдавала таксама нейкія незразумелыя гукі. Той, хто ішоў следам гэтай з'явы, трапляў у нетры, адкуль цяжка было выбрацца. Бывала і так, што калі хто трапіць сюды адвячоркам, то праходзіць да самага ранку, пакуль пазнае знаёмае месца. Старэйшыя гавораць, што даўней жылі тут чэрці і сюды нікому нельга было заходзіць. Калі чалавек з'явіўся ў іхнім уладанні, былі яны надта злыя і хацелі яму па-свойму «падзякаваць» за гэта.

Цяпер усе старыя і маладыя згодна гавораць, што чарцей тут няма. Чэрці даўно адсюль ужо ўцяклі ў невядомым напрамку і ніхто іх не бачыць. Мо' пайшлі на пенсію?

## * 183. КУРЫШ ЦІ НЮХАЕШ

Кажуць жа людзі: дзе балота, там і чэрці.

Калісьці каля Васількова ад самай вёскі Студзянкі і аж пад Вольку, Варашылы і Сахані, на абшары, што і вокам не сцягнеш, прасціралася багно Панэрка. Ну і вядома, нячысты ў ім таксама вадзіўся і ўсялякія насмешкі над добрымі людзьмі ўчыняў.

Бывала, як толькі ў марозную месячную ноч нехта ідзе ці едзе каля крыніцы на Панэрцы, то так ужо і чакай, што дзіўнага касца ўбачыць. Сам, як мясцовы франт: у паласаценькіх нагавічках, зграбным фраку ды ладным капелюшы. У руках жа ў яго — вясковая каса. Размашыста, як запраўскі касец, кладзе ён абінелую трасціну, ажно шоргат ад алешнікаў водгуллем адбіваецца. Толькі пракосаў тых нідзе не відаць: скошаная трасціна зараз жа падымаецца і на папярэдняе сваё месца становіцца. Але касец на тое не зважае — рэжа, аж іскры з-пад касы сыплюцца.

І здарылася ж аднойчы, што кінуў ён касіць, выйшаў на дарогу і ўскочыў у шыткі да чалавека, што навінуўся якраз у тое месца. Заенчылі палазы ў санях ад вялікага цяжару і аж захроп з натугі конь. Касец тым часам пытаецца ў чалавека:

— Ты табак курыш ці нюхаеш?

А той, сцяміўшы якога мае пасажыра, кажа:

— Хто курыць, таго з пекла тураць, а хто нюхае, той сам у пекла трухае...

Франт, злым вокам на чалавека бліснуўшы, вымае ўсё [redacted] кішэні фрака залатую табакерку:

— Ну, то нюхай і да нас трухай!

Але чалавек на тое:

— Нюхнуў бы, ды сцюжа нюхаўку гноем залажыла.

Задумаўся на хвіліну франт і спагадліва раіць:

— Як нос адыдзе, тады ўволю нанюхаешся!

Адкрывае ён табакерку і сыпле чалавеку ў кішэню чуйкі дарагі, пахучы табак. Насыпаў поўна-паўнюсенька, [redacted] сам — скок з шытак і знаку па ім не стала.

Прыехаў чалавек дахаты, нават каня з санак не выпраг, адразу ў хату папёр, каб пры газоўцы на чортаў табак паглядзець. Сунуў у кішэню руку, а там замест пахучага табаку — поўна талых конскіх камякоў! Нюхай, маўляў, сабе ўволю, а не — куры дасыта.

Цяпер у Панэрцы нячысты трасціны не косіць. Нават у такія ночы, калі мароз так заўзята па лёдзе страляе, што аж пошчак па наваколлю ідзе, а ў месячных промнях хоць ты іголкі збірай. Багно асушылі.

## * 184. ЧАМУ ЧЭРЦІ ЦЯПЕР У ХАТАХ НЕ ВОДЗЯЦЦА

Кажуць жа людзі: салдат не баіцца і пекла. Мо' к сённяшнім салдатам гэта і не падыходзіць, але вось к даўнейшым — дык напэўна. Бо што і ні кажы, салдат не бядак: шапка на макушку, шабелька на брушку, вус закручаны, бот пачарнёны. Але не так-то весела ко́лісь салдатам было. Вядома ж, у каго грошай кашэль, таго не адзявалі ў шынель. А ў каго грошыкаў гэтых самых нямашака, дык тады яму было чырвонай шапкі не мінуць. І служылі ж тады не год і не два, а дваццаць пяць год у войску.

Вось і варочаўся адзін салдат з войска дадому, адслужыўшы дваццаць пяць год. Ішоў-ішоў, а тут і вечарэць стала. Зайшоў ён у сяло і просіць аднаго гаспадара, каб той яму ноч скаратаць пад страхою дазволіў. Гаспадар згадзіўся і кажа:

— Бач, браце-салдаце, хаты ў мяне дзве. Адна старая-старусенькая вокнамі ў зямлю ўрасла. Цеснавата нам у ёй будзе. Але

вунь новая мая хата стаіць. Мы ў ёй не жывем. Ты там і пераначуеш.

— А чаму ж вы гэта ў новай хаце не жывéце? — пытаецца салдат.

— Нячысты, браток, завёўся там. Усю ноч навылёт па гары ходзіць, стукоча ды грукоча. Дзе там чалавеку ўжыць,— разбедаваўся гаспадар.

— Нічога,— кажа салдат,— больш грукацець не будзе. Ты дай толькі мне люстэрка і мыла. Я ■ ім хутка паладкую.

Сказана — зроблена. Завёў гаспадар салдата ў новую хату і люстэрка і мыла яму даў. Хату на засаўку, а сам у старую вярнуўся.

Зайшоў салдат у новую хату, запаліў лучыну на пяколку, паставіў люстэрка на стол і сеў перад ім, сваю сівую бараду гладзячы. Узяў мыла ды брытву і пачаў брыцціся. Абрыў адну палавіну і да другой прыступае, ажно бачыць: на печы з-за коміна выглядае чорт. Выглянуў раз, другі і трэці, а салдат і віду не падае, сядзіць перад люстэркам і за чортам сочыць. Тады чорт — скок з печы і да салдата.

— Ці можаш і мяне ты зрабіць такім маладым, як сябе цяпер зрабіў? — пытаецца.

Салдат глянуў на касматае чортава рыла, падумаў і кажа:

— Магчы то магу, але на тваю шэрсць мяшок мыла, добры серп ды вяроўка спатрэбіцца.

Зашумела-загуло і, як ні бач, чорт з мяшком мыла, сярпом і вяроўкаю з'явіўся.

— Ну,— кажа салдат,— цяпер слухай мяне і не супраціўляйся.

— Добра,— згадзіўся чорт.

Салдат мігам паклаў чорта на лаву. Прывязаў яго моцна вяроўкаю і пачаў рыхтавацца да брыцця. Разрабіў у чыгуне мыла і, узяўшы з-пад парога дзяркач, пачаў мыліць нячыстага. Мыліў-мыліў, аж чорт увесь стаў белы як снег. Намыліўшы, схапіў серп і давай чортаву шэрсць разам са скураю скрэбці. Салдат скрабе, а чорт і вые і просіцца:

— Салдаціку, даражэнькі, пусці мяне, міленькі! Не хачу я маладым быць...

Салдат жа скрабе і прыгаворвае:

— Так вось табе, чортава скура, людзей страшыць ды па-за печчу шляцца.

Аскроб яго дачыста, толькі адны косці асталіся. А потым адпусціў вяроўку і кажа:

— А цяпер гайда, каб твайго і духу тут не было!

Чорт бух у комін — толькі сажа пасыпалася ды на падворку загуло, быццам завіруха ў лютаўскую ноч.

Праспаўся салдат спакойна, а на раніцу расказаў аб усім гаспадару. Маліўся-дзякаваў той салдату, сала-каўбасы ў торбу на дарогу салдату даў, а сам хутчэй са старою сваёю ў новую хату перабраўся. Жылі яны ў хаце, век дажывалі, але чорта і слыху нідзе не было.

З таго часу ўсе чэрці з людскіх хат выведіся, баючыся, каб іх хто не абрыў, як той салдат калісьці.

## * 185. [ШАТАН]

Раскажу папу дзіва, якое бачылі на возеры Расона, што не вельмі далёка ад нашага Нешчарда... не болей вёрст трыццаці. Казаў мне пра тое адзін з тамашніх жыхароў... што раз веснавой парой аратыя з сахой вярталіся з паншчыны, яшчэ сонца не зайшло, бо перад нядзеляй эканом іх пусціў раней. Вечар быў ціхі, неба яснае, на высокіх бярозах з розных бакоў смутна кукавалі зязюлі, у вышыні спявалі жаўранкі і салоўкі ў кустах. Маладыя, едучы на конях, размаўлялі аб сваіх прыгодах, ■ старэйшыя аб гаспадарцы. Раптам пачулася музыка, нехта за лесам грае на дудзе і спявае так галосна, што ўся аколіца загула незвычайным рэхам. А песня тая была ўсім знаёма:

Пацяраў я дуду, іх вох,
На паповым лугу, іх вох,
А не дудка была, іх вох,
Весялуха была, іх вох,
Весяліла мяне, іх вох,
На чужой старане, іх вох.

Мінаем лес, набліжаемся да возера Расона, вада ціхая і ясная, як крышталь, так што ўсе дрэвы відаць пад вадой, нібы намаляваныя. Але вось дзіва нечуванае — на спакойнай вадзе, на самай сярэдзіне возера, падкурчыўшы ногі, сядзіць д'ябал, чорны, як вугаль, рукі доўгія-доўгія, галава агромністая, і грае на дудзе і спявае страшным голасам. Перапалоханыя, усе пачалі казаць пацеры і берагам пабеглі дадому. Сонца ўжо схавалася на захадзе, а яшчэ доўга чулі за сабой голас дуды і страшны спеў шатана.

## 186. ВІДЗІМЫЯ І НЯВІДЗІМЫЯ

Быў адзін багаты чалавек. Нікому ён праўды не гаварыў. Бог і пытае ў яго:

— Колькі ў цябе дзяцей?

«Казаць ці не казаць?» — разважае пра сябе чалавек. Дзяцей

было дваццаць чатыры. А ён прывык гаварыць няпраўду і кажа:

— Дванаццаць.— Палавіну ўтаіў.

Як сказаў, так бог і зрабіў: палавіну сваіх дзяцей ён бачыў, а палавіна — сталі невідзімкамі.

З тых пор і пайшлі невідзімкі: і баба лугавая, і дзед лесавы, і апастыр палявы, і цар мухавы.

## * 187. [ЛЯСУН]

...Жыў у нашай вёсцы селянін Антон. Меў добрую гаспадарку, беднасці не ведаў, але быў бяздзетны і прыняў дзіця невядома якіх бацькоў. Дык ахрысцілі яго і далі імя Васіль. Гадаваў яго, як сваё роднае. Вырас ён, пачаў быдла гнаць у поле, але быў вялікі гультай і свавольнік. Заўсёды скардзіліся на яго: альбо каровы пусціць на засеянае поле, альбо каго вылае брыдкімі словамі, альбо ў каго камнем трапіць. Ідуць усё скардзіцца да Антона, толькі Антон любіў яго. Калі яму гаварылі, ён як бы не чуў, пблажаў яму ва ўсім, а той рос і рабіўся штораз горшым і дзёрзкім.

Сабраліся неяк раз на паншчыну. Было тое пасля Пятра, і Васіль быў пасланы на работу. Ён звычайна з кожным задзіраўся, ні пра аднаго чалавека добрага слова не скажа. Быў то дзень вельмі гарачы. Войт казаў палажыць косы і закусіць чым хто меў, бо было ўжо пара абедаць і час адпачыць. Паселі на лугу ў кругу, разгаварыліся пра тое, пра сёе, аж бачаць, як адзін работнік, што нечага аддаліўся быў, стаіць пры гаю, махае рукою і кліча да сябе:

— Хутчэй, хутчэй, хадзіце сюды, пакажу вам дзіва!

Бягуць усе, работнік паказвае рукой на блізкія бары:

— Паглядзіце, што дзеецца.

Мы бачым перад сабой незразумелы цуд. Лясун ідзе па бору, галавою вышэй над соснамі, а перад ім выбягае на паляну агромністае стада вавёрак, зайцоў, сарнаў і іншых звяроў; у паветры стаі цецерукоў, курапатак і іншых птушак адлятаюць прэч. Лясун выходзіць з лесу, меншае ў малога карла, і адразу з поля і з лугоў падняліся матылі і іншыя насякомыя, і як бы цёмная хмара закрыла нашу аколіцу.

## 188. ДАБРАХОТ (ЛЕСАВІК)

Быў у нас так во ляснік. Дык ён раз улетку, во як бы цяпер, кідаў стог пад лесам. І кідаў ён стог, значыцца, і не завяршыў. Двору яму, значыцца, далёка іціць, ён сабе думаець: заначую я тут, на стагу. Богу памаліўся і лёг. Толькі лёг, чуець у дзярэўні — блізка была дзярэўня — шчанок брэшаць. І так брэшаць цэлую ноч, як званок,— спаць не даець. Чуець ён: па лесу — трэсь, трэсь!

Гоніць Дабрахот ваўкоў, можа, іх штук сорак. Выгнаў на луг і гаворыць:

— Чуеце шчанка?

— Чуем.

— Ну, вот жа,— гаворыць,— калі яго да году не задавіце, тык ён вас усіх падавіць.

І пагнаў.

Тэй ляснік пераначаваў там, а назаўтрага, даў бог дзень, пашоў у тую дзярэўню. Прыходзіць туды і стаў дапытваць: чый такі ета сабака цэлую ноч гаўчыў, шчанок? Стаў дапытвацца — і дапытаўся. Прыходзіць к хазяіну:

— Прадай ты мне, пажалуста, свайго шчанка.

— Во, як жа я прадам, ён у мяне такі, як званок.

Тэй стаў прасіць і купіў-такі яго — аддаў тры рублі. Прывозіць дамоў і прама яго ў пограб, пакуль, значыцца, выйдзець яго тэрмін. Прадзяржаў год, тады пашоў на ахоту.

Ну, увайшоў у бор. Тэй сабака воўка як завідзіць, дык і задушыць; мядзведзя завідзіць — і мядзведзя задушыць; лася — і таго задушыць. Кабана — і таго задушыць. Задушыць і кінець. Надушыў дзічыны — на вазы не забраць. Толькі селі яны аддыхаць, аж па лесу — трэсь, трэсь! Ідзець Дабрахот.

— А што,— каець,— ці не быў ты тады на стагу, як я прыказваў яго задушыць?

Тэй відзіць, што ўжо некуды, гаворыць:

— Быў.

— Ну,— гаворыць,— я б не жалеў, калі б ты душыў іх ды браў, а то ты душыш, ды так кідаеш. Во што: у сяле, на выгане, пад такім-та камнем вазьмі скрыню грошай, а яго забі. Ён мне ўвесь скот знiстожыць.

Ну, таму нечага дзелаць. Злажыўся — бэх, бэх! З двух ствалоў — і забіў. Тады думаець — дай я пагляджу, з чаго ў яго сіла такая. Разрэзаў, паглядзеў — а ў яго дванаццаць почак... Дык вот і багатыр. Ну, ён грошы тыя выняў і багата жыць стаў.

## 189. ДАМАВЫ ЕЗДЗІЦЬ НА КОНЯХ

Сядзімо мы раз у карчме, пакурваем люлькі да гамонім аб том, аб сём. Толькі ось улазіць Купрэй і пачынае жаліцца, што яго коні ноччу хтось заезджвае ў хляве.

— Гэ, да гэта, мабыць, самы той,— кажа Мікіта Кульган.— Летась ён як прычапіўся да маіх коней, дак чуць жывымі пакінуў. Але то, кажэце, нячыстая сіла, я выгладзіў коней, як лялек, а ён за нядзелю так заездзіў, што засталіся толькі шкура да косці.

11. Зак. 1230

— Дак от гэж і маіх,— кажа Купрэй.— Сягоннячы чую ўночы, што коні грукаюць. Запаліў я цёску да й пайшоў у хлеў. Прыходжу туды, ■ мае коні ў пене, бы іх хто ганяў учвал колькі міль. Гэта ён цешыцца. Ён любіць, калі гладкія коні. Прапалі мае коні. Не ведаю, што і пачаць. Парадзь, Мікіта-братка, што мне рабіць. Мо трэба старацца людзей, каб адрабілі, бо гэта, мусіць, уздзеяна.

— Плюнь ты, Купрэй, на гэстую справу, да от паслухай, як я зрабіў. У мянэ яшчэ гарэй было, бо я й не кмеў, што ён ездзіць на конях. Толькі бачу, што як я ні кармлю, а яны ўсё падаюць з цела. Дзякуваць сябру, ён мяне перасцярог:

— Глядзі,— каа,— сябрэ, ці не дамавы гэта гарцуе на тваіх конях.

Схамянуўся я да й пашоў у ночы цікаваць. Залез гэта я на вышкі да адтуль і пазіраю на коней. А ў мяне, бачыце, над коньмі, каб было цяплей, зроблены вышкі з жордак, а наверх накідана саломы. Ляжу я на саломе да й пазіраю праз шчыліну. Перш з вечара коні стаялі ціха да хрумалі сена, потым, мо ўжо ў самую глухасЬ, пакінулі есці да давай пераступаць з нагі на ногу, давай чмыхаць да дрыжаць усім целам, от бацэ яны бягуць да й толькі. Дак от, кажэце, мо цераз часіну, люльку выкурыць, з маіх канякаў кускамі паваліла пена. Паглядзеў я на тое да хутчэй к сябру на раду.

На другую ноч пайшоў я з сябрам разам пілнаваць коней. Запалілі мы грамнічную свечку, накрылі яе горшчыкам, узялі з сабою свянцонае вады да сядзім, чакаем, покуль з'явіцца ён сам. Толькі ось каля поўначы й пачалі коні біцца да тупаць. Адкрыў гэта сябер свечку, зірном мы, аж на конях сядзіць сівы дзед з доўгаю барадою да толькі іх паганяе. От я як крапануў яго свянцонаю вадою, дык ён і знік. Назаўтра павесілі мы ў хляве сароку, а больш нічога. От з тых часоў не чапае коней.

## 190. ХУТ

Хут, у каго ў доме жыве, вельмі таму спрыяцель у гаспадарцы, багацце ў дом прыносіць, снапы з чужых палёў у гумно, золата з няведамых скарбаў. Вечарам яго можна часам бачыць на небе, як ляціць вогненны, чырвоны — золата нясе, як цёмна, чорна — збожжа, снапы. Але яго трэба шанаваць, смачна карміць, яго любімая страва — яечня. Як спячэ гаспадыня яечню, нясе на гарышча, ставіць там і кліча:

— Хут, хут, ідзі сюды, дам яечаньку, абара́чаньку.

Ён тады прыходзіць і есць. І тады ўсё ў дом носіць. На гарышчы хут жыве, а лятае дзе хоча, ніхто не ведае дзе. Можа перакінуцца

ў што хочаш — у корч, у старое калясо, палена.

Кажуць, быў такі выпадак. Парабак падслухаў, як гаспадыня клікала хута есці яечню, ды з'еў тую яечню сам. Хут вельмі разгневаўся, думаў, што гаспадыня кпіны састроіла, і спаліў увесь двор і гумно, і дом. Гасілі людзі, гасілі і не далі рады. Стаяць, глядзяць на галавешкі. А тут калясо старое ляжыць [а гэта быў хут, ён перакінуўся ў калясо, жыць яму ўжо не было дзе]. Дык сусед кажа:

— А нашто ж яно тут будзе гарэць,— дый перакінуў у свой двор.

Дак адкуль толькі што ўзялося ў яго! Усё яму пайшло і ўраджай, і ўсялякае дабро.

## 191. ГУМЕННІК

Мы спрэжда былі багаты, було у нас трыццаць коней. Наканец таго заступілі памешчыкі з Масквы, асталась з трыццаці тры толькі. Цяперака мы прыніжалі, було нам ад памешчыкаў дужа худа; сталі нас, значыцца, ва ўсе месты патрабляць, як дзеда, так і бацьку і матку, і нас усіх на ўсе работы. А нас було шэсць братоў, сёмая сястра. Цяперака ацец наш заскучаў, патаму не хватае нам на пракармленія. Вот раз, у пиліпаўку, там бывае празнік Мікалаяўгодніка, пашоў бацька наш пасля абеда, затапіў авін, а ўвечары, павячэраўшы, адправіўся туды начаваць. Прыходзе туды ўва'він, памаліўся богу і лёг спаць. Скінуў шубу, паклаў у галава, сам абпёрся на руку і задумаўся аб сваім хадзяйстве, што негдзі чаго ўзяць. Удруг яўляецца к яму старык: куртка чорная, пояс чорны, а на галаве каўпак. Узяў бацьку за правую руку да й кажа:

— Чаго ты, Аўтух Карняеў, засмуціўся так аб етым? У вас ё багаты чалавек Аксен,— багатыр тагды быў,— у яго,— кажа,— усякага дабра многа ё, ну ў цябе,— гавора,— больш дабра прыбудзе, не журысь.

Бацька мой думае: мусіць, ета бог сам учуў мае малітвы. А старык тэй вынімае з кармана новы ножык і кажа:

— На, разрэж ножыкам правы мязенец і капні куды-небудзь каплю свае крыві.

Э, думае сабе бацька: дзела плоха. Ета, значыцца, нячыстая сіла.

— Не,— кажа,— я етага не магу здзелаць.

І хацеў ён перахрысціцца, а ён рукі дзержа.

— Ну,— кажа,— калі не хочаш даць крыві, дак аддай мне тое, чаго ў доме не ведаеш.

Бацька кажа яму:

— Як я маю што аддаваць: усё сваё дабро я ведаю, і нечага,— кажа,— мне аддаваць табе.

— Не,— кажа,— аддай, чаго ў доме не ведаеш.

— Не, не дам...

Падыходзе ета дзела ўжэ поўнач. Як наляцеў віхор, затрашчала гумно, сабакі забрахалі на дзярэўні і пятух запеў — було ў нас трое курэй на седале і пятух. Дзед той пусціў тагды бацьку і пашоў за авінную печ. А за ім як пашлі, як пашлі, дак і касматыя, і рагатыя, і ўсякія...

Выбег бацька з авіна, стаў богу маліцца, а шуба на зямлі ляжыць ува'віне. Змёрз ён, стоючы, узяў граблі і давай шубу даставаць. Толькі ён яе зачапіў, а дзед вышаў з запечка да не дабаць. Той к сабе цягне, а той к сабе.

Тут запелі другія пеўні, дзед схаваўся за печ, а бацька загроб шубу і надзеўся. А тут і мы прышлі з работнікамі малаціць. Развялі цяпло. Бацька і пачаў нам расказваць. Мы яму кажам, што сеначы радзілася ў яго дачка, а ў нас сястра. Ну, ён стаў маліцца богу, што бог яго засцярог, што не 'тдаў ён свае дочкі гуменніку...

Да так, як бачыш, і не разбагацелі.

## 192. ГУМЕННІХА

Тут, пад Асінаўку, ё рэчачка, Прудок завецца. Дак там лясы былі сілныя. Дак мужукі завялісь там поле раздзелаваць. І ў воднае бабы дзяцёначак быў. Дак ета верна іх жыцельства було там: як прыдзе ноч, дак яны заплачуць, заплачуць,— галосюць, як воі хрысцяне. Голас такі па лясу, што божа, божа! А калі дождж пройдзе, дак после дождджа пугамі як стануць хлопаць.

Жалі яны раз ячмень на лядох. Дак, ведама, і начавалі там па гумнах. Бабы етыя баяцца, дак яны на 'він паўзлазілі:

— Кум,— каа,— узлез на 'він, дак мы ні звера, нічога не будам баяцца.

А тагды звера було ўсякага: мядзведзі, ласі, козы, свінні, рысі — пушча была несхадзімая. От яны ўзлезлі на 'сець, сядзяць.

Шчэ й не пазаснулі, аж ось, уходзе на ток жэншчына, холпо прыбраўшысь, прыхухоліўшысь, і нясе ў руках арэхавы куст і свечачку з агнём. Да тым кустом па таку хлоп, хлоп! — пугае ўжэ іх.

От мы,— каа,— баба мая казала: ціхонечка ўсталі, паселі кружка, а дзяцюначка таго паміж сябе, і маўчым.

От яна пахлопала, пахлопала і з кустам, і з свечкай — за вароты.

## 193. БАННІК

У Чудзянах пашла дзеўка замуж за старыка. І ніяк яна не звала яго, як стары чорт,— вэдлуг шутак. І хлопчык у іх радзіўся. Ну, пашла яна ў лазню і хлопчыка ўзяла. І гавора старыку:

— Я ж,— гавора,— послі лазні аслабею, дык ты, стары чорт, прыдзі і вазьмі хлопчыка. Пад лазнею пасядзі, я гукну цябе, ты й панясеш яго дамоў.

Ну, пашлі ў лазню, яна туды-сюды яго скарэй абмыла, дзверы расчыніла:

— Ці тут ты, стары чорт?

— Тут!

— Ну, на ж, вазьмі яго.

— А, давай, давай.

Яна аддала, ён і панёс.

Стала тагды яна мыцца, а мужык прыходзе:

— Прося, давай хлопца. Нешта ты доўга яго мыеш?

— Якога хлопца,— я ж табе аддала.

— Калі?

Стала ёй ета жалка, і яна абрабела...

Прыходзе дамоў — няма хлопца. Туды-сюды — так і паноніча няма. Аддала старому чорту, ведама, банніку.

## 194. [РУСАЛКІ]

...А то былі шчэ русалкі. Бог ведае, што ета за русалкі такія? Кажуць — жэншчыны. Сама голая, страшная, валасы доўгія ў яе— цянуцца па гоні, і ў яе кажуць, усё так, як у чалавека, толькі не знашно, ці жэншчына, ці мужчына — усе раўны. От тут, кажа, на Каўпітай (рэчка), на курганку, рошча була, дак іх тут самае гульбішча було. Гулялі яны больш на гранай нядзелі. Дак возьме на бярозу ўзлезе да за голючку валоссямі прывяжацца да ўніз апусціцца, да й калышыцца і крычаць, да: уу-гу, уу-гу!

А то, бувала, пойдзем з нябожчыкам пчол выняць. Дак ён і паказуе:

— Во,— кажа,— сакол, во тут, вакруг сасны, трава не расце: ета тут русалкі скакалі. Танчуць,— каа,— кружка, за рукі пабраўшы. І так карагод здзелаюць бальшы кружка сасны. Слава богу, цяпер народу размножылася, а тагды малнасць було. А тагды, дак пойдзе чалавек у лес адзін, дак яна пападзе да возьме за хахольчык тапарышча, што за абушком, да як пачане біць, як пачане біць, дак у пух саб'е чалавека... Страху задае.

## * 195. [ПРА РУСАЛКУ]

Жанчына пайшла ў лес па грыбы. Бачыць, на дрэве вісіць вялікі кавалак бярозавай кары. Падыйшла яна, зазірнула ў сярэдзіну, аж там ляжыць голае дзіця і спіць. Жанчыне шкада стала дзіцяці, адвязала свой фартух, прыкрыла ім дзіця і адыйшлася, усё думаючы, чыё гэта можа быць дзіця і як яно сюды трапіла?.. Але не паспела яна адыйсці ад дзіцяці якіх дваццаці крокаў, як пачула:

— Пачакай, кабетка!

Яна азірнулася, бачыць — бяжыць да яе голая жанчына з распушчанымі валасамі. Гэта была русалка. Тая спужалася і хацела ўцячы, але русалка закрычала:

— Пастой, кабетка, спор табе ў рукі! — Дакранулася да рук жанчыны і знікла.

Калі жанчына трохі ачулася ад пуду, яна вярнулася дадому. З тае пары яна пачала так працаваць, што ўсе дзівіліся, адкуль у яе бяруцца сілы.

## 196. [РУСАЛКІ]

А то во ў Вугольшчыне, адкуль матка мая нябожчыца була ўзядзена. Дык яны раз ехалі з канюшні, уранні, многа ехала, вярхамі. А яна — ■ ім. Яны як кінуліcь уцякаць усе, дык адна дзеўка і з каня,— ведама, як тэй каа, страх такі: спужалась і ўпала. Дык яна на яе наскочыла, накрыж разгарнула і зашлакатала. Назаўтрага і знайшлі мёртвую.

## 197. [РУСАЛКІ]

Русалкі на гранай нядзелі катаюцца. За гэтым самым у нядзелю ніхто не ходзе ў лес,— бач апасаюцца. Раз адна маладзіца ішла на гэтай нядзелі з Царкавішча ў Прыбар з гасцей ад маткі. Ну, матка яе й праводзіла. Увайшлі ў лес, а яна з лесу на дарогу і выбегла, і скачыць-скачыць. А тады на бярэзіну ўскочыла і давай гутатахацца: гутата-гуляля, гутата-гуляля! Яны як спужаюцца, да назад. Да пераначавалі, а назаўтрача ўжэ ўтрох пашлі,— і бацька з маткай, і маладзіца. Дык нічагусенька не бачылі, ні-ні. А валасы, кажуць, да долу да самага. І ў яе ўсё жаноччa. Страхата, не прывядзі бог! Гэта гадоў сорак таму було.

## 198. РУСАЛКІ

Русалкі цераз мяжу не могуць перайці, адтаго і вывелісь: бач, цяпер зямля ўся перамерана. А спрэжда, як зямля була не мерана, іх було многа. Бувало, выйці нельзя,— зашлакочаць. А ў лесі, дак ноччы толькі і чутна: гу-гу-гу-гу! Аж сумна.

Даўно колісь, старыкі казалі, дзвюх прыводзілі і к нам у дзяроўню. Дак у іх жаноцкае ўсё, толькі цыцкі бальшыя-бальшыя, аж страшна, да валасы доўгія. І нічога не гавора, толькі плача й плача, ракой іллецца, пакуль пусцяць. А як пусцяць, тагды запяе, заграе — да ў лес. Многа було. Ну і нядзеля граная, што яны на етай нядзелі каталісь, гралі ў лесе: гутата-гуляля, гутата-гуляля! Толькі, бувала, і чутна.

## 199. РУСАЛКА

А што так во, мой бацька работаў на полі ля лесу, на гранай. І паставіў барану ў бярэзніку. Дык яна злезла з бярэзіны ды з бараной стала гуляць. Гуляла, гуляла дый ушчамілася. І ніяк. Цягаець барану, а пайціць нельзя. Прыходзіць бацька, а яна ўжо і сядзіць. Ну, ён яе двору прывёз. І яна чыстая, прыгожая, і напрадка харошая. Дык яна яму цэлы год служыла. І што яна ела? Як гаршкі выставюць во з печы, дык яна пары нахапаецца-нахапаецца ротам,— аб тым і сыта. І ўсё чыста дзелала. Раз толькі пакажы ёй, больш ужэ не нада. І прала, і ткала, і скаціну даглядала, хату тапіла — усё. Тады як год адслужыла, зноў прышла граная, тады яна гаворыць:

— Ну, мне пара іціць,— каець,— госці мае ўжо прыехалі.

Зайграла, заскакала — і ў лес! І цэлы год нічога не гаварыла. Толькі ета й сказала.

## 200. [РУСАЛКА]

У нас во, у суседа, у Цітаўцы, русалку паймалі ў лесе: на лядзе ў барану ўвязла. Дык ён аслабаніў і прывёў дамоў.

— Адкуль ты?

— Ад Іллі-прарока.

— А куды пойдзеш?

— К Іллю-прароку.

Дык год аджыла. І нічога не есць; толькі як гаршкі вымыець, дык пары хап-хап з гаршка. А тады завыла:

— Дружачкі-падружачкі, вазьміце мяне.

І ў лес.

Дык у яе ўсё жаноцкае... Валасы доўгія. Адзета прыгожа.

## 201. [ПРА ПРЫГОЖУЮ ДЗЯУЧЫНУ, ЯКАЯ ЗНОСІЛА МАЛАДЫХ ПАСТУХОЎ У ЛЕС]

У даўнія часы казалі людзі, што на тым мейсцы, дзе зараз Круглае возера, стаяў Гіржбартаў замак. Потым гэты замак праваліўся і ўтварылася возера. Берагі гэтага возера зараслі чаротам.

І з таго возера кожны тыдзень выходзіла вельмі прыгожая дзяўчына. Яна прыходзіла да пастухоў і гуляла з імі, а калі ёй штонебудзь не падабалася, яна брала пастуха на плечы і насіла яго па лясох, а потым садзіла яго на пень. Пастух ужо не мог зайсці дахаты і блудзіў па лесе, пакуль яго які-колеча чалавек не заводзіў дахаты.

Людзі папрасілі ксяндза, каб той даў якую раду. Ксёндз сказаў паставіць на полі стол, а на стол крыж і палажыць хлеб і шкаплеры. І калі яна прыйдзе, хай пастух надзене ёй на шыю ражанец. Так і зрабілі.

Калі дзяўчына прыйшла, дык яна параскідала ўсё тое, што было на стале. А калі пастух хацеў надзець ёй ражанец, дык яна пастуха схапіла і знесла яго так, што ніхто не мог знайсці. Пасля таго, якія спосабы людзі ні рабілі, нічога не дапамагала. Кажуць людзі, што і цяпер у год раз уначы прыгожая дзеўка возіцца на возеры і нешта цікавае пяе. І хто зразумее яе голас, той ніколі не будзе ведаць гора, кажуць людзі.

## 202. ПРЫСЫПУШ

Яны [русалкі], кажуць, з пазвалення сказаць, з скідушаў.

Як баба не даносіць ці так мёртвага родзіць — ета ўжо яна.

Іншыя дзейкаюць, быццам яны з прысыпушаў, ды не. Прысыпуш — ета падмен. Ета во, як хто рубіць дровы, ды нарубіўшы, кінець калодку там. Ну, ета ўжо іх [чарцей]. Січас здзелаюць рукі, ногі — дзяцёнка, звестна, нежывога і падложуць матцы, а яе жывенькага сабе возьмуць. Тая прашнецца — замест дзяцёнка калода; во й прысыпуш. Небеспраменна трэба калодкі рубіць, а то ўжо здзелаюць прысыпуша.

## 203. РУСАЛЧЫН ВОСТРАЎ

Мая мацер з Палесся. Палессе — ета туды, пад Тонеж. У яе сясцёр і братоў там багата було, мо дзесяцера. Меншы брат Ян зваўся. Вон за лесніка з маладых год буў. То от шо з етым маім дзядзькам адзін год прыключылася. Пашоў вон на Купалнага Йвана з ружжэм у лес, думаў, яку дзічыну ўбіць — мо кабана, мо лася, мо мядзведзя. Пашоў рана, сонейка не ўставала. Ціхенька йдзе па лесу, звера цікуе. Вуйшаў к Сіверскаму балоту, йдзе паўз яго памалу. І на балоце, і ў лесе ціха. Ідзе-йдзе. Аж раптам шо-та ему зробілася. Хоча йці далей да не можа, як бу дзеравянее. Нешча не пускае яго далей йці, на балота заварачае да цягне. Не хоча йці,

баіцца, дрыжыкі бяруць, а йдзе. З купіны на купіну ступае, скача. Да ўсе хутчэй, як бу завод які ў ём стаў, усе далей на балота. Балота тэ вялікае. Пасярэд яго возера е, пасярэд возера — востраў з купін, на востраве — куст адзін кала вады рос. Вуйшаў дзядзька к таму возеру. Раненька шчэ було, як бу туман возера аблягаў. Бачыць вон цераз туман той востраў. А на востраве — русаўкі, з крыламі, без сарочак, голыя, косы русыя па пояс. Пабраліся ў круг да танцуюць з падскокамі. А адна сядзіць пад кустом кала самае вады, у воду глядзіцца да косы расчэсае. Косы расчэсае да пазірае ў дзядзькаў бок. І здалося яму, што вана́ заўлякае яго, да сабе заве. Страхоцце на дзядзьку нашло, вубраўся вон з балота, а як — не помніць. Спужаўся моцна. Цяпер русавак там ніхто не бачыць. Ці то ваны е да не паказваюцца людзям, ці то звяліся. Мабуць, звяліся.

## *204. [ПРА РУСАЛАК І ЛОЙМАЎ]

Некалькі дзесяткаў год таму назад па ўсіх вярхлесаўскіх палетках... а нават на клінах, што ўрэзваюцца ў пушчу,— Груды, Каўшоўка, Ланка і Сучок — усё лета валэндаліся русалкі. Але яны людзей так не зводзілі ў зман, як, скажам, лясныя дзевы — лоймы. Праўда, явіліся яны толькі мужчынам, што ў лясных нетрах вуголь выпальвалі. Асабліва маладым, ладным і дужым. Даволі такому стомленаму пры вырубе дрэва і ладкаванні яго ў канец да выпальвання прылегчы дзе-небудзь на мяккім імху, як зараз жа з лясной гушчэчы прыходзіла гэтая незвычайнай красы і павабу дзяўчына. Спавівала юнака вэлюмам сваіх шаўкавістых косаў, абсыпала гарачымі пацалункамі, песціла пругкімі, бы лясныя яблычкі, грудзьмі і, распаліўшы мужчыну да кахання... выслізгвала з абдымкаў і знікала ў чашчобе. Такія былі калісьці лясныя дзевы-лоймы.

## 205. ЛОЙМА

У нас у рэчцы ест жаба вялізна, як кура, фунтаў з пяць, цела зялёна. То часта бывае, што як бабы палатно спераюць кіянкамі, то яна выйдзе на кладку і біе лапамі таксама па кладцы, як бабы кіянкамі па палатне. Людзі баяцца яе біць, каб каго не ўкусіла, а адна старая баба мовіла, што гэта лойма ў жабу пераменена.

## 206. [ЧАМУ МАЦІ ПЕРАСТАЛА ПЛАКАЦЬ ПА ДАЧЦЭ]

Памерла ў аднае жонкі дачка. Яна па ёй вельмі плакала, і ёй надта хацелася пабачыць свае дачкі. Вот нараілі ёй, каб яна на «ўсе святыя» пашла ў цэркаў і стала ў прытворы. Зрабіла яна гэтак. У самую ўжэ поўнач пачалі іці смерцьвіцэ. Угледзела на самы перад гэтая жонка сваю хрышчоную матку. Хрышчоная матка сказала ёй, каб яна стала ў куточак і схавалася там, бо смерцьвіцэ як угледзяць, дак гатовы з'есці. Схавалася гэта тая жонка ў куточак. Бачыць — ідзе яе дачка і валачэ за сабою вялікі цэбар слёз, што выплакала маці па ёй. Замардавалася бедная, аж рачы па ёй цякуць. Стала мацеры вельмі жалка яе, і пасля гэтага яна перастала плакаць.

## * 207. ЗАЧАРАВАНАЯ ДЗЯУЧЫНА

За адну вярсту ад вёскі Лыскоўскай воласці Ваўкавыскага павету і цяпер знаходзіцца невялікі гай, пра які ў памяці мясцовых жыхароў захавалася такое паданне. Адзін чалавек, Янка, праязджаў каля гаю ў саму поўнач. Калі ён наблізіўся да акопаў, якія відаць і зараз, дык убачыў вялікую жалезную скрыню, а па абодвух баках яе — двух сабак на ланцугах; на скрыні сядзела дзяўчына і часала валасы, ад якіх шугаў агонь. Дзяўчына з слязьмі стала прасіць Янку падысці да яе і распутаць валасы. За гэта яна абяцала зрабіць яго шчаслівым на ўсё жыццё і сказала, што злыя сабакі не крануць яго. Здзіўлены і спалоханы Янка не адважыўся, аднак, падысці да дзяўчыны, і кінуў ёй свой пояс, каб мацней прывязаць сабак.

Але толькі пояс крануўся дзяўчыны, скрыня загрымела, бразнулі ў ёй грошы, і дзяўчына адчайна войкнула і добра чуваці было, як вымавіла:

— Праклята твая душа адныне да веку, што ты мяне зачапіў: мучылася я сто рокаў, буду мучыцца і яшчэ столькі ж, але і ты не ўваскрэснеш.

З гэтымі словамі яна правалілася скрозь зямлю разам са скрыняй, сабакамі і Янкавым поясам...

## * 208. ЗАЧАРАВАНАЯ ЖАНЧЫНА

У адной вярсце ад в. Ражковічы Пружанскага павета стаяць дзве хвоі, паміж якіх у адну і тую ж пору года з'яўляецца жанчына з распушчанымі валасамі і ў белым даўгім адзенні. Хто б ні папаўся да гэтай жанчыны, ён робіцца яе ахвярай: яна водзіць яго

па балотах, змучвае да апошняга і забівае знясіленага і ніхто не можа знайсці і слядоў яго. Але як толькі ў гэты час заспявае паблізу певень, жанчына ўмомант знікае.

Тыя, каму ўдалося выратавацца ад гібелі, расказваюць, што, блукаючы з гэтай жудаснай жанчынай, яны бачылі даўгія і шырокія рэкі, густыя лясы, вялізныя палі і лугі і вялікія гарады.

## 209. НАЧНІЦЫ

Начніцы больш усяго гуляюць па лету, як лес добра ўбярэцца ў лісце, як на паплавох зацвітуць кветкі, на палёх выкаласіцца жыта да ўсюды стане так гожа, так запахне, што, здаецца б, толькі сядзеў дзе-небудзь сярод зялёнага, пахучага лісту ці паміж красак да ўсё б нюхаў тыя пахі, што напаўняюць і поля, і поплаў, і лес. Але поўнага ніколі няма дабра: калі кругом так гожа, такі пах, так радасна на сэрцы, та, пэўне, якаясь бяда ўжэ саўсім блізка. От толькі за лес схаваецца сонейка, як гушчэча загамоніць усялякімі галасамі. Там рагочуць русалкі, гойдаючыся на ветках, там ломяць дзераўлякі лесавікі да трашчыць усялякая нечысць, а там ціхенька вылазіць з лазовых кустоў цэлая чарада начніц. Яны толькі тое й робяць, што пужаюць добрых людзей. От раз я з Данілам Грудавых якраз гэтак кала сёмухі хацеў налавіць уюноў. Узялі мы сакі да й папхаліся ў возера. Там, бачыце, не вада, а толькі адна гразь, а ўюноў, хоць ты шуплем шуплюй. Налавілі мы паўчоўна. Больш не можна, бо чэрпае ваду. Насілу прыпхаліся мы да берага, вышлі на грудок да й заначавалі пад вярбою. Толькі мы закурылі люлькі, як ось у альсе штось заверашчала, запішчала да пачало так рагатаць, што аж лес разлягаецца. Седзімо мы аж не жывы. Што тут рабіць! Яшчэ добра было б, каб мы наклалі агню. Ведама, агню баіцца ўсялякая нечысь. А тут бяда — на том грудку няма нічога сухога, ніякага лому. Седзімо мы да толькі зубамі ляскаем са страху. А тут яшчэ была хмурная ноч: чуць-чуць толькі відаць якісь прасвет праз густыя веткі альса. Пачалі мы прыглядацца, аж і бачым, што на самум возеры стаіць густы туман, а ў том туману штось мітусіцца, бaццэ гурба дзевак махае хвартухамі. Дагадаліся мы, што начніцы скачуць да спраўляюць сваё йгрышча. Так перамучыліся мы чуць не ўсю ноч, покуль не пачало світаць. Леглі мы тагды, каб трохі заснуць, але не маглі, бо піск, рогат не сунімаліся. Няма чаго рабіць, падняліся мы да й пашлі к рацэ. Толькі мы пралезлі праз кусты лазы, як зірном, аж там голыя начніцы выскачылі з кустоў, падбеглі — да плюх, плюх у воду. Толькі мы й бачылі. Але хутка даў бог і свет, да ўсё супакоілася.

## 210. [ПРА МАРУ́]

Мару́ бачылі на кані. Калі яе злавілі, пачала яна змяняцца, прыбіраючы розныя постаці. Найчасцей постаці звяроў. Нарэшце, змянілася ў каня. Гаспадар, доўга не думаючы, узяў і падкаваў яго. Вярнуўшыся дамоў, убачыў, што ў яго хаце сядзіць жанчына, у якой з рук цячэ кроў. Прыгледзеўся, а на іх падковы.

## 211. [ПРА МАРУ́]

Адзін чалавек, ідучы познім вечарам, убачыў на полі нейкую істоту. Падобная да чалавека, але не мела на сабе шкуры і былі відаць усе ўнутранасці. Гэты чалавек так перапалохаўся, што захварэў на сухоты і неўзабаве памёр.

## 212. МАРА́

Ці вы ведаеце,—не пры нас гаворачы,—што гэта за ліхо—мара́? Калі самі не ведаеце, та мо хоць чулі ад людзей. А от мне дак трапілася самому бачыць на вочы гэстую пачверу. Ну й пачвера ж, мае браткі! Але ось я раскажу па парадку, як тое было.

Мы ўжэ з Матрунаю пабраліся, адгулялі вяселлейка, пара б, як жэ кажуць, брацца й за дзела, а нам і не на панкі: сваволілі да перакідаемася ў клеці або ў гумне на сене. А сена было свежанькае да зялёнае, бы рута. Ад яго йдзе такі запах, што, здаецца б, усё нюхаў да аблізваўся б. Якое там дзела, калі такі пах... Але што там казаць, калі тое даўно было.Толькі ось нябошчык бацька, каб яму лёгкая была зямля, якась раз скрыпнуў у гумно да й кажа:

— Годзі табе з бабаю качацца. Няхай бы ўзяў што-небудзь да паехаў у мястэчка. Ось матка жаліцца, што солі нямаш. Я пытаў у Янкеля, але і ў яго ўся вышла. Я б сам паехаў, але падымаў вулей да, мабыць, натрудзіў сярэдзіну, да от і азадкам не магу павярнуць.

Не хацелася мне кідаць бабы да й яна не пускала, але няма чаго рабіць, трэ ехаць.

От яшчэ нанач прыгатовіў я драбінкі,налядаваў повен воз луцця да яшчэ якоесь лабазы да й лёг спаць, каб назаўтра чуць свет папхацца ў мястэчка. Леглі мы яшчэ рана, чуць сцямнела, але ноч цёплая, аж парыць, сена пахучае, от мы й не спімо гадзіну-другую, а мо й усю ноч. Вышаў я да зірнуў на зоры, аж на небе воз ужэ саўсім павярнуўся ў другі бок. Гэта ж, думаю, хутка дзень, трэ заснуць часінку, але маладзіца, бы ашалела, не дае спаць. Тым ча-

сам запелі пеўні раз-другі, нарэшце пачало днець. Усхапіўся я да давай запрагаць кабылу, каб пхацца ў мястэчка. От нагроб я ў мех кабыле аброку, палажыў яго на воз, сеў сам да памаленьку й паехаў па загумеччу. Толькі я выехаў за вёску, як ось раптам дaганяе мяне мая баба да й шамялях на воз.

— Ты куды? — пытаю я.

— Паеду з табою ў мястэчка.

— Ці ты ашалела? Як жа ты паедзеш, калі ты без андарака.

— Нічога, паеду.

— Гэта ж людзі будуць смяяцца.

— Прашкі няхай смяюцца,— адказвае яна да давай мяне абдымаць, цалаваць да слакатаць. Перш я смяяўся, а потым аж мне духі заняло. Я туды, я сюды, але не магу вырвацца, а яна разлажыла мяне на возе, узвалілася на грудзі да ўсё слакочэ. Сашчапіў я зубы, да як зірнуў ёй у вочы, дак чуць не абамлеў,— бачу, што гэта саўсім не мая баба, а якась пачвера. Смеху як не было. Схапіўся я за аглабіну, а нагамі ўпёрся ў вузгалавень да як крутнуў, дак і падгібаў яе пад сябе. Яна думала, што гэта я штось хачу, а я давай яе лупіць, даваць мясіць каленкамі. Бачыць яна, што не пярэліўкі да давай прасіцца.

— Ты што за пачвера? — пытаю я.

Маўчыць, не хоча прызнавацца.

— Што табе трэ, чаго ты да мяне прычапілася?

Маўчыць, толькі на сябе цягне. Хацеў я яе выкінуць з воза, але не ведаю, што са мною зрабілася. Толькі тагды я пралупіў вочы, як ужо саўсім вывіднела. Кабылка мая звярнула з дарогі ў авёс, стаіць да жумрыць. А я ўвесь мокры ў пату, хоць выкруць. Папробаваў устаць, але бачу — не магу — от так галава й цягне ўніз. Дагадаўся я, што гэта была мара́, да насілу дапхаўся да гасподы. Потым пракачаўся цэлы тыдзень. Толькі дзякаваць Рыпіне Чабоськіх, што яна мяне адхадзіла. Цяпер да смерці буду ведаць, якая такая мара́.

## 213. ВАУКАЛАКА

Да вот я, шчо гаварыць далёка, сустрэўся з адным чалавекам, каторы ваўкалакам быў. Ета було гадоў мо пяць таму. Іду у лесам для Неўклі, Гарадніцкага ўезду, Чарнігаўскія губэрні. А проці мяне ідзе чалавек, страшны-прастрашны, і вочы яму пакасіла і від паўраждон. Я пытаю:

— Шчо ета ты, чалавеча, такі паўраждоны?

А ён адказуе:

— Да, брат, будзеш паўраждоны, як ваўком колькі год пабегаеш.

— Дак няўжо ты ваўкалакам быў?
— Да буў жа.
— А, брат, раскажы, як ета дзела було.
Ну, зайшлі мы ў шынк, выпілі па васьмушцы, от ён мяне і расказаў.
— Папяняўся,— кажа,— я пасварыўся з сусідкай. Крыў я гумно сваё і скінуў якея салому, колькі там снапоў, на яе каноплі.
Яна кажа:
— Ты мне паламаў каноплі.
А я ку:
— Хіба ж я хацеў. Ета бог так даў. Хоць,— кажу,— і на суд падасі, дак і суд нічога мне не здзелае.
А яна кажа:
— Добра, будзеш ты знаць суд: я цябе сама рассуджу.
Ну, папяняліся мы так, пасварыліся, да й усё, і байдужа. Чараз нядзелю паехаў з кумам на млін. Пабулі на мліне, едам назад. І сталі мы коней папасуваць. І мне стала так на сэрцы тошна, так нудна, і захацелась мне вот небеспраменна чараз хамут пралезці. Як я пралез, так і стаў ваўком, і пабег. І бегаў, брацец ты мой, я тры гады без ваўкоў, адзін, а на чацвёрты яны ўжэ прынялі мяне ў гурт к сабе. І бегаў я з імі ўмесце і так.
Раз апостал Юрай прыказаў нам рабага каня з'есць. Дак ён нам пах за сто вёрст, як ненача чалавеку жаранае. І беглі мы за етым канём сто вёрст і другіх не трогалі, як не прыказана. З'елі таго каня і, пад'еўшы, цэлую нядзелю не хацелі есць. У другі раз захацелі мы есці, дак ваўкі і паслалі мяне ў стаду, дзе чараднік пас чараду. Я прыбег, парасёнка ўзяў. А чараднік кажа:
— Эй ты, шчо ж ты ўзяў без спросу?
Дак я й стаў, і не з места. Акружнуся, дык вакруг яма. Ваўкі крычаць:
— Кідай да ўцякай!
А мне некуды ўцякаць. І стаю я, пакуль чараднік прышоў да сказаў:
— Кінь!
Тады я кінуў, а чараднік узяў пугу, парануў у колькі крацей, і ўдарыў мяне дванаццаць разоў. І так, што на мне шкура аб'ехала воўчая. Я й здзелаўся чалавекам, толькі паўражон відам і ўсім. А чалавечае пішчы, дак ніякае не хацеў, акрамя мяса. Дак во як баба паддзелала.

## 214. ВАЎКАЛАКІ

Выдаўся якісь святок, от нашы мужчыны й кажуць:
— Жанкі, о, жанкі, чаго сядзіце дома?
— Сягонячы ж свята,— кажам мы.

Сьвяту е й святое дзела. Няхай бы вы схадзілі ў лес да назбіралі хоць якіх казлякоў.

Праўду кажуць, што не так воўк баіцца сабакі, як яго звягу. Гэ й мы. Хоць і не баімося мужчын, але што ж з імі рабіць, абулі мы з Хвядораю лапці, закінулі за плечы шэнькі да й пабеглі ў лог шукаць грыбоў. Шалынгалі мы, шалынгалі, абегалі ўвесь лог, прабеглі параслю,— няма нічога. Хвядора натрапіла мо якіх з пяток бабак да сыраежак, а я апрыч лісічак нічога не знайшла. Падходзім мы к гушчарні да й завярнулі к кругловіне. Мы хацелі ўжэ вярнуцца да гасподы, як ось раптам супыніліся да й стаімо бы ўкопаныя: з гушчарні выскачыла цэлая чарада ваўкоў да так проста на нас і садзіць. Хацелі мы крычаць, але толькі зяхаем — голасу няма. Стаімо мы, бы самі сябе аддаем ваўком у зубы, а тыя цялюхцялюх да й пабеглі міма нас проста ў гушчэчу. Спалохаліся мы, аж не палічылі, колька было там ваўкоў, але пэўне з дванаццаць.

Ачухаліся гэта мы да як сунулі да гасподы, дак толькі пяткі мітусяцца. Але ось развязалася ў мяне абора да й зачапілася за пастырчаку. Рванулася я да й схапіла Хвядору за шэню. От і грымануліся мы абедзве са ўсіх ног да й качаемся па верасу. Хацела я ўстаць, але чую, што нага прывязана. Тут толькі ўбачыла я, што абора закруцілася. От пакуль я завязала аборы, Хвядора аглянулася назад да й бачыць, аж збоку йдзе Гараська Каваль. Абрадаваліся мы да бягом к яму насустрэк.

— Родненькі,— кажам мы,— ратуй, калі ў бога верыш! Чуць не загрызлі нас ваўкі.

— Якія вам ваўкі? — пытае ён.

От мы наперабой пачалі яму расказваць, як на нас набегла цэлая чарада ваўкоў.

Паслухаў ён да й кажа:

— Якія гэта вам ваўкі. Гэта ж ваўкалакі. Яны былі такія людзі, як і мы, толькі, мабыць, іх якісь чараўнік абярнуў у ваўкоў. Ён кажа, што больш усяго чараўнікі абарачаюць у ваўкоў людзей на вяселлі, цэлую бяседу, як яна едзе ці пераходзіць на пярэзвы.

Мы даўно чулі, што бываюць ваўкалакі, але ніколі самі не бачылі, якія яны. А тут і давялося ўбачыць іх сваіма вачыма.

От і пачаў нас Гараська вучыць, каб мы другі раз працяглі па зямлі пояс.

— Та,— каа,— як ваўкалакі пераскочылі б цераз яго, то й сталі б зноў людзьмі.

Пашкадавалі мы, што дурныя, не ведалі, як памагці бедным людзям, але па смерці няма пакаяння.

Дак от гэта я сама бачыла.

## * 215. [ВАУКАЛАКІ]

...Гадоў гэтак пятнаццаць шалаўся ў нас Ліцвінок Міхалка. То дзёгаць дзе-небудзь вучыць гнаць, то зімою, папрасіўшыся да каго-небудзь у хату, сядзіць сабе нішкам на печы ды пляце пасталы.

Гады з чатыры ў нашым краі, дзякуй богу, усё было ціха, смірна; і Ліцвінок нікому не рабіў зла. Давялося яму адну зіму зімаваць у Стайках у Судзя. Народ, сказана, заможны: два сыны з наймітам ходзяць на пятнаццаці паровіцах на Дон і ў Крым, які тольківі што ўзялі маскалі ад татарскага Салтана, плуг валоў дома; нявестка, сам стары Судзь. Гдзе ж ім было паважаць Ліцвінка? Праўду сказаўшы, і глядзець на яго было моташна. Вось нібы бачу яго перад вачыма: маленькі, плюгавенькі, у лапцях і парваным, паганым кажушку, з галавы ў яго каўтун такі агідлівы вісіць, а глядзі ты, які быў чараўнік і знахар!.. Вялікі чараўнік, сказана — ліцвін.

Праседзеў там Міхалка ў Судзя да Аўдаксі. Ужо парадачна павярнула на вясну. Гоніць стары Ліцвіна з хаты:

— Ідзі,— кажа,— куды хочаш. Досыць з цябе маёй хаты. Глядзець на цябе гідка, што і нужа цябе, а ты нужу ясі.

— Не будзе жа ў цябе, Судзю,— адказвае яму Ліцвін,— ні нужы, ні самому табе чаго есці, а ў сям'і ўсёй тваёй усе вы васемнаццаць год будзеце зверамі бегчы ды хіліць з голаду перад народам божым галаву, пакуль якая-небудзь хрысціянская душа не ўпросіць за вас бога.

Вось яны ўсе — сыны, нявесткі, Судзіха, сам Судзь і зрабіліся ваўкамі. Ходзяць цяпер па свеце галоднымі, таму што ім забаронена есці: ні на чалавека, ні на звера кінуцца не могуць, толькі апусцяць галаву і хвасты ды выюць...

Татарыха расказвала, калі ішла ў Кіеў на багамолле. Яшчэ казала, што недзе гэты самы Міхалка цэлае вяселле абярнуў, але нейкі чарнец з Выдубіцкага манастыра адрабіў іх.

## 216. [ЯК ЧАЛАВЕК ЖЫЎ ВАЎКАЛАКАМ]

Адзін раз гэтаксама да пабыў адзін чалавек трохі ваўкалакам, дак пасля ўжэ расказваў, як ён жыў. Дак казаў, што вельмі кепска на яду — усё сырое мяса, дак і які б, бывала, кажа, ні быў галодны, дак іншае падлы ані ў губу нават не возьмеш. Прыбяжыш, бывала, кажа, у груMaду авец ці ў быдла, дак тая, што трэба хватаць, каб была і найхудшая, дак стаіць такая пазорыстая, сытая, аж свіціцца, здаецца, уся. Задушыць адну, здаецца, нясмачна; задушыць другую — усё шукаеш смачнейшае, а яны ўсе роўныя;

дак перадушыш гэтак многа скаціны, пойдзеш галодны. Раз, казаў, прыбягаў ён з ваўкамі на свой падворак і пачалі хапаць парасята: дак ваўкі бяруць, што большае і лепшае, а ён усё, што меншае і горшае,— нек такі шкода свайго. Спаць лажыўся, казаў, разам з ваўкамі, але цёнгля за ветрам, каб сіверам не цягнула на ваўкоў, бо яны б яго разарвалі. Напаследку нек ужэ ён лег проціў ветру. Прачнуўся ён, дак тращчыць яго шкура. Ён гэта барджэй усхваціўся, да дай божа ногі—у сяло! А ваўкі за ім. Ледзве-на-ледзве нек ён ускочыў у сені, кульнуўся цераз парог і зрабіўся чалавекам зноў. На гэты час у сенях было яго дзіця. Дак беднае, на ўсе сені калі нарабіла крыку: мама, воўк! Выбегла маці ў сені, адно ж стаіць там яе мужык. Чалавек той жыў яшчэ доўга. Нічога, быў сабе здаровы, толькі сподняя губа была вельмі тоўстая.

## 217. [ЯК ЧАРАЎНІК АБЯРНУЎ ВЯСЕЛЬНЫ ПАЯЗД У ВАЎКОЎ]

Некалі ехалі маладыя з вянца і, астанавіўшыся ў канцы сяла, прасілі вышоўшага мельніка, каб ён адчыніў ім весніцы. Але той не ўважыў іх просьбы і сказаў на ехаўшага спераду свата:

— Нявéлькі пан, і сам можаш адчыніць.

— А якім ты велькім панам тут зрабіўся; бадай табе камень лопнуў!

Адно што сват сказаў гэта слова, як у мліне зрабіўся нéякі велькі стук. Калі паглядзіць туды мельнік — аж яго камень, як сказаў сват, разляцеўсё надвое. Тады ён выскачыў зноў на двор і крыкнуў на дружбу:

— Гуж, га!

После гэтых слоў мельніка людзей на возах як не было. Уся дружба абярнулася ў ваўкоў і точкаю пабяжала ад сяла ў лес. Гэты мельнік зрабіў ім быць ваўкалакамі сем лет. Так яны і бегалі... Маладая і дружкі як былі ў стужках, так на іх была і шэрсць у дзяжкі рознага цвету.

## 218. [ЖАНІХ-ВАЎКАЛАК]

Любіў адзін хлопец дзяўчыну да не захацеў яе ўзяць, а ўзяў другую. Перад шлюбам пайшоў ён кланяцца ды зайшоў к сваёй першай палюбоўніцы ў хату. Маці яе ды кажа яму:

— Вот бачыш, якая добрая твая маладая, нават і на шыю нічога табе не дала. На, вазьмі хоць гэту хустачку і завяжы, каб шыя не была голая,— і падала яму беленькую хустачку.

Малады гэта нічога не зразумеў, узяў ды завязаў яе сабе на

шыю. Выйшаў ён з хаты, аглядваецца, адно ж і рукі, і ногі яго абрастаюць воўчаю шэрсцю, толькі на шыі, дзе была хустачка, засталася белая лапінка. Далей стаў ён глядзець, дак і сусім ужэ аброс, а заміж рук і ног парабіліся ў яго воўчыя лапы. Страшна стала яму ў сяле. Стаў ён ракам і пабег у лес і доўга жыў там з ваўкамі. З таго часу і стала можна зрабіць чалавека ваўкалакам.

## *219. ЗАКЛЯТАЕ ВЯСЕЛЛЕ

У Падляскім ваяводстве, у вёсцы Хлопкаве, недалёка Лосіц, у час вяселля прыйшла разгневаная чараўніца з жаданнем помсты —ператварэння маладых у ваўкалакаў. Для гэтага яна скруціла свой пояс, якім падпярэзвалася, і паклала яго пад парог хаты. Круціла таксама лыка, варыла яго, і той адвар людзям у ваду падлівала.

Скора маладыя з вясельнай дружынай перайшлі праз парог, і пан млоды з княгіняю і шасцю дружкамі абярнуліся ў ваўкалакаў, уцяклі з хаты і тры гады ваўкалакамі былі. Праз увесь гэты час падбягалі пад хату чараўніцы і страшэнна вылі.

Калі ж надышоў дзень, што канчаліся іх цяжкія пакуты, зграмадзіліся перад парогам злой бабы, жалосна вылі. Чараўніца выйшла з сваёй хаты з вывернутым кажухом поўсцю наверх і кожнага воўка асобна накрывала ім, вымаўляючы таемнае закляцце, і ператварыла іх зноў у чалавечую постаць. Толькі маладому не накрыла кажухом хвост, хоць і звярнуўся да людской постаці, воўчы хвост у яго застаўся. Толькі праз некалькі дзён чараўніца тым жа спосабам вызваліла яго ад той непатрэбнай аздобы.

## 220. [СЫН-ВАУКАЛАК]

Вышаў адзін чалавек на двор, дак бачыць ён, што на круглені каля яго кабылы ўвіхаецца воўк. Ён зачаў гукаць на яго. Выбегла ўся сям'я, гоняцца за тым воўкам, а воўк нек тым часам ухваціў кабылу за горла і задушыў, а сам уцякаць. Пагналіся тагды ўсе гуртам за воўкам. Воўк перакуліўся цераз кола, павяс на ём лопнуў, і ён зрабіўся чалавекам. Разгледзеўся тагды той чалавек, адно ж гэта яго сын. А сыну яго да было ўжэ сем гадоў, як ён прапаў. Вот бацька і гаворыць гэтак на сына:

— Чаму ты, сынку, гэтак нас пакрыўдзіў?! Чаму ты задушыў нашу кабылу?

А сын яму адказвае:

— Ці гэтулькі я за сем гадоў шкоды нарабіў,— і пачаў расказваць, як ён жыў з ваўкамі.

Потым пашлі ўсе ў хату, і ваўкалак той пашоў разам з усімі. Але і не пазнаць нават, што з ім гэтак было, толькі быў надта замерзшы, нішчэмны, худы такі, як шчэпка! Доўга такі не пажыў, змарнеў вельмі.

## 221. ЖАЎНЕР І ВАЎКАЛАК

Ішоў жаўнер на вёску на вечарынку. Дарога ішла каля вясковага магільніку. Раптам бачыць ён, як адна магіла расчынілася, [redacted] яе вылязае нябожчык і накіроўваецца да вёскі ўпярод жаўнера. Жаўнер думае: «Куды гэта ён пайшоў? Напэўна, вернецца назад. Дай лягу ў яго труну». Улез жаўнер у магілу, лёг у труну, закурыў трубку махоркі і чакае. Каля поўначы прыходзіць нябожчык.

— Ты зачым забраўся ў маё месца? — кажа нябожчык служываму.

Пайшла спрэчка.

— А ты куды хадзіў? — запытвае служывы.

Злуючыся, нябожчык адказвае:

— Гэта мая справа. Выходзь хутчэй з магілы, бо мне прыйшоў час класца на сваё месца!

А жаўнер упарта крычыць:

— Не пушчу, пакуль не скажаш, гдзе быў, што рабіў!

Яшчэ спрачаліся, нябожчык усё не казаў сваю тайну. Калі ўжо засталася адна хвіліна да поўначы, дык ён мусіў сказаць:

— Быў я ў вёсцы Дудары і там усю дружбу вясельную ў ваўкоў абярнуў.

А жаўнер кажа:

— Ага, нячысцік, ты памёр, а што робіш? Вось ты іх зрабіў ваўкамі, а мне павінен сказаць, як іх ізноў зрабіць людзьмі.

Нябожчык упарта не жадае сказаць.

— У такім выпадку я застануся на тваім месцы, — кажа жаўнер.

І тады нябожчык прымушан быў сказаць жаўнеру сваю тайну.

— Вось вазьмі адшчапі ад маёй труны трэску, запалі гэту трэску, пакуры кожнага ваўка і будзе чалавек.

— Калі гэта праўда, дык я пушчу цябе на месца, — кажа жаўнер і захапіў з сабой трэску.

Не паспеў толькі жаўнер выйсці [redacted] труны, як нябожчык улез у магілу, і яна адразу зачынілася.

Жаўнер падыходзіць да вёскі і бачыць у гародах многа ваўкоў, а ўся вёска, сабраўшыся, — плачуць, енчуць, крычаць.

— Чаго вы сабраліся і чаго плачаце? — запытвае жаўнер.

Яны яму і апавядаюць, як нячысцік абярнуў іх суседзей і радзімых у ваўкоў.

Жаўнер кажа:

— Што мне будзе, дык усіх зраблю людзьмі?

— Усё, што ў нас ёсць, дык мы згодны аддаць за гэта, — адказваюць сяляне.

Жаўнер так і зрабіў, як казаў яму нябожчык, і вось дзіва: ваўкі ізноў сталі людзьмі.

Сяляне шчодра ўзнагародзілі жаўнера, і з тэй пары ён зажыў шчасліва і багата.

## 222. [ВЯДЗЬМАК-ВАУКАЛАК]

Жылі два саседы. Адзін бедны, другі багаты. Багаты быў вядзьмак, а бедны — добры чалавек. Бедны купіў каня і вывеў на выган, а багаты ўзяў тры нажы, утачыў у зямлю і пачаў куляцца. Перакуляўся праз адзін нож — у яго галава стала воўчая, перакуляўся праз другі — тады ўвесь стан стаў воўчы, ён перакуляўся праз трэці — тады і ногі зрабіліся воўчыя. Тады ён паляцеў і задушыў [каня], а бедны выняў адзін нож, як ён задушыў каня.

Воўк задушыў і бяжыць назад к нажам, штоб адвярнуцца назад на чалавека. Прыбег. Як перакуліўся праз адзін нож — тады стала галава чалавечча; як перакуліўся праз другі нож — тады ўвесь стан зрабіўся чалавеччы; перакуліўся трэці раз, але ногі асталіся воўчыя, бо не было трэцяга нажа.

## 223. ПЕРАВЕРНУТЫ

Жыў адзін багаты чалавек, другі бедны; багаты — банкет, а бедны ніц не меў.

Прыходзіць да багатага дзед і просіцца начаваць дый кажа:

— Гаспадарок, мой галубок! Ці пусціў бы ты мяне начаваць?

Ён ніц не даў яму, да й горда адказаў:

— У мяне, — кажа, — ніколі не начавалі ні ўбогія, ні бедныя, ні падарожныя, дык і ты не будзеш начаваць. Ідзі ў тую хату, што небам пакрыта, — там заўсёды начуюць бедныя, убогія і падарожныя, то і ты там будзеш начаваць. Цябе там пусцяць.

Стары кажа:

— Гаспадарок, мой галубок! Пакажы, дзе тая хата, што небам пакрыта?

Гаспадар вышаў паказываць:

— Да вон дзе тая хата небам пакрыта, дзе начуюць бедныя, убогія і падарожныя, там і цябе пусцяць.

Дак дзед пагладзіў гаспадара па галаве, і той гаспадар стаў канём.

Просіцца дзед у беднага нанач і кажа:

— Гаспадарок, мой галубок! Пусці мяне нанач.

— Можна, дзедку. У мяне начуюць убогія, бедныя і падарожныя.

— Калі, гаспадарок, я з канём.

Дак ён кажа:

— Дзедку! У мяне паставіць няма дзе і сена няма, чаго даць яму есць.

Дзед кажа:

— Я б на дварэ паставіў, кастрыцы падкінуў, дак і будзе есць!

Дак бедны павёў каня і паставіў на дварэ, а дзед пашоў сам у хату. Назаўтра, як дзед адхадзіў, кажа:

— Дарую я табе гэтага каня на тваё сірацтво.

Гаспадар зачаў яму дзякаваць і кажа да жонкі:

— Жонка, вазьмём і вывазім хату.

І вывазілі хату.

Апяць прышоў дзед нанач, дак той гаспадар не пусціў.

— Я той самы стары, а ты мяне не пазнаў.

І ўзяў ізноў пагладзіў таго каня па галаве, і стаў ён чалавекам, а бедны без каня зноў зрабіўся бедным.

## * 224. ПРА ХЦІВАГА ПАНА, ЯКОГА АБЯРНУЛІ Ў ВУПАРА, І ПРА ЯГО ЗБАВЕННЕ

Быў адзін вельмі хутвы пан. Не хацеў нікому пасля сябе грошы пакінуць, дык узяў і закапаў іх у зямлю. Праз два гады ён памёр. А таму, што быў багаты, дык не пахавалі яго ў зямлі, але ў склепе.

За пакуту, за хціўнасць хадзіў ён штоноч да закапанага катла лічыць грошы, а ідучы, ён у касцёле на вялікім алтары ўсё пераварочваў, псаваў і ламаў. Ніхто не мог зразумець, хто гэта робіць. І нават чатыры чалавекі, якіх нанялі пільнаваць касцёл, загінулі без следу.

Але знайшоўся-такі адзін смяльчак, што ўзяўся дапільнаваць ліха. Пайшоў вечарам да касцёла, узяў кантычку, сеў на лаўцы са свечкай і чытае. Аж тут адкрываецца склеп і выходзіць той пан, ідзе проста на яго і пытае:

— Чаго ты прыйшоў?

Смяльчак маўчыць і моліцца.

Пан пытае і пытае, а той маўчыць і моліцца. Бачыць пан, што застаецца ўсё меней часу, распрануўся дагала, як маці нарадзіла, узлез на алтар і пачынае яго псаваць. Тады той смелы падкраўся, забраў усё яго адзенне, паклаў на лаўку і сеў на ём.

Пану ўжо пара йсці дадому, лічыць грошы, аж тут адзежы няма. Ізноў да смельчака, кажа:

— Чаму рэчы мае забраў?

А ён на тое:

— А чаго ходзіш па свеце?

— Хаджу, бо мушу грошы лічыць.

Ізноў ён пытае:

— А чаму алтар псуеш?

— Бо то мая пакута.

Крычыць і просіць адзенне, а той не аддае і моліцца. Урэшце, кажа:

— Прынясі сюды грошы, дык аддам.

Вупыр прынёс грошы. Тым часам певень запяяў. Пан паваліўся на зямлю пры смельчаку. Той памаліўся і заснуў. І сніў ён пана, які дзякаваў яму за збавенне ад вечных пакут.

Назаўтра знайшлі спячага смельчака, а пры ім цела пана і скарб. Пахавалі пана, і з таго часу быў ужо спакойны.

## 225. РАСАМАХА

Старыя людзі кажуць, што калісь тут у лесе вадзіліся зверы расамахі, але гэта, мабыць, няпраўда, бо я сам з дзецюкамі бачыў расамаху, дак яна была ў постаці жанчыны з распушчанымі косамі. Гэта не звер, а якаясь нечысць. У нас людзі кажуць, што расамахаю робіцца жанчына, як яна знішчыць сваё дзіця да й сама ўтопіцца. Гэтак раз я з дзецюкамі касіў сена па берагах у альсе кала ракі. Выбралі гэта мы грудок, палажылі там свае кайстры з абедам да й пашлі касіць. Ведама, раненька з расою трава мягкая. Мы такі шмат выкасілі, пакуль сонейка паднялося ўгору.

Пашоў я на грудок узяць біклагу з квасам, аж бачу, хтось пачапаў нашы торбы, а біклагу павесіў на алешыну. Каб гэта быў сабака, та б ён не чапаў біклагі. Пачаў я слухаць, ці не зашамае, аж чую плача дзіця от саўсім блізка ў лазе. Я туды, — яно далей. Я далей за лозу, а яно ў алёс. Я ў алёс,—яно к самуй рацэ. Думаю, што гэта за ліха. От я нібыта пашоў назад, а тым часам ціхенька, на пальчыках, давай падкрадвацца праз алёс к рацэ. А кала ракі бабравіна, от саўсім пры бабровуй хаце. Зірну я, аж на бабровуй хаце сядзіць голая жанчына з распушчанаю касою, а на руках трымае маленькае дзіцятка. Гэта, мабыць, яно й плакала, думаю сабе. Тым часам яна палажыла дзіця на лано да давай шчупаковым грэбянцэм расчэсаць валасы, а я стаю да дзіўлюся, хто б яна была такая й чаго яна сядзіць тут на бабровуй хаце? Толькі я тое думаў, як ось зноў пачало плакаць дзіця. Яна давай яго хістаць, палажыўшы на ногу. Тым часам мае дзецюкі з другога боку пачулі, што ў

альсе плача дзіця да й падышлі туды. Толькі тая расамаха закмела, што праз алёс ідуць людзі, усхапілася сама, схваціла аберучкі дзіця да шабултых у бабравіну, толькі шчурачкі пашлі.

Падбеглі дзецюкі туды, сустрэлі мяне да й пытаюць, ці не бачыў я якога дзіцяці. А мне няма чаго й казаць, бо яны не павераць. Вярнуліся мы на сенажаць да й пашлі палуднаваць. Прыходзім на грудок, аж там зноў хтось пачапаў нашы торбы. Дагадаўся я, які гэта злодзей, дагадаўся, што пачапала расамаха, але прамаўчаў.

Потым я такі прысцярог яе да й ускінуў на шыю свой хрэст. Яна падзякувала да й знікла...

## 226. КАДУК

Кадук — гэта такая страшэнная пачвера: ні чалавек, ні звер, але больш змахвае на звера з вялізазнаю касматаю галавою й з шырокім горлам аж да самых вушэй. Як разявіць ён сваю халяву, у каторуй блішчаць белыя зубы да чырванее, бы агонь, язык, дак от так здаецца, што ён гатоў пракаўтнуць цалкам з касцямі й патрахамі. Часам людзі сярдзітыя кажуць: «Каб яго ўзяў кадук», ці: «Вазьмі яго кадук», але кадук рэдка бярэ, бо ён праяўляецца толькі ў ліхую часіну, а такая часіна бывае адзін момант пры ўсходзе сонейка, у самы поўдзень і ў самую глупась сярод ночы.

Гэстая пачвера пахапала б усіх людзей, каб ёй было вольна аб'яўляцца заўжды, але бог так даў, што яна сама не мае ўлады над чалавекам, а чакае, покуль ён яе не пазаве, да й то, покуль не пазаве ў такі ліхі момант, у які што чалавек ні скажа, та ўсё станецца.

## * 227. ДАМАВІКОВА УДЗЯЧНАСЦЬ

Жыў-быў у адной хаце вуж-дамавік. Гаспадар не крыўдзіў яго, гаспадыня, падаіўшы карову, не праміпала пачаставаць цёплым малаком, а дзеці прымалі ў супольныя гульні. І здарылася так, што знайшлі яны, гуляючы, у старой прызбе каля хаты яйкі, якія вуж той склаў, каб выведіся з іх маленькія вужаняткі. Залекацела ад болю вужачае сэрца, калі ён убачыў, што яго немаўляткам бяда пагражае. Кінуўся ён да дзяцей, віўся каля іх рук, імкнучыся адхіліць бяду, і жаласна сіпеў: «Не крыўдзіце маіх дзетак! Аддайце іх мне!..» Але дзеці не разумелі вужачай мовы ды, каб ён не замінаў ім у гульнях, узялі гольку і прагналі з падворка.

І папоўз, бядуючы, дамавік у пушчу. Паўзе, паўзе і плача над сваім няшчасцем. Ажно бачыць: выпаўзае са спарахнелага пня яго знаёмая — злая ядавітая змяя.

«Чаго так сумуеш?»— пытаецца яна ў вужа.

А той і кажа так і так пра няшчасце сваіх дзетак. Змяя зларадна ўсміхнулася ды кажа:

«Не плач, я табе зараз памагу».

Не паспеў і азірнуцца вуж, як змяя — шусь на падворак ды ў сялянскую камору. У каморы якраз стаялі гладышы з малаком. Падпаўзла яна да аднаго гладыша, узнялася над ім, разявіла пашчу і ўпусціла ў яго кроплю атрутнага яду. Потым падпаўзла да другога гладыша, трэцяга, чацвёртага і кожны з іх атруціла. Анямелы ад жаху вуж не толькі не змог выціснуць з сябе слова, але проста аслупянеў на парозе, на змяіныя злачынствы гледзячы. А тая жвава перапаўзла цераз парог на падворак, сыкнула вужу:

«Вось я і адпомсціла за тваіх дзетак!» — ды шмыгнула з падворка зноў у пушчу.

Якраз у той час у хаце была гаспадыня і праз шчылінку ў дзвярах да каморы бачыла, што ўчыніла змяя-гадзюка. Зачыніла яна моцна на засаўку камору і пайшла шукаць мужа, каб сказаць яму аб убачаным.

Ажно на падворках увайшоў сам гаспадар, заўважыў, чым гуляюць дзеці, ды зараз жа загадаў:

«Асцярожненька збярыце і занясіце ўсе яйкі туды, адкуль іх узялі».

Дзеці паслухмяна сабралі свае незвычайныя забаўкі ды занеслі на прызбу.

«А цяпер, — кажа ім бацька, — закапайце іх у лісцё і кастрыцу так, як яны ляжалі раней».

Дзеці зрабілі ўсё, як ім было сказана. Тады бацька і кажа ім:

«Гэта яйкі нашага вужа. Ён закапаў іх у прызбе па тое, каб праз некалькі дзён з кожнага яечка вылупілася маленькае вужанятка. Вось таму і нельга чапаць іх, нельга крыўдзіць вужа».

Вуж жа, убачыўшы, што яго дзеткі ўратаваны, адразу кінуўся да каморы. Але дзверы былі моцна зачынены. Ён, знайшоўшы мышачую норку, праціснуўся цераз яе ў камору і пачаў выварочваць гладышы з атручаным малаком. Вывернуў адзін, вывернуў другі, трэці, а калі падпаўзаў да чацвёртага, дзверы раптам адчыніліся, і на парозе каморы паявіліся гаспадар з гаспадыняю і дзецьмі. Вуж нават і не заўважыў, як пільна і з якой удзячнасцю глядзела на яго ўся сям'я.

І нездарма ж па сёлах, што параскіданы вакол Белавежскай і Лядскай пушчаў, людзі кажуць: і самы люты звер за дабро дзякуе дабром.

## * 228. ЛІТОЎСКІ ВУЖ

Хрысціўся ў святую веру ліцвін, але пакінуў пры сабе свае забабоны.

Быў у Літве Акопірнас і родны брат яго Жалгіун-Каралюс, вялікі вуж — вужоўны кароль. Уецца ён смоўжам і ходзіць на хвасце, стаймя, нібы чалавек. Няма яму роўнага між вужоў: то яго дзеці і падданыя; на галаве ў яго карона бліскучая, а свішча такім волатавым посвістам, што чуваць па цэлай Літве.

Любіць вужа ліцвін, па старой памяці дае яму ў хаце пад печкай прытулак, корміць хлебам і малаком нароўні з дзецьмі; а калі захоча пачаставаць на славу, накарміць да адвалу, — то вужу гладыш казінага малака.

Мірна жыве з ліцвінам вуж. Не кусае нікога ў доме, поўзае па хаце, як сем'янін, і калі дзеці возьмуцца за лыжкі, зараз жа падлязае да іх і працягвае морду да міскі. Здараецца, што дзіця трэсне вужа лыжкаю па ілбу,— нічога: вуж зашыпіць, адпаўзе на мінуту, з'явіцца з другога боку і зноў суне морду ў міску.

У якім доме жыве вуж, таму дому суджаны дастатак і шчасце. Калі здохне вуж, ліцвін крэпка тужыць па ім, як па старым сем'яніне і сябру, і ўзбройваецца ім супраць усякай бяды: здзірае скурку, вытаплівае тлушч, з тлушчу робіць свечку і беражэ яе на чорны дзень. Нападзе на ліцвіна бяда, пачне прыціскаць багаты сусед ці нядобры чалавек, тады ліцвін бярэцца за сваю свечку: запаліць яе, — хаця б і ў дзень,— свет яе разальецца па ўсёй Літве, зойдзе ва ўсе цёмныя месцы, прабудзіць вужоў усіх да адзінага, і яны спяшаюцца на дапамогу, цэлае стада пярэстых вужоў паўзе на агонь свечкі, а паперадзі ўсіх выступае вужоўны кароль. Калі пакрыўдзіў ліцвіна сусед, — адно слова, і ўсе вужы да ліхадзея — помсціць за крыўду. Ці патрэбны грошы ці што іншае, вужы пераашараць усё пад зямлёй і прынясуць што трэба.

Так вялося ў старыя часы, так верыць ліцвін і цяпер.

## 229. ЦАР ГАДЗЮК

Кажуць, што е цар гадзюк, што яго можна пазнаць па залатых рожках, каторыя ў яго на галаве. От, калі б збіць тыя залатыя рожкі да насіць іх пры сабе, та б можна было б іці, куды схочаш, бо не ўтрымалі бы ніякія замкі й запоры. Лоўкія зладзеі маюць такія ражкі, от затым іх ніхто не мажэ злавіць. Яны ось як дастаюць ражкі цара гадзюк. На звіжанне гадзюкі збіраюцца ў адно месца, каб паўзці на зіму ў вырай. Гадзюкі, як і птахі, маюць свой асабісты вырай. Яны ў яго паўзуць пад камендаю свайго цара, каторы паўзе папераду ключа. От трэба на звіжанне чуць свет пайсці ў лес, дзе

кала паляначкі е шмат лому да й цікаваць. Як толькі ўзыдзе сонейка да добра прыгрэе, дак усялякія гадзюкі пачнуць вылазіць з лому да з нор і паўзці на сонейка грэцца. Перш гадзюкі поўзаюць туды-сюды ўмітуські, а потым, як пакажацца сам цар, дак яны пачнуць яго абвіваць, як пчолы сваю матку. От тагды трэ па том клубку ўдарыць пап̌ліскаю толькі адзін раз, не больш, дак цар гадзюк і скіне свае ражкі. Тагды хутчэй іх узяць і ўцякаць, не аглядаючыся, а то гады загрызуць.

## 230. ВУЖАВА КАРОНА

У адных паноў быў лоўчы, Сымон. Хата яго была недалёка ад двара. На прыгон ён не хадзіў, але затое пільнаваў лясоў, хадзіў на паляванне з панам і павінен быў дастаўляць звярыну ў дворную кухню.

Раз прыходзіць да яго аканом і крычыць, стукаючы ў вакно:

— Сымон! Пан загадаў табе даконча на нядзелю ўпаляваць двох глушцоў, дзве пары цецерукоў і некалькі курапатак. Дык не лянуйся, бяры стрэльбу, азмі хоць майго выжла і ідзі на паляванне.

Сымон паспешна (была ўжо серада) ўзяў стрэльбу, выжла і пайшоў сноўдацца па лесе. Знаць, у ўрочны час выйшаў на паляванне: хадзіў увесь дзень ды бачыў толькі жоўнаў і дзятлаў. Начаваў у лесе; перазяб увесь, бо было гэта ўжо пад восень.

Назаўтра гэтаксама сноўдаўся ўвесь дзень па пушчы, але і здалёку нават не бачыў птушак, каторых сачыў. Ветры тыкеля гудзелі па дрэвах. Сабака, згаладаўшыся, уцёк, і Сымон сумны варочаўся дамоў, не ведаючы, што рабіць. Ідучы, прысеў на калодзе і думае сабе: «Будзе дрэнна, паны не павераць, што ■ стараўся з усіх сіл, скажуць — ленаваўся, пакланіўся б і чорту самому, каб толькі памог мне ў такой скрусе».

Ледзь ён гэта падумаў, з'яўляецца вялізны, чорны сабака. Сеў пры ім і страшнымі вачамі пазірае на Сымона. Сымон лашчыць к сабе сабаку, але той не кратаецца з месца, тыкеля глядзіць, як шалёны. Тут Сымону зрабілася ворашна, і шорах перабег па целе. Разам бачыць: сталы чалавек выходзіць з гушчару: галава — доўгавалосая, бровы — густыя, вісячыя, твар — загарэўшы, вопратка — па пяты — і сядае ля паляўнічага, кажучы:

— Што ж гэта тайстра твая пустая і вочы сумныя? Пэўна, паляванне няўдачнае?

— Але ж, вось я два дні хадзіў па лясох, умарыўся, і сабака галодны ўцёк ад мяне, а не ўдалося ніводнага разу выстраліць. А мне даконца трэба ўпаляваць у двор птушак. Адкуль та ўзяць іх? Будзе бяды.

— Не бядуй,— сказаў незнаёмы,— паслухай маёй рады, я табе

памагу. Заўтра... узвіжанне, дык сягоння ўвечары ідзі на Ласёву гару. На ўсю ноч будзе табе дарогі, бо сам ведаеш, што гэта гара адгэтуль не блізка. Будзеш на ёй самым усходам сонца і ўбачыш, што па бакох яе поўзаюць вужакі. Не палохайся, не пашкодзяць табе. Між імі стрэнеш ты вужачага князя. Пасцялі перад ім белы ручнічок, стань на калені і пакланіся яму. Тады ён кіне табе на палатно сваю залатую карону і з карагодам сваіх вужак пойдзе на зімовую лежу. Яшчэ параю табе: ідучы ноччу на Ласёву гару, нічога не пужайся і з нічога не дзівуйся, бо не дайдзеш свайго. Як будзеш мець карону вужынага князя, то во гэты чорны сабака, каторага цяпер бачыш перад сабой, заўсёды, як тыкеля выйдзеш на паляванне, стрэне цябе ў лесе, будзе табе павадыром і кожны раз настраляеш гэтулькі дзічыны, сколькі захочаш. Але і ў жыцці сваім нічога не палохайся і нічому не дзівіся, то будзеш шчаслівы тады.

Сказаўшы гэта, незнаёмы адышоў, і сабака за ім.

Сымон доўга стаяў задумлёны, а пасля пайшоў дамоў, узяў белы ручнічок і пацягнуўся са стрэльбай за плячамі на Ласёву гару. Калі ўсходзіў у дзікія бары, было ўжо сутанкавата, а там станавілася штораз цямней сярод густых хвой. Сымон ідзе, не зважаючы на цемру, штораз глыбей у пушчу. Глянуў угару: ажно ноч ужо і толькі міглівыя зоркі ўбачыў праз гушчар. Чуў навакол сябе крыкі пугачоў і соў і бег спужанага звера. Неперішыня гэта было яму сноўдацца ноччу па лясах і цяперашняя вандроўка не здалася страшнай.

Самай поўначчу страшакі абступілі яго. Бачыць, як вялізны мядзведзь на задніх лапах падходзіць да яго і, равучы, ужо хоча напасці. Стады ваўкоў, натапурыўшыся, свецяць вачамі і страшаць крывавай пасцю. Ён ідзе смела сярод звяроў. Заступіў яму дарогу волат, вышэйшы за лясы, і, вырваўшы вялізную хвою, страшыў, стукаючы ёю, як перуном. Сымон адважна мінае гэта ўсенька на сваёй дарозе.

Узышоў месяц. Выходзіць Сымон на прагаліну і бачыць палац здалёка стаіць ды ажно зіхціць серабром і золатам. Падходзіць да пекнага будынку цераз сад срэбналісты, дзе вясна і лета разам сустрэліся. Там красавалі найхарашэйшыя кветкі і спела садавіна. Зязюля смутным голасам кукавала на дрэве, запеяў салавей у парасніку...

Сымон чуў і разумеў пекныя вясёлыя песні шпакоў і іншых птушак. Стрэлі яго падобныя дзяўчаты з вянкамі на галовах, гуляючы, надзілі к сабе; Сымон мінуў і ўсё гэта, не дзівуючыся.

Шчэзлі харошыя з'явы, павеяў восенны вецер, і Сымон убачыў на ўсходзе чырвонае неба. Зара ўзыдзе сонца. Спяшаецца Сымон на Ласёву гару.

Як прыйшоў на назначанае мейсца, убачыў нялічанае стада вужак; яны, шукаючы, заступілі яму дарогу, а ўжо і сонца ўсхадзіць пачынала. І бачыць Сымон сярод вужак аграмадзістага вужа, якога ніколі не бачыў: той паўзе смела, і золата зіхціць на галаве яго. Сымон разаслаў белы ручнік і паў на калені. Вуж скінуў з галавы карону на хустку і папоўз далей, а за ім і ўсе вужакі.

Сымон разглядаў залаты скарб. Карона была падобна да двох бліскучых лісткоў, каторыя канцамі зраіліся з сабой.

Ледзь пакінуў гару, сустракае яго чорны сабака. Той самы, што ўчора быў з незнаёмым. Пазірае ў вочы і, здаецца, кажа, каб ішоў за ім. Сымон ідзе за павадыром, той здзержываецца і паказвае на глушчоў на дрэве. Некалькі разоў стрэліў і некалькі штук забіў. Гэтак настраляў глушцоў, цецерукоў і курапатак. Як падыходзіў да хаты, сабака, стоючы на полі, глянуў на яго і прапаў з вачэй.

Паны хвалілі лоўчага, а дворныя і аканом дзівіліся, што, не маючы з сабой сабакі, мог гэтулькі знайсці дзічы.

З таго часу Сымон быў найлепшым паляўнічым. Чорны сабака кожны раз сустракаў яго ў лесе і наганяў яму ўсякай дзічыны.

## 231. [ПРА ЗМЕЯ]

Змей можа перакінуцца ў што захоча, стаць чалавекам і ніхто яго не пазнае. Адзін раз змей закахаўся ў вясковую дзеўку: дачку багатага чалавека. Ну, ходзіць ён і ходзіць да яе. Летам раз было, сена пакасілі, трэба было яго сушыць, грэбсці, а тут гэты дзяцюк прыйшоў, сядзіць, размаўляець, дык дзеўка не можа пайсці на работу. Бацька злуець, хацеў дзеўку паклікаць на работу, але толькі глянуў у хату ды назад. Дзяцюк гэты [змей] і пытае:

— Чаво твой бацька злуець?

— А гэта ж сена абкасілі многа, а ўвабраць яго цяжка, хоць змея прасі, — кажа дзеўка.

Ну, сядзяць яны, гавораць. Назаўтра калі ні глянуць, дык усё чыста сена пагрэблена, складзена ў копы, усюды парадак, а хто зрабіў — невядома. Тут дзеўка пачала сабе думаць, здагадвацца, што хлопец відаць не просты. Стала яна яго баяцца і хацела з ім як разлічыцца. Параілася яна са сваімі бацькамі, тыя — з людзьмі. Аказалася, што змеі надта баяцца грому. А любяць, каб ім у галаве шукалі, тады яны моцна спяць. Нарадзілі дзеўцы пайсці з сваім гэтым хлопцам да возера, пагладзіць, пашукаць яму ў галаве, а як ён заснець і пачнецца грамота, разбудзіць яго раптоўна.

Так яна і зрабіла. Селі яны на беразе возера, залашчыла дзеўчына хлопца-змея, моцна ён заснуў. Але паявілася хмарка, загры-

меў гром. Дзеўка разбудзіла раптоўна змея, ён спужаўся грому, кінуўся ў возера, але рукой па шчацэ дзеўцы пляснуў. У вадзе ён стаў змеем і ўжо ў чалавека не мог ператварыцца.

Кожны дзень у добрую пагоду змей вылазіў на тое месца з вады, дзе сядзеў з дзеўкай. Баяліся яго ўсе. Скінуць яго назад у ваду, а ён зноў вылезе. Закапаюць у зямлю, а назаўтра змей зноў на сваім месцы. Нарэшце знайшлі раду: яму выкапалі глыбокую, палажылі дванаццаць птушыных чарапоў, закапалі змея, і ён болей не вылазіў. А ў дзеўцы на шчацэ застаўся след, як ёй змей ударыў па твары, так след на ўсё жыццё і застаўся.

## 232. АБ СТРАЛЬЦЫ І ЗМЕЮ

Аднойчы адзін стралец ішоў па сваім абрубе, прыглядаўся ды прыслухоўваўся, ці дзе які-лень злодзей лесу не сячэ. Позняй вясной гэта было. На палянах трава ды квецце ў калена, а вакол птушыны рознагалосы хор. Ідзе так ён, ідзе і раптам чуе: недзе далёка ў глыбі абрубу нехта свіснуў. Стралец затрымаўся, прыслухоўваецца: ажно зноў чуе свіст. Западозрыўшы, што гэта нейкі злодзей падае знак свайму сябру, стралец таксама свіснуў. «А ну ж, — падумаў ён,— зладзюга сам ка мне ў пастку прыдзе». І пачалі яны так перасвіствацца: свісне той у абрубе, і стралец яму у адказ свісціць. І стаў стралец заўважаць, што свіст усё бліжэй і бліжэй у яго бок падыходзіць. Схаваўся ён за камель тоўстай елкі, наставіў стрэльбу, але на кожны той свіст сваім свістам адказвае. І тут чуе, што свіст зусім блізка раздаўся, бадай, у яловым маладняку, які ля далінкі кусціцца. Выглянуў стралец з-за камля — аж выпаўзае з гушчару аграмадны змей, вочы бліскучыя ў яго, а на галаве залатая карона, і свішча. Атрупянеў стралец, мурашкі па спіне забегалі ў яго ды шапка на валасах узнялася. Але ўсё ж прыцэліўся ён між змяіных вачэй і націснуў спуст. Гукнуў стрэл. Змей роспачна свіснуў, скрунуўся ў аграмадную пружыну і пачаў вобзем біцца. Дзе ні ўдарыць — іскры з яго цела сыплюцца і сыры лес загараецца. Кінуўся стралец наўцёкі.

Доўгі час здалёк абыходзіў тое месца. Толькі назазімку, калі чорна стопа пасля замаразкаў надобра стала, рашыўся туды заглянуць. Зайшоў, а там ні ельніку густога, ні алешніку, ні нават тае тоўстай елкі — адно пні абгарэўшыя навокал. І след па змею таксама прапаў.

## 233. [ТРАСЦА]

Пайшоў у нас адзін чалавек у лес па бярозавы сок, набраў яго поўна вядро да й панёс да гасподы. От падходзіць ён ужо к вёсцы, аж кала дарогі на плоце сядзіць якаясь вельмі худая паненка да й

просіць піць. Той чалавек падаў ёй вядро з сокам. Глынула яна трохі соку да й прапала, бы ў зямлю правалілася. Дагадаўся той чалавек, што гэта была трасца, але няма чаго рабіць, пайшоў дамоў. Дак от, кажэце, толькі ўлез у хату, як пачала яго трасці трасца, дак аж зубы ляскочуць. Пракачаўся ён з ёю мо нядзель шэсць, покуль знайшоў такіх людзей, што яны адрабілі.

## 234. ПАМОРАК

Якое толькі плягі няма на людзей! От так бяда на бядзе едзе да яшчэ бядою паганяе. Пастаіш — бяда нагоніць; пабяжыш — на бяду наляціш. І жывеш усё жыцце, бы звер у ліхом оступе: куды ні сунься — бядзе ў зубы. Там зірнеш — бяда ад бога: та нахапіўся мароз і памарозіў сады, агароды, ■ то й хлеб на полі да траву на сенажаці; та град адбіў усё, што выхавалася ад марозу або сіверу; та нахопіцца склока да й пакруціць, паломіць усё збожжа, та пойдзе абложны дож і да тых час лье, пакуль усё загіне й на полі й на сенажаці, та прыпячэ сонейка і зямля гарачая, бы прысак, хоць ты ў ёй яйца пячы. А то дась бог харошае лецечка, дак тут адкуль возьмуцца ўсялякія пошасці да паморак на гаўяда або й на людзей. Але кажуць, што гэта не ад бога, што гэта насылаюць ліхія людзі.

От я вам раскажу, як тое было ў адном мейсцы. Была ранняя, але вельмі гожая вясна. Кожную ночку йдзе ціхі, цёплы дожджык, а ўдзень свеціць яснае сонейка да трэе зямлю, батцэ матка хукае да пе́стуе сваё дзіцятка. А паветра такое лагоднае, што от здаецца, пасадзі на полі дзіця, та яно й вырасце, бы гарбуз на агародзе. Бачаць людзі, што ўсё расце от бы на дрожджах. Настала лета; бог крыў ад граду, і так зарадзіла, што й дзяваць некуды. Але не рады людзі зраджаю, бо, ведама, наш брат так прывык к усялякай бядзе, што яго й добрае палохае. От і пашла прачутка, што хоць бог даў вялікі зраджай, але будзе паморак і некаму будзе спажываць. Спалохаліся людзі ўраджаю гарэй самае бяды. Ходзяць яны засмуцоныя бы ў воду апушчаны.

Толькі ось па восені й пачаў паморак касіць перш гаўяда, а потым і людзей. Было там адно сяло, куды яшчэ не дабраўся паморак. Жывуць там людзі пад страхам і кожную часіну чакаюць бяды, бы вол доўбні. А каб хвароба не забралася ў іх сяло, пачалі берагціся. А кажуць жа, што беражонага й бог беражэ. Так і тыя людзі. Пашлі яны перш усім сялом у лес, звалілі там самую высокую да вынеслую хвою, зрабілі з яе крыж мо сажон дзесяць, на сабе вынеслі з лесу, саматугам прывезлі ў сяло, паставілі на ўзгорачку, каб адусюль відаць было. Тым часам дзецюкі палажылі каля крыжа брусок дасеню, а другім напераменку пачалі яго цэрці; цэрлі яны, цэрлі датуль, пакуль прылажылі губку, дак тая й загарэлася. От узялі людзі

таго агню ва ўсе хаты да й ніколі не пераводзілі яго. А на том мейсцы, гдзе дасталі агонь, і на канцох уліцы пачалі дзень і ноч паліць кастры, каб паморак не мог вайсці ў сяло. Гаўяда ж яны загналі далёка ад сяла ў цёмныя лясы, на астраўкі за балота, парабілі там кашáры й пасцілі статак да самае зімы. Рана й вечар кожнага дня абкурвалі гаўяда тхарынаю: паложаць на ўголля кускі сушанае тхарыны да й падкурваюць гаўяда. Кругом расходзіцца такі смурод, што аж нос зрывае. Тут ніякая хвароба, ніякая пошасць не вытрымае. От ужэ даў бог і восень; скора й замаразкі. Кругом паморак лоскам кладзе гаўяда, косіць людзей бы касою, а ў тое сяло не мажэ ўплішчыцца.

От ён пусціўся на хітрасць: скінуўся старою бабаю да й цягнецца глухою сцежкаю к сялу. Цягнецца яна, аж наганяе тую хваробу адзін чалавек.

— Куды, баба, йдзеш?— пытае ён тую страшную бабу.

— Іду, голубе, у тое сяло, гдзе нямашака паморку.

Дагадаўся тут чалавек, што гэта й е той самы паморак, спалохаўся, чуць жыў, але сашчапіў зубы, прамаўчаў да й кажа:

— Хадзем разам.

От ідуць яны да йдуць, прыйшлі к гразкаму балоту. Цераз балота трэ йсці па бéрвам і кладкам.

— Ідзі ты, баба, уперад да дзяржыся за мой кій,— кажа чалавек.

Сунецца баба, апіраецца па бервам да моцна трымаецца за кій. От толькі ўзышлі яны на кладкі ў самуй прорве, а чалавек як хісне бабу, дак тая й шуснула ў гразь. А мейсца тое было паганае, такое гразкае да глыбокае, што й дна не дастаць. Утапіўся паморак у гразі, што й шчурачкі не пашлі.

Кінуўся той чалавек бягом да гасподы да й расказвае, як было, як паморак хацеў прыйсці ў сяло. Пачулі тое людзі да й давай пільна пільнаваць, каб не пусціць паморку. Але от паехаў з таго сяла адзін чалавек на грудок па сена. Развяршыў ён стажок і давай класці на воз сена. Толькі вытаптаў драбінкі, аж ось высунуўся з хмызняку якісь страшны дзед з доўгаю, касматаю барадою, з адным вокам да й падходзіць к возу, апіраючыся на кіёчак. Зірнуў той чалавек да й спалохаўся, ящчэ ніколі ён не бачыў такога страшнага дзеда й падумаў, што хіба гэта паморак. Тым часам палупаў дзед адным вокам да й просіць падвезці яго да сяла. Падумаў той чалавек да й кажа:

— Давезці та я давязу, толькі мо нашы людзі не пусцяць цябе ў сяло, бо, бачыш, яны вартуюць, каб у сяло з кім кольвек не праплішчыўся й паморак.

— Э, мой лебедзіну,— кажа дзед,— я ўбогі, я нясу людзям шчасце, якога яны не маюць, покуль жывуць.

— Якое ж ты нясеш шчасце?

— Такое шчасце, такое шчасце, якое будуць мець і самыя багатыя, й самыя здаровыя, й самыя слаўныя людзі, якое ўжывуць і паны, і каралі, і — апошні ўбогі.

Як прамовіў ён астатняе слова, дак чалавек і дагадаўся, што дзед нясе смерць. Бо, ведама, яна ўсіх бярэ, яна ўсім дае роўнае шчасце — і каралям, і мужыкам. Дагадаўся чалавек да й кажа:

— Ну, дзеду, лезь на воз, а я прыкідаю цябе сенам, та хіба такім спосабам увязу ў сяло.

Узабраўся дзед на воз, а чалавек закрыў яго сенам, прыціснуў рублём да й павёз у сваё сяло. Падвозіць ён к выгану, гдзе стаяла варта і гарэў стос дроў, да й шапнуў дзецюкам, што вязе паморак. От тыя і пытаюць:

— Мужык, што ты вязеш?

— Дрова.

— Якія дрова. Гэта ж сена.

— На што ж пытаеш, калі знаеш.

— А ў сене што?

— Што? Мо шышкі да шышулькі.

— Гэ, ты яшчэ ўздумаў над намі кпіць!.. Хлопцы, бярэцеся за воз,— нехта ідзе на хвалу боскую.

Тут падхапілі хлопцы пад трайню да пад падгэрац, дак сена й шуснула на касцёр. От як выбухне агонь, дак роўна з лесам. А тут хлопцы яшчэ пруццем пашавельваюць сухое сена да падкідваюць на агонь дроў. Круціўся, круціўся паморак да чуць не задохся. Спалілі людзі той паморак, спалілі так, што й костачак не асталося.

Але, ведама, нечысь і ў вагні не гарыць: перш згарэла, а потым ажыла. От з тае пары годзі ад таго паморку людзі паміраць і дохнуць гаўяда. Мабыць, такі добра спалохаўся паморак, як далі яму такую лазню, спалохаўся да й уцёк за сіняе мора, за высокія горы ў далёкі край да там і астаўся. Часам ён наведваецца туды, парэжа трохі гаўяда, накосіць людзей да й уцякае назад, каб яго зноў не злавілі да не падсмалілі.

## 235. [ПАМОРАК]

У нас адзін чалавек сам увёз у вёску паморак. От як тое было. Разгуляўся кругом паморак, выкасіў не́маль усё гаўяда, а ў нас хоць бы што. Праўда, нашы дзецюкі дзень і ноч на канцох вуліцы клалі агні, каб паморак не мог вайці. Доўга ён круціўся, ніяк не мог праплішчыцца, нарэшце, пусціўся на хітрасць. Ось раз ехаў наш чалавек з мястэчка да трохі спазніўся. Пад'язджае ён ужэ на свае

палеткі, як ось даганяе якогась убогага. Зірнуў ён і хацеў мінуць, але той пачаў прасіцца, каб яго падвёз. Падвезці дак падвёз, на том свет стаіць. От ён паправіў на драбінках салому да й павёз таго ўбогага. Адно ж то быў не ўбогі, а паганы паморак на гаўяда. Едзе той, маўчыць, чалавек загаворвае ■ убогім, ■ той, бы пень, сядзіць да толькі сапе, бы кавальскі мех.

От пад'ехалі яны к самуй вёсцы да й едуць паўз агонь. Скрывіўся паморак, косіцца на агонь, бы наравістая кабыла, але сядзіць гваздом. Прыехалі яны ў вёску, а тут ужэ й сцямнела. Толькі той чалавек павярнуў к сваёй сядзібе, як азірнецца, аж той убогі знік, бы ў землю праваліўся. Дагадаўся ён, якое ліха прывёз, але няма чаго рабіць — ашукаўся, хоць ты перагніся да сам сябе й укусі. Але ось назаўтра як пойдзе паморак касіць гаўяда, дак так і кладзе лоскам. Глянуць людзі ў зáгарадку ці ў хлеў дак там гаўяда й ляжыць покатам. Так немаль усё й загінула.

От, каб ведаў, дзе ліха, та б там сеў.

## 236. ПАМОРАК

Паморак прыходзіць у вёску так, каб яго ніхто не бачыў, ці ў такой постаці, каб ніхто не ўвазнаў. Гэтыя ўсялякія хваробы, на іх усё ліха, скідаюцца сабакаю, катом або якою-небудзь старою жанчынаю. Кажуць, у нас перад апошнім паморкам у суседнюй вёсцы адзін чалавек сваімі вачыма бачыў, як змрокам якась худая бы смерць жанчына хуценька пап'ёрлася да вёскі перш выганам, а потым загумечам да агародамі. Толькі яна залезла туды, як пачала ламаць, пачала касіць, дак нéмаль паўвёскі выложыла.

А ў нас адзін дурны чалавек дак нават яшчэ падвёз у вёску паморак да толькі тагды дагадаўся, як ужэ ён пачаў класці людзей да гаўяда. Кругом людзі лажацца лоскам, а той чалавек і яго сямейка хоць бы што. Дагадаліся людзі, што гэта не так, да й пытаюць яго, чаму гэта паморак абходзіць яго хату. Круціўся той, круціўся, але як яго смольна прыпёрлі, нарэшце, мусіў прызнацца, што гэта ён завёз у вёску паморак, але, кажа, я не ведаў, што то паморак, а думаў, што так сабе жанчына. Дак от, мабыць, за тое яна й абходзіць маю хату. Хацелі людзі перш знішчыць яго, але потым даравалі, бо бачаць, што ён і сам не ведаў, каго падвёз.

## 237. ПОШАСЦЬ І ПАМОРАК

Даўней быў вельмі добры адзін год: харошая восень, роўная зіма, а вясна цёплая, пагодная. Уночы йдзе ціхенькі, цёплы дожджык, а ўдзень ясна свеціць сонейка да так грэе, што, здаецца,

пасадзі на полі дзіця, та й тое вырасце. Усё расце на полі, бы на дрожджах. Рады людзі, што даў бог ураджай. Прышло лета. Ніхто й не памятае такога добрага, пагоднага лета. Усё зрадзіла. Ягады хоць шуплюй, а грыбоў у лесе да ўсялякае губы — хоць касі.

От ідзе адзін чалавек па лесе, бачыць, аж сядзіць на пні якаясь вельмі гожая маладзіца й трымае ў прыполе сноп жыта, да такога буйнага, якога той чалавек яшчэ ніколі не бачыў. Падышоў ён бліжа й бачыць, аж маладзіца плача да сваімі доўгімі валасамі ясныя вочкі ўціpае. Адгарнула маладзіца валасы й адкрыла грудзі. Бачыць чалавек, аж вуж упіўся ў самую цыцку й ссе маладзіцу. Хацеў гэта чалавек забіць таго вужа, але маладзіца толька прамовіла:

— Вялікі ўраджай, да не будзе каму спажываць.

І знікла.

Прышоў чалавек у сяло й расказвае, які бачыў цуд. Спужаліся людзі. Чакаюць вялікае пошасці ці паморку. Толька ось позна лавілі дзецюкі рыбу да й заначавалі каля ракі на грудку. От сядзяць яны каля агню да апякаюць рыбу. Ноч ціхая, як у вусе, толька рыба пляскае ў рацэ. Але ось узышоў месяц. Стала відно, хоць іголкі збірай. Бачаць яны — аж за ракою падышлі к берагу якіясь дзве вельмі страшныя бабы. Косы ў іх расплецены, твар цёмны бы зямля, толька вочы блішчаць. Падышлі яны к рацэ й просяць дзецюкоў, каб перавязлі іх на другі бераг.

Дагадаліся дзецюкі, што гэта не бабы, а пошасць на людзей і паморак на гаўяда. Спалохаліся дзецюкі й давай у іх кідаць галавешкамі да махаць зублёнкамі. Хацелі тыя бабы перш па кладцы перайсці цераз рэку, але як убачылі агонь, спалохаліся й пашлі назад. Ось і чуюць людзі, што за ракою пашла пошасць ламаць людзей, а паморак касіць гаўяда, і давай яны дзень і ноч класці з усіх канцоў сяла агонь, каб не падпусціць погані блізка. От толька так уратавалі сваё сяло. Многа памерла людзей, многа прапала гаўяда. Толька к зіме трохі хваробы атаймаваліся.

От з тае пары і давай людзі класці агонь да рабіць курóдым, як пачуюць, што хвароба ці якая пошасць падходзіць.

### 238. [ХАЛЕРА]

Ехаў гэтымі днямі позным вечарам адзін чалавек з-за Шылавіч. Едзе ён, ажно на гасцінцу з-пад моста вылазіць неякась худая баба і просіцца ў яго:

— Чалавечку, падвязі мяне.

Ён у страх, яму аж валасы дыбам сталі,— думае, што гэта нячысты.

Так яна кажа:

— Не бойся, я табе нічога не буду рабіць; падвязі, то нешта скажу.

Ён — няма рады:

— Сядай, — ка.

Яна села і стала гаварыць:

— Цяпер, — ка, — у вас набытак хварэе.

Ён ка:

— Але, хварэе.

Яна зноўсь:

— А на весну людзі будуць хварэць. Будзе ўраджай, але не будзе каму есці, бо цяпер старое і малое заўсёды мяне пацягае, а не магу вытрываць.

А не была гэта жадная баба, анно халера.

## 239. ХАЛЕРА

Халера, браткі, самая паганая — гэта трыццатага году. То такая сіберная халера, што з ёю не было ніякае рады. Чаго тагды ні рабілі, як не сцерагліся, а яна от так рэжа, бацца нажом. Перш прайшла толькі чутка, што гдзесь у мястэчку халера схваціла нейкага мешчаніна ці мяшчанку. Але, кажуць, тут іх яшчэ жывымі схвацілі, укінулі ў яму да й засыпалі пяском, а падушкі да іншыя іх бэбахі пакідалі ў рэку. Дак от з тымі бэбахамі вынесла з мястэчка й самую халеру. Паплыла яна па вадзе да пачала касіць людзей у тых вёсках, што забудаваны паўз рэку, пачала хапаць, каго дзе трапіць. От пойдзе хто на поле здаровы, бы рэпа, а тут яна й займе да пачне рэзаць, да той пакачаецца-пакачаецца да там жэ й духі вон. От гэтак мучыла яна аднаго маскаля. Потым ужэ ён сам расказваў:

— От,— каа,— прылёг я на сенажаці трохі аддыхаць да, мабыць такі й, задрамаў. Толькі ось прахапіўся да й бачу, аж нада мною стаіць высокая, худая да страшэнная жанчына ў ва ўсім чорнум, а сама сіняя, бы пуп. Перш спалохаўся, — кажа,— я дагадаўся, што гэта халера, а потым думаю, што будзе, то будзе, схапіў яе на бярэмя да й папёр к рацэ. Прывалок гэта ён яе на круты бераг, а над берагам бяздонная глыбіня, толькі там круціць вір. Бачыць яна, што тут не пярэліўкі да давай прасіць да маліць:

— Сякі-такі, — каа,— нямыты да нямазаны, не губі мяне, та тут больш нікога не зачаплю.

«Ну,— думае той маскаль,— якая мне карысць, што я яе загублю, а мо з таго яшчэ будзе якое ліха. Лепш так пушчу, задам жаху да й пушчу, та й ёй будзе добра, да й мне так сабе нічога».

— Ну,— кажа,— добра, я цябе пушчу, толькі ты пабажыся, што больш сюды не пойдзеш і не будзеш губіць людзей.

Заклялася яна да забажылася, аж хапіла зямлі, што больш туды не прыдзе.

От пусціў яе маскаль да й пазірае, куды яна пойдзе. А яна як вырвецца да як суне на сухі лес, дак толькі курава пашло, толькі ён яе й бачыў.

Прыйшоў маскаль да вёскі да й кажа:

— Ну, даў жа я жаху халеры, цяпер больш сюды не заявіцца.

Людзі думалі перш, што маскаль шуткуе, але потым бачаць, што сапраўды прапала халера. От з тых часоў тут яе няма, бацца й нашчатак звёўся.

## 240. [ПРА ХАЛЕРУ]

Гавораць старыя людзі. Праўдападобна, даўным-даўно (ведаюць яны толькі з пераказаў бабулек ці дзядоў, якім пераказалі іх бабулькі і дзяды) у вёсцы панавала страшэнная зараза, халера. Не было такога дня, каб хтосьці не паміраў. Людзей жа трэба было недзе хаваць. Ну, і выбралі месца за вёскай...

І больш бы памерла, каб не адно... А вось што. Прысніўся адной жанчыне сон. Каб напрасці і выткаць за адну ноч ручнікі ды закапаць іх у абодвух баках вёскі, ды паставіць на тым месцы крыжы, то хвароба перастане мучыць людзей. Так і зрабілі.

## *241. ХАЛЕРА САРАКАВОГА РОКУ

Настала лета саракавога року, і страх вялікі агарнуў людзей, бо як з-пад Менску, так з-пад Койданава і з-пад Радашковіч і адусюль наўкруг чутно было, што халера людзей коціць. Людзі нідзе не выязджалі, ніхто і ў нашу старану не заглядаў. Усе сталі неяк невясёлы, але пакуль што ў нас каля Волмы ніхто не захварэў.

У адну так нядзельку святую бог даў раніцу вельмі красную. Якраз зачалася касьба, і месцамі свежанькае сена стаяла ўжо ў копах. Ранні свежы воздух быў насякшы пахамі новага сена і красак яшчэ някошанай сенажаці. Сонца паволі вылынала з-за далёкага лесу і адбівалася ў расінках, на ўсялякіх кветках агенькамі. Пакоша выглядала, як усыпаная дарагімі каменнямі. Пастушкі выгналі сваю гавяду, каторая са смакам скубла, чуць паадскакваўшую сочную травіцу. Так усё было хараша, весела, здаецца, і не падумаў бы аб якім няшчасці. Тым часам старэйшыя штось як бы чулі. Усякі, каго ні сустрэнеш, ідзе нейкі насуплены і слова не пракажа. А калі запытаеш ці завядзеш гутарку, дык адказваюць нехаця, як бы баючыся большай размовы, ды кожны ідзе па сваёй справе.

Пасуць пастушкі сваю скацінку на свежай пакошы, аж бачаць,

як з дарогі ідзе якаясь баба, уся мокрая да руба. Прыйшла яна да аднае капіцы і лягла пад сена. Пастушкі, вядома, блазнота, падшывальцы, абступілі яе здалёк, няйначай птушкі саву або вараннё арла, але блізка падысці баяліся, хоць і дужа цікавасць брала. Гэтак стоячы, давай яны шпуляць у яе чым папала: хто пакалкам, хто грудкаю, хто каменьчыкам. І так ёй не давалі супакою амаль ні да поўдня, хоць тая і прасілася і малілася, каб далі ёй сапачыць крыху. А далей не вытрывала дый кажа:

— Чакайце, калі так. Папомніце вы мяне!— ды выйшла ім з вачэй.

А з гэтага дня ў нашым сяле стала халера людзей каціць з канца ў канец. Мала хто жыў застаўся.

Была ўжо сярэдзіна лета. Пагода стаяла харошая. Буйнае жыцейка выспела як мае быць і хіліла свой поўны колас да зямлі, адно жаць яго неяк не хапаліся. Усе хадзілі, як патручаныя, бо халера стала ўжо і ў наша сяло заглядаць, а пра суседняе, то й казаць нечага,— там мала хто жыў застаўся. Толькі на адну ніўку пад лесам выйшла жонка і стала жаці.

Не нажала яна яшчэ двух снапоў, як выйшла з лесу нейкая дзяўчына ўся ў белым і сама белая, як малако, ды прытым такі дужа прыгожая. Тую жонку паняволі якісь ляк узяў.

Падышла белая дзяўчына з сярпом і, заняўшы пастаць пры той жанчыне, давай жаць і снапы вязаць,— усё як мае быць. І гэта робіць яна ўсё моўчкі, а жонка гэтаксама баіцца да яе загаварыць, толькі дзівіцца на яе раз ад разу. Так жнуць, завіхаюцца, покі не прыйшла пара палуднаваць. Жанчына адважылася ды кажа:

— Я схажу дамоў папалудную, можа, табе чаго прынесці?

— Шклянку малака, калі ласка, больш нічога,— сказала тая і давай зноў завіхацца.

Жанчына, папалуднаваўшы, прынесла той дзяўчыне шклянку малака, а тая выпіла, падзякавала,— ды сталі зноў жаць і маўчаць.

Жнуць так моўчкі, завіхаюцца,— і вечар ужо блізка. Тая дзяўчына паглядзела-паглядзела ў лес ды кажа:

— Зараз, зараз іду.

А сказаўшы, зноў пачала жаць. Жанчына вума ні дабярэ, што яно такое. Чуе — крача, глянула — крумкач ляціць з-за лесу. Дзяўчына абярнулася да яго і кажа:

— Зараз, зараз іду, адно сноп дажну. Гэта,— кажа,— мой брат мяне на вяселле кліча.

Як дажала сноп, звязала яго як трэба ды пайшла сабе ізноў у лес, як прыйшла.

З таго часу халера стала сціхаць, сціхаць і заціхла.

## * 242. БАБ'ЯГОРАЦ І ПОШАСЦЬ

Калісьці для людзей найвялікшым няшчасцем быў не пажар, не голад і нават не вайна, хоць яны здараліся вельмі часта, але пошасць або зараза, ці, як цяпер кажуць, эпідэмія. Пошасці розных хваробаў вынішчалі цэлыя вёскі, гарады, акругі, нават краіны.

У вёсцы Баб'я Гара, што знаходзіцца на высокім пагорку паміж ракою Нарвай і паўночнай ускраінай Белавежскай пушчы, мне расказвалі такое. Калі даходзіла чутка да вёскі, што недзе непадалёк паявілася пошасць, мужчыны запрагалі ў ярмо сівога вала і абворвалі сахою навокал вёску, каб хвароба не перайшла цераз баразну. У тым жа часе жанчыны і дзяўчаты збіраліся разам і за адну ноч напрадалі з ільну нітак і вытыкалі з іх ручнік-ахвяру, які перад узыходам сонца павязвалі на крыжы, што стаяў на канцы вёскі. Зразумела, што ўсё гэта не магло перашкодзіць пошасці. І яна, быццам бы, калі ўварвалася ў вёску, імчалася па вуліцы ды касцянымі сваімі пальцамі стукала ў вокны хатаў, крычала: «Была бяда, была бяда, а цяпер будзе вам ліха!»

І вось аднойчы, калі так бегла пошасць па вуліцы Баб'яй Гары і стукацела па вокнах, адзін баб'ягорац сядзеў сабе на прызбе сваёй хаты ды пакурваў люльку. Пыхнуў цэлую хмару дыму раз, пыхнуў другі, а калі пыхнуў трэці, бачыць — мара нейкая белая каля акна яго хаты стаіць ды касцяным пальцам у шыбіну стукоча. Баб'ягорац, доўга не думаючы,— цап яе за касцяную руку ды і кажа:

— Дзеці і жонка паснулі, перастань барабаніць!

— Ах, дык ты асмеліўся мяне за рукі чапаць!— узлавалася мара.— Ці ты не ведаеш, хто я?!— ускрыкнула яна.

— Адкуль жа мне ведаць, панечка?..— атрупянеў са страху баб'ягорац ды задам да дзвярэй свае хаты пачаў падавацца.

— Ну, дык ведай: я — сама халера!— выкрыкнула яна ды так дзіка зарагатала, што ў баб'ягорца ад жаху аж мову адняло ды з заляскацеўшых зубоў люлька выпала.

— Чаго затросся?— накінулася на яго халера.— Пакуль я цябе ўмару, ты мне яшчэ патрэбны да іншага. Бач, я ўжо зусім прыстала, пехатою па свеце бегаючы. Бяры мяне на свае плечы ды насі па свеце. Толькі не абмінай ніводнага сяла ні горада. Калі пастараешся, дык пажывеш яшчэ крышку.

Сказала яна так баб'ягорцу ды на плечы яму ўзабралася.

Паправіў той жудасную ношу на плячах і адчувае, што яна не толькі лёгкая, але зусім, бы тое паветра, вагі не мае. Падумаў ён сабе: «Вядома, мара ж яна» ды павалокся да бліжэйшага сяла.

У тым сяле якраз мужчыны пад яравое поле аралі, жанкі ў гародах варыва садзілі, а дзеткі-малалеткі на вуліцы, каля хатаў сваіх, забаўляліся. Убачыла гэта мара, скрыганула са злосці зубамі ды

махнула сваёй белай плахтаю, што ахутвала яе касцістае цела. Пайшоў ад плахты смяротны павеў і ад яго пачалі мерці мужчыны, жанчыны і дзеці там, дзе хто ў тую пару знаходзіўся. Як прайшоў баб'ягорац з параю па тым сяле — адны пустыя сцены хатаў асталіся.

Пабрыў баб'ягорац адтуль у мястэчка. А там па карчмах балі, спевы да весялосць на кожным твары. Але як толькі ён затрымаўся на рынку ды мара ўзмахнула сваёй плахтаю — спынілася адразу музыка, змоўклі песні, боль пакарэжыў людскія твары. Куды ні глянь — усюды вуліцы ды панадворкі трупы ўсцілаюць, труна за трунаю на могілкі плывуць, а там ужо і месца не хапае памёршых хаваць.

Наглядзеўся баб'ягорац на гэтую жудасць, абамлелі ў яго рукі ды ногі і сэрца крывёй аблілося ад жаласці да людзей. Прысеў ён на прыдарожны камень і цяжка ўздыхнуў, а мара яму на тое:

— Што, жыццё табе надаела?!

Воляй-няволяй падняўся ён ды пасунуўся куды вочы глядзяць. Але ўсё так меркаваў, каб па лясах, пустэчах ды багнах хадзіць, дзе меней людзей сустракаецца. Заўважыла яго хітрыкі мара ды кажа:

— Ты глядзі, каб я цябе мёртвым на якой-небудзь пустэчы не пакінула!

І давялося баб'ягорцу насіць мару па вёсках ды гарадах. Насіў ён яе, насіў, доўга ці коратка, ажно і ў свае родныя бакі прыблукаў. Бачыць: за рэчкаю на пагорку яго родная вёска стаіць. Усплылі ў яго перад вачыма родныя дзеткі-малалеткі, старыя бацька ды маці і любая сэрцу жонка. Зашчымела ягонае сэрца ад болю, а мара тым часам падганяе:

— Чаго стаў? Ці ж табе даражэй жыццё тваіх родных, чым сваё ўласнае?!

Выбраў тады баб'ягорац месца ў Нарве найглыбейшае ды ўброд у раку пайшоў. Ішоў і з кожным крокам усё глыбей у ваду акунаўся. Моцна-моцна ўхапіў ён за касцістыя ногі мару ды цалкам пад ваду пайшоў. Але мара, як паветра, усплыла над вадою. Баб'ягорац жа так і застаўся на дне віру.

Перапужалася мара такой настойлівасці баб'ягорца, які свайго жыцця не пашкадаваў, каб толькі ўратаваць ад смерці родных дзяцей, бацьку, маці, жонку ды сяло. Пабегла яна спачатку ў Белавежскую пушчу. Паблукала па ёй некалькі дзён, а потым цалкам з гэтых бакоў у іншыя краі падалася.

Так вось і выратаваў баб'ягорац ад смерці не толькі сваю сям'ю, радню ды вёску, але і ўсё наваколле.

## 243. ВОСПА

Пазалетась паехалі мы ў Гародню па гаршкі. Хоць дарога была харошая, цераз Прыпяць хоць ты гарматы каці, але да Гародні не даехалі, а супыніліся ў Смуроцку трохі аддыхаць. Пакуль выкурылі люлькі, дак якась раптам нахапілася ноч. Бачым мы, што нічога не будзе, да давай прасіцца нанач. Абышлі мы не́маль усю вёску,— ніхто не пускае паначаваць. Нарэшце якаясь удава злітувалася да й пусціла к сабе ў курнік. От пытаем мы тую жанчыну, чаму гэта ніхто не хоча нас пускаць, ці гэта тут такія паганыя людзі?

— Не, маеродненькія,— адказвае яна,— тут людзі як людзі, а толькі ось, у суседняй вёсцы гэтак раз зайшла ў вадну хату якаясь падарожная жанчына да й просіцца паначаваць. А то была не простая жанчына, а Воспа. Паначавала яна да й пайшла далей. А ўходзячы да й кажэ: «Ну, шчасце ваша, што мяне прынялі. За тое ў вас ніхто не будзе хварэць». Дак от кажэце, мае родныя, пасля таго як уплюнулася ў тую вёску воспа, дак немаль усіх парабіла, бы чачотак, толькі й засталася здароваю адна хата, дзе начавала тая жанчына. От затым баяцца пускаць нанач, думаюць, ці не міне хвароба да не пойдзе далей.

Дак от гэта нам расказвала жанчына ў Смуроцку да й бажылася, што праўда.

## 244. НАПАСЦЬ

Чалавек з Касцюкоў вёз у Барысава на пары коней пшаніцу прадаваць. Спатыкае ён у Стахаве — нясець баба прыжорнаўскія молаты і просіць:

— Падвязі, чалавеча, мае молаты.

— Добра,— кажа.

Яна і палажыла на возе, а сама ідзець ззаду і пытае:

— Скажы мне, ці ты калі молішся богу за напасць?

— Не,— кажа,— нашто маліцца? Яна і так ка мне не прычэпіцца.

Баба адказвае:

— Заўсёды маліся, дзіцятка, бо будзеш каяцца некалі.

Сказала гэта і села ззаду на яго возе. Едуць. Пад'язджаюць к Барысаву, баба ізноў пытаецца:

— Чаму не молішся за напасць?

Ён маўчыць, думае: эт, баба дурная, што з ёй гаварыць.

Яна і трэці раз ізноў тое самае. Тагды чалавек ужо крыкнуў ёй:

— Сядзі,— кажа,— калі сядзіш!

Прыехалі на базар, чалавек адпрог коні, паставіў каля воза, падкінуў ім сена, а баба ўсё сядзіць на возе, на мяхах. Ён ёй кажа:

— Злазь, бяры свае молаты ды ідзі сабе.

А яна:

— Табе якое дзела да майго воза? Не дабро, што падвезлі цябе з молатамі, а ён яшчэ лаецца.

Зрабілі крык, гам, прыбеглі гараднічыя:

— Што, што такое?

Чалавек кажа, што ён падвозіў бабу, а баба, што яна. Ну, усякі знае, нашто бабе жарнаклёўскія молаты. Усе пасудзілі за бабу, а чалавека хацелі ўжо весці ў паліцыю. Той тады давай маліцца, хрысціцца, плача.

— Во,— кажа,— і не сніў, і не думаў, як прычапілася напасць.

Тады баба злезла з воза і кажа яму:

— Ну, глядзі і помні, што я табе казала; гэта ж я сама і ёсць Напасць...

Сказала і знікла.

## 245. [УРОКІ]

У нас у аднаго гаспадара была вельмі добрая карова, яна адна давала малака больш, як другіх пяць кароў, да яшчэ якога малака, кажуць, проста бы смятана. От якраз ішла тая карова з пашы да насілу несла малако, так яно ёй распірала вымя. Пабачылі жанкі, пазавідувалі да й ураклі. З таго часу пачала тая карова даваць малако перш такое рэдкае бы вада, а потым суздром зацялася: не дае ні каплі малака да толькі брыкаецца. Бачыць гаспадыня, што гэта ці падзіў, ці ўдзеяна, да давай шукаць такіх людзей, каторыя знаюць, як адрабіць. Тыя й шапталі, тыя й падкурвалі карову свянцонымі зёлкамі — дак насілу адрабілі. Але, кажуць, што тая карова цяпер ужо менш дае малака, чым раней, да й малако не такое густое.

## 246. ДОЛЯ ДОБРАЯ, ТА [redacted] ЖЫТКА ДОБРАЯ

Яшчэ на раду чалавеку даецца доля. Каму якая трапіцца доля, такое ў яго й будзе шчасце. І што ты не рабі, як ты ні старайся, а нічога не парадзіш, калі доля лядашчыца. Калі ж доля спрыяе, та хоць ты ляжы на печы да грэй чэрава, а табе ўсё так і сыплецца, бацца ў млыне збожжа з кашá.

Ось расказваюць старыя людзі, што ў адном краю жылі сабе адзін чалавек з жанчынаю. Пабраліся яны яшчэ маладымі, а тут

ужэ хутка й старасць, а дзяцей усё няма да й няма. Той чалавек яшчэ нічога сабе, пойдзе лавіць рыбу або ў лес на ахоту, лазіць там цалюсенькі дзень. Цераз каладзьё або на балоце па купніку, вечарам утоміцца да як прыцягнецца дамоў, дак хутчэй пасілкуецца чым бог даў да й заваліцца спаць. А жанчына, ведама, заўжды кала дому таўчэцца, ніякае разрыўкі ёй няма, дак от яна дагледзіць гаспадарку, пакорміць свіней, сядзе на лаву кала акна, падапрэ рукою галаў дай і сядзіць засмучаная, баццэ каго пахавала. Ведама, якая жанчыне жытка, калі ў яе няма дзяцей.

От так раз сядзела яна, як ось падходзіць пад вакно старэнькі дзядок да й просіць піць. Падала яна яму конаўку бярозавага квасу. Напіўся той дзядок, выцер свае сівыя вусы да бораду, а потым і пытае тую жанчыну, чаго яна такая засмучоная.

— А чаго ж мне радувацца,— кажа яна,— калі мне бог не даў уцехі, не даў дзяцей.

— Дак на от выпі гэстага квасу,— кажа старэнькі,— та будуць і дзеці.

Не паспела яна й здзівіцца таму, што сказаў старэнькі дзядок, як ён і знік. Дагадалася яна, што гэта быў не просты дзядок, а сам бог, паслухала яго й напілася таго квасу. От праходзіць мо колькі нядзель, як чуецца яна, што сапраўды панесла. Рада тая жанчына, бы зноў на свет нарадзілася. От ўжэ падходзіць час раджаць. Нагатовіла яна пялёнак, сарочачак і ўсяго, што трэ, да жджэ недажджэцца, калі ўжэ тое будзе. Ей вельмі хацелася напярод ведаць, што у яе будзе, хлопчык ці дзевачка. Давай яна радзіцца з бабамі. От тыя наўчылі, што зрабіць, каб прыснілася, якое будзе дзіця. От зрабіла яна, што ра́дзілі бабы, да й легла спаць. Толькі яна прыкархнула, як ось пакінула цела да зрабілася такая лёгкая, бы матыль. Вышла яна перш у садок. Аж ён увесь цвіце, бы мак, да такі ад яго йдзе пах, што не можна й сказаць. Панюхала яна й зрабілася ёй так весела, што яна давай пляскаць у ладкі. Толькі яна пляснула ў ладкі, як ось самі ногі аддзяліліся ад зямлі, й яна паляцела над агародчыкам, дзе раслі кветкі, далей цераз садзік паміж вецця да так, што толькі яно хвошча па твару. Зірне яна, аж унізу блішчыць рака, а па берагох высокі лес зелянее, баццэ мурава. Кругом так гожа, так радасна з'яе сонейка. Ляцела яна, ляцела да й супынілася на высокуй гары. Зірне яна, аж там на поплаве сярод кветак скачуць да качаюцца тры маладыя да вельмі гожыя дзевачкі. От яны пакупаюцца ў рацэ, вылезуць на бераг да й качаюцца па траве голыя, як маці радзіла. Доўга яны там ігралі, нарэшце, пачалі плесці вянкі. Адна спляла вянок з асату да з чартапалоху да й кажа:

— Ось такая жытка будзе таго чалавека, якога я буду доля.

Другая спляла вянок з калінак да з вецця.

— А я ж,— кажа,— доля рыбака да ахвотніка.

Трэцяя ж самая гожая спляла сабе вянок з каласоў жыта й пшаніцы да й убрала яго рознымі кветкамі.

— Я ж,— кажа,— доля гаспадара.

От калі б гэстая доля майму дзіцяці,— думае тая жанчына, як ось тыя тры дзевачкі, ці долі надзелі на галавы вянкі, пабраліся за рукі да давай гасаць па поплаве. Гасалі яны, гасалі да ўсё бліжэй, бліжэй падбягаюць к той жанчыне, нарэшце, супыніліся кала яе саўсім блізка да й кажуць:

— Ось тут жанчына, яна хутка родзіць хлапчука, дак каторая з нас пойдзе да яго да будзе яго доляю.

Доўга яны спрачаліся: адна кажа — я, другая — я, а трэцяя сабе крычыць — я. Ніяк не могуць яны згадзіцца. Нарэшце такі дагадаліся зрабіць так, як бог вяліць. От адна да й кажа:

— Ось я падкіну ўгору кветку, дак хто з нас упярод зловіць, такую долю бог прысудзіў таму хлапчуку.

Згадзіліся долі на том. От тая самая гожая доля вырвала з свайго вянка кветку да й шыбанула ўгору так моцна, што яна аж схавалася ў небе, а цераз часіну ляціць уніз. Выцяглі долі рукі ўгору, каб злавіць тую кветку, а тут падхапіўся такі віхар, што круціць не то што тую кветку, да доўгія косы тых доляў, але аж іх саміх падымае ўверх. Лавілі яны, лавілі, аж засапліся, нарэшце, тая самая гожая доля схапіла тую кветку да й заткнула яе сабе ў валасы. Потым ўсё якась замітусілася. Долі няведама куды дзеліся, а тая жанчына паляцела назад да свайго цела. Толькі яна вярнулася, як ось схапілі болі й яна радзіла гожага хлопчыка. Дак кажуць, што ён быў такі шчаслівы, такі шчаслівы, што мо такога другога й няма на свеце. Дак от ад каго доля.

## 247. ДАЛІНА

Быў сабе вельмі багаты чалавек, але такі ўпарты, што хоць ты яму здымі голаў, а ён усё стаіць на сваём. Кажуць жа людзі, што ўпартаму хоць ты кол чашы на галаве, та ён усё сваё жупіць. Яшчэ з маленства прывык ён за кождым словам гаварыць — «даліна яго вазьмі». Пакуль ён быў яшчэ падшпаркам, та гэта яшчэ як сабе не было, а як вырас да стаў гаспадаром, та людзі пачалі яму казаць, што гэта нядобра, што ад гэтага мажэ быць шкода. А ён куды там — і слухаць не хоча.

— Няхай ён спрахне,— кажуць людзі,— чаго мы будзем нагдырацца.

От пачаў ён сам правіць гаспадарку. Перш-наперш пачаў запрагаць каня, але, ведама, няўмеючы, круціць каня та цераз адну, та

цераз другую аглоблю, а ніяк не мажэ яго завесці як трэба ў ваг-лоблі.

— Тпру, даліна цябе вазьмі! — крыкнуў ён на каня.

А той брык да й ногі выпруціў. Мабыць, трапілася такая ліхая часіна.

Няма чаго рабіць, запрог ён другога каня да на ём і выцяг дохлага на даліну за выган. Назаўтра штось позна пастух не займаў кароў, от адна з іх самая лепшая пераскочыла цераз плот у вагарод. Убачыў гэта ён да й крычыць:

— Даліна цябе вазьмі, ваўкарэзіна! Ты гэта куды залезла?

Выгнаў ён тую карову да й прагнаў на пашу. Толькі ось як сталі палуднуваць, бяжыць пастушок да й кажа, што тую карову расперла бы гору. Кінуўся ён туды, аж тым часам з каровы й духі выперла. «З чаго б гэта?» — пытае ён людзей.

А тыя кажуць, што мо карова плюшны наелася, а мо й з таго, што ты, каа, за кожным словам гаворыш: даліна вазьмі, от яна й бярэ.

Не хоча ён таго й слухаць, а ўсё не кідае свайго налогу. От ужо саўсім заняпала гаспадарка, бо знішчылася гаўяда, прапалі коні, падохлі свінне, а ён яшчэ рызыкуе да кажа:

— Ну, што гэта за жытка, даліна яе вазьмі.

Толькі ён тое прамовіў, як ось сарвалася паліца да цюк яго рубам па галаве, дак от, кажэце, звіўся на месце й песенькі не ўказаў. Пахавалі яго людзі дай пачалі з тых часоў яшчэ гарэй сцерагціся праклёнаў далінаю, бо яна вельмі паслушная: чуць толькі скажаш, як яна тут табе ўжо й цягне на даліну.

## 248. [ПАНСКІ ЗАКЛЁН]

Некалькі соцен метраў на ўсход ад вёскі Відава, на ўраджайнай зямлі растуць тоўстыя грабы і дубы, а між імі выкапаныя дзве сажалкі. Адна з іх вялікая, прадоўжастая, а другая круглая, абсаджаная ліпамі, і пасярэдзіне яе ляжыць круглы, невялічкі востраў. Усё гэта абсаджана кругом густым бэзам. Яшчэ да першай сусветнай вайны жыў тут пан Грабінскі, і ад яго прозвішча гэтае месца людзі назвалі Грабінай. Уцякаючы перад фронтам, пан Грабінскі на свой маёнтак кінуў праклянцце, і ад таго часу ў Грабіне стала страшыць. Расказваюць старэйшыя людзі, што вечарам у Грабіне кругом круглай сажалкі ходзіць конская галава на курыных лапках, а на востраве пры залатой лямпе пані ў доўгім адзенні чытае кніжкі. Іншыя расказваюць, што бачылі пад бэзам то агонь з напісамі, то пана, які адпачываў у капелюшы, то яшчэ ўсялякія іншыя дзівы. Ці ўсё гэта сапраўды нехта бачыў? Не ведаю. Але чулі аб гэтым, чулі ўсе ў Відаве.

## * 249. [ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА]

У Дзісненскім павеце захавалася паданне пра работніка, які выпадкова наступіў на папараць, а цвет яго ўпаў яму ў лапаць. У той жа момант стаў ён усёведным: знайшоў прапаўшых коней, даведаўся, дзе схаваны скарбы, як трэба бараніцца ад чараў ведзьмаў. Прыйшоўшы дадому, гэты ўсёведны разуўся, цвет папараці застаўся ў лапці, і — эх! — кончылася ўсёведанне! Усе, што былі ў хаце, здзіўленыя гэтым раптоўным пераходам ад усёведання да нічога, здагадаліся, у чым справа, і кінуліся аглядаць лапаць. Нехта Сцяпан ухапіў кветку і ўцёк. Данеслі пану. Той не збаяўся знахарства Сцяпана, сілком адабраў ад яго чарадзейны цвет, і з таго часу горкае жыццё настала не толькі яго сялянам, але і чартам.

## * 250. НОЧ НА ІВАНА КУПАЛУ

Даўным-даўно, дзяды ды, відаць, і прадзеды не запомнілі, можа, не адна сотня гадоў прайшла, знайшоўся адзін чалавек, які захацеў кветку папараці сарваць. Дзяды адгаварвалі яго ўсяляк не хадзіць, тлумачылі яму, што як свет божы стаіць, нікому яшчэ не ўдалося сарваць тую кветку. Прабавалі шмат хто, ды толку, апрача ліха, ніякага не выходзіла. Не паслухаў той малец дзядоўскай парады. Вядома, малады быў, кроў у ім іграла. І прапаў ні за што, згінуў, нібы ў раку кануў.

Нячысцік яго звёў,— дзень і ноч у вушы яму шаптаў: «Пайдзі, ды пайдзі. Сарвеш тую кветку, грошай шмат здабудзеш, не толькі што сабе і дзеткам заробіш, але і на ўсю вёску хопіць».

Паслухаўся маладзец чартоўскага нашэптвання: яшчэ з раніцы і месца сабе выбраў. Надышла ноч, пайшоў ён да таго месца. Ноч ціхая, ліст не зварухнецца, ды цёмная хоць вока выкалі: у двух кроках чалавека не ўбачыш. Птушкі змоўклі, ніводная не спявае, усе па гнёздах пахаваліся: ім ад бога загадана, каб і не падумалі ў гэту ноч чартоўскую цешыць нячысцікаў песняю.

Што з тым малайцом у тую ноч здарылася — ніхто не ведае, знайшлі яго раніцай непадалёку ў канаве зусім бездыханным: відаць, чэрці яго туды піхнулі. Прынеслі дамоў, вадой пачалі адліваць, доўга ён вачэй не адкрываў, думалі, што ўжо памёр, але к вечару ачуняў. Народу каля яго сабралася шмат, распытваюць: што і як? А ён хоць бы слова якое сказаў: мычыць сабе, нібы карова, да вачыма лыпае. А вочы такія страшныя, мутныя.

Дні праз тры знік і ў хату не заглядваў, і не еў нічога. Знайшлі яго на тым жа месцы, куды за кветкаю хадзіў: качаўся на асіне з вяроўкай на шыі.

## 251. КВЕТКА ПАПАРАЦІ

Гэта было даўным-даўно. Жыў адзін бедны селянін, і быў у яго сын, які пасвіў у багатых кароў. Адзін раз пасвіў ён каровы ў лесе, а гэта было перад Купалам. Лёг гэты хлапец адпачыць пад кустом і заснуў, а калі прачнуўся, то не ўбачыў ні адной каровы, усе разбрыліся па лесе. Страшна стала хлопцу. Не заходзіўшы дадому, пайшоў ён па лесе шукаць кароў. Ужо наступіла ноч. Ходзіць ён па лесе і нічога не помніць, дзе ён, як і што. Але роўна ў дванаццаць гадзін ночы ён убачыў, што нешта ў далечыні блішчыць. Ён пайшоў на гэты бляск і ўбачыў кветачкі,— гэта цвіла папараць. Калі ён дакрануўся рукой да папараці, то ўсе кветкі паападалі, а некалькі кветак яму папала ў лапці. У гэты час ён стаў адчуваць сябе свабодна, яму стала ўсё вельмі ясна, ногі ператалі балець.

Праз некаторы час пастух знайшоў сваіх кароў і пагнаў іх дамоў. Прыйшоўшы дамоў, ён разуўся і ўсе кветкі з лапцей павыпадалі, пасля гэтага ён зноў аб усім забыўся.

## 252. ЦВЕТ ПАПАРАЦІ

Гэта ўжэ праўда. Кажуць, было ў Гаўрыльчыках ці што,— мне казаў мой сябер, што ён сам знае таго чалавека.— От ён,— каа,— пашоў раз на Купала ў лес шукаць здатнага дзерава на корбы ля прасніцы віць вяроўкі. Дзень быў хмурны. Сонейка не было з самага рана. Ён, мабыць, позна пашоў у лес да й там пахадзіў якуюсь часіну. Зірне ён, аж ужэ й цямнее. Ён барджэй пабег да гасподы. Але як пачаў хутчэй абходзіць вываращьё да калоды, завалы ці якое-небудзь ламачча, дак саўсім заплутаўся й не ведае ў які бок ісці. Хадзіў, ён, хадзіў, а тут ужэ й саўсім сцямнела да зрабілася так, што хоць ты вока выкаль. Бачыць ён, што нічога не будзе, што яму поцемку не вылезці з лесу, от ён і заначаваў там. Ведама, палескі чалавек у лесе, бы дома, нічога не баіцца. А ён і забыўся, што гэта было на Купала. А на Купала кожнаму якась сумна. Ці праўда, ці не, што баюць людзі, нібыта на Купала правіць ша́бас усялякая нечысь, але лепш начаваць дома, спакайней, чым у лесе. От наклаў ён агню да тут і успамянуў, што гэта Купала. Як успамянуў, дак бы мароз так і пачаў шчыпаць плечы, а шапка на галаве й паднялася. Пачасаў ён плечы, захлабучыў шапку да й сядзіць сабе каля агеньчыку. Хоць ноч і так цёплая, аж парыць, але каля агеньчыку якась смялей. От ён наламаў веццяя, паслаў яго каля агеньчыку да й прылёг. Ці доўга, ці мала ён ляжаў, толькі крыху прыкархнуў, як ось чуе, што хтось тупае, от баццэ капытамі. Падняў ён голаў, зірнуў та ў вадзін бок, та ў другі,— нікога няма, толь-

кі агеньчык патухае, бо дровы згарэлі. От ён падняўся да й пашоў збіраць ламачча. Адышоўся ён ад агню мо з паўганоў, а тут кругом папараць па самыя пахі. Зірне ён, аж яна цвіце, бы агнём гарыць. Хацеў ён сарваць той цвет да толькі працягнуў руку, дак ось, мае вы каханенькія, адкуль тое ўзялося, якое толькі плягі на яго не кінулася. От так адусюль тырчком у вочы й суе яму ўсялякая нечысь што папала. Схапіў ён хутчэй ахапку ламачча да бягом к агню. Бяжыць, толькі папераць ломіцца. Зірне ён, аж у лапці набілася поўна цвету паперації, аж ён гарыць, бы зоркі, сіненькім агеньчыкам. Ускінуў ён на агонь ламачча, узяў галавешку да й абчарціў ёю кругом, от і заціхла ў лесе, бы ў вусі. Толькі ось падходзіць к яму якісь панічок у капелюшыку да й просіць памяняць лапці на новенькія боты да яшчэ дае прыдатку. Памяняў ён лапці на боты да разам з лапцямі аддаў і цвет паперації, а нечысці толькі тое й трэба было. Лёг ён да й праспаў да дня. Прахапіўся, аж няма ні ботаў, ні лапцеў, толькі засталіся галавешкі. Дак от якая справа.

## 253. ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА

Пайшоў на Яна ў лес гаспадар шукаць карову, а за ім паляцелі яго два сабакі. Ішоў гаспадар лесам, учапілася яму ў лапаць кветка папараці, і чуе ён сабакі гаворакь між сабою. Адзін кажа:

— Ляці да хаты, там злодзей хоча ў хату залезці, а я астануся карову шукаць.

Згаварыліся і разляцеліся ў розныя бакі.

Чуе гаспадар, пра што птушкі і букашкі гавораць, знайшоў ён карову, а каля дому зноў тыя сабакі падбягаюць да яго і гавораць між сабою:

— Ну, як, прагнаў таго злодзея?

— Прагнаў.

— А ці пакарміла цябе гаспадыня?

— Дала таго бліна, што дзеці абцерла.

Тут гаспадар стаў тупаць ды абшчыпаць свае лапці, кветка вылецела з лапця, і гаворка сабачая перайшла ў лаянку. Больш ён ад іх нічога не пачуў, толькі адно зразумеў: сабак трэба карміць, трэба іх аддзячыць.

## 254. ПАПАРАЦЬ

Жыў сабе ў аднэй вёсцы валасны пісар. Ад самага нараджэння ён не быў трусам і ніколі не верыў у нячыстую сілу. Вось уздумаў ён пад самага Купалу, упоўнач, пайсці на балота ў лес шукаць папараць. Прыйшоў наш харобнік у самую гушчу леса, схаваўся за кусты і чакае, пакуль запаветны квет зацвіце. Дзесь-то начная птушка

ўспырхнула, на небе скрозь дрэвы відаць маладзік, усюды ціха. Аж раптам навокал усё заблішчэла. Спужаўся пісар. Глядзіць, каля яго ног на сцібле чырвоны квет увесь ззяе. Толькі ж ён хацеў адшчыпнуць квет, як той абярнуўся злюшчым сабакам і пачаў на яго рычаць, ашчэрыўшы зубы. Уздумаў пісар стракача даць. Але тут яшчэ вялікшы жах яго спаткаў: паміж лапухоў сядзіць зялёная вужака з петушынай галавой, а ў паветры на рэшаце ляціць ведзьма, махае мятлой, за ёй ляцяць крылатыя каты, лягушкі на кароткіх нагах і ўсялякая нечысць. Апамятаваўся наш пісар, што нечага пужацца ўсёй гэтай нечысці, сабраўся з духам і харобра сашчыпнуў агнявую краску, завязаў яго ў хусцінку і пайшоў дахаты, не азіраючыся назад. Ідзе, травы і збожжа становяцца вадою, але ён ідзе. Вада разыходзіцца, а пісар усё ідзе з аднэю думкай — дайсці дахаты і стаць багатым. Ужо выйшаў з лесу на дарогу, аж бачыць едзе на сваёй клячы знаёмы яму дзячок.

— Адкуль ідзеш? — запытвае ў яго дзячок.

— З поля,— адказвае пісар.

— А што ў хусцінцы ты нясеш?

— Падарунак для сваёй маленькай дачкі.

— Ну, дык сядай, я цябе падвязу; паганяй каня, а я падарунак твой патрымаю.

Наш пісар сеў на карафашку і давай паганяць хутчэй каня. Чуець, дзесь-то недалёка прапеў певень. Глядзіць — і што ж? Усё згінула: і дзячок, і квет, і конь. А ён сам сядзіць на сваім кію вярхом дый паганяе яго бізуном.

Так нашага пісара ашукаў нячысцік. А ўж куды разумней за нячысціка быў пісар: на ўсю ваколіцу славіўся сваёй смякалістасцю. Але супраць нячысціка не ўстаяў.

## *255. ЛЫСАЯ ГАРА

### [У ноч на купалле]

...Гадоў сто, а можа, і дзвесце назад у ноч на купалле ведзьмы і лесуны абралі пад свае скокі самы стары на Лысай Гары ясень. З-пад яго густой кароны разносіліся па наваколлі смех, свіст, нейкая бязладная гаворка. Лысагорцы, пачуўшы вядзьмарскае ўлюлюканне, пахаваліся ў сваіх хацінах. Адзін толькі малады каваль, асілак Янка не спалохаўся. Ён шпацыраваў са сваёй дзяўчынай Марыйкай і не звяртаў аніякай увагі на ўвесь гэты д'ябальскі вэрхал. Але раптам з ніжняй галіны ясеня працягнулася белая як снег рука, і салодкі голас паклікаў:

— Ідзі, Марыйка, ідзі да нас у карагод!..

Марыйка падала руку — і як у пастку трапіла. Пацягнула яе невядомая сіла ўверх, на ясень. Добра яшчэ, што Янка паспеў ухапіцца за яе. Расставіў ногі, упёрся магутнымі плячамі ў дрэва і не пускае. А зверху рагочуць ды прыгаворваюць:

— Позна, Янка, позна. Марыйка сама згадзілася, не твая яна ўжо, а наша. Пусці, пакуль даброй просім...

Раззлаваўся асілак-каваль, мацнейшым у сем разоў зрабіўся. Паднатужыўся ды так ірвануў з учэпістых пальцаў сваю каханую, што разам з ёй сцягнуў з ясеня цэлы тузін звязаных адной вяроўкай ведзьмакоў-страшыдлаў. Адразу сціх рогат, пачалі ведзьмакі плакаць-рыдаць, прасіць Янку, каб падсадзіў іх на ясень. Золата, брыльянты абяцалі. Янка загадаў Марыйцы заплюшчыць вочы, а сам ухапіў за чупрыну першага лесуна, пацягнуў увесь іх паганы карагод да гнілой сажалкі, што была каля падножжа Лысай Гары, і спіхнуў у дрыгву. Закіпеў бруд балотны, і ў адно імгненне выпарылася, высахла тая сажалка.

З таго часу на старым лысагорскім ясені, названым у гонар смелага каваля-асілка Янкавым, ніколі больш у ноч на Купалу аніякай нечысці не з'яўляецца. Нават калі дзьме моцны вецер, калі трымцяць, гудзяць усе суседнія дрэвы, Янкаў ясень стаіць і не варухнецца...

## 256. ПЕКЛА

Пекла — гэта аграмніста гара на канцу света. Падыходзячы да яго, здалёк ужо чутно, як людзі енчаць, і відно, як дым з яго валіць, а на ўсіх дарогах грэшнікі да яго на вазох кавалы смалы саматугам валочаць. Каб хто ўвайшоў у сярэдзіну, то ўгледзеў бы пасярод пекла да слупа дванаццацьма ланцугамі прыкутага Люцыпара. Наакол яго стаяць катлы з душамі, а рэшта то так і без катлоў валяюцца. З падыспаду пячэ іх агонь, а зверху смала распалена льецца. У гэтых катлах самі кролі, паны, ксяндзы: ім было на гэтым свеце добра, то за тое на том свеце кепска. Наакол пекла мужыкі з сакерамі ўвіхаюцца: рубаюць, смалу возяць да пекла і кладуць пад катлы.

## 257. [ВЫРАЙ]

Вырай дзесь вельмі далёка на зямлі, за гарамі да за марамі. Покі чалавек не саграшыў, датуль ён жыў у раю, а як саграшыў, та бог яго выгнаў з раю, а самы рай аддаў птушкам, каб ён дарам не пуставаў, бо, ведама, што й самая гожая пустка робіцца сумнаю. От з тых часоў і пачалі птушкі са ўсяе зямлі ляцець на зіму ў вы-

рай. А каб яны не блудзілі да не гіблі, от бог зрабіў ім на небе ясную дарогу, што проста вядзе ў вырай. Па гэтай дарозе кожны год адусюль ляцяць усялякія птушкі, але далятаюць у вырай толькі тыя, каторыя не робяць другім ліха. Бог і птушак, як і людзей, дзеліць на добрых і ліхіх. Як ліхія людзі ніколі не трапяць у рай, так і ліхія птушкі сланяюцца па зямлі, забіваюць другіх, покуль, нарэшце, дзе-небудзь загінуць. А добрыя птушкі накрасуюцца за лецечка тут у нас у гаю, пацешаць добрых людзей, а як пачне халадзець, дак яны й ляцяць у вырай, дзе паюць да цешаць святых людзей да анёлаў, што красуюцца ў раю. От затым вялікі грэх забіваць тых птушак, каторыя аб восень ляцяць у вырай.

## 258. КАЛДУН НАСЫЛАЕ НЯЧЫСТУЮ СІЛУ

От гэ ж кала сёмухі ці што нашы хлопцы павялі на начлег коні. Ведама, маладосць, ім усё хочацца дурэць. Ускочылі яны на коней да давай гарцаваць туды-сюды па выгане. Пішчаць, крычаць, бы татарская арда. Тут праходзіў на той час Іван Порца. Ён быў вельмі калдун. Мо знаеце ці чулі. Кажуць, што ён з чарцямі знаўся, не з намі гаворачы. Зачуў ён, што хлопцы раскрычаліся, да й кажа:

— Ах вы, паршыўцы, чаго нарабілі такога гармідару...

Але хлопцы нічутачку не спалохаліся, а яшчэ гарэй крычаць, падражніваюць Івана да паказваюць яму языкі, а адзін жэўжык — шануючы вашых асоб,— дак аж сунуў калдуну хвігу. Абазлаваў Порца да й крыкнуў:

— Пагадзеце ж, пошкудзі, пазнаеце вы мяне.

Зарагаталі хлопцы, свіснулі на коней да й паскакалі навыперадкі, толькі ён іх і бачыў.

Заехалі хлопцы на абалонь, папуталі коні, а самі выбралі грудок, наклалі агню дай сваволяць. Ноч цёплая. Паветра лагоднае, а неба цёмнае-цёмнае да сіняе, бы валошка, толькі на ём там-сям бліпічаць зоркі, божыя свечачкі, да йскрыцца птушачая дарога. Заціхлі хлопцы на адзін момант, дак зрабілася так ціха, бы ў вусе, толькі чуваць, што гдзесь коні хрумаюць. Крыкнуў адзін хлопец, дак па альсу пашоў разлягацца такі пóшчак, што хлапчукі аж спалохаліся. Але так як іх было цэлы гурток, та яны хутка асмеліліся да й давай падражнівацца з пошчакам. Але колькі яны ні крычалі, дак перакрычаць пошчак не могуць. Нарэшце аж ім самім напрыкрала. Заціхлі яны, набралі з агню галавешак да й разбегліся па абалоні, памахваючы галавешкамі. Адтаго здавалася, што па зямлі коцяцца агнёвыя колы. Тым часам у лузе штосьць свіснула да й зарагатала: го-го-го! Пачалі хлопцы прыслухоўвацца; але чым больш яны прыслухоўваліся, тым мацней разлягаўся крык да рогат на ўсе лады.

Здавалася, што алёс з гаем пасварыліся да й вычвараюць, на чом свет стаіць. Спалохаліся хлопцы, збіліся да купы да толькі дрыжаць, аж зубы ляскацяць. Сядзяць яны, ані чхнуць, а нячыстая сіла та свішча, та рагоча, та як закрычыць, дык у бедных хлопцаў аж душа ў пяткі залезе. Тым часам агонь патух; зрабілася яшчэ страшней. А тут нечысць давай лятаць над самымі галавамі да крычаць. Лятае так нізка, што аж чапляе крылом за шапкі. Дагадаліся хлопцы, што гэта гад Іван Порца наслаў на іх нячыстую сілу за тое, што яны яго дражнілі. Перадрыжалі яны ўсюсеньку ноч да й закаяліся больш чапаць калдуна. Толькі як пачало світаць, дак нечысць аж заплакала, але мусіла хавацца.

Дак от, бачыце, як калдуны насылаюць нячыстую сілу, каторая служыць ім, як свайму пану.

## 259. ЧАРАДЗЕЙНІК ЗАМОВІЎ СТРЭЛЬБУ

Пашлі раз нашы дзецюкі на ахвоту. Шляліся яны, шляліся чуць не ўвесь дзень, абшылынгалі яны чуць не ўвесь лес, а нічога не трапілі да й ідуць да гасподы з пустымі торбамі. От падходзяць яны ўжэ чуць не к самай вёсцы, як сустракае іх каваль Гараська. А Гараська ў нас слыў чарадзейнікам. Спаткаліся яны, закурылі люлькі да й жаляцца Гараську, што нічога не ўпалявалі. Ён усміхнуўся, падзяржаўся за стрэльбы да й кажа:

— Ну, от цяпер папробуйце пашукаць дзічыны.

Толькі ён гэта вымавіў, як ось і гоніць сабака зайца. Злажыўся адзін ахвотнік да як смаляне, дак заяц толькі падскочыў да й ногі выпруціў. Не паспелі яны дзівіцца, як ось нясецца цяцёрка. Выстраліў другі хлопец, дак цяцёрка й грыманулася пад самыя ногі. Здзівіліся хлопцы, а чарадзейнічак кажа, што ён мажэ так замовіць стрэльбу, што яна будзе шанцаваць ці не, будзе біць ці не, будзе ў самае сэрца пападаць ці жывіць. От ён узяў адну стрэльбу, трохі пашаптаў да й кажа:

— На, от страляй у маю шапку, на якую хочаш мэту.

Той павесіў кавалёву шапку на сук да як стральне, дак увесь шырот і астаўся у шапцы, а дзірак не зрабіў.

От з тых часоў усе пачалі баяцца таго чараўніка да шапкаваць перад ім, каб ён не сапсаваў стрэльбы...

## 260. МОЦНЫ ЧАРАДЗЕЙ

От якась у месаед перад усераднаю нашы мужыкі паехалі тралявацъ на рум караўкі. Зіма стаяла ліхая. Яшчэ з Міколы хвацілі такія сібірныя марозы, што хоць з печы не лезь. Высунешся, бало,

з хаты, а на двары каладзьё трашчыць, страляюць, баццэ з пісталета, а вочы так і зліпаюцца, нібыта мёдам іх намазаў. От такія марозы прадзержалі аж да самае ўсераднае нядзелі. Толькі тагды яны трохі спалі, як наш Хвядос выскачыў голы з хаты, схапіў доўбню да давай перыць аб вугал. Смаляне раз да й назаве лысага, смаляне ў другае да й назаве другога. Гэ налічыў ён дванаццаць лысых. А тут, каб яно спрахла, тутачкі ў нас мала лысых людзей. Налічыць іх дванаццаць не то што на марозе, але й на палацях не хутка трапіш. Дак от кажэце, толькі Хвядос тое зрабіў, як паваліў снег, да такі, што й свету божага не відаць. Валіў ён дзень і ноч чуць не цэлую нядзелю. А тут яшчэ ўсхадзілася такая хвіля, што й носа з хаты не высунеш. Людзі казалі, што гэта, мабыць, аддаў чорту душу якісь вельмі моцны чарадзей.

Мы перш думалі, што гэта прашкі, мала што людзі плятуць, ведама — людзі божыя сабакі. Але на тэй раз была праўда. Чуем мы, што сапраўды засіліўся вельмі моцны чарадзей. Ось як тое было. Нашы мужыкі тралююць караўкі. Самі сівыя, коні сівыя, вазы сівыя, бо ўся аб'іневела да стала лахматае, бы мядзведзь. А з аччу аж іскры сыплюцца, такі смаліць мароз. От дзецюкі варочаюцца з рума да кожын раз не мінаюць карчомкі. А там была добрая шынкарка, здаецца Рохля. Яна давала гарэлку на павер, бо ведала, што людзі зарабляюць добрыя грошы. Забягуць дзецюкі, вып'юць па кватэрцы, закураць люлькі, трохі пагрэюцца да й зноў па караўкі. Гэ ўвесь дзень. Толькі вечарком, як зайдзе сонейка, дзецюкі больш пасядзяць у карчме, бо яны тагды не толькі п'юць, але й перакусваюць.

От гэ раз толькі ўлезлі яны ў карчму да хацелі перакусіць, але зірнулі, што няма дзе палажыць хлеб, бо на сталі разлёгся Цярэшка Чарадзей. Мо чулі, што жыў у Дзяніскавічах. Цярэшка быў вельмі моцны чарадзей. Яго ўсе баяліся як агню, бо як яго хто зачэпіць, та ён так уздзее, такіх нашле чартоў, што ніхто й не адробіць. От яны давай прасіць Цярэшку, каб ён аслабаніў стол. Куды там, гад і слухаць не хоча, ляжыць сабе да здзекуецца з бедных людзей. Толькі ось на той час улез у карчму якісь незнаёмы падарожны чалавек. Паслухаў ён, як Цярэшка здзекуецца, да як перацягне яго пугаўём. А пугаўё ў яго звіта з двух валовых посікаў. Не спадзяваўся таго Цярэшка да толькі зароў, баццэ яго рэжуць. А той лупіць да прыказвае:

— От гэта табе, гад, за тое, што з людзей здзекуешся, от гэта на тое, каб доўга мяне памінаў да нікога не чапаў.

Лупіў ён, лупіў, а нашы дзецюкі й з месца не варухнуцца, стаяць бы ўкопаныя. Першы яны спалохаліся, што той чалавек пасмеў зачапіць такога моцнага чараўніка, перад каторым усе чапкавалі, а потым асмеліліся да й рады, што такі гад трапіў на свайго, да й

думаюць, няхай жа добра правучыць, каб з тыдзень не павярнуў азадкам. Здаволіўся тым часам той чалавек, сказаў ландару даць сабе гарэлкі да закускі да й прашоў у алькерык. Ачухаўся трохі Цярэшка... да й сунуў з карчмы, бы хорт, так яму было сорам перад людзьмі, што знайшоўся такі мацнейшы ад яго. Сунуў ён дамоў, але не пашоў у хату, а проста ў гумно да там на вожках і павесіўся з сарама.

З таго часу й закруціла хвіля. Гэта, бачыце, чэрці спраўлялі баль, што такі моцны чарадзей папаўся к ім у лапы.

## 261. СМЕРЦЬ ЧАРАЎНІКА

Быў негдзе надта вялікі чараўнік. Што, бывала, захочыць, усё з паганьскай моцай зробіць.

У яго быў адзін толькі сын. Як чараўнік паміраў, сын прося:

— Навучы мяне чараваць, а то памрэш і я не буду ведаць.

Ён кажа:

— Добра. Вазьмі хамут, палажы на стаўбе каля печы ды глядзі праз яго на мяне, тагды і будзеш знаць.

Ён гэдак і зрабіў. Аж бача: бацька канаець, а чэрці з усіх старон наляцелі. Мэнчылі чараўніка, мэнчылі, аж пакуль ён і язык не высалапіў. Тагды ўзялі і ўсе яго косці, жылы, вантробы — усё сабе падзялілі, толькі адну скуру аставілі. Дык тагды большы д'ябал узяў да ўлез у скуру і кажа:

— Глядзіце, д'яблы, што я зраблю. Няхай жа цяпер мяне абмываюць, спяваюць і хаваюць,— вот дык будзе смех нам!

Прышлі бабы, суседзі, сыскалі яшчэ дзяка́, бабы паставілі ў печ ваду грэць, каб, знача, абмыць міртвіца́, палажылі яго ў карыта. Ну, і суседзі, хоць, вядома, і рады, што памёр чараўнік, але ж ўсё ж, як той казаў, трэба памянуць. Дзяк сабе спявае. Сын злез з печы, сядзіць, маўчыць, а далі — цуп! — ухапіў гаршчок з варам — ды к карыту. Бачуць усе, што ён хочыць узліць на бацьку вар, і мысляць, што ён зышоў з ума, сталі крычаць:

— Што ты, паганец, робіш! Гэта ж ты бацьку апарыш.

А ён кажа:

— Ды вот глядзіце.— Ды як чабохне гэты вар на міртвіца, дык ён як лопнець і з усім карытам чэраз строп панёсся, толькі яго і бачылі.

Тады сын і кажа:

— Во лядзіце, хто гэта быў, а не бацька.

## 262. ВЕДЗЬМА ЦЯГНЕ МАЛАКО

Жыла ў нас адна маскоўка. Яе гаспадара як забралі, дак з тых час няведама, куды ён дзеўся. Маскоўка перш наймалася на работу падзённа, а потым пачала та шаптаць, та даваць зелья да з таго й жыла. Але ось пашла па сялу пачутка, што тая маскоўка стала ведзьмаю. Та той, та сёй пачалі расказваць, што бачылі, як маскоўка на вешняга Юр'я прасцілала па расе рушнік да збірала ро́су ў дайніцу, каб цягнуць к сабе малако з тых кароў, якія пройдуць па том месцы. Другія казалі, што маскоўка скінецца жабаю ці еляком да й ссе кароў, казалі, што бачылі, як яна круцілася кала кароў, і што з тых часоў у кароў не было малака ці яно было змешана з кроўю. Многа чаго гаварылі людзі пра тую маскоўку й пачалі яе лічыць ведзьмаю.

Тым часам жыў у нас адзін вельмі цікавы чалавек, на імя Сымон. Ён знаў шмат усялякіх прыкмет да забабонаў. От якась ведзьма пачапала й Сымонавых кароў. Абазлаваў Сымон да й кажа:

— Ну, пастой жа, хварэць тваёй матары, хіба не я то буду, калі я не злаўлю гэстую паганую ведзьму.

Сказаў да й давай цікаваць да рабіць усялякія прымхі. Першнаперш давай ён нанач заганяць кароў у хлеў. Загоніць гаўяда ў хлеў, зачыніць вароты, заткне іх затычкаю да й самую затычку запячатае грамнічнаю свечкаю. Бачыць ён, што ведзьма падыдзе к варотам, папробуе перагрызці свечку, але не мажэ, толькі зубы ў воск увязіць. От Сымон адзін раз загнаў кароў у хлеў да й пашоў сам іх вартаваць. Узяў гэта ён горшчык, запаліў грамнічную свечку, пакрыў яе тым горшчыкам дай сядзіць. Але ось па немалым часе, мо ў самую глупась, ціхенька прачыніліся вароты, як бы ад ветру, а затым і каровы сталі неспакойны. Зняў тут Сымон з свечкі горшчык дай бачыць, што паміж кароў штось замітусілася. Ён туды, але покуль успеў, дак ведзьма скінулася жабаю да й скача к варотам. Дагадаўся тут Сымон, якая гэта жаба, да давай яе прыпякаць свечкаю: трымае за лапу да смаліць агнём, аж сала скверэцца. Круцілася-круцілася ведзьма да й выкруціла сабе ногу. Здаволіўся Сымон да й выкінуў жабу вон чуць жывую. Назаўтра бачаць людзі, паганая маскоўка ляжыць з вывіхнутаю нагою, а чэрава ў яе асмалена, бы перад калядамі свіння. Хоць маскоўка й казала, што яна стаяла перад печчу й што на ёй загарэлася сарочка, але таму ніхто не верыць, бо гэта толькі адгаворкі паганае ведзьмы.

## 263. [ВЯДЗЬМАРКІ АДБІРАЮЦЬ МАЛАКО АД КАРОЎ ПЕРАД ЯНАМ]

Некалі панскі хурман рана на Яна вёў на выган коні і забачыўшы, што ведзьма рушнічком збівала ро́су, ён давай яе дражніць і абаганяць росу абруцею. Прышоўшы да двара, ён павесіў о́бруць у стайні на калочкі. Калі зайдзе ён сюды зноў чэраз паўгадзінкі, ажна ж там наце́кла із о́бруці цэлая каложына малака. Ён пабег да пана, сказаў яму. Папрыходзіла ўся чэлядзь, наймычке́ і парабке́, і не маглі ўдзівіціся, што гэта такое. Так і цекла малако із обруці, пукі не апала раса.

## *264. [ПРА ВЯДЗЬМАРКУ]

Раскажу панам выпадак, які здарыўся... у вёсцы Клішкова, там усе пра тое і зараз помняць...

Неяк усюды і разам дойныя каровы пачалі сохнуць, і малака ў іх зусім не стала. Яўна — чары. Па ўсіх аколіцах пачуліся скаргі і нараканні, але нельга было дазнацца, скуль тое ліха пайшло. Выпадкам сторaж з Клішкова, вяртаючыся на золку дадому убачыў як з хаты адной кабеты, для якой пан выбудаваў новы дом з вялікімі вокнамі, вылецела белая як снег варона. Здагадаліся, што там жыве вядзьмарка. Пачалі рознымі спосабамі цікавацъ за ёю, каб раскрыць яе зладзейства.

Нарэшце, дзіўным чынам усё само адкрылася. У купальскі вечар тая вядзьмарка схавалася сярод дзікіх лясоў, хапала далонямі расу і клікала нячыстую сілу, каб з усіх бакоў збірала малако і налівала яе начынне. А кабету за некалькі дзён перад тым нанялі служыць і не ведала, што яе гаспадыня, каб начынне было чыстым, усе гліняныя збаны і драўляны посуд перавярнула ўверх дном. Нячысцікі ж цэлую ноч насілі малако і, не бачыўшы таго, лілі яго на падлогу. А калі сонца ўзышло, уся вёска ўбачыла, што цэлая малочная рака цякла з-пад хаты чараўніцы. Не мінаваць бы ёй у той час смерці, але даведаўшыся пра тое, што здарылася, перакінулася ў птушку і паляцела некуды далёка.

## 265. [ВЯДЗЬМАРКА МОЖА МЕЦЬ МАЛАКО І МАСЛА БЕЗ КАРОВЫ]

У адной хаце з нядзелю рабіў кравец, і ён патрошку стаў цікавацъ, што яго гаспадыня ведзьма: не мае каровы, а кожны ранак дае на снеданне картоплі з свежым маслам. «Пастой жа,— кажа ён,— хоць кілька ночы не буду спаць, але такі дапільную, скуль ты яго бярэш».

Палеглі ўсе спаць, а ён усё думае пра гэта і не спіць. АНож, як толькі заспявалі петухé, устала яго гаспадыня, запаліла цёску, борздзенька пашла ў прымень і прынесла адтуль памяло. Потым узяла лаханку, паставіла яе на прыпечку процій коміна і давай малоць у ёй памялом. Малола, малола, потым патрасла над лаханкаю памялом, і ў лахáнцэ зрабіласё самае жоўтае і харошае масла. Наранке яна падае яго з картоплямі, але яго аж скаланула гэта масла, і з гэтага дня ён ужо не мог есці масла ў гэтай гаспадыні.

## 266. ВЕДЗЬМА У ПОСТАЦІ ЖАБЫ

Ці верце, ці не, а я сама бачыла, як ведзьма скінулася жабаю да й цягла з каровы малако. Мы тагды з Данілам толькі што пабраліся. Ведама, я яшчэ маладая маладзіца ўсяго баялася, не ведала, як ступіць, як стаць, а гарэй за ўсё баялася свае свякроўкі. А яна ў мяне, бачыце, была вельмі сярдзітая да ўпраўная. Бало нікому не дась слова прамовіць. Я яе баялася як агню. Вельмі цяжка было зімою, бо заўсюды на аччу. Здаецца, робіш як найлепш, а тут работа з рук падае. Як павернешся, дак што-небудзь зачэпіш. А тут баішся й без дзела сядзець, каб свякроўка не ўпікнула ці не сказала, што нявехна такая-сякая, гультайка, дарам хлеб есь.

Дак от, мае вы родныя, толькі трохі лягчэй я ўздыхнула, як прышло лецечка. Ужо з самае вясны пачалася работа на двары або ў вагародзе, ці на полі. Тут хоць і цяжка рабіць, дак за тое ведаеш, што ніхто над табою крукам не стаіць, ніхто цябе не сачыць, дак і работа лаўчэй ідзе. Бало, чуць дасць бог дзень, з радасцю бяжыш на работу, а свякроўка адна дома завіхаецца кала печы да даглядае гаспадарку.

От як сягоннячы памятаю, якраз на Купала перад Іванам я ўвесь дзень на палянцы за гайком палола лён. Лён рос гожы, але вельмі ж уплюнулася зелье. Завіхалася я, завіхалася цалюсенек дзень, а тут яшчэ астаецца не пóлатага ілну паўзагона. Зірнула я, што сонейка нізка, да давай палоць, не разгінаючы спіны, аж мне сярэдзіна колам стала. Насілу кончыла я ўвесь загон, як і сонейка схавалася. Толькі тагды ўспамянула я, што гэта ж Купала. Азірнулася я туды-сюды, да як апануе мяне страх, дак насілу я збегала ў суварать, каб узяць там свой хвартух да глёк, у каторум брала сабе воду. Не памятаю, як я прыбегла да гасподы. От толькі ўлажу я ў хату, аж свякроўка й кажа:

— Збегай, Паўлінка, у хлеў да падой лысую кароўку, бо яна толькі што прышла з пашы.

Я схапіла дайніцу, лінула ў яе вады, каб падмыць карове вымя, да й пабегла ў хлеў. Ужо сцямнела. Толькі еляк яшчэ лётае кала

кароў. Падходжу я к Лысушцы да й хацела падмыць вымя. Мацну я, аж на цыццы вісіць штось халоднае. Зірну я, аж гэта жабарапуха ссе карову. Дагадалася я, што гэта ведзьма ў постаці жабы адбірае спор, схапіла кій да давай яе перыць. Біла-біла да й выкінула цераз плот. Дак што ж вы думаеце, мае родненькія. Назаўтра бачым, аж Палашка Гаравых ляжыць уся пабітая. А пра яе ўжэ даўно людзі гаварылі, што яна ведзьма. Далібо́, што праўда.

## 267. [ВЕДЗЬМА-ЖАБА]

Некалі на Яна прыходжу я ранкам у сце́пку да судзі́ны драць муку. Калі пагляджу я туды, ажно там сядзіць, вылупіўшы вочы, не́якая велькая чорная рапуха. Яна чыста ўкачалася ў муку і паглядае на мяне, спяршэў я спалохалася, але потым, апамятаваўшысь, што цяпер Яна, я дагадался, што гэта не рапуха, а ведзьма. Тагды я зачэрпала яе каўшэм, прыкрыла хвартушком і ўкінула ў печ. Я чыста спякла яе і нежывую выкінула на двор. Але як паглядзела я потым, жабы не было на том месцы, дзе я яе пакінула, а ўвечары я ўзнала, што ляжыць здысь хворая мая саседка чэраз тры хаці, Алена Кадоўбічыха, на каторую ўсе гаварылі, што яна ведзьма. Казалі, што на ўсём яе целе былі нейкі прышча́йкі, як бы папечаны. Значыць, гэта яна прыходзіла за маім дабром.

## *268. [ПРА БАБКУ-ЧАРАУНІЦУ]

На купалле адна чараўніца — бабка-павітуха скінулася жабай і забралася ў хату, дзе была парадзіха, каб украсці дзіця, што толькі нарадзілася. Але муж парадзіхі ўгледзеў жабу, ударыў яе сякерай і адсек ёй правую лапу. Назаўтра той селянін прышоў да бабкі паклікаць яе на хрэсьбіны. А чараўніца тая ляжыць на ложку і стогне. Зірк — аж у бабкі правай рукі няма.

## 269. ВЕДЗЬМА У ПОСТАЦІ КАБЫЛЫ

Здзекуюцца над людзьмі ведзьмы, але ж як і самі пападуцца, та мусяць цярпець муку. Кажуць, што лягчэй усяго злавіць ведзьму аб ночы на вешняга Юр'я. Тагды, значыцца, ведзьмы ходзяць па хлявох ці па загарадах, дзе стаяць каровы, да й псуюць іх. От тагды, хто ўмее як абысціся з поганню, той мажэ й сцапаць у якойнебудзь другой постаці ведзьму ці чараўніка.

Ось тут недале́ка, кажуць, жыў адзін цікавы чалавек. Было ў яго

добрае гаўяда, рослыя каровы, але от, кажэце, як толькі пойдуць на пашу, дак у іх ці прападзе малако спрэсу, ці доіцца з кроўю. Што тут рабіць. Пайшоў ён старацца людзей, каб параілі, як адкаснуцца ад ліха. Знайшліся людзі да й параілі. Кажа, зрабі так і так, та ведзьма сама дасца ў рукі,— рабі што хоч.

От ён перад Юр'ем вечарам, як толькі зайшло сонейка да бліснулі на небе зорачкі, загнаў кароў у загараду кала хлявоў, абчарціў кругом плота асмаленым з двух канцоў ожагам, толькі не чапаў засавак, каб даць ведзьме ход. Але ў самых засаўках паставіў барану зубамі на двор і перавіў яе свянцонаю вярбою, а сам сеў пад павеццю да й цікуе, што з гэстага будзе. От позна, мо ўжо ў самую глупась, калі ўсе спалі, падбягае к загарадзе якаясь гладкая, бы печ, кабыла да й хоча пераскочыць цераз плот к каровам. Але куды яна ні ткнецца, не мажэ пераскочыць, бо, мабыць, чарта не пускае. Нарэшце, тая кабыла трапіла засаўкі да разам туды й скаканула. Толькі яна апусціла ногі, як ось яны й заблуталіся ў баране. Яна туды-сюды давай біцца, але нічога не парадзіць, толькі порацца па войстрыя зубы бараны. Дагадаўся той чалавек, якая гэта кабыла, накінуў на яе аброць да й прывязаў пад паветкаю. Стаіць тая кабыла, дрыжыць да толькі стрыжэ вушамі. От той чалавек падышоў пад вакно каваля, бразнуў у абалонку да й кажа:

— Грышка, о Грышка! Выдзі-тка бо на часок сюды да палядзі, якое ў мяне дзіва.

Вышаў Грышка-каваль, зірнуў на тую кабылу, да, ведама, як каваль адразу дагадаўся, што гэта за пачвера. От ён моўчкі зайшоў у сенцы, накінуў на сябе якоесь лайко, забраў тую кабылу да й паўвёў яе разам з тым чалавекам у кузню. Прывялі яны туды кабылу, развялі агонь дай падкавалі яе на ўсе чатыры нагі, да так падкавалі, што цвікі загналі не ў капыты, а ў жывое мяса. Круціцца тая кабыла, дрыжыць ад болі, бацца яе трасца трасе. От той чалавек зняў аброць, а каваль як рэзнуў тую кабылу кляшчамі па азадку, дак яна як сунула да й чорт ведае куды дзелася.

— Ото ж,— кажа той чалавек,— дзякуй табе, братка, што памог мне пачаставаць гэстую падлу.

Пажупілі яны трохі да й пашлі ў карчму выпіць па кручку-другому. Насілу яны дастукаліся ландара, выпілі па чарцы-другой, сядзяць сабе да балакаюць. А тым часам нахапіўся й дзень. Па нямалым часе сталі ў карчму прыходзіць людзі, пачалі гаманіць аб том, аб сём. Толькі ось прыбягае ў карчму адна маладзіца — да проста да таго чалавека. Давай яна яго прасіць, давай благаць, каб ён хутчэй схадзіў да яе свякрухі.

— От,— кажа,— аж раве мая свякруха, так цябе мой бацюхна жадае бачыць.

— Навошта я ёй?

— А ліха яе ведае, мой бацюхна. Схадзі хутчэй, а то яшчэ луне.

Выпіў той чалавек з кавалём яшчэ па чарцы да й пашоў да тае бабы. Прыходзіць ён туды да й бачыць, аж у яе ў рукі й ногі загнаны пад кіпці залезныя цвікі.

— Што гэта ў цябе, бабка? — пытае ён.

— Ой, не пытайся, мой саколе, бо ты сам добра ведаеш, што ты з кавалём нарабіў мне сонячы.

Да давай яна прасіцца на прамілы бог, каб ён аслабаніў. Заклялася да забажылася, што больш ніколі не будзе таго рабіць. От ён і дараваў.

Дак от як вучаць гэстую пошкудзь.

## 270. УДЗЕЯНО

Ніколі таго не было, як адно лета ў нас. Дак от, кажэце, чуць не кожную нядзелю які-небудзь прыпадак. Яшчэ з самае вясны прапала самая лепшая карова. Казалі, што яна, мабыць, з'ела павука на леном дубе, ці што, да аб тры дні й ногі выпруціла. Кала самага Юр'я ваўкі парвалі кабыле сцягно. Яшчэ добра, што саўсім не зарэзалі. Потым прапала аўца, там шуляк задраў курыцу. Да ўсяго й не ўпомніць. Цярпеў, цярпеў мой бацька да й пашоў шукаць людзей, каб яны адрабілі, бо ўсе бачылі, што гэта ўдзеяно на гаўяда.

От, як сягоння памятаю, прыводзіць бацька знахара. Мы былі яшчэ блазнюкі. Пабачылі мы, што з бацькам усунуўся ў двор якісь страшэнны чалавек, ды давай таўкаць адзін другога локцямі да шаптаць:

— Лядзі, лядзі, гэта ж бацька прывёў знахара́.

А той знахор ідзе да толькі круціць галавою да пазірае та ў вадзін бок, та ў другі. От бацька павёў яго ў сенцы, пасадзіў там за стол, паставіў пляшку гарэлкі да давай частаваць. У хату не павёў, бо, ведама, улетку там было вельмі шмат мух да й горача, а ў сенцах куды лепш. Жумрыць знахор сала, аж барада трасецца да ўсё гамоніць бацьку адно слова — удзеяно, удзеяно. Дзверы адчынены, й свінне лезуць у сенцы, хоць ты што. Адгонім мы свіней да зноў збягомся ў сенцы, каб пачуць, што гамоніць страшэнны знахор, як свінне зноў лезуць цераз парог. Насілу загналі мы свіней у свінушнік да й вароты падперлі калом, як ось знахор з сенечак на двор да й пачаў усё кругом аглядаць да абнюхоўваць. Хадзіў ён і ў хляву, і ў стайню, лазіў і ў сутачкі, пазіраў і ў калодзесь, і ў гумно, нарэшце, залез на варота да адтуль і кажа бацьку:

— О, я казаў, што тут удзеяно. Эгэ ш, удзеяно, да яшчэ як.

Тут ён аж цмокнуў, бы свіння ў карыце, дай пазваў бацька самому паглядзець, што варота заліты кроўю. Зірнуў бацька, да й

кажа, што гэта мо шуляк задраў канапляніка ці кот мыш. Да куды там, знахор і слухаць не хоча да ўсё кажа:

— Добры шуляк, добры кот. Гэта ж заліта кроўю на гаўяда да на ўсю тваю худобу. Трэ адрабіць, бо вельмі моцна ўдзеяно.

— Адрабі, адрабі, Піліпка,— кажа бацька. Адрабі, глянь нá бага, адрабі, калі ласка.

Паскроб знахор трохі нажом варота, нарваў якогась зелля, наклаў таго ў чыгун, наліў вады да давай варыць да шаптаць. Тут мы спалохаліся да й залезлі на палаці. Шаптаў ён, шаптаў да гукаў у комін, а потым давай абціраць рукавом з ілба пот да й кажа:

— Ну, адрабіў! А моцна было тут удзеяно.

Пасля таго толькі вол падвярнуў ґолаў да й выпруціўся да здох кормны парсюк, а больш, дзякуваць богу, нічога не прапала. Добра адрабіў знахор Піліп.

## 271. [ЗАЛОМЫ]

Жыў сабе чалавек ужо стары. Былі ў яго сыны, ужо жанатыя. Гэты чалавек да вельмі ўпадабаў сваю маладую нявестку. А быў ён сам вядзьмар. Вот раз сказаў ён, каб прыбралі стол і паставілі там усялякае яды. Пасля сам ужо гэты чалавек разаслаў палатно па хаце ад самае каморы да стала, а сам пашоў у камору. Зараз з каморы выпаўз за ім вуж і стаў паўзці аж на стол. Тут яго патрактавалі, і чалавек узяў яго ды вынес у камору. Перад Купалам нешта захварэў гэты вядзьмар. Паклікаў ён малодшую нявестку і гаворыць ёй:

— Ведаеш што, мая мілая, сходзіш ты заўтра да сонца на поле і заломіш у каждага гаспадара па коласу.

Расказаў ён ёй, як гэта рабіць і што пры гэтым трэба гаварыць. Назаўтра пашла нявестка да свету на поле ды думае:

— Нашто гэта мне ламаць каласы? Можа, за гэта будзе мне грэх? Заламлю я лепей малады дуб.

Узяла гэта яна ды зрабіла, як думала. Нядзель некалькі прашло з тае пары, ды ўсхадзілася вельмі вялікая бура. Стала вельмі грукацець усюды. Вядзьмар думаў, што знячэўку можа, нявестка заламала па некалькі каласоў. Пашоў гэта ён на двор пасля ночы, адно ж бачыць, што ўвесь двор заваліла дубняком — і старым і маладым. Дагадаўся тагды вядзьмар, што гэта за дзіва, і больш ужо не пасылаў нявесткі заломваць каласы.

## 272. ЗАЛІТО

Вы не верыце да толькі шуткуеце ці смеяцеся, да кпіце з мяне, дурное. Дак як сабе хочаце, а я вам раскажу, ось якое было здарэнне. Я сама бачыла от гэстымі самымі вачыма, што на вас пазіраюць. Далібо, што праўда, каб я так свет божы аглядала. Выбегла я гэта на вуліцу да й села на прызбе. Быў якісь святок. Дак не ж бо, хлушу, дай божа памяць, быў не святок, а саўсім свята, благавешчанне, ці вербная нядзелька, от ужо гэтага не памятаю. Вясна была ранняя. Жанкі нават палотна выкідалі на блях. От, як цяпер памятаю, сонейка грэе, аж пячэ. Сяджу я на прызбе да закрываюся ад сонейка хвартухом, каб не сляпіла аччу. Аж ось падходзіць Ганна, суседка з-за брадка, да божкае, ойкае, аж рукі ломіць.

— Чаго ты? — пытаю я.

— Да ось зірні,— ка,— мая родная, што гэта ў мяне навычваралася. Гэта, мабыць, удзеяно. Хадзі бо, паглядзі, што б гэта такое, да парадзь што мне рабіць.

Пашлі мы туды, аж там ужо збегліся жанкі да й стаяць, бы акамянелі. Зірну я, аж там уся сцяна заліта смятанаю. Далібож-то, хоць бяры блінцы да й макай. Пазвалі мы сабаку, каб ён палізаў, а той панюхаў да й адышоў, хвост падагнуўшы.

— Кім жа гэта заліто? — пытаем мы.

— Да от, мае родныя, учора чысценька вымыла сцены й падлогу, а тут ось табе што! Ой, мая бедная галоўка, што ж я буду рабіць?!

Вы не верыце, а я бачыла сама, далібож-то!

## *273. ХВОЯ

Некалі на Ваневе расхадзілася такая жудасная пошасць, што не было тае хаты, каб не ляжалі покатам нябожчыкі. Як дачуліся пра такое тадышнія ўлады, адразу войску загадалі акружыць сяло. Уваходзіць туды і ўязджаць дазвалялі, але адтуль ніводнае жывое душы не выпускалі. Калі нехта з ванеўцаў спрабаваў вышмыгнуць праз шчыльны кардон, таго не абмінала смяротная стралецкая куля. І няма чаго дзівавацца; у тыя часы ніякіх лякарстваў ад пошасці не было, гэта быў адзіны спосаб затрымаць яе пашырэнне па ўсёй краіне. Ванева ўмірала і закопвала само сябе на пагорку за сялом.

Калі пошасць заціхла, у вёсцы засталася такая малеч людзей, што не было каму дагледзець магілаў на пагорку. Як нябач загусцеў там бярэзнік і сталі людзі зваць паморкавыя могілкі Бярэзінай.

Міналі гады і па магілах нават следу не засталося. Там лес лесам пайшоў — сярод бярозаў нават хваіна закучаравілася. І выбілася з яе ладная хвоя. Расла яна проста на вачах: гонкая і гладкая, на камлі яе ні сучочка, ні трэшчынкі. Хто ні ідзе, хто ні едзе зблізку ці здалёку, кожны яе красою залюбуецца ды пра тых, што пад яе карэннямі спачываюць, успомніць і памяне.

Але ж нагледзеў гэтае дзівоснае дрэва адзін ванеўскі музыка. «З такога камля, маўляў, скрыпка адмыслова выйдзе»,—і сабраўся сячы хвою. Суседзі яму на тое: «Не чапай, кажуць, гэта ж яна на паморкавых могілках такая выгналася. Глядзі, яшчэ ліхое разбудзіш!..» Але музыка не зважаў на людскія ўгаворы. Зрубаў ён хвою, пацяў яе на дошкі і з самых лепшых змайстраваў сабе скрыпку.

Інструмент выйшаў на славу. Даволі было смыкам крануць струны, як скрыпка не тое што грала, але проста залівалася пявучым голасам. І, бывала, увесну ці ўлетку выйдзе святочным надвячоркам музыка на падворак, сядзе на прызбе і як пацягне смыкам — усё сяло да яго збяжыцца. І не тое, каб адно маладых цягнула паслухаць дзіўнае гранне, але нават старыя злазілі з печаў і лаваў ды, абапіраючыся на рагуліну, паўзлі паслухаць тую музыку. І чым болей людзей навокал скрыпача збіралася, тым чароўнейшыя мелодыі з-пад смыка ліліся. А як услухаюцца ў іх людзі, то не столькі спевы з іх явяцца, колькі роспачнае галашэнне па нябожчыку. І ўспомняцца тады кожнаму памёршыя: дзяды, бацькі, браты, сёстры, дзеці і іншыя родзічы. Задумаюцца людзі над сваёй доляй горкай, над кароткацечным жыццём чалавечым і самі слёзы на вочы набягаюць. І так ужо павялося: жаласліва грае скрыпка, а вакол яе наўзрыд плачуць людзі.

Доўга граў так той музыка, і абрыдла яму ўвесь час толькі людскія слёзы бачыць ды пахавальныя галашэнні слухаць. Узяўся ён весялейшыя мелодыі граць. Але як толькі наважыцца музыка жвавую кадрылю ўрэзаць ці хвацкую польку закаціць, скрыпка раптам глохне або струны пад смыком, быццам павуцінне, рвуцца. І аднойчы, калі ён так вясёлую мелодыю зайграць намагаўся, а са скрыпкі ўсё сумнае гранне чутное было, узлаваўся ён не на жарт ды як шпарне інструментам аб вугал хаты, аж чалавечы натоўп войкнуў. Енкнула тая скрыпка і рассыпалася на драбнюсенькія трэскі

Глянуў музыка на разбітую скрыпку, і яму шкада стала яе. Нагнуўся ён пазбіраць параскіданыя абломкі, ажно чуе, што рукі непаслухмянымі становяцца. Глянуў — яны ж быццам сухія голькі на той хвоі! Так і застаўся музыка назаўсёды бязрукім.

У Бярэзіне на Ваневе ніколі больш такая нязвыклая хвоя не вырасла.

## 274. ЧАРАДЗЕЙНАЯ ТАТАРКА

На чацвертай вярсце паштовай дарогі ад м. Заблудава к станцыі Геранімава, з правага боку, на даволі высокай горцы жыла калісьці чарадзейка-татарка. Рэдка хто мог праехаць цэлым і непашкоджаным міма жылля чарадзейкі: яна даганяла праходжага і праезджага моцным крыкам няміла каней і седакоў, а потым душыла іх на сваіх грудзях. Гэта працягвалася б вельмі доўга і многа людзей загінула б, каб не выпадак. Здагадлівы фурман, які вёз пана, накрыў коней сваім і панскім кажухамі і папрасіў пана выйсці з экіпажа і схавацца за бліжэйшае дрэва. Чарадзейка сваім звычайным крыкам спыніла каней і, думаючы, што гэта чалавечыя пярэваратні, стала душыць. Тым часам фурман адарваў сярэбраны гузік з адзення свайго пана, зарадзіў стрэльбу і адразу забіў злую татарку. З раны забітай чарадзейкі пацякла не кроў, а густая смала.

## 275. [ТАТАРКА]

Можа, то шчэ ў тых лясах жыла калісь і тая татарка. То ж і цяпер шчэ каля З. у лесе К. тое месца завецца Татаркаю. Паказуюць людзі, што то была якаясь разбойніца ці ведзьма, але то ўжо вельмі даўнія часы. Яна жыла ў лесе пры дарозе і, як яно хто йшоў ці ехаў, яна зараз выбежыць з леса, перапыніць і заб'е... Кажуць, ударыць і адразу заб'е чалавека. Але адзін жаўнер ухітрыўся і забіў яе самую. Было то так. Паслалі яго кудысціка з лістом ці з чым іншым, і трэба яму было ехаці каля татаркі. Так ён узяў, зрабіў з саломы бы чалавека і пасадзіў яго на каня, а сам, набіўшы фузэю срэбнаю кулею ці срэбным гузікам (бо, кажуць, злой моцы ледаякая куля не возьме, яна срэбна), зачаіўся за хвояю. Як жа татарка выбегла да таго каня з кулём саломы, падумаўшы, што то едзе чалавек на канневі, ён з-за хвоі выстраліў у разбойніцу і забіў тую ведзьму. Яна разлілася ў смалу, сказаўшы толькі:

— Цяпер жа годзе мне жыці і людзей губіці; ты мяне перахітрыў.

Кажуць зноў, што перад смерцею паказала яму ўсенькі свае скарбы і патом ужо сканала дзесь у лёхах. (То ж і цяпер шчэ знаць у том месцы цэглы і бы склепы, хоць ужо тое месца і зарасло соснамі, што маюць па лет дзвесце або й больш.) Можа, там дзялéнь у зямлі і лёхі éстука з скарбамі, каб пакапаў дзён кілька, можа б, і найшоў бы чырвонцаў з кацёл.

Але й па смерці злая моц не давала людзям спакою. Асабліва

як уночы хто ідзе ці едзе, то ў гэтым месцы прывязуецца ліхое. Бывала, кажды, хто ідзе ці едзе, кіне на тое месца трэску, патык або гольку на забітка, каб ліхое не прычаплялася. Шчэ нядаўна, за нашу памяць, ляжала тут гурба патыкаў і голля з таго, што наскідалі сажон два высокая. Каля трыдзестага, бадай, року спалілі астатнюю гурбу, і ад таго часу ужо перасталі скідаць. Цяпер ужо не так часта прывязуецца тут ліхое; але ўсё-такі як ідзеш каля таго месца ўвечары, а тым бардзей уночы, то якось страшна робіцца і бы мароз па целу падзірае.

# ПРА ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ І ГІСТАРЫЧНЫХ АСОБ

## 276. БЯЗДОННАЕ БАГАЦЦЕ

### [Пра князя Яраслава]

У Тураве жыў калісь князь Яраслаў. Быў ён багаты і мудры, дык людзей каля сябе збіраў усё разумных да мудрых.

Раз князь з гасцямі сваімі паехаў на ўловы біць цераў і дзікіх вепраў. Многа было ўжо набіта ўсялякай дзічыны, але Яраслаў, якраз калі хацеў даць загад трубіць на збор, убачыў аграмаднага старога тура і пагнаўся за ім. Некалькі гартоўных княжых стрэл упіліся ўжо ў цела тура, але звер з падвойнай сілай уцякаў ад лаўца. Тады князь пачаў паганяць свайго каня, каб насцігнуць тура. Раптам тур спыніўся і абярнуўся ў старану князя. Конь з разгону наскочыў на тура і зваліўся, прабіты рагамі, прыціскаючы сабой князя. Яшчэ момант, і князь паплаціўся б жыццём на месцы. Але на гэту хвіліну падаспеў загоншчык Ранцэвіч; ён зняў з сябе світку і накінуў яе на вочы туру, ды хутка нажом ударыў звера ў самае сэрца. Тур нежывы рынуў на зямлю. Князь выкарабкаўся з-пад каня і, дзякуючы загоншчыку, сказаў, каб той прыйшоў у абоз да князя па нагароду.

Калі загоншчык прыйшоў у княжы абоз, Яраслаў паставіў перад ім скрынку золата і сказаў:

— Бачыш, колькі тут золата, але жыццё даражэй золата, бяры, сколькі хочаш.

Загоншчык быў чалавек мудры. Ён узяў пасошак, разгарнуў чырвонцы, каб пасошак упёрся ў дно скрынкі і сказаў:

— Праўда, князю, тут многа золата, але ўсё ж такі дно можна дастаць, дык, мабыць, гэта тваё залатое багацце не вечнае; калі-небудзь прыйдзе канец яму. Ды й золата больш патрэбна князю, як простаму чалавеку. Дай ты мне, княжа, гэткі дар, каб я ў ім дна знайсці не мог.

Князь задумаўся і кажа:

— Каб я сабраў усё сваё багацце, то і тады дно яму знойдзеш.

Засмяяўся загоншчык і кажа:

— Пойдзем, князь, я табе пакажу бяздоннае багацце.

І выйшаў на двор, узяў лавецкі меч і блізка ўвесь усунуў у зямлю.

— Вось тваё, княжа, багацце, у якім дна няма: яно ратару больш вартнае, чым тыя чырвонцы. Грошы могуць украсці, а гэтага ніхто не ўкрадзе.

Засмяяўся князь, спадабалася яму мудрасць загоншчыка, і кажа:

— Праўду кажаш, дам табе зямлі на дзесятае пакаленне.

І ўвайшоўшы ў шатры, напісаў князь Яраслаў дарчую грамату мудраму загоншчыку Ранцэвічу на ўсю аколіцу Вялемічы.

І дагэтуль у Мазырскім павеце, у вёсцы Вялемічы жывуць Ранцэвічы і ў вялікай пашане, у цыновай трубцы, перахоўваюць з роду ў род дарчую грамату князя Яраслава, а паказуючы яе, апавядаюць легенду аб сваім мудрым прашчуру.

## *277. ПРА ПАПА ІДАЛЬСКАГА

Ваявода Тураўскі, прыняўшы хрысціянскую веру, пачаў прымушаць да гэтага і людзей. Кажуць людзі, што ў сям'і ваяводы першыя прынялі Хрыста яго жонкі.

От раз прыходзяць да ваяводы людзі да й кажуць:

— Усе папрымалі новую веру, анно адзін поп ідальскі і слухаць не хоча; у якой веры радзіўся, кажа, у такой і памру.

Як пачуў аб гэтым ваявода, узлаваўся нават:

— Ах! Воны паганы нечысць! Як воны смее не слухаць мяне? Ідзіце і забярыце ўсё яго дабро, а самога прывядзіце ка мне, я з ім пагавару.

Пайшлі воіны ваяводы і нічога не найшлі, акром усялякіх траў і зелля, бо вон народ лячыў.

Звязалі папа і прывезлі да ваяводы. Як пабачыў ваявода ідальскага папа, так і закрычаў:

— Гдзе твае грошы? Гдзе багацце? Кажы зараз, гдзе ты ўсё падзеў?

Але як ні дапытваў ваявода, нічога не выпытаў ад упартага дзеда і вялеў яго казніць.

Павялі. Аж прыбягае воін, да і кажа:

— Не ўбівай папа, вельмі народ бунтуецца і кажуць, калі ўб'еш яго, то ўсе зноў пярэйдуць к старым багам.

— За шчо яны яго любяць? — пытае ваявода воіна.

— За тэ, што лечыць іх і нічога не бярэ, акром яды на адзін дзень.

Прызваў ваявода ідальскага папа да і кажа:

— Чуў я, шчо ты ўмееш лячыць. От сын мой дзюжа нездароў

і нішчо яму не памагае. Калі вылечыш, нічога не пашкадую, за атца будзеш мне, грашыма засыплю, у харомах маіх будзеш жыць, а не вылечыш, то мой меч — табе голаву з плеч.

А сын ваяводы ўжэ даўно хварэў. Ездзіў ён у Кіеў на ахоту з княжаскім сынам да з той пары і стаў хварэць. Ляжаць не ляжаў, а як воск ад агню таяў. Не мала плакала жана ваяводы, не мала плакаў і ваявода, да рады ніякай не маглі найці.

Узяў поп Кайта, ці Вайта, сына ваяводскага, к сабе ў лес, у сваю хату, і стаў зеллем паіць, на дварэ цёплымі начамі спаць класці да козьім малаком паіць, а козы ён меў дзікія. Прайшло чы многа, чы мала часу, і паздаравеў сын ваяводы. Зрадаваўся ваявода і паслаў цэлы воз усялякага дабра лекару. Да толькі нічога лекар не ўзяў, акром яды. Доўга яшчэ жыў праведны поп, хоць і ў бога не верыў, да багата дабра здзелаў лячэннем. А калі памёр, то адзеў яго ваявода ў залатое княжаскае адзенне і паклалі яго ў каменную дамавіну, зробленую з шасці досак, і пахавалі з вялікім гонарам, як якога князя. І доўга, доўга народ памятаў добрага, хоць і няверната чалавека.

Багата ад яго ўсялякіх зелляў пераняли і да гэтых пор яшчэ імі лечацца...

## *278. [РАГВАЛОДАЎ КАМЕНЬ]

Рагвалодаў камень знаходзіцца ў дзевятнаццаці вярстах ад горада Оршы, управа ад паштовага тракту, які ідзе праз мястэчка Коханава на Мінск, паблізу вёсак Дзятлаўкі і Лістаноў. Цяпер цемя каменя маецца над зямлёй на чатыры вяршкі.. Мясцовыя жыхары называюць яго грабніцаю. Яны расказваюць пачутае яшчэ ад дзядоў сваіх, нібы ён стаяў на чатырох нагах, меў галаву і быў падобны на жывёлу. Расказвалі таксама, што тутэйшы млынар адсек тую галаву і зрабіў з яе жарон, але ён не толькі сам змалоўся на пясок, але змалоў увесь яго дастатак і ўсю сям'ю млынара.

Старыя расказвалі яшчэ, што яны самі памятаюць, як пад гэтым каменем было парожняе месца, куды звычайна хаваліся ад дажджу пастухі, але потым яно засыпалася, і камень усё больш і больш уходзіў у зямлю...

## *279. [КУРГАН РАГНЕДЗІН]

Самы цікавы з полацкіх курганоў — гэта курган Рагнедзін.

Народ расказвае, што нібыта гэты курган насыпан над забітымі ў бітве Рогвальда і Ягнеды і што і цяпер як у возеры Дрысе, так і ў самым кургане нярэдка знаходзяць каменныя молаты і па́ліцы.

## *280. ГАРА РАГВАЛОДА І РАГНЕДЫ

Гара Рагвалода і Рагнеды ў Полацкім павеце знаходзіцца на паўвостраве Перавоз, паміж вусцем рэчкі Ушы, якая ўпадае ў возера Дрысу, і вытокам рэчкі Дрысы, якая выцякае з яго. Кажуць, што на гэтай гары быў забіт князь Рагвалод ударам каменнага малатка, а потым там жа была пахавана княгіня Рагнеда. Таму гара і называецца гарою Рагвалода і Рагнеды.

## 281. ГАРА ЧОРНАЯ

Знаходзіцца ў Тапорскай воласці Невельскага павета. Называецца так з-за яе амаль чорнага колеру. Яна не пакрыта не толькі дрэвамі, але і травою. Кажуць, што на гэтай гары стаяла паганская кумірня і прыносіліся паганскія афяры, ад чаго нібыта на ёй нічога не расце.

## 282. КНЯЗЬ БАРЫС І ЧОРТ

Князь Барыс мураваў у Полацку царкву і — ну, ведама, гэткая будыніна! — запазычыўся і задаўжаўся кругом. Няма ўжо больш дзе пазычаць. Дык пайшоў, урэшце, да чорта і папрасіў у яго грошы, кажучы, што на вайну патрэбна. На нішто добрае чорт, ведама, не дасць, але як на вайну — пазычыў.

Мінуў год, другі, дзесяты, Барыс не аддае чорту грошы. Здакучыла чорту хадзіць: урэшце ідзе ён да свайго старшага, гэтак сама чорта, радзіцца, што рабіць.

— Што ж,— кажа старшы чорт,— дагэтуль ён хітрэй за цябе: бо ад чорта грошы ўзяў да богу аддаў і ніяк ты з яго не спагоніш. Хіба ён сам згодзіцца на загадкі: ты яму загадай тры загадкі, калі ён адгадае, дык яго грошы, а не адгадае — бяры яго сюды, мы яму тут пакажам.

Прыйшоў чорт да князя пад вакно, угаварыўся аб загадкі, усё, як яму стары казаў:

— Добра,— кажа князь, — загадвай.

— Што ўдвух? — загадвае чорт.

— Дарога карацей,— адказвае князь.

— Што ўтрох?

— Малаціць лягчэй.

— Учатырох? — пытае чорт.

— Ці чэрці б у цябе грошы прасілі, каб усе чатырком малацілі?

Тут чорт і ўцёк, бо князь згадаў усе яго загадкі.

## 283. АДКУЛЬ РУБЕЖ

Пра войны тыя нам дзяды расказвалі, ну, а ў кніжках, можа, і не так, як мы знаем. Тут і шведы былі, і палякі, і французы, ну, усіх іх і пабілі. Во, можа, чулі, тут недалёка Рубеж, дак то яшчэ ад татар. Прыйшлі яны і сталі супроць нашага войска. А раней дак перш біліся князі ці багатыры, а за імі ўжо войска. Выйшлі на поле татарын і рускі, біліся конныя, потым пешыя, ну ніхто не пераможа. На другі дзень, аддыхнуўшы, зноў сышліся. І зноў таксама ніхто не пабядзіў. Так і прастаялі сем дзён, пакуль не знайшоўся такі малады хлопец, што як схапіў таго татарына да як кінуў яго вобземлю, так і забіў. А за ім і ўсё войска на татар пайшло, пабілі іх многа, некаторых пабралі да паразганялі. Дак ад таго і Рубеж завецца, што доўга на ім стаялі. А ў капцах недалёка татары закапаны.

## 284. ПОЛЕ ТАТАРЫНА

Поле Татарына тут недалёка. Татары хацелі забраць усё, прыйшлі да нас, грабілі, людзей білі. За лавы закладалі дзяцей ды прыціскалі, душылі іх. Людзі паўцякалі ў лес, пагналі коні, забралі, хто што мог. Хаваліся доўга, галадавалі, сосны пааб'ядалі, што бялелі хвоі. На полі была бітва, многа пабілі і нашага войска, і татар. З таго часу поле і называецца Татарскім, ці Татарына.

## 285. ПРА УРОЧЫШЧА ТАТАРСКІ КАЎДОБ

Татарскі Каўдоб, ён ужо зарос, заплыў, ну, яма яшчэ ёсць. Калісь, кажуць, татары ці манголы, як іх там называюць, прыходзілі сюды. Дак у гэтым месцы засаду ім зрабілі, акружылі ўвесь атрад і пабілі, колькі іх там было. А хто астаўся, дак схаваўся ў лесе і сабраліся потым у гэтую яму. Яе і празвалі Татарскі Каўдоб. Яны доўга там жылі, людзі баяліся ў лес хадзіць, пакуль іх не палавілі.

## *286. [ПРА ТАТАРСКІЯ КУРГАНЫ]

У Вілейскім павеце, за дзесяць вёрст ад мястэчка Куржэнец [Куранец], у лесе пры дарозе ў маёнтку Губы знаходзіцца да гэтага часу цэлая старажытная земляная крэпасць. Яна складаецца з велічнага гарадзішча, якое народ называе Замкавай гарой. Яна акружана глыбокім ровам і валам... Цераз дарогу насупраць... гарадзішча размешчаны ў лінію з паўвярсты восемдзесят тры курганы... Пра тыя курганы расказваюць: татары напалі на гэты край і ўтва-

ралі страшэнныя спусташэнні: палілі сёлы, рабавалі цэрквы, лютавалі над жанчынамі, дзецьмі і старымі. Хто змог з жыхароў, уцёк і хаваўся ў лесе. Татары пачалі іх выклікаць рознымі хрысціянскімі імёнамі, крычалі, што татары ўжо ўцяклі. Тыя, што паддаліся падману, загінулі ў страшэнных пакутах. Знішчаючы ўсё агнём і мячом, татары падышлі да берагоў Віліі, да вёскі Малмыгі. На другім беразе ракі стаяў яшчэ адзін значны атрад татараў. Бог паслаў на іх слепату, пакараўшы за лютаванне... Не пазнаўшы сваіх і падумаўшы, што гэта русіны, пачалі знішчаць адзін аднаго да апошняга. Ад іх і ўтварыліся курганы.

## *287. [ПРА ТАТАРСКІЯ МАГІЛЫ]

...То не курганы, то татарскія магілы...

Гэта было гадоў за сто, а можа, і больш, намастыр наш Чолнскі быў багаты намастыр. Пачулі татары пра багацце намастырскае... А татары веры не нашай, татары веры паганай, ім што намастыр? Яны граха не знаюць — ці святы намастыр, ці царкву абакрасці... Ім усё адно, ці царква, ці проста дом.

Задумалі татары намастыр гэты Чолнскі абрабаваць, сабралі сілу незлічоную і пайшлі на намастыр... Але ігумен са старцамі паднялі цудадзейны абраз чолнскай маткі боскай і абышлі вакол намастыра. Тады татараве ўсе асляплі. Страх на іх такі напаў. Нічога не бачаць... Ад страху яны пачалі шаблямі адзін ад аднаго адмахвацца... Адмахваліся, адмахваліся, ды адзін аднаго, самі сябе, усіх да аднаго і пасеклі...

Старцы бачаць такі цуд, сатвораны маці божай, выйшлі з намастыра, выкапалі ямы, пакідалі, як сабак якіх паганых, іх целы ў тыя ямы ды засыпалі зямлёю. Адтаго і пайшлі гэтыя курганы.

## 288. ДЗЯДЫ РАСКАЗВАЛІ

А былі ў Пагосце і туркі, даўно-даўно. Нам пра іх дзяды расказвалі, а ім іхнія дзяды. Тур, шо з таго канца паўз сяло да Сцвігі цягнецца, таго так завуць, што ў ём турак утапіўся. Ехаў па тонкаму лёду на кане, праваліўся да ўтапіўся. Глуміліся туркі над нашымі людзьмі. Людзі хаваліся ад іх па зарэччу, у лесе, дзе прыходзілася. Як уполету, то і ў далінах хаваліся, дзе капелюшніку багата. Залезе чалавек у даліну, галаву з вады высуне, шоб дыхаць можна было, а галаву не бачно, бо капелюшына зверху прыкрывае.

От адзін раз паўцякалі людзі ад туркаў з сяла, хаваюцца, дзе хто. Каторыя то ў Дзедавай даліне, што кала панскага поля, пад

капялюшнік пахаваліся. Сядзяць да пераждаюць, пакуль туркі з сяла пайдуць. Аж некі чалавек ідзе паўз бераг да па-нашаму нашых людзей гукае:

— Куліно-о-о, Марыно-о-о, хадзі, пашлі-і-і!

А ў вадзе якраз нека Куліна й сядзела. Паверыла на еты голас, вылезла да таго чалавека. Мокра ўся. Падышла, аж бачыць, шо то турак — чорны, з вусамі, з шабляю, толька ў наша адзенне перадзеты. Уцякаць не пабегла — дажане́ да шчэ зарубае. Загадаў вон ёй у сяло йці, да сваё хаты.

Зайшлі ў яе хату, да вон загадаў яду ёму зготовіць да вады багата нагрэць, шоб ёму памыцца. Затапіла вана́ печ, прыставіла там нешча, мо картоплі, мо крышаны, мо боршч, бог яго ведае, й шчэ вады ў вялікім чугуне прыставіла, як турак загадаў.

Агонь у печы гарыць, у чугунах да гаршках вада кіпіць, нешча варыцца, а Куліна кала печы стаіць. А турак сеў на парозе, сцеражэ жонку. Да бачыць жонка, шо галава яго на бок пахілілася, вочы зліпліся. Задрамаў турак. А вада ў вялікім чугуне парыць моцна, кроп ужо ў чугуне. Куліна еты чугун вілкамі з печы выцягла, абматала шматкаю, узяла дзьвама рукамі да як шамнула ўвесь кроп турку на голаву! Апарыла яго, да вон кончыўся. От так жонка турка накарміла і сама жыва асталася.

## *289. КАПЦЫ КАЛЯ ВЕСКІ СУКРЭМНА

Белы арап разарыў усю зямлю рускую, спаліў гарады і сёлы і незвычайнай жорсткасцю знішчыў народ: мужчын раздзіраў надвое, прывязваючы да двух сагнутых дрэў; жанчынам адрэзваў грудзі, а цяжарным распорваў жываты і даставаў дзяцей; дзяцей заганяў у хату і ставіў ля сцяны за лавай, якую прыціскаў да сцяны, забіваючы адначасова ўсіх. Людзі хаваліся ў лесе, але арап акружаў лес шоўкам, і калі хто выходзіў з лесу ўначы, рваў шоўк, арап пасылаў у той лес войска і яно забівала схаваўшыхся там жыхароў. Гэтыя забітыя і ляжаць у курганах.

## 290. ВІТАЎТ

Быў у Польшчы кароль-багатыр, да памёр. Як караля абабраць, адкедава? Вот што ўздумалі яны, усё начальства:

— Акапіруем мы лошадзь багатырскую (прэжняга караля) у сядло і паложым меч і острыя копія і пусцім яго лошадзь у свет і будзем за ёю ўслед слядзіць, ідзе яна сабе абярэць ездака — таго крулем прызнаем.

Слядзілі за лошаддзю, услед ехалі, а яе пусцілі, два месяцы за ёю слядзілі. Прыходзіць лошадзь у дзярэўню і пайшла прама з дзярэўні на гумно, і віў там старык абрыўкі за авінам. Лошадзь как ішла, пала перад старыком на калена. І падходзюць слядзіцелі ўслед за лошаддзю: стаіць лошадзь на каленках.

Ну, яны сказалі:

— Ты наш круль-цар, цябе прызнала лошадзь і мы. Як ты абрыўкі віў, будзь круль Вітаўт.

Садзіўся ён на лошадзь, адпраўляўся ў каралеўства, к царскаму дому. Прысягнула Польшча каралю Вітаўту. Ну, ён саблюдаў іх харашо. Пачуўстваваў сваю смерць, сабраў сваіх палкоўнікаў і вініра́лаў, малых і старых:

— Ну, дзеці, я чуўствую сваю смерць. Памру я, іграйце музыку, пакель мяне пахароняць, зямлі прыдадуць саўсем. Ну, еслі хто вас абідзіць, Польшу, вазміце музыку і зайграйце над магілаю маёю: я ўстану і памагу вам.

Сколькі ўрэмені праваджаліся, абабралі каралька на ўрэмя, пана паставілі каральком. Толькі ўздумалась ім: не можыць быць, штоб ён ■ мёртвых ўстаў!.. Сабралі музыку ўсяе духавую, пайшлі на яго магілку, на Вітаву, каралёву. Зайграла музыка. Устаець кароль з таго свету:

— Аб чом, дзеці , мяне будзіце? Хто вас абіджаець?

А яны яму адказваюць:

— Кароль Вітаўт, нас ніхто не абіжаець, а мы думалі, ці праўда ета, што ты казаў, што ўстанеш.

— Ну, дзеці мае, не гневайцесь. Вы мяне з тога свету збунтавалі і будзьце вы пракляты ад мяне і век вечны бунтуйцесь!

З тых пор і пайшлі бунты ў Польшчы.

## *291. [БАТОРАВА ГАРА]

У пушчы, у напрамку Гродна, ёсць невялікі ўзгорак, які завецца Баторавай гарой. Гавораць, што Баторый тут паляваў на ятвягаў, страляў гэтых бедных дзікуноў, як зубраў ці мядзведзяў.

## *292. ПРА ПАХОДЖАННЕ БЯЗДЗЕДАВІЦКІХ І ВУСЦЯНСКІХ КУРГАНАЎ

Гэта было вельмі даўно, і дзяды нашы таго не помняць. Зямлёй нашай валодаў Батура, а як даведалася пра тое асілак-Кацярына, то сабрала рускае войска і на тым самым месцы сустрэла польскую раць Батуры. У той час быў тут вялізны лес. Убачыўшы царыцу,

Батура схапіў ёлку, вырваў яе з коранем і кажа Кацярыне:

— Нашто нам біцца? Вот паглядзі на нашу сілу.

Паглядзела царыца, усміхнулася да й гаворыць яму:

— Ну,— гаворыць,— добра. А пастаў жа елку назад у зямлю.

А Батура і не змог. Тады асілак-Кацярына ўзяла елку, перавярнула карэннем уверх ды да палавіны й уціснула ў зямлю; пасля разбіла раць Батуры, а астаткі прагнала за Дзвіну.

У другі раз асілак-Кацярына засцігла Батуру пад Вусцем. Выйшаўшы з карэты, царыца бачыць: пасецца пара спутаных жалезнымі путамі коней, а раць Батуры так і соваецца і соваецца з акопа на рускае войска. Не доўга думала асілак-Кацярына; як ухопіць за путы ў адну руку аднаго, а ў другую другога каня:

І пайшла імі валяць
Польскую раць;
Процьму народа пабіла.
Многа ў Дзвіне патапіла.
А рэшткі за рэчку прагнала.
І тут руская зямля стала.

## 293. КАЗАЦКІ ГАЁК

Было гэта даўно, яшчэ за часоў вайны польскіх паноў з казакамі. На поўдзень ад нашай вёскі прасціралася вялікае балота. У той час, як ваявалі польскія паны супраць казакаў, каля нашай вёскі адбыўся бой. Панскіх войск было болей, чым казакаў. Казацкі атрад быў разбіты. Аднаго казака пагналі паны ў тое балота. Казак доўгі час ехаў па балоце і, калі даязджаў ужо да берага, балота пад ім правалілася і багна праглынула ездака разам з канём. На тым месцы застаўся вялікі дол. Пасля ён парос высокім трысцём. Але на сярэдзіне долу заўсёды зімой і летам стаіць вада, не высыхае і не замярзае. Дол захаваўся і па сённяшні дзень як успамін аб даўно мінуўшай вайне. Людзі ж у памяць па загінуўшым у тым месцы казаку назвалі дол Казацкім гайком.

## *294. ГАРАДКІ

Вакол Ровенскай Слабады ёсць тры Гарадкі — на паўднёвым захадзе, поўдні і ўсходзе. Там жыхары ў час нашэсця татар хаваліся з сямействамі... Аб адным з Гарадкоў, усходнім, ёсць паданне, што там жылі разбойнікі з запарожскіх казакаў у час польскага панавання. Яны жорстка помсцілі палякам...

## *295. [КНЯЗЬ БОЙ І ЯГО ПСЫ СТАЎРЫ І ГАЎРЫ]

...Над ракой Дрысай стаіць двор Краснаполь [маёнтак паноў Снарскіх], з усіх бакоў акружаны лесам. Там ёсць месца, дзе, расказваюць, некалі, яшчэ за паганскім часам, жыў князь Бой. Славіўся ён на Белай Русі як вялікі багатыр, і правіў ён усім народам, што жыў у тых дзікіх мясцінах на берагах Дрысы. Любімай забавай яго было з лукам і стрэламі вандраваць па барах, біць лося і іншых дзікіх звяроў. Была ў яго пара верных сабак, аднаго звалі Стаўры, другога — Гаўры. Былі яны надзвычай моцныя і кемлівыя. Найстрашнейшы мядзведзь у стычцы з імі не вытрымліваў. Ураз яго раздзіралі, як харты зайца. Калі Бой на паляванні адлучыўся ад сваіх таварышаў і яго акружылі разбойнікі, яны былі разарваны пушчанымі на іх моцнымі псамі. Не раз, заблудзіўшыся ў далёкіх лясах, яго псы, што беглі наперадзе, выводзілі яго на дарогу да самага дому.

Шмат разоў тыя псы выратоўвалі свайго гаспадара ад небяспекі: яны былі для яго самай прыемнай забавай у жыцці. А калі ад старасці адзін за другім скончылі сваё жыццё, за заслугі князь назначыў ім памінальныя дні. Людзі збіраліся на тое месца, дзе былі закапаны іх косці, прыносілі туды напіткі і ежу. Баляванне трывала да позняй ночы. Астаткі яды і косці кідалі ў агонь, паўтараючы імёны сабак Стаўры і Гаўры, і клікалі іх цені з таго свету...

— Стаўры, Гаўры, гам, прыхадзіце к нам!

## 296. [БУТРЫМ НЯМІРА]

Непадалёку ад места Дзісны, з правага боку тракту, што ідзе з Дзісны на Германавічы, праязджаючы, убачыце стракатую горку, зарослую лесам. Горка гэта акружана топкім балотцам... Народны сказ перадае...

Калісь-то, даўным-даўно на горцы стаялі пышныя харомы багатых баяр Няміраў. Харомы былі акружаны дубовым вастраколам і аблітыя кругом вадой. Далёка славілася між ворагаў недаступнае няміраўскае гняздо, а яшчэ далей іх родавая акружная слава непрымірымых баёў, уславіўшыхся нешчыслёнымі перамогамі на палях бітваў. У збройніцкай святліцы няміраўскіх тутэйшых харомаў на пачэсным месцы вісеў каваны, украшаны шчырым золатам шчыт і меч слаўнага Грымона Няміры, удзельніка Алегавага паходу на грэкаў. У княжай радзе, на полацкім замку, старшы роду Няміраў, праваруч князя, на першым месцы. Гэткі-то быў род Няміраў.

Ды толькі цяперашні нашчадак роду, пануры Бутрым, панізіў

славу роду свайго. Не перамогамі ў бітвах з ворагамі памнажаў ён сваё багацце, а разбоямі і крыўдай паднявольнага люду. Глыбокія падхаромныя парубы напоўнены былі людзьмі, закаванымі ў дыбы, каторых уласнымі рукамі любіў катаваць Бутрым. Праходзячы міма няміраўскага двара, часта чулі людзі стогны і плач, а часам хвалі акружаючага харомы возера выкідалі на бераг кавалкі чалавечага цела, не раз дзявочага.

Цяжка жылося ў панурых няміраўскіх харомах Бутрымавай жонцы, краснай пані Мáры, і яна павернікам дум сваіх і журбот учыніла маладога баярчыца Стаўру Рамашковіча. Раз у ноч маёвую красную пані Мару асабліва востры жаль разабраў на сваю безратульную долю, і яна, у садку стоячы, скланіўшыся на плячо баярчыца Стаўры, горка заплакала. У гэты момант у садок увайшоў баярын Бутрым. Грозна ён кінуў вокам на жонку і на маладога баярчыца. Моўчкі спыніўся, ляснуў у далоні на стральцоў сваіх. Калі на клік яго з'явіліся яны,— азваўся панура баярын:

— Сягоння ў нас будзе гучны банкет тут. Распаліце смалістыя лучніцы, устаўце сталы цясовыя, налівайце мядоў і він заморскіх поўныя вёдры ды паклічце скрыпача майго.

Мігам служба ўставіла сталы і каля сталоў дубовыя лавы, абітыя мядзведзевымі скурамі; а для баярына і баярыні паставілі два глыбокія, у грэкаў прадзедамі здабытыя, абіваныя золатам крэслы. Смалістыя лучніцы ярка асвятлялі сад. Скрыпач са скрыпкай стаяў нагатове. Баярын падышоў да скрыпача, узяў з рук яго скрыпку, крануў рукой струну і сарваў, крануў другую — і сарваў, і гэтак да апошняй.

— Кепскія ў цябе, малойча,. струны,— сказаў баярын.— А я хачу сягоння музыкі ёмкай, гучнай. Гэй, мне верныя стральцы-патужнікі Станько, Гойніч і Рэзан, вазьміце во гэтага падсуседзіча майго, Рамашковіча, за белыя плечы і нарабіце да банкету струн. А ты, красна пані, жана мая, сядай побач са мной у залатое крэсла і пакуль слугі мае зматаюць матэрыял на струны, на тую во белую яблыньку, будзеш піці са мной, спраўляючы трызну па гладкім баярчыку.

Страшныя нават у Бутрымавай дружыне Станько, Гойніч і Рэзан, бліснуўшы толькі залітымі крывёй вачамі, прыняліся за крывавую справу: павалілі баярчыца на зямлю, распаролі жывот і пасля, водзячы каля яблыні,— той самай, пад якой паўгадзіны таму ён стаяў з краснай паняй Марай,— наматвалі на пень струны...

Не мінула і гадзіны, як струны былі прамыты, пакручаны, пасушаны на агні і нацягнуты на скрыпку. Музыка зайграў вясёлую застольную песню, але песні той, ні голасу скрыпкі не чула красная пані Мара. Бледная, яна спакойна спала ў крэсле сном вечным: сэрца яе не вытрымала мужнінага банкетнага пачастунку і разар-

валася... Толькі баярын да ўсходу сонца з дружынай трызнаваў над маладымі нябожчыкамі, слухаючы плач скрыпкі ды запіваючы сумленне віном.

Многа гэткіх і гэтаму падобных спраў меў на сумленні баярын Бутрым і не ўнімаўся ў ліхадзействе сваім.

## *297. [ПРА КНЯЗЯ СЛУЦКАГА І ЯГО ЗАМАК НА КНЯЗЬ-ВОЗЕРЫ]

...Возера было велічэзнае, як мора, а пасля пачало сохнуць, змяншацца і ўрэшце зрабілася зусім маленечкім. Людзям жыць стала лепей, а рыбам горш. І вось астравок пасярэдзіне гэтага маленькага люстэрка вады аблюбаваў князь Алелькавіч-Слуцкі з пакалення Альгерда. Пабудаваў тут замак і стаў княжыць, расперазаўся так, нібы над акругаю панаваў не чалавек, а д'ябал. А людзі цярпелі, мучыліся, елі кару. І праходзіў Падарожнік, які ведаў усё і прайшоў паўсюль і чытаў усе кнігі, нават Галубіную, што ўпала з неба. Убачыў, што не толькі яго ніхто не можа накарміць, а нават дзеці кладуцца спаць галодныя. І сказаў, што калі зладзействам князя не будзе мяжы, калі яны «пройдуць прадзел», а людзі ўсё ж будуць цярпець, то рыбам зноў будзе добра, а людзям дрэнна. Ніхто яго не паслухаў.

А князь лютаваў. Узненавідзеў брата і пасадзіў яго ў вечна мокрыя сутарэнні замка, якія былі ніжэй узроўню возера. І сваю былую палюбоўніцу засадзіў туды ж. І нявесту аднаго хлопца, якая не хацела адказаць князю ўзаемнасцю, кінуў у тыя ж падзямеллі. І многіх-многіх іншых.

Тады прыйшла мяжа цярпенню зямлі. У адну ноч пачалі біць шалёныя маланкі, грымець перуны, аж калацілася цвердзь, а замак і ўсё наваколле пачалі правальвацца ў воды возера. Страшныя валы пабеглі на зямлю, злізвалі хаты, лясы. Вежы замка зніклі ў пене на вачах. А трэба сказаць, што цярпенне людзей скончылася ў тую самую ноч, і яны выйшлі з хат з доўбнямі і віламі, якраз тады, калі д'ябла гняздо пачало тануць. І вось тут, убачыўшы, што цярпенню людзей прыйшоў канец, зямля злітавалася. Сціхнулі воды, і толькі муры і вежы замка канчаткова і назаўсёды зніклі пад вадой. Панаваць у ім, жыць у пакоях, слізгаць у байніцы сталі рыбы.

## 298. ЛІТОЎСКАЯ КРЭПАСЦЬ

У Альшанах была гара на Варунскай вуліцы. Кажуць, крэпасць была літоўская, у зямлі там. Немцы хацелі раскапаць, так прыснілася, штоб не тронулі, што пагібнеце, як раскапаеце. Тата расказваў, што пасярэдзіне была такая дзірка, як укінеш пяць капеек, так ляціць і як зазвініць! Глыбока вельмі.

## *299. ЛІТОЎСКІ КАМЕНЬ

На паўдарозе паміж Жодзішкамі і Тупальшчынай дно Віліі завалена каменнямі. Расказваюць, што калі езуіты задумалі пабудаваць у Жодзішках касцёл і ім не хапала на фундамент камення, яны пачалі прыводзіць яго з ваколіц. Аднак чорт, якому касцёл быў вельмі не даспадобы, сабраў сваіх сяброў чарцей і рашылі яны пажартаваць: пазакідвалі каменні ў ваду. Некаторыя каменні нават аж на другі бераг паперакідвалі. Работа кіпела ўсю ноч, а перад самым світанкам, калі чорт нёс апошні вялікі камень, відаць, хацеў зусім заваліць рэчку, пачало днець, заспяваў певень і чорт упусціў сваю ношу... на правым беразе Віліі. Камень гэты каля трох локцяў шырыні, пяць з паловай вышыні і па кругу локцяў пятнаццаць.

## *300. [ТАЙНА ЦЭГЛЫ, З ЯКОЙ ПАБУДАВАНЫ КАСЦЁЛ У ВІЛЬНІ]

Для пабудовы касцёла святой Ганны ў Вільні жонка вялікага князя Вітальда Ганна запрасіла з Нямеччыны вядомага дойліда Юрбаха. Касцёл збудаваны з цэглы чырвонага колеру такога адцення, які ў іншых віленскіх будынках не сустракаецца. Як ствараўся той колер, ходзіць паданне, што яго вынайшаў адзін з падмайстраў муляра, але расказаць, як ён гэтага дабіўся, нікому не захацеў. Старшы над ім муляр моцным націскам дамогся ад вынаходцы абяцання раскрыць сваю тайну, але толькі пасля таго, як будзе закончана будаўніцтва храма. Аднак нецярплівы майстар, хоць раней сам згадзіўся на дамоўлены тэрмін, калі сцены ўжо ледзве не да паловы былі складзены, ізноў пачаў налягаць на падмайстра і пагражаць яму, каб як найхутчэй расказаў пра колер. Тады падмайстра сказаў яму:

— Падымемся абодва па драбіне да аконнай рамы, укленчыш там, прачытаеш, што побач з ёю на сцяне напісана, і такім чынам даведаешся пра ўсё.

Калі ж абодва ўкленчылі ў аконным праёме, падмайстра-вынаходнік моцна піхнуў майстра. Той зваліўся з вялікай вышыні і забіўся на месцы. Падмайстра сам скончыў будову касцёла, а сакрэт фарбаванай цэглы так і застаўся нераскрытым.

## *301. ГАРА СЕРАЯ

У Дольскай воласці Невельскага павета каля возера Дамыса паблізу вёскі Калесава ёсць гара, якая называецца Серай, бо на ёй шэры пясок. Кажуць, што гара гэта нібыта насыпана ў час нашэсця Літвы літоўскім войскам і нібыта ў сярэдзіне ёсць склеп, у якім захаваны вайсковая зброя і грошы.

## *302. ЦАРАВА ГАРА

Паміж вёскай Зябкі і ракою Сволпаю ёсць узвышша з некалькімі выкапанымі рвамі, якія параслі беразняком. На гэтай гары нібы адпачываў цар Іван Грозны ў час лівонскіх і польскіх паходаў.

А каля вёсак Доўгае і Слабада, на правым баку ракі Сволпы, ёсць многа валатовак таксама з часоў Івана Грознага.

## 303. ПЯТРО ВЯЛІКІ

У вадном царстве памёр цар. У яго не было дзяцей — некаму было царстваваць над людзьмі. І зрабіўся там вялікі мяцеж. Пашла такая развяруха, што нікому жыцця няма. Ведама, паны хочуць свайго пасадзіць на царства, князя свайго. Няма згоды. Набіраюць людзей, ваююць адны з другімі. Ім нігадкі, а людзі забіваюць адны другіх, нішчаць край да марнуюць дабро...

От круцяць паны да ваююць паміж сабою — сваімі людзьмі да на сваіх людзей ідуць, забіваюць, паляць вёскі да двары, а ўсё не могуць выбраць сабе цара. После цара асталася царыца. Але, ведама, баба — ніхто яе не слухае. От і ўцякла яна з царскіх палацаў да й схавалася на сяле ў аднаго добрага чалавека.

Шукаюць паны царыцу, каб яе забіць. Не так яе баяліся паны, як таго, каб яна не нарадзіла сына. Яна, бачыце, была тоўстая і хадзіла на пары. Шукаюць, калоцяць паны па ўсіх сёлах. Прыходзяць яны ў тое сяло, дзе жыла царыца. Бачыць той добры чалавек, што паны ўжо блізка, павёў ён царыцу ў гумно да й захаваў яе ў салому. Але от прыйшоў час, і ў царыцы нарадзіўся сын, Пятро Вялікі. Сядзіць царыца з сынам у саломе, аж ворагі прыходзяць і ў гэтае гумно. Зірнулі яны туды-сюды да ўжо хацелі і далей ісці, але адзін узяў вілы да й парнуў у салому. Чуюць яны, аж Пятро Вялікі крычыць з саломы такім громкім голасам, што яны аж прыселі ад страху:

— Хто там пора, што чуць ачоў не павымаў! Адсекці яму голаў!

Спалохаліся тыя мяцежнікі, пабялелі, бы палатно, стаяць да калоцяцца, бы асіна. Але ось вылазіць з саломы сам Пятро Вялікі — хлопец у косы сажань вышынёю. Убачылі яго мяцежнікі, пакланіліся да зямлі да й давай прасіць, давай маліць, каб ён не гневаўся і аставіў іх жывымі. Клянуцца, што будуць служыць яму да самае смерці. Зжаліўся Пятро Вялікі, прасціў ім, забраў матку-царыцу да й паехаў у сталіцу царстваваць. Усюды сустракаюць яго людзі з абразамі да з хлебам, а мяцежнікі ўцякаюць, куды ногі нясуць. І пачаў з тае пары Пятро Вялікі царстваваць да ворагаў пабіваць...

## 304. ЯК ПЕТР У РЫГІ ПРЫСМАТРЫВАУСЯ К ЛІЦЦЮ ПУШАК

Када ў Расеі не было пушак і Пётр узнаў, што за граніцаю пушкі павылілі, ён браў срэдствія, бы як етава іскуства рассматрэць. Паехаў у Рыгу: і рыжаскія купцы ездзяць за таварамі ў чужэя землі, і ён наняўся ў купца ў работнікі і паехаў за граніцу з купцом. Прыехаў у Рыгу, і тут яго уж начыналі падмячаць, што ён Пётр. Аддадзен быў прыказ па ўсех заставах, штобы яго не выпусціць. Ён ета дзела ўзнаў і начаў етава самага купца, у каторага быў у работніках, начаў прасіць, штоба быў ка мне ў Маскву: я сам купец. Купец рыжаскій спрашыець:

— Как жа цябе ўзнаць? Масква вяліка.

— А ты прыезджай, толькі спрасі, ідзе здзесь жызець Пётр-купец: да када будзеш, дак дай часное слова. Мая жана часценька ходзіць па рынку, і лаўкі ў мяне ёсць. А я захацеў узнаць, як у вас таргоўля. Часное слова вы мне дайце, што будзеце такова-та чысла.

Пётр распрашчаўся з ім, пайшоў у горад. Мужычок бярэць навоз. Ён просіць мужычка:

— Збрасвай навоз: я табе ўплачу болей, чым ты навоз будзеш вазіць.

Пётр на сані, а мужык яго навозам прыкрыў і вывез яго з горада Рыгі. Паблагадарыў яго, заплаціў яму горсць золата. Тада Пётр і ўехаў у Маскву. І прыказаў Пётр разаслаць ахвішкі па ўсёй Маскве: када будзець рыжаскі купец у Маскве, то тада паказаць на Пятра-купца.

Вот і прыехаў рыжаскі купец, і паказалі на Пятра-купца. Прыняў яво:

— Гасцюй у мяне...

Павёў яго па лаўках, паказаў нескалька лавак.

— Вот у мяне скольki лавак. Я сам купец.

Прыйшлі дамой: паказаў ён жану. Рыжаскі купец гаворыць:

— Да, чысценька жана ваша ходзіць.

Два дні гасціў. Пётр быў не ў хорме, а када на трэці дзень адзеўся Пётр у хорму, а тада рысьскі купец аб зямлю ўдарыўся — спужаўся. Цар яго не страшчаў:

— Не бойся, я табе ўсё прашчаю, хоць ты мяне і браніў. За незнанія і цара браняць... Ну, вот, брацец, прыязджай саўсем у Маскву і таргуй — памесце дам...

Цар ходзіць па Маскве і думаець, як бы ета пушак наліць, думаець сабраць з Расіі старыя пятакі для ліцейных пушак. Ішоў па Маскве ў прастой адзежы. Страчаецца з ім чалавек. Спрашыець:

— Што ты за масцер?

— Я свайму дзелу масцер.

— Хто ж ты таковы?

— Я меднік.

Ён яму руб падарыў.

— Скажы мне, брацец, пра ета дзела, што я ўздумаю: хачу сабраць медзь, наліць пушак.

— Цар, я табе савет дам: вы ў цэрквах па колакалу здыміце, ў каждай цэркві, і налейця пушак. Нашто ж табе стольні пушак?

— Пайду Рыгу заваюю.

## 305. ПЕТР МАНАСТЫР АСМАТРЫВАЕЦЬ, ВЯЛІЦЬ ЖЫРНАМУ МАНАХУ У КУЗНІЦЫ ПАРАБОТАЦЬ

Пётр праязджаў па Маскве, зайшоў у кузніцу; увідаў кузняца худога і спрашыець у яго:

— Адчаго ты так худ?

Ён гаворыць:

— Ад трудоў.

Пётр паехаў у манастыр і спрашыець у манаха (папаўся яму такей жырны манах):

— Ад чаго ты так жыран?

Ён атвячаў:

— Ад трудоў праведных: богу малюся.

Ён яму і сказаў:

— Штоба быў ты к такому-та кузняцу на месяц у малатабойцы...

І спрашыець у настаяцеля:

— Які ета манастыр?

Атвячаў настаяцель яму:

— Ета беззаботны.

— Я ж вам заботу скажу: штобы ўзналі, сколька на небясах звёзд шчотам, і што я стою (Пётр на сябе гаворыць), і што я думаю. Вот табе сроку на 'дзін месяц, а тада даўжон заявіцца ка мне і 'твеціць: паказаць, сколька шчоту звёзд.

І ўехаў.

Еты настаяцель захадзіўся ў галаве і думаець, як ета дзела ісправіць. Нескалькі ўрэмя думаў, усіх манахаў спрашываў — не маглі ні адзін еты шчот прыізвесць. Быў у яго адзін манах (настаяцель яго з манастыра выслаў), і ўздумаў ён пра яго, пра таго манаха, і не хацеў яго пазваць, як быў сярдзіт на яго,— ну, пазваў:

— Вот, брат, прыніму цябе ў манастыр і будзеш у мяне старшы за ўсех манахаў, толькі пасабі ету бяду.

Ён гаворыць яму, што пажалуйце мне сваю адзежу. Ён адзеўся ў настаяцелеву адзежу. Урэмя ета прайшло, как назначан быў срок

ад Пятра Первава. Явіўся к самаму Пятру. Пётр у яго спрашыець:

— Што ж, брацец, сашчытаў ты на небе звёзды?

Атвячаець:

— Сашчытаў.

— Многа ль жа?

— Вот столька-то кадрыльёнаў,— бальшой шчот, нашчытайце самі.

Пётр атвячаець:

— Можыць будзець не верна.

— А када не верыце,— ізвольце праверыць.

Етаму ён шчоту сагласен быў. Спрашыець Пётр.

— А што ж я стою?

— А як нябесны бог-спасіцель быў прададзен за трыццаць сярэбраннікаў, а вы незямныя богі,— дак вы стоіце ў палавіну — пятнаццаць сярэбраннікаў.

Ета Пятру панравілась. Усматрываець етага настаяцеля:

— А што ж я думаю?

— А вы думаеце, што я настаяцель,— я манах.

І ета цару панравілась.

Успомніў ён пра жырнага манаха і захацеў праверыць і паехаў; заехаў у тую кузню, каторава манаха аддаў у малатабойцы і пасматрэў на яго, што ён стаў худ, і спрасіў у яво:

— Адчаго ты так худ?

Тады ён паў на калені:

— Прасціце, цар!..

Цар яму прасціў і сказаў яму:

— Вот труды!.. Бог з табою! Ідзі ў сваё места.

## 306. ЯК НА АХОТУ ПЕТР ЕЗДЗІЎ

Пагналі гончыя ў лес, і Пётр паехаў па трапінкі. Гончыя загналі ў бальшэй лом: нільзя на лошадзі праехаць. Ён узяў з лошадзі злез, лошадзь прывязаў, пабяжаў на слух гончых. Заблудзіў, выбіўся на какую-та дарогу, найшоў салдата на дарозе. Вот яны шлі ўмесце, і салдат тот тожа не знаець дарогі: пайшлі оба блудзіць. Прыблудзіліся ў пушчы к разбойніцкаму дому, заходзяць у дом,— у доме нікаво нет, толька адна жэншчына.

Салдат гаворыць:

— Начавапь пусціце...

Яна ім паказала:

— Вон падзі па лесніцы на чардак — на сене там і аддыхайце.

Прыйшлі маладцы (разбойнікі, значыць) з ахоты і гавораць міжда сабе, што няўдача сяводня: ні папала нікога загубіць; а хазяйка атвячаець ім:

— Два рабцы самі прыляцелі.

Яны спрашваюць:

— А дзе ж яны?

— На чардак я іх паслала, на сена спаць.

Начальнік іхны аднаму прыказаець:

— Падзі-ка, прывядзі іх сюды, мы з імі раздзелаемся. Іціць цёмна, зажгі свячу.

Вот ён і пайшоў туды. Пётр жа спаў, а салдат сваю службу знаў: на часах стаяў і саблю ў руках дзяржаў. Як чуць паказаўся, так ён саблей галаву далоў.

Тада начальнік еты апяць гаворыць:

— Што ж аббярэць адзін ён там іх?

Другога паслаў. Другому сама ета ж галава далоў і ўсех ён прыбраў. Астаецца толькі адзін начальнік, і начальнік пашоў туды, не даждаўся етага ўрэмя — і начальніку галаву зрубіў. Тады салдат затварыў дзвер, лёг спаць,— да белага свету праспалі. Салдат устаець і будзіць яго і спрашаець у яго, у Пятра:

— Што ты ёсць за чалавек?

Ён 'твічаець:

— Я слуга панская. Лакей.

Салдат гаворыць:

— Ета самы лізаблюд, прывык блюды лізаць да спаць... А пасматры-ка скольні ў нас ляжыць баранчыкаў... (Дванаццаць ён іх зрубіў.) Пайдзем таперыча ў дом...

Прыходзяць у дом і спрашаець:

— Дай-ка ключы ад кладавых.

Ключы аддала. Пайшоў салдат іскаць дзенег, найшоў медзь; салдат пачаў браць, Пётр не бярэць.

— Я бяру, а ты не бярэш: скажаш, растак...

Прынуждон ён браць. Потым салдат найшоў серабро.

— Выбрасвай вон медзь і бяры серабро!

Тады знайшлі золата. Салдат камандуіць:

— Бяры золата, а серабро выбрасвай!

Такім родам, набраўшы многа золата, пайшлі абратна, і давай салдат прасіць Пятра, штобы не гаварыў етава Пётр; а Пётр спрашаець у яго:

— Якей ты салдат? Чым цябе зваць і якога палка?

Расказаў ён Пятру імя і хфамілію, тады спрашаець у яго Пётр.

— Пачаму жа ты зайшоў у лес?

— А вот я пачаму зайшоў. Начальнікі не дадалі мне паўтара гарца круп правіянта, дык я як пайшоў з малага начальства, мяне па́лкамі аддулі, дайшоў да самава бальшова, усе палкамі дулі: дык я пайшоў у лес прахладзіцца, штобы мне не леч у лазарэт.

Во тады пайшлі і распрашчаліся, цар сабе пайшоў, а салдат сабе. Пётр напярод паспяшыў на заставу, прыказ здзелаў:

— Такой-та салдат будзець прахадзіць, здзелаць яму чэсць усё раўно, як цару.

На заставу прыйшоў салдат, здзелалі яму чэсць так, усё раўно, як цару. Салдат тада і гаворыць:

— Ета плут какой-та расказаў, што ў мяне дзеньгі ёсць.

Ён ім бросіў дзенег горсць. Потым ідзіць нужна салдату окала царскага дварца: там яму здзелалі чэсць, і сам Пётр выносіць яму на блюдзе золата:

— Благадару цябе, служывы кавалер, што ты мяне ізбавіў ад смерці, а я тваіх паўтара гарца круп узышчу, усё начальства разжалую.

## 307. [ЗЛОДЗЕЙ ВЫРАТОЎВАЕ ПЯТРА АД СМЕРЦІ]

Цар Пётр захацеў узнаць, што ў Маскве дзелаецца: вот ён ноччу адзеўся ў худую адзёжу, пайшоў па Маскве ў цёмнае ўрэмя. І страчаецца з чалавекам у дурным пераулку. Спрашыець:

— Што за чалавек?

Тот чалавек атвячаець Пятру:

— Я вор, а ты хто такей?

— І я вор.

— Ну, када вор, пайдзём умесці красць.

Патэм спрашыець вор у Пятра:

— Куды ж мы пайдзём красць?

— А пайдзём к цару красць.

Вот еты Пятра у вуха зарадзіў:

— Как жа к цару ідзіць красць? Яму многа дзенег нада.

Пётр спрашыець:

— Куда ж мы пайдзём?

— А пайдзём к вініралу, па хваміліі Беларукінаму; той бярэць дзеньгі пачці дарам.

Вот яны прыйшлі к дому. Вор узяў, надзеў сабе лапы на рукі і на ногі і палез па сцяне і падлез пад акошка паслушаць, што ў яго там тварыцца. Ане саглашаюцца, нескалькі асоб, штоба на заўтрашні дзень здзелаць бал і прыгласіць цара Пятра Аляксеевіча і даць яму выпіць стакан смертны. Ён расслышаў і вараціўся ўніз і гаворыць еты вор самаму Пятру:

— Ах, брат, када б цару даць знаць...

— А што такое?

— А вот, брат, хацяць нашага цара абтравіць.

— Ах, брат, і я б паслушаў еты стацці...

— А вот я і табе прывяжу такжа лапы.

І Пётр падпоўз пад іх саюз і слышыць точна так, как вор расказваў.

Нескалька ане ўваравалі ля прымеру, а тада ідіць у расход. Пётр гаворыць:

— Как ба, брат, нам быць з табой знакомым? Мы з табою будзем друзья... Дак вот, брат, на шапачкі памяняемся, і штоба нам з табою быць у такей-та царкві ў вутрані.

Цар устаў, паехаў к вутрані і прыглядваецца, хто ў яго шапачкі будзець ідіць. Увідаў яго, прыказаў жандармам, штобы за ім слядзілі, з глаз не спушчалі.

Як атышла вутраня, цар садзіцца ў карэту, прыказаець і вора етага пасадзіць з сабой; вор еты сеў ні жывэй, ні мёртвы; прыязджаюць дамой. А за ету ноч здзелалі яму, етаму вору, інастранную адзёжу, адзелі, дажыдаюць урэмя етага, як еты вінірал папросіць на бал.

— Сматры ж, брацец, хоць ты вор, а я цябе прашчаю ета; хоць ты мяне ўшыб, да не ўмарыў. Як нас пазавуць на бал, то і цябе з сабою вазьму, начнуць потчываць, то ён мне будзець падаваць упярод, а я піць не стану: я буду гаварыць:

— Прэжда хазяіну нада выпіць, а тада госцю.

Цар не п'ець. Вінірал атвячаець:

— Ваша высочаства, я ўпярод за мірапамазанніка не магу піць.

Пётр гаворыць:

— Мы спросім: у мяне інастраннай зямлі пасланнік ёсць, вот мы спросім у яго, как у іх стране, хто ўпярод п'ець: ці госць, ці хазяін.

Спрашыюць у пасланніка. Пасланнік атвячаець:

— У нашай старане нікагда госць не начынаець, а прэжда хазяін выкушаець.

Прывялось выпіць самому вініралу. Як выпіў, так і ўдарыўся аб пол. А тада Пётр іх усяе шайку разбіў. Тада ампературатар спрашыець у вора:

— Чым цябе наградзіць?

— А нічаво я не хачу, ніякей награды мне не нужна, я прашу вас не ўстрашаць вароў: вары, собственна, ад госпада бога... Кабы бог не павёў вас на такую сцепень ідзіць ўзнаваць аб варах... Ну, толька бог вас звёў са мною, штоба вы, ампературатар Пётр Першы, маглі прадаўжаць сваю жысць.

## 308. ВАЙНА ШВЕДСКА

Як то было кедысь цяжка на свеці, неспакой, от шведска вайна была, мноства рознага войска цяглося па свеці. От тады ішлі якіясьці Сасы, Тарантасы, не зналі нашай мовы, а мы іх. Бог іх ведае,

як яны гаварылі, толька ўвойдзе да хаты і крычыць: «Пекі курно!», то ледва дамысліліся, што ён кажа: «Палі печ!» Забіралі людзям хлеб, авёс, на фурманкі гналі, а некаторыя як паехалі, то і прапалі з імі заўсім. От, кажуць, з Дрыгі неякі Баран Мацей і Балдыка стары прапалі. А возьмуць дзяцей, пазасаджаюць шыямі за лаву, прыціснуць лаваю і падушаць. А старшыя паўцякалі да леса, дзеўкі ўсе ў лесе сядзелі, бо не можна было быць дома. Так, бывала, яны падходзяць пад лес і крычаць:

— Крыся, Марыся, жані валэ дадому, жані!

А як катора выйдзе з лесу, то ўжо яе ўхопяць і робяць, што хочуць, з ёю.

## 309. СЕЛІШЧА

За нашай вёскай Кашэвічы ёсць месца, якое называецца Селішча. А вось чаму яно так называецца.

Цяпер там ніхто не жыве, а калісьці там нехта жыў, таму і называецца яно Селішча.

І яшчэ таму. Калі ішлі шведы, дык там людзі акопваліся, сяліліся, шведы іх не чапалі. А ў вёсцы аднойчы быў такі выпадак.

Зайшоў у хату швед. Сеў каля дзвярэй і загадаў гаспадыні гатаваць абед. Яна нагрэла велізарны чыгун вару і як ліне на яго — і абварыла.

Як і татары, шведы, кажуць, былі вельмі паганыя: паложаць на лаву малых дзяцей, прыкладуць дошкай і выпускаюць кішкі.

## 310. [ВАЙНА СА ШВЕДАМІ]

У час войнаў ворагі забівалі людзей. У адной вёсцы недзе каля Адрынак швед застаў у хаце адну бабу і хацеў яйкі забраць, ажно прыказаў яшчэ, каб яна іх зварыла. Сам сеў на парозе, каб баба не ўцякла, дый заснуў. Тады баба яму гаршчок кіпеню на галаву выліла і так выратавала сваё жыццё.

## 311. БІТВА ПАД ЛЯСНОЙ

Швед, разбіты пад Лясной, трапіў у балота Чыстая Лужа. Там патанулі ў дрыгве яго гарматы, коні, людзі, а галоўны начальнік іх — Левенгаўпт — кінуўся цераз Брадзілаў мост на Прапойск. Прапойскія перавознікі на вачах у шведаў хутка знішчылі паромы на Сожы... У той жа час на левым баку Сожа, у Старынцы і Краснаполлі, з'явіліся казакі. Яны не дапусцілі шведаў да пераправы і пагналі іх далей, на Рудню... Тут шведы пакідалі сваё ваеннае

снаражэнне ў балота і разбегліся па лясах, ратуючыся ад пагоні рускіх... Начальнікі шведскія кінуліся да Сожа, закапалі там пад сасновым крыжам кучу золата і срэбра... І давай уцякаць па слядах свайго караля.

## *312. МАСКОЎСКАЕ ТАБАРЫШЧА

Рухаючыся напярэймы шведскаму корпусу Левенгаўпта, руская армія на чале з самім Пятром І стаяла некаторы час табарам пад Мсціславам, якраз на месцы цяперашняй Дубровы. Адсюль і назва — Маскоўскае табарышча.

## *313. [ПРА ВАЙНУ СА ШВЕДАМІ]

У 1709 годзе, калі Пётр Вялікі атрымаў вядомую перамогу пад Палтаваю над шведскім каралём Карлам XII, шведы па дарозе назад праходзілі праз Валожын, абрабавалі і разарылі тутэйшых жыхароў. Яны ўварваліся таксама ў царкву..., забралі там усё... і паставілі ў ёй коней. Некаторыя з шведскіх салдат пачалі былі страляць у абраз святой Параскевы... і за тое... аслеплі.

Услед за шведамі прыйшоў атрад рускіх войск, а з ім і сам рускі цар, Пётр Вялікі. Ён асабіста агледаў абрабленую непрыяцелямі царкву.

## 314. АСІНАВЫ ГАРАДОК

Ва ўрэмя шведскага нашэствія там стаяў полк рускі (памятнік і цяпер стаіць — камандзір палка там пахаваны і салдаты). Разведка данесла, што ідуць шведы з-пад дзярэўні Сарокі. Сталі дзелаць малебен, іконы павесілі на асіне. Але не кончылі малебна — шведы насцігалі. Рускія кінуліся ў бой, у атаку і адбілі шведаў, і пагналіся за імі, а ікона асталася на асіне. І па сённяшні дзень тая ікона вісіць на тым самым месцы. Там паставілі царкву, Пакроўскую, а ў ёй тая ікона, чудатворная, асінагародская. Там фэст штогод, другога ліпеня.

## *315. НАСЫПЫ ШВЕДАЎ

На паўднёва-ўсходняй ускраіне горада Ваўкавыска маюцца батарэйныя насыпы, нібы вялікія горы, якімі іх і лічаць. Усе кажуць, што гэтыя насыпы зроблены шведамі ў час вайны з рускімі. Патрэбную для гэтага зямлю шведы насілі ўласнымі шапкамі і далі такі зарок, што гэтыя горы можна будзе разбурыць толькі тады, калі знясуць зямлю салдацкімі шапкамі, на ранейшае месца.

## *316. [РВЫ ЧАСОЎ РУСКА-ШВЕДСКАЙ ВАЙНЫ]

У Гарадзецкай воласці Чавускага павета маюцца два рвы рытыя. Адзін з іх называецца Бутрым. Рвы гэтыя былі выкапаны ў час вайны Карла XII з Пётрам Вялікім. Яны тут мелі між сабой сутычку. Войскі іх стаялі аднаго ў адным рове, а другога — у другім. Захаваліся і іншыя знакі іх стаяння тут. Адлегласці паміж равамі не больш трох чвэрцяў вярсты.

## 317. МАГІЛЫ ШВЕДСКІЯ

У нас за мястэчкам, за рускімі могілкамі, на полі пры хваінцы, ест агромны магілы ад шведаў. То кажуць, як шведска вайна была, то іх там шмат пахавалі за ўсім іх нарэндзем. І там ест камень з літарамі, што іх ніхто прачытаць не можа.

## *318. [ПРА ШВЕДСКІЯ КУРГАНЫ У СЛУЦКАЙ ВОЛАСЦІ]

У мясцовасці гэтай у многіх месцах сустракаюцца, і вельмі нават значныя, курганы насыпаныя. Пра іх захавалася ў народзе паданне, што курганы гэтыя яшчэ ад вайны шведаў з палякамі насыпаны на магілах забітых воінаў.

## *319. [КУРГАНЫ КАЛЯ СЯЛА ДУБОВІЦА КЛІМАВІЦКАГА ПАВЕТА]

Па дарозе з Дубовіцы ў Серкаўку, за дэве вярсты ёсць урочышча Крутая Дзебра. Там па абодвух берагах ракі Остры знаходзіцца больш сотні курганоў, на якіх павыраслі ўжо вялікія дрэвы... Адзін стары сказаў, як чуў з падання, што праз гэту мясцовасць у 1709 годзе праходзілі шведы, а рускія хацелі перашкодзіць ім пераправу цераз раку, ад чаго была перастрэлка, і курганы гэтыя — магілы забітых. Але калі ў 1858 годзе па загаду памешчыка раскапалі адзін курган, дык не знайшлі нічога.

## 320. [ПРА ШВЕДСКІЯ МАГІЛЫ]

Непадалёку ад Сакаў, што на Бельшчыне, ёсць невялікі пагорак, на якім... знаходзіліся некалі могілкі...

— А ці гэта праўда, што тут скарб закапаны?..

— Рознае людзі гавораць... Праўдападобна, могілкі гэтыя помняць яшчэ «шведскі патоп». Гавораць, што быў тут забіты і пахаваны шведскі палкоўнік, а з ім залаты пояс, меч і грошы.

## *321. ПРА ШВЕДАЎ

За адну вярсту ад мястэчка Лыскава, на ўсход, і зараз ёсць невялікі лясок, які называюць Акопы. У час вайны рускіх са шведамі на Акопах засталося мноства чалавечых трупаў, якія тутэйшыя жыхары павінны былі пахаваць. Пераносячы ў магілу аднаго забітага, заўважылі на пальцы дарагі пярсцёнак і сталі здымаць яго, але ніяк не змаглі, а таму адсеклі палец і толькі тады ўзялі пярсцёнак. Доўга пасля гэтага ў вёску пачаў прыходзіць па начах бяспалы мярцвяк і трывожыў людзей, асабліва ў той хаце, дзе знаходзіўся пярсцёнак, пакуль яго разам з пальцавымі костачкамі не паклалі ў магілу.

## *322. ВІТАЎКА

Тут, дзе царква цяпер стаіць, калісь быў груд, а на тым грудзе стаяў двор дужа багатага баярына, на імя Віт. Жыў той Віт па праўдзе, у веры, і бог быў на яго дужа ласкаў. Вота ж пайшла трывога вялікая, што швед у нашшкрай наехаў і горш усякага татарына грабіць і пустошыць, а над народам здзекуецца. Віт быў удавец і меў адну дачку, вельмі красную панну. Вітаў двор быў прыродаю забяспечан ад ворага: спераду непраходным балотам, што і цяпер цягнецца абапал рэчкі Хамычкі, хоць шмат ужо сушэйшае, як за тыя часы; а за балотам і за дваром цягнуліся бясконцыя, адвечныя лясы,— тая старана і цяпер пушчаю завецца. Віт з дачкою, гэта цямячы, а прытым, як людзі набожныя, на бога надзею пакладаючы, былі спакойны ў сваім двары. Але, знаць, слава пра яго багацце далёка ішла.

Аднае гэтак ночы, калі ў двары ўсе крэпка спалі, спаў і сам баярын Віт, спала і красная яго дачка. Чуе гэта Віт праз сон зычны голас:

— Віце, Віце! Устань і выстралі!

Віт прахапіўся, аж нідзе нічога не чуваць. Ён ізноў стаў засыпаць ды ізноў чуе:

— Віце, Віце! Устань і выстралі!

Ён і на гэты раз, прахапіўшыся і нідзе нічога не бачачы і не чуючы, стаў драмаць ды зноў чуе:

— Віце, Віце! Устань і выстралі!

Тады ён ужо мусіў устаць і, узяўшы стрэльбу, выйшаў на перамёт і бачыць, што шведы ўжо гаспадараць у яго на двары. Ён, тое ўбачыўшы, дужа спалохаўся і як трымаў стрэльбу, так і выстраліў на вецер, а сам пабег у пакоі дачку будзіць. Толькі пабудзіў — чуюць: на двары якісь голас падняўся. А калі яны выйшлі пагля-

дзецъ, бачаць — шведы ў вялікай замешцы хочуць з двара ўцячы ды, не папаўшы ў вароты, цiснуцца на платы, душацца, калечацца, а каторым і ўдалося з двара выбрацца, тыя, чуваць, ратунку крычаць, папаўшы ў балота або ў рэчку. Так да раніцы ніводнага з тых шведаў жывога не засталося, бо, паслепшы воляю божаю ад Вітавага стрэлу, усе пагінулі, каторыя ў двары падушыліся, каторыя ў рэчцы і балоце патапіліся, а каторыя патрапілі ў лес, тых звер люты парэзаў.

Вот на тую памяць, што бог яго ад шведскай рукі захаваў, паставіў ён сярод свайго двара царкву мураваную і вельмі яе ўкрасіў.

Жывуць так Віт з сваёю дачкою, краснаю паннаю, ізноў у дастатку і супакоі. Адно нячыстая сіла не дрэмле, і пакусы вялікую сілу маюць. І ўпаў наш баярын у вялікі грэх, так што зямля нават здрыганулася. І аступіўся той узгорак, на каторым двор стаяў, і рынуліся мураваныя палацы і пахавалі пад сабою грэшнага баярына. Дачка ж таго баярына зышла дзесь у далёкі манастыр і там веку даканала. Чэлядзь па свету разышлася, а двор той штораз болей і болей стаў у балота пагрузаць і аднае ночы саўсім затануў. Толькі на тым месцы, дзе царква стаяла, людзі распяцце знайшлі. Потым паставілі на тым месцы цэркаў дзераўляную і тое распяцце ў ёй паставілі. І праславілася тое распяцце цудамі рознымі, і ўсякі год на ўздзвіжанне збіраецца там шмат багамольцаў з усіх канцоў нашае зямлі. Завецца тое месца Вітаўка, або Вітавец.

Там і цяпер у балоце можна абмацаць кавалкі муру.

## 323. ПРА 1812 ГОД

Казакі былі пад камандай генерала Платава, узялі яны нашага мужыка Дзяніса, далі яму казацкага каня і паслалі з некалькімі казакамі ў Стоўбцы, дзе за Нёманам было другое казацкае войска, каб правёў яго ноччу праз Мхі (урочышча паблізу возерка), бо ён быў тутэйшы і дарогі добра ведаў. Палякі прыйшлі ў вёску і сталі снедаць. Казакі спачатку мала паказваліся, вазіліся з імі перад вёскай і стралялі. Потым сілай навалілі. Калі палякі абяссілелі, падышлі і ўдарылі тыя, якіх прывёў Дзяніс з Стоўбцаў, разбілі, і пабеглі палякі на Жукавічы, Мядзведку, а некаторыя на Мір... Калі пасля... беларускага селяніна Дзяніса запыталі, якой узнагароды ён хоча, ці волю яму даць, ці грошы, ён адказаў:

— Дайце мне паесці.

Дзяніса накармілі, і ён пайшоў у казённы лес, дзе нашы хаваліся.

## 324. ПЛАТОН-КАЗАК

У дванаццатым гаду падняўся на белага рускага цара француз Напальён. Нагнаў ён сюды войска, бы цёмная хмара, ды і пачаў паліць вёскі, гарады і забіваць людзей. Пахаваліся людзі, хто паспеў, у лес ці за балота, загналі туды ўвесь свой статак, а дабро закапалі ў зямлю. Знішчылі французы ўвесь край, змарнавалі ўсё дабро, так што і самі пачалі падыхаць з голаду. Параелі, паганыя, сабак ды катоў, палавілі мышэй да пацукоў, пастралялі ўсіх варон да й паелі ўсялякую погань. Сам цар Напальён ходзіць сабе на балоце ды ловіць жабы або чарапахі, каб пасілкавацца, бо голад не свой брат, кожнага як засмокча, дык гатоў сам сабе руку адгрызці. Соваюцца галодныя французы, бы сонныя мухі, ды збіраюць чарвякоў, жукоў да ўсялякіх слізнякоў, каб хоць гэстаю пошкуддзю набіць сабе лантух.

От і пачалі людзі памаленьку вылазіць з лесу да дабівань тых гадаў. Збяруцца яны дзе-небудзь грэцца ў хату, а тут, бы з зямлі, вынырне Платон-казак да й запаліць адусюль тую хату. Пякуцца французы, бы картофля ў прыску, пякуцца, а вылезці з хаты не могуць, бо дзверы калом падпёрты. Гуляе Платон-казак то тут, то там і ніяк яго не могуць злавіць французы. Абяцаў Напальён вялікі гасцінец таму, хто зловіць Платона-казака ці хоць скажа, дзе ён. Але ніхто не можа таго сказаць, бо Платон-казак лётае, бы арол, плавае, бы шчупак, бегае, бы чорт.

От пераадзеўся ён за купца да й паехаў к Напальёну, нібыта прадаваць хлеб. Прымае яго Напальён да й пытае:

— Ой ты, слаўны купец-маладзец, ты ўсюды па свету бываеш, усё бачыш, усё знаеш, мо Платона дзе сустракаеш?

— Ну, няма таіць чаго,— добра знаю я яго.

Цар тут разам схамянуўся, на Платона азірнуўся. Дак казак той не дурак, паказвае яму канчак. Замахнуўшыся з пляча, рэзнуў трэйка згарача, аж звалілася карона; сам ускочыў у стрымёна да й крычыць:

— Лаві Платона!

От такі то быў казак, што французам даўся ў знак. Ён па полю раз'язджае, страх на армію наганяе, паліць генералаў хаты да бярэ ад іх гарматы; забягае на дарозе, топіць войска ў Бярозе. От адзін стаў Напальён, хоць прывёў да нас мільён.

От і едзе той казак па полю, смела даў каняцы волю. Жыта поруч каласіцца, крыж за горкаю ласніцца. Сонца грэе, аж пячэ, толькі пот з ілба цячэ. От ён шапачку здымае, бога шчыра праслаўляе, што памог француза раць з краю роднага прагнаць. Толькі ў жыце зашумела, раптам сэрца бы згарэла. Толькі ён перахрысціўся да й на карк да каня схіліўся. Казакоў падбегла двое:

— Мабыць, места тут ліхое.

Перш француза тут забілі, а Раманава мястэчка на жалобу запалілі. Бы свяча, дамы пылаюць — то Платона памінаюць. Слёзанькі з вачэй цякуць, песню ж казакі пяюць, як вялікі казак згінуў дарам, небарак.

## 325. ПЯВУН-ЗВОН

Гадоў сотню, мо і болей назад на беразе гэтага возера высіліся манастырскія муры. І даўней, як цяпер, людское жыццё не далятала да гэтых берагоў. Толькі птушкі пялі тутака ў летнюю пару, ды вольны вецер гуляў на прасторы.

Адзін манастырскі звон гудзеў, разліваючыся ў паветры. Далёка навакол нясліся прыгожыя гукі. І сціхала ўсё, слухаючы яго. Птушкі раптам абрывалі сваю песню. Сціхалі ў траве скакуны. Слухаў у імшары воўк. Нават вецер і той супакойваўся, хаваючыся ў гушчары. Так чароўна прыгожа звінеў манастырскі звон. Манахі празвалі яго певуном. Доўгі час званіў так пявун, вісючы на высокай вежы сярод манастырскага двору. Доўгі час спасалася ў такой цішы шмат манахаў. Але неўзабаве заглянулі ў манастырскія муры трывожныя весткі:

— Ідуць французы.

Дзе пройдуць яны, ні-ні не застаецца, ніводнае чалавечае душы, ніводнае будыніны, усё нішчыць іх меч і агонь.

Зышліся манахі на манастырскім двары і, памаліўшыся богу, пачалі раяцца, што рабіць. Доўга не маглі яны нічога прыдумаць, але вось выйшаў з грамады стары манах і пачаў гаварыць:

— Браты, захаваем увесь манастырскі скарб, а певуна аддадзім хвалям гэнага возера на зберажэнне, і самі разойдземся, хто ў які бок.

На гэта згадзіліся ўсе манахі.

Як узышло сонца на другі дзень, ужо ўвесь манастырскі скарб быў пахаваны, заставалася зняць певуна. Ізноў зышліся манахі на двары і, памаліўшыся богу, пачалі знімаць звон з вежы, на якой ён вісеў ужо некалькі вякоў. І астатні раз з медных грудзей вырваўся чароўны кліч і заціх недзе далёка-далёка... Горача заплакалі манахі і паняслі звон да возера. Астатні раз пачуліся яго зыкі ў паветры, і пявун ціха апусціўся ў ваду. Манахі, сказаўшы певуну «прасці», разышліся ў розныя канцы свету.

І цяпер, кажуць, калі прыйсці перад усходам сонца да гэтага возера, дык чутна, як звоніць з вады пявун-звон. Таксама як і даўней, яго слухаюць усе з увагай.

## 326. ПРА ФРАНЦУЗАЎ

Старыкоўскія славы, што раньшы гаварылі. Расказвалі, што тут, каля рэчкі Сыр'янкі, сражэнне з французамі было. Многа было пабіта...

## 327. У ПЛІТКАХ

На расстайнай дарозе, дзе былы гасцінец крыжаваўся з палявой дарогай..., да сёння захаваліся каменныя помнікі, якія называюць тут пліткамі; на іх можна прачытаць дату: «1812 год». Гавораць у Крушынянах, што гэта напалеонскія могілкі, бо ў другім месцы ёсць і рускія могілкі. У плітках хавалі людзей, памерлых заўчаснай смерцю,— вісельнікаў і іншых самабойцаў. Тут жа і напалеонскіх салдат хавалі. У плітках нават белую смерць спатыкалі, і гэта смерць вабіла і аб самагубстве вяла размову.

## 328. ГРЭБЛЯ

У пяці вярстах ад Крушынянаў ёсць млын Нетупа. У гэтым месцы праходзіў Напалеон са сваім войскам у 1812 г. Дарога праходзіла праз балота і была вельмі дрэнная. Напалеон загадаў сваім войскам і мясцовым жахарам насыпаць грэблю, якая засталася і па сённяшні дзень.

## *329. ГАРА ЗАМАК

Каля вёскі Глінскія ёсць гара Замак. Кажуць, што ў ёй французы ў 1812 годзе закапалі цэлую карэту золата. Многія прабавалі здабыць тыя каштоўнасці, але ніхто па нейкіх патаемных прычынах не мог гэтага зрабіць.

## 330. ПРА ЧОРНУЮ ДАМУ

Князёўна Барбара Радзівідчанка, сястра грознага князя Мікалая, рана пайшла замуж, але ўжо ў дваццаць два гады заўдавела. Муж яе — князь — быў забіты на вайне. Маладая ўдава-княгіня жыць засталася ў Вільні ў палацы нябожчыка-мужа. Барбара была вельмі прыгожая і разумная. А ў той час у Вільні жыў княжыч, пляменнік вялікага князя Літоўскага Зыгмунда, і сам Зыгмунд. Княжыч той, убачыўшы Барбару, адразу закахаўся ў яе. Пачаліся патаемныя спатканні. А трэба сказаць, што малады княжыч быў наследнікам вялікага князя. Барбара ж была старэйшая за яго на

тры-чатыры гады. Разумная і хітрая княгіня не была супраць таго, каб зрабіцца жонкай будучага караля. І вось аднойчы, калі ў месячную салаўіную ноч княжыч пералез праз высокую каменную сцяну ў сад да сваёй любай, па загаду ці то самой Барбары, ці то яе братоў усхапілася ўся чэлядзь і ўзняла такі вэрхал, што Зыгмунду не было дзе дзецца. Ён змушаны быў ажаніцца з княгіняю, і іх тайна звянчалі ў касцёле ў Вільні. Неўзабаве Зыгмунд такі стаў польскім каралём [Сігізмундам Аўгустам II]. Але польскі сейм і духавенства не хацелі прызнаць каралевай Барбару Радзівіл. Яны хацелі, каб каралевай польскай стала прынцэса каралеўскага роду, каб узбагаціўся каралеўскі скарб. Але Зыгмунд дабіўся свайго: яго жонка была прызнана каралевай. Аднак Барбара засталася бяздзетнай, і наследніка ў іх не было, а праз год пасля каранацыі яна памерла. Гаварылі, што яе атруцілі. Смерць Барбары караля вельмі засмуціла, і ён перастаў цікавіцца дзяржаўнымі справамі. Жаніцца ж ён больш не захацеў, бо моцна любіў сваю Барбару.

Прыдворныя і духоўнікі запрасілі з Англіі чарнакніжніка, каб ён выклікаў дух Барбары, які загадаў бы каралю жаніцца.

І вось аднойчы ў залу, дзе сядзелі кароль і яго світа, увайшла дама, апранутая ва ўсё чорнае. Кароль кінуўся да яе:

— Басенька, мая Басенька! — і схапіў яе за рукі.

Але тут адразу нешта грымнула, і ўсё знікла.

Пасля гэтага казалі, дух Барбары ў выглядзе Чорнай дамы пасяліўся ў Нясвіжскім замку. Казалі людзі і такое, што, калі ўзыдзе месяц, апоўначы ў замку з'яўляецца Чорная дама. Яна нібы спрыяе закаханым і заступаецца за бяздзетных жанчын: на каго зірне, таму выпадае шчасце.

## 331. ЧОРНАЯ ДАМА У ТРУНЕ

Пра тую Чорную даму людзі ўсё страхі нейкія расказваюць: нібыта здань яе з'яўляецца па начах у былым замку князя Радзівіла. Хто запозніцца часам і ноччу ідзе каля замку, а закалышацца галінка якая на дрэве, ці куст або нешта затрашчыць, то ўжо думаюць — вось Чорная дама ходзіць па замку. Але бачыць то яе ніхто не бачыў. Гэтая дама ніколі не хадзіла, нават калі жывая была, бо хварэла моцна, і ад той немачы не магла ні хадзіць, ні ляжаць. Казалі, што небарака і памерла седзячы. І пахавалі яе так, што нібы і ў труне яна сядзіць.

Недзе гадоў мо за трыццаць таму, добра не памятаю, прыязджалі да нас нейкія вучоныя людзі, аглядалі радзівілаўскія пахаванні ў склепах Нясвіжскага касцёла. Адкрывалі мармуровыя княжыя грабніцы. Цікавіліся і Чорнай дамай. Знайшлі яны ў склепе

мармуровую труну з вельмі высокім вастраватым векам. Калі ж ускрылі, то ўбачылі, што пад гэтым высокім векам — роўная труна, на якой стаіць прыгожая пазалочаная ваза з вянком найтанчэйшай работы. Адкрыўшы гэту труну, убачылі забальзаміраваную жанчыну ў чорным убранні. З таго часу ўжо болей не верацъ у Чорную даму, у тое, што ходзіць яна па радзівілаўскаму замку. Ляжыць яна сабе, як і ўсе памерлыя там, дзе яе некалі пахавалі. Праўда, калі хто хоча каго напужаць, дык і цяпер кажа, што Чорная дама па начах у Нясвіжскім замку з'яўляецца. Але ўжо няма дурных!

## 332. РАДЗІВІЛ-СІРОТКА

### [Папова горка]

На ўскраіне Нясвіжа, за возерам, ёсць узгорак, людзі яго называюць Папова горка. Некалі даўно на гэтай горцы стаяла царква. А навокал усё належала князям Радзівілам. Аднаго з тых князёў празвалі Сіроткай. Гэта так «ахрысціў» яго польскі кароль, калі гасцяваў у Нясвіжскім замку. У адным з пакояў ён убачыў малое дзіця, якое ляжала адно самёнькае, а бацькі яго ў той час балявалі ў палацы. Таму кароль і празваў яго Сіроткай. Пазней той Сіротка ажаніўся з каталічкай і пачаў заядла насаджваць полькую веру ў сваіх уладаннях. Сам папа рымскі прэзентаваў яму дарагі сталовы сервіз з срэбра аж на дзвесце гасцей. Усё было вельмі тонкай работы і паказвала чатыры пары года: вясну, лета, восень і зіму. Пасля таго, як Сіротка вярнуўся з паходу, ён сабраў сорак папоў праваслаўных і загадаў ім перайсці ў каталіцкую веру і служыць ёй. Папы тыя не схацелі адступіцца ад сваёй веры... Тады князь загадаў загнаць іх у царкву, што стаяла на гары за возерам, і заперці іх там без яды і вады. Сам жа князь баляваў у сваім замку тры дні. Няшчасныя папы не хацелі зрабіцца вераадступнікамі і, адпеўшы псалмы, пачалі накладваць на сябе рукі, каб толькі не здрадзіць веры бацькоў. Калі праз тры дні царкву адчынілі, жывымі засталося ўсяго некалькі чалавек. Папоў там жа на горцы і пахавалі. Царкаўка з цягам часу развалілася. А горка і цяпер завецца Паповаю.

## 333. КНЯЗЬ РАДЗІВІЛ КАХАНКА

Жыў даўней у Нясвіжы адзін князь, Радзівіл. У яго было многа маёнткаў на ўсёй Случчызне. Усе паны яму служылі, бо ён быў над панамі пан. А з людзямі ён хараша абходзіўся. Было, з кім ні за-

гаворыць, та за кожным словам кажа: каханку, каханку. От за тое й прадражнілі яго Каханка. Добры быў князь Каханка, толькі ён вельмі любіў шуткаваць да вычвараць розныя штукі.

Ось раз аб'явілі ўсюды, што князь Каханка збірае к сабе адусюль усіх краўцоў. Сабраліся краўцы да й пайшлі на тэрмін да Нясвіжа. Назбіралася іх там такая сіла, што загрузілі ўсё места. Сядзяць яны на зямлі каля палаца, сядзяць дзень, сядзяць два, чакаюць, пакуль выйдзе князь Каханка да дась ім гасцінец. Толькі ось на трэці дзень чуюць яны, аж равуць мядзведзі. Пачалі яны азірацца та ў той, та ў другі бок, аж бачаць, едзе князь Каханка шасцерыком на мядзведзях, аж пыл курыць, падкаціў проста к палацам. От і кажуць яму слугі, што яго ўжо трэці дзень чакаюць краўцы.

— А, та добра, каханку, о, та я зараз,— кажа ён да й паказаўся праз вакно.

Падышлі краўцы пад вакно, стаяць без шапак да чакаюць, што скажа князь.

— Вы краўцы? — пытае князь.— А, та добра. Краўцы вельмі патрэбны людзям. Дак от што я вам параджу. Вы як будзеце шыць, та заўязвайце вузел. Гаспадар будзе вам дзякаваць і дабром вас памінаць.

Пры гэтых словах ён павярнуўся да й пайшоў сабе.

Пацягліся краўцы назад, бы мыла з'еўшы. А князь Каханка зноў кудысь паехаў. А ездзіў ён заўжды не па-людску: аб лету на санях, а ўзімку на колах...

Дак от які то быў князь Каханка гучны да штучны. Дачулася аб ём царыца Кацярына. Яна аб'язджала сваё царства да й захацела пабачыць яго. Паслала яна к яму сваіх янаралаў сказаць, што заедзе к яму да толькі чакае, пакуль паправяць дарогі, бо яны вельмі трасуць. А гэта было па лету.

От князь Каханка вялеў высыпаць дарогу цукрам да й паслаў па царыцу свой шасцярык мядзведзей, каторыя былі запрэжаны ў сані. Пабаялася царыца Кацярына ехаць на мядзведзях. От тагды князь Каханка прыехаў к ёй на сустрэк вярхом на ласю. Як пабачыла тое царыца Кацярына, дак і села на сані да й паехала на мядзведзях па цукру, бы па снегу, аж да самых палацаў. Бачыць ён, што царыцы спадабаліся тыя мядзведзі, от ён і падараваў іх ёй. За тое яна даравала яму залатую табакерку з д'ямантам. Свеціць ён уночы, бы агонь гарыць. Носіць князь Каханка тую табакерку заўжды пры сабе ў кішэні, а як выме яе поўначы, дак яна й свеціць замест ліхтарні. Пазбіраліся паны мо адусюль да дзівуюцца на тую табакерку, бо такое й зроду не бачылі. Дачуўся аб тым кароль да й вялеў, каб князь Каханка прывёз яму тую табакерку на паказ. Вялеў князь Каханка запрагці ў сані восем мядзведзей, сеў да й па-



17. Зак. 1230

ехаў да караля. Прыязджае ён да Аршавы, ці што, да й садзіць проста да караля ў палацы.

Як убачылі там мядзведзей... да як спалохаюцца да пабягуць, дак кароль адзін астаўся. Паказаў князь Каханка яму табакерку, а той і з рук не выпушчае, так яна яму спадабалася. І пачаў кароль прасіць, каб ён уступіў яму тую табакерку.

— Бяры,— кажа,— што хочаш, толькі аддай.

— Добра,— кажа,— вашае каралеўскае вялічаства, аддам я гэстую табакерку, толькі вы мне дайце столькі зямлі, колькі я аб'еду за тыдзень.

Кароль згадзіўся на тое. От князь Каханка сеў на сваіх мядзведзей да й памчаўся. Аб'ехаў ён за тыдзень немаль усё каралеўства да й заўладаў усёю там зямлёю з людзямі да з усімі маёнткамі. От чаму ў князя Радзівіла так многа зямлі.

## 334. ПРА «ПАНЕ КАХАНКУ»

Адзін з самых багатых князёў Радзівілаў быў Ка́раль Радзівіл. Польскія паны звалі яго «Круль Нясвіжа». А празвалі яго яшчэ «пане Каханку», бо любіў сам часта так гаварыць. Няхай хоць самы няшчасны, якога князь засудзіў засячы бізунамі за якуюсь правіннасць, а ён да яго: «пане Каханку...»

Караль Радзівіл не быў дужа адукаваны, вёў разгульнае жыццё, быў жорсткі, каварны, меў шалёны характар. Некаторыя гаварылі, што ў князя нораў дзікага кабана. Караль Радзівіл меў трох жонак, не мінаў і сваіх прыгонных маладзіц і дзяўчат. Балі і паляванні, якія наладжваў пане Каханку, былі сапраўды каралеўскімі. А паляваў ён вельмі жорстка. Са сваімі гасцямі і шматлікай чэляддзю князь выязджаў на паляванне за Нясвіж у свой Албянскі парк і блізкі лес. У парку было пракапана восем каналаў, што сыходзіліся да вострава. Стральцы, размясціўшыся на востраве, без усялякай перашкоды расстрэльвалі затраўленых звяроў, якія кружылі ўздоўж вострава. Пане Каханку забіваў па 27 ласёў і дзікіх кабаноў зара́з. У Альбянскі замак не раз прыязджаў польскі кароль Генрых Панятоўскі. У часе адной з радзівілаўскіх забаў кароль, убачыўшы, як мядзведзі рвуць на кавалкі ласіху, не вытрымаў і стрэліў у мядзведзя. На гэта пане Каханку ўсміхнуўся і сказаў:

— Баба ты, а не кароль!

Пужаючы народ, пане Каханку забаўляўся яздою ў санках, запрэжаных шасцярыком мядзведзей, летам, па дарозе, пасыпанай соллю. А соль у той час была дарагая. За два з паловай фунты солі пан у пана мог купіць сабе дванаццацігадовую прыгожую дзяўчынку.

## 335. МАРЫСІН ПАРК

За Нясвіжскім замкам, які раней належаў князям Радзівілам, знаходзіцца стары парк, а сярод яго — возера. Тая частка парка, што на левым баку возера, завецца Марысіным паркам. Вось што пра гэта расказваюць людзі. У нейкага князя з Радзівілаў была дачка Марыся, прыгожая і вясёлая. Гадавалася яна так, як і належала князёўне. У шаснаццаць год яе пачаў вучыць верхавой яздзе прыгожы і спрытны хлопец з княжавых дваракоў. Маладыя людзі крэпка пакахалі адзін аднаго. Колькі цягнулася тое шчасце закаханых — невядома, толькі вось Марысю засватаў аўстрыйскі прынц, знатны і багаты, але стары і пляшывы. Марыся вельмі гаравала і плакала. Князь даведаўся пра яе любошчы з хлопам і адразу загадаў забраць яго, каб і духу нават не засталося, што адважыўся пакахаць князёву дачку. Хлопец знік. Казалі, павесілі.

Пасля каляд Марыся павінна была ўзяць шлюб з прынцам. Але бедная дзяўчына не захацела жыць без свайго каханага: пайшла за возера ў парк і засталася там у лютую і доўгую калядную ноч. На тым самым месцы, у парку, дзе яна памерла, яе і пахавалі.

Другія кажуць, што Марыся не замерзла, а кінулася ўніз з высокай вежы Нясвіжскага замка і забілася.

У парку на паляне, якая звалася раней Крыжовай, на левым беразе возера і зараз стаіць высокі каменны слуп на каменнай пліце. На ім толькі адно слова «Марысін». Быў там некалі і фантан, з якога падалі тонкія струменьчыкі крынічнай вады. Фантан гэты людзі называлі «Марысіны слёзы».

## *336. [ПРА ПАНА ОШТАРПА]

Шмат паноў валодала Дукорай. Ды самы жорсткі быў пан Оштарп. Яго імем маткі нават дзяцей пужалі. Не баяўся ён ні боскага, ні людскога суда. І здзекі чыніў над народам страшэнныя.

Былі дажынкі. Народ, хлопцы і дзяўчаты, ішлі з панскага поля. А ўперадзе натоўпу — Фроська з Дукаркі, пазней узнікшай часткі Дукоры. У вяночку з палявых кветак, са снапом панскага жыта на руках.

Далі знаць Оштарпу, што ідуць дажынальнікі. Выйшаў ён на ганак, сеў у крэсла з фамільным гербам. Фроська апусцілася на калені, працягнула сноп жыта, песняй пачала велічаць Оштарпа, прасіць, каб літасцівым быў пан да сваіх прыгонных.

Прыгожая была Фроська, вельмі прыгожая. І загарэліся старэчыя вочы. Паклікаў Оштарп лакея Францішка, паціху пытае:

— Хто такая?

— Каваля Тодара дачка,— адказвае той,— у нядзелю вяселле ў яе з Васільком.

Нічога не сказаў тады Оштарп.

А ў нядзелю наляцелі на вясельны поезд гайдукі конныя, схапілі Фроську, паімчалі ў палац да пана.

Назаўтра сядзеў Оштарп у сваім любімым крэсле. Стаяла такая ж спёка, і задрамаў гвалтаўнік, забыўшыся на Фроську. Бярэ тады дзяўчына кухонны нож, пацііху падкрадаецца да пана і заносіць над ім руку. Ды закукавала зязюля ў заморскім гадзінніку. Уздрыганулася Фроська, стукнуў аб каменныя пліты нож. Падхапіўся Оштарп, закрычаў нема.

На стайні ў сцяне была ніша. І па загаду Оштарпа замуравалі туды Фроську жывую.

Васілёк сабраў хлопцаў, і калі Оштарп вяртаўся з Мінска, падпілавалі хлопцы мост. Шаснаццаць коней цягнулі панскую карэту, што важыла дзвесце пудоў. І рынула яна разам з Оштарпам у Свіслач.

### *337. [ПРА ПАНА КОШЧЫЦА]

Каля ста гадоў назад гаспадарыў у Мядзелі Кошчыц... Ён меў больш, чым ва ўсіх сваіх суседзяў, маёнткаў і багацця. На адным з самых высокіх узгоркаў каля Мядзеля ён паставіў слуп, каб кожны, хто прыязджаў сюды, здалёк ужо адчуваў яго магутнасць. На партрэце ён выглядаў поўным, чырвонатварым мужчынам, амаль дзедам, з гладка паголеным тварам, але з каротка падстрыжанымі вусамі і з шырокай істужкай цераз плячо. Чалавек ён быў жудасны і як пан для сваіх прыгонных, і як гаспадар, і як селянін, асабліва для жонкі. Жонку ён тыраніў па той прычыне, што нарадзіла дачок і ніводнага сына. Яна некалькі разоў ад яго збягала і хавалася ў суседзяў і сваякоў, чым і наклікала на іх бяду. Нарэшце, хоць яна і нарадзіла яму сына, але хутка канчаткова збегла за мяжу, дзе і памерла, завяшчаўшы адаслаць сваё сэрца ў сярэбранай урне ў Мядзель.

Як пан ён адзін увасобіў у сабе ўсе жахі прыгону. Перад ім бляднеюць нашы Куралесавы і іншыя змрочныя асобы. Мала таго, што ён амаль штодзень практыкаваўся ў катаванні сялян, дык яшчэ здзекаваўся з жанчын і дзяцей. Ён проста пачаў прагнуць крыві і смерці людзей. Забіць чалавека стала для яго справай звычайнай..., такой лёгкай, як пакруціць вус... Яго цешылі пакуты людзей. Калі доўга не выпадала ўтварыць што-небудзь падобнае, ён пачынаў сумаваць, браў стрэльбу і выходзіў у лес на паляванне, не на звяроў — не, на людзей. Разбэшчаная ўканец натура гэтага чалавека

нястрымна вяла яго да пагібельнага канца. Гэта ў хуткім часе адбылося...

Калі ў Кошчыца нарадзіўся сын, ён акружыў яго неймавернай раскошай і пяшчотай, але не зрабіўся ад гэтага менш крыважэрным. Калыска для дзіцяці была выпісана з Англіі, нібы сярэбраная, за дзесяць тысяч рублёў.

Аднойчы Кошчыц, звычайна злосны, убачыўшы, што набліжаецца навальніца, загадаў запрэгчы каляску і паехаў у лес. А незадоўга перад тым адзін з яго прыгонных сялян прабраўся ў лес, каб ссячы дрэва на дровы, мяркуючы, што ў буру яго ніхто не ўбачыць. А Кошчыц угледзеў селяніна каля дрэва і адразу застрэліў яго. У гэты ж момант разыгралася страшэнная бура; дрэвы вывярочвала з карэннем, у лесе зрабілася цёмна, як уначы, коні пачалі спатыкацца і яўна не хацелі ісці. Раней Кошчыц іменна ў буру і любіў прагулкі, але цяпер, пасля забойства, нейкая нястрыманая сіла пацягнула яго дадому; ён доўга працівіўся гэтаму, але не змог і загадаў як мага хутчэй ехаць назад.

Ледзьве пераступіўшы парог свайго дому, па тварах сваіх дамашніх адчуў нешта нядобрае. Кінуўся ў пакой свайго сына-малюткі, аж ён — мёртвы.

А адбылося вось што. Мамка дзіцяці, якой не даводзілася спаць ночы, бо дзіця ні на адну хвіліну не адступалася ад яе, і таму была страшэнна стомлена. І вось, калі пан паехаў у лес, легла ў пасцель, каб не спаць, а хоць крышку адпачыць, а дзіця паклала каля сябе. Але супроць волі моцна заснула і заспала дзіця. Прачнуўшыся і пабачыўшы, што яна нарабіла, і ведаючы, што яе чакае, пабегла ў возера тапіцца. Між тым Кошчыц, ашалеўшы ад ярасці, бегаў па пакоях, шукаючы мамку, а тады кінуўся за ёю, дагнаў амаль на самым беразе возера і тут жа загадаў закапаць яе жыўцом у зямлю, і сам у гэтым памагаў.

## 338. ПРА ГРАФА ТЫШКЕВІЧА

Граф Тышкевіч ехаў у Даўгінаў, і была карчма ім пастаўлена пры дарозе, але Бэрка там таргаваў.

Ён астанавіўся і прыйшоў да карчмы паснедаць.

— Ці ёсць што паснедаць?

— Ёсць.

— А колькі будзець стоіць?

— Рубаль.

На тры капейкі не старгаваўся, не сышоўся з гэтым карчмаром. Пану было на тры капейкі задорага, і паехаў.

А ў гэтай карчме, як у карчме, збіраліся людзі. І сядзеў нейкі Залуцкі, і ўзяў на бумажцы і напісаў: «Ехаў пан Тышка, была яго глодна кішка, доўга таргаваўся і на тры капейкі не стаpгаваўся, і паехаў глодны, як пёс».

## 339. СВІСЛАЦКАЕ ВОЗЕРА

### [Граф Тышкевіч прымае купцоў]

Дзе цяпер гэтае возера, тут упярод расла вялікая лалышына, а возера не было, толькі былі каналы абгароджаны парканам, і там было многа рыбы, а пасярэдзіне канала была выспа абсажана ўкруг вольхамі, і адна альха была спілавана па палавіне. На той вольсі стаяла другая альха, і як тут кірмаш, то сюды прыязджалі багатыя купцы і прадавалі ўсялякія тавары, а Тышкевіч быў рад, што да яго мястэчка прыязджаюць купцы, і ён цёнгле даваў ім абед, і як пара была ісці на абед, то выстаўлялі белую харніўку, а купцы як убачаць, што выстаўлена была харніўка, так яны ведалі, што пара ісці на абед. Гэты звярынец, што цяпер вырубалі на дровы, таксама быў абгароджаны, і тут былі ўсякія звяры, а іх пільнаваў адзін чалавек, каторы называўся звярыннік. І ад самага палацу быў мост, цераз звярынец да таго касцёла, што на Брэсцкай вуліцы.

## 340. ПРА ПАНА КАРПІНСКАГА І ЧОРТАВА АКНО

Недалёка ад вёскі знаходзіцца глыбокае возера. Раней яго не было. Тут, на гэтым месцы, стаяла высокая гара, сто метраў вышыні. На гары стаяў палац пана Карпінскага. Людзі служылі яму паншчыну. Ён быў лядачы ля людзей. Едзе ў карэце, трыбух выставіўшы, і гоніць на работу. А хай баба садзіць хлеб у печ, так як джгне бізуном праз голаў, так баба булку хлеба кіне пад печ і ляціць на работу не піўшы, не еўшы. Людзі яго не любілі і ўсяляк клялі. І, мусіць, праклялі, бо ён разам з палацам праваліўся скрозь зямлю.

Увідзелі людзі на месцы палаца возера, узялі вяроўкі і пашлі мерань яго глыбіню. Прывязалі камень да вяроўкі і давай апускаць у возера. Апускалі, апускалі, а дна ўсё няма. Прывязалі другую вяроўку, потым трэцюю, а да дна ўсё не дастаюць. Хацелі прывязаць ужо чацвёртую, як раптам з возера пачуўся голас:

— Не мерай вяроўкаю, бо памераем галоўкаю!

З таго часу больш ніхто не адважваўся мерань глыбіню гэтага возера, толькі празвалі яго Чортавым акном. І цяпер ёсць гэтае возера, ніколі не замярзае.

## *341. [ПРА БЯРОЗУ МІЦКЕВІЧА]

Развітваючыся з Марыляй, Міцкевіч пасадзіў у Тугановіцкім парку бярозу: «Няхай расце на памяць аб тым, што былі часы, калі дзяўчаты выходзілі замуж не па любові». Марыля палівала гэту бярозку слязамі тугі. Дзерава вырасла стромкае. Аднойчы ноччу гэту бярозу пашчапала маланка.

Дзяўчаты з навакольных вёсак вераць, аднак, што бяроза жыве. І той дзяўчыне, якая знойдзе яе, бяроза прынясе шчасце і сына-паэта.

На купалле замест таго, каб шукаць кветку папараці, дзяўчаты з навакольных вёсак шукаюць бярозу Міцкевіча.

## 342. «ПАН БАГУШЭВІЧ ВАС СЛУХАЕ»

Аднаго разу да Багушэвіча ў Кушляны прыехаў здалёк якісьці нетутэйшы панок па нейкай судовай справе. Падышоў ён да Багушэвічавай хаты — бачыць чалавека з раскідзістай барадой у грубай суконнай сялянскай світцы і пытаецца ў яго, дзе ён можа ўбачыць пана Багушэвіча.

Чалавек у світцы хітра прыжмураным вокам кінуў на залётнага госця і адказаў:

— Зараз я яго паклічу.

Праз некалькі хвілін на парозе з'явіўся той самы прысадзісты чалавек з вялікай раскідзістай барадою, але ўжо ў чорным адвакацкім фраку, і наўмысна ўрачыста апавясціў:

— Калі ласка, пан Багушэвіч вас слухае.

## *343. [ПРА ЧЭРВІ І ХАЛЕРУ]

1871 год, як гаворыцца, быў суцэльна чорны год. Людзі пакутвалі ад халеры, а пасевы ад чарвей. Гарохі, ільны цалкам зжэрлі чэрві. Не было літасці і іншым пасевам... І як толькі не змагаліся з гэтымі чарвямі! Расказваюць, што ў вёсцы С. нехта параіў: каб пазбавіцца чарвей, варта толькі на чэсных, цнатлівых дзяўчынах абвораць поле. І вось сяляне гэтай вёскі адным ранкам выбралі трох вядомых ім сваімі прыстойнымі паводзінамі дзяўчат і аднаго хлопца, прывялі іх у такі выгляд, у якім былі Адам і Ева да граха, упрэглі гэтых дзяўчат у саху і прымусілі хлопца абворваць поле. Потым па гэтай самай баразне, якую прааралі дзяўчыны, запрэглі ў саху таксама цнатлівую жаробачку і яшчэ прааралі некалькі разоў. Сапраўды, чэрві не датыкнуліся поля, але, канешне, не з павагі

да працы і цнатлівасці дзяўчат, а таму, што баразна была праарана глыбока, праз якую чэрві не здолелі перапаўзці...

Такое ж абворванне на дзяўчынах утварылі і ратуючыся ад халеры. Толькі абворвалі ўжо не палі, а вёскі. Але халера не зліталася над працай цнатлівых дзяўчат і наведала гэтыя вёскі, таксама, як і ўсе суседнія.

## 344. [ПРА ХАЛЕРУ]

Семнаццаць год таму назад [1856 г.] у сяле Кляшчэлі з'явілася страшная халера. Жыхары, шукаючы ратунку, адшукалі пару блізнят-валоў, а адзін гаспадар, таксама блізнец, залажыў валоў у саху і пайшоў абворваць вакол сяла, а за ім з крыжам у руках ішоў свяшчэннік (ён ўжо памёр) і ўвесь народ з крэсным ходам. Але халера ўсё ж не спынілася.

## 345. ЧАМУ КАЖУЦЬ: «У ПАДЦАЦКІХ ЖЫВЫМІ ХАВАЮЦЬ»

Яшчэ ў далёкія-далёкія часы, калі сярод людзей розныя пошасці хадзілі, у вёсцы Падцацкія здарылася такая гісторыя. Каб спасціся ад нейкай страшэннай хваробы, што касіла людзей, мусіць, халера, ці што, жыхары вёскі, трымаючыся старых забабонаў, вырашылі каго-небудзь закапаць у зямлю жывым і гэтак ўратавацца ад ліха. Зразумела, нікому не хацелася ні самому паміраць, ні страціць сваіх родных. Тады вырашылі закапаць сірату. Вось адтаго і ідзе нядобрая слава пра вёску Падцацкія:

— А, гэта там, дзе жывымі хаваюць?

## 346. [ЧАМУ ЦЯПЕР ХАЛЕРЫ НЕ ЧУВАЦЬ]

Ехаў адзін чалавек дадому. У лесе нагнаў ён нейкага другога чалавека. Адзеты гэты чалавек быў, як пан. Пачаў ён прасіцца на воз. Гаспадар, вядома, кажа:

— Садзіся!

У дарозе яны разгаварыліся. Дак той чалавек, што йшоў, пытае ў гаспадара:

— А ведаеш, каго ты вязеш?

— А хто цябе ведае, хто ты такі,— адказвае яму гаспадар.

— Я — халера.

Спужаўся гэты гаспадар, але прывёз-такі халеру к сабе дахаты. Павячэралі нават разам халера з гаспадаром. Па вячэры пашла халера спаць у адрынку. Уночы мужык прызнаўся жонцы, што ён

прывёз у вёску халеру. Жонка стала на яго крычаць, нашто вёз, а пасля настала-такі на яго, каб ён пашоў ды забіў халеру. Мужык гэта раздумаўся, узяў тапор і пашоў у адрынку. Прышоў ён туды, адно ж халера спіць сабе выцягнуўшыся. Мужык, доўга не думаючы, скроіў ёй тапаром па галаве, дак яна і духу нават не ўказала. Тагды ён стаў мацаць па кішэнях і нашоў там пяцьсот рублёў. Забраў гаспадар гэтыя грошы, а халеру заташчыў у салому. Назаўтра раненька пашоў гэты мужык у карчму і кажа карчмарцы, каб наліла яму гарэлкі. Качмарка не хацела яму даваць гарэлку, бо ведала добра, што ў гэтага гаспадара ніколі і ў заводзе грошай не было. Мужык дастаў гэта грошы з кішэні і паказвае карчмарцы. Карчмарка сумелася і пытае ў яго:

— Дзе ж ты гэтулькі грошай дастаў?

— Дай гарэлкі, дак скажу,— адказвае гаспадар.

Дала гэта карчмарка мужыку выпіць, вот ён і сазнаўся ёй, як забіў халеру.

Карчмарка зараз данясла начальству пра гэта. Прыехала начальства. Абравізавалі адрынку ў мужыка і знайшлі там труп. Мужык сазнаўся ва ўсём. Пачалі равідаваць труп, дак знайшлі пры ём сем тысяч грошай і цэлы пачо́к парашкоў, што труціць воду, каб людзі мерлі. Была яшчэ пры ём запіска, што гэтакіх людзей ходзіць па свеце семдзесят. Дак усе яны гэта самі з сабой перапіску мелі, дзе каторы абарачаецца. Вот усіх гэтых людзей, што труцілі воду і рабілі халеру, палавілі, дак цяпер і халеры не чуваць.

# ПРА ПАХОДЖАННЕ ГАРАДОЎ І МЯСТЭЧАК, ВЁСАК, УРОЧЫШЧАЎ, РЭК, АЗЁР І ІХ НАЗВАЎ; ПРА ЎЗНІКНЕННЕ ПРОЗВІШЧАЎ

## ГАРАДЫ І МЯСТЭЧКІ

### *347. БРАГІНЬ

Пра Дзедаў Остраў расказваюць старыя, што на ім жыў разбойнік Сівуха з шасцю сынамі. Ён разбойнічаў па Брагіньшчыне і Хвайніччыне. Каля мястэчка Брагін ён напаў на другога разбойніка, Бандарэнку, які пачаставаў Сівуху і вызваў яго на адзінаборства. Пераможаны Сівухай, ён быў уніжан перад сваёй шайкай, за што пазней, у адсутнасці яго сыноў, абабраў Сівуху і, звязаўшы яго, ліў яму ў рот гарачае сала, ад чаго ў яго ўсе зубы выпалі.

Гавораць, што яны былі дваюрадныя браты, і пазней Сівуха адпомсціў Бандарэнку, разбіў яго войска каля мястэчка Брагіня, а самога Бандарэнку забіў, кінуў яго труп у балота, прыгаварваючы: Бра-гінь, гэта значыць, брат, прападай. Ад таго і названа мястэчка Брагінь. Нашчадкамі Сівухі і Бандарэнкі заселена ўся Ровенская Слабада.

### 348. ПРА БРАСЛАЎ

Некалі, даўно-даўно, сярод блакітных азёр, на вялікай гары стаяў прыгожы горад, умацаваны башнямі. А сярод горада ўзвышаўся замак. Жыў у тым замку багаты князь Дзвін. У бітвах ён заўсёды перамагаў ворагаў, усе ў замку дрыжалі перад ім. Багацце, слава, улада — усё ў яго было, але князь сумаваў. Усе ведалі: ён хмуры і злосны таму, што няма ў яго сына. Канчаўся слаўны род Дзвіна.

Была ў яго слаўная дачка Дрыва, якую кахалі тры маладыя князі — Снуд, Ноў і Брас.

Аднойчы князь Дзвін са сваёй дружынай адправіўся ў паход. Дома засталася Дрыва са сваёй маці Друйкай. Дрыва пацяшалася

з маладых князёў. Яна сказала князям, кожнаму паасобку, што пойдзе за таго, хто свой меч у саперніку пакіне. Снуд і Ноў рашылі забіць Браса. Яны зрабілі засаду на дарозе, па якой Брас павінен быў везці падарункі для князёўны. Брас нібы прадчуваў нядобрае і з падарункамі да Дрывы ў той вечар паслаў свайго слугу. Снуд і Ноў думалі, што забілі Браса, а яны забілі слугу. І накіраваліся ў замак. Але браты ведалі аб жорсткай умове князёўны: у жывых павінен застацца толькі адзін. Зноў зазвінелі мячы. Снуд трапіў у самае сэрца Нова, але і сам хутка памёр ад ран. Так загінулі абодва князі. Брас даведаўся пра гэта і прыехаў у замак. Дрыва выбегла яму насустрач.

— Любы мой,— сказала яна,— бой закончыўся, браты твае загінулі.

Паглядзеў на яе з пагардай горды Брас і адказаў:

— Злосная княжна! Тваё каханне мне не патрэбна.

І пайшоў.

Прыгажуня Дрыва выбегла з замка і кінулася ў возера. Не вынесла вялікага гора яе маці і таксама хутка памерла.

Праз некаторы час вярнуўся з паходу князь Дзвін, але і ён нядоўга пражыў. Горадам кіраваць застаўся князь Брас. Слаўны быў гэты князь, вельмі справядлівы, але ўсё жыццё пражыў адзін.

Хочацца верыць: мабыць і праўда кіраваў тут некалі магутны князь Дзвін. І была ў яго дачка Дрыва, якую кахалі тры маладыя князі Снуд, Ноў і Брас. Ці не іх імёны жывуць у назваў самога горада Браслаў, рэк Дзвіны, Друйкі, азёр Дрывяты, Снуды, Навяты...

## 349. [АДКУЛЬ БЯЛЫНІЧЫ]

Расказваюць, што як татары ішлі на Кіеў, манахі ўзялі з сабою ікону, напісаную Лукою, і сталі ўцякаць уверх па Дняпру. Плылі ўсю ноч. І тут на левым беразе Друці плыўцы спыніліся. Неба раптам прасвятлела. Стала світаць. Адсюль паходзіць і назва Бялыніч — Бела ніч.

## *350. [ЯК УЗНІКЛА БЯРЭСЦЕ]

...Нібыта вёз купец на калёсах свой тавар у Літву ды завяз у багністых балотах. Не выбрацца. Пачаў выдзіраць бяросту і засцілаць ёю гаць. А калі назад з Літвы вярнуўся, пабудаваў на гэтым месцы каплічку. Да той каплічкі, як да святога месца «на бярэсце», пачалі з'язджацца людзі. Месца гэта было лёгка ўмацаваць ад ворагаў. Кругом прыродныя абарончыя равы (рукавы Мухаўца). І пачалі асядаць тут людзі, пачалі будаваць горад «на бярэсце».

## 351. АДКУЛЬ ВАЛОЖЫН

З Вільні гналі ў Мінск валоў прадаваць, а тут рабілі папаску, бо быў вялікі лес, і тры карчмы былі. То таму назвалі Валожына, або Валыжэнь. Валы жэнь! Гані, значыць.

## *352. ЯК УЗНІК ВАЎКАВЫСК

Ваўкавыск названы ад імёнаў Волака і Вісек, двух атаманаў разбойніцкай шайкі. Гэта шайка ў далёкія ад нас часы мела сваё прыстанішча там, дзе цяпер знаходзіцца Ваўкавыск, у непрахадзімых лясах, якія акружалі тады амаль цэлую Літву...

Горад пабудаваў нейкі Вацілаў Завейка...

Калі Завейка забіў Волака і Вісека, дык на месцы іх прыстанішча пабудаваў дзесяць хат, якія аддаў сваім нявольнікам, што прынялі ўдзел у забойстве. Гэта селішча было размешчана за дзвесце крокаў ад ракі Нятупа, якая працякала на тым месцы, і было названа Волака-Вісек. На магіле разбойнікаў быў пакладзены камень з імёнамі Волака і Вісека...

Гэты камень быў пазней разбіт на фундамент нейкай язычніцкай бажніцы...

## *353. ЯК УЗНІК ВАУКАВЫСК

Нейкі Забейка пачуў пра частыя напады на падарожнікаў у пушчы, раскінутай каля ракі Нядубы. Там былі логавы дзвюх разбойніцкіх шаек, якімі камандавалі Валока і Віээк. Забейка высачыў іх, павесіў забойцаў на дрэвах, на жэр круком, а на месцы іх станаў загадаў збудаваць некалькі мазанак, у якіх пасадзіў сваіх людзей, і назваў тое селішча Валакавіскам. Яно размясцілася ў дзвесце кроках ад рэчкі Нядубы, каля Заполля.

## 354. АДКУЛЬ ВЕЛІЖ

Кацярына Вялікая была тут праездам, то запыталася, як завецца гэты горад.

— А як ты вяліш звацъ? — запыталіся ў яе.

Вот адсюль: Вяліж.

## 355. АДКУЛЬ ГЛЫБОКАЕ

Глыбокае сушчаствуець чатырыста лет таму назад. Былі, многа было іх памешчыкаў тут. Адзін памешчык меў многа іменіяў ад Вільнюса ў нашу меснасць, а другі быў памешчык Корсак, бядней-

шы пан, але меў харошых лашадзей. Ну, вот у Вільнюсе яны абедалі, снедалі, хто іх там знаець, і заспоралі.

Адзін гаворыць:

— Я імею многа іменіяў.

А другі гаворыць:

— Ай, ерунда, я твае за суткі, як там, абляту.

Ён меў добрых лашадзей і так не жалеў лошадзі, гнаў у гэту меснасць (а раньша было не Глыбокае, а дзярэўня Слабада). І ў возера глыбокае угнаў лошадзь, яму ж не жалка было. І вот далі названіе — Глыбокае.

## 356. АДКУЛЬ ГОМЕЛЬ

Там, дзе цяпер стаіць Гомель, пасярэдзіне ракі Сож некалі было намыта шмат пяску. Каб плыты і баркі, што плылі па рацэ, не ўзбіліся на мель, на беразе каля гэтага месца заўсёды стаяў чалавек і крыкам папярэджваў:

— Го! Мель! Го! Мель!

Вось і пайшло Гомель.

## *357. [ДАВЫД-ГАРАДОК]

На астравах ракі Гарыні знаходзіцца мястэчка Давыд-Гарадок. Паданне кажа, што яно заснавана ятвягамі, а іменна іх князем, які пры хрышчэнні прыняў імя Давыда.

## 358. АДКУЛЬ ДЫВІН

Было тут мора. Заязджалі на лодках украінцы. Адзін другому гаворыць:

— Дывысь, тут можна аддыхнуць.

Ад таго і Дывін.

## 359. АДКУЛЬ ЗАБЛУДАЎ

Паказваюць старыя людзі, што на том месцы, дзе цяпер Заблудаў, былі калісь вялікія лясы... Моцны божа! Хто б мог спадзяваціся, што ў гэтых месцах, дзе цяпер такія балоты і тапеліцы, былі калісь вялікія лясы.

Гля! То ж шчэ бацька, ці дзед старога Н. кеміў, як у гэтым месцы выводзіліся мядзведзі. Паказваў, што здзесь за гародамі,

каля могілак, у том месцы, дзе цяпер шчэ стаіць шэсць ці сем хвоек, мядзведзіца вывела дзяцей... У лесе шчэ й цяпер е адна сасна, што завецца мядзвежаю. Хоць ужо й зацягнула абанонею, але шчэ-такі й цяпер знаць, што да палавіны борць была вылуплена калісь мядзведзем. Кажуць, што то калісь мядзведзь выглядаў, дабіраючыся да пчол. То, мусіць-то, калісь былі тут немалыя лясы, калі аж мядзведзі выводзіліся.

Ото ж то ў тых вялікіх лясах ездзіў раз сабе на паляванне якісь магнат ці ксёнжа і заблудзіўся ў лесе. Блудзіў ён па лесе, блудзіў і ніяк не мог нікуды выехаці. Нарэшце, змучыўшыся, захацелася яму і есці. Так ён паабедаў на дубовым пню і ў том месцы было пабудавана цяперашняе месца Заблудаў. То ж ад таго, кажуць, і Заблудавым завецца, што ў гэтым месцы заблудзіў той ксёнжа. Дзесь, бадай, і ў вопісах е, што месца Заблудаў стаіць над рэчкаю Мелетына, а пабудавана на дубовым пню. Шчэ нядаўна,за нашае памяці, быў у месцы замак і стаяў там, дзе цяпер двор. Іншыя шчэ кемяць, як у ём жыў ксёнжа Радзівіл. Лет будзе можа за дванцаць, як раскідалі той палац.

## *360. [АДКУЛЬ ІВЯНЕЦ]

Вельмі-вельмі даўно адна дужа багатая княгіня, якая няведама адкуль праязджала цераз гэту мясцовасць, засела разам з павозкаю і коньмі ў невялікім балоце. Цяпер яно высахла і знаходзіцца ў мястэчку, пасярод якога, нібы ў памяць аб мінулым, працякае невялікая ручаіна.

Жыхароў навокал не было, і таму паратунку было чакаць неадкуль. Княгіня адчувала немінучую пагібель, пачала маліцца і ў гэты час убачыла недалёка цудоўную жанчыну, якая віла вянок з кветак.

— Як мне выратавацца ад няшчасця, што спасцігла мяне? — запытала княгіня ў жанчыны.

— Згадзіся насяліць гэту мясцовасць народам,— сказала жанчына.

— Згаджаюся,— адказала княгіня.

Коні яе адразу выйшлі з балота, нібы з ручая, не адчуваючы ніякага цяжару.

Тады княгіня запыталася ў жанчыны:

— Як назваць гэта месца?

— Ці бачыш у маіх руках вянок? — запытала дзіўная жанчына.

— Бачу,— адказала княгіня.

— Так назаві новае месца Івянцом! — сказала цудоўная жанчына і знікла...

## *361. ПРА КАЖАН-ГАРАДОК, МАЙДАН І ВІДУШАВУ ГАРУ

З даўніх часоў насельніцтва гарадка займалася не толькі рыбнай лоўляй і сплавам лесу, але і вырабам скуры. Адсюль і пайшла яго назва: на польскай мове — «Скужа́ны грудэк», а па-руску — «Кожевенный городок»...

Адна з ускраін мястэчка называецца Майдан. Кажуць, што тут стаяла калісьці татарская конніца. З тых часоў і захавалася гэтая назва, бо на татарскай мове слова «майдан» азначае і плошчу, і рынак, і месца, дзе стаяць коні.

Узвышша каля Майдана мясцовыя людзі называюць Відушавай гарой. Існуе паданне, быццам менавіта тут быў пахаваны славуты рымскі паэт Авідый. Лічуць, што ён нібыта загінуў недзе на Палессі і пахавалі яго тут. З гэтай прычыны гару і пачалі называць Відушавай...

## *362. [ПРА КАПЫЛЬ]

Мястэчка Капыль цягнулася на пятнаццаць вёрст. Бліжэйшыя вёскі былі злучаны з мястэчкам. Гэта Кацельнікі, за тры вярсты ад таго, што там быў катляны завод, Ніскавічы, чатыры вярсты,— нізкі рынак. Стары Капыль, у шасці вярстах — Старое места. Але пажарамі, якія і цяпер часта здараюцца, усё было знішчана, засталося толькі маленькае мястэчка, славутае сваімі кірмашамі і штотыднёвымі базарамі.

## 363. АДКУЛЬ КАПЫЛЬ

Даўно гэта было, многа стагоддзяў таму назад. Там, дзе зараз Капыль, стаяў замак багатага князя. Недалёка ад замка цякла рэчка, якая разлівалася шырокім возерам каля княжацкіх харомаў. А ў князя была адзіная дачка, ды такой прыгажосці, што князь не дазваляў, каб глядзелі на яе простыя людзі. Князёўна жыла ў святліцы, якая знаходзілася ў высокай вежы замка. Толькі адтуль праз вакно яна магла пазіраць на навакольны свет, любавацца хараством палёў, лясоў і рэк. Звалі князёўну Паліна, Поля. Аднойчы летам каля замку з'явіўся малады пастух, які вельмі хораша іграў на дудачцы, якую ён сам зрабіў. Князёўна пачула дзіўную песню і вельмі зацікавілася музыкам і яго ігрою. Тады яна пераапранулася ў сялянскую дзяўчыну, незаметна ад варты спусцілася з вежы долу і прыбегла на бераг возера, дзе пастух пасвіў свой статак. Тут яна ўбачыла прыгожага хлопца, які, угледзеўшы прыгажуню-дзяўчыну, не мог адарваць вачэй ад яе. Ён

адразу пакахаў яе і зайграў так, што ўсё навокал зрабілася нібы зачараваным тою ігрою. Коля (так звалі пастуха) дамовіўся з Поляй, што ўначы, як толькі ўзыйдзе месяц, яны пойдуць на возера катацца на чоўне.

Князь быў у паходзе, і яны так сустракаліся штоноч. Вярнуўшыся з паходу, князь даведаўся аб тых спатканнях. Княжну замкнулі ў вежы. Бацькі меркавалі выдаць яе замуж за багатага прынца. І вось у канцы лета, у цёмную рабінабую ноч, калі шугала навальніца і бушавала возера, пастух падплыў на чоўне да самага замка і на жалейцы падаў голас сваёй каханай. Князёўне ўдалося выбрацца з вежы, і маладыя людзі кінуліся наўцёкі. Князь падняў на ногі ўсю чэлядзь, каб злавіць уцекачоў. Князь убачыў дачку з пастухом на чоўне сярод бурных хваль, калі возера асвяціла бліскавіца. І зноў усё знікла ў непрагляднай цемры. А калі навальніца сціхла і развіднела, на возеры нікога ўжо не было. Возера паглынула ўцекачоў. Тады ў роспачы бацька пракляў і возера, і рэчку, якія ў той жа момант праваліліся ў зямлю, а месца гэтае пасля таго сталі называць, злучыўшы імёны тапельцаў Колі і Полі,— Ко-Поль, а пазней Капыль, ды так і засталося — Капыль. І сёння Капыль.

## 364. ЯК УЗНІКЛІ КЛІМАВІЧЫ

З далёкага Пецярбурга трапілі да нас нейкія вяльможныя паны, можа, нават сам цар. Ездзілі тады ж яны не машынамі, а ў карэтах. Трапілі яны з карэтаю ў наша балота і загрузлі. Ніяк не маглі самі выцягнуць карэту з гразі.

Жыў там толькі адзін чалавек з сям'ёй. Звалі яго Клім. Пачуў ён, што паны загрузлі, і пайшоў іх ратаваць.

Запрог ён валы, прывязаў вяроўкаю карэту і выцягнуў яе. Узрадаваліся паны.

Загадаў тады цар пабудаваць горад і назваць яго Клімавічы.

## *365. [АДКУЛЬ УЗЯЛАСЯ НАЗВА КРЫЧАЎ]

Там, дзе зараз стаіць Крычаў, некалі людзі прыносілі афяры сваім багам. Але раз прагучаў голас зверху, які загадаў кінуць паганства і хрысціцца. Ад таго крыку і назвалі гэта месца Крычаў.

## 366. АДКУЛЬ ЛЕПЕЛЬ

Ехала царыца Кацярына праз нашы месцы. Так тут красіва было. Панаравілася ёй. Едзе і гаворыць:

— Пышна, пышна!

За тое і наша вёска стала называцца Пышна. А як у Лепель прыехала, а там і возера, яшчэ красівей. Так тады:

— А тут і лепей.

От і пайшло: Лепель.

## *367. [ПРА ЛОСКІ ЗАМАК]

Будавалі Лоскі замак не з цэглы і не з граніту, а з «дзікіх» каменняў — валуноў і глыжакоў, якімі былі ўсеяны лоскія палі і лясы. Спачатку сабралі ўсе да адзінага каменя на тры вярсты вакол Лоска, але хапіла іх толькі на падмурак. Вось тады і быў выдадзены загад: кожны, хто едзе ў Лоск на кані, павінен прывезці і здаць варце не меней чым тузін каменняў, а кожны пешы, хоць у торбе, хоць у кішэні, таксама павінен прынесці камень.

Калі каменняў назбіраліся горы, іх рассартавалі па велічыні, па колеры і пачалі ўзводзіць сцены замка. Спачатку паклалі ў зямлю самыя вялікія валуны, усе чорнага колеру. Далей пайшлі рады сіняга каменю, за імі — карычневага. І чым вышэй узнімаліся сцены замка, тым яны рабіліся ўсё больш светлыя, яркія. А самы верх сцен, зубцы над імі і вежы былі выкладзены з чырвоных каменняў.

І вось, калі, нарэшце, замуравалі ў высокія замкавыя сцены апошні камень пунсовага колеру, сабраліся над Лоскам хмары і пайшоў дождж. Ён ліў усю ноч, змываючы з новых замкавых сцен пясок і гліну. А калі раніцою жыхары Лоска зірнулі на замак, то раптам убачылі, што ўсе яго зубцы і вежы, хоць сонца яшчэ не ўзышло, залівае яркае-яркае, вогненна-чырвонае святло.

З таго часу ў любое надвор'е, калі — палохаючы ворагаў, калі — здзіўляючы гасцей, з раніцы і да цямна свяціўся чырвоным зарывам Лоскі замак.

На пабудову замка пайшло ўсё каменне. Цяпер, калі хто хацеў пакласці камень у падмурак хаты, мусіў купляць яго ў замку або ехаць па каменне аж пад самую Вільню. Так мучыліся людзі да таго часу, пакуль, нарэшце, не пачалі трэскацца і рассыпацца сцены старога замка. Вось тады той-сёй і заўважыў, што кожны камень, які зрываўся з замкавай гары, каціўся да таго часу, пакуль не трапляў на тое самае месца, з якога калісьці паднялі яго і завезлі на Лоскі ўзгорак.

## *368. [ГОРАД ЛУКОМЛЬ]

Лукомль быў некалі вялікі горад, раскінуўся на сем вёрст, а вакол яго быў вал з каменнымі сценамі; і стаялі там тры каменныя замкі, з якіх адзін быў абнесен жалезнай агароджай; але пазней горад спалілі. Сляды горада Лукомля захаваліся на берагах агромністага (сямі вёрст у акружнасці) возера, якое і цяпер завецца Лукомльскім: з аднаго боку гэтага возера, амаль у балотах, ляжыць абнесены рвом лукомльскі засценак, дзе ў невялікім доме жыла княгіня Лукомльская; каля засценка захавалася частка каменнай сцяны і вялізны насып, на якім відаць сляды каменнага фундамента нейкага збудавання, можа быць, замка.

## *369. АДКУЛЬ ЛУНІН І ЛУНІНЕЦ

Наша сяло старэйшае за горад. Ад Луніна і Лунінец паходзіць. Сяло Лунін з даўніх часоў вялікае. Жыхароў тут заўсёды было багата, а на месцы горада Лунінца нічога не было. Ніхто там не жыў. Толькі дзікія качкі плёскаліся ў лужыне. Неяк адзін з жыхароў Луніна аддзяліўся ад сваякоў. Пасяліўся ён якраз там, дзе цяпер знаходзіцца горад. Пабудаваў сабе хату, узараў зямлю, пасадзіў сад, наладзіў гаспадарку. Неўзабаве яго сядзібу пачалі называць «Лунінцам», бо там жыў лунінец, чалавек з Луніна...

Даўно, вельмі даўно. Ніхто не памятае, калі. Багата, багата часу мінула. Нашы прадзеды ад сваіх дзядоў чулі. Вось калі гэта было, добры чоловічу.

Час ішоў, патомства лунінца павялічвалася. Унукі і праўнукі будаваліся па суседству, жылі побач. З хутара вырасла акружаная лясамі вёска, за якой назаўсёды захавалася назва «Лунінец», як памяць аб яе заснавальніку, першым перасяленцы з Луніна. Вёска ператварылася потым у гарадок.

## *370. МАШЭКА

### [Пра заснаванне Магілёва]

На тым месцы, дзе цяпер Магілёў, стаяў цёмны, непраходны лес, які не прапушчаў нават сонечныя праменні; ад яго і Дняпру было цесна; а Днепр у той час быў шырокі і сярдзіты. У тым лесе жыў страшны разбойнік, якога звалі Машэкам. У яго была такая вялікая сіла, што адною рукою спыняў экіпаж з васьмерыком коней на ўсім скаку, ухапіўшыся за калясо, і адным разам вырываў з карэннем высокія сосны; а хадзіў ён у мядзведжай шкуры, поўс-

цю ўверх. Не такі тады быў народ, як цяпер, многа было асілкаў; але ўсе дрыжалі перад Машэкам, і пяць дзесяткаў нічога не змаглі зрабіць супраць аднаго. Машэка наводзіў жах на ўсе навакольныя селішчы. Нягледзячы на тое што людзі жылі тады вялікімі сёламі, ён не баючыся прыходзіў у кожнае сяло і браў, што яму было трэба: усюды самі адчынялі яму вароты, абы толькі пакінуў душу ў целе. Не раз выходзілі супроць Машэкі цэлымі палкамі; але ён жыў у такой непраходнай пушчы, што ніхто не знаходзіў не толькі яго бярлогі, але і дарогі назад, і ўсе або паміралі з голаду, або гінулі ад удару кісцянём. Але і на Машэку прыйшла пагібель. Чаго не маглі зрабіць сотні людзей, тое зрабіла адна жанчына.

Раз па дарозе праз лес ехала плеценая брычка, запрэжаная васьмерыком коней. У ёй сядзеў малады мужчына з прыгажуняй жанчынай. Тут з'явіўся Машэка з-за агромністай елкі; мігам спыніў брычку і ўраз забіў кучара, што той не паспеў нават азірнуцца. А той, што сядзеў у брычцы, бачыць, што тут кепскія жарты, выхапіў шаблю і з усяго размаху ўдарыў Машэку па галаве, але шабля зламалася аб стальное шчаціннe, а мужчына прырос да свайго месца ад аднаго ўдару разбойніка. Але, глянуўшы на жанчыну, Машэка стаў, як укопаны: ён пазнаў у ёй старую знаёмую; гэта яна, адхіліўшы яго любоў, прымусіла падружыцца з буйным ветрам.

Ачуняўшы пасля здзіўлення, Машэка ўзяў у свае лапы паўмёртвую ад перапуду прыгажуню і аднёс у сваю бярлогу. Тут яна апрытомнела, зразу зразумела сваё становішча і склала план, як загубіць разбойніка. Прыкінулася лагоднаю, паслухмянаю, і разбойнік зусім ёй даверыўся. І вось раз ён бяспечна заснуў пры ёй моцным сном; яна асцярожна дастала вялізны нож, і кроў лінулася ракой з разрэзанага горла разбойніка. Учыніўшы гэту справу, прыгажуня неяк выйшла на дарогу, прыйшла да сваіх і паказала ім праклятае месца, дзе з вялікім ганьбаваннем закапалі таго людаеда, і назвалі тое месца Магілаю льва.

Недалёка ад таго месца знайшлі высокі бугор або гару, якая ўся была абліта крывёю і ўсыпана касцьмі нявінных ахвяр зверстваў Машэкі. Гэта гара і цяпер называецца Машэкаўкай, ці Мышакоўкай, на ёй знаходзяцца гарадскія могілкі.

Пасля Машэкі тут жыло яшчэ многа разбойнікаў, для знішчэння якіх уладары гэтага краю назначылі гэта месца для ссылкі злачынцаў.

Ссыльныя памалу высеклі лес і прагналі разбойнікаў. Пазней на тым месцы заснавалі горад, які ці ад магіл забітых разбойнікамі людзей, ці ад магілы льва-Машэкі назван Магілёвам.

## *371. ПРА МАГІЛЕЎ

...Сядзіць пад заветным дубам добры моладзец Машэка, вытрашчыў чорныя свае вочы ў сярэбраную даль і думае думу пра сьаю любу, пра сваю Прадславу. Запёрта бедная яна цяпер у душным цераме за сям'ю замкамі і не выйсці ёй адтуль. Баліць у яе сэрцайка, рвецца да дружка сардэчнага, а не ведае яна, што сядзіць ён недалёчка ад яе церама і думачку думае: «Ах, люба, люба мая, Прадслава мая, сонейка краснае, каб ты была тут каля мяне, каб прыйшла, уцешыла ты мяне, сіраціначку!»

Раптам, нібы светлая хмарачка на небе, выплыла з бліскучай імглы белая здань жанчыны. Ускочыў Машэка: пазнаў ён у гэтай здані сваю Прадславу, і крык захаплення гатоў быў ужо зляцець з яго вуснаў, але ў гэта імгненне з той жа імглы паказалася іншая постаць, чорная, з бліскучым шышаком на галаве. Пацямнела ў вачах у Машэкі. Нібы скрозь сон убачыў ён, як кінулася Прадслава ў абдымкі чорнаму рыцару і як вусны іх зліліся ў пацалунку. Нібы ў сне, кінуўся ён да здрадніцы і толькі тады схамянуўся, калі алая кроў саперніка пачырваніла зямлю. Бледная, дрыжучы, стаяла прад ім Прадслава і такою жаласнаю здалася яна яму ў той час, што ён не пажадаў нават забіць яе і, адвярнуўшыся, пайшоў куды вочы глядзяць. Ішоў ён доўга і чым далей ішоў, тым усё больш і больш накіпала ў ім злосці супраць усяго роду чалавечага, тым мацней разгаралася ў ім прага да помсты.

І гатоў ён быў затапіць увесь свет кроўю людскою. Так дабрыў ён да правага берага Дняпра, да Гваздоўкі, страшнага логава разбойніка Гвазда́, укленчыў ён прад ім і сказаў:

— Вазьмі мяне, Гвозд, к сабе ў памочнікі, не зганьбую цябе і твайго рамяства. Прывяла мяне да цябе злосць лютая і помста страшэнная, і даю я табе зарок вялікі не пашкадаваць ніводнай душы жывой, а калі пашкадую, дык няхай я ад яе і загіну.

— Добра,— сказаў Гвозд,— ідзі вон за роў і працуй.

Пайшоў Машэка на другі бераг рова, заснаваў там сваё логава, назваў яго Машэкаўкаю і зрабіўся гразою ўсяго краю.

Мучыў і забіваў ён няшчасных падарожнікаў, рагатаў з іх просьбаў, здзекаваўся з іх слёз і не шкадаваў нікога: ні старых, ні дзяцей, ні мужчын, ні жанчын. Памёр даўно ўжо Гвозд, а Машэка за дваіх працягваў паліць і рабаваць, забіваць і мучыць. Але не мог Машэка кроўю затапіць сваіх пакут: любімы вобраз часта паўставаў перад ім у начной цішы, і плакаў тады страшны Машэка, як малое дзіця, і праклінаў свой злы лёс.

Раз была такая ж месячная ноч, як і тады, калі ў апошні раз ён бачыў сваю любую. Сядзеў Машэка на камні, журботна звесіўшы галаву на грудзі, лёгкі ветрык гуляў рана пасівеўшымі яго

валасамі, і слёзы адна за другою буйным дыямантам падалі на зямлю і зліваліся з расою. Раптам пачуўся конскі тупат, гам і шум. Праз мінуту яго шайка прывяла яму двух новых палоннікаў.

— Як іх пакараць? — пытаюць яго малойцы.

Але Машэка маўчаў і шалёнымі вачамі пажыраў жанчыну, што стаяла перад ім. Гэта была яна, гэта была Прадслава. Нарэшце, нібы апрытомнеўшы, правёў рукою па лобе, махнуў рукой на спадарожніка Прадславы і, ухапіўшы за руку сваю любу, павёў яе ў свой курэнь. Тут, паваліўшыся перад ёю на калені, пачаў цалаваць яе рукі і плакаць, і смяяцца, і папракаць.

— Не палюбоўніка майго забіў ты,— сказала яна яму,— забіў брата майго, які быў у апале ў бацькі і патаемна са мною бачыўся, але я даравала табе, мой любы. Я доўга чакала цябе і вось, нарэшце, убачыліся. Кінь твой страшны занятак і ўцякаема, уцякаема туды, дзе ніхто не ведае нас.

— Бяжым, бяжым, мая люба, бяжым, але толькі заўтра, а сёння дай адпачыць на грудзях тваіх ад стольківх жахаў і пакут.

— Добра,— сказала Прадслава.

Але не доўга адпачываў Машэка. Толькі салодкі сон заплюшчыў яго вейкі, як каварная яго люба ўткнула яму, рагочучы, у горла востры нож.

— Памры, сабака,— прамовіла яна.— Хоць і загіну ад тваёй подлай чэлядзі, але я ведаю, што адпомсціла табе і за сябе і за ўсіх.

Прадслава не памылілася: шайка закапала яе жыўцом разам з забітым ёю Машэкам і, насыпаўшы над ім курган, назвала яго Магілаю Льва. Адсюль і ўзнікшы потым на гэтым месцы горад пачаў называцца Магілёвам.

## 372. ЯК УЗНІКЛА НАЗВА МАЛАДЗЕЧНА

Расказваюць, што, калі Беларусь знаходзілася пад Літвой, жыў у той час на Беларусі вялікі князь літоўскі. А было ў яго два сыны. Падараваў князь маладзейшаму сыну невялічкае мястэчка і сталі называць яго — што маладзейшы сын — Маладзечына. А потым вырас там горад Маладзечна.

## *373. [АБ ПАХОДЖАННІ МІНСКА]

Народнае паданне кажа: між Татарскім канцом і Пярэспенскім немастком ля самага цяперашняга Віленскага паштовага тракта некалі пасяліўся знакаміты волат-чараўнік па празванню Менеск, або Менскі, і збудаваў на Свіслачы вялікі каменны млын на сямі калё-

сах. Гавораць, што ніхто яго ніколі не бачыў, а між тым на ўсім свіслацкім наваколлі ўсе расказвалі аб яго сіле і магутнасці. У яго млыне нібыта мука малолася не з жыта, а з камення, што ўначы чуліся там нейкія дзіўныя крыкі, галёканне, песні, музыка і скокі, што ў поўнач раз'язджаў ён на сваім млыне на дарогах і збіраў дружыну з дужых людзей, з якіх потым утварыўся цэлы народ, які пачаў сяліцца побач з млыном чараўніка... Ад таго часу ў Мінскім павеце захавалася прымаўка: «Не пайду я да Менска ад шляху Віленска; а пайду па шляху Віленскім, спаткаюся з Менескам».

### *374. [ЯК ПАЎСТАЎ МІНСК]

Горад гэты заснаваны нейкім асілкам і чарадзеем Менескам, які прыйшоў сюды з Польшчы. Менеск нібыта пабудаваў на рацэ Свіслач млын на сямі колах і малоў хлеб з камення. Ад такой выгаднай «работы» ён хутка разбагацеў і пачаў задаваць на сваім млыне піры, на якія запрашаў мноства гасцей.

Ён набраў сабе дружыну і па начах раз'язджаў з ёю па наваколлі, рабаваў сёлы і вёскі, падарожных. Яму мала было набытага багацця і хацелася мець столькі грошай, каб скупіць усе землі навокал.

Мясцовасць, дзе жыў гэты чарадзей, і яго млын пачалі называць Менескам.

За яго ўчынкі-зладзействы яго зненавідзела ўсё насельніцтва. Знайшлі чарадзея, больш магутнага за Менеска, і ўпрасілі яго прагнаць са Свіслачы злодзея мельніка. Чарадзей той паслухаў людзей: ён спаліў млын і сваімі чарамі прымусіў Менеска перабрацца ў іншае месца. Але паселішча, якое ўзнікла каля млына, захавала сваю ранейшую назву — Менеск.

### 375. АДКУЛЬ НЯСВІЖ

Нясвіж стаіць ужо каля васьмі вякоў. А адкуль пайшла яго назва, людзі расказваюць так. Як вядома, любімымі занияткамі князёў былі паляванне і розныя там забавы. Навакол княжнага замку некалі далёка распрасціраліся дрымучыя пушчы ды непраходныя балоты. Аднойчы князь разам са сваёй чэляддзю паляваў на мядзведзяў. Адзін звер быў паранены, але ўцёк. Праз некалькі дзён князь зноў быў на паляванні ў тым баку. Адзін з яго стральцоў знайшоў таго мядзведзя, але ўжо мёртвага. Князь пад'ехаў да яго, агледзеў ды і кажа:

— Не свеж.

Вось і пачалі тое месца называць Нясвеж, Нясвіж.

## 376. АДКУЛЬ ГОРАД НЯСВІЖ

Калі князь Радзівіл зрабіў замак, абнёс яго ровам і надумаўся залажыць горад каля яго, ён доўга думаў, як назваць гэты горад. Потым ён кажа свайму слугу:

— Ідзі, і якое ты слова першае пачуеш, так я і назаву горад.

Слуга пайшоў, і там, дзе цяпер Новае Месца, ён сустрэў чалавека, які нёс рыбу.

— Ці свежы ў пана карп? — пытаецца слуга.

— Не свеж,— адказвае чалавек.

Слуга пайшоў да князя Радзівіла і сказаў, што першае слова ён пачуў «Не свеж».

Адгэтуль і пачалі называць горад Нясвіж.

## 377. ПРА НЯСВІЖ

На тым самым месцы, дзе цяпер стаіць Нясвіж, было некалі старажытнае паселішча. Але аднойчы тут здарылася няшчасце: паселішча правалілася ў зямлю, а на яго месцы засталіся толькі ямы да ўзгоркі. Невядома, колькі часу прайшло пасля таго, як тут зноў пасяліліся людзі. Але паколькі месца гэтае было «не свежае», бо тут некалі жылі людзі, дык яго і назвалі Нясвіж.

## *378. [АДКУЛЬ ПОРАЗАВА]

У час літоўскіх князёў здарылася адной літоўскай князёўне праязджаць цераз ручай, што ўпадае ў Рось. Пры праездзе коні і каляска, на якой ехала князёўна, заселі ў твані. Убачыўшы гэта, жыўшыя ў той час на беразе ліцьвіны-рыбаловы ўзялі вяроўкі, прыбеглі і вяроўкамі выцягнулі каляску з коньмі. Князёўна зацікавілася, чым яе выратавалі, запытала, як гэта завецца, паказваючы на вяроўкі.

Ей сказалі:

— Паўроз.

Дык князёўна назвала і сам ручай, у якім засела разам з каляскай і коньмі, Паўрозаў і загадала пабудаваць мястэчка пад той жа назвай.

## 379. [ПРА ГОРАД ПРУЖАНЫ І РАКУ МУХАВЕЦ]

Палешукі паказваюць, што Мухавец калісь быў не жарты які вялікі, так гэта крулева Бона наманула, канешне, тамака залажыць места, дый то нібаўкі і паехала, узяўшы з сабой дзіця сваё.

Прыязджае пад Мухавец, а на ём быў мост надта благі, дый то як з'ехалі, так і заваліліся ў ваду. А ў той вадзе быў нейкі змей, дый то хапануў тое дзіця, дый глынуў. Так яна закляла яго:

— Каб гэты Мухавец зышоў на мізінны палец.

І такі на гэта выйшла, бо ўлетку, як падчас добра прыпячэ, то й зусім высыхае.

Потым-такі Бона залажыла места і назвала Пружаны.

## 380. АДКУЛЬ СТОЎБЦЫ

На месцы сучасных Стаўбцоў некалі сходзіліся ўладанні, граніцы ўладанняў трох князёў. У зямлю былі закопаны стоўбікі, якія называліся стаўбцамі.

На гэтым месцы пасяліліся людзі і знайшлі стаўбы, закапаныя ў зямлю. Так і сталі называць гэта месца.

## 381. АДКУЛЬ СТОЎБЦЫ

На тым месцы, дзе цяпер Стаўбцы, некалі быў лес. У гэтым лесе нейкі князь пабудаваў манастыр, і доўгі час там жылі манахі. Аднаго году яны ўсе вымерлі ад чумы. Манастыр апусцеў. Рашылі, што гэта божая кара.

Манастыр разбурыўся. А на тым месцы закапалі тры стоўбікі ў знак таго, што нельга сяліцца.

Але прайшоў час і па загаду князя тут пачалі сяліцца людзі. Яны знайшлі закапаныя стоўбікі і назвалі гэта паселішча Стаўбцы.

## *382. МЯСТЭЧКА ТАТАРСК

Атрымала сваю назву ад першапасяленцаў, некалькіх сем'яў татарскага племя з часоў нашэсця татар на Расію. Але ў хуткім часе яны былі выгнаны, а замест іх пайшлі яўрэі, якія склалі мястэчка, і назва яго засталася па першых насельніках.

## 383. [ПРА ТУРАЎ]

Гэта было ўжо даўно. Там, дзе цяпер Тураў і бліжэйшыя вёскі, былі драмучыя лясы. Рака называлася тады Струменню. Прыпяці зусім не было. Цякла Струмень там, дзе і цяпер, але была вялікая. Язда таксама была вялікай ракой, цяпер ад яе засталася невялічкая жываточынка.

У гэты час прыйшоў князь Тур з вялікім войскам. І прыйшоў ён сюды таму, што былі тут вялікія выгоды — звяры, рыба і рознае птаства.

Аднойчы князь Тур лёг спаць на гары. Заснуў ён і бачыць, быццам ляжыць ён на паднятым возе, а кругом яго — гарады. Ён быў тады самы хітрэйшы і не было яму з кім параіцца. Ён зразумеў, што трэба яму будаваць вялікі горад.

Князь Тур пачаў будаваць горад. І быў горад такі вялікі, што і Верасніца, і Рычоў, і Дварэц, і Азяраны, і іншыя вёскі былі пад ім. Будаваў князь Тур гэты горад не абы-як: спачатку насыпаў Тур рачнога пяску тоўсты слой. Пасля пачаў паліць лес і насыпаў пласт дробнага вугалю ў тры аршыны. Потым надралі і палажылі пласт бярозавай кары; пасля кары насыпалі бітых гаршкоў; пасля — звярыных касцей. У канцы засыпалі пласт сленю (чашуі) з пароды язя — і ўсё гэта засыпалі зямлёю.

Уезныя вароты былі каля Азяран. У асяродку горада выкапалі калодзеж, які называецца Тур-калодзеж.

Ездзіў Тур на паляванне ў тое месца, дзе цяпер Буразь. І было там балота, лясы і многа звяроў. Рубіў Тур звяроў, седзячы на кані, і назваў гэтае месца «Буй-раз» (разіў буеў).

Пасля Тура быў князь Уладыка. Пры ім у Азяранах былі вялікія вароты, а пры варотах замок. Калі разбурылі Тураў, дык развaліліся вароты і выпаў замок. Ішла аднойчы карова, папала нагой у замок. А замок той быў дзесяць фунтаў. Там, дзе жыве Курбан, жыў Уладыка і называецца тое месца «Уладыкіна». З уладыкінага дварца быў у Тураў насып, а праз раку Язду — мост. Пры Уладыку былі папы і ксяндзы. Аднойчы ішоў поп служыць вячэрню. На яго напалі ваўкі і з'елі... Памёр Уладыка, і пахавалі яго ў каменным гробе, які гадоў колькі назад знайшлі.

Пасля Уладыкі быў князь Комар, а пасля Комара — княгіня. Імя яе невядома. Вядома толькі тое, што была яна вялікая чараўніца. Калі на Тураўшчыне ў той час разышлася маравая пошасць, дык гэтая княгіня загадала закапаць у зямлю нямога чалавека, жывога бабра і жывога мядзведзя. Калі іх закапалі, дык зрабілася гара, якая называецца Бабруйкава Гара. Пасля гэтага пошасць тая спынілася.

Прыходзілі на Тураў розныя ворагі, але чараўніца-княгіня бараніла. Прыйшло раз вялікае войска, абклала яно Тураў і застанавілася там, дзе цяпер Перадол. Княгіня звязала шчотку з свіной шчаціны і кінула. Ворагу здалося, што параслі вялікія камышы; кінула яна курынае яйка, а ворагу здалося, нібыта разлілася вялікая вада. Доўга стаялі паходнікі, але не хапіла ў іх жыўнасці і харчоў. Сталі мерці яны самі і іх коні. На тым жа месцы, дзе пасліся коні, з'явілася лашчына — «Перадол».

Калі ў другі раз прыйшлі к Тураву ворагі, дык княгіні-чараўніцы ўжо не было, і не было каму бараніць Тураў.

Тураў быў вялікі тады горад. У ім было сорак пяць цэркваў.

Непрыяцель выразаў старых і малых, і жанок і служачых. Дзяцей пакідалі ў калодзеж, але вада перарабілася на малако. Гэтым малаком карміліся дзеці, выраслі і ад іх зноў завёўся народ.

Адзін жа чалавек забраўся ў буслава гняздо і сядзеў там, пакуль не прайшла ўся бяда. За гэта яго празвалі «Бусліны». Другі чалавек забраўся ў яму, сядзеў там ды еў вялёную рыбу; яго і яго патомкаў празвалі «Сядуны».

Пасля разбурэння горада епіскопія перабралася ў Пінск, з Пінску ў Бабруйск, і дваццаць пяць гадоў судзіўся Тураў, каб адсудзіць епіскопію сабе назад.

На Тураўшчыне ёсць лекавыя камні. Адзін стаіць у Верасніцы, другі ў Пагосце, трэці быў на Казаргаці, але яго перанеслі на другі канец Турава, каля Шата. Прыплылі яны з Кіева ўверх па рацэ.

Каля Верасніцы была рака, цяпер няма яе; па гэтай рацэ хадзілі ганчакі; ідзе ганчак, на ганчаку — народ. Вось бачыць чалавек адзін, што плыве нешта супраць вады, вельмі падобнае да чалавека. Ударыў ён ляскай па камені, растапіўся камень, але не разваліўся, а чалавека таго сагнула, скручыла — і памёр ён скора. Я сам бачыў гэты камень і прыкметна тое месца, дзе раскалоўся ён і зрося.

Адна жанчына ў Рычове аслепла. Раз бачыць яна ўва сне, што трэба ёй ісці да каменя, абскабліць яго і выпіць з вадой. Яна прачнулася, зрабіла так, і скора пасля гэтага паздаравела.

## *384. [ПРА ТУРАЎ І КАЛОДЗЕЖ ТУР]

Тураўцы лічаць заснавальнікам Турава легендарнага Тура, там вядомы нават калодзезь Тур. Гэта не звычайны калодзезь. У ім тры дны: меднае, сярэбранае і залатое. Калі прарвецца залатое дно — канец свету, зямля ператворыцца ў суцэльны вялікі акіян.

Калодзезь Тур выкапаў сам заснавальнік Турава, князь. Таму і называецца так.

## 385. АДКУЛЬ УЗДА

Пад Койданавым рускія войскі разбілі татараў, а сам татарскі атаман Кайдан уцёк. Але рускія дагналі яго там, дзе цяпер Узда стаіць, і ранілі. Падаючы з сядла, Кайдан ухапіўся за ўзду свайго каня і сказаў:

— Вось дзе напаткала мяне смерць.

На тым месцы пачалі будавацца людзі, і пасяленне тое назвалі Узда.

## 386. АДКУЛЬ УЗДА

А яшчэ расказваюць, што даўно-даўно, калі тут яшчэ нічога не было, праязджаў неяк рускі цар і згубіў залатую ўзду. Яго слуга, шукаючы тут залатую вуздзечку, ездзіў на кані то ў адзін бок, то ў другі. А чалавек адзін, бачачы гэта, спытаўся ў конніка, чаго ён шукае. І той кажа, што шукае залатую ўзду. Вось адтаго быццам наша мястэчка і завецца Узда.

# ВЁСКІ

## 387. АДКУЛЬ ВЁСКА АДЗВЕРНА

Адзверны. Так называўся чалавек, які стаяў каля дзвярэй панскага палаца, паведамляў аб прыездзе гасцей, адкрываў перад імі дзверы.

За добрую работу пан узнагародзіў свайго адзвернага кавалкам зямлі. Потым паступова на гэтым месцы вырасла вёска Адзверна.

## 388. ВЁСКА АЗЯРАНЫ ВЯЛІКІЯ

Вёску Азяраны Вялікія навакольныя жыхары называлі раней Стралецкай вёскай, а азяранцаў — стральцамі...

Расказваюць, што стралец, які даў пачатак вёсцы, жыў на Міляцінай Гары. Яшчэ і цяпер на гэтым пагорку ляжыць каменне — рэшткі колішняй пабудовы...

## 389. [АДКУЛЬ АЛЕНДРЫ]

Кажуць, што Ганна Ябланоўская, якая была ўладальніцай горада Сямяціч і вялікіх маёнткаў у іх ваколіцы, пасяліла тут выхадцаў з Галандыі, і ад іх вёска заімела назву Галендры..., Алендры.

## 390. ВЁСКА АЛЬШАНЫ (ГАЛЬШАНЫ)

Альшаны — быў пан, князь, Ольша зваўся. У пушчы месца знайшоў, паляну такую красівую. Пачалі там будавацца. І пасяленне стала. Так ад таго і Альшаны. Замак там, і ў Медніках, і ў Крэве. А паміж імі падзямельныя хады, чацверыком можна ездзіць. А ў Альшанах так і паміж замкам і да кляштара.

## 391. ПРА АЛЬШАНЫ (ГАЛЬШАНЫ)

Гэта тут быў некалі Ольша такі і захацеў пастроіць Гальшаны. Тут было дзве рэчкі. Строілі мур. Казалі людзі, што перакідалі малаты на паветры.

А ў Альшанах Якмінаў мур. Тут быў памешчык, ён закупіў, а патом прыйшоў да яго дачкі ў прымы паследні пан Якмінаў. За тое і мур Якмінаў.

## * 392. [АДКУЛЬ ВЁСКА АСІПАВІЧЫ]

У народнай памяці захавалася, што заснавальнікам вёскі Асіпавічы быў... Восіп Валынец. Тут вельмі многа людзей з прозвішчам Валынец, а таксама ёсць і Дулебы.

## 393. АДКУЛЬ ВЁСКА БАБІЙ ЛЕС

Даўным-даўно, калі можна было ўсюдых хадзіць, і дзе хто хацеў, там можна было жыць, невядома адкуль і з якой стараны і краю прыйшла баба з дзедам; яна ўмела сеткі вязаць, а ён сіты і рэшаты плясці. Прыйшлі і селі на пні. Баба стала сетку вязаць, а дзед рэшаты плясці. Пастроілі сабе хатку, куронку, і сталі сабе жыць да пажываць. Праўда, што яны былі не вельмі яшчэ старыя, калі ў іх радзіўся сынок. Ад гэтага сынка і распладзілася цэлая дзярэўня, каторая цяпер і называецца Бабій Лес, што яе аснавала баба.

## 394. [БАБ'Я ГАРА]

Чаму Баб'я Гара?.. Бачыце, калі рака Нарва плыла вось тут, дзе цяпер нашыя лугі, а вакол рос непраходны лес, на пусты і глухі бераг вада выкінула нейкую бабу. Атрахнулася яна з мулу ды жабурэння, азірнулася, узабралася на пагорак, што непадалёк берага высіўся, ды і пачала на ім жыць. Так вось і павялася наша Баб'я Гара.

## *395. [АДКУЛЬ БАГАТЫРЭВІЧЫ]

Даўным-даўно ў [гэты] іх край прыйшло двое людзей. Яны шукалі «пустыннае месца». Відаць было па ўсім, што хацелі схавацца ад людскога вока. Ян, загарэлы, моцны, быў з простых людзей. Цэцылія — са знатнага роду. Ён сек дровы, яна збірала арэхі і

дзікія яблыкі. Яны моцна кахалі адно аднаго і былі шчаслівыя. Шэсць сыноў і дачок было ў іх.

Мінуў час. Нехта данёс літоўскаму князю аб уцекачах, і ён прыехаў са світай паглядзець на іх. Стогадовая пара ў суправаджэнні сыноў, дачок, унукаў і праўнукаў выйшла з хаты. Князь быў здзіўлены іх сілай і прыгажосцю. І вось за тое, што здолелі яны адваяваць у пушчы і дзікага звера гэтую зямлю,ператварылі берагавы наднямонскі лес ва ўрадлівае поле, сталі іх называць людзі багатырамі. Адсюль і пайшла назва вёскі — Багатырэвічы.

## *396. БАКШТЫ

...Даўным-даўно, калі ўвесь пушчанскі край пакарыў бязлітасны князь-Жмудзін, парашыў ён звесці са свету ўсіх мясцовых князёў. Хітрыкамі і падманам заваблівау іх да сябе ў замак і забіваў. Так ён расправіўся з трыма братамі, уладальнікамі Лоскага замка. Але застаўся яшчэ адзін княжыч-малалетак. Загадаў Жмудзін сваім людзям забіць і таго княжыча. Але не паднялася ў іх рука на бязвіннага хлопчыка. Забралі яго воіны з сабой, аднак давезлі толькі да вярхоўя Бярозы, прывязалі да чоўна і пусцілі той човен па цячэнні.

На трэці дзень вылавілі багамольцы ўжо зусім знямоданага ад смагі і голаду княжыча. Жылі яны ў захаваным у пушчы скіце. Яны і выхадзілі, выгадавалі княжыча. У Лоск княжыч больш не вярнуўся. На беразе Бярозы, у тым месцы, дзе вылавілі яго манахі, збудаваў ён драўляны замак-вежу. Сцены яго для трываласці былі настолькі прасмолены і закураны, што неўзабаве празвалі той замак «Чорнай вежай».

Ажаніўся князь з пушчанкай-прыгажуняй і нікуды адсюль не выязджаў. Паляваў, лавіў рыбу. Асабліва любіў прымаць у сябе, у замку, купцоў, што падымаліся на лодках-стругах з Нёмана або спускаліся па цячэнні з-пад яго роднага Лоска. Шчодра пачаставаўшы гандлёвых людзей, уважліва слухаў іх расказы-навіны.

Вось тыя купцы, яшчэ здалёку ўбачыўшы чорную княжацкую вежу, што ўзвышалася над лясамі, быццам бы і крычалі, паведамлялі ўсяму каравану: «Бакшты! Бакшты!..» З таго часу і паселішча, што пабудавалася каля княжацкай вежы, сталі называць Бакшты. А потым, калі ўжо скончыўся род бакштанскіх князёўпушчанцаў, іх старажытную бакшту-вежу вялікі князь ператварыў нібы ў турму.

## 397. АДКУЛЬ БАРБАРОЎ

Называлася раней Пад'елле. Быў тут фальварак іменія Рудобелкі, пана Лапы. А была тут памешчыца Барбара. Адсюль і названіе пайшло.

Ад Лапы іменіе па наследству перайшло да барона Врангеля.

## *398. БЕЗДЗЕЖ

Было гэта даўным-даўно. Продкі бездзежцаў, калі пяклі хлеб, быццам бы не карысталіся, як усе вакол, дзежкамі. Таму і вёску іх празвалі Бездзеж. Жылі яны ў глухім кутку Палесся і нібыта ніколі не чулі пра існаванне дзежкі.

## 399. ВЕСКА БЕЛАКОЗЫ

Пра вёску Белакозы расказваюць. Калі крулева Бона праязджала па гэтай мясцовасці, людзі выходзілі і выязджалі яе сустракаць — хто на кані, хто на карове. Адзін бядняк выехаў на белай казе. Таму і па сённяшні дзень называюць вёску Белакозы.

## 400. АДКУЛЬ ВЕСКА БЕРШТЫ

Калі па-суседству паны дзялілі зямлю, то гэтую ніхто не хацеў браць,— благая вельмі.

Адзін другому ўсё:

— Беш ты, беш ты.

Адсюль і Берешты.

## 401. ГЭТА СЯЛО НАЗЫВАЕЦЦА БІЛЬСК

Гэта сяло называецца Більск тым, што калісь вельмі і вельмі даўно — я гэтага не памятаю, тылька мне расказуваў мой дзід — жыў тут багаты памешчык. Звалі яго Більскім. У яго было вельме многа парубкоў. Маёнтак быў вялікі. Патом він кудысь выехаў. Перад ад'ездам він стаў прадаваці зе́млю, катораю він уладзеў. Людзі сталі прыязджаці з разных старон і купляці гэту землю. Купіўшы землю, сталі строіці хаткі сякі-та́кі. Сяло сталі называці Більскам... За́ра тут калхоз. Блізшчы горад Дывын. Зара людзі жывуць вясёла, робяць усе разам, часта ў сяле ставяць кіно. Кажацца, жыў бы і жыў бы.

## 402. [ЯК ПА ЗАГАДУ ПАНА ПЕРАНЕСЛІ ВЁСКУ БОРКІ]

Пры паншчыне тутэйшыя прыгонныя сяляне ўзбунтаваліся, не выйшлі на работу да пана. За гэта той загадаў ім за адну ноч перанесціся з насіджаных сялібаў з ураджайнымі агародамі на пясчаны голы пагорак. І перанеслі ж яны свае халупы і небагаты скарб, але пану не пакланіліся.

## 403. [АДКУЛЬ ВЁСКА БОРЦІ]

Наша вёска Борці завецца, і там за балотам Барчанскія хутарэ. Мы барцяне, а дварчанскія людзі нас называюць: ун барцянскія каўнярэ пашлі. Можа, затым назвалі Борці, што тут лес цягнуў аж да Нёмна, непрахадзімы лес быў. І цяпер жа кажуць: дзерава тоўстая, як борць, аж і борць тоўстая стаіць.

## *404. [АДКУЛЬ БРАЦЬКАВІЧЫ]

Назва сяла Брацькавічы, гавораць, паходзіць ад некалі былога тут праваслаўнага мужчынскага Брацькаўскага манастыра, што стаяў сярод лесу, з якога з часам утварыліся ворныя палі.

## 405. [АДКУЛЬ БУДЫ]

Пачатак Будам далі трое сялян, якіх пасяліў тут кароль Уладзіслаў Ягайла. Іх абавязкам было курыць вугаль, паліць паташ ды гнаць дзёгаць і дастаўляць гэтыя вырабы на патрэбы каралеўскага двара.

## 406. ПРА ВЁСКУ БУРЛАКІ

### [Малыя Екентаны]

Быў тут калісьці гасподскі двор. Гаспадарыў у ім пан Нарбут. У 1863 г. Нарбут камандаваў групай мяцежнікаў. Кіравала імі, галоўнай была Эмілія Платэр. У 1864 годзе казакі разбілі паўстанцаў. Гасподскі двор спалілі. І навезлі сюды бурлакоў — пасяленцаў з Пскоўскай і Чарнігаўскай губерняў. Вёску назвалі Царская Мар'яўка, а зямлю падзялілі на чатырнаццаць участкаў. Жылі бурлакі тут нядоўга. За зямлю трэба было праз нейкі час плаціць падаткі. Бурлакі дачакаліся гэтага часу і пачалі прадаваць зям-

лю. Прадалі яны гэтыя землі, грошы прапілі і паехалі дадому. І пасяліліся тут нашы людзі — са Смаргоншчыны, з Ашмян, Вілейскія. Мар'яўскай нашу вёску ніхто не хацеў называць. Назвалі яе Бурлакамі. У 1918 годзе сюды прыйшлі немцы. З таго часу вёску нашу сталі называць Новыя Якінтаны. А самі мы і цяпер гаворым:

— Куды ідзеш?

— У Бурлакі.

— Адкуль?

— З Бурлакоў.

## *407. ВЁСКА ВАРАНІЛАЎЦЫ

Вёска Варанілаўцы афіцыйна называецца Варанілавічы. Але ніхто ў той мясцовасці не называе яе інакш як Варанілаўцы...

Па расказах старажылаў, якім, у сваю чаргу, расказвалі старыя, калісьці ў гэтых месцах быў дрымучы лес, што зліваўся ў адно цэлае з Белавежскай пушчай. Спачатку лес адступаў перад невялікімі палянкамі, а пазней яны злучыліся ў шырокія палі і лугі. Але лес канчаткова не здаўся, ён глыбока пусціў сваё карэнне ў тарфяніі, яры, берагі рэчак і сыпучыя пяскі... Многія вёскі яшчэ і цяпер размешчаны на ўзлеску ці на палянах вакол яго...

У тутэйшых лясах калісьці хаваўся з атрадам атаман Ніл. Выступаў ён ці супраць польскіх захопнікаў, літоўскіх князёў, ці рускіх памешчыкаў, цяпер цяжка сказаць. Відаць, супраць тых і другіх. Улады называлі Ніла злодзеем, як і ўсіх, хто выступаў супраць паноў. Пазней, калі Ніл загінуў, яго атрад стаў рассяляцца па вёсках. Нейкая частка былых нілаўцаў пасялілася ў даволі глухім месцы, на правым беразе маленькай рэчкі Паплаўкі, і забудавалі невялікую вёсачку. Пасля яе назвалі Нілаўцы-Воры, а яшчэ пазней — Вара-Нілаўцы.

## *408. ВІДАГОРШЧ

Вакол Відагоршчы і цяпер лясоў няма — адны ўзгоркі. Дарога так і «куляецца»: за пад'ёмам спуск, а за спускам зноў пад'ём. Такое чаргаванне ўзгоркаў і далін тут называюць калыскамі. Вельмі цяжка араць, апрацоўваць гэту зямлю. У часы прыгонніцтва сюды прыганялі мужыкоў і прымушалі працаваць не разгінаючы спіны, ад цямна да цямна. Бывала, вол стоміцца, прыстане, а наглядчык, нядоўга думаючы, мужыкоў у ярмо запражэ. Ваду на панскую кухню таксама на людзях вазілі...

Каб было адкуль пільна сачыць за прыгоннымі, якія працавалі на палях, у парку, на гародах, дзед той Казуновічыхі і загадаў

прыбудаваць да палаца высокую мураваную вежу, дзе ўвесь час сядзеў з падзорнай трубой галоўны аканом. Прыпыніўся араты дзе-небудзь на далёкай гары, каб дух перавесці, а галоўны аканом з вежы бачыць і на заметку бярэ. Бачыць, і як скаціна, адбіўшыся ад статка, у шкоду пайшла, і хто ў садзе яблык у кішэнь паклаў... Так за дзень набіралася шмат парушальнікаў, якіх увечары чакалі розныя пакаранні: адных вячэры ці сняданка пазбаўлялі, а іншых бязлітасна секлі бізунамі на стайні... Дык вось месца, дзе стаяў палац з той праклятай вежай, адкуль усё наваколле відаць было — палеткі і даліны, горы і ўзгоркі,— празвалі людзі Віжгорамі. Пазней ужо... Відагоршч...

## 409. [АДКУЛЬ ВІТАВА]

Тут, на сухім правым беразе рэчкі Орхі, у часе аднаго са сваіх паляванняў у Белавежы заначаваў Вітаўт. І вось тое вялікакняжаскае стойла дало пачатак сённяшняму сялу.

## 410. ВОЛЬКА НАДБУЖНАЯ

Пачатак ёй даў нейкі рыбак. Валэндаючыся па прасторных пясчаных плёсах, вірыстых ва́рах ці балоцістых рэштках колішняга русла — бужысках, ён добра выгледзеў гэты пагорак і, рашыўшы, што нават найвышэйшая паводка яго не залье, пасяліўся тут. Пры ім прымасціўся яшчэ нехта з яго напарнікаў-сяброў. Так быццам бы і пачалося тут жыццё-быццё ўлюбёных у падбужанскае раздолле вольных ад панскага прыгнёту людзей.

## *411. СЯЛО ГАРАДЗЯЦІЧЫ

Пра сяло Гарадзяцічы ў народзе расказваюць, што тут калісьці быў горад ці мястэчка нейкага князя... і што той горад у незапомныя часы затапіла паводкай і засыпала пяском.

## 412. АДКУЛЬ ПАЙШЛА НАЗВА ВЁСКІ ГАРАДЗЯЦІЧЫ

Старыя жанчыны апавядалі, а іх бацькам бацькі перадалі, што нядаўна яшчэ тут было зусім мала людзей, шэсць-восем хат стаяла. Цяпер пасяліліся, бо цэнтр калгаса. А даўно-даўно тут быў горад. Месца тое знаць і цяпер, гара пясчаная ў тым месцы, дзе ў Арэсу ўпадае прыток, цяпер асушаны. Пацеркі знаходзілі, пярсцён-



19. Зак. 1230

кі і іншае. А там, дзе быццам быў касцёл, мох зыбучы, пні велізарных дрэў, касцёл скрозь зямлю пайшоў. Дык вось і назва ад таго горада — Гарадзяцічы.

## 413. АДКУЛЬ ІДЗЕ НАЗВА ГВАЗДОВА

Гэта татарскі абоз там дзвігаўся. Як ізвесна, даўней машын не было, ну, гэтыя абозы. Ну, ім там нешта не хваціла, ці якіх у павозках загваздкаў, ці чаго. І нада ім было гвазды гэтыя затаркаваць у восі. Далі названіе Гваздова.

## 414. АДКУЛЬ ГНЕЗНА

Касцёл пабудавалі ў васемнаццатым стагоддзі. Расказваюць, тут быў непрахадзімы лес. Людзі каля гэтага касцёла пачалі гняздзіцца і назвалі: Гняздо, а потым — Гнездава, а тады Гнезна.

## 415. [АДКУЛЬ УЗЯЛАСЯ НАЗВА ВЕСКІ ГОЦК]

Калісьці, даўно-даўно, ніхто ўжо не можа сказаць дакладна, колькі соцень год таму назад, калі яшчэ русалкі спакойна жылі побач з людзьмі, жыхары вёскі злавілі ў лясочку ля балота нейкую цудоўную істоту. Была яна чымсьці падобная на птушку і нечым падобная на чалавека. Былі ў яе вялікія круглыя вочы, моцныя крылы і вялікія лапы. Жыхары абулі гэтае стварэнне ў лапці і вырашылі весці да пана, які жыў на другім астраўку гэтага балота. Людзі ўзялі гэтае цуда за лапы-крылы і павялі па кладках. А кладкі ўдараліся аб ваду і раздавалася над балотам: «Гоц, гоц, гоц». Так і ўзнікла назва той мясціны, на якой з цягам часу пасяліліся палешукі, якія доўгі час не ведалі, што гэта птушка — сава. Вось так і выйшла «Гоцк».

## 416. АДКУЛЬ ВЕСКА ГУДЗЕВІЧЫ

Вёска Гудзевічы знаходзілася ў звонкім месцы, бо якраз тут праходзіла дарога на Гродна і Беласток. У Гудзевічах быў тракт. Тут праязджалі ўсякія купцы. Яны гаварылі, што гэта месца гудзе. Так і асталася за вёскаю гэта назва.

## 417. АДКУЛЬ ГУДЗЕВІЧЫ

Гэта было пры пану. І жыла ў той час дзяўчына Гудзя. Яна была прыгожая, і пан закахаўся ў яе і хацеў, каб яна стала яго жонкай. Але Гудзя не хацела выходзіць за пана замуж. У яе быў бедны хлопец, які кахаў яе. І калі дзяўчына не згадзілася выходзіць за пана, то пан загадаў гайдукам утапіць дзяўчыну.

Таму і назвалі вёску Гудзевічы, па імю дзяўчыны Гудзі.

## *418. ВЁСКА ДАБУЧЫН

Яна называлася раней Дабучын. Тут быў некалі каталіцкі манастыр, ад якога застаўся камень, і на ім у 1836 годзе была пабудавана праваслаўная царква.

У Дабучыне бярэ свой пачатак рака Мухавец, якая ўтвараецца з двух прытокаў — Муха і Вец.

## *419. ДАФАРЭНЦЫЯ

Прыблізна ў сямідзесятых гадах мінулага стагоддзя буйны магнат граф Тышкевіч (яго маёнтак знаходзіўся пад Астрашыцкім Гарадком) выпісаў для сваёй сям'і з Аўстрыі мадзьяра-лекара. Якім было поўнае імя іншаземца — невядома. Доктар, пачаўшы практыку ў графскім маёнтку, у хуткім часе стаў вядомы пад параўнальна лёгкім для вымаўлення імем Ферэнц. Ён быў, напэўна, адукаваным, гуманным чалавекам, выконваў не толькі абавязкі графскага лекара, але і лячыў усіх, хто да яго звяртаўся за дапамогай,— жыхароў мястэчка, сялян з бліжэйшых вёсак. А праз некалькі гадоў, ужо шырока вядомы ў наваколлі, лекар Ферэнц ці то купіў, ці то атрымаў у падарунак ад сваіх вяльможных пацыентаў невялічкі маёнтак, дзе абсталяваў нешта накшталт аптэкі і амбулаторыі. Доўгі час Ферэнц быў адзіным на ўсю немалую акругу доктарам. Яго вядомасць, папулярнасць раслі з кожным годам. Да вучонага лекара прыходзілі, прыязджалі аж з трох валасцей. Таму, хто сур'ёзна захварэў, звычайна раілі: «Ты б да Ферэнца схадзіў». Ці пыталіся ў сваякоў: «А да Ферэнца вазілі?» Да Ферэнца ішлі і ехалі за лекамі, за парадай...

У сучаснай Дафарэнцыі слядоў старога маёнтка і бальніцы Ферэнца ўжо няма. Вядома, што мясцовыя знахары, для якіх урач быў неадольным канкурэнтам, спалілі і аптэку і яго дом...

## 420. АДКУЛЬ ДОЙНАВА

Здаўна пішацца наша вёска Даўнова, а называецца Дойнава... Я калісь чуў ад старых, што нас таму Дойнавам празвалі, што мы, маючы дрыгвястае пасбішча, у мокрае лета не прыганялі кароў дадому, тамака яны днявалі і начавалі, на балоцечку, а нашыя бабы кладкамі туды хадзілі, тамака кароў даілі, а малако дамоў насілі. Таму і Дойнавам назвалі. А ці праўда гэта, хто ведае.

## *421. СЯЛО ДОЛЬСК

Цяперашняе сяло Дольск было мястэчкам з за́мкам, якое перанесена ў цяперашняе мястэчка Любяшоў Пінскага ж павета, і называлася раней не Любяшовым, а Новым Дольскам. Перанесена ж па такой прычыне: пан з роду князёў Вішнявецкіх, які валодаў мястэчкам, з-за тайнага выхаду замуж яго дачкі за чалавека нязнатнага роду ў гневе прысягнуў давеку не бачыцца са сваёй злачыннай дачкой і не дараваць яе злачынства; але пасля таго нібы зажадаў памірыцца са сваімі дзецьмі і назначыў дзень сустрэчы з імі і даравання. З гэтай прычыны наладзіў бал і сазваў на яго суседзяў. Абрадаваныя гэтым, дзеці паўзлі каленьмі цераз усё мястэчка да бацькоўскага дому. У час гэтага ганебнага падарожжа падышла да іх яўрэйка і перасцягла маладых, каб яны не з'явіліся да бацькоў, бо будзе здрада. Прадраканне яўрэйкі спраўдзілася. Калі пачаўся пір, бацька запаліў порах, загадзя закапаны ў бочках пад замкам, і ўвесь замак з гасцямі, чэляддзю і з самім віноўнікам злачынства разарвала на дробныя кавалкі. Пажар узняўся па ўсяму мястэчку. Царква... згарэла, а з ёю ўсё мястэчка. Сярэбраны крыж з царквы знайшлі за дзве вярсты. З тае прычыны, дзе адшукалі крыж, пабудавалі царкву і сяло, а астатніх жыхароў перамясцілі ў цяперашняе мястэчка Любяшоў.

## 422. ВЁСКА ДУ́БІНА

Раней тут была проста вёска без назвы. У вёсцы была царква і карчма. Прыходзілі людзі ў царкву памаліцца, а ў карчму пагуляць. І вось задумалі поп з карчмаром павысіць свае даходы. Нанялі яны чалавека і загадалі яму зацягнуць ноччу на дуб іконку. Зрабіў ён сваю справу, узяў грошы і знік. А днём поп з карчмаром аб'явілі, што на дубе з'явілася іконка. І павалілі людзі з усіх вёсак спачатку ў царкву, а потым у карчму. Пыталіся яны ў карчмара, ці памагае гэта іконка? Той хітра прыжмурваў вока і гаварыў:

— Як ведаю, дык памагло двум.

З той пары і называюць вёску Ду́біна.

## 423. АДКУЛЬ БЕЛАЯ ДУБРОВА

Некалі, даўно, як толькі пасяліліся тут, зямля была добрая, але не разработана. А недалёка была зямля Белы камень і быццам свяшчэнны камень там быў, што ад яго зямля добра родзіць. Тагды дуброўцы паехалі і ўкралі камень. Зямля і так тут была добрая, але стала яшчэ лепей радзіць. Вось і Белая Дуброва.

А белакаменцы раззлаваліся і праклялі дуброўцаў — каб вы елі і ніколі не наеліся!

## 424. АДКУЛЬ ЗАБОР'Е

Даўней мала было людзей у нашай меснасці, быў лес, лес і кусты ўсякія. Ну, і вот. З Гваздова ехаў на Забор'е, дзе я цяпер жыву, беларус. Дык эта быў лес густы, за борам. Далі названне Забор'е, за борам.

## 425. ВЕСКА ЗАКАЛІУЕ

Там праходзіць такая канава, мажа рэчка была, Калівец называлася. Так вот за рэчкай пасяленне і назвалі Закаліўе.

## *426. ЗАЛАТАЯ ГОРКА

Калісьці і гара, на якой тады не было лесу, і вёска называліся Лісінай Гарой. Па кустах і балотах палявалі, жыравалі лісіцы, але норы свае рабілі на гары, дзе было сушэй і цяплей, чым у нізіне.

Неўзабаве каля падножжа гары пачалі сяліцца людзі. Лісіцы перайшлі на вяршыню, а затым і зусім сышлі, пакінулі аблюбаваны пагорак.

Спачатку вёску называлі Гарой. Толькі было незразумела, што за гара, шмат іх вакол, як адрозніць?..

Так і не прыдумалі для сваёй гары адметнага імя. Дапамог выпадак. Прыехалі аднойчы з горада хлопцы. Абодва яны маладыя, дужыя і занадта ўжо цікаўныя. Пачалі кругом ды навокал распытваць жыхароў, ці не стаяў некалі на гары панскі замак-палац, ці не засталіся ад яго якія скляпенні... Людзі адказвалі, што нічога пра гэта не ведаюць, нават ад дзедаў сваіх не чулі. Але хлопцы не паверылі, павысякалі на адхоне гары кусты і пачалі капаць яму. Кожны каменьчык, што трапляўся пад руку, уважліва разглядвалі, правяралі; гліну адмыюць ды на зуб спрабуюць, а пясок нават праз рэшата прасейвалі.

Тры дні і тры ночы капалі тыя хлопцы яму і ўсё каменьчыкі і пясок правяралі. Прыйшоў да іх неяк стары дзядок, паглядзеў, як яны ў той яміне змучыліся, схуднелі, і кажа:

— Што ж гэта вы, сынкі, пакутуеце тут? Ці ж можна так мардаваць сябе? Паглядзіце, вунь які дзянёк добры, як вакол золата зіхаціць.

Кінулі хлопцы свае рыдлёўкі, утаропіліся, збянтэжаныя, на старога:

— Дзе, дзе, дзядок, золата?..

— Вылазьце, пакажу, падзялюся з вамі,— з хітрай усмешкай адказвае дзядок.

Павыскаквалі хлопцы з ямы, азіраюцца, а дзядок ім і кажа:

— Ды хіба ж вы не бачыце, колькі яго на нашых бярозах. А было тады бабіна лета, цёпла, суха. Пераглянуліся хлопцы ды раптам як зарагочуць. Падышлі да дзядка, руку паціскаюць, дзякуюць:

— Нам сказалі, а мы, дурні, паверылі... Дзякуй вам, дзядуля, што навучылі, ад марнай працы пазбавілі.

Закінулі тыя няўдалыя шукальнікі золата свае торбы за плечы і пайшлі.

Вось з таго выпадку, з тых лёгкіх слоў мудрага дзядка быццам бы і знайшлося нарэшце для вёскі яе поўнае імя — Залатая Горка.

## 427. ВЁСКА ЗБОРСК

У дрэўнія гада кагда-та быў тут горад Ізборск. Былі тут войны кагда-та, усё разарылі, і асталася дзярэўня Зборск.

Дзе стаяла царква, ля ракі, называецца Гарадок,— абкопана кругом. Усё гэта быў Ізборск.

## 428. ВЁСКА ЗАШЧОБ'Е

Жыў тут украінец. І біў сваю жонку. Людзям дзіва: збіраюцца, глядзяць. Ён б'е, а яна пытае:

— За шчо б'еш?

І сталі потым у жарт гаварыць:

— Дзе быў?

— У Зашчоб'і.

— Б'е мужык жонку?

— Б'е.

— За што б'е?

— Выпіць не дае.

Вот і пайшло Зашчоб'е і Зашчоб'е.

## 429. ЯК ІЛУКШТЫ УЗНІКЛІ

Даўно, калі яшчэ на нашым краю былі ўсюды лясы, а народу жылося цяжка, адна нашая дзяўчына захацела свет паглядзець. Адправіўшыся з-пад Полацку, яна брыла лясамі, барамі ды берагамі рэчак, пакуль у канец не змарылася. Тады асела каля адной рэчкі на даўжэйшы час і пачала будавацца на зіму. Потым ёй спадабалася гэта мясціна, і яна засталася там жыць. Да яе папрыходзілі другія людзі і таксама будаваліся. Вырасла вялікая вёска, якую назвалі Ілукшты па імю першай жыхаркі Лукшы.

## 430. ДЗВЕ НАЗВЫ ВЁСКІ — КАДАШ І МІКАЛАЕЎКА

Першым пасяліўся на гэтай зямлі нейкі Кадаш — кадкі рабіў, быў кадачнікам і бондарам. Доўгі час вёску так і называлі: Кадаш. І цяпер яшчэ яе ў народзе так называюць. Але ў дакументах — Мікалаеўка, таму што належала вёска пану Мікалаю Пятровічу. Гэта яго вёска — Мікалаеўка. Так і засталося і пасля рэвалюцыі — Мікалаеўка.

## 431. ЧАМУ ВЁСКА НАЗЫВАЕЦЦА КАМЕНЬ

Адбылося гэта даўным-даўно, год тысячу таму назад, а мо і болей. Сярод палёў і лясоў стаяла хат дзесяць, не болей. Раскошы людзі тыя не ведалі, але гора і бядота іх мінала. Зямля давала хлеб, а ворагі не разбуралі іх гнёзды. Непадалёку ад іх стаяла хатка шаўца...

Страшная падзея адбылася ў ноч перад вялікаднем... Гэта свята святкаваў кожны, толькі шавец, прагны да багацтва і грошай, шчыра працаваў у гэту ноч. Разгневаўся бог і паслаў вялікую кару на шаўца. Чулі людзі, як у шуме ветру, у грукаце і стогнах збывалася кара. Ніхто не знаў, якой нечаканай смерцю памёр шавец. Яго хата ператварылася ў невялікі камень, які падобны на звычайную сялянскую хатку. Камень на тым самым месцы захаваўся і да нашых дзён.

З тых пор людзей, якія жылі непадалёк, сталі называць ка́менцамі, а самую вёску — Камень.

## *432. КАМЕНЬ

...Мясцовыя жыхары лічаць: вёска іх носіць сваю назву не таму, што вакол яе некалі «раслі» камяні (цяпер большасць палетказ саўгаса імя Маякоўскага ачышчана ад камянёў). Імя сваё вёска атрымала ад валуна-волата (яго называюць «возам»), паблізу ад якога і пачала будавацца...

Здарылася гэта ў даўніну, пра якую ўжо і дзяды не памятаюць. Вёз неяк селянін воз сена з пушчы. Конік быў нягеглы, слабы і ў час пад'ёму на гару зусім выбіўся з сіл. Колькі ні паганяў яго гаспадар — ні з месца. Пачаў пугай хвастаць ды яшчэ праклінаць-прыгаварваць:

— А, каб ты, воўчы недаедак, у камень ператварыўся!

Паднапружыўся конік, усцягнуў-такі воз на гару і зноў прыстаў. Мужык хвошча яго пугай, паганяе, а конік стаіць, унурыўшы галаву, і анічога ўжо не чуе і не адчувае. Азірнуўся мужык паглядзець, як там воз, ці трымаецца, і аслупянеў ад здзіўлення і страху: няма воза, а замест яго ляжыць шэры велічынёй з воз камень. Кінуўся мужык каня распрэгчы, толькі за хамут узяўся, ажно позна — ляжыць паміж аглабель цёмна-шэры, такой жа, як у ягонага коніка, масці камень...

## 433. ЧАМУ ВЁСКУ НАЗВАЛІ КАМЯННОЕ (КАМЕНКА)

Раней там быў вялікі камень. Каля гэтага каменя гулялі кадрылю. Аднойчы стрэліў пярун і зрабіліся маленькія каменьчыкі. Адсюль і пайшло Камянное.

## *434. КАРАЛЕЎСКІЯ

...Чаму называлася Каралеўскай? Згодна паданню, быццам менавіта тут, у Карчме на Язненскім скрыжаванні, спыняўся скінуты польскі кароль Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, які па загаду Кацярыны II накіроўваўся з усім сваім, што расцягнуўся на паўвярсты, абозам з Гродна ў Пецярбург...

## 435. АДКУЛЬ КАСЦЮКІ

Пан прайграў другому пану двух братоў Кастусёў. Яны ўцяклі ад пана і пасяліліся тут.

Ад гэтага — Касцюкі.

## 436. АДКУЛЬ ВЁСКА КЛЕПАЧЫ

Назва вёскі Клепачы паходзіць ад таго, што жыхары гэтай мясцовасці вельмі рана пачыналі кляпаць косы ў час касавіцы, а стук малатка аб касу будзіў усіх навакольных. Вось іх і празвалі клепачамі і вёсцы далі такую назву.

## 437. ВЕСКА КНЯЗЕВА

Тут, дзе цяпер вёска Князева, раней толькі сажалка была. Вакол сажалкі раслі дубы, таполі, ясені. А вёрст пятнаццаць адсюль жыў князь.

Аднойчы вечарам каля сажалкі з'явіліся цыганскія шатры. І пачалі цыганы хадзіць па вёсках: паказвалі фокусы, мянялі коней, цыганкі гадалі на картах. Сярод цыганоў была маладая цыганка. На плячэ ў яе сядзела варона. Але ўсе людзі глядзелі не на варону, а на цыганку — такая яна была прыгожая. Дачуўся князь, што надта харошая цыганка паявілася ў гэтых краях. І ноччу князь тут як тут. Як толькі цыганы заснулі, падкраўся ён да шатра, схваціў цыганку і ўцёк. Спахапіліся цыганы ды позна.

Любіў гэту цыганку малады прыгожы цыган. Узяў ён двух цыганоў і неяк на наступную ноч вызваліў сваю цыганку. Пачалі цыганы збіраць свае шатры ды не паспелі. Нахапіўся князь са сваімі служкамі. Пачаўся бой. Людзей у князя было больш, і яны хутка расправіліся з цыганамі. Быў забіты і малады цыган. Як убачыла цыганка свайго мілага — ужо забітага,— схваціла сякеру, падкралася ззаду да князя і звалiла яго напавал адным ударам. А сама ўскочыла на каня і што было сілы паімчалася ў лес.

У Князеве і цяпер на дрэвах многа варон. Гавораць, што яны развяліся ад той вароны, што сядзела ў цыганкі на плячах. А князя пахавалі. Потым на гэтым месцы пачалі будавацца людзі.

## *438. КРАЙСК

...На месцы Крайска, на беразе ракі Крашчанкі, стаяў невялікі гарадок. Некалі ў лясным зацішку, далёка ад княжацкага вока, людзі жылі добра: гандлявалі, займаліся рамяством, палявалі, лавілі рыбу... Таму і назвалі гарадок свой Райскам. Але пачалася вайна. Пад Райскам, ва ўрочышчы Разанка, сышліся рускія і шведскія войскі. Людзей загінула столькі, што ад пралітай крыві выйшла з берагоў Крашчанка. Быў знішчаны і горад Райск, засталася толькі адна крайняя вуліца. Адсюль нібы і пайшла назва мястэчка — Крайск.

## *439. КРЫВАЗНАКІ

...У старадаўнія часы, кажуць, калі на рацэ розныя тавары на лодках перавозілі ў Вілейку і далей, якраз тут, на дзевяці петлях Віліі, усялякія знакі стаялі — папярэджвалі, дзе меліна, а дзе віры. З-за тых знакаў наш прырэчны засценак і атрымаў сваю назву — Крывазнакі.

## 440. ВЕСКА КРЫНКІ

Мясцовасць, дзе цяпер знаходзяцца Крынкі, была пакрыта лесам, у якім было многа крыніц і ручаёў. Адсюль і назва вёскі.

У 1500 г. тут праязджала некая крулёва Бона. Яна тут застрагла ў крыніцы. Выйшла яна тады са сваёй тачанкі на ўзвышша і прыказала пабудаваць на гэтым месцы сяленне. Была пабудавана і царква ў чэсць маткі боскай Крынскай.

## 441. ЧАМУ ВЕСКА ЗАВЕЦЦА КУКАУКА

Гэта было даўней, у час прыгону. На гэтым месцы, дзе цяпер вёска, раслі дубы. Уся гэта мясцовасць належала злому, лютаму пану, прытым сляпому. Пан быў хоць сляпы, ды часта любіў хадзіць з стрэльбай на паляванне.

Страляў ён метка па слуху. Пачуець, бывала, што цецярук недалёка балбочыць (тады цецерукоў тут многа вадзілася) ці зязюля кукуець, ён прыслухаецца і застрэліць нават птушку здалёку.

Аднойчы гэты люты пан загадаў жанчыне лезці як можна вышэй на дуб. Калі жанчына ўзлезла высока на дуб, ён загадаў ёй сесці там і кукаваць. Сам адышоўся на патрэбную яму адлегласць і стрэліў у напрамку «ку-ку», гэта значыць, у жанчыну. Жанчына мёртвай упала з дуба. І гэтак пан застрэліў не адну жанчыну, а ўсіх непакорных яму прымушаў лезці на дрэва і кукаваць. З тых пор мясцовасць гэту людзі і пачалі называць Кукаўкай.

## 442. АДКУЛЬ ВЕСКА КУЛЕУШЧЫНА

Адзін раз тут праязджаў падарожны чалавек, а тады дарога была толька ў сяле, а далей не было. Ну, гэты чалавек заехаў у канец сяла, а дарогі ж далей няма, кругом было балота і лес.

— Што гэта, куль які, ці што? — сказаў ён, завярнуўся і паехаў назад.

Ад гэтых слоў і пачалі называць наша сяло Кулёўшчына.

## *443. ЛАЗОВЫ КУСТ

...Адкупілі аднойчы ў пана два бедныя мужыкі, якія шмат гадоў збіралі капейчыну да капейчыны, тры дзесяціны добрай, урадлівай зямлі, каб пабудавацца на ёй і гаспадарыць. Дзе ж толькі паставіць хаты, шкада ж кожнай пядзі дарагой зямліцы. Доўга яны разважалі ды меркавалі і нарэшце вырашылі каля самага краю свайго ўладання, непадалёку ад рэчкі, высеч вялізны лазовы куст

і на яго месцы пабудавацца. Справіліся з лазой — высеклі, выкарчавалі, нават галіны спалілі. Як і задумалі, збудавалі па хаце і пачалі жыць. Перазімавалі, а вясной, ледзь толькі сышоў снег, яшчэ і травіца не паспела зазелянець, бачаць: пасярод двара, на гародзе, ды і пад сценамі хат — усюды прабіўся лазняк.

Нічога не падазраючы, зноў узяліся мужыкі за сякеры і павысякалі амаль паўметровыя лазовыя парасткі. Ды дзе там! Выйшлі раніцой скаціну дагледзець, а за ноч лаза ўжо на цэлы метр вымахала. Мужыкі зноў за сякеры і на гэты раз усю лазу, аж да апошняга прутка, высеклі, сабралі і спалілі на вогнішчы. Не дапамагло: за ноч зноў увесь двор лазой зарос. Зразумелі нарэшце мужыкі, што тут нешта нядобрае, і больш не чапалі лазу. Вырашылі пачакаць, паглядзець, што ж далей будзе. А далей не стала мужыкам ад той лазы ніякага жыцця. Так яна разраслася, што ўсё на градах пад ёй засохла-загінула, а праз двор, да паветак ці на дарогу, як па густым лесе, даводзілася прабірацца.

Заходзілі суседзі, глядзелі на дзівосны лазняк, шкадавалі мужыкоў, розныя парады давалі, як ад кустоў пазбавіцца. Хто раіў пад карані солі падсыпаць, хто — вадой заліць, а хто і наогул казаў, што трэба зімы дачакацца, можа, вымерзне жывучае кустоўе.

І вось аднойчы завітаў да тых мужыкоў дзядок, увесь у белым адзенні, з кульбай у руцэ і пустой торбачкай за плячамі — вады папрасіў напіцца. Ды толькі напаілі яго шматпакутныя спагадлівыя гаспадыні не вадой, а малаком салодкім, халодненькім. Азірнуўся вакол дзядок і кажа:

— Што ж вы, людцы родненькія, у такім дзікім кустоўі жывяце, а мне нават і не скардзіцеся?

А жанчыны яму ў адказ:

— Ды які з таго толк. Каму мы толькі не расказвалі пра сваю бяду, чые толькі парады не выконвалі — і солі пад карані сваёй лазе падсыпалі, і тапілі, і вымаразіць спрабавалі — нічога не дапамагае, як расла, так і расце безупынна. У нас ужо і рукі паапускаліся, адзін, відаць, парагунак — кінуць гэтае месца і на новае перабрацца.

Уздыхнуў дзядок, зірнуў яшчэ раз на лазу, якая ўжо і хаты перарасла, і кажа:

— Не, дачушкі, калі мяне паслухаеце і ўсё, што скажу, зробіце, не давядзецца вам на новае месца перабірацца. А зробіце вось што. Дачакайцеся першага дожджыка, як замжыць, асцярожна кожную лазінку выкапвайце і нясіце хутчэй да рэчкі, і там, на беразе, як найглыбей пасадзіце. І калі наказ мой дакладна выканаеце, то ўвесь куст да вясны сам да рэчкі перабярэцца.

Расказаў пра ўсё гэта дзядок, падзякаваў за малако салодкае, выйшаў за брамку і адразу ж знік невядома куды.

Хаця асабліва і не паверылі дзядку мужыкі і жанчыны, але ўсё-такі, пакуль імжыў першы пасля той размовы дождж, перанеслі са свайго двара і пасадзілі на беразе Волмы пучок лазовых пруткоў. І ўсё спраўдзілася, як і казаў той дзядок. За які-небудзь тыдзень высахла лаза на двары і на гародзе, аж да апошняга прутка. А на голым беразе Волмы вырас малады лазовы куст.

Вось ад тых дзвюх хацінак і пайшла вёска. І хаця ні ў кога больш на двары лаза не расла, нават не з'яўлялася, вёска ўсё ж паспела атрымаць сваю назву з-за таго злашчаснага куста. Так яна — Лазовы Куст — за ёй і засталася.

## 444. ЛАМБАЎ

Тут іменіе малое было, фальварак. Іменіе было памешчыка Вахрамеева. А ўпраўляюшчы быў па фаміліі Лампаў. Ён жыў у фальварку, упраўляў гэтай меснасцю. Ад яго і Ламбаў, ці, як тут кажуць, Ла́мбава.

## 445. АДКУЛЬ ВЁСКА ЛАНЬ

Кажуць, што тут некалі многа было коз такіх, ланямі яны называліся. І яны на вадапой часта прыходзілі да крыніцы, што каля папа цячэ. Так вось і крыніцу гэтую называць сталі Ланскай і рэчку гэтаксама. А потым сяло зрабілі тут і вот завуць Лань.

## 446. АДКУЛЬ ЛАТЫГАЛЬ

У нашай мясцовасці ёсць такія вёскі: Латыгаль, Мазалі, Вязынь. Людзі расказваюць, адкуль узяліся гэтыя назвы.

Латыгаль — ад латы і голь. Людзі жылі ў гэтай вёсцы вельмі дрэнна, адсюль і назва Латыгаль.

## *447. ЛЕБЕДЗЕВА

Доўгі час сялібу называлі Лебедзева Дно...

Быццам бы ў далёкія часы на месцы сяла Лебедзева, між тых жа пагоркаў, разлілося вялікае возера. Людзі, што жылі на яго прыгожых берагах, лавілі ў возеры рыбу, палявалі ў чароце на качак, касілі на прыбярэжных лугах буйныя травы. Выцякала з возера ўсё тая ж рачулка Невежа, але глыбокая, паўнаводная, а на яе берагах стаялі багатыя вёскі ды хутары. Называлася возера Лебедзевым таму, што пасярэдзіне яго, на востраве, здаўна жылі лебедзі. Але нават самыя заўзятыя паляўнічыя не чапалі, не палохалі

гордых птушак. Усе ведалі — гэта яны, лебедзі, ахоўваюць возера, тайна ад людзей будуюць і рамантуюць схаваныя пад вадою плацін ы і дамбы. Таму возера і трымаецца між пагоркаў.

Толькі знайшоўся злы чалавек. Падплыў аднойчы да вострава і застрэліў самага вялікага лебедзя-важака. Пакінулі лебедзі возера. А праз год ці два прагнілі схаваныя ў чароце і пад вадой лебядзіныя дамбы. Спатрэбілася ўсяго тры дні, каб вада назаўсёды выцекла са сваёй катлавіны-чашы, сплыла ў вялікую раку. Шмат было бяды. Па берагах Нявежы пазносіла хаты, змыла з палеткаў ураджай, патапіла скаціну.

Прайшоў час, людзі забыліся на тую бяду і пачалі зноў сяліцца ў зручным зацішку — на дне былога Лебядзінага возера. Таму новую сялібу і называлі спачатку Лебедзевым Дном. Пазней, калі ўжо ніхто не памятаў аб возеры, па дне якога цяпер праходзіла вуліца і стаялі хаты, захавалася ад назвы толькі першая яго частка — Лебедзева...

## *448. ЛІПЕНЬ

...У дарэвалюцыйныя гады вёска мела прыніжальную, абразлівую назву — Халуі... Яшчэ ў часы прыгоннага права нейкі багаты самаўпраўны пан выселіў на пустэльны бераг Свіслачы тры сям'і непакорных сялян і прызначыў ім у абавязак не зямлю араць, абслугоўваць розных панскіх гасцей, што з'язджаліся да ракі, на луг, балявацъ. Звалі тых людзей, магчыма, за іх горды характар, сакалкі, а месца, дзе яны пабудаваліся ў хуткім часе, пачалі называць Сакаліны Кут. Ды толькі не падабалася гэта пану, палохала яго. І загадаў ён пад страхам лютых пакаранняў называць Сакаліны Кут Халуямі. «Каб не забываліся, што не сокалы вы, а чорныя мужыкі-парабкі, халуі, абавязаныя прыслугоўваць гасцям маім». Пасля таго загаду ды пакаранняў прыліпла да вёскі тое брыдкае імя...

А новую сваю назву — Ліпень — вёска атрымала неўзабаве пасля вызвалення раёна ад палякаў. Адбылося гэта якраз у сярэдзіне лета — у ліпені, калі шчодра цвілі духмяныя ліпы. Вось адкуль у вёскі гэтае пяшчотнае, напеўнае імя — Ліпень.

## 449. СЯЛО НАЗВАЛІ ЛОСІНЦЫ

Колісь тутака стаялі вялікія горы з песковей. На іх стаяў цёмны драмучы лес. Кала лесу было глыбокае гозера. У лесе жылі дэкеі зверы. Воны хадзілі піці воду да гозера. Больш за ўсё тутака было лосяў. Гозера перасохла. Людзі вырубілі лес, пастроілі хаты. Сяло назвалі Лосінцы.

## *450. ПРА НАЗВЫ ВЁСКІ ЛОШНІЦА, РАКІ ЛОША І ГАРЫ ВІТАГОР'Е

Кажуць, нібыта нейкі даўні князь Віт, ці Вітак, праходзіў з вялікім войскам праз лясы цяперашняй Лошніцы. А ўначы засцігла яго моцная бура, і князь загадаў расчысціць лес і зрабіць начлег на высокай гары каля дуба. І воіны нібыта выкапалі на вяршыні гары яму, вылажылі яе скурамі і такім чынам зрабілі для Віта ложа, ад чаго гару назвалі Ложніцаю — цяперашняя Лошніца, а рэчку — Ложа.

Лошніцкія старажылы паказвалі тое месца, дзе начаваў князь, яго ложа каля рэчкі Лошы, на гары, якая знаходзіцца за могілкамі, яна і зараз называецца Вітагор'ем.

## 451. [АДКУЛЬ ВЁСКА ЛУКА]

Лука выводзіцца ад таго, што калісь была вуліца лукам. Пан, які быў у старым двары, загадаў вуліцу выпраставаць, каб яго аканомы бачылі, як людзі выходзяць на паншчыну, калі зазвоніць звон.

## 452. [АДКУЛЬ ЛЫШЧА]

Аднойчы пан захацеў здзівіць палешукоў незвычайным пітвом. Узяў ён пляшку спірту і, паклікаўшы да сябе рослага дзецюка, наліў поўную конаўку. Не паспеў пан і ахнуць, як той апаражніў пасудзіну і папрасіў:

— Лі йшчэ!

Адсюль, маўляў, і пайшла назва вёскі.

## 453. [АДКУЛЬ ЛЫШЧА]

Кажуць, жыў калісьці на Піншчыне паляўнічы. Аднойчы забраўся ён у такі гушчар, што і выбрацца не змог. Прытаміўся, а тут ноч настала. Дабраўся ён неяк да паляны і заснуў. Калі ж прачнуўся, то не мог надзівіцца прыгажосцю гэтага месца. Недалёка — блакітная стужачка рэчкі, на ўскрайку лесу — крынічка, зелянеў луг, зіхацелі кветкі. Яшчэ далей раскінулася балота. Доўга не мог паляўнічы забыць гэта месца. І ў хуткім часе перабраўся сюды з сям'ёй.

Прайшлі гады. Побач з зямлянкай паляўнічага выраслі іншыя. Нарадзілася паселішча. Трапіў неяк сюды пан. Убачыў ён тутэйшых сялян і здзівіўся:

— Ну і галішча тут, галішча!

Так і замацавалася гэта назва за вёскай. З цягам часу «га» адпала, і вёска пачала называцца Лышча.

## 454. АДКУЛЬ НАЗВА ВЁСКІ ЛЮСІНА

Некалі жыла ў нас, у Люсіне, прыгожая дзяўчына Люся. Як васількі, былі ў яе вочы, доўгія ільняныя валасы збягалі на плечы. Цяжкая была ў яе доля. Гордая дзяўчына не вынесла здзекаў пана Яшука і кінулася ў раку. У памяць аб ёй і назвалі нашу вёску Люсіна.

## 455. АДКУЛЬ ВЁСКА МАЗАЛІ

Мазалі — вёска пад самым Красным (станцыя Уша). Ад нас да Краснага дваццаць восем кіламетраў. І вельмі многа наганялі сяляне мазалёў, пакуль дахадзілі да Краснага. Яны адпачывалі недалёка ад яго, і гэта месца сталі называць Мазалі.

## 456. ЧАМУ ВЁСКА МАЛАЯ ВОЛЯ СТАІЦЬ У КЕПСКІМ МЕСЦЫ

Гэта было даўным-даўно, калі на месцы нашай вёскі спяваў свае ветраныя песні вецер і плаўна каціла збоку свае воды рака Шчара, аддаючы вадзяную даніну Нёману. Яна не думала і не магла выдумаць, што на правым яе беразе, тут, дзе яна рабіла вялізны выгіб, з кожным годам падмываючы свой левы бераг уверсе і правы ўнізе, будзе вёска, якая цяпер называецца Малая Воля. У адным месцы, каля вёскі, у рацэ ёсць глыбокае месца, праўда, ужо многа засыпанае.

Перш чым пачыналася будавацца тут вёска, чэрці разносілі запіскі.

На тую ноч, калі чорт разносіў запіскі, на нашу вёску запіска ў яго была самай апошняй.

Узяў чорт запіску і паляцеў. Намер мо быў скінуць запіску каля Дзярэчына. Там і зямля лепшая і бліжэй да горада. Толькі адно кепска: лес далёка. Але нічога страшнага.

Хутка наступаў ранак. Хоць чорт і ляцеў хутка, але ён не мог даляцець да таго месца ўжо. Толькі падляцеў чорт да ракі, як заспяваў пятух:

— Ку-ка-рэ-ку!

А чорт — у рэку, кінуўшы запіску каля ракі на пяску.

З тых пор і стаіць наша вёска на пяску, і збоку яе цячэ рака Шчара. У тым месцы, дзе чорт упаў у раку, самае глыбокае месца.

## 457. АДКУЛЬ МАМАІ

Гэта было ў дванаццатым веку. Я не знаю, мяне тады на свеце не было. Было тут нашэсцвіе татар. І там не было нічога, толькі быў лес і была пожанька. І татарскі хан Мамай распяў палатку на пожаньцы, і далі званіе Мамаі.

## 458. ВЕСКА СТАРЫЯ МАРГІ

Было тут дзве палянкі ў лесе. Адну называлі Мардач, а другая без назвы, так сабе — восем маргоў зямлі. Купіў гэтыя дзве палянкі поп Ануфрый. Вот і Ануфрова ад яго прозвішча паходзіць. На адной палянцы разбудаваўся маёнтак, а на другой пасяліліся мужыкі. Людзі са старых маргоў працавалі ў панскім маёнтку. З тых часоў і пайшло — Старыя Маргі.

— Адкуль ты?

— Са Старых Маргоў.

— Куды ідзеш?

— У Старыя Маргі.

## 459. АДКУЛЬ МАРОЗАУКА

Фаміліі такія былі — Маразы, хто зачынаў гэту дзярэўню. Таму Марозаўка. Яшчэ і зараз ёсць фаміліі ў нас такія — Мароз.

## *460. МАРС

...Вёска Кукшэвічы і цяпер цягнецца на добрых паўтара кіламетра. Але старажылы памятаюць, што яшчэ да першай сусветнай вайны вёска была ўдвая большая. Дзве вуліцы ішлі адна паралельна другой, і трэцяя перасякала іх. Жылі ў неймавернай цеснаце, у іншы двор ледзь можна было заехаць з возам. Зямлі не хапала. Батрачылі, ад'язджалі на заробкі ў Мінск.

Калі ў 1914 годзе ў вёсцы пачаўся пажар, усе тры кукшэвіцкія вуліцы выгаралі датла. А тут пачалася вайна, падступіў фронт. Людзі жылі ў бядоце, туліліся ў зямлянках, па адрынах у суседніх вёсках.

І толькі пасля выгнання палякаў у 1924—1925 гадах становішча змянілася: пагарэльцы атрымалі лес на будову. Вось тады вакол Кукшэвіч, якія таксама пачалі адбудоўвацца, і былі закладзены восем новых невялічкіх пасёлкаў. А імёны ім даваў малады калгаснік з Койданава, былы чырвонагвардзеец. Ён, дарэчы, і наразаў сялянам панскую зямлю.

Пасёлкі атрымалі больш-менш аднатыпныя назвы... Рабінаўка, Арэхаўка, Малінаўка, Гарохава... А потым, відаць, і сам бравы каморнік заўважаў сумнае падабенства назваў і замацаваў за двума пасёлкамі «планетныя» імёны, аб якіх у акрузе ніхто нават і не чуў, — Марс і Юпітэр.

## 461. МАРЫТОН

Пасяліўся тут некалі на беразе возера багаты пан. Усё навокал належала яму. І была ў яго дачка Марыя.

Купалася яна аднойчы ў возеры і пачала тануць. Людзі, якія бачылі гэта, закрычалі:

— Марыя тоне! Марыя тоне!

Пан, як пачуў «Марыя тоне!», дык самлеў, а тады сказаў сабе:

— Нагі маёй не будзе ў гэтым Марытоне,— няхай толькі жывая застанецца.

Як сказаў, так і зрабіў. Марыя не патанула. А ён прадаў і двор, і зямлю, і возера, а сам некуды знік.

## 462. [АДКУЛЬ МАЦЕЙКАВА ГАРА]

Мацейкава Гара ўзнікла ад таго, што ў Ваўкавыску быў Мацей, якога засудзілі за нейкі дрэнны ўчынак. Ён адышоў ад Ваўкавыска семдзесят кіламетраў і на вялікай гары сярод лесу зрабіў сабе зямлянку. І так вырасла вёска.

## 463. АБ НАЗВАХ ВЁСАК МОРАЧ І КОЛКІ

З падружкаю мы даглядалі цялят, а гэты дзядзька быў у нас замясціцелем прадсядацеля калхоза, Емяльянавіч. Ён з дзярэўні Колкі. Аднажды мы згаварыліся, я ў яго пытаю:

— Емяльянавіч, чаму гэта наша сяло называецца Морач, а Колкі — Колак?

А ён кажа:

— Мне мой дзед яшчэ расказваў, а яму яшчэ яго дзед ці хто там расказваў, што, значыць, гэтак было.

Тут у нас былі вялікія ляса непрахадзімыя. І от у гэтыя ляса людзей засылалі ўжо правінавачаных, штоб яны тут пагіблі, таму што тут балата, ляса, значыць, чалавек — ён должан пагібаць, а не выжыць. Ну, і вот гэты ж чалавек выжыў, што ў Морачы. Ён блукаў па лесе, дайшоў да таго месца, дзе сягодня Колак. А там к дзераву была прывязана жанчына. А ён не знаў, што́ гэта жанчы-

на, таму што яна была адзета ў ваеннае. Ну, яна просіць яго:

— Ты, чалавеча, падыдзі да мяне, развяжы, не бойся, я табе нічога не зраблю, а ўсё раскажу.

Ну, ён да гэтае жанчыны падышоў, развязаў яе, і яны сталі гаварыць. Што, значыць, выйшла так. Яна саслана была сюды. Яе прывезлі, к дзераву прывязалі, штоб яна замучылася. А ён ужо гаворыць, што я тутака астаўся на пагібель. Ну, от яны сышліся і сталі жыць. І гэтак палучылася, што ў том, дзе жанчына нашлася, назвалі Колкі, бо гэты чалавек, як кол, быў адзін на ўвесь свет. А Морач — гэта замарыць чалавека, штоб чалавек замарыўся і канец яму. Ну, от за гэтым называецца Морач.

## 464. АДКУЛЬ МОТАЛЬ

У нас возера таке́ е, у яго ўпадае Ясельда і з яго выцякае. Па гэтай рацэ плылі дубы. І плыў раз адзін яўрэй, Моталь. Угледзеў вон тут астраў і дужа параднéў, панараviўся яму той астраў. Супыніўся, пастроіў хату і стаў жыць з сям'ёю сваёй. Тады пачалі сяліцца і іншыя людзі. І назвалі вёску Моталь. І цяпер так завом.

## 465. НАЛІ́БАКІ

Непадалёку ад мястэчка Налібакі, каля вёскі Клецішча, яшчэ да рэвалюцыі быў завод. Упраўляла гэтым заводам, кажуць, нейкая немка. Тут дабывалі балотную жалезную руду і плавілі яе ў спецыяльных печах. Вугаль рабілі з дрэва. Усе работы праводзіліся ўручную. Працаваць на гэтым заводзе было цяжка. Кругом пушча, непраходныя балоты. Для прамывання руды патрэбна было вельмі шмат вады. Карысталіся балотнай. А чыстую ваду на завод прывозілі ў ба́ках. Кожную раніцу хто-небудзь з упраўлення загадваў мясцоваму насельніцтву, якое жыло непадалёку ад завода, наліваць бакі вадой: «Налі бакі!» Вось ад таго і пайшла назва мястэчка — Налібакі.

## 466. АДКУЛЬ ІДЗЕ НАЗВА ОМШАРЫ

Раней тут не было сяла, а было балота, багна, зараслі. І гэта балота называлася Омшар. Потым раскарчавалі і назвалі вёску Омшары.

## 467. ПРА ВЕСКУ ОПСА

На месцы цяперашняй вёскі Опса жыў некалі пан Мілановіч. Ён вельмі любіў хадзіць на паляванне. Аднойчы на паляванні на яго напаў воўк.

Застаўся жыць пан толькі дзякуючы сабаку, які аказаўся побач з гаспадаром. Мілановіч злаўчыўся і выстраліў у ваўка. У паядынку з ваўком сабака атрымаў шмат ран і тут жа здох. Пан прынёс яго дадому і пахаваў на грудку недалёка ад маёнтка. Побач паклаў камень з надпісам «О пса». Таму і вёску пачалі называць Опса.

## 468. АДКУЛЬ ВЕСКА ОСТРАЎ

Было гэта даўно, гадоў трыста таму назад. Праязджалі каля нашай вёскі нейкія купцы. Не ведаю чаму, але хацелі гэтыя купцы заехаць да нас. Хацелі заехаць, ды не заехалі, не было дарогі. З аднаго боку да самых хат падыходзіў вялікі лес. Ніхто цераз гэты лес не хадзіў, не ездзіў. З другога боку было вялікае балота. Казалі, што ў гэтым балоце нейкі праезджы ўтапіўся. Пасля таго ніхто не адважваўся цераз балота ехаць.

Паглянулі купцы, што дарогі ніякай німа, і сказалі:

— Дзіўна вёска. Не вёска, а нейкі востраў.

Ад таго часу і называюць нашу вёску Остравам.

## 469. АДКУЛЬ ІДЗЕ НАЗВА ПАДДУБ'Е

Там не было нікога, быў лес, былі дубы. І польскі кароль, можа, той жа самы, каторы вышчарбіў меч, палатку распяў пад дубам. І адсюль названне — Паддуб'е.

## 470. ПРА ВЕСКУ ПАДКАМЕНЬ

Жыў стары дзед. Звалі яго Ясь. Ён быў вельмі скупы і жадны. А на яго полі ляжаў невялікі камень. Гэты камень з кожным годам станавіўся большым. Ясь задумаў ачысціць поле ад камня, бо ён займаў многа поля. Ён пачаў капаць яму, каб закапаць туды камень. Але, калі ён крыху падкапаўся, камень разам з зямлёй абрушыўся. І Ясь папаў пад камень. І пайшла назва вёскі Падкамень.

## *471. [АДКУЛЬ ПАЖЭЖЫН]

Назва Пажэжын, як тлумачылі старажылы, паходзіць ад таго, што заснавальнікі сяла прыйшлі сюды больш двухсот гадоў назад з Валыні і вельмі не спадабаліся навакольным жыхарам сваім суседствам. Таму тутэйшыя людзі, жадаючы пазбавіцца новых суседзяў, не раз падпальвалі новае паселішча з аднаго і другога канца, ад чаго і сталася назва новага паселішча Пажэжын.

## 472. ВЁСКА ПАЛЕНАУКА

Расказваюць, што раней вёска гэта называлася Напаляонаўка. У час вайны 1812 года тут стаялі французскія войскі. Але вымаўляць такую доўгую назву было цяжка, нязручна, вось і перарабілі яе ў Паленаўку.

## 473. ПАПЕРНЯ

...На беразе Вячы рабілі паперу. З таго і Паперня...

Чуў я і другое. На Вячы, дзе Паперня, стаяла некалісьці варта, пастаяла і паперы (значыць — дакументы) правярала. Добрыя паперы ў чалавека — заплаці і едзь, благія паперы ў чалавека — заплаці і стой ці сядзі, было і пасадзіць куды. У Паперні паперы правяралі.

## *474. ПЕРУНОЎ МОСТ

...У той час нельга было ў нас без моста абысціся. Вунь там, дзе цяпер у канаву ваду сабралі, была гіблая дрыгва, ні ўвесну, ні ўвосень, як кажуць, ні прайсці ні праехаць. А выхад на стары, як тады яго называлі, Кацярынінскі тракт з гэтага боку самы кароткі, інакш рабі крук вёрст на дзесяць. Вось і выслалі бярвёнамі, засыпалі пяском грэблю, частка якой і цяпер яшчэ прыкметная. А над самым багністым месцам пабудавалі сапраўдны на палях мост. Гаварылі, нават не адзін, а тры масты засаб. Калісьці тут праходзіла бойкая дарога з Мінска, Пухавіч і да пераправы цераз Бярэзіну. Старыя казалі, што ў войны па ёй не адзін раз рухалася войска, праходзілі абозы...

Ды быццам бы першы мост цераз дрыгву пабудаваў тут ці то немец, ці то француз, па прозвішчу Пюры. З цягам часу ягонае прозвішча, якое так добра дадалося да моста, і перайначылі тутэйшыя жыхары на свой лад — Пярун. А ўжо ад моста і вёску [з яе, дарэчы, заўсёды прызначаўся даглядчык моста і грэблі] назвалі Перуноў Мост...

## *475. ПЕРУНОЎ МОСТ

...Гіблай была дрыгва, яна аддзяляла некалькі вёсак ад мястэчка і тракту. Абрыдла кожны раз кладкі насцілаць, і парашылі людзі збудаваць цераз балаціну мост. Узяліся ўсёй талакой і зрабілі справу — навялі мост. Толькі прастаяў нядоўга, усяго з месяц, бо аднойчы ноччу, у навальніцу, раптам загарэўся ад удару маланкі. Праз год на тым месцы збудавалі другі мост. Ды толькі з ім здарылася тое ж самае — падпаліў пярун. Але ж вельмі была патрэбна тут дарога, і на наступнае лета цераз дрыгву навялі трэці мост. На ім пярун і скончыў выпрабоўваць цярпенне людское — больш не падпальваў. Вось той мост і празвалі Перуновым, а ад яго і вёска атрымала сваё імя...

## *476. ПЕСТУНЬ

...У далёкім мінулым, аб якім ужо і дзяды не памятаюць, будучая Пестунь быццам была лясным, усяго два двары, засценкам. Ворнай зямлі тут амаль няма, затое ў лукавіне няхуткай, з пясчанымі плёсамі Свіслачы багата было рыбы, а ў векавым бары — шмат якога звяр'я.

Сюды, у гэтыя цудоўныя запаведныя мясціны, дзе можна паляваць і рыбачыць, і наязджалі розныя паны, каб адпачыць і пазабаўляцца. Яны звычайна былі ў гуморы, не паспявалі паказаць свой сапраўдны нораў і таму здаваліся засценкаўцам, што абслугоўвалі іх, і асабліва сялянам суседніх вёсак, якія штодня гнулі спіну на свайго пана, «добрымі». Вось тыя суседзі, якія зайздросцілі засценкаўцам за больш-менш ніштаватае жыццё, і празвалі іх пестунамі. Пазней гэтая мянушка і перайшла на назву засценка.

## *477. ПЕСТУНЬ

...Знайшлі аднойчы парабкі на ўзлеску логавішча з трыма малымі ваўчанятамі. Толькі чапаць іх не сталі, бо ведалі, што раззлуюць дарослых ваўкоў — наклічуць бяду на скаціну. Ваўкі-бацькі счулі людзей, але логавішча не пакінулі. Мірнае суседства працягвалася, авечкі і гусі па-ранейшаму пасвіліся на выгане.

Аднак у хуткім часе самі ж парабкі і распудзілі драпежнікаў. Пачалі яны, ды яшчэ з сабакамі, ледзь не кожны дзень хадзіць да тых ваўчанят. Ваўкі нарэшце не вытрымалі і аднойчы ноччу сышлі з двумя ваўчанятамі невядома куды. Аднаго малога бацькі пакінулі, відаць, не змаглі, а мо і не паспелі забраць з сабой. Засталося малое

ваўчанё ў старым логавішчы сіратой. Два дні, забіўшыся ў кут, моўчкі трывала, а на трэці, калі зусім прагаладалася, завыла на ўвесь лес. Сабраліся парабкі каля логавішча, не ведаючы, што рабіць. Забіць ваўчанё — бацькі абавязкова пачнуць помсціць. Забраць у вёску таксама небяспечна, бацькі зноў-такі ўзлуюцца. Так, пад галодны енк малога, і вярнуліся хлопцы дадому. А неўзабаве сціхла тое ваўчанё. Як толькі ўзышло сонца, пайшлі парабкі да логавішча, каб даведацца, што з малым. Спыніліся ў кустах і бачаць: на вытаптанай каля логавішча прагаліне ляжаць кавалкі пэражаванага мяса, а побач, соладка пасопваючы, спіць ваўчанё. Спачатку падумалі, што гэта маці-ваўчыца не вытрымала і прынесла галоднаму дзіцяці паесці. Але раптам адзін з іх убачыў за густой ялінай вялізнага мацёрага ваўка, што не зводзіў з людзей пільнага вока. Прыгледзеліся, ажно гэта зусім стары воўк, сівая поўсць касмыкамі тырчыць, рэбры вытыркаюцца, вочы слязяцца... І зразумелі хлопцы, што прыцёгся сюды стары на покліч малога, пакарміў згладалае, перапалоханае ваўчанё.

Усё лета ахоўваў ён падкідыша, карміў, пеставаў малога, а неўзабаве і забраў яго з сабой. Ну, а калі людзі, якія добра памяталі, як стары воўк пеставаў кінутае ваўчанё, пачалі будавацца непадалёку ад былога логавішча, то і парашылі назваць сваю вёску Пестунь...

## *478. ПОРПЛІШЧА

...Згодна мясцоваму паданню, назва паходзіць ад першапачатковай — «Праклішча».

...У далёкія часы, калі пры Глыбоцкім тракце яшчэ не стаяла ніводнай вёскі, калі абапал яго цягнуліся непраходныя балоты, ехаў у Глыбокае на таргі адзін багаты купец. Дужа той гандляр спяшаўся і, каб скараціць шлях, загадаў ямшчыку, бышцам ён некалі так ехаў, звярнуць на бакавую дарогу, што ішла праз кусты. Ямшчык адмовіўся, ды і кабылка ісці не хацела, матала галавой, капытамі біла... Усё ж купец настаяў на сваім. З'ехалі яны на балотную дарогу і адразу ж апынуліся ў глухой пушчы. А калі нарэшце і купец зразумеў, што яны заблудзілі, што едуць зусім не туды, куды трэба, дык і павярнуць назад ужо было позна — сцежка вузкая, абапал топкая, багністая дрыгва. Спыніліся. Выпраг ямшчык сваю кабылку, пусціў яе на ўсе чатыры бакі, і разам з купцом пайшлі ад купіны да купіны, як ім здавалася, назад да тракту. Купец увесь час лаяў і ямшчыка, і яго каняжыну за тое, што завезлі яны яго ў нетры, на пагібель. А стары ямшчык толькі ціхенька маліўся ды раз-пораз клікаў сваю любую кабылку: «Кось, кось!..» Хутка

сцямнела. А калі ямшчык з купцом спыніліся на выспачцы, бо баяліся ў гэткай цемры ў дрыгву праваліцца, як раптам, зусім побач, заржала кабылка. Ямшчык адразу ж сцяміў, павярнуўся, схапіў яе за хвост і кажа купцу: «Толькі яна нас цяпер і выратуе, давайце руку». А купец ні ўзад, ні ўперад. «Ды я лепш да раніцы тут сядзець буду, чым ісці за тваёй дурной каняжынай!» І зноў пачаў брыдка лаяцца. Але ямшчык усё-такі пацягнуў упартага купца за сабой. Не паспелі яны прайсці і з дзесятак крокаў, як замест багністай гразі адчулі над нагамі цвёрдую дарогу. Вось так кабылка і вывела іх на тракт. Купец узрадаваўся: «Хаця месца і праклятае, але ў гонар свайго выратавання дам грошай на пабудову царквы, храма божага. На страх усім лесунам і ведзьмакам...»

Спачатку нібы і сапраўды стаяла царква пры тракце, а потым каля яе, у Праклішчы, пачалі сяліцца людзі. А калі вёска пабудавалася, разраслася ды папрыгажэла, людзі і перайменавалі Праклішча ў Порплішча...

## *479. ПРЫЛУКІ

Не летась, не залетась, а калісь у старыну, як мы самі сабою яшчэ жылі, тое, што казаціму, было.

У адным месцы абапал Птыча-рэкі высяцца дзве горкі дужа красныя, а пасярод ракі востраў ляжыць. На той гарэ, што на правым беразе, стаяў двор знатнага баярына, іменем Яраслаў.

Дый красен жа той двор быў, увесь у садах, будынкі ўсе спраўныя былі, а ўвакруг тынам белым абведзены; ад двара дый да шляху былі прысады ліповыя.

Быў дзень ясны, харошы, ведама, як у пачатку лета бывае, калі яшчэ лукі зіхацяць кветкамі, птушкі заліваюцца рознымі галасамі, рыба ў рэчцы раз у раз плюхае, разганяючы шырока вакорыну, пчолы і ўсякія мошкі ды казяўкі цэлымі раямі завіхаюцца каля кветак. Дзе ні глянь — усюды жыццё кіпіць, а сам пазіраеш на ўсё гэта неяк радасна.

І вот на прысадах тых, у прыятным прахалодзе, любуючыся прыродаю і самі сабою, прахаджваліся малады баярын Яраслаў са сваёю паняю, маладою жаною, краснаю Люблянаю. Ходзяць яны і цешацца, ажно дарога задуднела, і на ўзмыленым кані паявіўся ўвесь запылены княжны ганец і, сукланіўшыся баярству, павяшчае нядобрую навіну, што вораг рубеж перайшоў і дужа наш край пустошыць і што князь прыказаў усім сваім баярам на вайну, чым дужы, паспяшаць.

Баярын рад чыну даказаць, сабе славы прыдбаць, хутка сабраў сваю дружыну і паехаў.

Спачатку баярын слаў часта ганцоў да любай жонкі, а далей —

ні ганцоў, ні самога штось не чутно стала. І затужыла вельмі красна пані Любляна — усё выходзіць на шлях ды ўдаль пазірае, ды ўсё дармо.

Прайшло лета, настала зіма, а любага Яраслава як няма, так і няма. Прыйшла ізноў вясна. Выйшла раз красна Любляна ў канец прысад і як толькі на шлях зірнула, так дужа і зрадзела: бачыць, коціць дружына, а наперад любы вараным канём едзе. Ды нядоўга яе радасць была, бо як той пад'ехаў бліжэй, пазнала, што гэта другі.

Той пад'ехаў, сукланіўся, а яна і думае: «Можа, ён што пра майго ведае?..» Просіць яго к сабе ў харомы спачыць трохі. Той рад, прыстае, ідзе за ёю ў святліцу. Яна, яго за стол пасадзіўшы, гукнула на слугі, сказала прынесці піва, мёду і ўсялякай стравы; стала яго частаваці і яго пытаці пра мужа любага. Той, пагадаўшы, так ёй павядае:

— Не хочацца мне табе, красна пані, жалю задаваці, ды мушу... Вото ж бачыш, твой муж, ■ мой друг сардэчны, быў цяжка ў баі ранены і, уміраючы, кажа мне так:

— Слухай, дружа! У мяне е жонка, дужа красная пані, а ты яшчэ не жанаты, так успакой мяне перад смерцю, бо мне скора канец,— пакляніся заступіці ёй маё месца! Што ж я меў рабіць? Мусіў прысягнуць і цяпер ад прысягі адступіціся мне нельга... Так пані няхай мя выбачыць і будзе прыхільна.

Тая тое як учула, давай плакаць, галасіць і слухаць яго не хоча. Плакала яна дзень, плакала другі, а на трэці і падумала:

— І чаго я гэтак плачу?.. Што я тым памагу?.. Адно лічка сваё красна папсаваю...— і на чацвёрты дзень гутарку з ім прыязну павяла, а на пяты — так і жартаваць сталі, а далей і пабраліся.

Прайшло ізноў лета, прайшла зіма, а за зімою — вясна, а за вясною і лета настала. Сядзяць гэта той прыезджы баярын з красною Люблянаю, як галубкі ў парачцы, і сабою цешацца ды любуюцца. Ажно разам Любляна як крыкне і, хапіўшыся за сэрца, абамлела. Той — зірк: бачыць — перад ім Яраслаў стаіць...

Хапіліся спярша за шаблі, а далей Яраслаў, адумаўшыся, кажа:

— Адзін з нас павінен умерці, дык няхай бог судзіць каму. Вазьмі ты сабе лук і сагайдак з стрэламі і ідзі на гару за рэчку, а я вазьму сабе і стану на гэтай гарэ і будзем страляцца.

Як сказаў, так і ўчынілі: выпусцілі — нічога, выпусцілі па другой — нічога, а па трэцяй як выпусцілі, так абодва аж асунуліся, як два падкошаныя каласочкі.

Тое месца з тых пор Прылукамі стала звацца. І цяпер там стаяць мураваныя харомы і ліповыя прысады, і жыве там пан дужа багаты, толькі той пан цяперашні не наш, а прышлы з замор'я, але дабраваты сабе.

## 480. А ЧАМУ НАЗВА ТАКАЯ — ПЯРШАІ

Кажуць, што ў даўнія гады ад Валожына гналі па дарозе на Івянец валоў, і тут рабілі пагоншчыкі першы прыпынак. Адсюль і пайшло — Пяршаі.

## 481. ПРА НАЗВУ РОЖАН

Былі тут балата кругом. А прыйшоў адзін чалавек, паставіў ражон і кажа:

— Тут жыць будзем.

Ад таго і Рожан пайшоў.

## 482. ВЁСКА РУМ

Гаварылі старыя так. Якая-то прыстань была тут. Па Ісачы панялі ўверх па цячэнню віціны. Тут спыняліся. Прыстань называлі Зябаль-порт. Можа, таму, што балявалі ў карчме. На беразе складвалі ў шляхты сплаўны лес. Тут жа яго прадавалі і адсюль адпраўлялі. Пазней прыстань сталі называць Рум. Цяпер гэта вёска — Рум.

## 483. ПРА ВЕСКУ САВІН ДУБ

Казаў яшчэ дзед мой Ахрэм, што калісьці, як не было дзярэўні, а стаяў бальшы дуб і на дубе вадзілася сава. І вот вядуць коні на начлег пасціць і гавораць:

— Куды павядзём?

— А,— гавораць,— павядзём пад Савін Дуб, дзе сава вадзілася.

Ад савы і пайшоў Савін Дуб. Пасяліліся, стала дзярэўня, і называюць Савін Дуб.

## 484. АДКУЛЬ САЛАНАЯ

Окала Вішнева, вёска Шаўканы, радзіўся мой бацька. Адтуль ён прыйшоў сюды прымакай. І тут нічога не было.

І каго пан не ўзлюбіць, то сюды высылаў.

— Во, хай табе салона будзе.

І назвалі Саланая.

## *485. САЛТАНЫ́

...Адбылося гэта даўно, пасля цяжкай і доўгай вайны з туркамі. Перамаглі рускія, і таму да палонных (было іх шмат тысяч) паставіліся паблажліва. Частку туркаў завезлі ў Расію, ім было дазволена жыць у вёсках і гарадах, займацца рамяством. Так у Мінску палонныя туркі асвоілі хлебапячэнне. Так званыя турэцкія булкі доўгі час карысталіся поспехам у жыхароў горада. Вядомыя былі туркі і як умелыя мельнікі-мукамолы.

Аднойчы на багаты хутар, што стаяў на месцы будучых Салтаноў, прыблудзіў адпушчаны на волю малады турак. Наняў яго гаспадар быццам бы на касьбу, а потым, убачыўшы, што хлопец ён спраўны, працавіты, пакінуў яго ў работніках на ўвесь год. Звалі таго прыгожага вясёлага хлопца Салтан. Дык вось быццам бы той бяздомны жабрак пасватаўся да гаспадарскай дачкі-прыгажуні, якая таксама ўжо даўно паглядала на адважнага турка-прыгажуна.

Толькі гаспадар хутара паставіў перад Салтанам умову.

— Разбагацей спачатку,— хітра пасміхваючыся, сказаў ён, — набудзь хаця б з трэць таго, што я маю, без слоў аддам за цябе дачку адзіную.

Зажурыўся, засумаваў хлопец, але ненадоўга. Зноў прыйшоў да гаспадара і папрасіў даць яму ў арэнду кавалак зямлі, хай сабе нават кепскай, аж на вяршыні пясчанага ўзгорка.

Здзівіўся гаспадар, падазрона зірнуў на Салтана, але ўсё-такі згадзіўся, аддаў яму той неўрадлівы ўзгорак.

Вось на гэтым узгорку пабудаваў кемлівы Салтан свой першы ветраны млынок. А паколькі іншых млыноў паблізу не было, павезлі людзі малоць зерне да Салтана. Назбіраў беражлівы хлопец грошай і на месцы малога ветрака пабудаваў сапраўдны млын з магутнымі жорнамі, размахам крылаў аж у дзесяць метраў. Паваліў народ да млынара Салтана. А перад калядамі занёс Салтан у дом гаспадара каваны куфэрак, адкрыў яго і сказаў: «Лічы!» А было ў тым куфэрку поўна залатых манет. Гаспадар не стаў лічыць тыя грошы, паклікаў дачку і тут жа заручыў маладых.

Доўга яшчэ навакольныя людзі ездзілі на млын турка Салтана. А пад той час, калі гаспадаром млына стаў Салтанава сына сын, людзі ўжо ездзілі малоць зерне не на безыменны хутар, а ў вёску Салтаны...

## 486. АДКУЛЬ СВАРЫНЬ

У Вэтлах людзі сварыліся з панамі, не хацелі паншчыну рабіць. То іх выселілі ў другое месца і назвалі тое месца Сварынь.

## 487. ПРА ВЕСКУ СЕЙЛАВІЧЫ

Сейлавічы — вялікае сяло за Нясвіжам. Стаіць яно на рацэ Тур'я, што ўпадае ў Нёман. Зямля навокал неўрадлівая, і людзі ведалі, што калі хочаш пракарміцца — сей і лаві рыбу, ракаў. Таму і назвалі вёску Сейлавічы.

## 488. ЧАМУ НАША СЯЛО НАЗЫВАЕЦЦА СКУПАВА

Аднойчы прыйшоў да нас дзед Раманчук. Гэта быў стары чалавек, якому, як казалі людзі, было сто гадоў. Мы, маладыя хлапчукі, абступілі дзеда і сталі пытацца:

— Дзедку, колькі вам лет? Сядайце і раскажыце..., як то даўней было? Чаму наша сяло называецца Скупава?

Дзедка паставіў сваю кульбаку ў куточку, сеў на лаўку каля стала і стаў гаварыць:

— Дзеткі мае, у мяне за плячыма больш за дзевяноста гадоў. Як сон, прайшло жыццё маё. А мне здаецца, што я толькі ўчора нарадзіўся на свет... Цяжкае маё жыццё, але жыць хочацца. Просіце расказаць вам пра Скупава. Яго так называюць не таму, што тут жывуць скупыя людзі. Даўным-даўно тут быў двор. Стаяў вон на ўзгорку па скоснай дарозе, што ідзе на Сухадолы: паміж Смольным і Бондаравым Кутом. Пад узгоркам была крыніца, працякала рэчачка, быў там рыбны стаў. Двор згарэў. Тагды зямлю распрадалі людзям. Вось, можа, таму наша сяло і назвалі Скупава, бо зямлю скуплялі людзі з розных старон... Спярша Скупава было адно, ■ пасля пажару раздзялілася на Старое і Новае Скупава.

Калі тут лес быў выраблены пад поле, таго ніхто не памятае, то было даўным-даўно. Толькі чуў я ад старых людзей, што руская царыца Кацярына падарыла Скупава свайму палкаводцу Сувораву. Ё■ быў генерал над усімі генераламі і называўся генералісімус.

## 489. АДКУЛЬ НАЗВА СТАНУЛІ

Ехаў татарскі абоз. Якое там войска, я не знаю. Тут цяпер асвальт, а былі два пагуркі, і было цяжка гэтаму абозу ехаць і сталі, адным словам. І далі названіе — Станулі.

## 490. ПРА ПАХОДЖАННЕ ВЕСКІ СТРУГА

Гэта было многа лет назад. Аднойчы каля гэтых мясцін праязджаў нейкі чалавек... Спірыдон. І вось, агледзеўшы гэтыя мясціны, раку, балоты, лес, ён пераехаў сюды жыць... На першым часе жылі

ў зямлянцы... Спірыдон паставіў сабе хату на беразе ракі Глінянка, і гэтая хата была гэтак харашо выстругана, што блішчэла на сонцы.

У Спірыдона было шэсць сыноў, ён ім паставіў па хаце і навучыў габлярнаму дзелу. Пастароннія людзі вельмі хвалілі гэтыя хаты, а заадно і майстроў. Калі хто хацеў наняць, то казаў — паеду туды, дзе добра стружаць, і так пастароннія людзі празвалі нашу вёску Струга і Струга...

## 491. АДКУЛЬ СУБОТНІКІ

Суботнікі даўней зваліся Старыя Геранёны. Але вот паравозілі абра́з божай маці на валах, і зляцела калясо. Гэта было ў суботу. Далей валы не захацелі ісці... Назвалі Суботнікі.

## 492. ДВА КАНЦЫ У ВЕСЦЫ ТРАБУХІ

Там, дзе цяпер Ваўкоўшчына, была адна хатка. Жыў у ёй ляснік з маткай. Матка яму варыла абед, а ён хадзіў па лесе. Прыходзіць ляснік дадому і бачыць: у хаце — косці. Ваўкі, значыцца, уварваліся ў хату і з'елі матку. Пайшоў ён па воўчых слядах, адышоўся сюды, дзе цяпер наша вёска, і знайшоў матчыны трабухі.

Пазней людзі перабілі тых ваўкоў, пасяліліся тут, і цяпер Трабухі і Ваўкоўшчына — адна вёска. Гэты канец — Трабухі, а той — Ваўкоўшчына.

## *493. ВЁСКА ТРОХГРАННЫ ДУБ

...Трохгранны — гэта значыць стаіць на трох граніцах, межах...

Некрануты лес, які называлі Завішанскай пушчай, цягнуўся некалі вёрстамі. Але ў лесе, вядома, былі гаспадары. Добрая палова належала князю Радзівілу, частка з'яўлялася казённым лесам. Вось тут і знаходзіўся невялічкі, аддадзены сялянам астравок пустэчы. Стары дуб, на каторы, арыентуючыся, выводзілі праз лес квартальныя ды розныя межавыя прасекі-лініі, якраз стаяў на тым месцы, дзе сыходзіліся граніцы-межы, што аддзялялі княжацкі лес ад дзяржаўнага, а ад яго — сялянскае поле і сенажаці.

А спілаваць волат-дуб загадаў небагаты мясцовы панок, які адкупіў у князя частку пушчы і гэтым, відаць, хацеў усім паказаць, што нарэшце ўсемагутны магнат згубіў свае правы на пушчу, якая стагоддзямі належала яго княжацкаму роду. І ўсё-такі славуты дуб пайшоў не на дровы. Распілавалі яго на плахі і ўвесь гэты матэрыял перадалі на будаўніцтва царквы ў Лядах...

## *494. АБ ПАЎСТАННІ ТРЫВЕЖЫ

Дзе цяпер Важанка і Трывежа, даўным-даўно жыў пан. Ён там пабудаваўся і засадзіў гектар саду. Вакол яго замка раслі высокія і вельмі прыгожыя дрэвы, звалі іх сокаламі. Меў пад сваім уладаннем многа гектараў зямлі. Полем яго ўладаў падпанак... Пан, пад якога ўладаннем былі гэтыя землі, не хадзіў па іх, а толькі высылаў свайго падпанка Аніську, а сам з паняй шпацыраваў па сваім парку і час ад часу ўзлазіў на вежу, якая стаяла каля яго двара, і глядзеў на свае доўгія палі, як працуюць яго сяляне. Апрача таго, на гары ў полі стаяла яшчэ тры вежы, на якія ўзлазіў падпанак Аніська...

Надышоў урэшце час, і пан памёр. Астаўся толькі Аніська з дочкамі. Пачаў ён зямлю прадаваць. Народ на гэтае месца з'язджаўся з усіх бакоў. І на гэтай гары, дзе стаялі тры вежы, вырасла вёсачка Трывежа, а ўбок, дзе стаяў панскі замак і дзе стаяла адна вежа, разбудавалася вёсачка Важанка.

## 495. АДКУЛЬ ТЫНЕВІЧЫ

А было гэта так. З нараўскага праваслаўнага манастыра шляхам на Бельск і Драгічын выбралася трох манахаў. Спыніліся на ўзгорку сярод лесу, расклалі агонь. Потым ужо пастаянна спыняліся на тым самым месцы. Пасля нейкага часу гэтыя манахі пабудавалі тут сабе тын — загарадзь з тоўстых бярвенняў, каб абараняла іх ад драпежных звяроў. Памалу тын разрастаўся, побач яго пасяліліся мужыкі, людзі пачалі карчаваць лес і займацца земляробствам. У Нарве жыхароў недалёкага тына пачалі называць тыневічамі. Так ужо і засталося да сённяшняга дня. Ад назвы жыхароў пачала называцца цэлая вёска.

Цяпер ёсць дзве вёскі Тыневічы: Вялікія і Малыя.

## *496. [АДКУЛЬ ТЭКЛІНОПАЛЬ]

Паселішча Тэклінопаль. Больш за сто пяцьдзесят год таму назад тут стаяла вёска Шалавічы. Буйны беларускі магнат Скірмунт, аблюбаваўшы гэтае месца, ссяліў адсюль сялян і пабудаваў маёнтак, які ў гонар дачкі Тэклі назваў Тэклінопалем. Але людзі дасюль называюць гэтую мясціну, як і раней, Шалавічамі.

## 497. АДКУЛЬ УХВА́ЛА

Калі яшчэ не было тут нашай вёскі, адзін пан аблюбаваў сабе гэтае месца, хоць яно і было балоцістае. Пан той пачаў асушваць балота: пракапаў канавы і збіраўся будаваць ужо свой палац. Надта яму тут падабалася, і ён усё хваліў гэтае месца. А потым

раптам чамусьці не захацеў ужо яго. А Ухвалай так і называлі гэта ўрочышча, бо дужа пан яго хваліў. А пасля, як стала тут вёска, то і вёску пачалі называць Ухвала.

## 498. ЧАМУ ВЁСКУ НАЗЫВАЮЦЬ ХАДУНЬ

Хадуню няма і трохсот год. Тут быў лес. Хадзіў па ім крычаўскі чалавек і збіраў дзікі пчаліны мёд. Звалі яго Хадак. Пабудаваўся ён тут у лесе і жыў. Спачатку адзін, потым пасяліліся тут яшчэ батракі. І яны хадзілі па лесе. Адсюль і Хадунь.

## *499. ХАРОШАЕ

...Звярнуў з полацкай дарогі адстаўны салдат, звярнуў куды вочы глядзелі, таму што на радзіме ў яго нікога не засталося — унёс мор бацькоў, родных і сваякоў. Майстрам салдат быў на ўсе рукі: мог боты, кажух за адзін дзень пашыць, брычку, сані зрабіць. Гэтым і карміўся ў сваёй доўгай і, здавалася, бясконцай дарозе. Але вось неяк пад вечар убачыў салдат хутар пры гасцінцы і парашыў тут заначаваць. Пастукаў у хату, увайшоў. За сталом сядзіць стары дзядок. Расказаў салдат, па якой прычыне з'явіўся, а стары яму і адказвае:

— Не хадзі, сынок, далей, заставайся ў мяне, хутка памру я, а тады хата твая будзе.

Так і застаўся на хутары пры гасцінцы салдат Іван Харошы. А пра тое, што чалавек ён трывалы ды майстравы, ды яшчэ на скрыпачцы іграць умее, хутка дазналіся ва ўсіх навакольных хутарах. І завялося ў салдата шмат сяброў. Хто б ні ішоў, ні ехаў па тракту, абавязкова на хутар да яго загляне — пагаманіць, скрыпачку паслухаць. Праўда, знайшліся ў салдата і ворагі. Дужа не падабалася панам ды падпанкам розным, што ў іхняй мясцовасці пасяліўся разумны і адважны чалавек. То падаб'е хлопцаў, каб не ішлі за капейкі касіць, то сам арцель збярэ, і сыдуць яны на месяц ці два лес сплаўляць альбо хаты рубіць-ставіць.

Дзядок, гаспадар хутара, і сапраўды ў хуткім часе памёр. Пахаваў яго Іван Харошы з вялікай пашанай. А неўзабаве, застаўшыся ў хаце адзін-адзінюткі, пачаў і пра жаніцьбу марыць.

Дзяўчына, якую салдат пакахаў, жыла з бацькамі ў вёсцы і ўсё ж не адважвалася сказаць апошняе слова. А як жа салдат хацеў пачуць яго! А парашыў усё выпадак, праўдзівей кажучы, бяда. Неяк ноччу падкраліся панскія паслугачы да хаты Харошага і падпалілі яе з чатырох бакоў. Загарэўся стары дом, як свечка. Іван толькі і паспеў са сваёй скрыпачкай выскачыць. А на двары —

крыкі, улюлюканне. Паслугачы панскія радуюцца — пацяшаюцца над Іванавым горам. Ды толькі салдат Іван Харошы не разгубіўся, не спалохаўся — не з тых ён людзей быў. Агледзеўся і бачыць: набегла з вёскі шмат людзей,спрабуюць яны патушыць пажар, хату выратаваць. Раптам ускінуў Іван сваю скрыпачку і, асветлены полымем, зайграў. Хата гарыць, а Іван стаіць сабе пасярод двара ды іграе на скрыпачцы, ды так весела, быццам у каго на вяселлі.

— Грай, грай, прыблуда, паглядзім, пад якім дахам ты сёння начаваць будзеш,— чуе салдат за спіной зласлівы голас.

А другі яму на падмогу:

— Лепш ідзі адсюль, выбірайся з нашых мясцін, пакуль жывы, бунтаўшчык акаянны!..

А Іван і вухам не вядзе, як іграў на скрыпачцы, так і іграе. І тут раптам выйшла з натоўпу Іванава дзяўчына, падышла да яго, узяла за руку і, звяртаючыся да ўсіх, сказала:

— Нікуды Іван Харошы не пойдзе, а будзе жыць у нашай хаце, у жонкі сваёй...

Ажаніўся Іван са сваёй каханай. Восем сыноў яна яму нарадзіла. Кожны з сыноў прозвішча бацькі атрымаў — Харошы. А калі сыны пажаніліся ды сталі жыць у сваіх хатах, новую вёску, што пайшла ад нашчадкаў Івана, людзі назвалі — Харошае.

## 500. ПРА ВЁСКУ ХІЛЬМОНЫ

Паўстала ж наша вёска Хільмоны вось як. Тут, над ракою Сідрай, пры трактавай дарозе, мелі яцвягі карчму. Пры ёй былі і падворак, і хлявы розныя, куды і заехаць на адпачынак можна было б падарожным. Гаспадар карчмы, яцвяг, прывёз аднойчы з паходу на Палессе дзве сям'і палонныя, каб яму ў карчме працавалі. І называліся тыя палонныя Хілімонамі. Разрасліся тыя сем'і, распладзіліся, але і яны самі сябе, і суседнія сёлы ўсё ж звалі іх Хілімонамі. І хоць цяпер у нашых ваколіцах такіх прозвішчаў і няма, але ў назве нашай вёскі яны захаваліся.

## 501. [ПЕРШЫ ГАК У ХАТЛЯНАХ]

У вёсцы Хатляны, як закладалі новую царкву, пазвалі бацюшку класці першае бервяно. Бацюшка ўзяў тапор, цюкнуў ім і прыказаў:

— Першы гак,
Хай будзе так:
Што нядзелька — то радзінкі,
Што будні дзянёк — то й памінкі.

Тады ўзяў тапор цесля і кажа:

Мой першы гак,
Хай будзе так,
Што гадок,
То й папок.

І што вы думаеце? Кожны год-другі паміраў поп у гэтай царкве. Мусілі выбіраць тут падваліну і закладаць новую, тады ўспакоілася.

## 502. ВЕСКА ХОЛМЕЧ

Ішлі сюдою паўз Днепр воіны — яшчэ як славяне ваявалі. Тады ж не было тэхнікі. Ну, салдат ішоў, бачыць: ляжыць стары меч. Ён падняў яго, падышоў к Дняпру, узышоў на холм, паглядзеў кругом, падзівіўся да й заткнуў гэту штуку ў зямлю.

— Цета,— кажа,— холм, а цета — меч.

І стала: Холмеч.

Тады ж яшчэ і вёскі не было, можа, тры хаты стаяла. З трох хат вырасла вёска, потым мястэчка. Цяпер зноў вёска. Усё мяняецца, толькі Холмеч застаецца.

## 503. ЦАЛУЙКІ

Нашы плытнікі хадзілі калісьці па Дняпру аж да Херсона. І дзіўна ім было: чаму ў нас каля Грушнага Цалуйкі і на Украіне — яшчэ адны Цалуйкі. Старыя расказваюць: калісь сілаю бралі ў рэкруты, і ўцякалі людзі. А ў нас тут востраў быў. Сяліліся на ім, хто хацеў, без усялякага дазволу. Нідзе ў дакументах ён не значыўся. Але аднойчы ўбачылі пасяленцы след-каляіну: нехта каваным возам праехаў, нібы «пацалаваўся» і паехаў далей. «Вось і знайшлі нас!»— спужаліся людзі. Сабралі сход, замітусіліся. Ніхто не хацеў сядзець і чакаць, пакуль іх схопяць, то за адну ноч людзі сабраліся, узялі з сабою самае патрэбнае і пакінулі сваё селішча, перабраліся на новае месца. І цяпер яшчэ тое селішча захавалася, а непадалёку — нашы Цалуйкі. Я сам з Цалуйкаў. І завуся Цалуйкам. У нас усе з такім прозвішчам.

## 504. АДКУЛЬ НАЗВА ЦЕЛЯХАНЫ

Мястэчка Целяханы мае такую назву таму, што тут была знойдзена калісьці магіла хана. Быў вялікі курган. Каля яго сяліліся людзі. А ў магіле было цела хана. Таму і Целяханы.

Кіламетраў тры за Целяханамі ёсць Лысая гара. Гавораць, што гэта і ёсць магіла хана. Але гавораць і другое. Паны Агінскія, калі капалі канал, мелі асуджаных, прыкаваных да насілак. Ім і загадалі нанасіць гэты курган. На кургане меркавалася пабудаваць палац.

## 505. АДКУЛЬ ВЁСКА ЧАШЫН

Старыя, даўнейшыя, гаварылі, што тут калісьці часалі дзерава. Пасяліліся на гэтым месцы людзі. Ды і месца тут такое, як чаша. А ў самой чашы — вёска, таму і Чашын.

## *506. ПРА ВЁСКУ ЧАРНЯТЫН

Расказваюць, што тут адбылася адна з тых бітваў з татарскай ардой, у якой з абодвух бакоў палягло мноства воінаў. Незлічоныя хмары крукоў, гракоў, варон, галак, наогул чорнага птаства зляцелася на полі Чарнятынскім, заваленым непахаванымі трупамі. Адтуль пасля выгнання татараў найшоў на людзей грозны памор, а нібы ад чорнага птаства ўся мясцовасць Чарнятынам пачала звацца.

## 507. АДКУЛЬ ШАНТАРОЎШЧЫНА

Жыў тут некалі ксёндз Шантар. Вот ён і закупіў у пана гэту ўсю зямлю. Потым знаходзіліся людзі, якія адкуплялі ў ксяндза для сябе кавалак зямлі. І назвалі гэтае месца Шантароўшчынай.

## *508. ШВЕДЫ

...Сённяшнія Шведы — некалі гэта былі аддаленыя выселкі на Віліі — называліся Высокая Прыстань. Першымі тут на неўрадлівым беразе пабудаваліся высланыя з Шаловіч за нейкую правіннасць чацвёра сялян. А імя — Высокая Прыстань — далі хутару плытагоны, якія прычалілі ў гэтым месцы, каб трохі адпачыць... Але старажылы расказалі, што ў кіламетры ад Шведаў знаходзяцца так званыя шведскія могілкі — з дзесятак насыпаных курганоў, якія мясцовае насельніцтва прымае за пахаванні шведскіх салдат....

Вёска Высокая Прыстань на доўгі час апынулася ў двух лагерах. Адзін канец быццам займала руская армія, а на другім знаходзіўся штаб галоўнага шведскага войска. За гэтай часткай вёскі і замацавалася назва — Шведскі Канец, а потым і скарочаная — Шведы, якая з цягам часу канчаткова выціснула старую назву вёскі — Высокая Прыстань.

## 509. [ВЕСКА ЮШКАВА]

У наваколлі вёскі Юшкава месцы балацяныя, як тут гавораць— юшкі хапае, а рыбы няма. Так і празвалі — Юха, Юшкі, а адсюль і Юшкава.

## *510. [ВЕСКА ЮШКАВА]

Дзярэўня Юшкава называецца адтаго, што некалі ў гэтай мясцовасці толькі адзін багаты селянін, не па звычаю таго часу, меў хату чыстую, з комінам і юшкаю ў печы. Вось таму і пачалі называць тую дзярэўню Юшкі.

## 511. АД ЧАГО ВЕСКА ЮШКІ ТАК ЗАВЕЦЦА

У турэцкую вайну там было агромна пабоішча. Вораг страціў вельмі многа войска. Бітва была такая суровая і страшная, што ўся зямля была пакрыта кроўю, юхай. Адсюль і назва вёскі Юшкі.

## 512. ПРА НАЗВУ ВЕСКІ ЯЗЫЛЬ

Тут раньша была рэчка такая звілістая, цяпер канава. І к рэчкі многа прытокаў, у ёй было очань многа рыбы. І для лоўлі рыбы загаражвалі рэчку кольямі. Эта называлі ез. Еслі маленькі — ез, еслі бальшой, значыт, бальшой язок, еслі многа — язы называлі. От прахожыя — а дарога была очань скверная — праходзілі чэраз язы, чэраз эці кладкі. І назвалі эта Чэраз Язы. Кудою ішоў? Чэраз Язы. А патом дабавілі Языль.

## 513. ВЕСКА ЯКУБОУШЧЫНА

У пана Сліжаноўскага быў селянін Якуб. Гаспадар яго вельмі цаніў, таму што той быў і конюхам, і канавалам, і лекарам... Адно дрэнна: меў Якуб страшна сварлівую жонку, якая вельмі дакучала пану. І той, шкадуючы выгнаць Якуба, пабудаваў ім у лагу, за вёскай, хату і загадаў жыць там. Так з таго часу і пайшло: Якубоў лог — Якубова лагчына — Якубоўшчына.

## 514. ЯК УТВАРЫЛАСЯ ВЕСКА ЯКШЫЦЫ

Гэта было вельмі даўно, калі татары прыйшлі ў Расію. У вёсцы Арда стаяў хан са сваімі салдатамі. Адзін салдат вельмі добра служыў хану, і ён рашыў аддзякаваць яму за гэта.

На месцы цяперашніх Якшыц была паляна. Кругом яе рос густы лес, дзе вадзілася многа ўсякага звера. На паляне было вельмі прыгожа. Аблюбаваў хан гэтае месца і якраз яго і надумаў падараваць свайму салдату. Харошае, красівае па-татарску значыць якшы. Вось адсюль і вёска пачала называцца Якшыцы.

## УРОЧЫШЧЫ

### 515. АЛЬХІМКАВА БАЛОТА

Жыла ў тых мясцінах яшчэ пры паншчыне дзяўчына. Звалі яе Альхімія, а папросту Альхімка. І любіла Альхімка аднаго хлопца, марыла выйсці за яго замуж. Але прыглянулася прыгажуня свайму пану. Пан зняславіў дзяўчыну, і яна, бедная, з гора ўтапілася ў балоце. З таго часу людзі і празвалі балота Альхімкавым.

### 516. БАБІН ВОСТРАЎ

Калісь быў мяцеж, усіх людзей чыста паўбівалі да пазакапвалі ў гэтыя магілы. Там была дзярэўня двароў пяцьсот, дык нічога і нікога не засталося. Толькі во кіламетраў восем, к Руднішчу, ёсць Бабін Востраў. Дык адна баба з пяццю сынамі схавалася там і засталася ў жывых. Адсюль і названне вострава.

### 517. БАРАНОЎСКІ РОЎ

Гэты Бараноўскі роў надта глыбокі і ў ім, кажуць, чэрці сядзяць з тых пор, як ехаў каля гэтага рова пан з сваёй жонкаю і вывернуўся ў гэты роў, і яго жонка забілася.

З тых пор у гэтым рове чэрці страшаць ночаю людзей.

### 518. БАЯРЫ

Паміж вёскамі Навасёлкі і Мілошавічы ёсць хвойнік. Называюць яго Баяры. Расказваюць, што жылі ў гэтай мясцовасці багатыя баяры. Памёршых баяр хавалі ў гэтым хвойніку. На магілах баяр ставілі вялікія высечаныя камяні. Яны і зараз ёсць у гэтым лесе, толькі абраслі мохам. Кажуць, што баяры адзін раз у год выходзяць з таго свету. Тады падымаецца ў лесе страшная бура, вецер ломіць дрэвы. Каго ў гэты дзень яны застаюць на сваіх магілах — разрываюць на кускé. Гавораць яшчэ, што гэтыя баяры спяваюць з ваўкамі песні і да самай раніцы кладуць агонь.

## 519. БУСЛАВА ДЗЯЛЯНКА

Есць у нашай мясцовасці Буслава Дзялянка. Быў там лес. Пачалі яго пілiць. Наш леспрамхоз пiлiў. Дайшла чарга да ясеня. А на тым ясенi чорны бусел гняздо звiў. Не захацелi людзi бурыць таго ясеня. Усё вакол спiлiлi, а ясень астаўся. І даўно ўжо таго ясеня няма. Ад пня толькi пасынкi iдуць. Называецца гэта месца Буслава Дзялянка. Людзi помняць яшчэ, што там бусел жыў, чорны бусел.

## *520. ГАЙДАМАШКА

Жыў там у старыя часы яўрэй балагол. У яго была кабыла Машка. Паганяючы сваю кабылу, возчык крычаў звычайна: «Гайда, Машка!» Вось так i ўзнiкла назва гэтай мясцовасцi — урочышча Гайдамашка.

## *521. ГАЛОДНЫЯ МОГІЛКІ

Непадалёку ад урочышча Ладзейнiца стаiць некалькi старых соснаў. Гэтае месца называюць Галоднымi могiлкамi. Расказваюць, што больш як дзвесце гадоў назад тут хавалi людзей, якiя паўмiралi ад вялiкага голаду.

## 522. ГАЛЫ ЛУГ

У гэтым лузе ўсё зборышча чартоўскае, бо часта бывае, як хто п'яны ноччу едзе, то яму здаецца, што ён прыехаў туды, дзе едзе: бы то сяло, места цi двор, як там трэба. А як увойдзе бы то ў хату, цi ў карчму, бачыць: людзi. Усе ажно, як чорты, зарагацяць, тады чалавек бы то са сну прачхнецца, гляне, ажно ён не там, да серад таго луга.

## *523. ГАРАДОК

Недалёка ад сяла Быч ёсць месца, вакол якога растуць векавыя дубы. Яно называецца Гарадок. Кажуць, што ў тых месцах, дзе цяпер сяло Быч, калiсьцi нiбыта жылi шайкi разбойнiкаў, якiя мелi тут умацаванне — земляны вал... Да цяперашняга часу захавалiся сляды гэтага разбойнiцкага ўмацавання, ды i самую назву сяла выводзяць ад «бiч».

## 524. ГАРОХАВАЕ

Ёсць у нас Гарохавае ў лесе, урочышча.

— Дзе быў?

— У Гарохавым.

— Куды хадзіў?
— У Гарохавае.

Раней там палянка была, цяпер — лес. Гавораць, што там калісьці жыў нейкі Гарохаў. Ета я ад дзядоў чуў.

## *525. ДЗІВІН

Некалі на тым месцы быў гарадок Дзівін, але гарадок праваліўся і на яго месцы вырас сасновы бор, які так і завецца, як той былы гарадок,— Дзівін. Урочышча тое знаходзіцца за чатыры вярсты ад сяла Цітва.

## *526. ДЗІКАЕ ПОЛЕ

Месца гэта заклята, было калісьці абліта чалавечай кроўю, і з тых часоў па цяперашняе не апрацоўваецца, нягледзячы на тое што зямля тут павінна быць пладародная, таму што трава расце досыць спажыўная для жывёлы.

Ксёндз цяпер скасаванага касцёла, не паверыўшы ў закляцце таго месца, узяў і ўзараў тое поле, дык скора памёр. Такі ж лёс спасціг і некаторых сялян, якія ўздумалі ўзараць і засеяць тое поле.

## 527. ЖАНІ́ХАЎКА

На крушынянскім полі ёсць месца, якое называецца Жаніхаўка... Знаходзіцца яно пры гасцінцы.

Невядома, у якім гэта было годзе, ехала вяселле да вянца, а другое ехала з вянца. Якраз сустрэліся на гэтым гасцінцы пры Клімаўскай дарозе, якая вядзе да Крушынян. Ні адно, ні другое вяселле не хацела ўступіць з дарогі, завязалася сварка, а потым бойка. Бойка перайшла ў разню. Біліся ручкамі ад воза, а потым нажамі, так што лягло трынаццаць чалавек. На могільніку хаваць іх не дазволілі. Пахавалі там. Сведчыць аб гэтым трынаццаць каменных пліт.

## 528. ЖАНІ́ХАЎКА

У напрамку Лужан пад лесам на гасцінцы ёсць месца, якое называецца Жаніхаўка. Назва гэта звязана з жаніцьбаю. Тут, на гасцінцы, сустрэліся два вяселлі. Не хацелі ўступіць адзін другому дарогу. Лічылася гэта паніжэннем, ганьбай. Распачалася паміж імі бітва. І адны другіх пазабівалі насмерць. Гэты выпадак людзі

ўшанавалі двума каменнымі помнікамі. На адным у камені выкуты быў чалавек накшталт свата, перавязанага праз плячо ручніком. На другім камені-помніку выкуты быў музыкант-скрыпач. Каменні гэтыя нехта з Крушынян забраў, як будаваў склеп.

## *529. [ЖАНІХОВА МАГІЛА]

Непадалёку Сімонічаў, за шэсць вёрст каля ўрочышча Глінава, ёсць Жаніхова магіла. А называецца так гэта месца таму, што некалі ехалі з аднаго боку жаніх і нявеста, а з другога боку — з-пад вянца маладыя. Як тыя, так і другія са сваімі старшымі сустрэліся адны з адным, але не саступалі дарогі ні тыя, ні другія. Завязалася між імі сварка. Ад сваркі дайшло да бойкі. У бойцы з аднаго боку забілі жаніха, а з другога — маладую. З таго часу і пачалі называць тое месца Жаніхова магіла.

## 530. ЗАБЯРЛІННЕ

Некалі на нашых балотах вялікае мора было. Плавалі па ім параходы і бярліны хадзілі.

Ішоў аднойчы караван, узнялася бура, і патанулі бярліны.

Вось і называецца Забярлінне.

## 531. [ЯК УЗНІКЛА КАБЫЛІЧЧА БАЛОТА]

Вось гэта балота (гаварылі мне пра балота, што называецца Кабылíччым, пад самым горадам Гомелем, па дарозе на сяло Краснае і Уваравічы), гэта балота было калісьці возерам.

Жыла-была маці-чарадзейка з адзіным сынам, які і патануў у гэтым возеры. Маці засмуцілася і закляла тое месца: зрабілася возера балотам. А раней па возеру таму караблі плылі; месцамі трапляюцца мачты, аскабалкі караблёў: цяпер дрыгва такая, што ідзеш, а зямля супраць цябе ўздымаецца. Завязала чараўніца возера ў балота такім замком: няхай знойдзецца дзяўчына сямі год, праедзе па балоту на кабыле трох год і адшукае тое месца, дзе патануў сын. На месцы тым выраслі тры чараціны (тры кусты чароту), трэба іх таму дзяўчыне вырваць і, не азіраючыся, увезці прэч — зробіцца тады балота ізноў возерам. Але як гэта зрабіць? Дзе такі асілак сямі год? Як яму праехаць па зыбучай дрыгве, як яму знайсці ў чаротавых зарасніках тыя самыя тры чараціны?

## 532. КАЗАЧОК

Пад Дзеравятамі ёсць сасоннічак Казачок, месца так называюць. Там у 1863 г. паўстанцы забілі аднаго казака. Там ён быў і пахаваны. Больш соткі год прайшло, а месца, дзе быў забіты казачок, Казачком і называюць.

## 533. [ЯК ЗРАБІЛАСЯ БАЛОТА КАЛЯ КЛЕНІКАЎ]

Здарылася гэта тады, калі яшчэ ў Кленіках жыў пан, у час панскага прыгону. Была ў гэтага пана дачка-прыгажуня, слаўная з прыгажосці на ўсю ваколіцу. Каля сялібы пана працякала невялічкая рэчка. Дачка-прыгажуня вельмі любіла сядзець на беразе гэтай рэчкі. Вада ў ёй была чыстая, як люстэрка. Прыгажуня часта ўглядалася на сваё адлюстраванне ў вадзе і захаплялася сабою. Але вось аднойчы дачка-прыгажуня загінула. На другі дзень мясцовыя сяляне вылавілі яе цела з рэчкі. У сям'і пана вялікае няшчасце. Маці прыгажуні не магла дараваць гэтай рэчцы, яна ў злосці заклята яе. Кінула ў чыстую ваду авечае руна, кажучы:

— Згінь, рэчка! Не будзе цябе столькі гадоў, колькі ёсць валасоў воўны на авечым руне.

Так і сталася. Рэчка прапала. На яе месцы паявілася дрыгва і балота, паросшае лазой...

## 534. КРАСНАЯ ГОРКА

Паміж Чашына і Мрочак ёсць Красная горка, кілометраў паўтара адсюль. Горку гравейка перасякае. Ля горкі калісьці крыжыкі стаялі. Цяпер толькі капцы асталіся і лес, грубейшы, як гэтая груша. Гавораць, як швед ваяваў, дык лагчынаю кроў лілася. Дзе швед ішоў, там Красная горка.

## 535. УРОЧЫШЧА КРУКА

Назва ўзялася ад таго, быццам у часе голаду, што некалі спасціг Ванева і ваколіцы, гэты значны абшар зямлі яго ўладальнік прадаў за акрушку хлеба.

## *536. [УРОЧЫШЧА КРЫЧАЎ]

За ракою ёсць высокі курган: гэта магіла загінуўшых татараў; з гэтага ж боку ракі месца, дзе татары былі разбіты, называецца Крычаў, таму што калі іх тураўцы прыціснулі да ракі, татары паднялі страшэнны крык. Хто паспеў пераплысці раку, таго кончылі на тым баку. Над імі і насыпан курган.

## 537. КУРАНІ

Было гэта за панамі, калі яны прадавалі мужыкоў, як гавяду. Майго дзеда паны таксама прадалі сюды, каб дабываў руду. А яе тут шмат было раней. Вунь і цяпер яшчэ курганы тамака захаваліся, дзе руду выкідалі. Цяжка жылося людзям, яны ўцякалі ад паноў у лес і хаваліся. А лес той быў — шапка валіцца. Там яны рабілі курані і жылі. Вось і называецца наша ўрочышча Курані.

## 538. [ПАГАНЫ ПРУД]

Пры мястэчку Кадзіне ёсць месца, якое называецца Паганы пруд. Там некалі і сапраўды была сажалака, як расказваюць мясцовыя жыхары, але па невядомай прычыне цяпер зусім высахла.

Калі надышлі халады і сажалка гэта пакрылася лёдам, войскі Напаляона ў 1812 годзе, што вярталіся з Масквы, уцякаючы ад праследавання рускага войска і народа, пераязджалі цераз гэту сажалку ільдом. Але французы праваліліся і патанулі разам з коньмі. Таму месца гэта ў народзе і зараз называецца Паганы пруд.

## *539. ПАРОСНІШЧА

У Замшанскай воласці Полацкага павета ёсць урочышча Пароснішча. Пра яго расказваюць, што там калісьці жыў селянін Парфен, які не ведаў ліку сваім грашам. Дык яму жартам параілі людзі, каб ён увесь свіны прыплод пушчаў у племя, дык будзе яшчэ больш багатым. А той, не зразумеўшы насмешкі, захацеў яшчэ большага багацтва. Праз дзесяць год ён меў ужо больш двухсот свіней, а яшчэ праз пяць год ён хадзіў ужо на падзённыя работы для харчавання свайго сямейства, застаўшыся без адной каровы. Адтаго цяпер прымаўка «Паросна свіння з'ела».

## 540. ПІСКОЎШЧЫНА

Гэта, паночку, таму завуць Піскоўшчына, што было як тудака хаваюць нябожчыкаў, то жанкі такі падымуць лемент, піск, што на цэлу акалічнасць чуваць. А іншыя зноў кажуць, што тут ось пад гарою нязмерана біліся за воен, то гэтыя шведы пішчалі надта, як свіння ў плоце, і затым так гару празвалі. А ось па балоце, як была паводка, то не жарты што касцей вымыла: вазоў нешта колькі.

## *541. ПРУДЗІШЧА

Каля сяла Усеі ёсць мясцовасць, якая называецца Прудзішча. Кажуць, што ў гэтым месцы калісьці быў пруд, і ў часе вайны 1812 года каля яго ў балоце нібыта было затоплена дванаццаць анкаркаў золата. Для адшукання яго пускаліся некалькі раз смельчакі, нават партыі сышчыкаў прыязджалі з Рыгі. Але ўся іх праца прапала марна.

## 542. ПРЫСТАНЬ

Урочышча Прыстань, дзе стромкі лясны пагорак крутым схілам абрываецца над самай ракой Нарваю. Яшчэ нядаўна, мо перад другой сусветнай вайной, у гэтым месцы плытнікі-арэлі прыставалі са сваімі плытамі-пасамі на начлег. І ад гэтага быццам бы паходзіць назва ўрочышча.

## *543. [РУДНІСКА]

Недалёка ад Ляўкоўскага народнага вучылішча на правым беразе Нараўкі ёсць урочышча, якое народ называе Рудніска. На ім сенажаць. Пра гэта ўрочышча сяляне сяла Ляўкова расказваюць, што яшчэ іх дзяды гаварылі — некалі там была рудня, дзе варылі жалеза з руды, якая тут жа здабывалася...

## *544. СВЯТАЯ ГРЫВА

Ёсць паданне, што на ёй тварыліся ідальскія трэбы. Там і цяпер ёсць узвышша, куды на Івана Купалу збіраліся дзяўчаты і мужчыны, запальвалі кастры, спявалі песні і скакалі цераз агонь.

## *545. СЕЛІШЧА

На беразе Цаты ёсць урочышча Селішча... Яго празвалі так з часоў нашэсця шведаў, якія нібы пасяліліся тут з дабычай. Старажылы расказваюць, што іх продкі знаходзілі на гэтым месцы скарбы, зарытыя шведамі, якія былі разбіты на беразе Цаты, а іншыя патоплены ў рацэ.

## 546. СЕЛІШЧА

У нашым лесе некалі было вялікае сяло. На яго напалі начныя разбойнікі, людзей парэзалі, хаты датла выпалілі. Ад таго сяла застаўся толькі адзін калодзеж. Цяпер, калі стаіш каля яго, чуцен звон. Кажуць, на дне ляжыць золата, якое хавалі разбойнікі. Урочышча гэта завуць Селішча.

## 547. СТРЫЛЕЦКА ДАРОГА

Кавалак дарогі, які вядзе з Вітава ў прыселак Пескі, завецца Стрылецка дарога...

Калісьці за Пескамі была мэжа; як оі хлопэць пэрэйдэ на сюй бок, то ў войсько ўжэ нэ бэрут.

## 548. УРОЧЫШЧА ТАБАРЭЦ

У паншчыну ішлі тут нейкія войска, тутака былі бае́. Ваенныя ішлі, на табары стаялі. Так і назвалі Табарэц.

Скрозь было балота, а там быў груд — там табарам стаялі.

## *549. ЛЕС ТАТАРВАНКА

Лес Татарванка называецца так таму, што, згодна паданню, селянін забіў татарскага воіна, і гэта была жанчына-татарка, якая пераапранулася ў мужчынскае татарскае адзенне.

## 550. [ЯМА КАЛЯ УСЕ́ЛЮБА]

У лесе Неміроўшчына, па дарозе з сяла Уселюба ў вёску Рэцемлю, на чацвёртай вярсце, з правага боку, ёсць вялікая яма. Расказваюць, што на гэтым месцы чорт меў намер пабудаваць дом і выкапаў яму для склепа, але спеў пеўня мяшаў яму закончыць сваю работу.

## *551. [ЦАРКОВІШЧА]

У даўнія часы з'явіўся ў краі нейкі асілак, які разбурыў шмат цэркваў, стукаючы па іх то праваю, то леваю рукою, а часам і нагою.

Як на месца, дзе такім чынам была разбурана царква, паказваюць на царкоўныя могілкі, што паблізу сяла Веляшковічы. Іх называюць Царковішчам...

## *552. ЦЕЛЯХЫ

У трох вярстах ад вёскі Стараселле ёсць урочышча Целяхы, пра якое захавалася ў жыхароў гэтай вёскі такое паданне. У гэтай мясцовасці, акружанай балотам, сярод якіх раскінуўся даволі вялікі, пакрыты густым мохам плёс, было бяздоннае возера. Па гэтаму

возеру праязджала ў чоўне нейкая каралева Бона з двума малалетнімі дзецьмі, і адно з іх патанула ў гэтым возеры. Бона пракляла возера, ад чаго яно зарасло густым мохам. А на той мох, гадоў сто таму назад, узышла пара валоў, што пасліся каля возера, і праваліліся пад мох і, канечне, патанулі. Але праз месяц нібыта гэтыя валы вышлі зямной жылай у Дняпро.

## 553. [ЦАРКАВІСКА]

Недалёка ад Прыстані ўрочышча Царкавіска здобіць легенда пра царкву, што правалілася пад зямлю разам з малячыміся. На першы дзень вялікадня, кажуць, можна тут пачуць гранне званоў і набожныя спевы, а цёмнымі вечарамі пламеньчыкі свечак доўга-доўга кружаць шырокім карагодам, быццам у крэсным ходзе, спускаюцца да ракі і гінуць у яе топі. А з нязведаных падзямелляў пагорка на Прыстані час ад часу выходзіць постаць воя-велікана, уздзявае на сябе шлем, зброю, прыпасвае меч і сыходзіць, дзвэнкаючы ўзбраеннем і стогнучы, да самай ракі, якраз туды, дзе калісьці была пераправа ці мост на старым гасцінцы, што з Гродна праз Бельск вёў на Драгічын...

## 554. ЧАРТАВІСКА

На захад ад нашай вёскі [Луплянкі] высокаю сцяною стаіць лес, названы Чартавіскам. Цяпер дайсці да яго можна дарогаю, якая праходзіць праз лугі.

Калісьці гэты лес і навакольныя абшары сенажацяў для акалічных людзей былі недаступнаю дрыгвою. Аднак здарылася, што хтосьці ноччу, зблытаўшыся з дарогі, трапляў у непраходны лясны гушчар. Тады адбывалася самае страшнае.

Нейкая постаць хадзіла перад чалавекам і вызначала яму дарогу. Выдавала таксама нейкія незразумелыя гукі. Той, хто ішоў следам гэтага з'явішча, трапляў у нетру, адкуль цяжка было выбрацца. Бывала і так, што калі хто трапіць сюда адвячоркам, то прахадзіць да самага ранку, пакуль пазнае знаёмае месца.

Старэйшыя гаварылі, што многа год таму назад жыў тут чорт з д'ябалкай, і сюды нікому нельга было заходзіць. Калі чалавек з'яўляўся ў іхнім уладанні, былі яны надта злыя. Сваім крыкам склікалі да сябе чарцей з іншых мясцовасцей і разам стараліся здзекавацца над чалавекам. Таму гэты лес па сённяшні дзень старыя і малыя называюць Чартавіскам, хаця чэрці даўно ўжо адсюль уцяклі ў невядомым напрамку, і ніхто іх не бачыць. Мо пайшлі на «пенсію»?

## 555. ЧОРТАВА АКНО

Паміж Касцяшамі і Явішчамі было балота. Хто ні йдзе, то ўкінецца, такая глыбіня. Тамака было вялікае балота. Калі станеш, то зямля на семдзесят пяць метраў вагаецца. А было такое месца, што як хто стане, то ўкінецца і патане. То і назвалі Чортава акно.

## 556. ЧОРТАВА МЕСЦА

У нашым раёне, у Быхаўскім, была, ды яна і зараз стаіць на тым самым месцы, толькі многа пашырылася, парадкам расстроілася ва ўсе бакі, вёска Слабада.

У Слабадзе, недалёка ад лесу, стаяла царква. Была яна кругом абгароджана, і раслі вялікія клёны і стогадовыя дубы. Гаварылі старыя людзі, што было кругом яе і ўнутры дужа красіва. Служыў у царкве бацюшка Хрол. Ён быў не зусім стары. Служыў добра, ніколі не абіжаў беднага чалавека, такіх тады было адзін на ўвесь свет. Усе яго шанавалі і хвасталіся сваім бацюшкам.

Але ж што з ім сталася. Гавораць, што перахвалілі. І што ж ты думаеш, дзетка, стаў хвалёны поп заглядаць на чужых маладзіц. Матушка вельмі раззлавалася і пракляла яго.

І бог разгневаўся на служыцеля свайго і рашыў патапіць царкву разам з бацюшкам. На тым месцы палучылася бальшая ямка, якая напоўнілася вадой, а з цягам часу зарасла мохам і купінкамі.

Калі толькі надыходзіла ноч, гэта царква ўсплывала наверх і ў ёй чэрці запальвалі свечкі і пачыналі хто што выдумае рабіць.

Людзі пайшлі ў Слаўгарад і папрасілі папа пасвяціць дзярэўню і тое месца, дзе стаяла царква. Калі ўсё ўсціхамірылася пасля такіх страхаў, людзі нашай і другіх блізкіх дзеравень пачалі называць тое месца Чортава месца. Яно і зараз так і называецца, хоць і вырас там ужо хвойнік і расце многа журавін.

## *557. ШАМАЎШЧЫНА

У аднаго польскага караля служыў кухарам нехта Шамаў. За нейкую важную паслугу кароль дараваў яму шляхецтва, даў яму зямлю і гэта ўрочышча, дзе ён і пабудаваў сабе дом амаль у лесе.

Аднойчы наняўся да яго ў работнікі адзін з шайкі разбойнікаў, выгледзеў месца і пайшоў.

Шамаў жыў багата, меў толькі адну дачку ды чалавекі чатыры парабкаў.

А той былы работнік з таварышамі забіў Шамава, абрабаваў і спаліў яго дом, у якім згарэлі і ўсе дакументы.

Унукі Шамава і цяпер жывуць у Мхінічах.

## 558. ПРА КОЛІШНІ ГАСЦІНЕЦ, ЯКІ ТУТ ЗАВУЦЬ ШЫРОКАЙ ДАРОГАЙ

Раней яна была вузенькай... Але ж аднойчы сын нейкага вялікага пана імчаўся вярхом на кані да сваёй каханай, напароўся на голь, упаў з каня і забіўся. Бацька яго загадаў высерабіць лес па абодвух баках гасцінца так, каб ён нікому не замінаў.

## 559. БАЛОТА ЯНА

Праехаўшы два кіламетры дарогі з Ляшукоў у напрамку вёскі Лука, сустракаем балота Яна. Яшчэ да цара, кажуць старэйшыя людзі, позна ўночы на гэтым месцы страшыла і то п'яніцаў. Калі п'яны чалавек ехаў гэтай дарогай, каля Яна штосьці каня скіроўвала з дарогі і па балоце некалькі гадзін кругом і кругом вадзіла, а потым пускала, і зноў чалавек трапляў на дарогу, ды ехаў, куды яму трэба. Сяляне гаварылі, што там пасяліўся чорт і так людзей зводзіць.

Праз балота працякаў невялікі ручай. Людзі задумалі на гэтым ручаі паставіць святога Яна. Так і зрабілі. Сярод ручая паставілі невялікую каплічку, а ў ёй на лаўцы — выструганага святога Яна. І хто тады ехаў ці ішоў, заходзіў да каплічкі і клаў грошы. Сяляне думалі, што забірае для сябе іх Ян, бо грошы клалі, а іх не было, але гэтыя грошы забіралі некаторыя падарожнікі і пастухі, што пасвілі кароў. Ад таго часу і перастала там страшыць да сённяшняга дня.

Цяпер няма ўжо святога Яна, бо згінуў, але балота каля таго месца і цяпер завуць балотам Яна.

## *560. ЯТВЯЗЬ

Урочышча гэта знаходзіцца за паўтары вярсты ад Новага Двара, у лагчыне паміж дарогамі з Новага Двара ў заштатны горад Кузніцу і ў горад Гродна. Пра яго захавалася ў навадворскіх жыхароў паданне, што гадоў трыста ці болей таму назад на тым месцы была невялікая вёска, што звалася Ятвязь. За грахі жыхароў гэтай вёскі бог наслаў на іх пошасць — халеру, ад якой усе жыхары памёрлі. Ніхто на тым месцы не хацеў ужо больш сяліцца, і гэта вёска занядбала. Сярод руін захаваліся сляды каменнай агарожы... Не так даўно, гадоў шэсць таму назад, адзін селянін з Хварасцян, Дзялак, капаў на тым месцы зямлю і выкапаў пяць сашнікоў, якія захаваліся ў зямлі ад даўнейшых жыхароў...

## 561. [ДУБ І САСНА]

Па дарозе ў Нясвіж растуць, абняўшыся, два дрэвы — дуб і сасна. Кажуць, было гэта яшчэ за князем Радзівілам. У князя была прыгожая дачка, і пакахала яна пастуха. І пастух яе таксама кахаў. Але пажаніцца яны не маглі, князь і слухаць не хацеў аб гэтым. І вось яны рашылі ўцячы з замка. Даведаўшыся аб гэтым, князь разгневаўся, кіламетраў за шэсць дагнаў іх са сваёю світаю. Не пашкадаваў князь са злосці ні дачкі, ні пастуха: там жа пакончыў іх жыццё. На тым месцы вырас дуб і сасна, якія і зараз растуць, навекі абняўшыся.

## 562. ДУБ І САСНА

Даўно гэта было. Жылі на свеце дзяўчына і хлопец. Яны любілі адзін аднаго... Яны хацелі пажаніцца. Але пажаніцца ім не далі бацькі, бо хлопец быў багаты, а дзяўчына бедная. З гора хлопец узяў ды памёр, а дзяўчына прыйшла да яго на магілу і атруцілася. Пасля гэтага на магіле іх выраслі сасна і дуб. Сасна сваімі лапкамі як бы абнімае дуба.

## *563. ЛЕГЕНДА КАХАННЯ

...Дзесьці непадалёк сустрэліся юнак і дзяўчына. Суджана было ім спаткацца, моцна пакахаць адзін аднаго, ды не выпаў лёс застацца на ўсё жыццё разам. Бяды не здарылася б, каб не краса дзяўчыны. Была яна гнуткага стану, з доўгай чорнай касой і вабным, нібы раніца, тварам. Заўважыў красуню адзін мецэнат з радзівілаўскіх палацаў. І вырашыў забраць «пекную» дзяўчыну іграць у панскіх «балетах».

Пахіліліся ў горы юнак і дзяўчына. Бязвоблачнае неба іх сонечных дзён зацягнулася чорнаю хмарай. Пра жаніцьбу нельга было і думаць. Набліжаўся дзень апошняй сустрэчы. Сэрцы, поўныя кахання, напаўняліся вялікім жалем і смуткам. І вось аднойчы юнак і дзяўчына спаткаліся, каб разлучыцца назаўсёды. Ніхто не чуў і не ведае, колькі слоў было сказана ім, колькі слёз пралілося з яе вачэй. Толькі дуб і сасна, што раслі побач, былі сведкамі гэтай сустрэчы. Нават праняў пякучы боль чалавечых сэрцаў, апёк агонь нязведанага пачуцця. У жальбе і спачуванні людскому гору дрэвы міжволі пахінуліся адно да аднаго, перапляліся стваламі ў цесным абдымку, нібыта шчаслівыя ад таго, што ім не пагражала пакутлівая гадзіна растання. Так і засталіся стаяць, перашэптваючыся ў кронах, поўныя таямнічага пачуцця...

# КУРГАНЫ, ГАРАДЗІШЧЫ, ГОРЫ

## *564. ГАРА КНЯЖА МАГІЛА

На поўдні ад возера Нешчарда ёсць гара, якую з трох бакоў абняла вада. На той гары драўляны маленькі касцёл і некалькі соснаў...

Расказваюць, што на тым паўбостраве некалі быў горад. Толькі чый горад, хто ў ім правіў, невядома. Тамашні люд жыў у лясістых аколіцах, доўга не ведаў нападаў іншых народаў, што блукалі па тых краях дзеля грабяжу. Праз некаторы час берагі Нешчарды прывабілі страшнага велікана, які называўся князем. Спадзеючыся на багатую здабычу, ён аблажыў той горад вялізнай шайкай разбойнікаў, разбіў слабую абарону, абрабаваў дамы, пазабіваў жыхароў, у касцёлах паабдзіраў абразы і начынне. Нават сам касцёл зруйнаваў, а званы затапіў у возеры і са сваёй дружынай абраў сабе жыхарства ў спустошаным горадзе.

Толькі бог цудадзейным спосабам абвясціў сваю кару святатацам. Затопленыя на дне возера званы штодзень пры заходзе і ўзыходзе сонца абуджалі глухое маўчанне на дзікіх берагах Нешчарды. Напалоханае тым гулам птаства ўцякло высока ў неба, а сарны і ласі, дрыжучы ад страху, схаваліся ў навакольных барах. Апоўначы лётала чума, падобная да чорнай кулі, і дзе толькі датыкалася сцяны, жылля, ніхто не выходзіў ужо з таго дому жывы, і такім чынам вымерла ўся дружына князя. Сам ён напалоханы, закапаў усё сваё багацтва ў гары і ўцёк з некалькімі сябрамі. Але недалёка за возерам яго спаткала смерць.

Народ і зараз паказвае вялізны курган, які называе Княжа магіла.

## *565. БАГАТЫР-ГАРА

Даўно-даўно на гэтай гары жыла вялікая жанчына. Ростам гэтая жанчына была тры аршыны. Ваду яна насіла на гару вялікімі цэбрамі, па два цэбры за адзін раз, а ў кожным цэбры было па 15 судаў.

Каля тэй гары шло нейкае татарскае войска. І запыталіся ў гэтае жанчыны-багатыркі: дзе дарога да рускага войска? Жанчына-багатырка ўзяла ды і завяла войска татарскае ў балоты, дзе яно і было пабіта рускім войскам. Рэштка татарскага войска, уцякаючы назад, забіла жанчыну-багатырку і пахавала на гэтай гары. Гара і стала звацца пасля гэтага — Багатыр-гара.

## 566. БРАВАРЫСКА

У два кіламетры ад Плёскаў, каля шашы, расце лес. На яго ўскраіне раскінуліся ўзгоркі. У некаторых месцах з-пад раскопаных узгоркаў тырчаць цэглы, яны тоўстыя, цяжкія. Ляжыць тут многа камення з прысохлым вапнам. У метрах пяцьсот ад узгоркаў у бок ракі цягнецца зарослы травою і ледзь прыкметны роў. Каля самых узгоркаў роў разыходзіцца ў балоцістую, зарослую сажалку. А вось што старыя людзі аб гэтым расказваюць.

Было гэта вельмі даўно, калі яшчэ ні дарог, ні тэлефонаў не было. Жыло тады два браты, старэйшы і малодшы. Рашылі яны заснаваць гарады. Пачалі ад бровараў. Старэйшы каля Плёскаў, а малодшы ў Беластоку. Адкуль бралі цэглу, вапну, хто будаваў — невядома. Памалу ўзносіўся ўсё вышэй і вышэй бровар. Калі збудавалі больш чым палову, малодшы брат занепакоіўся аб старэйшым, доўга не было звестак. А старэйшы захварэў і памёр. Муляры, параіўшыся, аднаго з сябе выбралі і паслалі ў Беласток запытацца: будаваць ці разбіраць? Праходзілі тыдні, а гэты чалавек не вяртаўся. Падумаўшы, што з ім нешта здарылася, а за работу ім не заплоцяць, пачалі муляры разбіраць бровар. Бровар разабраны, людзі сабіраюцца ад'язджаць, а тут у пыле, змучаны прыходзіць чалавек і кажа:

— Трэба будаваць!

Аднак яго не паслухалі і ад'ехалі, пакінуўшы разбураны бровар. Старыя гавораць, што, каб даў бог здароўя старэйшаму брату, цяпер тут не Плёскі, а Беласток быў бы. На жаль, так не ёсць. Толькі ўзгоркі засталіся і названне ўрочышча «Бравырыска».

## *567. ГАРА ЗЕЛЯНЕЦ

Недалёка Клёнікаў ёсць высокая гара. Як старэйшыя людзі гавораць, была тут калісьці царква. Людзі ў гэты час разбэсціліся, як фурманскі біч. Перасталі верыць у бога. Бог вельмі разгневаўся. Упаў у такую злосць, што, калі адной нядзелі людзі сабраліся ў царкву папляткаваць (бо трэба ведаць, што людзі пачалі лічыць царкву за дом, у якім можна павесяліцца), царква раптам задрыжала, зямля расступілася. Царква разам з усімі людзьмі правалілася ў зямлю. На гэтым месцы стварылася толькі высокая горка Зелянец, як цяпер яе называюць. Гавораць, што ў святую нядзельку, калі ў царкве служба, можна, прылажыўшы вуха да гары, пачуць плач і ўмольныя малітвы. Гэта грэшнікі просяць прабачэння.

Калі я быў яшчэ зусім малым, часта хадзіў са сваімі равеснікамі на Зелянец. Мы доўга прыслухоўваліся, прылажыўшы вуха да зямлі. Аднак нічога пачуць не маглі. Бабка казала мне:

— Ты яшчэ замалы, падрасцеш, пачуеш...

## * 568. ГАРА ЗМЯІНЕЦ

На паўдарозе ад Вымна да Котава Віцебскага павета на левым баку поймы, недалёка ад вёскі Сінякі і даўняга карчомнага ўрочышча Прытыкі высіцца даўгаватая гара Змяінец, ці Змеявіца.

Не так даўно яшчэ на роўнай, але балоцістай лугавіне, у прырэчным зарасніку і лазняку знайшоў сабе прытулак і бушаваў страшыдла-змей, ад якога многа пакутавалі навакольнае насельніцтва, праходжыя і праезджыя.

Пасля неймаверных намаганняў змея злавілі, моцна звязалі, але забіць не здолелі: удары каламі, вострымі жалезнымі прэнтамі, нават пальба з ружжаў і гарматаў яго не бралі. Заставалася толькі закапаць страшыдла тое жывым у зямлю. Але як ні стараліся зрабіць гэта нанятыя людзі, праз ноч зямля аказвалася раскіданай, і змей грозіў парваць путы. Тое ж было і тады, калі насыпную работу, па загаду пана, вёў поўны прыгон па некалькі дзён падрад. І вось сярод агульнага засмучэння з'явіўся нейкі нехлямяжы заходны чалавек, які дапамог: у стары лапаць запрог чорнага пеўня, прывёз зводаль тры разы па поўнаму лапцю зямлі і пачаў пасыпаць ёю страшыдла. Толькі кінуў ён першую жменю, змей страшэнна зароў і задрыжаў, а раскіданая ім раней зямля пачала насоўвацца і закрываць яго, а з апошняй жменяй зямлі змей зусім схаваўся пад утворанай гарою. Раней гара мела выгінасты выгляд змяі, але потым ад веснавога разводдзя і ледаходу выгінастасць значна страцілася.

## 569. ГАРА КАЛЯ НАЧЫ

Каля На́чы, там, дзе быў панскі маёнтак, быў насыпаны высокі бугор зямлі. У народзе расказваюць, што ў гэтым бугры за якіясьці правіннасці старчаком была засыпана дзяўчына жывая. Пасля Вялікай Айчыннай вайны бугор быў разрушаны трактарам. Адны гавораць, што там нічога не было. Другія гавораць, што там быў шкілет чалавека...

Былі зроблены раскопкі ў тым месцы, дзе быў бугор, але нічога не было знойдзена.

## *570. [ГАРА КНЯГІНЬКА]

Адну высокую гару недалёка ад Лагойска з акопамі наверсе, якую акружала балота, называюць Княгінькаю. А гэта, кажуць, ад таго, што нейкі князь скінуў з гэтай гары ў рэку сваю жонку-княгіню за тое, што яна адкрыла важную тайну суседняму князю, ворагу.



22. Зак. 1230

## *571. [ПРА ЧОРТАВЫ ПРЫГОРКІ НА БЕРАЗЕ ВІЛІІ]

Многія прыгоркі на беразе Віліі называюцца чортавымі. Пра адзін з іх расказваюць: чорт нечага раззлаваўся на раку Вілію, хацеў яе засыпаць і для гэтага нёс вялікі мех з зямлёю. Раптам заспяваў певень, дык чорт кінуў мех з зямлёю і ўцёк, а на тым месцы зрабіўся прыгорак.

## 572. ГАРА МОЛІЦЫ

У нас ёсць гара Моліцы, то анно як пажануць на папаску, то з-пад зямлі чутнюсенька, бы то плачуць, крычаць, енчаць; а іншым разам пакажацца на ёй, што нешта ў белым ходзіць, а пасля зноў згіне. Старыя людзі кажуць, што тамака даўней няхрышчаныя дзеці хавалі.

## 573. ЛІТАВА ГАРА

На мяжы Істранскай і Нерзенскай валасцей Лудзенскага павета знаходзіцца высокая Літава гара. Пад'ём на гэтую гару цяжкі і пакрыты лесам. Калі ўзысці на гару, дык далёка навокала відаць вёскі. У свой чарод і Літаўка, як завуць гару тутэйшыя сяляне, відаць здалёку. Быццам вялікі перавернуты звон.

Вось што кажуць аб гэтай гарэ старыя людзі.

Даўным-даўно на гэтай гарэ стаяў касцёл. Раз у час імшы ішла ў касцёл маладая дзяўчына. Дзень быў гарачы, і сонца пякло бязлітасна, і дзяўчыне было цяжка падымацца на гару. Узлязаючы на гару, дзяўчына спатыкнулася і заваліласа. Пачуўшы боль у зашыбленым месцы — назе, яна сказала:

— Каб праваліўся гэты касцёл!

Ледзь яна прамовіла гэтыя словы, як касцёл з шумам пачаў апушчацца ў зямлю. Хутка ён зусім праваліўся.

Прайшло шмат гадоў. Людзі ўжо забылі аб былым калісь на гэтай гарэ касцёле. Аднойчы нейкая старэнькая бабка, збіраючы на гэтай гарэ ягады, убачыла ў траве пацеркі ружанцаў. Яна хацела іх падняць. Але ўбачыла, што канец іх знаходзіцца ў зямлі. Бабка пачала іх цягнуць, але пацеркі цягнуліся і цягнуліся. Раптам яна пачула, што зямля пачала разыходзіцца пад яе нагамі, і ўбачыла крыж, які быў на страсе касцёла.

Разам яна пачула голас з зямлі:

— Цягні, мілая, хутчэй. Ратуй нас!

Спужаўшыся, выпусціла бабка з рук пацеркі, за якія яна цягнула. Касцёл ізноў апусціўся ў гару.

І цяпер яшчэ сярод ваколічных сялян ходзіць гутарка, што калі прыйсці ў нядзелю на гэтую гару ў той час, калі ва ўсіх касцёлах ідзе імша, і прыкласці вуха да зямлі, дык можна пачуць гукі аргану і пяянне хору. Гэта моляцца людзі Літаўскага касцёла, каб добры чалавек збавіў іх і выпусціў на свет божы.

## 574. ГАРА ЦАРКОВІШЧА

Ля возера Сялява ёсць гара, завецца Царковішча. Царковішча і Царковішча. Мы, як малыя былі, пытаемся:

— Чаму гара называецца Царковішча, а царквы нідзе ні следу?

Дык старшыя людзі казалі, што царква там была, ды правалілася. А цяпер тое месца нават лесам парасло. Мы, бывала, як пасем кароў, ляжам на зямлю на Царковішчы, усё слухаем, можа, пачуем, як гудуць званы. Але дзе ж ты іх пачуеш.

## *575. ГАРАДЗІШЧА У ГАЛЬШАНАХ

Кажуць, што на ім быў некалі касцёл, які ў адзін момант у час набажэнства праваліўся з людзьмі. Правал гэты ўсё больш і больш звужваўся, так што... нарэшце, меў не болей як аршын. Туды часта кідалі грошы, якія, падаючы, моцна звінелі. Зараз ніякай адтуліны ўжо няма.

## 576. КАСЦЕЛ І МЯСТЭЧКА ЗАТАНУЛІ

Недалёка ад нас ёсць вялікая гара Гарадзішча.

Было там некалі мястэчка. У тым мястэчку быў касцёл. Ішла з таго мястэчка замуж дзяўчына. Матка не хацела аддаваць дачкі замуж. Выязджаючы да шлюбу, матка пракляла дачку і сказала ёй:

— Каб ты адтуль не вярнулася, каб ты там затанула.

І касцёл, і мястэчка затанулі. Многа невядомага затаіла ў сябе гара, што ўзвышаецца за вёскай Гальшаны.

## *577. ГАРАДОК

Узвышша ля вёскі Новае Прыбужжа, якое складаецца з трох галін, называецца Гарадок. Пра яго расказваюць, што тут была гара, якая раскрылася і праглынула невялікае селішча з царквою.

## 578. [ГОРКА ЛЯ НОВАБЕРАЗОВА]

Недалёка вёскі Новае Беразова знаходзіцца невялічкая горка, на якой зараз расце малады густы лес. Навокал гэтай горкі знаходзяцца пясчаныя палі гаспадароў. Дзялянкі некаторых гаспадароў праходзяць праз гэту горку, і гаспадары нездаволены, што не могуць пасеяць там ні грэчкі, ні жыта.

Раней, як гавораць, за памяць іх дзядоў, гэтай горкі не было. На гэтым месцы стаяла вельмі прыгожая і багатая царква. Прыходзілі сюды людзі з суседніх, а нават з далёкіх вёсак. Яна не была звычайнай. У гэтай царкве часам былі цуды і дзеля таго, калі прыйдзе вялікае свята, то збярэцца столькі народу, што поўная царква, і нават вакол царквы. А папы выходзяць благаславіць народ.

Аднойчы было так. Адзін чалавек вельмі доўга хварэў і быў ужо пры смерці. Людзі яго прывезлі да царквы, дзе папы яго аздаравілі.

Так ішла слава аб цудзе-царкве. Людзі прыносілі сюды багатыя дары і складалі іх на царкву. Не падабалася гэта адным злодзеям, якія рашылі дабрацца да царквы і забраць усё багацце.

Аднойчы на вялікім свяце, калі людзі прынеслі многа дароў да царквы, злодзеі рашылі абакрасці царкву менавіта ў тую ноч. Было іх трое. Яны былі вядомымі на ўсю аколіцу. Ноччу ўзялі жалезны лом, каб аглушыць стоража, і пайшлі. Ціхенька падкраліся да царквы, аглушылі стоража, узялі ключы і ўвайшлі ў сярэдзіну. Пачалі яны браць святыя чашы з золата і другія вельмі каштоўныя рэчы. Калі пачалі выходзіць з царквы, у той момант царква праваліласяі яны разам з ёю. Потым на месцы царквы паўстала горка.

Людзі казалі, калі пойдзеш туды ноччу, то чуваць, як злодзеі енчаць. Але я таго не чуў, хоць хадзіў некалькі разоў паслухаць.

## *579. ГОРЫ

У Наскоўскай воласці Пружанскага павета знаходзіцца вялікае Белае балота, праз якое цячэ рака Яселда. Ля паўднёвага краю Белага балота раскінуліся ўзгоркі, якія мясцовыя сяляне завуць Горы. Кажуць, што тут некалі адбываліся сражэнні, бо знаходзяць многа раскіданых чалавечых касцей.

## 580. ДЗЁМКАЎ ГРУД

Старыя людзі кажуць, што дзе гэтат груд, там даўней было места. Вялікае гэта было места, і пасярэдзіне стаяла вялікая цэркаў. Па ём былі войны, тагда людзі ўсе ўвайшлі ў гэту цэркаў і зямля растварылася і цэркаў увайшла ў зямлю з людзьмі. Кажуць, як

правіцца на вялікдзень набажэнства ў цэркві, то трэба легчы на гэтым грудзе і пачуеш, што і там правіцца набажэнства і чутно, як звоняць і спяваюць.

### *581. [ЦАРКВА, ШТО ПРАВАЛІЛАСЯ Ў ВОЗЕРА ЖЭЖУЛІЦА]

У трыццаці чатырох сажнях ад кургана, за Дубакрайскай дарогай, таксама ў лесе, знаходзіцца возера Жэжуліца (можа быць Жужаліца), з усіх бакоў акружанае топкім мохавым балотам. Паданне гаворыць, што ў возера гэта ў незапомныя часы і няведама як апусцілася драўляная царква, якая стаяла на кургане, і што здарылася гэта, калі правілася імша, калі царква была поўная народу, і што доўга яшчэ пасля гэтага ў хвалях возера, па вялікіх святах, чуваць было звон, але вось ужо год каля ста, як ён змоўк. Расказваюць таксама, што год больш ста таму назад адзін селянін, вудзячы ў гэтым возеры рыбу, зачапіў вудай за крыж, але, спужаўшыся, кінуў вуду і пабег паведаміць пра гэта суседзям. Яны хоць і прыйшлі на возера, але ні крыжа, ні вуды не знайшлі.

### *582. АБ ЦЭРКВАХ, ШТО УВАЙШЛІ У ЗЯМЛЮ

За тры вярсты ад Веляшковіч, па дарозе, якая вядзе да мястэчка Яновічы, знаходзіцца вёска Гарадок. Сама вёска схавалася ў невялікім лесе і стаіць на значным узвышшы. Некалькі год таму назад цяперашні тракт быў малапраезджым, а рух у асноўным быў праз вёску, не даязджаючы да якой трэба было падымацца ўгору. Правы бок гэтай гары прыкметна ўзвышаецца перад левым. Па няручнасці і цяжкасці пад'ёму, асабліва ў дажджлівую пору, дарогу абміналі нават мясцовыя жыхары.

Узвышша гэта мае з трох бакоў даволі круты пад'ём, вяршыня ж — роўная плошча. Жыхары навакольных вёсак адзінагалосна сцвярджаюць, што ў незапомныя часы на гэтай плошчы стаяла царква, якая за грахі людзей ці па іншых прычынах увайшла ў зямлю з усімі, хто маліўся там у той час... Было, што царква пачала выступаць з зямлі: паказаўся шпіц. Нейкі хлопчык-пастушок наступіў на гэты шпіц і ўкалоў сабе нагу. Па гэтаму здарэнню і адкрылася месца прапаўшай царквы, бо нават старажылы за даўнасцю цуда не маглі ўказаць гэта месца. Мясцовыя сяляне пачалі раскопваць гару, каб вызваліць царкву з падзямельнага зняволення, але як толькі адкапалі главу, царква ў адзін момант ізноў пайшла яшчэ глыбей і знесла на сваёй главе старанных капачоў, а разрытая зямля зноў зраўнялася.

## 583. [АБ МАНАСТЫРЫ І ЦАРКВЕ, ЯКІЯ ПРАВАЛІЛІСЯ Ў ЗЯМЛЮ]

Пры етых магілках здаўна быў манастыр з царквой і са званіцай. Гэты манастыр і царква разам з людзьмі праваліліся скрозь зямлю, а званіца засталася; а пасля і званіцу сарвала віхрам, і званы ўкаціліся ў возера. І званы еты... на ўсяношную звоняць у возеры; і было тое, што на беразе гэтага возера знаходзілі васкавыя свечкі, прыбітыя з возера да берага валам, і ета свечкі тыя, з якімі праваліўся манастыр.

## 584. [ЦАРКВА, ШТО ПРАВАЛІЛАСЯ ПАД ЗЯМЛЮ]

Пад Хіхлікам знаходзіцца праваліўшаяся пад зямлю царква. Калі ў святочны дзень у час абедні прыкласці вуха да гэтага пагорка, можна пачуць гудзенне царкоўных званоў.

## *585. ПАЛАЦ, ЯКІ ПРАВАЛІЎСЯ АД ПРАКЛЁНУ

За адну вярсту ад мястэчка Лыскава Ваўкавыскага павета знаходзіцца ўрочышча Акопы. У даўнія часы тут быў багаты панскі палац, у якім жыла знатная пані Бэня. Палац быў акапаны высокім земляным валам, заўсёды поўны вады. Калі была вайна рускіх з палякамі, палац быў разбураны. Ледзьве ўратавалася ад палону і гібелі пані і пракляла не толькі тых, хто ваяваў, але і тое месца, дзе быў яе палац і якое дасталося ворагу. З таго часу тут можна чуць плач кожную ноч; часамі паказваецца на кароткі час агонь, які зараз жа тухне з набліжэннем чалавека.

## 586. ДЗЯВОЧАЯ ГОРКА

Даўно-даўно, гэта яшчэ нават ці пры маёй памяці, тут у Мсціслаўлі на Замкавай гары жыў адзін багаты пан.

Кажуць старыя, што працавалі ў яго толькі адны маладыя дзяўчаты. Такая ўжо была яго воля. Дзяўчаты працавалі ад зары да зары.

Аднойчы ён прыказаў ім нанасіць з рэчкі Вяхры пяску на цэлую гару. Многа год працавалі яны над гэтай гарой. Многія з іх загінулі, але нанасілі гару пяску, якая мае форму блюдца. Таму і называецца гэта гара Дзявочай гарой.

## *587. [ДЗЯВОЧАЯ ГОРКА]

Дзявочая горка на беразе Вяхры.. Паданне кажа, што яна была ўмацаваннем, якое ў час нейкай вайны насыпалі дзяўчаты горада Мсціслава ў адну ноч.

## *588. [ЗАМЧЫШЧА]

У якіх трыста кроках ад вёскі Замасцяны знаходзіцца невялікае ўзвышша, якое завуць Замчышча. Яно з двух бакоў акружана балотам і зарасло лесам. Некалі на ім стаяў замак, што належаў невядомаму князю, у якога быў адзін сын, аддадзены на гадаванне простай дзяўчыне, але вельмі разумнай і кемлівай.

Гэтай дзяўчыне жыць было добра, і яна, удзячная князю, рупліва даглядала яго сына, ні на адну хвіліну не адпушчаючы яго ад сябе. Толькі не давялося ёй доўга пажыць у радасці. У нешчаслівую гадзіну яе гадаванец, вядома, як дзіця, зачараваны яркім сонцам, на якое ён пранікліва і весела паглядаў праз вокны старажытнага замка, вырваўся на вуліцу, пабег на рэчку купацца і патануў. Хоць яна хутка спахапілася, але было ўжо позна. Адкачвалі, адціралі і чаго толькі не рабілі — усё дарэмна. Шкадуючы княжаўскага сына, а яшчэ больш сваю загубленую будучыню, дзяўчына ў адчаі і з праклёнамі прыбегла да крыніцы, з якой выцякала тая рэчка, і закрыла яе патэльняй. З таго часу рэчка пачала патроху высыхаць, а на яе месцы ўтварылася балота, якое існуе і зараз.

Аднак надзея, што рэчка ізноў пацячэ, не пакідае сялян. І вось чаму. Гадоў таму восемдзесят ці дзевяноста да бацькі цяперашняга памешчыка маёнтка Замасцяны, Свіду, прыбыў з Расіі канавал. Ён запытаўся ў пана, ці жадае ён, каб міма Замчышча пацякла рэчка.

— Жадаю,— адказаў Свіда.

— Калі жадаеш,— сказаў канавал,— дык пашлі самага кемлівага і на самым хуткім кані чалавека да той крыніцы і няхай ён лоўка выне з крыніцы патэльню і як найхутчэй уцячэ з ёю, і тады рэчка пойдзе яшчэ з большай хуткасцю, чым раней.

— А чалавек не прападзе?— запытаўся Свіда.

— Смельчака, калі не ўхопіць лоўка, вада можа панесці,— адказаў канавал.

Свіда пашкадаваў чалавека, а такога смельчака не знайшлося, дык балота да цяперашняга часу засталося багнай.

## *589. [СОСНЫ ЛЯ ЛІДСКАГА ЗАМКА]

На схіле ўзгорка, нібы падпіраючы замак, растуць дзве доўгалетнія сасны. Яны захаваліся дзякуючы пашыранаму сярод гараджан і навакольных жыхароў пераканванню, што яны выраслі не на раслінным соку, а на крыві. Здарылася гэта быццам яшчэ ў часы, калі ў Літве панавала язычніцтва. Прыйшлі сюды дзевяць манахаў-францысканцаў прапаведаваць хрысціянскую рэлігію. Аднак літвіны, не жадаючы прымаць хрысціянства, забілі гэтых місіянераў, а іх трупы ўкінулі ў яму на схіле Лідскага замка. На гэтым месцы, не

сеяныя і не саджаныя, выраслі дзве сасны, якіх літоўцы, ужо стаўшы каталікамі, не чапалі. Але вось аднойчы хтосьці адсек галінку і з яе выступіла кроў. З той пары ніхто ўжо не адважваўся ўзняць сякеру на гэтыя дрэвы...

## *590. [ІВАНАВА ГАРА]

Недалёка ад Дубровы, за чатыры вярсты, ёсць урочышча Зацьвечка. Каля таго ўрочышча знаходзіцца гара. Паблізу яе праходзіла дарога з Дубровы ў Сімонічы. На гэтай гары некалі селянін Іван меў на дрэве пчолы. Аднойчы гэты селянін, узабраўшыся на дрэва, падглядаў пчол, зваліўся з таго дрэва і забіўся. Яго на тым жа месцы і пахавалі. З таго часу гэта гара стала звацца Іванава. Але ніхто не памятае, як даўно тое здарылася... Стаіць толькі пень таго дрэва, на якім былі пчолы, а каля таго пня стаіць на магіле каменны крыж.

## *591. КАРАЛЁВА ГАРА

На захад ад вёскі Горск, за адну вярсту ад яе, знаходзіцца Каралёва гара. Яна ўзнікла так. Пастухі наладзілі пацешную вайну і выбралі «каралём» аднаго свайго таварыша. Калі гульня не ўдалася па віне «караля», пастухі вырашылі яго пакараць. Сагнулі бярозу і да вершаліны яе прывязалі няшчаснага караля, жартам пагражаючы павесіць яго. У гэты самы час у статак уварваўся воўк, і пастухі, кінуўшы «караля», пабеглі праганяць воўка. Калі ж яны вярнуліся да няшчаснага «караля», той быў ужо мёртвы. Пастухі так плакалі і ўбіваліся па таварышу, што зямля сама сабою стала падымацца і ўтварыла над яго магілай гару.

## 592. КНЯЗЯ ГАРА

Тут калісьці вайна была, то кажуць, што некага князя забілі да й пахавалі на гэтай гары. І ось дзе быў курган, то яго людзі яшчэ нядаўна разгаралі. А як ён, князь, называўся, то ці хто яго ведае, калі нат бацькі і бацькі бацькоў нашых не помняць. Князь да й годзе!

## *593. КУРГАНЫ

Мясцовасць, якая ляжыць па купецкаму тракту з мястэчка Прыдруйск, праз Росіцу, у мястэчка Асвею, за дванаццаць вёрст ад Прыдруйска, у лесе, што належыць памешчыку Гржымалоўскаму, услана курганамі. Кажуць, што тут было моцнае сражэнне між рускімі і палякамі гадоў 300—400 таму назад.

## *594. КУРГАН

У лесе графа Тышкевіча на скрыжаванні Сівіцкай і Углянскай дарог ёсць невялікі курган. Пра яго мясцовыя людзі расказваюць. Два хлопцы закахаліся ў адну дзяўчыну і кожны ўпотай вырашыў у што б там ні стала ажаніцца з ёю. Ці доўга, ці каротка цягнулася гэта..., а вядома толькі вось што. Аднойчы сустрэліся ў лесе ўсе ўтрох. Хлопцы моцна заспрачаліся і, магчыма, дайшло б да бойкі, калі б дзяўчына не суняла іх. Яна сказала:

— Няхай адзін ідзе ў Івянец і прынясе толькі абаранак, а другі няхай ідзе да ракі Волкі, зловіць рака і таксама прынясе мне. Ад каторага хутчэй атрымаю падарунак, таму і дастануся.

Закаханыя прыбеглі разам, але таму што дарога туды і назад была вялікай, дык, аддаўшы падарункі сваёй прыгажуні, хлопцы адразу памёрлі.

Сяляне з Сівіцы і Углоў, а можа быць і з папом, сабраўшыся разам, вырашылі выкапаць адну магілу і тых двух памерлых хлопцаў і дзяўчыну жывую пахаваць у ёй. Як было сказана, так і зрабілі. Да цяперашняга часу на курганчыку ляжаць тры камяні і з двух бакоў растуць дзве сасны, а пасярэдзіне бяроза.

## *595. [КУРГАН КАЛЯ ЗАСЛАУЯ]

Каля вёскі цячэ невялікая рэчка, якая да гэтага часу завецца Княгіняю. Народ кажа, што каля гэтай рэчкі быў замак, у якім жыла нейкая княгіня. Яна любіла гуляць па беразе рэчкі ў глыбокую поўнач. За панскім дваром відаць быў нейкі невялікі вал і каля яго маленькі курган... Кажуць, нібы на тым валу некалі ўзвышаўся прыгожы замак, у якім жылі дзве сястры-князёўны: старэйшая — харашуня, а малодшая — брыдкая. Раз праязджаў праз Заслаўе мінскі князь і, пазнаёміўшыся з князёўнамі, палюбіў малодшую і прасіў яе рукі. Засмуцілася старшая князёўна-харашуня такім выбарам князя, тым больш што яна палюбіла яго, і пачала рабіць усё, каб разладзіць шлюб сястры. Але не здолела нічога зрабіць і папрасіла помачы ў чараўніцы, што жыла над ракою. Атрымала ад чараўніцы нейкае зелле і пасняшыла дадому. Але, ідучы праз лес, спужалася нейкага прывіду і з перапуду кінулася ў раку. Сястра пахавала яе каля замку і насыпала курган...

## 596. ЛЫСА ГАРА

Адышоўшы ад Крушынянаў дзве вярсты, ёсць Лыса гара... З гэтай гары на ўсход відаць не менш як на трыццаць кіламетраў голым вокам, дзе вялікі сіні лес злучаецца з небасхілам. Верх гэтай

гары мае форму паўміска. Кажуць, што на гэтым месцы стаяў касцёл. Касцёл пайшоў у зямлю, і ўтварылася гара. Гаварылі, што калі на вялікдзень у дванаццаць гадзін пайсці на гару і прылажыць вуха, то чуваць, як там звоніць. Я сам у гэта моцна верыў і аднойчы хадзіў пераканацца. Чуў звон, але не з гары, а з Крынак.

## 597. ЛЫСАЯ ГАРА

Ехалі два вяселлі: адно з Ваўкавыска, а другое з Крамяніцы і, з'ехаўшыся, не хацелі адны другім уступіць з дарогі, ды й пачалі біцца так, што пазабівалі адны другіх. Там іх і пахавалі. Ад таго і ўтварылася гэтая гара.

## 598. МАМЧЫНА ГОРКА

Як ішлі, можа, відзелі горку, на якой расце некалькі дрэў — гэта горка ў нас завецца Мамчына горка, а названне гэта вот ад чаго. Я сама, праўда, гэтага не помню, але расказвалі, што даўней у гэтым замку пан жыў, багаты дужа быў. Жыхары нашай дзярэўні работалі на яго. А ў пана была служанка, у якой быў сын дужа красівы. І вот гэты сын улюбіўся ў панскую дачку. Яна яго тожа палюбіла. Але пан не даваў ім жаніцца, дык яны ўзялі ды й уцяклі ўдваіх невядома куды. За гэта пан загадаў пакараць служанку сваю. Яна была закапана ў зямлю жывой на гэтай горцы. Вот чаму яна і называецца Мамчына горка.

Вот як даўней простым людзям жылося: паны ўсё, што хацелі, маглі рабіць з імі.

## 599. [МАЦЕЙКАВА ГАРА]

Даўным-даўно жыў тут дужы разбойнік Мацейка. Нікога і нічога ён не баяўся. Грабіў купцоў на людным гасцінцы..., нападаў на чаўны і лодкі, калі плылі па рацэ. А каб зручней было перайманць падарожных, загадаў сваім палоннікам пракапаць новае русла ракі. Паплыла з таго часу Нарва пад самай гарою, і ніводзін вандраўнік не змог абмінуць страшнай сустрэчы з Мацейкам. Мацнела крэпасць разбойніка, і пухлі ў ёй ад золата сундукі.

У цёмныя асеннія і зімовыя ночы, калі хваля на рацэ цяжка ўздыхала ды ад віхуры стагнаў лес, спраўляў Мацейка свае балі. Забаўляўся з прыгажунямі-паланянкамі нядобрым каханнем. На світанку канчалася гульбішча, і целы замучаных нявольніц абмывала рачная тонь.

Але здарылася, што Мацейка закахаўся ў адну са сваіх нявольніц. Ахвяраваў ёй золата і багацці, кляўся ў вернасці. Аднак дзяўчына замест раскошнага жыцця з разбойнікам выбрала сабе смерць. У такую ж цёмную віхурыстую ноч павесілася на ўласнай пышнай касе. Разбойніка ахапіла роспач. Загадаў ён справіць сваёй каханай урачыстае пахаванне, вымураваць глыбокі склеп. Калі ж апусцілі туды цела паланянкі, Мацейка таксама сышоў у магілу і сказаў замураваць сябе разам з каханай...

Старэйшыя людзі ў Мацейкавай гары яшчэ і цяпер паказваюць месца, дзе, праўдападобна, знаходзіцца склеп. На тым месцы не хоча расці збожжа і начамі, кажуць, нешта страшыць.

## *600. [МІР-ГАРА]

...Даўным-даўно ў тутэйшых месцах звінелі мячы: два князі не маглі ўжыцца па-суседску. Не раз іх дружыны хадзілі адна на адну. Лілася кроў на схілах гары...

Князі аднойчы сустрэліся на гары без зброі, заключылі мір — адсюль і пайшла назва Мір-гара.

## *601. НАВАСАДСКАЕ ЗАМЧЫШЧА

Над рэчкаю, над Слаўкаю, недалёка святога месца Студзянца, дзе з-пад дарогі на гары вада цудоўная выліваецца і спадае ў яр глыбокі, а ярам у Слаўку цячэ, а Слаўка па каменнях шапоча,— стаіць княскае гарадзішча.

Высокія берагі Слаўкі пазарасталі ўсякім лесам: раслі там і дубы магучыя, і светлыя ясені, і клёны, і альшыны, і асіны, і бярэзіны касатыя, і бразгаліны касцястыя, і чаромхі пахучыя — ды многа ўсяго было.

Над усім гэтым западала ночка цёмная. Неба было засуплена чорнымі хмарамі, а вецер сярдзіты раз-паразу зрываўся і з шумам і свістам пралятаў над гарамі, над лясамі і над тым гарадзішчам, маўляў, штось нядобрае павяшчаў.

Усе ў гарадзішчы ў тым спалі. Спалі і ў месцы, што ляжала ў кліну між Слаўкай і Ус-рэкай. Адна толькі душа ў гарадзішчы не спіць: паволі ўсё ходзіць і, знаць, думу цяжкую думае, бо аж пот на белым лобе выступае перлістымі кроплямі.

А хто гэта ходзіць, як не княжна, слаўная красою і багацтвамі сваімі? І ростам высока, і ліцом красна, хоць не так-то ўжо і малада. І грудзі яе поўныя высока падымаюцца, і вочы карыя аж у цемнаце свецяцца, а буйныя косы вецер па воздусе трэпле.

Ходзіць княжна гордаю ступою, ды на сэрцы яе, знаць, невясёла, бо ўсё то рукі заламае, то вяла іх апусціць, то ўздыхне цяжка, як канаючы, то аберуч галаву сцісне, то, быццам на штось адважыўшыся, вочы падыме і ўдаль смялей гляне і заходзіць байчэйшаю ступою, а праз момант ізноў яе сэрца зойдзецца, і рукі павіснуць, і вочы затуманяцца, і ногі як бы падкашывацца стануць. Ды вось яна канцом на штось адважылася. Пайшла хуткаю ступою ў гарадзішча, чэлядзь сваю будзіць, усе багацтвы свае прыказвае збіраці і што дарожшае, то ў скрыню каваную кладзе, а што меней вартае, тое чэлядзі раздае. Сабраўшы ўсё і спакаваўшы, скрыню зачыніла на тры замкі, а ключы на залаты паясок нанізала і туга ім падперазалася. Тады, сеўшы на скрыню, горка заплакала.

— Няма ў мяне ні шчасця, ні долі, ні вернага друга, няма мне з кім дзяліцца ні сваёю красою, ні каханнем, ні багацтвам вялікім, а моладасць мая ўцякае, лічка маё бела пажаўцела, грудкі мае поўныя сталі вянуць, вочкі карыя — ліняці, буйныя косы — выпадаці, а сэрца маё стала заміраці... Няхай жа, калі так, я згіну і ўсё са мной: і думкі мае, і каханне маё, і жаданне, і краса, і багацтвы мае, бо так сіратліва жыці не пад сілу мне!

І загадала сваім служкам прывязаці сябе да скрыні і кінуць у студню дужа глыбокую і поўну вады, што ў тым гарадзішчы на дворы была. Загудзела, зараўла навальніца з неба з громам, з градам, з перунамі ды маланкамі, а прайшла навальніца, і краснай княжны не стала... Кінулі яе верныя служкі ў студню глыбокую, і апусцела зараз тое гарадзішча, а пасля і саўсім яго не стала. Толькі гара з валам ды студняй, поўнай камення, тое месца адзначае. Скора вораг люты сюды найшоў, людзей павыразаў, хаты з зямлёю зраўнаваў, а тое месца, дзе места было, людзі Рэзанамі празвалі.

Каму ж з таго месца бог судзіў жывым астацца, тыя трохі аддаль на гары, над крыніцамі, пабудаваліся, насупроціў таго ж гарадзішча і Студзянца, і празвалі сваё новае селішча Навасадамі.

### *602. НАСЫПНАЯ ГАРА У ТУРАВЕ

Калі князь прыбыў на тое месца, дзе цяпер Тураў, было там шмат вужоў. Баючыся гэтых гадаў, загадаў сваім воінам насыпаць гару. Яе насыпалі ў адзін вечар, што даказвае аграмадную колькасць яго воінаў, бо гара гэта мае не менш як восьмую долю вярсты.

## 603. ПЕРУНОВА ГАРА

Ёсць за Нясвіжам, калі ісці на захад ад горада, старое замчышча — вялікае ўзвышша сярод долу. Людзі завуць яго Перуноваю гарою. Расказваюць, што некалі на тым месцы стаяў княжаскі замак, а там, дзе дол, было прыгожае возера. У ім, як у люстэрку, відно было неба. Улетку, у ноч на Івана Купалу з возера выходзілі русалкі і вадзілі свае карагоды. Кажуць, у возеры гэтым загубілі сябе сялянскія красуні-дзяўчаты, падманутыя маладымі княжычамі. І столькі разбэшчаныя князі загубілі душ, што аднойчы ў купальскую ноч на возеры ўсчалася моцная бура, вада ўзнялася і заліла ўсё кругом, а ў замак стрэліў пярун і разбіў яго ўшчэнт. Нездарма вёскі навокал былога замку маюць жаночыя імёны: Аношкі, Жанковічы.

## *604. [УЗГОРАК ЦАРКОВІШЧА]

Недалёка ад вёскі Красніцы пры рацэ Дзяражні ёсць гладкі насыпны ўзгорак, каля адной дзесяціны, абкапаны вакол некалькімі канавамі... На гэтым месцы некалі была царква, якая ў час набажэнства разам з людзьмі правалілася ў зямлю. Адзін рыбак гадоў дзесяць таму назад, лавіўшы рыбу ўначы, бачыў, як павыходзілі на прасуху, і чуў, як у ёй званілі і дзякі пелі, а тады ўзноў схавалася.

## 605. ШВЕДСКАЯ ГАРА

У горадзе Ваўкавыску ёсць Шведская гара. Аб ёй у народзе ■ даўніх пор расказваюць. Многа лет таму назад шведы напалі на Расію. Пры захопе Ваўкавыска быў забіты вялікі шведскі военачальнік. Шведы пахавалі яго і нанасілі вялікі курган шапкамі ў памяць свайго палкаводца.

## *606. [СКЛЕП У СТАРАДВОР'І]

У Старадвор'і Навагрудскага павета ёсць такі склеп мураваны, які ніяк немагчыма зверху прабіць. Кажуць, што ў ім знаходзіцца заклятая жанчына.

Аднойчы з гэтага склепа пачуўся голас:

— Паклічце свяшчэнніка, няхай ён адслужыць у гэтым склепе малебен, ды скажыце яму, каб ён усё сваё начынне царкоўнае ўзяў з сабою.

Сказалі свяшчэнніку пра гэта, ён згадзіўся. Як толькі закончыў свой малебен, і трэба свечкі тушыць, аж аказалася, што шчыпцоў

для гэтага не прыхапілі з сабою. Тут раптам узнялася ў склепе бура, і свяшчэннік ледзь выбраўся адтуль са сваім прыладдзем. Хтосьці прывалок царкоўную завалу і пачаў ёю біць па скляпенню. Як толькі прабілася невялікая дзірка, завала мігам ўляцела ў склеп і легла ўпоперак дзіркі. Так нібыта яна і зараз ляжыць.

Калі ж усе неяк выбраліся са склепа, то адтуль пачуўся страшны стогн і енк:

— Сядзела я тут пяцьсот гадоў і яшчэ прыдзецца столькі сядзець.

Кажуць, быццам нейкі пан пабудаваў той склеп, але ў ім быў нейкі цяжкі, нездаровы дух, дык пан вялеў завяліць уваход, каб ніхто не заходзіў у склеп.

## 607. [ПРА МЛЫН У АЛЬХОВІЧАХ]

Па-нашаму, па-простаму, то тут, дэ мы жывэмо, называецца Оліховічы. Мой прадзед Лубко быў бедны чалавек. Вон служыў дваццаць лет у войску. І там дэсь якось банк з золатам разбілі. Набраў вон таго золата і, вэрнуўшысь дадому, купіў сету гаспадарку, а многа захаваў дэсь пад грушу. Меў штэры сыноў. Адзін сын пагледзіў тое. Паехаў раз прадзед на Спаса на Грабарку разам з тым сынам. Покі бацька маліўсе, сын бягом дадому і до таго золата. Вано было ў двух саганьцях. Мэншы саганэць вон пакінуў, а большы забраў. І стаў сабе зэмлі прыкупоўваці, а потым і млына пабудаваў собе ў Станковічах. А бацька нэ мог аджалаваці тае страты, праклінаў зладзея і ўдэнь і ўночы. Сын слухаў-слухаў тые праклёны і кажа:

— Тато, не праклінайтэ, то я ўзяў.

А бацька на тое:

— Ну, сынку, нэхай так будэ. Ты нэ пропіў, ано пабудаваўся прэч. Пользуйсе на здорове.

Так тое і асталосе. А тэпэр то і млыны пагнілі і Лубкі-млынары сталі звадзіцісе.

Сама меней чатырыста год з запруджанай грэбляю Машчонкі лілася жолабам вада на млыновае кола і круціўся ды скрыгітаў камень, мелючы жыта, авёс, пшаніцу ды грэчку. Завозу бывала багата, а з завознікаў за мліва браў мельнік скобкам збожжа. Малоў жа дробна або груба, а хто хацеў, дык яму і на рафку пускаў.

# КАМЕННЕ

## 608. [БОГА БЛЮДА]

Калісьці, як я быў яшчэ нявéлькі, у дзевятым року, гадоў чтырна́сце меў я, пасвіў быдла ў Каргаўдóх у дзеда. І там з пастухамі мы гулялі, лёталі, потым пастухі кажуць:

— Ідзём паглядзець, на Гіркоўскім полю ест блюда, бога блюда, дзéво блюдас па-літоўску.

Павялі мяне паказаць. То харошая плітá, на той пліцé пасярэдзіне такой велічыні, як талерка глыбокая, тое блюда. А па сторанах такія як сподачкі глыбінoю, зноў выбітыя і так як вышліфаваныя, гладзенькія. Дзéво блюдас называлі людзі.

То там адзін шляхціц задумаў тую пліту прывязці на пліту пад дзверы, дзе ходзіць. Харашо яму паглядзець, яна такая гладкая тая пліта была, і тое блюда яму нарáвілася там. Наліць вады, то і куры могуць напіцца з тога блюда. Павёз ён тую пліту. Не малая тая пліта — якія чатыры мужчыны трэба каціць у воз. То той шляхціц прывёз пад ганак і палажыў. І стаў хадзіць ужо ён, углядацца, цешыцца. То калі стала яму ногі круціць, сталі балець ногі, раматізма якая яго ўзяла круціць. То ён потым дагадаўся, кажа:

— Мусі я зграшыў бога, трэба етая пліта вясці там, дзе яна была.

Як адвёз назад, тады перасталі яму ногі балець. І тая пліта ляжала, добра помню, да шаснастага року, ніхто з таго месца не рушыў. А тэрас я не ведаю. Ужо я чалавек стары, а каб паінтэрасаваўся, то дапытаўся б, абнашоў бы яе, тую пліту, божа блюда. От, маё ты дзіцятка, ета ж не дзісь быўшы, а ўсё помню.

## *609. [ВУЖАЎ КАМЕНЬ]

Ад вёскі... у адлеглáсці дзвюх вёрст, быў узгорак ля дарогі, на ім ляжаў вялізны Вужаў камень. Старыя людзі гэтак аб ім расказвалі.

Раз улетку ў ціхую пагодлівую ноч ляцеў, агнём шыбаючы, вуж з поўначы на паўдня, як бы несучы з сабой многа золата і срэбра грэшніку, каторы чорту душу запісаў. Бачылі гэта дарожнікі і налле, ідучы з прыгону. Раптам адчынілася неба, светласць вялікая разлілася, людзі, молячыся, валяцца на зямлю, а вуж, выцяты нябеснымі косамі, валіцца на ўзгорак і пераварочваецца ў камень. Скарбы ж золата і срэбра, што нёс з сабой, там жа на месцы самі закапаліся ў зямлю і з таго часу з'яўляліся на розных мясцах узгорка ў розных постацях. Адны бачылі плачку на камені, каторая выцірала сабе слёзы насаткай, палючай агнём, другія — позна ідучы

дарогай, углядалі карлюкоў чорных і тоўстых, як бочка, іншым з'яўляліся чорныя казлы, каторыя з зямлі скакалі на камень, а з каменя на зямлю, і шмат іншых дзівосаў.

Гукалі яшчэ, што калі хто асмеліцца ля Вужава каменя начаваць, то дастане гэтыя скарбы.

## 610. ЗМЯЕЎ КАМЕНЬ

Паміж Коўткава, паміж Гогалеўкі і ад Віркаў недалёка ёсць пры старадарожжы, на Ігры, Змяёў камень, з вакном і з дзвярамі.

Старыкі казалі, што калісь-то даўно ў гэтым камені змей жыў, з адной галавой, у вобліччы чалавеччу, і гаварыў так, як чалавек. І ён большы кравец быў, бальшы дужа, харошы. І занясуць яму сукно шыць, і пададуць яму праз вакно, і папросяць:

— Майстрок, пашый абы надзець, хоць ба дрэнна!

Дык ён выщыець, што і на свеці так добра ніхто не пашыець, як ён. Прыдзець за сярмягай за той і прынясець яму грошы. Ён гэту сярмяжку яму аддась, а грошы возьмець к сабе,— абы колькі там, хоць і троху. Ну, як хто скажаць:

— Майстрок, пашый мне хорашанька, каб было ў цэркву ў чым схадзіць,— дык ён адзін рукаў над задам прыш'ець, а другі ў плячах. Гэнак і выш'еиь. Не прасі яго, каб у цэркву схадзіць. Як просіць— кала сахі хадзіць, дык вышыець, так адчаканіць, што хоць куды. А як просіць — на святы дзень, дык здзелаець так, што ні сабе ні людзём. Прыдзець ён браць — грошы падай! Возьмець грошы, тагды праз вакно выкінець — палучай тваё!

Дык вот ён у Бузер'і (Абазер'і) пад Лукомлем любіў дзеўку. Дык яна ад яго хавалася, хаванілася, але ён яе ўсюдых находзіў. Ну й к таму прывёў, што мусіла яна жыць з ім. І доўга так жылі — як мужык з жонкай. А дзяцей не было: ад іх не бываець. Дык ён бывала абернецца так, дугой, над возерам над Лукомскім, ды так і цягнець. А як толькі на зямлю апусціцца, дык і здзелаецца ў чалавечае аблічча,— паніч такі, што хоць куды.

Ну, дык вот раз, у нядзелю, была яна, дзеўка, пасціла свінні на полі. І ён прыляцеў і к ёй на поле. І ўзяў ёй свіней сабраў у кучу, і сказаў:

— Паішчы ў мяне ў галаве. Да толькі паглядай, каб адкуль хмара не нацягнула.

Ён лёг і заснуў. Яна ў яго ішчаць. А хмара находзіць з западнага боку, дзе сонца заходзіць. І яна яго не разбудзіла наўмыслі: «Што? Пакуль ты мне будзеш дакучаць?» І датуль не будзіла, пакуль гром загрымеў над галавой. Як загудзеў гром, так ён і ачхнуўся. Ачхнуўся і гаворыць:

— Вот жа калі ты мяне зжыла з свету.

Ускочыў ён, так і ляснуў ёй па шчацэ па левай з правага боку — так і высмаліў на шчацэ пяць пальцаў, і пачарнелі. І на ўсю жысць так асталісь пальцы знашно, і памерла з тымі пальцамі. А сам выцягнуўся дугой і паляцеў цераз вазяро, паміж Агурца і паміж Сіманавіч — дзеравушкі,— прама ўдарыўся, нацянькі з тыя дзярэўні да ў сваёй хаці. Так яго пярун і дзёрнуў на возеры. Дзёрнуў, а ён ляціць. Ён другі раз,— дык ён упаў на возеры. Але ўсхваціўся узнова і паляцеў.

Старык быў у Бузер'і, дык ён случыўся на гэна дзіва і ўсё гэна відзеў. Ну, дык ён пераляцеў цераз вазяро́, а пярун у трэці ўдарыў, у лясу ўжо, саўсім з берагу, з поля зляцеўшы. І ўбіў яго.

І трое сутак дождж ішоў пасля таго, пакуль яго найшлі. Старык той паказаў:

— Шукайце,— каець,— там і там: на ваша поле паляцеў.

Ён так, як дуга ці вужака, ляціць; знашна, што змей. Ну, найшлі і закапалі яго. Так дождж і пацiх. Але цераз суткі апяць ён на версе. Так узнова дождж і пайшоў. І грамоты бальшыя: пярун уцяшаецца, пярэць у яго нежывога,— каб не джыў. Хавалі яго гэнак разоў з тры ці з чатыры. Дык усё на версе. І як выйдзець, так сажнеў на колькі і цягнець усё ў той бок, дзе яго хата, усё пацягуець далей. Старыкі кажуць, што каб пагода пастаяла, дык ён аджыў бы. Ну, а бог міласлівы так даваў, што сычас нацягнець хмара, і грамоты, і дажджы дужа пойдуць, і перуны паляць у яго. І дужа была вада вялікая: чуць зямлю не адтапіла. Ну, дык прыснілась тагды таму старому Бузерскаму, што сабраць малых дзяцей-незнатак, і жарабятак гэных сяголетніх, і вазіць зямлю ўва 'топках, і ў прыполах, а жаробачкам торбачку насыпаць ды на шыю. Сталі так насіць, сталі насіць, дык і засыпалі, і прапаў...

І курган цяпер там, паміж Сіманавіч дзярэўні, і паміж засценку ў лясу. Дзеўку тую шчэ дзед мой — памёр, як я маленькі быў,— казаў, што відзеў.

## 611. КАМЕНЬ-КРАВЕЦ

У Вароніне, кала Сякірына, ёсь камень кала ракі, над вірам. Там, гаворацъ, бывала, шыў нехта. Верна, чорт, хто ж там болі? Вот, прынясі сукно ці што сабе другое, ды палож на камені, грошы палож — пятак ад штукі — не трэба ні мераць, нічога,— чараз ноч будзець гатова. Ну, й шыў ён гэдак доўга. Але раз адна баба прынесла сукно, палажыла на камень ды кажыць:

— Пашый мне не тое, не гэта.

Ён узяў і пашыў ёй ні тое, ні гэта: адзін рукаў у плячо ўшыў, а другі адзаду. І брасіў шыць з таго; і цяпер не шыець. Дык і цяпер яшчэ ёсць логавішча, што ён сядзеў, і кажуць, знашны былі ножні, і ўсё кравецкае, струмэнт, але цяпер мохам ён парос, дык толькі адно логавішча знашно.

## 612.[ КАМЕНЬ-КРАВЕЦ]

У нашым баку многа ё камняў... На іх каплічкі строяць. Адзін такі камень... увесь на літарах. І толькі трох слоў не разабраць. А калі б разабралі, дак ба зналі, як на том свеце, як на етам. Такі камень е у Васілевічах Мазырскага павета.

А ў Славені дак е такі камень-кравец. Ён усім адзежу шыў. Як прынясе хто сукно да скажа:

— Сцяпан, сшый мне кафтан! — Дак ён і сшые.

Звечара сукно палажы, а нарання її гатова. Дак адна баба прынесла раз сукно да й кажа:

— Сцяпан, сшый мне ні тое, ні сёе.

Назаўтрага прыходзя — агу! Адзін рукаў там, дзе трэба, а другі на поле, унізу.

Ну й годзе з тых пор шыць. А ножні і цяпер на ім знашны.

## *613. [ЦУДАДЗЕЙНЫ КАМЕНЬ]

У Ашмянскім павеце, за мястэчкам Смаргоні, пры Мінскай паштовай дарозе, на лузе ляжыць камень даўжынёй пяць аршын, шырынёй — чатыры. Далей, за Смаргонямі, ёсць камень яшчэ большы за гэты... Ад яго і бліжняе мястэчка завецца Камень... Пра гэты большы камень расказвалі, што нібы ў даўнія часы, калі хто пакладзе на яго два злотых (30 капеек серабром), дык, вярнуўшыся дадому, знаходзіў боты, якія невядома адкуль узяліся.

## * 614. [КАМЕНЬ-ШАВЕЦ]

Невялікае мястэчка Камень названа так ад вялікага каменя, які знаходзіцца непадалёку на вельмі відным месцы. Пра той камень расказваюць такую гісторыю. У ім, у камені, жыў шавец. Дзвярэй у яго хаце не было, а было толькі адно акенца, хоць цяпер ад гэтага акенца і слядоў няма. Усякаму, каму трэба былі боты, варта было падысці да акенца, сказаць аб сваім жаданні, назначыць час і пакласці грошы, колькі — невядома, а вядома толькі, што лішка выкі-

далася праз акенца, і абутак быў гатовы ў свой час. Боты былі цудадзейныя: іх можна было насіць пятнаццаць гадоў і чым часцей бываць на ігрышчах, тым лепш, але толькі з умоваю не хадзіць у царкву, там яны адразу распадаліся на дробныя кавалкі. Свяшчэннікі, угледзеўшы ў гэтым шаўцы злога духа, сатварылі заклён над каменем, і з таго часу спыніўся выраб цудадзейных ботаў. Самога шаўца ніхто не бачыў, ніхто з ім не гаварыў, і хто ён такі — застаецца таямніцай.

## *615. [ПРА КАМЕНЬ ГОМСІН]

Каля мястэчка Кура, у дзевяці вярстах ад павятовага горада Вілейкі, на полі ляжыць вялізны камень, які завецца Гомсін. Сяляне расказваюць, што даўным-даўно на гэтым месцы жыў шавец Гомсін. Ён быў філосаф, ні ўва што не верыў, не хадзіў у царкву і не пільнаваўся свят. І вось на вялікдзень Гомсін разважыў так: калі ў будзень ён можа пашыць адну пару ботаў, дык у вялікдзень павінен пашыць дзве пары. Сказаўшы пра гэта сваім і суседзям, ён заўзята пачаў рабіць, яшчэ і пасмейваючыся з тых, што пайшлі ў царкву,— маўляў, тады, як яны марнуюць час, ён у той дзень ўдвая больш зробіць.

Вось народ валіць ужо з царквы, а Гомсін усё яшчэ сядзіць за работай. Але як толькі людзі падышлі да яго хаты, на ясным блакітным небе раптам з'явілася грозная хмара, лінуў дождж і ў той жа момант грымнуў гром у самую хату Гомсіна. Уражаныя і аслепленыя так нечакана бліснуўшай маланкай, людзі пападалі на калені і закрылі вочы рукамі. Калі ж ўсё сціхла і крыху заспакоеныя людзі адкрылі вочы,— які жах іх ахапіў, калі не ўгледзелі ні хаты Гомсіна, ні яго самога, нібы ніколі іх і не было. На тым жа месцы, дзе была хата, ляжаў вялікі камень, як нямы сведка грознай падзеі...

Камень той і зараз ляжыць. Многія з сялян упэўнены, што..., нахіліўшыся да камня, чуюць, як спявае певень і стучыць шавецкі малаток. Яшчэ сцвярджаюць, што амаль штолета ў гэты камень ударае гром, а ён і сапраўды ў многіх месцах патрэсканы.

## *616. КАМЕННЫЯ ВАЛЫ

Калісьці, на вялікдзень, чалавек паехаў, разважаючы: «Пабачым, ці многа я наару за вялікі дзень?» Жонцы загадаў прынесці абедаць. Яна прынесла абед у двух гаршках. Чалавек паабедаў, аддаў жонцы начынне і сказаў ёй ісці дамоў, не азіраючыся назад. Жонка пайшла, але цікавасць прымусіла яе азірнуцца назад і яна

убачыла, што валы скамянелі, чалавек не скамянеў, сама яна скамянела, скамянелі і тыя гаршкі, якія жанчына несла.

Каменныя валы штогод уваходзяць у зямлю ўсё глыбей, а як схаваюцца ў ёй зусім, дык будзе канец свету. Калі каменем біць аб валы, дык з іх цячэ кроў...

Старыя людзі запэўніваюць яшчэ, што каля каменных валоў быў яшчэ трэці камень [скамянеўшы чалавек], які ляжаў спераду каменных валоў, і што... каля дарогі у кірунку да хутара Нагорныя быў даўней камень, падобны да чалавека, а каля яго — два меншыя каменьчыкі [скамянеўшая жанчына і два гаршкі]... Цяпер ёсць толькі два камяні — Каменныя валы і Каменнае ярмо.

Мясцовасць, на якой ляжаць каменні, мае назву Каменныя валы.

## 617. КАМЕННЫЯ ВАЛЫ

Калісь людзі былі цёмныя. Чалавек гаворыць на жонку:

— Я паеду араць, бо гавораць, што сягоння вялікі дзень.

Ён думаў, што вялікдзень — гэта вялікі дзень і ён удвая зробіць.

Паехаў араць. Прыйшло ўрэмя абедаць. Жынка панесла яму абед. Ён сеў на камень, паеў. Калі жынка йшла дамоў, ён сказаў ёй:

— Ідзі ды не аглядайся.

Жынка адышла гець з кіламетр, аглянулася і акамянела. Акамянелі валы, чалавек і сабачка. Людзі сабраліся, паставілі хрэст. Хрэст быў з такога дрэва, што і гніль яго не браў. Палякі ўжо потым спалілі. Мы былі хлопчыкамі, бывала, пасядзем на валы і б'ем каменем і сыплецца краска [з крыжа]. Разатрэш на руцэ — чыстая кроў. З-пад каменных валоў выскаквае сабачка шэранькая і гоніць нашы авечкі аж да Бібікаў. Пойдзем шукаць — авечкі стаяць у кучцы, а сабачкі ніякай няма. Гэтыя валы і цяпер ёсць, але яны ўвайшлі па клубы ў зямлю.

## *618. [ТРЫ КАМЯНІ]

Недалёка ад Нясвіжа [вёрст дзесяць-дванаццаць], непадалёку ад фальварка Лазовічы князя Радзівіла, ёсць тры камяні даволі вялікія. Адзін з іх тырчыць з зямлі, нагадваець, хоць і слаба, чалавека, а два ляжаць побач. Пра гэтыя камні сяляне расказваюць. Жыў у Нясвіжы люты князь, які бога не баяўся, вельмі народ мучыў. Мала таго, што людзі ў будні з сілы выбіваліся, адбываючы паншчыну, ён пачаў патрабаваць, каб яны і ў гадавыя святы на прыгон хадзілі. Вось надышоў вялікдзень. Снег сышоў, поле можна араць. І загадвае войт прыгон, а калі хто не прыйдзе па загаду, грозіць

выразаць таму тры палосы са спіны. Так злосны князь загадаў. Плачуць людзі. Выйсці на ворыва — выйшлі, але за работу ніхто не бярэцца. А войт пахаджвае ды бізуном лупіць непаслухмяных.

Прыехаў сам князь. Тут войт яшчэ больш пачаў лютаваць, пану дагадзіць хоча. Вось і кажуць людзі войту.

— Калі ты такі разумны, паспрабуй сам узараць.

Войт захацеў паказаць сябе перад князем, схапіў саху за рагач і пагнаў баразну. Але не дайшоў і да паловы баразны, як ударыў гром нябесны — і войт з валамі акамянеў. Так і стаяць яны да страшнага суда.

## 619. [ПРА КАМЯНІ, ПАДОБНЫЯ НА ЧАЛАВЕКА І ВАЛОЎ]

У Вілейскім павеце, у лесе маёнтка Клесін памешчыка Каверскага, ляжаць тры камяні, два з якіх падобныя на валоў, а адзін на чалавека. Народ кажа, што гэта — араты з двума валамі, ператвораны ў камяні за тое, што чалавек араў зямлю на Барыса і Глеба.

## 620. [КАМЕНЬ ЛЫСІНА ПАЦА]

На Віліі насупраць цяперашняга гарадскога парку ў Вілейцы, бліжэй да левага берага, летняй парой, калі спадае вада, добра бачны вялізны камень. Некалькі вякоў таму назад на беразе ракі стаяў палац пана. Стары пан Пац ад безрабоцця цэлымі днямі ўзіраўся на раку. Угледзеўшы лодку або плыты, лысы Пац высоўваўся з акна і крычаў:

— Камень! Камень!..

Так і ахрысцілі гэтую рачную ведзьмаватую гару-камень Лысіна Паца. Звалі яшчэ і Пацаў камень. Тым і ўвекавечыў сваё імя пан Пац.

## 621. КАМЕНЬ ЛЯ ВЁСКІ ГАРАДЗІШЧА

Ля Гарадзішча, вот толькі не ведаю, з якога боку, камень ёсць вялікі, у зямлю ён моцна ўросшы. Зверху ён такі, нібы дах, на бакі спускаецца і дзве дзіркі ў ім, як бы вокны ў хаце. У тыя дзіркі што ні кінь, ніколі не пачуеш, што аб дно ўдарылася, як бы ў прадонне якое ляціць. Адзін раз у тую дзірку ўвапхнулі сабачку невялікага, дык знік, не цяўкнуў, ні гуку, ні следу.

Людзі казалі, што некалі там горад вялікі быў, але за правінасць людзей, ці як там было, пад зямлю пайшоў, толькі знак застаўся.

## *622. [КАМЕНЬ ЛЯ ВЕСКІ ІМЯНІНЫ]

Крыху болей за вярсту ад вёскі Імяніны Кобрынскага павета, на высокай гары, пакрытай сасновым лесам, ляжыць вялікі камень, пра які расказваюць так. Раз у дажджлівую пагоду начлежнік лёг паля каменя, каб ён быў пад галавой, падаслаўшы сваю торбу. Не паспеў ён заснуць, як пачуў грозны загад пайсці ад камня. Упарты начлежнік не паслухаўся грознага голасу і пасля трохразовага паўтарэння яго. Тады нябачнай сілай вырвала торбу з-пад начлежніка і аднесла яго самога крокаў на пяцьдзесят убок; начлежнік перамясціўся і лёг на новым месцы. Адсюль ён убачыў на камені ўперамежку то сіні, то чырвоны агонь; тое ж убачылі і іншыя начлежнікі, якія прыбылі сюды. Калі яны падыходзілі да каменя, агонь знікаў; але толькі яны адыходзілі ад яго, агонь ізноў з'яўляўся. На другі дзень начлежнікі знайшлі пры камені тры сярэбраныя манеты. Агонь з'яўляецца пры камені, кажуць, і зараз.

## 623. [КАМЕНЬ ЛЯ МАЁНТКА СТАРАДВОРАЦ]

За тры вярсты ад маёнтка Старадворац, на ўсходнім баку, і зараз можна бачыць вялікі камень белаватага колеру, які нагадвае здалёку касцёл. І сапраўды, на гэтым месцы, кажуць, некалі стаяў касцёл; але за грахі людзей ён пайшоў у зямлю з усімі, што маліліся там. З таго часу невялікая лажбінка на камені пачала папаўняцца цудадзейнай вадой, якая вылечвала вочы, пакуль нейкі дурны пан не надумаўся памазаць гэтай вадой вочы свайму сабачку. Тады вада пачала памалу губляць сваю цудадзейную сілу, пакуль, нарэшце, зусім знікла.

## *624. [ПРА КАМЯНІ ЛЯ МЯСТЭЧКА ДАРЭЧЫН]

Каля ўсходняй дарогі, якая вядзе ў мястэчка Дарэчын, за адну вярсту ад яго яшчэ і зараз можна бачыць сем камянёў, з якіх шэсць знаходзяцца разам, а сёмы — на пяць сажнёў далей ад іх. Пра нечаканае з'яўленне гэтых камянёў расказваюць так. З мястэчковай царквы вярталася раз вяселле, і на гэтым месцы сустрэла яно лютага чарадзея, які, не дачакаўшыся звычайнага ветлівага вітання, пракляў вясельнікаў. Коні і калёсы праваліліся скрозь зямлю, а людзі абярнуліся ў камні. Яшчэ ў нядаўні час на гэтых камянях можна было бачыць ясныя абрысы людзей; на нявесце ж падвянечны ўбор. А той камень, што асобна стаіць, ёсць няшчасны музыка, які звычайна едзе трохі здаля вяселля.

## *625. КАМЕНЬ НА МЕСЦЫ ЗАКЛЯТАГА ВОЗЕРА, ЯКОЕ ПРАВАЛІЛАСЯ

Паблізу паштовага шляху з Падароску ў горад Ваўкавыск, на поўнач ад вёскі Галынкі, з правага боку, ляжыць вялікі камень, пад якім схавана зачараванае возера. Вельмі даўно праязджала тут нейкая знатная паненка з любімым сабачкам. Паненка захацела выкупаць сабачку і кінула яго ў ваду. Ці зачапіўся сабачка ў траве, ці яго праглынула рыба, але толькі сабачка загінуў у возеры. Раззлаваная паненка пракляла возера, і яно пайшло ў зямлю, пакінуўшы на паверхні адзін толькі камень.

## 626. [ПРА КАМЕНЬ У ВАЛІЛАХ]

Было гэта даўным даўно, калі людзей тут яшчэ зусім не было. Вакол прасціраліся непраходныя пушчы-лясы ды вілася сярод іх вось гэтая рэчачка. У балотнай твані сядзеў д'ябал. Бачыце, калісьці нячысты толькі ў такіх месцах і вадзіўся. Гэта цяпер адно стаў ён па гарадах шляцца. Сядзеў ён так ды з нуды корпаўся ў балоце, ажно бачыць: берагам рэчкі ідзе чалавек. Здалёку, відаць, бедалага вандраваў: схуднелы ды абдзёрты ўвесь. Убачыў рэчку, прысеў на купіну, а свае зморлныя ногі ў ваду апусціў ды пабоўтвае імі, каб хутчэй стомленасць з іх сагнаць. А д'ябла ад злосці аж чорт носіць: «Бач ты,— маўляў,— мала таго, што па маім беразе валочыцца, то яшчэ і мяне сваім боўтаннем непакоіць уздумаў! Чаго добрага — возьме і назаўсёды тут жыць астанецца. Ну, тут то [redacted] цябе і звяду са свету».

Выкалупаў нячысты з багны каменьчык, бы зярня бобу са струка, папляваў на яго, перакінуў разы са тры з адной сваёй калматай лапы ў другую, і тут уваччу маленькі камушок у аграмадны валун абярнуўся. Пачаў размахвацца д'ябал з усяе моцы, але ж як на зло ўзяў ды паслізгнуўся ў топелі, і глыба замест у чалавека бухнула на скрай лугу. Убачыў вандроўнік, чым тут пахне,— лахі пад пахі ды ходу з гэтых мясцін. А валун так і астаўся ляжаць тут. Ад таго, што чорт уваліў тут валун, і павялася назва — Валілы.

## *627. ПЯСТУН-КАМЕНЬ

Каля курганаў, сажняў пяць ад дарогі, ляжыць дзікі камень, плоскі, даўжынёю аршыны з паўтара... Сяляне называюць яго пестуном. З даўніх часоў кладуць яны на яго грошы, палатно, паясы, прыносячы свае ахвяры часам здалёк, вёрст за пяцьдзесят і болей...

Пра гэты камень расказваюць: была вайна, праходзіла войска і гналася за краснай чэснай дзяўчынай. Уцякаючы ад войска, тая сказала:

— Лепш бы я каменем па зямлі качалася, чым ім на пацеху дасталася.

І гэта сказаўшы, дзяўчына тая ў етат пястун-камень абярнулася.

## *628. [КАМЕНЬ КАЛЯ РАДАШКОВІЧАЎ]

Даўным-даўно гэта было. Калі сонца яшчэ свяціла ярка круглы год і камяні былі гарачыя і мяккія, як свежаспечаны каравай. Бегаў тады залаты алень шчасця — і дзе заставаўся след ад яго капытка, там астывала зямля і ўсё, што на ёй знаходзілася, набывала цудоўную сілу... Такую казку аб валуне, што ляжыць недалёка ад Радашковічаў, здаўна расказвалі дзецям вяскоўцы. Быў ці не быў ён чароўным — гэтага, вядома, ніхто не ведаў. Але хітрая выемка на ім і сапраўды нагадвае след аленя.

## *629. ЗАСУЛЬСКІЯ ТУРЭ

Ёсць у нашым краю сяло Засулле, а каля таго сяла, на краю Баханскага балота, ляжаць тры вялізныя каменні, што турамі завуцца. Два з іх, большыя, ляжаць поплеч, як два пірагі, зліпшыся, а трэці, меншы, круглы, як баханок, ззаду паміж пірагоў паложаны.

Вота ж, як старыя людзі павядаюць, гэтыя каменні калісь-то людзьмі былі такімі, як і мы. Гэта было яшчэ тады, як наш край у паганстве быў, а толькі чутка хадзіла, што ад Кіева нека новая вера разыходзіцца і штораз далей і далей па гарадах, сёлах і сялібах пашыраецца. І ад гэтае чуткі страшна людзям станавілася. Баяліся новае веры, як заразы якой.

Людзі зыходзіліся ў святыя дубровы ды гаі, там раіліся і прыносілі ахвяры багам, каб уласкавіць і ўпрасіць аб помачы процiў насуваючай з поўдня страшнае навіны.

Вот у адным сяле пад Сулаю разышоўся пагавор, што да аднаго гаспадара, каторы жыве за сялом на адзіноце і Турам празываецца, па начах прабіраецца нейкі невядомы чалавек з вялікаю барадою, з доўгімі валасамі, павучае гаспадара таго новай веры. Сталі сяляне падглядаць, і дзе каторыя з іх бачылі, як невядомы з гаспадаром, з гаспадыняй і з малымі іх сынамі кланяліся нейкім рагачам. Сталі прызірацца да гэтых рагачоў і дагледзелі, што яны пароблены з залезных шынаў, зложаны накрыж.

Тых крыжоў налічылі тры: адзін вялікі пасярэдзіне, а два малыя абапал яго. Сабралі сход і ўраілі, каб сям'ю і сялібу тых Тураў знішчыць дазвання, каб і следу не было.

Аднэй гэтак раніцай запрагае той апрычны гаспадар валы араць ехаць, ажно бачыць: з сяла народ да яго валіць — хто з сякерою, хто з пілою, хто з насекаю, а хто проста з кіем. Сцяміў ён бяду немінучую. Кінуўся ў хату, разбудзіў жонку і сына, сам узяў вялікі крыж, а ім даў па малому і чым дужы ў лес. Сяляне тое як забачылі,— зараўлі ад злосці ды кінуліся ўдагонку. Турэ тыя ўцякалі на ўсю моц, ажно разам спыніліся, бо прыбеглі к вялікаму непраходнаму балоту. І апанаваў іх вялікі страх, ды кажуць яны:

— Што мы з новае веры скарысталі? Бадай мы той час лепш каменнямі сталі, як маглі яе пазнаваць!

Тады бог і перакінуў іх за гэта ў каменне. Прыбягаюць людзі ўслед за імі — аж нідзе нікагутка, адно тры каменні ляжаць.

— Вот табе і нашы Турэ! — кажуць сяляне, апусціўшы рукі.

Турамі завуцца тыя каменні і цяпер, а крыжы пазнаходзілі ў зямлі ўжо за нашых часоў. Яшчэ гадоў дваццаць таму жылі тыя людзі, што з тых крыжоў нарогі рабілі.

### *630. [КАМЕННЫЯ КРЫЖЫ ЛЯ ТУРАВА]

Паблізу Турава стаяць у полі два каменныя крыжы каля сажані вышыні. Пра іх расказваюць, што яны плылі па Прыпяці ўверх, проці вады, і калі іх пераянялі ў Тураве, дык уся вада зрабілася крывёю.

### *631. КАМЕННЫ КРЫЖ

Па гэтаму масту ехала аднойчы нейкая вялікая княгіня. Мост пад карэтай рухнуў, і княгіня ўтанула. Знайсці яе не змаглі. Тады князь забараніў ездзіць па гэтай дарозе, і яна заглохла, а на беразе ракі з'явіўся гэты крыж.

### *632. [МЕЖАВЫ КАМЕНЬ]

Камень быў на мяжы паміж двух княстваў. Пры пагранічных спрэчках адзін з князёў ілжыва прысягнуў ля камня, што граніца яго ўладанняў знаходзіцца далей камня. Але калі ён, сышоўшы з каня, схацеў ступіць на набытую такім чынам зямлю,— раптам памёр на сваёй ранейшай граніцы.

### *633. ГРАНІТНЫ КАМЕНЬ

Д'ябал нёс камень здалёку, каб запрудзіць Дзвіну, але запяяў пятух, і д'ябал кінуў камень у балота, не данёсшы да Дзвіны ўсяго некалькі вёрст.

## 634. ПОМНІК ВЕРНАМУ КАХАННЮ

Было гэта вельмі, вельмі даўно ў маёнтку Алешавічы. Суровы і хцівы пан быў у тыя часы. Многа слуг было ў гэтага пана. Жорстка распраўляўся пан са слугамі за кожную дробязь. Не любіў ён простага люду. Асабліва маладога дворніка Янкі. Сільны быў Янка, прыгожы, не адна дзяўчына ў наваколлі паглядала на яго.

Аднойчы Янка, як заўсёды, падмятаў двор. У той час па надворку праходзіла маладая паненка — дачка старога пана. Яна ўбачыла Янку і пакахала яго. Часта яны сустракаліся, каб ніхто не ведаў. Частыя сустрэчы прывялі да таго, што паненка павінна была радзіць. І яны вырашылі пажаніцца. Аб гэтым дазнаўся стары пан. Каб не зганьбіць свайго роду, ён вырашыў пакараць дачку і парабка самым суровым законам. Хлопца прыказаў забіць. А на дачку сваю прыказаў выкапаць яму і на ваччу людзей жывую закапаў.

Прайшоў час. Жалка было пану дачкі, і ён паставіў на тым месцы высокі помнік з цэглы.

Ён і цяпер стаіць, разбураны крыху, ля вёскі Ятвеск, як памяць аб верным каханні.

## 635. ПРЫГОЖАЯ КІНГІ

Пры панаванні даўніх каралёў у аколіцы Нарвы, дзе цяпер квітнеюць палі і сады, былі магутныя лясы. Высокія, магутныя дрэвы гаманілі нябёсамі, з сонцам, з месяцам. У такім лесе і днём і ноччу было цёмна. Светлыя праменні сонца не маглі дастацца цераз сплёт галінак да лясных маленькіх раслінак. У лесе выводзілася многа розных звяроў і птушак. Мядзведзі, львы, тыгры, ваўкі вылі, птушкі крычалі. Усё гэта злівалася ў адзін магутны голас, ад якога цэлы лес дрыжаў, дрэвы хісталіся.

Праз лес працякала вялікая бурлівая рака Нараў. Яна цякла хутка, рвала берагі. Старыя дубы, таполі валіліся ў раку і разам з ёю плылі далёка-далёка. Ніхто і нішто не магло затрымаць шпаркага бегу ракі.

У тым месцы, дзе рака ўпадала ў другую раку, лес быў радзей, а за лесам цягнуліся зялёныя палі, сады і агароды, пасярод якіх, на берагу Нарвы, стаяў прыгожы палац каралевы Кінгі.

У садах спявалі птушкі. Каралева Кінгі цэлымі днямі бывала ў садзе, у лесе, збірала грыбы і ягады.

Вельмі рана, калі сонейка яшчэ не ўзышло, калі раса пакрывала раслінкі, выйдзе каралева Кінгі з кошыкам у руцэ ў лес. Распусціць свае доўгія прыгожыя косы, сядзе на пянёк і прыслухоўваецца

да спеву птушак. Яна не толькі любіла слухаць спевы птушак, але саміх птушак вельмі любіла. Прыносіла ім яду: пшаніцу, авёс. І птушкі таксама любілі сваю каралеву, ляталі ўслед за каралеваю: сядзе яна пад яблыняй — і яны тут, сядзе яна на лавачцы — і яны тут.

І ўсё пяюць і пяюць... А спеў іх нёсся далёка-далёка. Пачуюць яго сяляне, якія працуюць далёка ад палаца, стануць, здымуць шапкі ды прыслухоўваюцца да той чароўнай музыкі. І так лёгка робіцца на душы...

Аднаго разу, калі каралева выйшла ў сад, затраслася зямля. Затраслася раз, другі, трэці. Кругом пацямнела і палац праваліўся пад зямлю.

З таго часу там, дзе стаяў палац, засталася невялічкая гара (якая захавалася і да гэтага часу). Каралева Кінгі не забывала сваіх дарагіх птушак, не забывала і прыроду. У поўнач яна выходзіла з зямлі, распальвала агонь і сядала на камень. Праязджаючы, людзі бачылі, як свяціўся аганёк на гары, але баяліся туды ісці. А каралева Кінгі кожную ноч выходзіла на гару. Яна чакала, каб які чалавек прыйшоў да яе і нарваў ёй букет кветак.

Аднойчы каля гэтай горкі на кані праязджаў стары разбойнік са сваёю здабычаю. Раптам забачыў ён агеньчык на гары. Ён падумаў, што гэта кусочак золата так свеціць, і пайшоў на гару. На самым версе гары, на камені, сядзела красуня-дзяўчына. Гэта і была каралева Кінгі. Яе прыгожыя льняныя валасы даставалі да самай зямлі, чорныя вочы свяціліся, як дзве зорачкі, а чырвоныя шчокі яе палалі проста агнём. Перад ёю стаяў адкрыты сундук, поўны золата. Брала яна гэтае золата ў жменю, падносіла руку ўверх і сыпала зноў у сундук. А здалёк здавалася, што гэта гарыць агонь. Стары разбойнік падышоў бліжэй да каралевы, але не мог вымавіць і слова. Кінгі павярнулася да яго і ласкава сказала:

— Ідзі, добры чалавеча, нарві кветак і прынясі іх мне, а я табе аддам усё золата.

У той момант стары разбойнік, як дзікі звер, кінуўся з нажом на каралеву. Але што за дзіва? На гэтым месцы, дзе сядзела Кінгі, нікога не было.

Разбойнік махнуў нажом у паветры. О, дзіва! На месцы, дзе стаяў разбойнік, ляжаў вялікі камень.

Са старога разбойніка зрабіўся камень, які і зараз ляжыць на гэтай гары.

## *636. ПРЫВІТАЛЬНЫ КАМЕНЬ

Кожны плытагон, першы раз праводзячы барку або плыт над небяспечным падводным каменем-заборам, кідае ў ваду кавалак хлеба з соллю і гаворыць:

— Вітаю цябе хлебам-соллю! Хлеб-соль прымі і мяне прапусці.

Пасля такога прывітання, даўшы даніну, плытнік смела праходзіць небяспечнае месца. Гэты адвечны звычай адкупляцца данінай і даў таму каменю назву Прывітальны.

### 637. ПРА КАМЕНЬ У ВЕСЦЫ КАМЕНЬ

Вялікі камень, як стог. Дзед расказваў, што ў нас камень і ў Пагосце камень, у вадзе, трэці стаіць, едучы ў Любань.

Тут была літоўская граніца, пані была, пані Падчашына. Пры ёй перасеклі гэты камень, і літары на ім былі. У 1909 ці 1910 гаду прыязджала камісія з Францыі ці Англіі. Мылі гэты камень, бялілі і вывучалі.

### 638.ЧОРТАВЫ ДУЧКІ

Ля ўрочышча Грыбунт ляжыць велізарны камень. На ім быццам вытачаныя круглыя ямкі, якія называюць у Крушынянах дучкамі. У гэтым месцы... збіраліся чэрці і на камені ў дучкі гулялі, качаючы па ямках камень. Кажуць, што ў поўнач даводзілася многім чуць у Грыбунце нейкі піск, віск, ломат. Гэта чэрці весяліліся.

## КРЫНІЦЫ, РЭКІ І АЗЁРЫ

### *639. [КРЫНІЦА ЛЯ МЯСТЭЧКА БАЕВА ]

Адкуль узялася крыніца? Аднавокі конь, што пасвіўся каля гэтага месца, дзе цяпер крыніца, упаў, а калі яго выцяглі, дык пачаў бачыць. Народ, даведаўшыся пра тое, пачаў прыходзіць і вылечвацца. На ахвяры, што прыносілі людзі, пабудавалі капліцу, куды штодзень пачалі хадзіць нават і яўрэі. Але тутэйшы поп, даведаўшыся пра гэта, замкнуў капліцу. Праз некалькі дзён крыніца гэта з'явілася ў іншым месцы, так што ў капліцы засталося сухое месца. Калі ж пра гэта даведаўся народ, дык пачаў прасіць папа не замыкаць капліцу. А як дзверы капліцы перасталі замыкаць, дык і крыніца вярнулася на сваё месца. З гэтай прычыны пачалі тут штогод святкаваць у дванаццатую пятніцу пасля вялікадня. У гэты дзень народу збіралася да пяці тысяч чалавек... Многія хворыя і зараз вылечваюцца тут.

### 640. ЖЫВАЯ ВАДА

Калі ў вёсцы Сасіны стаяла яшчэ старая царква, каля яе біла крыніца з жывою вадою. Прыходзілі сюды людзі хворыя і храмыя, а калі памыліся жывою вадою, дык адыходзілі здаровымі. Слава аб

цудоўнай крыніцы ішла далёка па свеце. Усё больш і больш прыходзіла з розных краёў людзей няшчасных на вылячэнне.

Аднойчы прыйшла аднекуль да крыніцы знатная пані з хворым сабакам. Яна без спросу ў людзей выкупала сабаку ў жывой вадзе.

— Што ты робіш? — абурыліся хворыя і калекі.— Ці ж можна купаць у цудоўнай крыніцы нячыстае стварэнне?

— Мой сабака чысцейшы ад вас, паганых,— фанабэрыста адказала пані.

Ніхто з людзей не пасмеў пярэчыць знатнай пані і яе здаравенным лакеям.

Як толькі панскі сабака вылез [redacted] вады, на вачах у людзей берагі крыніцы сышліся, жывая вада знікла.

Стогн жаласці пракаціўся па натоўпе... Пані, прадчуваючы нядобрае, праз момант знікла. Людзі кінуліся ратаваць цудоўную крыніцу. Адкопвалі яе чым хто мог. Капалі і рыдлёўкамі і рукамі. Капалі і многа і доўга. Але не маглі трапіць на яе след. Зямля ўсюды была сухая. Пасмутнеўшыя людзі разбрыліся па сваіх хатах.

Праз нейкі час на месцы цудадзейнай крыніцы зноў паявілася вада. Але яна ўжо не біла халодным струменем, а кропля за кропляй сачылася, быццам слёзы. Людзі зноў кінуліся да крыніцы. Кропля да кроплі збіралі ваду і шукалі ў ёй ратунку ад сваіх няшчасцяў і хвароб. Але вада больш не лячыла.

Як знікла крыніца з жывою вадою, на вёску пасыпалася няшчасце за няшчасцем. Ноччу ўвосень невядома ад чаго згарэла старая царква. Людзі ўміралі, як мухі, і некаму было хаваць пакойнікаў. Людзі ва ўсім абвінавачвалі фанабэрыстую знатную пані з сабакам. Не шукалі яны збавення ў крыніцы. Сцежкі да яе хутка зараслі травой і карчамі, а людзі пачалі забываць месца, дзе некалі біла жывая вада. Крыніца ж не дала забыць аб сабе. Нават тады, калі збожжа на палях жоўкне ад няўмольнай засухі, на месцы крыніцы заўсёды кропля за кропляй сочыцца вада, быццам слёзы па загубленым шчасці.

## 641. РЫМАЎШЧЫНА

Мой дзед казаў, што тутка некалі, даўна нейкі Рымар жыў, дык таму гэту мясціну й завуць Рымаўшчына...

Даўна, надта даўна людзі жылі рэдка, [redacted] лясоў было шмат. Усюды быў лес і лес. Гэта, дзе гэта крынічка, была вялізная крыніца, а з яе выплывала шмат вады. Тая вада была запярэчана грэбляй поперак логу, дык тут было вялікае й глыбокае возера. Ля возера быў млын. А там далей, дзе той курган, была кузня, бо яшчэ й цяпер там ёсць перапаленае каменне, гліна й вугалле. Гаспадаром таго млына й кузні быў Рымар. Ён не толькі малоў збожжа ў мла-

не й вырабляў у кузні розныя зялезныя рэчы, але ячшэ ён умеў варажыць і чараваць. Ён мог чалавека пераварнуць у ваўка ці іншага звера або чалавека пераварнуць у камень.

У гэтага Рымара-чараўніка было двое дзяцей — хлопчык і дзяўчынка. Рымаравы дзеці купаліся ў тым возеры й патапіліся. Рымару было шкада сваіх дзяцей. Ён надта разгневаўся на тое возера і пракляў яго. Рымар у тую вялізную крыніцу ўкінуў засмаленую смалой зачараваную шчэтку і накрыў яе зачараванай скавародой. А каб іншы чараўнік не зняў чараў з той заклятай шчэткі і скаварады ды не выкінуў іх з крыніцы, дык ён сам сеў на тую шчэтку, накрытую скавародой, і пераварнуўся во ў гэты вялізны камень і прыціснуў тую шчэтку і скавараду. Пасля таго не стала ні той вялізнай крыніцы, ні таго вялікага і глыбокага возера. Лог стаў роўны, як скаварада, ды парос густой травой, як шчэтка. Але ж памяць засталася ў тутэйшых людзей аб той вялікай крыніцы ды аб тым вялікім і глыбокім возеры, ды аб чараўніку Рымару. Усё ж тутэйшыя старыя людзі шкадуюць той крыніцы і таго вялікага і глыбокага возера ды спадзяюцца, што яны адновяцца.

Праз шмат гадоў пасля заняпаду той крыніцы і возера прыйшоў да тутэйшых людзей іншы чараўнік. Ён сказаў, што можа зняць чары чараўніка Рымара і аднавіць крыніцу і возера. Для гэтага патрэбна сабраць дванаццаць дзецюкоў-асілкаў і дванаццаць дужых жарабкоў. Тыя дзецюкі і жарабкі адвернуць той вялікі камень, а ён зніме чары з той заклятай шчэткі і скаварады, дык гэткім чынам адновіцца крыніца і возера. Але пакуль аднаўляць крыніцу і возера, дык трэба выселіць з папярэчнай вуліцы іхнай вёскі людзей, бо на тым месцы мае праявіцца вялікая рака. Тыя людзі пашкадавалі сваіх хатаў і сялібаў, дык да гэтага часу засталіся не аднаўленыя крыніца і возера.

Тая крыніца была незвычайная крыніца — яна была бяздонная крыніца: крыніца-вакно. У ёй вада круцілася і хвалявалася, як у віры ў паводку. А з гэтай бяздоннай крыніцы былі падземельныя лёхі да бяздонных віроў вялікіх рэкаў, да дзікіх вазёраў і да гэткіх самых бяздонных крыніцаў-вокнаў. Калі, бывала, казянё падыдзе да гэтай крыніцы-вакна, каб вады напіцца, дык нейкая пачвара высуне сваю страшную ляпу, а казянё проста й ляцела ў гэту страшную ляпу. Казянё замекеча, і яго няма — яно гінула...

У гэтай бяздоннай крыніцы жыў вадзянік. Сюды ў канцы лета з палёў і лясоў збіраліся русалкі зімаваць...

## 642. ПРА РЭЧКУ АРЫШТАНТКА

Даўно гэта было, пры цару. Людзі расказваюць...

Нейкі магнат сек лес каля Старобіна, збываў яго замежным купцам. Каб скараціць шлях для сплаву драўніны, рашыў злучыць Случ з Мараччу. Капаць канал сагналі ў палескія балоты катаржнікаў. З дня ў дзень стаяў над наваколлем звон кайданаў, прыглушана гучалі галасы нявольнікаў. Шмат цяжкай людской працы было пакладзена, шмат жыццяў аддадзена, перш чым канал даўжынёй дванаццаць кіламетраў пачаў «працаваць» на капіталіста... Але жыве ў народзе памяць аб тых, хто пад звон кайданаў пракладваў гэты водны шлях,— завуць рэчку Арыштанткай.

## 643. [АДКУЛЬ РАКА БЯРОЗА]

Рака Бяроза во як началася: процi млына за Докшыцамі расла бяроза, а свіння пад ёй усё рыла, рыла і дарылася да вадзяной жылы. Дык тагды і чухнула рака, яе пагэтаму і назвалі Бяроза.

## *644. ПРА ПАХОДЖАННЕ РАКІ ВІЛІІ

Пра паходжанне ракі Віліі расказваюць так: на месцы вытокаў гэтай ракі (у лясным урочышчы Сцёп-Камень, што ў Вітуніцкай воласці) калісьці жыла адна сям'я — маці, сын і дачка. Сын быў непаслухмяны, а дачка была разбэшчаная. Калі маці, бывала, папракне яе за нядобрыя паводзіны, дачка заўсёды адказвала:

— Не тваё дзела: па мне людзі ездзілі і ездзіць будуць.

Маці пракляла сваю дачку за такі дзёрзкі адказ, і яна разлілася ракой, якую назвалі Віліяй; а сын за непаслушэнства зрабіўся каменем у выглядзе чалавека. Камень гэты на тым месцы стаіць і зараз з адбітаю ад удара маланкі галавою.

## *645. СЦЯПАН І ВЯЛЬЯНА

### [Паходжанне ракі Віліі]

Было то так даўно, што нашым дзядам і прадзедам іх дзяды і бабкі апавядалі гэту гісторыю, як даўніну даўнюю, даўно бытую.

У святой зямлі ў барысаўскай, каля вёскі Шылян, цягнуцца

абшырныя Шылянскія, або Кравецкія, балоты. З балот тых выцякае з-пад каменя-краўцы рэчка Вілія.

Вот жа, кажа аповесць народная, у вёсцы Шылянах жыў калісь кравец Сцяпан. Слаўны то быў на ўсю Барысаўшчыну здольнік. Шыў ён панам вяльможным бармы і саеты, сяльцам маламожным— світкі і жупаны, а князям харобрым дарагія шаты з грызетаў шмальцаваных, павалок грэцкіх і аксамітаў венецкіх.

Багата жыў Сцяпан-кравец і пашану меў у людзей, а невясёлы быў: туга душыла сэрца маладое, што хоць і багаты Сцяпан, і малады, і прыгожы сабою, а няма ў яго жонкі-красы. Устане хмарны Сцяпан, хмарны за работу бярэцца і хмарны спаць ляжа. І не таму хмарны хадзіў Сцяпан, што не было дзяўчат маладых, гожых, ахвочых за яго замуж выйсці, а таму, што адзіная люблёная, дрыжоная дзяўчынка-краса ад яго ўцякае, а сустракаючыся, вочкі сівыя ў зямлю патупляе.

Мовіць, бывала, Сцяпан да яе слова ласкавае, а яна загарыцца, як макаў цвет на зары, ды маўчыць. І як жа тут малойцу добраму не тужыць, не хмарыцца, калі сэрца гарыць, як нарог у горне дабела накалены, і стучыць у грудзях, як молат па кавальні, а палёгкі яму няма ніякае.

Хмарыцца Сцяпан, бо праўды не ведае. Не ведае таго, што любка яго, у буйных думах калыханая, гэтак сама, як і ён да яе, к яму ўсім сэрцам хінецца, як хмялінка да тычынкі цягнецца, ды толькі сарамлівасць дзявочая няволіць нябогу на Сцяпана ўзірацца, уздыхаці па ім у ночкі майскія, цёпла-парлівыя, паглядаючы з-пад бярозкі касістае на месячык бледны.

Ох, і гожа ж была Сцяпанава нябога Ульяна, каторую за рост высокі, стан перагібісты да краснае лічыка людзі Вяльянай празвалі.

Доўга цярпеў сваю муку Сцяпан, але далей цярпець судзержу не стала і не стрываў гаротны. Раз апоўначы выйшаў Сцяпан у поле чыстае, стаў на крыжовых дарогах і прызваў к сабе сілу цёмную... За прыхільнасць дзявочую пабажыўся Сцяпан душу хрышчоную аддаць нячыстаму.

Скалыхнуўся лес ветрам-бураю, з чатырох дарог падымаўся пясок стаўбом-лейкаю, і з туману таго скочыў бес к яму казлом смярадным ды, скрывіўшы хару смехам гідлівым, прадудзеў-прабляяў:

— Што зняволіла цябе, красны малойча, мяне клікаці? І чаму стаіш на ростані ў поўнач цёмную? За падарак-мяну, за душу хрышчоную, як сам ведаеш, я змагу зрабіць усё ўсякае!..

Лекаціць у грудзях у Сцяпанавых сэрца буйное, ды не з спалаху прад нячысцікам, а з нячыстых дум, з паганай радасці: ад чорта нячыстага за душу сваю задумаў зажадаць Сцяпан чэсць дзявочую...

Падскочыў чорт, паморшчыўся, адступіўся ўбок, за вухам паскроб і такі адказ прапішчэў кнурам:

— Трудзен доступ наш к чыстым дзеўніцам, а яшчэ трудней нам узяць ад іх чэсць дзявочую. За такі загад тваёй малайцоўскай душы будзе памала. Хіба ты на ўцеху нам сам паважышся зняць з грудзей рэч свянцоную: крыж святы, што табе бацька-кум надзеў пры хрысцільніцы ды, палажыўшы яго на жарнавы круг, пабіваці будзеш каменем.

Пабялеў Сцяпан, як палотнішча кужэльнае, трэцюю вясну ў лузе беленае: усё ж радасць чарцям ён прырок учыніць, абы толькі атрымаць узамен чэсць дзявочую.

Вот ідзе Сцяпан у бок дарожанькі, дзе ляжыць жарнавішча, знімае з грудзей крыж святы і, палажыўшы яго на камені, памыкаецца біці каменем.

Занямела ўсё ў чыстым по́лейку з пераляку-гразы. Панырнуў у хмары месячык бледны, заіскрыўшыся, патухлі ўсе зоранькі, аж прысеў да зямлі бор нахмараны, аж зямля здрыганулася, здрыгануўшыся, увагнулася.

Толькі ўзняў Сцяпан у гару руку з каменем, і ўміг той сам стаўся каменем. А з нябёс грамавой стралой з громам-грукатам распластаў чорта неабачлівага, толькі серкі чад удушлівы закурэў з яго і паплыў па ваколіцы.

Калі настаў дзень, доўга шукалі людзі Сцяпана ў будынках, у полі і ў лесе, выйшаўшы ў поле, здзівіліся, убачыўшы на месцы роўнага поля абшырную лагчыну. Ідучы лагчынай, знайшлі каля крыжовых дарог скамянелага Сцяпана; тады людзі ўсё спанатрылі.

Як учула Вяльяна, што Сцяпан абярнуўся ў камень, у непрытомнасці пабегла ў поле і, абняўшы рукамі камень, прыпала да яго і залілася горкімі, безудзержнымі слязамі.

Плакала яна дзень, плакала ноч, а з усходам сонейка, чуць было золак на ўсходзе займаўся, са слёз яе з-пад каменя прабілася крыніца, Вяльяна богу душу аддала.

Вяльяну хораша пахавалі, ухаўтурылі і на яе магілцы пабудавалі цэркаўку. І цяпер на Вяльянавай магілцы ў Шылянах стаіць царква.

А крыніца з-пад каменя разлілася па ваколіцы, затапіла ўвесь абшар, дзе ўвагнуўшыся была зямля, ператварыла тую нізіну ў непраходнае балота, каторае завуць Шылянскім, або Кравецкім, і паплыла ў свет рэчка празрыстай, харошай, як і сама Вяльяна калісь была. Рэчку гэту адразу, ў памяць Вяльяны Вельяй назвалі і гэтак завуць яе дагэтуль, толькі чужынцы, не ведаючы гэтай гісторыі, перайначылі крыху яе праўдзівае імя, завучы Віліяй.

## *646. [ПРА РАКУ ВУЖЫЦУ]

Расказваюць, што нібыта сяло, што знаходзілася каля гэтай рэчкі, акружала агромністая змяя Вужыца, якая штодзень з'ядала па аднаму чалавеку з гэтага сяла, і ніхто не мог вызваліць яго ад гэтага чудзішча. Нарэшце прыехаў сюды данскі казак Грышка і адсек яму галаву. Раптам галава гэта пагналася за ім. Ён ускочыў на каня і пачаў уцякаць ад яе, але яна гналася за ім да самой Дзвіны. Грышка кінуўся ў Дзвіну, спадзеючыся пераплыць яе, і тут жа патануў, а з ім разам і галава таго страшыдла. А тое месца, дзе стаяла сяло, зараз жа праваліласл. Кажуць, што ў дзень Івана Купалы, калі прылажыцца да зямлі, дык чуваць пад зямлёю звон і спяванне ў царкве.

З таго часу сяляне ў тым месцы, дзе стаяла сяло, што правалілася, неахвотна селяцца, а калі вы запытаецеся каго, колькі тут душ ці хат, вам абавязкова адкажуць:

— А што тут ёсць? Сем хат з хлявамі, і сем душ з свіннямі.

## 647. АБ СОЖУ І НЯПРЭ

Жылі яны сабе ўтраіх: два сыны і бацька. Бацьку забыўся, чым завуць [Дзвіна?], большы жа брат быў Сож, а меншы Неп. І бацька сказаў на Сожа:

— Прыходзі заўтра, сынок, я цябе багаслаўлю іці ў пуць.

А гэты Неп ды пачуў гэта. Дык ён узяў ды назаўтрага ўстаў, ды касматую надзеў рукавічыну, дый пайшоў к бацьку. А ў Сожа ды была рука касматая. Ну, бацька быў невідзяшчы, дык ён узяў рукавічыну надзеў ды руку падаў бацьку:

— Ну,— каець,— багаславі мяне, тат: пайду ў пуць.

Дык бацька яго багаславіў, каець:

— Ідзі, сынок, па харошых мястах,— лугамі, гарадамі.

А Сожа ў двары не было. Назаўтрага прыходзіць Сож да кажаць:

— Багаславі мяне, тата.

А ён каець:

— Я ж цябе ўчора багаславіў.

А ён каець:

— Не, гэта не мяне; гэта, мусіць, ты Няпра́ багаславіў.

Ну, дык ён яго багаславіў:

— Ідзі ж ты імхамі, балатамі, дык, можа, пераймеш яго, каб ён ў мора не ўцёк. Як пярэймеш,— табе яго багаславенства.

Ён тады пайшоў імхамі, балотамі, каб дагнаць Няпра і пераняць. Ажны ён ужо ў мора ўцёк.

Тады уцёк гэта ён у мора, Неп, і не хацеў гэтаму мору служыць, хацеў ніжа прайці ў другое мора, куды там. А крук ляцеў цераз мора. Ён гаворыць круку:

— Крук, крук! Буду выкідаць усё з мора, што ўтопіцца ў Няпрэ, ці дзе далі, я ўсё буду выкідаць табе, толькі ты пільнуй, каб мне ў мора не выскачыць, каб падыйспадам перайсці ў другое. А як толькі я перайду мора, ты крыкні: тады я пайду сваёй дарогай!

Крук каець:

— Добра.

І паляцеў за Няпром па мору. А коршун адкуль узляцеў, ды як начаў драць крука, дык крук гэты і закрычаў. А Неп думаў, што ён перайшоў ужо мора. Дык ён і выскачыў. Ажны пасярод мора.

Дык вот Неп і пайшоў лугамі ды гарадамі, а Сож імхамі ды балотамі.

## *648. СОЖ І ДНЯПРО

Сярод глухіх пушч, цёмных бароў, на прыгорку, стаялі калісь старыя-прастарыя харомы вялікага валадара, сівавалосага старца Рыдана. З канца ў канец зямлі слыў Рыдан багацеем нялічаным, а над усё багацце славілася скрытая за дванаццаццю дзвярамі, дванаццаццю замкамі залатая рыданава карона. Як адмыкалі замкі, адчынялі дзверы і выносілі тую карону на свет, то, калі на свеце была ноч, яна днём станавілася, а калі была зіма, то перамянялася ў лета,— так зіхацелі дарагія каменні на рыданавай залатой кароне.

Завідавалі суседнія валадары і князі гэтай кароне і пастанавілі дабыць яе ў Рыдана. Зазвалі варажбітоў і знахароў і загадалі ім прыдумаць спосаб, каб украсці карону з рыданавага скарбца. Варажбіты і знахары думалі тры дні і тры ночы і прыдумалі разрыўтраву, каторай калі дакрануцца замкоў, то самі адчыняцца, ды сонтравы, зярняткамі яе калі пасыпаць, то ўсё наўкруг засынае. Прыдумаўшы гэта, паслалі злодзеяў красці залатую рыданаву карону. Тыя, прыйшоўшы пад харомы, сыпнулі сон-зелля, і ўся варта паснула; крануліся разрыў-травой замкоў, і замкі паспадалі. Тады ўзялі яна залатую рыданаву карону і пусціліся назад.

Устаў раніцай сівы Рыдан, падышоў да вакна, ажно глядзь: уся варта покатам спіць, увесь народ у сне беспрабудным валяецца. І зразумеў старац адразу, што няма ў скарбцы яго залатой кароны. Падышоў ён тады да звона, ударыў раз, ударыў два, і разбудзіліся два рыданавы сыны: Сож і Дняпро.

Звярнуўся бацька да Дняпра і кажа:

— Вазьмі, сынок, сталёвую зброю, каваны меч і бяжы садамі, лугамі аж да скалістых гор: дагоніш цікунцоў з каронай.

Схапіўся Дняпро і чым хутчэй пабег, а Сож застаўся пры бацьку.
Сеў на залаты пасад стары Рыдан і кажа сыну:
— Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай, ці бяжыць Дняпро?
Прылажыў Сож вуха да зямлі і кажа:
— Бегма бяжыць і не стаміўся яшчэ.
І другі раз кажа бацька:
— Прылажы, сынку, вуха да зямлі, паслухай.
Прылажыў сын вуха да зямлі і кажа:
— Бяжыць, але ўжо цяжка дыхае — шум зямлёй ідзе.
І ў трэці раз сказаў бацька паслухаць сыну. Сын прылажыў вуха да зямлі і кажа:
— Гул зямлёй ідзе і крык вялікі.
Тады ўстаў Рыдан з пасада і кажа:
— Бяжы ж ты, сынку, імхамі, балата́мі на падмогу яму, бо сам, адзін не праб'ецца ён праз скалістыя горы.
Пусціўся Сож імхамі, балатамі на падмогу брату, а стары бацька застаўся ждаць сыноў.
Доўга ждаў стары, не дaждаўся, з маркоты вялікай пачаў плакаць:
— Бадай нам, дзеткі мае, слязамі разліцца.
Ды ўлучыў ён на такі момант, што такі сапраўды разліліся слязамі браты і стары бацька: у рэкі ўсе тры змяніліся.
Дняпро плыве садамі ды лугамі, Сож — імхамі ды балатамі, а Рыдан — куды вочы глядзяць.

## 649. АД ЧАГО ДНЕПР ЗВІЛІСТЫ

Во тут, блізка каля Воршы, пад гэты бок, пад Шклова, вёрст дзесяць вадою едучы, ёсць лука процi дзярэўні Гарбачэвічы. Дык тут купаўся, даўно некалі, у Няпру малец, сын ведзьмы-чарадзейніцы. Купаўся дый утапіўся. Ну, дык яна хацела, каб яго ўніштожыць, Няпра́, каб ён не йшоў нікуды. Ну, дык яна ўзяла, так здзелала, што заняла яму дарогу; чарадзействам так здзелала, што ён стаў. Ну, дык ён узяў ды звярнуў ёй дый пайшоў сваёй дарогай па гарадах.
А за Магілёвам, процi Слюдзікаў, дзярэўня ёсць, тожа ведзьмін сын утапіўся. Дык яна яго пераняла. А ён звярнуўся ды пайшоў у другей бок.
Во зачым ён такей крывэй.

## 650. ЯК НАРАДЗІЛІСЯ НЁМАН І ЛОША

Пра Нёман расказваюць так. Даўно гэта было. Каля дзярэўні За́балацце, што на нашай Уздзеншчыне, з-пад вярбы выбілася крынічка. Вада ў ёй была халодная, як лёд, а чыстая, як раса. Вада тая ўсё прыбывала, большала, аж пакуль не пабегла па двух ручаінах. Так вось нарадзіліся рэкі Нёман і Лоша.

Нёман быў шчыры і крэпкі хлапец, а Лоша ціхая, лянівая і хітраватая дзеўка. Яшчэ больш падужэўшы, Нёман аднойчы сказаў Лошы:

— Раздолля трэба мне, волі захацелася. Буду як мага прабівацца да мора.

Нічога не сказала на гэта Лоша, толькі сама сабе надумалася навыперадкі бегчы з Нёманам і першай выскачыць к мору.

Назаўтра, яшчэ не развіднела, яна ціхенька ўстала і бегма пабегла па нізінах ды па далінах да мора.

Прачнуўся Нёман, угледзеў, што Лошы няма, ну й кінуўся наўздагон, не разбіраючы дарогі, напрасткі.

З таго часу ён так і ляціць, пасляшае да мора, магутны і шырокі, а Лоша плыве ціха, хаваючыся ды туляючыся па кустах і нізінах.

## *651. НЁМАН І ЛОША

Даўно-даўно, тысячы гадоў назад з-пад вялізнага каменя, дзе б'е крынічка, нарадзіўся славуты багатыр. Яго назвалі Нёманам. Жыў сярод лясоў дрымучых, лугоў шырокіх. Прыгожы, працавіты. Прыродзе і людзям і ўсяму жывому дабром плаціў. Па суседству жыла Лоша. Лянівая, ляжала ў цяньку, сабою любавалася. Нікому ад яе не было ніколі ні радасці, ні карысці. Лоша часта заглядала да свайго суседа. За маўклівасць называла яго Неманцом.

Цяпер ніхто не ведае: зашто Нёману прыглянулася такая красуня. Адно вядома, было вяселле. Гуляла на ім уся радня жаніха: і Сула, і Уса, і Уздзянка, і Шчара... Каго толькі тут не было! Пілі, балявалі, маладым шчасця ды добрай долі жадалі. Скончылася вяселле, пачаліся будні.

Зноў Нёман не ведаў ні дня, ні ночы. Паіў, карміў, туліў усіх, хто да яго гарнуўся: і чалавека, і звера, і птаха, і рыбу, і жыўнасць усякую. Цешыў сваёй люстэркай вод прыбярэжныя лясы, палеткі, лугі. На сваіх магутных грудзях насіў чоўны, ганяў плыты.

Не раз запрашаў на шырокі прастор і сваю красуню ненаглядную. Толькі тая заставалася абыякавай да ўсяго, халоднай па-ранейшаму, не хацела дзяліць са сваім багатыром яго нягоды і радасці.

Не па душы было такое жыццё Нёману. Аднойчы цёмнай ноччу кінуўся ўпрочкі. Стараўся замесці след: дзе пад поплавам прабя-

жыць, дзе для перадыху вынырне плёсам, тоней, азярцом, а затым зноў схаваецца. І толькі там, дзе цяпер Забалоцце стаіць, багатыр у адкрытую пайшоў да мора.

Прачнулася Лоша, а Нёмана няма. Пачала даганяць уцекача, ды не ў той бок кінулася. Па далінах ды нізінах бегла. Ажно сіл не ставала, дый не ведала, куды далей падацца. Гукала-клікала на дапамогу, але ніхто не прыйшоў: ні Пціч, ні Бярэзіна, ні Свіслач... Толькі Выня паспачувала гору сваёй сяброўкі. Выбеглі яны ўдзвюх да груда пясчанага, дзе сягоння Пясочнае, і ўбачылі: Нёман праз долы і лясы дарогу сабе пракладае. Хвалямі горкіх слёз кінулася Лоша ў абдымкі да свайго багатыра: адчула, жыць па-ранейшаму ды яшчэ адной заставацца — нявapта, зачахнуць можна. Пачала дапамагаць Нёману. З цягам часу і людзі не абмінулі яе стараною: паблізу пачалі будавацца. Так нарадзіліся вёскі Лоша, Мрочкі, Пеpавоз, Сасноўка, Рачыца, Пад'ельнікі, Пясочнае.

Нёман ніколі не забывае родныя мясціны. Кожную вясну, кожную восень дажджлівую вяртаецца да маці сваёй — крынічкі, якая цячэ з-пад вялізнага каменя, вяртаецца сюды, каб сустрэцца са сваёй Лошай, са сваёй маладосцю...

## 652. ПАНЕНЧЫНА БУХТА

На Беларусі працякае рака Вуша. Каля яе ёсць вялікі луг, які раней належаў нейкаму пану. Гэты пан меў восем вёсак. Сяляне гэтых вёсак працавалі на пана. Летам мужчыны, хлопцы касілі сена, збіралі ўраджай, апрацоўвалі глебу. Гэты памешчык меў тры дачкі, дзве з іх былі прыгожымі дзяўчынамі. Яны павыходзілі замуж і жылі так, як і іх бацькі. Трэцяя ж дачка была непрыгожай. Яна вельмі ненавідзела харошых жанчын і мужчын. У час касьбы маладыя хлапцы і мужчыны надзявалі сваё лепшае адзенне і ішлі касіць. Сярод касцоў быў адзін прыгожы, стройны юнак, якога паненка не любіла. У час касьбы яна пад'язджала да гэтага маладога хлапца, які зваўся Антосем, і збівала яго мянташкай за непрывітанне з ёю.

На наступны год яна прыязджала і карала яго за тое, чаму не сустракаюць яе з песнямі. Вяскоўцы смяяліся з Антося, што прыйдзе касавіца і зноў будзе цябе мянціць паненка.

На трэці год у касавіцу прыехала паненка, касцы сустрэлі яе прывітаннем і песнямі. Паненка разгневалася за тое, чаму яны ў такі гарачы час не працуюць, і зноў хацела пакараць мянташкай прыгожага Антося. Але ў яго не хапіла цярпення. Ён перахрысціўся, схапіў паненку, павалок у рэчку і ўтапіўся разам з ёю.

Пакуль дасталі іх з вады, то і паненка, і Антось былі мёртвыя. І па сённяшні дзень гэтае месца, дзе ўтапілася паненка з маладым Антосем, называецца Паненчынай бухтай.

## 653. [ЗАКЛЯТАЯ РАКА]

У чатырох вярстах ад... вёскі Горск, на ўсход, знаходзіцца доўгі і глыбокі роў, вядомы пад назвай Перароў. Раней гэта была рака і па ёй плавалі чоўны і ганялі лес. Раз каралевіч, перапраўляючыся са сваёй маткай каралевай цераз раку, упаў у ваду і патануў. Маці кінула ў раку шчотку, ад чаго вада хутка спала; на дне ракі ляжаў мёртвы каралевіч. Ажывіць сына не ўдалося, і няшчасная каралева пракляла раку, якая з таго часу поўніцца вадой толькі вясной.

## *654. [ЗАКЛЯТАЯ РАКА]

У паўвярсты ад сяла Арэнічы знаходзяцца вялікія рвы, якія калісьці былі ложам аграмаднай ракі. Раз перапраўлялася цераз раку ведзьма і ненарокам укінула ў яе ўкрадзенае дзіця; яно тут жа й патанула. Ведзьма пракляла раку, і вада пайшла ў зямлю. На тым месцы, дзе ўхадзіла вада, вырас асобенны куст: ён затыкае тую адтуліну, праз якую прайшла вада. Калі б знайшоўся лоўкі і дужы чалавек і вырваў гэты куст за адзін раз, дык прапаўшая рака зноў з'явілася б на сваім месцы.

## 655. АД ЧАГО ВЫСАХЛА РЭЧКА

На канцы вёскі Дзеракі, каля самага лесу, стаяла старая маленькая хатка з адным акенцам ад ляснога боку. Каля гэтай хаткі працякала невялікая і немалая рэчка. Выцякала яна ■ Лаўцова балотца. Шмат было ў ёй рыбы ўсялякай. Купаліся ў ёй дзеці цёплаю парою.

А ў той хаце, што стаяла на беразе рэчкі з адным акенцам, жыла жанчына-чарадзейка, год пад сорак, жыла адна са сваім сынам. А сын яе быў добры плавец: плаваў ён на дзіва, проста па вадзе каціўся, не было роўнага плаўца яму ва ўсёй аколіцы.

У адзін летні дзень, калі на небе з'явілася чорная хмара і грымеў гром, захацелася Мар'яну пакупацца і паказаць свой спрыт сябрам. Доўга ён плаваў, пакуль не папаў у вір. Раптам ён знік. Так і не дачакаліся, каб ён выплыў.

Даведаўшыся аб смерці сына, маці пракляла гэту рэчку. З таго часу рэчка пачала мялець, а праз два ці тры гады і зусім высахла. Кожную вясну яна зноў ажывае ад талага снегу; летам можна ўбачыць астаткі русла, а ў забалочаным месцы — стаячую ваду.

Дзе была некалі рэчка, расце цяпер высокая трава, і называецца тое месца Мар'яніным лугам.

## *656. [ЗАКЛЯТАЯ РАКА ЛЯ КАПЫЛЯ]

Старыя людзі расказваюць, быццам даўным-даўно шырокую даліну між капыльскіх гор запаўнялі воды вялікай рэчкі. І жыў тут прыгожы хлапец Янка. Удзень ён лавіў рыбу, займаўся паляваннем, а як толькі на зямлю спускаліся прыцемкі, плыў на тайнае спатканне з паненкаю з капыльскага замка. Аднойчы ў навальніцу хвалі накрылі човен закаханага.

Яго маці-чараўніца жорстка пакарала раку за гібель любімага сына. Воды з усёй даліны імгненна сплылі ў адну крынічку, а каб не расплыліся зноў, жанчына прыкрыла іх зверху чыгуннай юшкай. Так і цякла тая крынічка пасярод зялёнага поплава. Ніхто не вымяраў яе глыбіні, толькі казалі, што калі кінуць каменьчык і прыслухацца, то праз хвіліну аднекуль з глыбіні можна пачуць прыглушаны гук. Гэта значыць, камень трапляў у чыгунную юшку. Цяпер тая крынічка недзе пад пяцімятровай тоўшчай вады.

## 657. [АД ЧАГО ВЫСАХЛА РЭЧКА КАЛЯ ВЁСКІ ПОКРАШАВА]

Было гэта даўно. У нашай вёсцы Покрашава працякала рэчка. І жыла тады ў вёсцы ведзьма са сваёй дачкою. Аднаго разу дачка гэтай ведзьмы купалася і ўтапілася. За гэта ведзьма раззлавалася, узяла вялікі камень і залажыла тое месца, дзе гэтая рэчка бярэ пачатак. З цягам часу гэта рэчка высахла і ўтварыўся вялікі камілог. Вось якая легенда ходзіць пра нашу вёску. А камілог і цяпер існуе ў нас.

## *658. [ПРА ЗАКЛЯТЫ РУЧАЙ]

Невялікі ручай, які бярэ свой пачатак на заходняй ускраіне мястэчка Поразава, некалькі сот гадоў таму назад меў намнога больш вады, і на ім стаяў млын... Але высах. Расказвалі, што ў адзін з гарачых летніх дзён цераз прыток Росі праязджалі цыганы і спыніліся ў ім пакупацца. А тут адзін хлопчык-цыганяня ўтапіўся. Дык яго маці ўзяла клок авечай шэрсці, кінула туды, адкуль ручай браў сваю ваду, і загадала, каб болей не цёк. Ад гэтага ручай і высах.

## *659. [ЗАЧАРАВАНАЯ РЭЧКА]

Каля маёнтка [у в. Кленікі] ёсць кавалак сенажаці, а пасярод яе — крыніца. Пра яе расказваюць: калісьці з гэтай крыніцы выцякала рэчка і ў ёй утапіўся сын нейкай чараўніцы. Разгневаўшыся, яна зачаравала раку, і тое месца, з якога выцякала вада, заваліла каменем, і з таго часу прапала рака.

У 1870 годзе быў у сяле Кленіках калодзезякоп з Арлоўскай губерніі і казаў сялянам, каб яны яму далі трыста рублёў серабром і рабочых, дык ён адваліць камень, што заваліў крыніцу, і рака ізноў пацячэ, як цякла раней. Але ў ёй ізноў патоне адзін або некалькі мясцовых людзей, таму сяляне, баючыся смерці, не згадзіліся з калодзезякопам.

## 660. ЧАМУ ВЫСЫХАЕ РАКА ЦАТА

Казалі людзі, што гэта была бальшая рака, што па ёй плавалі плыты. На берагу, у чаротах, была хатка і жыла там удава, бальшая ведзьма, і былі ў яе сын і доч-русалка, вельмі прыгожая. Сына яна любіла, а доч — не, ад таго, што і доч столькі ведала, скολькі яна.

Раз маткі не было дома. От доч і кажа:

— Хадзем, браток, купацца.

Брат пайшоў купацца, да і ўтапіўся.

Вярнулася ўдава, і штоб аджывіць сына, узяла ачароціну і юшку: ачароціну налажыла, а юшкай накрыла. Ад тых пор вада ўнялася. А русалка ўхóіла брата да ўцякла ў Днепр.

## 661. ЦЫГАНІХА

Ёсць тут такое месца Стаў — называецца Цыганіха. Ваабшчэ цыганы іздрэўне так і таўкліся тут. І ўтапілася цыганё — гэта на прэдках, ацец мой, дзед расказваў — утапілася цыганё. Яна, маці, хадзіла па дзярэўні, шукала шчотку, як некалі лён часалі. І дастала шчотку, бросіла ў гэты самы Стаў — і Стаў высах. І па сей дзень вада ідзець, а як туда даходзіць — усё, прападае. І от у нас ручаёк, во, ідзе і як толькі дойдзе туда — і прапала, у зямлю куда-та пойдзе. Хацелі сейчас запрудзіць, рыбу разводзіць, так я ім сказаў:

— Нічога не паможа, нічога. Вот, кажу, убядзіцесь, дайшла і прапала вада.

## 662. ЧАМУ У НАС НЯМА РЭЧКІ

Па-старадаўняму гаворáць, што некалі былі лясы страшныя. У нас тут была рэчка на поплаве. У аднае бабы ўтапілася дзіця. Гэта баба была валшэбніца. Яна закрыла скаварадою рэчку, і ў нас няма рэчкі. А ў нас была рэчка. Крапіўка называлася.

## *663. АЛЬХОЎСКАЕ ВОЗЕРА

У пяці вярстах ад вёскі Пацэвічы знаходзіцца Альхоўскае возера. Вельмі даўно на гэтым месцы была вёска. Аднойчы пад выглядам старца прыйшоў у вёску сам бог і пачаў прасіцца начаваць. Але ніхто з беззаконных жыхароў не зжаліўся над жабраком і не пусціў яго ў сваю хату. Выйшаўшы за вёску, жабрак пракляў усіх яе жыхароў, толькі аднаго старога, што спаў, не пракляў. Як толькі той прачнуўся і выйшаў за ваколіцу, зямля з хатамі стала асядаць, і ў той жа час ад вялікага дажджу гэта месца пачало напаўняцца вадою.

Калі праведны стары азірнуўся на вёску, дык убачыў возера, а пасярэдзіне яго, якраз там, дзе стаяла яго хата, плаваў стол з раскрытаю на ім кнігаю, якую чытаў ён перад сном і закрыць не паспеў. Праз сто год затопленая вёска ізноў пабачыла свет божы, і вось як гэта было: пастух убачыў крыж на беразе возера і хацеў падняць яго, але крыж аказаўся на ланцугу. Пастух пацягнуў ланцуг — і на паверхню возера ўсплыла вёска. Радасныя жыхары ўзнялі вясёлы крык. Пастух так спужаўся, што выпусціў ланцуг з рук і на яго вачах вёска ізноў пайшла ў ваду яшчэ на сто год.

## 664. ВОЗЕРА БЯЗДОНКА

Паміж вёскамі Ісаевічы і Дзераўной ёсць прыгожае лясное возера Бяздонка. Ні адзін ручэй не ўпадае ў гэтае возера і не выцякае з яго. Зімою возера не замярзае. Знаходзіцца яно паміж невысокіх гор. Пра гэтае возера расказваюць так. Даўно-даўно жыў у Ісаевічах пан. Было ў яго многа нявольніц — прыгожых дзяўчат з усяго свету. Жылося ім вельмі цяжка. Пан і яго падпанкі збыткавалі з дзяўчат. Адзін раз пан узлаваўся на дзявок, схапіў трохлетняга хлопчыка і кінуў у возера, нікога не дапусціў да возера, пакуль хлопчык не захлынуўся чорнаю вадою. Маці доўга шукала сына, каб пахаваць. Але возера было такое глыбокае, што дна ніхто не мог дастаць. Возера страшна бушавала, вада была чорная, як сажа. Не вытрымала маці свайго вялікага гора і ўтапілася. Вада ў возеры з той пары стала чыстая і падобна да слёз мацеры.

## 665. [ЯК УТВАРЫЛАСЯ БЯЗДОННАЕ ВОЗЕРА]

Ішла баба па сяле з маленькім дзіцем на руках. Сустрэлася яна са старым дзедам. Той дзед сказаў ёй, што калі будзеш ісці, то каб ні аднаго разу не аглянулася. Ідзе яна, выйшла на шырокую дарогу і чуе, што ўзадзі нешта крычыць, пішчыць, енчыць. Яна не магла

вытрымаць, каб не аглянуцца. Аглянулася і зрабілася каменнай з дзіцем на руках, а там, дзе крычалі людзі, патанула цэлая вёска. Так і ўтварылася Бяздоннае возера.

Аднойчы адзін пастух пасвіў каля таго возера кароў. Ён угледзеў, што па возеры плавае нейкі клубок. Пастух узяў дубец і падцягнуў клубок бліжэй да берага, і пачаў матаць той клубок. А пасярэдзіне затануўшага сяла стаяла царква. Чым больш ён матаў клубок, тым больш паказваліся вежы царквы. Пастух убачыў і спалохаўся. Ён кінуў клубок назад у возера. Як толькі ён кінуў клубок, адразу пачуў голас:

— От дурак, не хацеў нас спасці.

І калі вечарам, як сонца заходзіць, або нараначкі, калі ўзыходзіць, стаць на беразе, то відна, якая была калісьці царква сярод сяла.

## *666. [ВОЗЕРА БЯЗДОННАЕ]

Недалёка ад вёскі Клепачы ёсць возера, пра якое ў народзе гавораць, што нібыта на месцы гэтага возера было паселішча з царквою, і яно правалілася. Адтаго возера і называецца Бяздоннае.

## 667. ВЯЛІЧКАЎСКАЕ ВОЗЕРА

Даўным-даўно ля дарогі (цяпер шаша Ліда—Навагрудак) стаяла вялікая вёска Вялічка. Людзі жылі ў ёй багата. Толькі на канцы вёскі ад дарогі жыла бедная ўдава з маленькімі дзецьмі.

Аднойчы ў вёску прыйшоў жабрак, стары сівы дзядок. Ён абхадзіў усе двары, але яму ніхто нават і скарынкі ў торбу не кінуў. Зайшоў дзед і да ўдавы. Ужо вечарэла, і дзядок папрасіўся нанач. Жанчына ласкава запрасіла старога сесці і дала павячэраць міску нішчымнай заціркі. На гэтую зацірку яна заварыла апошнюю жменю жытняй мукі. Жабрак застаўся начаваць.

Назаўтра жанчына ўстала і здзівілася: у хаце і ў каморы было многа хлеба і ўсяго другога. А дзед ёй сказаў:

— Выйдзі, кабета, з хаты з дзецьмі і ідзі не аглядаючыся, хоць што-небудзь і пачуеш. Як аглянешся, то на месцы тваёй хаты вырасце груша.

Жанчына так і зрабіла. Толькі яна адышла за вёску, як пачула ззаду трэск, шум і енк людзей. Усё крышылася і ламалася. Вёска прапала, а на яе месцы ўтварылася возера, а замест хаты ўдавы на беразе возера стаяла груша. Жанчына павярнулася, хацела пайсці паглядзець, што здарылася, але тут жа ператварылася ў камень.

На другі дзень людзі з суседніх вёсак бачылі, як з возера вы-

плывалі аконныя рамы, дзверы і іншая хатняя дробязь. Людзі пачалі збіваць жэрдкі, каб памераць дно, то з вады чалавечы голас сказаў:

— Не мерай тычыною, бо памераеш галавою.

Усё ж такі самыя цікаўныя ўзялі доўгую вяроўку, прывязалі камень і апусцілі на дно. Дна не дасталі, а з вады пачуўся ізноў голас:

— Не мерай вяроўкаю, бо памераеш галоўкаю.

Адзін чалавек пры гэтым утапіўся, і яго як ні шукалі, не маглі знайсці, хоць возера было невялікае.

Цяпер на беразе Вялічкаўскага возера расце старая груша і ляжыць вялікі камень з адпячаткам быццам бы рукі жанчыны.

## 668. АБ УЗНІКНЕННІ ГАЛОТАЎСКАГА ВОЗЕРА

Гэта было дужа даўно. Мне мая бабка расказвала. Раньша на гэтым месцы была бальшая дзярэўня. Людзі жылі ў ёй не ўсе адзінакава: адны багача, другія бядней. На канцы дзярэўні жыла сірата, адна ў хаці, дажа і радні ў ёй ніякай не было, бедна жыла гэта дзевачка. Ніхто з жыцелей не пускаў к сабе нанач людзей, толькі яна адна. Тады, кажуць, ураджаі не такія радзілі, як цяпер. Цяпер адзін колас, [redacted] тады ад самага нізу да верху, ураджаі сабіралі бальшыя.

Адзін раз у тую дзярэўню прыйшоў старык сівенькі, сівенькі, на кіёчку трасецца, прайшоў усю дзярэўню і ніхто не пусціў нанач, толькі гэта сіротка. Тады гэты старычок пайшоў у поле, вырваў жытні сцебель, а яго падняць аднаму нельга, такі цяжкі ад каласоў, і давай шморгаць за кажды колас. Людзі ўсе перапужаліся, што гэта дзелаець стары, [redacted] ён тым часам за паследні ўзяўся. Усе давай плакаць, прасіць, нічога не памагаець. Тады кот з сабакам сталі прасіць, каб паследні колас не сарваў, толькі тады ён пакінуў. Гавораць, што гэта быў бог. Мы жывём на хлебе, што бог аставіў кату і сабаку.

Доўга стары гэты не прыхадзіў у дзярэўню, людзі рассердзіліся, што ўраджаяў больш такіх не было, бядней сталі жыць. Адзін раз ізноў ён прыйшоў паінцерасавацца, як жывецца людзям пасля яго. Зноў ніхто яго не пусціў нанач, ён пайшоў к той сірацы. Яна яму дала паесці, што ў яе было, ну, хлеба кусок, вады, солі. Назаўтра гэты самы стары гаворыць ёй:

— Пайдзем з гэтай дзярэўні, тут людзі дрэнныя.

Дзевачка абулася ў свае лапці, сабрала лахоткі ў вузел і пайшла з ім. А гэты старык прыказаў ёй не аглядацца назад.

Толькі выйшлі яны за дзярэўню, аж чуець яна крык, сабакі брэшуць, каровы равуць, авечкі бляюць, людзі крычаць. Ніяк яна не

выцерпела, хацелася ёй дужа глянуць назад, а як гэта здзелаць? Яна тады сагнулася, каб пераабуць лапаць, і глянула назад. Глянула і так асталася стаяць, камнем стала. Ты ж відзела, на берагу возера стаіць камень, гэта дзевачка, прыгнуўшысь над лапцем.

## 669. ПРА ВОЗЕРА Ў ДАМАШКАВІЧАХ

А возера, што ў Дамашкавічах, там жаднай ракі не ўходзе і не выходзе, а гэтакае ж глыбокае, таксама, кажуць, стала. Перш было поле; на ём усё грэчку сеялі. Раз гэта скасілі грэчку, пусцілі свінней пасціць, дык парсюк у водным месці, шукаючы, муся, земляных арэхаў, рыў, рыў і дарыўся да зямельных цмокаў, ну, і чабахнула адтуляка вада, свінней усіх патапілі зразу, а пастушкі ўцяклі дамоў. У возеры тым і рыбы ўсякай годзе. Раз граф Слізінь адной шчуцы прычапіў бляшку пад жабры і напісаў літары: «Калі хто і дзе яго злове, каб азнаймілі яму». Ну дык у стольki год і злавілі тую самую шчуку ў Мядзелі. Яна нійначай як пэўна падземнымі ракáмі туды заплыла.

## 670. [ВОЗЕРА ДЗЯВІЧЧА]

Ля вёскі Парэчча ёсць возера Дзявічча. Назвалі яго так, што там дзевяць дзевак разам ўтапіліся. Ішлі яны на вадохрышча праз возера па лёдзе і разам усе праваліліся.

## 671. ПРА КНЯЗЬ-ВОЗЕРА

Такой князь быў. І ён дзелаў дом. Здзелаў фундамент бальшы. Но яму не ўдалося здзелаць. Крыга як ішла, і гэты дом яго зрэзала. Месца тое і цяпер на возеры. Вось і таму, мусіць, яно і завецца Князь.

## 672. ПРА КНЯЗЬ-ВОЗЕРА

У Чырвоным возеры была цэркаў красівая — манастыр. У Слуцку быў князь — хазяін. Ён ажаніўся на яўрэйцы.

Ён пастанавіў дом у зімняе ўрэмя, а не падзелаў ледаколаў. Як крыга пайшла, так і пайшоў дом з вадою, і астаўся адзін фундамент-замак. І тут назвалі возера Князь.

## *673. [ЧЫРВОНАЕ ВОЗЕРА]

Возера наша Чырвоным завуць за тое, што многа рыбы ў ім, і рыба ўсё больш краснапёрая. А бацька расказваў — яшчэ на яго памяці было гэта,— за валоданне возерам вялікі бой быў між багатырамі, і нават кроў людзі пралівалі. Цераз тую кроў пралітую яно і Чырвоным завецца...

За царыцай Кацярынай, а, можа, і яшчэ раней, жыў у гэтых лясах князь. Усе лясы, рэкі і сенажаці яму аднаму належалі. За вялікія заслугі яму царыца ўсё тое падаравала. Быў князь роду знакамітага, характару цвёрдага, і паўжыцця правёў ён у войску ды на граніцах, чэсць царскую бараніў. Вось выйшаў час яго службы, і атрымаў ён гэты край ва ўладанне. Прыехаў князь, церам пабудаваў і жыве.

Жыве сабе князь у высокім цераме. Але на тую бяду дзяцей у яго многа, ды ўсё дочкі, а сын адзін-адзінюткі і апошні ў родзе, як на руцэ мезінец. А любіў жа ён яго!.. Вядома, багацтва меў ён незлічонае, і пакінуць усё тое дзеўкам без працягу свайго князёўскага кораня было для яго вялікай крыўдай. І было таму князьку маладому з малых год усякае патуранне і балаўство. А старэйшых дачок трымаў бацька ў строгасці і паслушэнстве. Прызначыў быў ім вялікі пасаг кожнай, як тое князёўскім дачкам належала, і ўсё. Больш ні на якую ласку яны не маглі спадзявацца, таму што ўся бацькоўская любоў і ўвесь князёўскі маёнтак быў ад бацькі маладому князю. Пачаў князёк падрастаць і зраўняўся ў краснага малойца, як дубок, роўны, крэпкі, шчочкі ружовыя, валасы русыя, вочы блакітныя. Нораву быў ціхага, паслухмянага і задуменнага. Дружкоўаднагодкаў у яго не было, таму што з мужыкамі знацца яму бацька не дазваляў. Больш любіў у сясцёр у горніцы сядзець ды іх песні дзявочыя слухаць.

Як надышла пара яго жаніць — клапаціўся вельмі стары князь аб працягу роду,— з'явіўся тут нечакана выпадак. Ужо некалькі год, як усяму гэтаму здарыцца, узяў у старога князя ў арэнду карчму — шынок па-нашаму — адзін польскі яўрэй. А стаяла карчма на скрыжаванні трох найгалоўнейшых дарог. Для карчмы тое месца было самае выгоднае, бо ростані тыя выходзілі проста к прыстані, а прыстань — на Прыпяці-рацэ. Па рацэ ў той час караблёў ішло безліч. Адкрыўся на рацэ канал Каралеўскі, што па ім з Польшчы ды ад шлёнзакаў усякія тавары да Дняпра і далей ішлі. А люд па тых дарогах іщоў гандлярскі, усё купец ды прыказчык, хоць і рознай нацыі — што паляк, што рускі, што немец, а ўсё купец. А купец усякай нацыі і з'есці і выпіць не дурань. Скора па ўсіх шляхах пайшла слава пра тую карчму, а яшчэ большая слава пра дачку карчмара Сару. Раказвала бабка, што бачыла яна ў маладыя гады яе

партрэт, набіты на хустку, дык прыгажэй на свеце кабеты няма.

Маляваў гэты партрэт заезны тальянец. Як угледзеў ён шынкарачку Сару, дык воч адвесці не мог, фарбы слязой мачыў, партрэт маляваў. А ёй усё пра любоў сваю гаварыў. У сваю Італію замуж за сябе зманьваў. Але не такая была шынкарская дачка, каб на ўгаворы паддацца. Сядзіць за прылаўкам, вокам не міргне. Хто ў шынок зайдзе, піць закажа — падасць з лёгкім паклонам і больш ні-ні.

Хадзіў-хадзіў той тальянец, уздыхаў-уздыхаў, пакуль у адну ноч не павесіўся на высокай хвоі. Яшчэ большая слава пра тую карчму ды пра шынкарачку Сару пайшла. І здарылася тут маладому князьку праязджаць. Заехаў у тую карчму, за ганаровы стол сеў, вакол яго слугі, сакалкі. Тут і выйшла бяда з шынкарскай дачкой. Як зірнула на маладога князя, так і вачэй не адвядзе, дух заняло. Зусім дзявочы свой сорам і сумленне страціла. Князёк сядзеў задумаўшыся.

— Мядку паспытаем, ваша князёўская міласць? — пытае адзін сакалок.

Князь галавой задуменна кіўнуў, а шынкарачка ўжо з паклонам чарку сярэбраную падае. Пакланілася да зямлі, паднос трымае, а як галаву сваю падняла і чорныя косы з плеч трасянула, прама князю ў вочы глянула, дык той і самлеў. Глядзіць, вачэй ад шынкаркі адвесці не можа. Чарку сярэбраную не бярэ.

— Кепска просіш, дзяўчына,— смяюцца сакалкі.

А яны ўсё вачэй адзін ад аднаго адвесці не могуць. Тады і крыкні галоўны сакалок:

— Наш князь-маладзец ад дзяўчыны чарачку сухую не бярэ! Трэба прыгубіць і князю губкі прысаладзіць.

— Праўда? — ціха пытае шынкарачка.

— Праўда,— адказвае князёк.

Тут яна чарачку прыгубіла і маладога князя ў губы пацалавала. Чарку з падноса зняла і, як ён яе выпіў, шась за прылавак — і ў пакоі пабегла.

Сядзіць князь з сакалкамі, п'е, вясёлы нібы зрабіўся, а вочы задуменныя. Шынкарка ў той дзень так больш і не выйшла.

Словам, пачаў з той пары князёк часцяком па тых дарогах ездзіць, то на паляванне, то з палявання, то на рачныя караваны глядзець, ды ўсё тую карчомку не мінае. Сакалкі-то цямілі, што князю шынкарская дачка палюбілася, і яшчэ больш яму пра яе гавораць, зманіць яе на ночку прапануюць у суседні маёнтачак. Так яно і выйшла. А як яе зманілі, тут шынкарская дачка князю і кажа:

— Жаніся са мною, тады любіць, мілаваць буду.

Ды з тым назад на князёўскім рыдванчыку ўкаціла.

Як дачуўся пра тое стары шынкар, аж за пэйсы ўхапіўся.

— Сарка,— крычыць,— сучча дачка, што сабе ў галаву ўзяла? Князь цябе любоўю адорвае, а ты што? Замуж! Ты што, і мяне і сябе пагубіць хочаш? Не ведаеш, што такое князь?

— Ведаю,— адказвае Сара, прыгажуня-яўрэйка.— Ведаю, што князь, што ён мяне любіць, душы не чуе, а калі любіць, значыць і замуж возьме.

— Выкінь ты з галавы гэта. Дзе ты бачыла, каб светлы князь з беднай яўрэйкай ажаніўся?

— Калі любіць, дык ажэніцца,— адказвае ўпартая дачка.

Стаіць яна на сваім. Даведаўся пра тую няроўную любоў стары князь. Страшэнна загневаўся стары і, ні слова не кажучы сыну, загадаў сваім слугам старога карчмара схапіць і звязанага да сябе прывезці.

Карчмар у ногі князю паваліўся і слязьмі моліць даравацъ яго неразумнай дачцы. Затым просіць рукі яму развязаць і вымае з кішэні хустку, на якой партрэт красуні Сары тальянцам намаляваны.

— Ваша князёўская міласць, вось яна, мая дачка, карайце, мілуйце, але ўсяму віна — прыгажосць яе, не больш.

І расказаў князю пра таго тальянца-мастака, які на хвоі павесіўся. Прызадумаўся тут стары князь, сына кліча і пытае:

— Скажы, сын дарагі, надзея мая, што ты думаеш?

— Люблю,— на карчмара паказвае,— яго дачку Сару і жаніцца прашу вашага благаславення.

Раззлаваўся князь:

— Не будзе табе майго блаславення.

Княженьку з воч прагнаў, а карчмара загадаў у падзямелле кінуць. Але князёк тут таксама свой нораў паказаў. Быў у яго невялікі маёнтачак, ад нябожчыцы маці ў спадчыну застаўся, ды злата-серабра каваны куфэрак. Завёў князёк знаёмства з рознымі валацугамі, і пачалі яны яшчэ больш часта са сваёй мілай сустракацца. А каб ніхто пра тое не ведаў, пабудаваў князёк супотай ад бацькі, пасярод вялікага — адным лясным людзям вядомага — возера каменны церамок і ў тым церамку пасяліў любую сваю.

Хутка ён і сам на гэты астравок перабраўся, балазе, зіма стаяла і на возеру напрасткі санная дарога была пракладзена. Сара ў хрысціянскую веру перайшла, і павінна было быць ім вянчанне па ўсяму закону. А зіма ў той год была марозная, снежная. Возера ільдом скавала ды снегам замяло. А як глянула вясна з туманамі, ды адразу вятры з Дняпра падзьмулі, і сонца прыпякло, крануўся ўраз усюды лёд. Прыпяць разлілася, што мора. Тут і на возеры ваду падняло, і пайшлі па ім гуляць тоўстыя крыгі. Вось тут церамок і разнесла. Князька ў той час там не было, ён яшчэ па саннай дарожцы пакаціў да галоўнага папа дагаварвацца, каб адразу па ўсяму

закону з хрышчонай яўрэйкай шлюб узяць. Дамовіўся з папамі і едзе вясёлы па веснавой бездаражы. Пад'язджае да возера, а па ім толькі хвалі ды крыгі гуляюць. Даведаўся ён ад рыбакоў, што ніхто з таго вострава і цeрамка жывы не выплыў. Пастаяў, пастаяў, выйшаў на высокі бераг, што векавымі соснамі зарос, ды з разбегу ў возера і вухнуў. Не паспелі людзі да берага падбегчы, а ўжо яму крыгі і галаву русую раструшчылі, і не стала відаць маладога князька.

Дайшла пра тое вестка да старога князя. Карчмару ён загадаў камень на шыю прывязаць, у возеры ўтапіць, а сам пасумаваў, пасумаваў ды неўзабаве і памёр. І завецца з той пары гэта Чырвонае возера... яшчэ Князь-возера. Каму як у галаву прыйдзе, так і называе.

## *674. [ВОЗЕРА КРАСНЫ СТАЎ]

Каля Клецка князь Міхаіл Глінскі ў 1506 годзе атрымаў вядомую перамогу над татарамі, загінула іх там каля дваццаці тысяч. Трупамі сваімі яны запрудзілі ўсё возера, так што вада ў ім зрабілася чырванаватай. Адтаго возера і празвалі Красны Стаў.

## 675. ВОЗЕРА КРОМАНЬ

На месцы гэтага возера стаяла мяста Сігнат і праваліласяся... Болей пяцідзесяці сажняў глыбіні... І дзяды не помняць, як гэта мяста заваліласяся.

## *676. ЛІХАЎСКАЕ ВОЗЕРА

Знаходзіцца яно недалёка за мястэчкам Печкі, у лесе, па дарозе на Асаўляны. Возера топкае, вельмі глыбокае, зарослае трыснягом, недаступнае.

У незапомныя часы на месцы гэтага возера стаяла сяло Ляхавічы. У тым сяле былі гаспадары вельмі багатыя і жылі ў раскошы. Асабліва ў адной хаце жыў багаты гаспадар і меў ён дачку, з якой задумаў ажаніцца малады хлопец, але бедны. Нявеста не хацела выходзіць замуж за яго таму толькі, што ён бедны. Хлопец жа, каб мець жонкай каханую ім дзяўчыну, пайшоў з дому, усё думаючы, якім спосабам зрабіцца багатым.

І тады якраз сустрэў едучага багатага купца, забіў яго, выкапаў яму ў хвайніках і засыпаў яго там, а грошы забраў.

Прыйшоў за нявестай і кажа:

— Цяпер я і сам багаты, можам жаніцца.

Але нявеста пачала настойваць, каб ён прызнаўся, адкуль ён мае грошы.

Яна настаяла на сваім, і ён павінен быў аб'явіць ёй. І калі расказаў ёй, тады нявеста сказала яму:

— Пайдзі на магілу таго, каго ты забіў, ляж і чакай, пакуль не пачуеш, што скажа голас памёршага.

Што сказала яму нявеста, тое мусіў выканаць. І калі ляжаў на труне забітага ім, пачуў голас:

— Нашто ты мяне забіў? Чакай!.. За сто год споўніцца кара.

Пайшоў і паўтарыў нявесце пачутыя ім з ямы словы.

Пасля нядоўгага роздуму нявеста сказала:

— Што будзе праз сто год, мы таго не дачакаем, а на тым свеце бог рассудзіць, далёка да таго чакаць.

Пажаніліся. Жылі дружна, спакойна, у хаце парадак, дастатак. Шчасліва жылі, не ведаючы ніякай бяды, ні ў чым не мелі страты самаменшай. Дачакаліся ўнукаў, праўнукаў, прапраўнукаў, і ўсе нераздзельна жылі ў адной сям'і і ў багацтве.

Здарылася, ксёндз каталіцкі з мястэчка Пяскі, вяртаючыся ад хворага, заехаў нанач у гэту хату.

Гаспадыня, старая ўжо, жадаючы пачаставаць ксяндза, пайшла шукаць яек. Між тым, па яе разліках, на тым месцы, дзе куры несліся, аднаго яйка не ставала, не знайшла, а павінна быць. Да таго не прывыклая да найдрабнейшай страты, яе здзівіла гэта, і давай распытваць у нявестак і ва ўсіх дамашніх... І калі ніхто не прызнаўся, што ўзяў яйка, у гневе пачала спярша злёгку сварыцца, а пасля крычаць і лаяцца.

Ксёндз перабіў іх спрэчку і пачаў запэўніваць старую, што яму зусім не хочацца есці, а толькі адпачыць. Так і зрабіў. Паклаў на стале кніжку і камэшку, апока да адпачынку. Ксёндз пачаў распытваць старую, чаму дзівіцца, што прапала яйка, такая дробязь:

— Ты такая багатая, а шкадуеш нічога няартую рэч, праз тое хвалюешся сама і хвалюеш сям'ю.

— У нашым доме,— адказала старая,— ужо і пастарэўшы, а страты ніякай не здаралася, ■ то, канешне, у сто год і ў гэты дзень, каб згінуць яйку.

— Што ж, відаць, знак... кары божай. Не здарылася нічога асаблівага ў жыцці тваім? — пытае ксёндз.— Раскажы, я прыкмячаю, што асабліва абходзіць цябе страта і што яна асабліва здарылася ў гэты дзень.

Старая падрабязна расказала ўсё.

Пасля расказа ўсе і ўсё супакоілася ў хаце. Ксёндз лёг за сталом пры акне. Паснулі. Каля пеўняў (у глыбокую ноч) чуе ксёндз лёгкі стук у акно, а пад акном голас:

— Ксёндз, уставай і выходзі.

Паўтарыў голас, мала пачакаўшы, і другі раз.

Ксёндз паглядзеў у акно — нікога не ўбачыў. Сам сабе не верыць: сон гэта ці напраўду. Раздумвае.

Раптам у трэці раз громка паўтарыў голас:

— Ксёндз, зараз жа выхадзі, а то загінеш.

У здзіўленні і страху ксёндз вялеў свайму чалавеку запрэгчы коней, і паехаў, пакінуўшы ўсіх спячымі.

Пад'язджаючы пад Пяскі, успомніў, што забыў на стале кнігу з рэчамі і кажа свайму чалавеку:

— Выпражы прысцяжнога каня, паедзь верхам і вазьмі маю кнігу і рэчы, яны ляжаць на стале.

Чалавек пад'ехаў да таго месца, дзе стаяла сяло, і не застаў нікога і не ўбачыў нічога на тым месцы, апрача вады — возера, а на краі яго — плыве стол, на якім ляжаць кніга і рэчы. Чалавек наблізіўся да берага, стол прыплыў, і ён забраў кнігу з рэчамі, а стол патануў, пайшоў на дно.

## *677. [ВОЗЕРА ЛОБНАЕ]

За тры вярсты ад горада Суража [Чарнігаўскай губерні] па дарозе да Клінцоў, на левым беразе Іпуці выцягнулася з вярсту даўжынёю возера Лобнае: і тут было селішча і за грахі праваліла-ся. І цяпер чутны падземны гул, скрыгат металу, стогны і крыкі, між якімі распазнаюцца галасы коней, кароў і авечак, асабліва перад поўначчу і за поўнач.

## 678. ЯК ЛЮЦЫНСКАЕ ВОЗЕРА УЗНІКЛА

Раней праз Люцынскі павет плыла вялікая, шырокая рэчка, месцамі без дна. Аб рэчцы казалі, што гэта пасланне нячысціка, бо часамі залівала ўсё наўкола, а затым апявалі яе ў непрыгожых песнях і абгаварвалі.

Адзін дзень узнялася бура. Уся рэчка была ў белай пене, а бура ўсё крапчала. Тады адна старушка, якую ўсе звалі ведзьмай, ішла за вадой і, калі залезла глыбей, каб пачэрпнуць вады, яе пачало кідаць і цягнуць у глыбкі. У злосці яна паспела крыкнуць:

— Бяжы, убяжы і прападзі!

Раптам бура пацішэла, і яна вярнулася дахаты. Ноччу ў сне яна бачыла, што да рэчкі прыйшоў старычок і чэрпаў белую пену. Праз колькі дзён рэчка знікла, а замест яе з'явіліся Люцынскае і іншыя азёры ў Люцынскім павеце.

## *679. ВОЗЕРА НАРАЧ

У гушчары старых бароў, як сляза, упаўшая з неба, блішчэла вялікае возера. Вельмі прыгожым яно было. Расказы пра яго чароўнасць ішлі ад паселішча да паселішча і нават у далёкія краіны заходзілі.

А яшчэ казалі людзі, што ў вёсцы, што прыляпілася да аднаго з берагоў возера, жыла дзяўчына-сіраціна па імені Найрыта, а аднавяскоўцы звалі яе Нарай. Вочы яе блакітныя, колеру азёрнай хвалі, заўсёды весела ўсміхаліся. Залацістыя валасы тугой касой абкручвалі галаву. Голас у яе быў высокі і гучны.

Бывала, сядзе на беразе пад разлапістым клёнам, дзе збіралася звычайна моладзь, на гусельках грае і спявае. Спачатку голас павольна плыве, а пасля ўзлятае высока і ляціць над пабярэжжам. У гэты час і птушкі спынялі свой спеў. Людзі забываліся пра сваё гора.

Аднойчы, калі Нара спявала, праязджаў вёскай пан, стары ўдавец. Пачуў ён дзівосную песню і загадаў спыніць каня. Слухаў, слухаў і сказаў Нары:

— Прыгожая кветка вырасла ў дзікім краі. Табе толькі спяваць у маіх пакоях.

— Кепская з мяне будзе служанка,— прамовіла Нара.

— Ты будзеш гаспадыняй, жонкай маёй,— зазначыў пан.

Вакол Нары сядзелі на зялёнай мураве хлопцы і дзяўчаты. Адзін з іх, чарнявы хлопец, падышоў да пана.

— Гэта мая нявеста,— сказаў ён,— а пан няхай сярод паноў жонку шукае.

— Ці не сын ты таго Пятра, што бунтаваў мне народ? — успомніў пан, чырванеючы ад злосці. І залемантаваў: «Узяць яго!»

Прыслужнікі звязалі Андрэйку і павезлі ў маёнтак. Больш яго ніхто не бачыў. Праз некаторы час пасля гэтага здарэння пан зноў прыехаў да Нары даведацца, ці згодна яна да шлюбу. Дзяўчына зрабіла выгляд, што згадзілася. Тут жа дамовіліся пра вяселле.

Надышоў гэты дзень. Злосны вецер гнаў цёмныя хмары, а лес спяваў жалобныя песні. Нара ехала на фурманцы ў маёнтак, у руках трымала пакунак. Сустрэлі яе служанкі. Завялі ў панскія пакоі і апранулі ў шлюбнае адзенне. І Нара выйшла такой прыгажуняй, што ні пяром апісаць, ні ў казцы расказаць. Пакланілася яна пану ды папрасілася перад шлюбам крышку адной пабыць у пакоях. Пан згадзіўся. Ходзіць ён па двары, на служанак пакрыквае і на дзверы паглядвае.

А Нара тым часам з пакунка дастала смалякі ды падпаліла пакоі адзін за другім. І калі шугануў чорны дым з вакон, а на даху заскакалі чырвоныя языкі полымя, выскачыла праз вакно і на сваёй

фурманцы, паганяючы каня, паехала ў вёску. Прыйшла на тое месца, дзе з Андрэйкам часта сустракала ўсход сонца, прыхілілася да клёна і горка заплакала.

Ды тут пачуўся конскі тупат. Прыехалі панскія служакі. Бегалі па ўсёй вёсцы. Людзей бізунамі білі. Дапытваліся, дзе Нара.

— Вось яна,— закрычаў адзін з іх.

— Жывую не возьмеце,— крыкнула ворагам дзяўчына і кінулася да возера.

Цёмныя хвалі з белымі грабянямі ішлі адна за другой, а на беразе калыхаўся човен. Той човен, у якім Нара з Андрэйкам не раз каталіся. Спрытна і ўмела ўхапілася яна за карму і, адштурхнуўшыся ад берага, села ў човен.

— Я адпомсціла, пан, за Андрэйку, за яго бацьку і за ўсіх тых, хто загінуў ад тваіх рук у тваім маёнтку,— прашаптала Нара.

Ад злосці панскія служакі кінулі гуслі ў возера. А човен адплываў усё далей і далей, потым зусім знік у хвалях. Усю ноч бушавала возера. Стагналі хвалі...

З таго часу і назвалі людзі возера імем смелай дзяўчыны. Да нашых дзён дайшла назва Нарач.

### *680. [ПРА ВОЗЕРА НАРАЧ]

Не было Нарачы тут. Не было Баторына і Мястра. Не было гэтых белакорых прыбярэжных бяроз, надрыўнага крыку чаек і выбеленых стагоддзямі аблачын. Была зямля — гіблая, чорная, як і яе абрабаваная доля. І жыла на гэтай зямлі непрыгожая, рабая, як і сама зямля, дзяўчына Алёнка. Але душой была Алёнка святлей самага белага дня — столькі непрыкметнага хараства таілася ў ёй. Радаваліся дзявочай дабраце простыя людзі, не раз сушыла яна слёзы іх горкай нядолі. І ўсім сэрцам пакахаў рабую дзяўчыну хлопец-прыгажун.

Толькі сярод людзей былі і нядобрыя, злыя людзі. Яны балюча дакаралі хлопцаву ніцавокасць, павучалі яго:

— Вачэй мець не трэба, каб бачыць, якая чорная, брыдкая твая абранніца.

Захлынулася пакутнай журбою раненае сэрца. Да світальных зор насіў хлопец па чорнай зямлі горкую скруху, і яна лілася з сэрца самотнай, тужлівай песняй. І столькі непадробнага пачуцця было ў яе простых словах, столькі жадання надзяліць прыгажосцю свет цэлы. Не магла песня не крануць сэрца добрага чараўніка. І ён, разчулены ёю да слёз, вырашыў дапамагчы хлапечай бядзе: падараваў яму чароўнае люстэрка.

Паглядзелася ў люстэрка Алёнка — прыгажуняй няпісанай ста-

ла. Пасвятлела на чорнай зямлі ад яе дзівоснай красы. У сведкі да іх шчасця клікаў хлопец усіх добрых людзей. Упершыню яго сэрца пела пра шчасце.

Аднак нядоўгім было яно. Дачуўся пра цуд гэты магнат з палаца. Зайздрасцю засвяціліся хіжыя вочы, калі паланянка-прыгажуня пераступіла княжы парог.

— Гэты скарб за ўсё маё даражэй,— адно і сказаў старэчы князь.

Каханых разлучылі.

Заклінаючы сваю прыгажосць, жорстка карала ў палацы магната чароўнае люстэрка дзяўчына. У гулкім вясельным гомане пырснула яно дробнымі асколкамі-промнямі. І там, дзе ўпалі асколкі, імгненна ўзышла крыніца, забілася ўспенена, бурна, як дзявочая нянавісць. Пад хвалямі, празрыстымі і светлымі, як само каханне, хавала яна княжы палац. А калі пенныя хвалі ўлагодзіліся, вачам людзей адкрыўся дзівосны цуд: ляжала перад імі вялізнае возера з блакіту і зор. І той, хто глядзеўся ў яго, прыгажэў душою і сэрцам...

А Нарач — значыць, нарачоная хлопца.

## *681. ПРА ВОЗЕРА П'ЯВІЧ

Там, дзе цяпер возера, калісьці знаходзілася вёска. У гэту вёску раз прыйшлі два жабракі. Народ думае: сам Ісус Хрыстос з адным апосталам.

Зайшлі яны ў адну хату, дзе баба пякла бліны. Жабракі папрасілі бліноў. Баба ім не дала і выгнала іх з хаты. Жабракі пайшлі ў другую хату, дзе жыла вельмі бедная жанчына з грудным дзіцем, і папрасілі тую жанчыну пакарміць іх. У жанчыны нічога не было, але, жадаючы чым-небудзь накарміць жабракоў, яна ўліла ў міску халоднай вады, насыпала трохі мукі і, ускалаціўшы і пасаліўшы, дала жабракам есці, хоць і не зваранае, кажучы, што такой заціркай яна сама харчуецца. Жабракі не захацелі таго есці, але, бачачы гасціннасць гаспадыні, сказалі ёй зараз жа пайсці з вёскі, бо з вёскай зараз здарыцца няшчасце. Але, пайшоўшы, жанчына абавязана была не азірацца. Узяўшы дзіця на рукі, яна пайшла з вёскі. Раптам пачула за сабой нейкія крыкі — і азірнулася... Уся вёска праваліласяскрозь зямлю і на месцы яе ўтварылася возера, жанчына ж абярнулася ў камень, які стаіць на беразе возера і зараз. Кажуць, што камень раней быў падобны да жанчыны з дзіцем на руках і ў жанчыны былі відаць пацеркі на шыі.

Возера вельмі глыбокае. Кажуць, нібы звязвалі вяровак у сорак сажняў і мералі глыбіню, прывесіўшы гіру, але дна не дасталі,

а замест гіры выцягнулі назад баранню галаву. Нейкі чалавек у гэтым возеры ўтапіўся і з гэтай прычыны жыхары прызналі, што ў возеры жыве нячыстая сіла.

## *682. [СВЕТЛАЕ ВОЗЕРА]

Стаяў на тым месцы, дзе разлеглася цяпер Светлае возера (нават і такое вялікае, як Нешчарда ў Віцебскай губерні), вялікі горад з божымі храмамі, ды саграшылі людзі перад богам: разлілося возера і паглынула грахоўны горад. У ясную пагоду зыркія вочы бачаць і крыжы і стрэхі; чуткае вуха чуе звон на ўзыходзе і заходзе сонца. Звон гэты часам пабуджае глухое маўчанне на дзікіх берагах Нешчарды: настрашаныя птушкі ўлятаюць прэч, напалоханыя серны і ласі, дрыжучы ад страху, хаваюцца ў гушчары пушчы.

## 683. ПРА ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ

Калісьці дзяржаўцам гэтага возера быў князь Мірскі. І вось ён задумаў даведацца, ці праўда, што на дне возера знаходзіцца затоплены горад Свіцязь, як аб гэтым гавораць у народзе.

Для гэтага ён рыхтаваўся тры тыдні. Пабудаваў вялікі карабль, сплёў невад, паклікаў ксяндза. І вось, калі закінулі невад, пераплылі на другі бераг возера. І пачалі выцягваць. Ён быў лёгкі, і яны думалі, што нічога не злавілі. Але калі выцягнулі другое крыло невада, убачылі ў ім цудоўную дзяўчыну з белым тварам, доўгімі распушчанымі валасамі. Адны ад здзіўлення занямелі, другія кінуліся ўцякаць. Тады яна загаварыла голасам, падобным да журчання ручая, які бег у гэтае возера:

— Хоць вы і задумалі дзёрзкую справу, парушылі спакой возера, захацелі даведацца пра яго тайны, то я раскажу вам. На тым месцы, дзе вы бачыце сёння возера, стаяў горад. Князь, які валодаў гэтым горадам, быў у саюзе з навагрудскім князем Міндоўгам. Аднойчы напаў на Навагрудак з магутным войскам рускі цар. Князь разам са сваёй дружынай паехаў на дапамогу Міндоўгу. У горадзе засталіся жанчыны, старыя, дзеці, сярод якіх была прыгожая дачка князя. Магутнае войска Міндоўга і войска князя было разбіта, а рускае войска падышло да горада... Тады перад дачкой князя з'явіўся дух і сказаў, што ператворыць горад у возера, а людзей у кветкі. І вось... горад пачаў знікаць, а на месцы яго з'явілася возера, па якому плавалі цудоўныя белыя кветкі-цары.

Сказаўшы гэта, жанчына знікла. Больш яе ніхто ніколі не бачыў. Як успамін аб гэтым кожную вясну цвітуць на возеры кветкі-цары.

## *684. СВІЦЯЗЬ

Калісьці дзедзіч сумежных Плужын, да якіх і возера Свіцязь належала, наслухаўшыся страшных народных паданняў пра тыя воды, што яны населены духамі і ніхто беспакарана не можа зазірнуць у глыбіню тых вод, загадаў зрабіць аграмадны невад: два чаўны. Пасвенціўшы ўсё гэта ў ксяндза, з недалёкага Цырына запусціў сеці ў возера. Цягнуць невад, і замест рыбы з'яўляецца з матні чароўная постаць жанчыны.

А тая чароўная палонніца моцна разгневалася на тых, што нарушылі спакой таямнічых вод і заслужылі за гэта кару. Але даравала ім і расказала: у даўнія-даўнія часы там, дзе зараз возера, быў горад Свіцязь, які належыў да князёў Туганоў. Калі наезны вораг ▪ поўначы аблажыў Навагрудак, князь Туган, запрошаны літоўскім князем, пайшоў да яго ў дапамогу з пяццю тысячамі ўзброеных людзей. А ў гэты час на пакінутую без аховы яго сталіцу, у якой засталіся жанчыны і дзеці, напаў вораг. Тады бедныя, але цнатлівыя маткі і іх дзеці паклікалі багоў, каб не дапусцілі зганьбавання. А калі голас іх быў пачуты, горад праваліўся, а на яго месцы паўстала возера. Берагі яго ўпрыгожыліся кветкамі, якія паўсталі з душ тых няскораных жанчын. Так была выратавана іх годнасць. А ворага, як толькі ўбіраў гэтымі кветкамі свае скроні, адразу спасцігала смерць...

Кажуць, што да нашых дзён няскораныя свіцязянкі жывуць у глыбіні сіняга возера.

## *685. [ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ]

З вады чутны быў часта стогн дзявочы. Каб даведацца прычыны, валадар берагоў Свіцязі заказвае невад сцен у дзвесці, будуе чоўны і робіць іншыя прыгатаванні. Але перад пачаткам такой важнай справы звяртаецца ён з малітваю да бога і пасылае грошы на імшу, просячы разам з тым прыехаць да сябе ксяндза. Прыязджае ксёндз з мястэчка Цырына, становіцца на беразе, адзявае свае рызы, адслужвае малебен і благаслаўляе работу. Пан загадвае пачынаць. Адчальваюць чоўны, і невад з шумам патанае ў хвалях Свіцязі, цягнучы з сабой і паплаўкі на глыбокае дно яго, але вот пацягнулі вяроўкі, невад ідзе ціха, і, верна, нічога няма. Ужо паказаліся абодва крылы; ужо паказалася палова матні і думаюць, што яна пустая, але раптам спалоханым позіркам прадстаўляецца дзяўчына.

Раззлаваная, яна ціхім голасам кажа:

— Знайце, што да гэтага часу возера ніколі яшчэ беспакарана

не пакідала таго, хто асмельваўся непакоіць чыстыя воды яго. І ты, дзёрзкі, і ўсё тваё зборышча зараз патанула б у яго глыбіні, калі б гэта месца не належала твайму прадзеду, і калі б у табе не цякла кроў наша. Усе вы за вашу цікаўнасць варты былі б пакарання, але пачалі справу з богам, і я вам раскажу цуды гэтай бездані. На гэтай прасторы, дзе вашы вёслы рассякаюць цяпер ваду, стаяў некалі горад Свіцязь, якім валодаў князь Тугоены. Адсюль былі відаць белыя сцены Навагрудка, што быў у той час сталіцай Літоўскай. Аднойчы, калі князь рускі напаў на землі Мендага і па ўсёй Літве пранеслася страшная вестка, што Мендаг павінен яму пакарыцца, Мендаг напісаў пісьмо майму бацьку — Тугану, просячы яго ратаваць сталіцу і сабраць войска. Бацька мой збірае пяць тысяч конных узброеных воінаў, але перад ад'ездам у паход ідзе ён да мяне і раіцца са мною пра тое, што будзе тагда [redacted] жонкамі і дзецьмі воінаў, калі яны загінуць на полі брані, калі яны не вернуцца дамоў, і хто іх тады абароніць. Я яго тагды заспакойваю, кажу, што бог, што сніўся мне, абароніць усіх нас. Князь, заспакоены маімі словамі, адпраўляецца, але ў ноч Літва гіне, Русь адольвае, б'е і гоніць наша войска да Свіцязі. Вось яно ўжо ў варотах! Тады свіцязянкі даюць клятву лепш памерці, пахаваць сябе жывымі ў зямлю, чым аддацца ў рукі ворагаў. У той час нечакана акружае мяне нейкі бляск, [redacted] хачу абараніць вочы мае ад яркага свету, падаю на зямлю, [redacted] яе ўжо няма пада мною...

## 686. ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ

На месцы возера Свіцязь раней, гавораць, быў вялікі горад. І вот аднойчы ў адзін дом зайшоў чалавек і папрасіў, каб яго накармілі. Аднак жанчына замест хлеба дала яму камней. Чалавек падзякаваў, даў ёй клубок нітак і сказаў:

— Ідзі за мною і не аглядайся.

Жанчына ішла па гораду, а за ёй набягала вада. Вада заліла ўвесь горад. Але калі жанчына азірнулася, то ператварылася ў камень.

Ад клубка застаўся канец ніткі. Аднойчы каля возера пастушкі пасвілі кароў. Адзін хлопчык знайшоў канец ніткі і пачаў віць. Так наматаў ён цэлы клубок. І тут пастух глянуў на возера, там стаяў горад. Пастух спалохаўся і кінуў клубок. Вада зноў заліла горад.

## 687. [ДЗЕ ЦЯПЕР СВІЦЯЗЬ, НЕКАЛІ БЫЛО МЯСТЭЧКА]

Гаворaць, што там, дзе цяпер возера Свіцязь, некалі было мястэчка. Хадзіў па міру нейкі старац. Зайшоў ён у гэтым мястэчку ў адзін дом і папрасіў што-небудзь яму падарыць. Жанчына сказа-

ла, што ў яе нічога няма, а пасля ўзяла са стала блінец і, падцёршы гэтым блінам дзіця, падала старцу. Ён узяў, пасля сказаў гэтай жанчыне, каб яна брала сваё дзіця і ішла за ім, ды толькі не аглядалася. Як выйшлі яны за мястэчка, дык усё адразу пачало тануць. Колькі яны ішлі, столькі ўсё танула ў вадзе. Калі ж жанчына, не паслухаўшы старца, аглянулася, ужо ўсё было затоплена вадой, а яна стала каменем. Кажуць, што і цяпер у возеры стаіць гэты камень, падобны да жанчыны з дзіцем на руках. Кажуць, што хто даплыве да гэтага каменя і дакранецца да яго рукою, то з каменя паказваецца кроў.

## *688. [ЯК ПАЎСТАЛА ВОЗЕРА СВІЦЯЗЬ]

Там, дзе цяпер возера Свіцязь, стаяла сяло. Неяк, праязджаючы праз яго, святар папрасіўся ў адну хату на нач. Якраз у той час у гаспадыні прапала яйка, і яна пачала ўсіх страшна клясці, а тады:

— А каб гэтае месца затанула!

Святару пачуўся ў гэты час голас:

— Едзь адгэтуль, нявінная душа, каб і табе не прыйшлося загінуць разам з усімі.

Голас паўтарыўся тры разы.

Святар запрог свайго каня і паехаў. А тады, ад'ехаўшы вёрст пяць, успомніў, што забыў у той хаце, дзе начаваў, свой трэбнік. Ён паспяшаўся назад, каб забраць трэбнік, але, не даязджаючы сяла, убачыў, што там, дзе было сяло, і ўсё навакол заліта вадой; у вадзе плаваў столік, а на століку ляжаў трэбнік... Святар узяў трэбнік і паехаў дамоў.

## 689. [АДКУЛЬ ПАСТУПАЕ ВАДА Ў СВІЦЯЗЬ]

Даўно гэта было. Тое, што я вам раскажу, чула я ад свайго дзеда. Аднаго пана, якому належала гэта возера, зацікавіла, якая яго глыбіня. Часта выязджаў ён на сярэдзіну возера, прывязваў да шнура груз і апускаў у ваду, каб дастаць дно. Але дна ніяк ён не мог дастаць.

Пасля яго зацікавіла, адкуль паступае вада ў возера. І ён прыказаў сваім сялянам прарыць два каналы, каб спусціць ваду. Адзін пракапалі ў бок вёскі Валеўка, які саедзініў возера з ракой Нёўдай (якраз у тым месцы, дзе была пабудавана мельніца), а другі — у бок вёскі Парэчча, які быў пушчан у раку Молчадзь. Вада так пайшла па каналах і ў вёсцы Валеўка затапіла некаторыя хаты.

Пасля гэтага пану прысніўся сон, што дно возера ён зможа толькі дастаць галавой, а калі будзе трогаць яго з месца, то яно затопіць на сем міляў кругом.

Пан спужаўся і загадаў засыпаць каналы. Сляды гэтых каналаў відаць і цяпер. Але цікавасць да таго, адкуль паступае вада ў возера і куды яна дзяваецца, не пакідала пана. Тады Незабытоўскі злавіў тры шчукі, акальцаваў іх і пусціў у ваду. На кольцах было напісана, што, калі хто паймае шчуку, каб пазваў пана на абед. Пана, вядома, больш цікавіла, дзе паймаюць гэтыя шчукі. Адну шчуку паймалі ў Азяранах, каля Наваельні, а другую ў Калдычаўскім возеры пад Баранавічамі. Так пан даведаўся аб падземных ходах, што звязваюць возера Свіцязь з другімі азёрамі.

## 690. [ЯК УТВАРЫЛАСЯ СВІЦЯЗЬ]

Расказвалі, што возера Свіцязь утварылася вот як: за здзекі татараў над людзьмі бог паслаў ім наказанне: затапіў усе іх полчышчы. А траснік, які стаіць у вадзе кругом возера, напамінае аб затопленых воінах татарскага войска.

## 691. [ЦУДЫ НА СВІЦЯЗІ]

Расказваюць, што даўней ішла адна дзяўчына па берагу возера Свіцязь і ўбачыла прыгожую ленту, якая плыла недалёка ад берага. Яна ўзяла яе і хацела дастаць. Пачала цягнуць і столькі нацягнула, што сама здзівілася. А як толькі яна здзівілася, дык лента ўшла назад і ледзве яе не ўцягнула ў ваду.

Знаходзілі ў гэтым возеры і іншыя рэчы: кольца, сярэбраныя лыжкі, талеркі.

А яшчэ гаварылі, што кавалі раней бралі ваду з возера для гартавання жалеза, дак жалеза не гартавалася, а гнулася, як бляха.

## *692. [АДКУЛЬ ВОЗЕРА СВЯТАЗЕР'Е]

У ваколіцы Мсціслаўля ёсць вялікае возера і вёска Святазер'е, або Кіркорава. А называецца Святазер'ем таму, што на тым месцы стаяла царква, але ў зямлі зрабіўся правал і царква праваліласа ў яго, і на месцы правала ўтварылася возера. Людзі кажуць, што над возерам часам можна пачуць звон у вадзе, нават відаць макаўка царквы.

## 693. ПРА СВЯТОЕ ВОЗЕРА

Шоў гасподзь. Прыйшоў у дзярэўню і стаў прасіцца начач, пераначаваць. І не пусціў ніхто начач.

Была там старушка на канец дзярэўні, очынь бедная, і патом яго прыгласіла на начлег к сабе. Яна гаворыць:

— Я б рада пусціць, да толька мне пасуліць на вячэру нечага.

Ён кажыць:

— Мне вячэра не нада.

А патом ляглі аддыхаць, а вутрам устаюць — на стале кушання, сколька душэ ўгодна, сколька душа чаго паднімае: напіткі, наедкі ўсякія стаялі на стале. І вутрам яны ўсталі, і прыгласіў этат прыхадзяшчы старычок старушку паабедаць. І паабедалі яны ўмесці. І застатак застаўся на стале. Патом ён прыгласіў яе забраць з сабою застатак, і пайшлі ўмесці.

І прыказаў ён ёй, штобы яна не аглядалася назад. А патом нескалькі ўрэмені адышлі, і слышыць яна голас жэнскі і мужчынскі голас і скоцкі роў. Значыць, як стала вада ісці і сталі тануць, стала яна на калена ў вадзе і аглянулася. Суткі яна стаяла так на месці, і куды яе гасподзь напуціў — ніхто не можа знаць, куды яна дзявалася.

## 694. СІНЯЕ ВОЗЕРА

У лесе ёсць балота. У гэтым балоце ёсць возера. Вакол возера растуць журавіны. Возера не шырокае, але да яго нельга блізка падысці, вагаюцца берагі. Цяпер яно крыху высахла, застаўся невялікі глазок, які не замярзае зімой. Гавораць, што на гэтым месцы, дзе цяпер возера, стаяў замак. У замку жыў граф. У графа была дачка. Граф хацеў аддаць яе за старога князя, а яна не згаджалася, любіла конюха, які быў на канюшні ў бацькі. Вось граф назначыў дзень заручын з князем, а яна дамовілася з конюхам уцячы. Аб гэтым ніхто не знаў, знала толькі служанка. Калі яны сабраліся ехаць, служанка раскрыла тайну — сказала маці. Маці пракляла іх, калі яны выехалі з замка. І ў дванаццаць гадзін ночы замак праваліўся — утварылася возера. Гавораць, што як толькі наступае дванаццаць гадзін ночы, на возера прылятаюць два чорныя лебедзі. Яны садзяцца на возера і плаваюць па кругу. Але адзін да аднаго не могуць прыблізіцца, маці іх пракляла.

## 695.ЯК СТВАРЫЛАСЯ ВОЗЕРА ЦЫРНА

Там, дзе зараз знаходзіцца возера Цырна, раней толькі быў маленькі ручаёк. У адно свята дзве сястры паласкалі бялізну. Было зусім ціха, але раптам чуюць такі шум, што аж душа ў пяткі лезець. Бачаць, аж гэта плыве па небу вялікая хмара.

— Ведаеш што, гэта ідзе возера, і яно дзе-небудзь спусціцца, дык хай яго назова будзе Цырна,— сказала старшая сястра, якую так звалі.

Але не паспела яна закончыць апошняга слова, як апусцілася возера і заліло іх. Малодшая сястра выплыла. І з гэтага часу возера завецца Цырна. Возера гэта і зараз знаходзіцца ў Лудзенскім павеце ў шасці вярстах ад места Лудза.

## *696. [АДКУЛЬ ВОЗЕРА У ФАЛЬВАРКУ МІКУЛІН]

Возера знаходзіцца пры дарозе з мястэчка Даўгінава ў фальварку Мікулін. Глубіна гэтага возера незвычайная. Народ кажа, што ніколі яшчэ не асталі дна яго, пушчалі камні, прывязаныя да даўгіх вяровак. Зрэдку толькі камень гэты ўдараецца аб нешта цвёрдае, а потым патанае ў глыбіні.

Кажуць, што тут стаяў касцёл, які праваліўся скрозь зямлю, а на тым месцы ўтварылася возера, камні ж удараюцца аб касцёлавы вежы.

## *697. [АДКУЛЬ ВОЗЕРА ПАМІЖ МЯСТЭЧКАМ РЭЧКІ І ФАЛЬВАРКАМ ОРПЫ]

Ідучы з мястэчка Рэчкі ў фальварак Орпы, пры самай дарозе відаць невялікае возера. Кажуць, што на гэтым месцы стаяла карчма, у якой аднойчы сабраўся народ на ігрышча, у той час калі трэба было ісці на ўсеначную перад вялікаднем. І тут зямля раскрылася і паглынула карчму і ўсіх тых людзей.

## 698. ЯК ПРАВАЛІЛАСЯ ВЕСКА І УТВАРЫЛАСЯ ВОЗЕРА

Калісьці, яшчэ з незапомных часоў, на гэтым месцы, дзе цяпер возера, быў божы храм. Стаяў ён на гары ў вельмі прыгожым месцы, а каля яго была вёска. Але ў гэтай вёсцы былі людзі, якія не заўсёды хадзілі ў царкву. А яшчэ ў гэтай вёсцы быў валшэбнік, які пакланяўся нячыстай сіле. Ён з ёю жыў у згодзе. Яна яму дапамагала ў жыцці, але калі надышоў час паміраць, то ён ніяк не мог памерці. І тады яму прыйшлося прасіць людзей, каб яны пайшлі ў царкву і папрасілі папа, каб ён над ім прачытаў малітву за ўпакой яго душы. Каб на яго не гневаліся на тым свеце. Людзі пайшлі, але прывесці папа не змаглі. Ён адказаўся. І толькі к вечару прыйшоў да яго сівы дзядок, незнаёмы, яго да гэтага часу ў вёсцы ніхто не бачыў.

І ў гэту ноч памёр валшэбнік. Яго пахавалі, як і ўсіх, на могліцах, але як людзі ішлі дадому, іх каля царквы сустрэў дзядок і сказаў людзям, каб яны зайшлі ў царкву маліцца і засталіся там,

а тых, што не пайшлі маліцца, дзядок адвёў крышку далей і ўваткнуў у зямлю кіёк. Звярнуўшыся да людзей, сказаў, каб хто-небудзь з ахвотнікаў вырваў яго з зямлі. З натоўпу выйшаў адзін здаровы маладзец і вырваў кіёк. Не паспелі людзі разысціся па дамах, як з гэтай ямкі хлынула вада і затапіла вёску разам з людзьмі. Засталіся толькі тыя, якія былі ў царкве. Памаліўшыся богу, людзі сабраліся ісці дадому. Але як яны выйшлі з царквы, то ўбачылі вакол сябе возера і што няма іх вёскі. Яны пачалі прасіць у бога, каб перайсці возера. Тады з'явіўся сівы дзядок, зняў з царквы дзверы і сказаў, каб людзі станавіліся на іх. Гэтак на дзвярах людзі дабраліся да берага. Гэтыя дзверы ляжалі на беразе доўгі час. І пажадалася людзям прыбраць іх у другое месца. Але як толькі яны ўзяліся за іх, то і людзі і дзверы ператварыліся ў камень. А вада ў возеры прыбывала і прыбывала, пакуль не затапіла і царкву на гары. Гэтак утварылася возера і святы камень каля яго.

## 699. [ПРА МАНАСТЫРЫ, ШТО ПРАВАЛЬВАЮЦЦА І РОБЯЦЦА АЗЁРЫ]

Часам за грахі людзей зямля правальваецца й пажырае цэлыя вёскі й гарады. Там, дзе зямля праваліцца, робяцца азёра, бо ведама, вада туды сцякае, дзе ніжэй. Вельмі часта правальваюцца манастыры, бо бог іх карае, як там манахі ці мнішкі грашаць. Ведама, у манастыры не трудна не грашыць, бо там усё кругом святое, а от ты на вольным свеці да не саграшы. От затым бог гарэй карае манахаў да мнішак, затым і многа азёр, дзе праваліліся манастыры. Яны хоць пад вадою, але так, як былі, бо кажуць, што перад вялікім святам заўжды чуваць, як у тых манастырах звоняць пад вадою.

## 700. БОГ І УДАВА

### [Як станавілася азяро]

Ішоў гасподзь і Мікола і Ягорый. Было ўрэмя на за́гавіны. Прасіліся начаваць па дзярэўні, і ніхто іх не пусціў. Сышлі ўсю дзярэўню — ніхто не пусціў. На канцы дзярэўні жыла сабе ўдовушка, пабедная галовушка. І прыйшоў к ёй гасподзь і Мікола і Ягорый і просяцца ў яе начаваць:

— Пусці нас паначаваць, бабушка. Усю дзярэўню сышлі — ніхто нас не пусціў.

— Рада б я, дзядзенькі, вас пусціць паначаваць, дык такей сягонняшні дзень, што людзі загаўляюць, а мяне нечым.

І яны атвячаюць ёй:

— Бог пашлець усё, толькі пусціце паначаваць.

— Ды за начлег, дзядзенькі, мы не спорым: начуйце сабе.

Заначавалі. Клапоціць бабушка ета, што няма ў яе хлеба. Гасподзь гаворыць ёй:

— Нясі, баба, дзежку сюды.

Яна ўнесла. Уліла вады. Гасподзь узяў, усыпаў горсць мукі:

— Закрывай,— гаворыць,— бабушка, яе.

Яна закрыла і паставіла на ляжанку. І думаець яна сабе: «Што тут ёсць, што ён усыпаў? У нас не так дзелаюць,— пабольш сыплюць». І пайшла па дзярэўні прасіць мукі дабавіць больша,— і ніхто не даў.

І бабе етай не спіцца і не ляжыцца, думаець: «Як мне етых людзей заўтра прывецідь?»

Ну, паначавалі, усталі, памылісь, богу памалілісь. Пасматрыць баба ў дзяжу — цэлая дзяжа хлеба! То ўсхваліла яна госпада бога. І то яна ўдумала, што ета не якея-небудзь людзі, а якея-небудзь пракокі. Напякла ляпёшак і падносіць ім снедаць. Ну, яны там ці снедалі, ці не снедалі, паблагадарылі ёй і пайшлі.

Пайшлі яны, выходзіць баба з свае хаты, пасматрыць — дзярэўні няма. А станавілася азяро. То яна сільна злякнулась і спугалась, начала богу маліцца.

## *701. ЗАРОСШАЕ ВОЗЕРА

Спачатку кожнае балота было возерам, але пазней ад заклёну ці чарадзейства пачало звужвацца, пакрывацца глеем і зарастаць травой і дрэвамі. Так узнікла і вядомае ў Веліжскім павеце Прамачоўскае балота. Нейкая ўдава, якая жыла на беразе возера, пякла бліны і паслала свайго адзінага сына па ваду. Раптам яна пачула яго крыкі. Атарапелая маці выбегла з хаты з чапялою і скаварадою і няспечаным блінам і ўбачыла, што сын тоне. Няшчасная не змагла памагчы сыну, і ён загінуў у яе на вачах... У крайняй роспачы яна пракляла возера, кінуўшы ў яго скавародку. Блін распусціўся ў вадзе, з яго зрабілася балотная гразь, якая і пачала зарастаць.

Кажуць, што гэта балота ізноў зробіцца возерам, калі з яго дна дастануць тую скавародку.

## *702. ВОСТРАЎ НА ВОЗЕРЫ СІВЕРСКІМ

Бліжэй да паўночнага канца возера знаходзіцца востраў, аб якім народнае паданне гаворыць... Калісь ехала па гэтым возеры Сіверскім нейкая знакамітая княгіня на вялікай лодцы. Гэтая лодка затанула разам з усім скарбам княгіні. Доўга стаяла лодка на дне ракі. Прайшлі гады. Паказалася з вады карма, а пасля і нос лодкі.

Леснікі бачылі карму лодкі і разбіралі яе сабе на дошкі, але ж большая частка лодкі і скарб так і засталіся на дне возера. І на тым месцы ўтварыўся востраў, на якім цяпер растуць кусты лазы, бяроза, асіна.

## 703. СІНІ КАЛОДЗЕЖ

Даўно колісь ета было, шчэ спрадвеку. Жылі ля Прапоську два багатыры — Сцяпан і Марка і багатырка Кацярына. І багатыры етыя ўдвох заляцаліся перад ёй. Дык Сцяпан быў слабейшы, ды ёй любы, а Марка сільнейшы, ды нялюбы. Ну, й дайшло дзела да таго, што за каторага ды трэба замуж ісці,— сватаюцца дужа. Што ёй рабіць; пайду, думаець, за Сцяпана — Марка яго ўб'ець; пайці за Марку — Сцяпана жалка. Думала, думала і прыдумала.

— Ну,— гаворыць,— дам я вам па камню, хто дальша свой камень шыбнець, за таго замуж пайду.

Дык любаму яна дала меншы камень, з стол, а нялюбаму большы—з мужыцкую печку. Ну, і сталі кідаць чэраз Сож з гарадца во з Прапоськага. Дык яны як размахнулісь, дык кінулі ажны за дзевяць вёрст. Ну, пайшлі глядзець, чый дальша, бачыць яна — аж любага камень ляжыць. Стала тагды багатырка на еты камень— аж сляды выціснула, шчэ й цяпер знашны — стала глядзець, аж нялюбага камень дальша сажняў на пяцьдзесят. І на тым камні відны пальцы рукі багатырскай. От яна тагды і гавора:

— Чымся мне даставацца нялюбаму, дык пайду лучча вадой служыць.

Як бразнулась з камня, разлілась вадой і пачала ныраць: ямы, ямы ўсюды там. А выскачыла з-пад зямлі ўжэ вёрст за пяць ад Прапоську, сюды, бліжа к Сожу. Дык вада б'ець у рост чалавека, і вада сіня. Так і завецца «Сіні калодзеж». І колькі там народу бывае — божа, божа!

А як яго ўвазналі, еты Сіні калодзеж, дык ета во як. Быў там ляснік Шэпіт. Ён кажан раз абходзіў свае дзесяціны. Вот раз ідзе ён, чуе — шумота, за дзве вярсты чутно. «Што за штука? — думае.— Кажды раз хаджу — нічога не было, а тут шум. Дай палягджу!» Пайшоў ён туды,— ажны б'ець вада сіняя, сіняя з-пад зямлі, і ў рост чалавека. І стаіць ля калодзежа жанчына, косы распусціўшы, і чэшацца. Шэпіт спужаўся. Але думаець: «А, што будзець — не будзець, пайду-тка я яе зачураю!» Падыходзя к ёй, ды неяк не пасцярогся — пруцік хруснуў пад лапцем. Дык яна зір!

— А, Шэпіт: хацеў зачураць мяне! Будзець жа ў твой род патопа.

Ды сама ў калодзеж. Дык на трэці дзень у яго дочка, дзевятнаццаць гадоў, утанула ў Сожы. Во!

## ПРОЗВІШЧЫ

### 704. [ПАН НАДАВАЎ ПРОЗВІШЧЫ]

Старэйшыя людзі ў Тафілаўцах Дубіцкай гміны яшчэ памятаюць, што пан у іх называўся Вэлевэцкі...

Пан гэты, як кажуць, пахрысціў амаль усіх дзяцей у Тафілаўцах і надаваў прозвішчы залежна ад таго, да чаго былі здольны бацькі... Корч, Жубэр (відаць, бацька быў моцны, як зубр), Ціхі, Дзіда, Рыбак, Жак, Топур, Пень, Роля, Кулік, Фурса (відаць, бацька задаваўся сабой)... Гэтыя прозвішчы і па сённяшні дзень засталіся.

Застаўся таксама яшчэ адзін выразны след гэтага пана, адно ўрочышча-палетак, якое называецца Вэлевэччына... Кажуць яшчэ, што перад смерцю ці перад выездам пан гэты свой скарб утапіў непадалёк сваёй сялібы ў бяздоннай крыніцы, дзе і цяпер яшчэ дрыгва і ніколі яна не засохне.

### 705. АДКУЛЬ УЗЯЛОСЯ ПРОЗВІШЧА КАПАЧ

Яшчэ пры паншчыне было гэта.

О ля тут, дзе цяпер могілкі, стаяла вялікае сяло. Людзі кепска жылі, бо рабілі на пана чатыры дні ў нядзелю, а на сябе два. Хоць у бядзе жылі, ды не тужылі. Але гасподзь паслаў кару на людзей. Убілася ў сяло — не пры нас спамінаючы, хай яе на сухі лес нясе — халера. Забалелі ўсе людзі і пачалі паміраць, як мухі ўвосень.

Каторыя дужэйшыя былі, тыя хавалі нежывых. Праз месяц усе павыміралі. Астаўся адзін толькі чалавек. Ён усіх хаваў, вунь на той горцы. Тутака і сталі могілкі.

Так як гэты чалавек усіх закопваў, то яго і празвалі Капач. Ён перасяліўся потым у наша сяло, ажаніўся тут. З таго часу і пайшлі Капачы.

### 706. [АДКУЛЬ ВЯДЗЕЦЦА ПРОЗВІШЧА МІРАНОЎСКІ]

Мой дзед расказваў, што некалі ў нашу вёску прыйшлі тры браты — Міраноўскія з Кіева. Бо, не кажучы ў хаце, у Кіеве была халера. Два браты былі невысокія, сярэдняга росту, а трэці — высокі-высокі. З яго людзі ў вёсцы смяяліся, і ён пайшоў назад у Кіеў, а два браты асталісь у нашым сяле. Ад гэтых братоў Міраноўскіх і вядзецца мая фамілія.

## *707. АДКУЛЬ ПАЙШЛО ПРОЗВІШЧА РУБЦОЎ

Паходжанне майго роду няясна. Я сам нядаўна даведаўся, што прадзед мой быў беглым і, ратуючыся ад кары, прыпісаўся прыгонным да нейкага памешчыка ў Манастыршчыне. Пра сябе ён сказаў толькі тое, што завуць яго Антон. А так як уся спіна яго была пакрыта рубцамі ад пабояў, дык пан нібы вызначыў:

— Будзеш Антон Рубец.

Адсюль і пайшло прозвішча Рубцоў.

Дзіўна тое, што, нават паміраючы, ён не сказаў сваім дзецям, гэта значыць і майму дзеду,— хто ён і адкуль. Сказаў толькі, як перадалі мне сваякі:

— Ведаць гэта вам ні да чога.

## 708. [АДКУЛЬ РОДЫ СОБАЛЯЎ І ЧАРЭМХАЎ У АЗЯРКУ]

Кажуць, што тут было адно з найпрыгажэйшых месц, калі яшчэ прасціралася вакол непраходная і змрочная Крынкаўская пушча... І ўпадабаў гэтую мясціну каралеўскі асочнік-ляснік Собаль. За верную службу каралева Бона прыхілілася да просьбаў Собаля і надзяліла азярцом ды некалькімі валокамі навакольнай пушчы. Узяўся асочнік карчаваць пушчу, ды дзе тут яму аднаму такую крэкаць адолець! Прыдбаў ён сабе парабка Чарэмху. А той хлопец быў хвацкі: і на выгляд, што загледзішся, і ў рабоце, што не ўгонішся. Валіў пушчу на Собалевых валоках, аж сэрца ў гаспадара радавалася. І тут табе бяда... Была ж у Собаля дачка, галубіў яе бацька, бы зрэнку вока. Але ж прыйшоў ёй даспадобы Чарэмха, запалала яна да гэтага стройнага, як явар, і моцнага, як дуб, малайца гарачым каханнем. І дзяўчына юнаку любай была. Вось і ўпалі аднойчы маладыя да ног Собаля, каб паблагаславіў іх... Але той — у гнеў ды ў крык:

— Не дазволю,— маўляў,— каб дзіцё маё за парабка нявольнага замуж пайшло!

Што ж воля бацькава — святая воля. Карчаваў далей Чарэмха пушчу, а дачка Собаля паплаквала ў каморы. Але ж праз нейкі час раптам павесялела. Западозрыў бацька, што нешта тут няладнае, сачыць стаў ды заўважыў — маладыя ноччу ля азярца, на грудочку, спатыкаюцца. Кінуўся ён у псарню, сабак на Чарэмху пусціў. Дачка ж яму:

— Вы, татку, мілога сабакамі не цкуйце, лепш свайму ўнуку калыску рыхтуйце.

Анямеў Собаль ад такога, і рады — не рады хутчэй да шлюбу выправіў. Валокі дзве за дачкою пасагу даў ды ў азярцы рыбу лавіць дазволіў.

Так і павяліся ў Азярку роды Собаляў і Чарэмхаў.

## 709. [АДКУЛЬ ПРОЗВІШЧА ХАМУТНІК]

Кажуць, нейкі пан Драздоўскі выйграў у карты ў свайго суседа фальварак. Прыехаў туды, глядзіць, цешыцца. Загадаў эканому падаць сабе спісак прыгонных мужыкоў. А там — паншчынны селянін з прозвішчам Драздоўскі. Ускіпеў новы ўладальнік, ускочыў у брычку ды да ксяндза паімчаў. Сказаў выняць метрыкальныя кнігі, пырнуў пальцам у прозвішча таго селяніна:

— Хам не можа называцца так, як я! —, крыкнуў.— Выкраслі і напішы Хамут. Вечным Хамутом ён быў і будзе, а ўсе яго нашчадкі Хамутнікі.

Што ж, панскае слова — закон.

## 710. [ПРОЗВІШЧА КОТАЎ, А ПА-ВУЛІЧНАМУ СКАРАХОДАЎ]

Правільна мая хвамілія Котаў, а па-вулічнаму Скараходаў. Бацька майго дзеда быў такі ціхі мужык, што, бывала, летам зайдзе ў гумно і не выходзе адтуль днямі, а яго шукаюць дый кажуць:

— Чаго ты хаваешся, як кот у каноплі?

Ну і сталі зваць: кот і кот. Так катом і астаўся, а адсюль і хвамілія Котаў.

Тады быў памешчык, дый такі, каб яму ўсё зараз жа і выпаўнілі. Чуць скажа тое ці тое здзелаць, дак трэба быстра-быстра збегаць і прынесці ці сказаць. Ён дужа любіў майго дзеда. Як скажа яму, то бяжы зараз жа і прынясі ці скажы, дык за мінуту і там. Тады й кажа памешчык, што ты быстра бегаеш, твая хвамілія будзе Скараходаў. Ну й пачалі зваць Скараходаў.

## 711. АДКУЛЬ МЯНУШКА «БЛІНОК»

Бацька мой быў мельнікам і ўсё жонку сваю, маці маю, застаўляў бліны пячы штодзень. Дык празвалі яго Блінок. Ну, і я Блінок.

## 712. [АДКУЛЬ МЯНУШКА «БАБАШЭ»]

Некалі пастухі нашай вёскі Нагародавічы пакралі ў гезгалаўцаў, жыхароў з вёскі Гезгалы, боб. За гэта іх празвалі бабашамі.

# ПРА ЗАКЛЯТЫЯ СКАРБЫ

## 713. ГРОШЫ ЦВІТУЦЬ

Пайшла гаворка па сялу, што на беразе, каля ракі, дзе здаўна многа капцоў, грошы цвітуць. Кажуць, ужо колька раз бачылі здалёку, што на якомсь капцы ўночы гарыць агонь; але толька хто хоча падысці бліжэй, як той агонь і патухне. І пайшла гаворка, што ў капцоў закопаны заклятыя грошы; яны й цвітуць, хочуць, каб іх хто выбавіў з зямлі, бо мо й ім цяжка ляжаць без дзела. Дак от гавораць, што той і той бачыў, як цвітуць грошы, але ніхто не ведае, як іх узяць. Ведама, к заклятым грашом нельга падступіцца. Кажуць, адзін чалавек ужо пробаваў, але такога набраўся страху, што чуць жыў прыбег да госпады, да й пракачаўся ў хондзі нядзель з шэсць. Але ось быў у нас ляхчай, звалі яго Нічыпарам. Мабыць, ён трохі знаўся з усялякаю нечысцю, бо, бывала, падыдзе к жарабцу, пагладзіць яго па азадку,— той і стаіць, як укопаны. Вылехчае гэта Нічыпар жарабца, а той і не чуе, батцэ гэта муха ўкусіла. Толькі адзін раз кажуць: Нічыпар такі наскочыў на такога жарабца, што як трапнуў, дак у Нічыпара зубы й высыпаліся. Дак от Нічыпар і надумаўся ўзяць тыя грошы, што цвітуць каля ракі. Узяў гэта ён залязняк і пайшоў шукаць грошай.

Лета. Ночка хоць і цёмная, але цёплая, ціхая. Толька Нічыпар выйшаў за сяло, бачыць, аж каля ракі штось свеціцца, от бы гарыць, агеньчык, толькі сінім полымем. Сунуўся Нічыпар туды, а тут перад ім штось коціцца чорнае, бы капа; прыкацілася пад самыя ногі да як рассыплецца, дак толькі іскры гараць на траве. Пайшоў Нічыпар далей. Адкуль ні вазьміся — цэлая чарада ваўкоў, от так і садзяць на яго. Давай гэта Нічыпар махаць залязняком, насілу адбіўся. От падходзіць ён к капцу і толька чапнуў залязняком зямлі, аж як загрымаціць штось, як расступіцца зямля да выскачыць адтуль якоесь страшылішча, у Нічыпара й дух заняло. Кінуў ён залязняк да як сунуў да госпады, дак і сабакамі не дагоніш.

Прыбег, дрыжыць, бы асіна. Такі хондзю схапіў, а як вычухаўся, дык дзесятаму заказаў, як хадзіць шукаць заклятых грошай. Дак от і да гэтае пары ніхто не ведае, як падступіцца к тым грашом.

## 714. ЯК СКАРБ У КРУШНІ ПАКАЗАЎСЯ

Гараў ратай на полю, а мнейшы прыносіць яму палудзень; так ён валы выпраг, папалуднаваў і лёг трохі адпачыць і заснуў. Аж там была недалёка крушня вяліка. З ка́менеў зложана. Аж у той крушні загудзела моцна, так мнейшы будзіць яго:

— Устань!

— Што такое?

— Так і так.

Паглядаюць яны, аж агонь выходзіць стуль. Так яны гавораць:

— Мусіць, гэта скарб гарыць, трэба ісці яго паглядзець.

Але большы кажа:

— То не добры скарб, калі на палудню гарыць, мусіць, закляты.

— А не,— кажа,— то ідзі пагладзі.

Той падходзіць, хоча паглядзець, аж як вылеціць жаўнерска рука і з шабляй, як зачне кругом — шах! шах! — круціць, так ледзве ён стуль уцёк.

## 715. [ЯК АХРЫМ ГРОШЫ ЗНАЙШОЎ]

Пайшлі жаць, так у палудзень пад'елі, а гаспадар лёг пад megндлем і заснуў. Аж сніцца яму, што яго хтось будзіць і кажа:

— Чаго ты так на мяне наваліўся? Устань, адхапі і забяры, то будзе для цябе даволі на жыццё, але цвету то не будзе.

Так ён схапіўся, падумаў: што гэта такое? І заткнуў калочка на знак. Як пайшлі жаць, тады ён:

— Жывот мне баліць, пайду я,— кажа,— паляжу трошкі.

І пабег цішком дахаты, прынёс рыдлёўку, зачаў капаць ї выкапаў кацёлак. Занёс хутчэй дахаты, вярнуўся назад, яму зараўнаваў добра і пайшоў да жанцоў.

Было ў яго двое дзяцей, да ў паўгода абое паўміралі і больш ужо не радзілася. Так на жыццё меў даволі аж да самай смерці, але цвету, чылі дзяцей, больш ужо ў Ахрэма не было.

## 716. ЯК НЕ УДАЛОСЯ МУЖЫКУ СКАРБУ НА ШАЛЬЦІНЕ УЗЯЦЬ

Еднага разу людзі з Дрыгі абачылі серад ночы агонь на Шальціне, так забралося адзінаццаць смялейшых мужчын і пайшлі пагляну́ць, што там за агонь. Прыходзяць бліжэй, аж відзяць: на самой гарэ стаіць скрыня вялікая адчынена і ў ёй гарыць скарб.

Па канцох тае скрыні стаялі два вялікія брытане́, прывязаны на жалезных ланцугох. Падходзяць бліжэй, аж чуюць голас:

— Чаго вы хочаце?

Сказалі:

— Грошай!

Аж кажа ім:

— Запішыце вашы душы, то возьмеце гэты грошы!

Тыя спалохаліся і ўцеклі, а адзін музыка застаўся, кажа:

— Запішу!

Але падумаў: тую, што ў скрыпцы, душу.

А той брытан падскочыў да яго і ўдарыў яго па шчацэ так, што ён аж упаў. Тады брытан кажа:

— Не абшуквай мяне, бо я знаю, што ты думаеш.

Назаўтра прыйшлі і найшлі яго. Ён ляжаў, а знак на шчацэ ад лапы брытанавай застаўся аж да смерці. Замест грошай меў адну калошу поўну, а другую як завязаць... От абшукаў д'ябла!

## *717. УБОРАК

### [Заклятае багацце]

Аб ім расказваюць, нібы ў незапомныя часы там стаяў церам нейкай багатай княгіні, але, паміраючы і не маючы нашчадкаў, гэта княгіня пракляла і церам і ўсё сваё багацце. З цягам часу гэты церам зруйнаваўся, і на тым месцы засталася толькі вялікая гара. Кажуць, што адзін чалавек, ведаючы, што тут адбылося, хацеў было пакарыстацца скарбам; знайшоў грошы і набраў, як занесці, але ў той самы час, калі ён хацеў пайсці з набытай казной, аслеп і не трапіў на сваю дарогу, хоць яна была тут жа каля яго. Тады ён зразумеў, у чым справа, паклаў казну на ранейшае месца і тады, зноў пачаўшы бачыць, пайшоў дадому.

## 718. [СКАРБ]

Адзін гаспадар пад Замчыскам пільнаваў аднае ноччу збожжа, аж чуе голас:

— Ідзі за мною, то пакажу табе вялікі скарб і дам спосаб яго дастаць.

Таму чалавеку валасы дыбам сталі; адрокся збожжа, скарбаў і ўцёк.

На другую ноч зноў ён пайшоў пільнаваць, аж чуе той самы голас:

— Ідзі, пакажу табе скарб.

Ён і тым разам спалохаўся і ўцёк.

На трэцю ноч пайшоў ён зноў пільнаваць. Як толька прыйшоў, чуе прад сабой той самы голас, так няма рады, ідзе туды. Падходзіць, аж відзіць — вялікая скрыня стаіць і ў сярэдзіне скарб гарыць. А каля тае скрыні сядзіць вельмі прыгожа панна і кажа яму:

— Ідзі да ксёндза, каб прыйшлі сюды і адправілі набажэнства, толька каб забралі ўсе прыборы, што трэба да мшы свентай, то забераце гэты скарб і выбавіце мяне.

Ён зараз пайшоў да ксёндза і расказаў цэлы інтэрас. Ксёндз, забраўшы брацтва і прыборы, што было трэба да мшы, пайшлі на Замчыска і адправілі набажэнства. Але касцельны забыўся ўзяць з сабою таго нарэндзя, што свечы гасіць. Па набажэнстве ксёндз падходзіць да яе, а яна заплакала і сказала:

— Няшчасце ваша і маё: мушу пакутаваць навекі.

Яшчэ не дамовіла, аж замкнулася з велькім гукам скрыня з ёю і пайшла ў зямлю.

## 719. ЯК СКАРБ З-ПАД ПЛІТЫ ПАКАЗАЎСЯ

Мо будзе лет з семдзесят таму, ішоў з нашага сяла адзін чалавек да Інсцібава, ажно з-пад пліты пры дарозе вылазіць баба смарката, зубата і кажа:

— Чалавечку, ідзі сюды.

Але той, угледзеўшы, што такая страшная, не хацеў ісці. Так яна завярнулася, страсянулася, аж золата зазвінела, да і кажа:

— От дурны. Не хацеў ісці, а было б табе і тваім дзецям. Была-ка сто лет пад зямлёю, пайду ізноў.

Гэта кажучы, схавалася зноў у зямлю, і толькі ён яе бачыў.

## 720. ЯК СКАРБ З-ПАД ПЕЧЫ ВЫХОДЗІЎ

Адзін гаспадар пастанавіў хату, але ніхто не мог у ёй начаваць, бо абы ноч надышла, так вылазіць з-пад печы баран і ўсё кажа:

— Выйдзь! Выйдзь! Выйдзь!

Так яны ўжо, муляў, няма рады — уцякаюць.

Аднаго разу прыйшоў там падарожны і просіцца:

— Гаспадарыку, прымі мяне нанач.

— Што ж я,— кажа, табе параджу? Я сам у гумне начую, бо і мяне ў хаце нештась усё страшыць.

— Но, то я там буду начаваць.

— Добра.

Пайшоў той, запаліў цёску, лёг на пячэ і ляжыць, ажно як цёска згарэла, так... вылазіць нештась з-пад печы і кліча:

— Выйдзь! Выйдзь! Выйдзь!

Таму валасы ўжо дыбам сталі, ведама, муляў, адзін на цэлы дом. Але ўзяў кія і кажа:

— Ну, то выходзь!

Ажно, муляў, лезе да яго баран, а ён як спукае яму кіем па лобе, так, муляў, золата і рассыпалася, да ўсё імпералы. Той нагарнуў сабе колька хацеў, а рэшту гаспадаром аставіў і пайшоў у свет вандраваць.

## 721. [ПРА ЗАКЛЯТЫЯ ГРОШЫ]

Жыла калісьці, казалі, у нашай вёсцы адна ўдава, жыла, ды вось, скажыце, нешта ў хаце страшыць пачало. Толькі ляжа ўдава спаць, а нешта крычаць пачынае:

— Выкіну, выкіну!

Ішоў аднойчы салдат з арміі ды заначаваць захацеў у вёсцы. Солтыс яму і кажа:

— Завёў бы цябе да ўдавы нанач, але ва ўдавы нешта страшыць.

— Вядзі, дзядзька,— сказаў салдат.

Толькі лёг салдат спаць ва ўдавінай хаце, ды нешта пачало крычаць:

— Выкіну, выкіну!

Схапіўся салдат ды пачаў боты нацягваць, а тут як на злосць бот зацяўся і не налазіць на нагу. А над галавою нешта крычыць:

— Выкіну, выкіну!

Не вытрымаў салдат і закрычаў:

— Ды кідай к чорту!

І ў гэты момант нешта цяжкае бразнула аб зямлю. І як вы думаеце, што гэта было?

Грошы. Поўная торба грошай.

Падняў салдат з зямлі торбу і кажа да ўдавы:

— Ну, цяпер, Манька, дык пачнем мы жыць з табою.

Так салдат і ўдава сталіся багатымі.

## *722. [ЗАЧАРАВАНЫЯ ГРОШЫ]

Вяртаўся салдат з водпуску. Дарогаю засцігла яго ноч каля нейкай вёскі. Ён падышоў да хаты аднаго багатага і папрасіўся да яго нанач. Той не пусціў салдата ў хату, а дазволіў яму ісці начаваць у сарай.

Салдат пайшоў. Доўга яму там не спалася. Раптам чуе — нехта ходзіць каля гумна. Бачыць, ідзе па двару гаспадар і нясе шасна́стку серабра, падходзіць да ямкі, азіраецца навокал, прыслухоўваецца, высыпае яе ў яму і вяртаецца ў хату. Так яшчэ два разы зрабіў.

Калі трэцюю меру серабра ўсыпаў у яму і гаспадар пайшоў у хату, салдат ціхенечка адчыніў вароты сарая, зняў ■ сябе крыжык і кінуў яго ў яму з серабром. Пасля гэтага ён вярнуўся ў сарай і зноў пачаў пазіраць. Гаспадар жа прынёс яшчэ тры меры серабра, усыпаў у яму і зараз жа засыпаў зямлёй. Тады ўзяў стрэльбу, стрэліў і сказаў:

— Як е́ты выстрал паляцеў далёка, так мае грошы апусцецеся глыбока!

Услед за гэтымі словамі пачуўся звон грошай, што сыпаліся ў нейкую бездань.

Назаўтра салдат развітаўся з гаспадаром і пайшоў далей.

Праслужыўшы колькі яму было палажана год у войску, салдат вяртаўся дадому. Па дарозе ён зайшоў у тую вёску, дзе некалі начаваў. Гаспадар той хаты, у якой ён спыняўся, ужо даўно памёр. Дзеці ж яго жылі ў страшэннай беднасці. Салдат, убачыўшы гэта, сказаў ім, што ў іх ёсць вялікія грошы і сказаў узяць лапаты і ісці за ім у гумно. Тыя пайшлі за ім. Але перш чым пачаць раскопваць яму, салдат сказаў:

— Слухайце, тыя грошы, што да крыжыка — мае, а што пасля крыжыка — вашы.

Яны згадзіліся і адкапалі яму. Салдат узяў сваю частку да крыжыка. Падышла чарга браць грошы гаспадарам хаты. Але толькі знялі яны крыжык ад грошай, як пачуўся звон і грошы невядома куды зніклі.

### 723. [ГРОШЫ]

Адзін чалавек паставіў сабе нову хатку, але не мог там быць, бо ўсё штоноччу крычала:

— Ці вывернуць?

Так, бала, яны і ўцякаюць. Аднаго разу ідзе падарожна:

— Ну,— кажа,— я буду спаць.

— Добра.

Лёг той, ажно давай крычаць:

— Ці вывернуць?

— Ну, то выверні.

Так паўнютку хату золата навярнуў.

## *724. [ПРА СЛАБОДСКІ СКАРБ]

Два браты з сястрою замецілі скарб у калодзезі; зараз жа разам пайшлі яны здабываць яго. Сястра заснула каля калодзезя, чакаючы скарбу, а браты знарок не будзілі сястру, каб скарб застаўся ім адным. За такую хціўнасць не даўся скарб нікому і назаўсёды пайшоў з калодзезя.

## 725. АКОПЫ

Мая матка, вечны ёй покуй, жыла сто дваццаць лет, а бацька сто дзесяць, то што яны помнілі, што яны ўмелі розных баек, оказак, то на валовай скуры не спісаць. Бало, мама мяне возьме пад адну руку, брата пад другую і кажа:

— А то, дзеткі, даўней так было, так было.

Усё помніла: як ваявалі, дзе што. Але я раз малы быў, другі раз памяці добрай не маю, то пазабываўся. Анно гэта ведаю, бо не раз казала:

— От,— кажа,— дзеткі, іду я раз пад вечар каля акопаў, аж бачу — агонь. Мяне так якась кальнула: што гэта быць можа? Калі падыду, аж стаіць скрыня, на берагах дзве свечкі гарашь, а ў сярэдзіне сядзіць прыгожа паненка на золаце і чэшацца, а каля ёй зноў два страшныя сабакі на ланцугах. Так паненка, як мяне анно ўгледзела, так давай прасіць:

— А мая ж кабетка, не бойся, падайдзі тутай і забяры золато, то мяне ўвольніш, бо я заклята.

— Так я,— кажа,— хацела падысці, але сабакі як пачалі рвацца, так я ўцёкі...

Паненка заплакала і кажа:

Сядзела я тут трыста лет і яшчэ сядзець вымушана.

## 726. КЛАД ВОДЛІ ХМАРЫ-РАКІ

Раз дзесяць мужыкоў-руднякоў сядзяць водлі Хмары. Выходзіць к ім дзявіца, выець, што ніхто не бярэць яе замуж.

Падходзіць к аднаму мужычку:

— Вазьмі мяне замуж.

— Ды я жанат.

(Быў жа ён удоў і жанат на другой жонкі.) Тры разы паўтарыла свае сла́ва дзявіца, потым скрылась у гарэ, а із гары пасля таго выкацілась бочка; яна прарачыла:

— Ляжала трыццаць лет у гарэ, цяпер паляжу трыццаць лет у Хмарэ.

## 727. КЛАД-ВОБРАЦЕНЬ

Два браты знаλі, што ёсць клад: і бедны, і багаты.

Багаты пайшоў у здабычу, а бедны гаворыць:

— Сам клад прыдзець ка мне, када на́дабі.

Багаты клада не знайшоў, а з дасады, у насмі́шку, швырнуў беднаму ў вакно дохлую сабаку.

Дохлая сабака скінулась беднаму багатым кладам.

## 728. СКАРБ ДАЕЦЦА ПЭЎНАМУ ЧАЛАВЕКУ

Уміраў багаты мужык.

А як ва ўсіх багачоў атымаецца язык перад смерцю, то ён не мог сказаць, ідзе дзеньгі схаваў.

Прыснілась потым сынам, што клад схава́н у дупліністай ліпе, што бліз ракі; толькі клад дасца, не дасца двум Іванам, да двум каням буланым.

Аднача самі сыны ўзяліась рубіць ліпу. Толькі зрубленае дрэва ім не даецца ў рукі — пакацілась ад іх у раку.

Плывець і плывець — не даецца ім, застанавілась ля дзярэўні.

Уходзяць сыны ў дзярэўню, знаходзяць двух Іванаў, а ў іх два каня буланых. Прывялі Іванаў з канямі к ліпе — ліпу выцягнулі, клад дасталі, яе разрубіўшы.

Сыны адка́заюцца ад атцоўскага клада, гасцяць дзень і другей і трэці ў Іванаў: прынялі іх да чэсці.

Іваны ў благадарнасць ім закаталі золата ў хлеб, і той хлеб далі на дарогу. Што ты думаеш? Ніхто тога хлеба не з'еў і па разным случаям цераз сколькі рук ён к Іванам варацíўся.

## 729. [СКАРБ НА КРУТОЎЦЫ]

На Крутоўцы е скарб закопаны, але ніхто не можа натрапіць, у каторым гэта месцы. Адзін чалавек ішоў нядаўна да лёг сабе там спаць, ажно пачала нештась гарэць, так ён покатам стуль зляцеў — і ўцёкі.

## 730. [СКАРБ НА ГАРАДЫШЧЫ]

А зноў раз, то нябожчыца так казала: аднаго разу нас, дзяўчат, сабралася мо з пяць, і пайшлі мы па ягады. Ідзем па захадзе слонка з ягадаў, аж на Гарадышчы агонь зачаў гарэць. Мы думалі, што гэта хлопцы, падбягаем туды, ажно ж агонь усё — бух, бух, бух,

а нідзе нічога няма. Так мы гэта ў крык да ўцёкі. А мы, папраўдзе сказаўшы, дурныя былі, бо гэта скарб перасушваўся. Каб на цяперашні розум, то кінула б што кароткага і былі б грошы, а так...

## 731. [СКАРБ ЛЯ ХАДАРОЎКІ]

Старыя людзі кажуць, што між Новаю і Старою Хадароўкаю ест на полі дзве крушні, то пад гэтымі крушнямі павінна быць закопана дванаццаць бочак золата ад тых часоў, як рознага войска многа хадзіла: Сасы, татарэ да тарантасы. Потым кажуць, што якіесь людзі шукалі, круцілі свідрамі землю і не маглі-такі найсці.

## 732. [ПРА СКАРБ ЗАКЛЯТЫ]

Аднаго разу ў нядзелю я, паабедаўшы, прылёг на прызбе трохі аддыхаць да й моцна заснуў. Ось сніцца мне, што нейкі старац кажа, штоб я ўзяў штых да ішоў на капец паміж шляхам і Карпавым альсам. Я прыйшоў быццам туды да ўсадзіў штых у зямлю, а ён, схаваўшыся да палавіны, стукнуўся аб нешта цвёрдае. Прачнуўшыся, ухапіў штых да не то пайшоў, да проста пабег на той капец, каторага, здаецца, з роду не бачыў, а пра тое трапіў, як бы хтось за руку вёў пяць вёрстаў ад нашага сяла. Засунуў штых так глыбока, як і ў ва сне,— стукнуў аб штось цвёрдае. Штыхнуўшы кругом разоў з дваццатак, абмеркаваў, што тут закопана кована скрыня ў доўжкі вялікі щаг, а ўшыркі ступеней два без мала. Вярнуўся дадому, да змеркам, прыйшоўшы з сынам, мы сталі капаць да дакапаліся да вялікага каменя. Раскапаўшы яму з аднаго боку спускавата, з вялікаю патугаю выкацілі яго наверх, а на том мейсцы, дзе ён ляжаў, штыхавалі да нічога не найшлі. Той камень — то былі грошы заклятыя, бо як я праз цікавасць на другі дзень прыйшоў паглядзець, то яго і звання на том месцы не было — як у ваду кануў.

## 733. [ПРА СКАРБ У КАЛОДЗЕЗІ]

Там, дзе ад шляху пайшла паваротка на Зялёную Параслю, у правую руку, як ісці ад Рэчыцы к Хвайнікам, у калодзезі е вялікі браварны казан, поўны грошай, накрыты млінавым каменем. Сколькі раз людзі хацелі выкапаць тыя грошы, да як толькі дакапаюцца да таго каменя, каторым пакрыты кацёл, так зараз з Рэчыцы і ляцяць казакі з голымі шаблямі. Людзі паўцякаюць, то і казакі шчэзнуць, а далей і месца зараўняецца, як бы нічога ніколі.

## *734. [СКАРБ У АЗЯРЫЙСКІМ ГАРАДЗІШЧЫ]

Гадоў каля шасцідзесяці таму назад, да няшчаснага году (так называе народ 1812 год), прыехаў у сяло Мястэчка позна вечарам нейкі пажылы чалавек і прасіў рыбака перавезці яго на востраў і паказаць гарадзішча. Рыбак уначы доўга не згаджаўся, але калі той даў яму рубля серабром, перавёз яго на востраў.

Толькі яны прыйшлі да самай сярэдзіны гарадзішча, як перад імі з грукатам і віскам раскрыліся адны за другімі трое жалезных дзвярэй і адкрыўся склеп. Увайшоўшы ў яго, яны ўбачылі на крэсле цудоўную баярыню, ля ног яе двух хартоў, а побач, з правага і левага бакоў, застаронкі сярэбраных і залатых грошай. Чалавек той спакойна набраў у свой мех серабра і пайшоў. Выйшаў за ім і рыбак, думаючы: прыйду-ка я заўтра ўдзень да набяру як мага больш золата. На світанні ён сапраўды прыйшоў на гарадзішча, але ні золата, ні серабра, ні прыгожай баярыні і яе верных псоў, ні нават дзвярэй жалезных і муру каменнага і слядоў не засталося, а замест усяго гэтага перад ім, як і раней, узвышаўся круглы земляны насып, ускапаны месцамі то рукой шукальніка шчасця, то часам і капытамі скаціны, што пасвілася тут.

## *735. ПРА СКАРБ, ШТО ЗАКАПАЛІ ШВЕДЫ

За паўвярсты ад вёскі Таракані Кобрынскага павета знаходзяцца старыя могілкі, на якіх у вялікую суботу штогод з'яўляюцца вогненныя язычкі ад змяркання да поўначы. Гэтыя язычкі ўвесь час змяняюць свой колер і бываюць то белымі, то чырвонымі, то сінімі. Гэта ёсць не што іншае, як закапаныя тут шведамі грошы, якія перасушваюцца па закляццю ў вялікую суботу. Скарыстаць грошы не цяжка: варта толькі, не шануючы памяці пахаваных тут, ускапаць могілкі і раскідаць косці.

## *736. ПРА ЗАКЛЯТЫ СКАРБ

На паўночнай старане вёскі Вялікая Весь, за паўтары вярсты ад яе, можна бачыць невялікае ўзвышша. Тут час ад часу старажылы бачаць блакітнага каня, які гарцуе і пры набліжэнні да яго ўцякае і праваліваецца ў зямлю. Гэта ёсць закляты скарб, які нікому ніколі не даецца ў рукі.

## 737. [ЗАКЛЯТЫ СКАРБ]

Карчаваў корча да выкапаў гаршчок золата, да плача.

— Чаго ты, дзедку, плачаш?

— Я смерць сваю выкапаў.

## 738. [ПРА СХАВАНЫЯ БАГАЦЦІ ШУКЕВІЧА]

У Шукевіча было многа кніг, якія схаваны ў жалезным склепе. Дзе знаходзіцца гэты склеп, нікому не вядома. Шукевіч меў вельмі многа і іншых каштоўных рэчаў. Гэтыя ўсе каштоўнасці знаходзяцца ў склепе. Хто адчыніць крышку гэтага склепа, таго пасцігне смерць.

## 739. ЗАМЧЫСКА

У нашай рэчцы каля Замчыска, кажуць, што мноства грошай і ўсялякага багацтва, нават на Замчыску часта белы і чырвоны агонь паказваецца. От на што, аднаго разу пастушкі бачылі, пасучы на надодніка, на Замчыску стоячы, якуюсь асобу з шчоткаю ў руцэ, дый прасілася:

— Пачашэце мяне!

Але яны, дурні, патрупянелі чыста, дый паразбягаліся. А то ім шчасце само ў рукі лезла, бо гэта, відна, скарб хацеў даціся ўзяць.

## *740. БАБАУШЧЫНСКІ ПОГРАБ

У даўнія часы жыло тут мноства разбойнікаў, якія пабудавалі гэты пограб для таго, каб хаваць нарабаваныя багацці і мець прытулак. Пайшоўшы на свой промысел, разбойнікі кожны раз моцна замыкалі дзверы, завальвалі іх жорнамі і засыпалі зямлёю. Самы пограб і ўваход яны замаўлялі, так што ніхто з чужых ужо не мог прабрацца ў пограб.

Раз разбойнікі трымалі ў сябе ў палоне знатную дзеўку. Бацькі яе з дапамогай царскага войска рабілі ўсё, каб знайсці сваю дачку і пакараць злодзеяў. Калі пабачылі, што ўжо не схавацца ад войска, разбойнікі замкнулі яе і зачаравалі пограб, але праз некаторы час іх злавілі і забілі.

Бацькі адшукалі тое месца, дзе пакутавала іх дачка, і пачалі адкопваць уваход у пограб. Але кожны раз, як капачы дакопваліся да жорнаў, на іх і на ўсіх, што былі там, нападаў цяжкі сон і ніхто не паспяваў сысці з месца, а падаў там, дзе і стаяў, і засынаў навекі. Нямногія з тых, хто выжыў, пасля таго, як прачнуліся, убачылі, што раскопаная імі зямля вярнулася на месца і закрыла сабою тых таварышаў, якія былі бліжэй да дзвярэй. Тая ж самая работа была зроблена некалькі раз і не толькі бацькамі, але і іншымі людзьмі. І заўсёды канчалася тым жа. Ведаючы пра няўдачы ў мінулым, зараз усе баяцца ўжо капаць.

Яшчэ не зусім даўно, як запэўнівае народ, можна было чуць

стогны і просьбы няшчаснай дзяўчыны. Але так як разбойнікі, што яе зачаравалі, загінулі, не раскрыўшчы тайны, то дзяўчына кожны раз указвала, што вызваліць яе можна толькі тады, калі адшукаецца другі млыновы камень, які працаваў разам з тым, што прывалены да дзвярэй. Але як ні стараліся бацькі, камень той не знайшлі. Кажуць, што адна частка яго ляжала на цвінтары Гарадокскай царквы, якая правалілася скрозь зямлю, а другая пад кутным вуглом дома бацькоў дзяўчыны або яе няшчаснага жаніха.

## *741. [СХАВАНЫЯ СКАРБЫ]

...У Гарадоцкім павеце, каля вёскі Галубцовай, на беразе возера ёсць вялікая адзінокая магіла, якая называецца Галубец. Гавораць, што ў магіле схаваны вялікія скарбы. Расказваюць нават, што не так даўно ў магіле выкапалі злітка метала, мяркуюць — серабра, з качан капусты.

Гэта магіла насыпана нібыта над прахам вялікага воіна, які здабыў перамогу сваёю смерцю, а з ім былі закапаны і скарбы. Ручай, што цячэ паблізу, называецца Красінец, таму што пасля бітвы ён увесь быў чырвоны ад чалавечай крыві. Не раз людзі нібы бачылі на Галубцы сівага старца на белым кані. Ён з'яўляўся на яго вяршыні і знікаў, як толькі набліжаліся да яго людзі. То з'яўлялася пара вялізных дзіўных коней. Верылі, што гэта яны вартуюць схаваныя ў магіле скарбы.

Недалёка ад Галубца ёсць яшчэ адна магіла, якая называецца Буда. У сярэдзіне яе нібы знаходзіцца другая, меншая магіла. Расказвалі, што тут таксама захаваны нейкі вялікі ваенны начальнік, якога звалі Буда. На магіле бачылі белую буду, кібітку, запрэжаную тройкай белых коней, таму думалі, што і тут, як у Галубцы, схаваны скарбы.

## *742. [ЗАКЛЯТАЯ МАГІЛА ВОЛАТА]

У ваколіцах Полацка, расказвалі, у даўнія часы бесперапынна ішлі войны. І засталося паданне, што частка нейкага разбітага войска, баючыся, каб яго нарабаванае багацце не трапіла ў рукі непрыяцеля, золата і серабро, якое мела пры сабе, закапала ў зямлю на ўзгорку, а наверх паклалі дзікі камень. Ён павінен быў паказваць тое месца, калі б хто-кольвек з іх вярнуўся, каб адшукаць схаваныя скарбы. Але прайшлі сотні год, а камень ляжаў на тым жа месцы, а пад ім некранутыя скарбы.

Слухаючы такія размовы, некалькі полацкіх хлопцаў дамовіліся

пайсці ноччу на той узгорак, здабыць скарбы і падзяліць між сабой пароўну. Тады, калі ўсе спалі, узяўшы патрэбнае прыладдзе, выйшлі за горад.

Ноч была пагодная, неба ўсеяна зоркамі, а поўны месяц свяціў у вышыні. Ішлі ціха і асцярожна, каб іх ніхто не спаткаў на дарозе. Мінулі касцёл святога Ксаверыя, дзе спачываюць прахі манахаў і тутэйшых людзей, чулі, як адгукаліся галасы вартаўнікоў у Спасе, звярнулі з дарогі і пайшлі ўсцеж ракі аж да патрэбнага месца.

Узышлі на ўзгорак, знайшлі той дзікі камень. Палова яго была ў зямлі, а верхняя частка была пакрыта сухім мохам. Акапалі яго кругом, супольнымі сіламі вынулі з таго месца і глыбока ў зямлю ўваткнулі жалезную рапіру. І тады вострым канцом яна ўпёрлася нібы ў нейкую бляху. «Тут напэўна скарб!» — і пачалі раскопваць зямлю.

Працавалі доўга, часта пробавалі рапірай,— скарб ляжаў неглыбока, але колькі ні капалі, зямля ізноў асыпалася з усіх бакоў і напаўняла яму. Нейкі час стаялі ў здзіўленні, ім здалося, што скарб закляты, засыпаецца пяском і не хоча дацца ім у рукі.

Калі параіліся між сабой, што рабіць далей, на ўсходзе з'явілася чорная хмара, якая закрыла ўсё неба, і месяц схаваўся ў густых аблоках. Зрабілася так цёмна, што яны ледзь бачылі адзін аднаго, і пайшоў ціхі дождж.

— Работа лепей пойдзе, калі пясок крыху намокне,— сказаў адзін з іх.— А болей не траціма дарэмна часу.

Падбадзёрваючы сябе, дружна пачалі ізноў капаць і выкапалі цяпер такую доўгую і шырокую яму, якая ўжо лёгка не магла засыпацца.

Лапаты слізганулі па жалезу.

— Кацёл, кацёл з грашамі! — радасна закрычалі яны.

Толькі калі акапалі кругом і хацелі падняць з зямлі, убачылі, што гэта быў важкі жалезны панцыр; пакрываў ён грудзі шкілета, у якога пры боку ляжаў меч, а на чэрапу жалезны шлем. Сталі яны ў здзіўленні і глядзелі, як недарэчна падманула іх надзея.

Тады адзін смялейшы кажа:

— Пакінем гэты шкілет, а зброю возьмем сабе, няхай застанецца яна хоць пametкай аб нашай працы, якою правазіліся ўсю ноч.

Толькі яны намерыліся так зрабіць, як раптам бліскавіца асвяціла ўзгорак, і бачаць: стаіць агромністы асілак у жалезным панцыры і трымае востры меч над іх галовамі.

Трывога праняла іх сэрцы, грымоты ўзрушылі зямлю, і асілак прамовіў:

— Нікчэмныя! Золату і серабру прадалі ўсе пачуцці вашы, толькі ў багацце ўклалі свае надзеі, не ўшанавалі прах волата, які з годнасцю скончыў тут жыццё...

Загрымела ў аблоках, і асілак знік з іх вачэй...

Пры святле бліскавіцы ізноў убачылі перад сабой засыпаную пяском яму, і падалося ім, што на тым месцы зямля някранута была...

## *743. [СКАРБ НА МОГІЛКАХ]

Могілкі гэтыя знаходзяцца на даволі высокай гары, недалёка з паўвярсты ад вёскі Сапікі, і з'яўляюцца канцом грамадскай пашы, пакрытай зараснікам лесу. Паданне гаворыць, што ў гэтай гары закапаны вялікія заклятыя грошы і розная зброя. Пра ўсё, што знаходзілася ў гары, быў надпіс на каменнай пліце, якая ляжала на вяршыні гары. Але гэту пліту аб'ездчыкі пагранічнай карчомнай варты, прачытаўшы, скінулі ўніз, баючыся, каб гасудар імператар не замучыў народ, прымусіўшы капаць гэту гару. Пліта, кажуць, як толькі дакрануліся да яе, сама зляцела ўніз і патанула ў балоце пад гарой. Старыя расказваюць, што яшчэ за іх памяццю была на гары даволі глыбокая дзірка, у якую калі спусціць доўгі кол і пастукаць ім, дык пачуецца гук, нібы ад удара ў нейкія дзверы пустога месца. Дзюрка тая ўжо засыпалася і ад яе не засталося і следа, але калі цяпер, як гавораць, раскласці на гэтай гары агонь, дык зямля ў тым месцы ападзе. Але ніхто з сялян не адважваецца пацікавіцца, баяцца, каб потым суседзі не смяяліся з іх.

## *744. [ЗАКЛЯТЫ СКАРБ]

Урочышча Уборак за адну вярсту ад Цітвы знаходзіцца на беразе ракі Пціч. Пра яго расказваюць, нібы ў даўнія часы там стаяў церам нейкай багатай княгіні. Паміраючы і не маючы наследнікаў, княгіня пракляла і церам, і ўсё сваё багацце. З цягам часу гэты церам зруйнаваўся і на яго месцы засталася толькі вялікая гара. Кажуць, што адзін чалавек, ведаючы, што тут некалі было, схацеў пакарыстацца яе скарбам. Адшукаў грошы, набраў, як панесці, але ў той самы момант, як захацеў пайсці з набытаю казною, аслеп і не трапіў на сваю дарогу, хоць яна была тут жа каля яго. Тады ён сцяміў, у чым справа, кінуў казну на былым яе месцы і тады ізноў стаў відушчым і пайшоў сабе.

## *745. ДЗЕ ЦЕНЬ СЯГАЕ

Некалі пры дарозе з Войшыкаў у Заячкі стаяла старая жараластая ліпа. Хоць яе сэрцавіна даўно абярнулася ў парахно, а вершаліна цалкам змуршэла і абвалілася, але ніжнія галькі кожную вясну кучаравіліся густою лістотай...

Біліся тут, кажуць, якіясьці войскі. Біліся не на жыццё, а на смерць. І бачыць адзін военачальнік, што яго войска пахіснулася і пабегла пад націскам ворага. Схапіў ён тады абкаваны жалезам сундук з грашыма на заплату сваім салдатам і закапаў яго паблізу гэтага дрэва. Частка салдат таго военачальніка загінула ў гэтай бітве, і косці іх ляжаць побач з касцьмі іхніх непрыяцеляў на тых старых могілках, што каля ўрочышча Прыстань пры самай рацэ Нарве. Другая ж частка разам са сваім военачальнікам трапіла ў палон і пайшла ў няволю.

Міналі гады, хадзілі і ездзілі сюдою людзі, і расла сабе ўвысь ды ўшыр ліпа на пагорку. Ніхто так і не даведаўся б пра закапаны тут скарб. Але ж той военачальнік, дажыўшы да глыбокай старасці ў чужыне, перад самай смерцю напісаў завяшчанне. Згадаў у ім пра той сундук золата і дадаў, што закапаў яго тут у тым месцы, куды дасягае цень ліпы.

Прагныя дармовага багацця спадчыннікі мігам прымчаліся сюды і пачалі шукаць таго скарбу. Была якраз раніца, і цень разгалістага дрэва сягаў мо на паўвярсты ці болей. Кінуліся яны капаць. Валяць ямы ў рост чалавека, а там няма нічога. Тым часам сонейка паднялося і цень стаў іншае месца паказваць. Давай яны там ямы капаць. Не паспелі і да пояса выкапаць, як цень далей перабег. Капалі яны так, капалі раніцай, у поўдзень і ўвечары, а цень вёў іх усё ў новае месца. Капалі яны тыдзень, капалі месяц, спрытна наўсё перарылі, і аніяк не маглі на скарб натрапіць. І толькі тады, як са стомы не далі рады ўжо і ног валачыць, зразумелі, што скарбу не знойдуць, бо ў завяшчанні не было сказана, у якую пору года і дня той военачальнік сундук з золатам закопваў. Нічога іншага не засталося тым спадчыннікам, як толькі зрачыся пошукаў.

Цяпер цень сваім абсягам ужо не спакушае людзей шукаць той скарб. Ад старасці ліпа зусім засохла і звалілася. Нават добра невядома, дзе яна і расла.

## *746. ГАЛАВОЙ НАЛОЖЫШ

Калі тое было? А хто ж яго згадае! Мо яшчэ ў тыя незапамятныя часы, калі рака Сакалда тут плыла тым пакручастым старым рэчышчам, што цяпер Зэглерыхай завуць?

Каля лясной рачулкі Ланкі, усё ў адным месцы, кожны год позняй восенню, што ні вечар, агонь нейкі людзям яўляўся. Выкаціцца недзе з гушчавіны на палянку пад старыя дубы і круціцца. То падбяжыць, то падскочыць і аж зіхаціць рознымі колерамі.

Старыя людзі, угледзеўшы гэтае дзіва, меркавалі:

— Няйнакш, у закапаным скарбе золата пераліваецца. Багата яго, пэўна, там, калі агонь такі вялікі ды іскрысты.— Падумаўшы, перасцерагалі маладых:— Няпраўдай гэты скарб закладзены і таму смерці патрабуе.

Доўгі час яўляўся той агонь, але ніхто з тутэйшых не наважыўся шукаць ды адкопваць той скарб.

Аднойчы валэндаўся тут з вёскі да вёскі нейкі чужынец з сабакам. Не столькі людзі валацугам дзівавaліся, колькі тым сабакам. Надта ж ён верны быў свайму гаспадару: даволі крывым вокам на валацугу глянуць, як сабака з зубамі на цябе кідаўся; з найгоршай лясной крэкаці яго выводзіў, нікога да яго не падпускаў, калі той, бывала, п'яны пад плотам валяўся. Пачуўшы згадку пра скарб, пайшоў прыблуда вечарам на Ланку, падпільнаваў агеньчык і да вялікага скарбу дакапаўся.

Адкрывае прыблуда гаршчок, а там паверх золата запіска ляжыць: «Мяне ўзяўшы, галавой наложыш». Ён, доўга не думаючы, злапаў свайго сабаку, адрубаў яму галаву ды паклаў у гаршчок на месца золата, што сабе ў торбу высыпаў. Сам жа, ног пад сабою не чуючы ад радасці, паімчаўся ў карчму, што тады за рэчкаю, на скраю вёскі Сакалды стаяла. Бег жа не дарогаю, а нацянькі каля Здраеў на Зэглерыху, не зважаючы на багну ды дрыгву. Відаць, яму надта спешна да кварты гарэлкі было. Не заўважыў нават, як у адкрытае жорала ўваліўся. Рвануўся ў адзін бок, рвануўся ў другі, а золата ўсё глыбей у твань цягне. Спрабаваў скінуць торбу са скарбам, але багна ўжо па шыю засмактала. Закрычаў ён дзікім голасам: «Ратуйце!» — ды замест крыку толькі бурбалкі з жыжы выскачылі і шапка-малахай усплыла.

Толькі праз нейкі час наткнуліся людзі на косці яго зарубанага сабакі і картку пад дубам на Ланцы ды згніўшую шапку на жаралах каля Здраеў.

Потым дрыгву асушылі, зааралі ды засеялі травою. Цяпер улетку ды навосень стракацяць там касілкі, а агонь зусім не паказваецца.

## *741. [СКАРБ У БАЛОЦЕ]

Даўным-даўно, калі, кажуць, яшчэ і Пінска не было, нейкі багаты пан закапаў, паміраючы, скарб — шмат золата і розных дарагіх рэчаў, нарабаваных у народа. Пачалі шукаць людзі той скарб. Дазнаўся пра гэта бог і пабаяўся, што знойдуць бедныя людзі золата. Пан, што закапаў скарб, нібыта быў у вялікай ласцы ў бога. І вось бог, каб ахаваць багацце нябожчыка, ператварыў усе палі за вёскай у багністае балота, па якім нельга было ступіць. Гэтым самым ён перашкодзіў людзям шукаць скарб багацея. Тыя ж, хто пераступаў мяжу, за якой пачыналася балота, гінулі. Шмат, расказваюць, забрала яно людзей, а скарбу ніхто так і не знайшоў. І ўся бяда ў тым, што людзі ў адзіночку ішлі шукаць скарб. А трэба было грамадой, усім народам.

# АСНОЎНЫЯ КРЫНІЦЫ І ПРЫНЯТЫЯ СКАРАЧЭННІ

АА — Андреев Н. П. Указатель сказочных сюжетов по системе Аарне.— Л., 1929.

Анимелле — [Анимелле Н.]. Быт белорусских крестьян.— Этногр. сб., вып. 2. СПб, 1854. [Паданні з Себежскага п. Віцебскай губ.].

Анічэнка — Беларускі казачны эпас / Склад. У. В. Анічэнка.— Мн., 1976. [Публікацыя рукапіснага зборніка Э. Дмухоўскай 1898 г.].

Анучин — Анучин Д. Из поездки к истокам Днепра, Западной Двины и Волги: Очерки.— Сев. вестник, 1891, № 8.

Афанасьев — Афанасьев А. Н. Народные русские легенды / Под ред. И. П. Кочергина.— Казань, 1914.

Б.— Бараг Л. Р. Сюжэты і матывы беларускіх народных казак: Сістэматычны паказальнік / Рэд. І. У. Саламевіч.— Мн., 1978. [Легендарныя казкі, с. 109—142].

Бараг — Бараг Л. Р. Беларуская казка: Пытанні вывучэння яе нацыянальнай самабытнасці параўнальна з іншымі ўсходнеславянскімі казкамі.— Мн., 1969.

Барщевский — Барщевский Ян. Очерк Северной Белоруссии.— Иллюстрация, 1846, № 10.

Бел. адрыўны каляндар — Беларускі адрыўны каляндар на 1939 год.— Вільня, 1939.

Бел. каляндар — Беларускі каляндар.— Беласток.

Богданович — Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов.— Гродно, 1895.

Вилен. вестник — Газ. «Виленский вестник».

Витеб. губ. вед.— Газ. «Витебские губернские ведомости».

Вольскі — Вольскі В. Палессе.— Мн., 1971.

Выпісы — Выпісы з беларускае літаратуры.— М.; Л., 1925, ч. 1.

Гаўрук — Гаўрук Ю. Вясковыя рыскі. — Мн., 1926.

Гоман — Газ. «Гоман».

Демидович — Демидович П. П. Из области верований и сказаний белорусов.— Этногр. обозрение, 1896, № 1—3.

Дмитриев — Дмитриев М. Озеро Свитязь.— Вилен. вестник, 1860, № 41.

Добровольский — Добровольский В. Н. Смоленский этнографический сборник, ч. 1, 3.— СПб, 1891, 1894.

Живая старина — Час. «Живая старина».

Живоп. Россия — Живописная Россия, т. 3, ч. 2: Белорусское Полесье.— СПб; М., 1882.

Зап. РГО — Записки Северо-Западного отдела имп. Русского географического общества, кн. 2, 3.— Вильна, 1911, 1912.

Зорка — Зорка: Газета беларускіх дзяцей у Польшчы, штотыднёвік. [Запісы з Беластоцкага ваяв. ПНР].

Каб.— Кабашнікаў К. П. Паказальнік сюжэтаў беларускіх казак.— У кн.:

Чарадзейныя казкі, ч. 2 / Склад.: К. П. Кабашнікаў, Г. А. Барташэвіч. Мн., 1978, с. 603—686. [В. Легендарныя казкі, с. 638—645].

Каганец — Карусь Каганец. Творы.— Мн., 1979.

Караткевіч, Зямля—Караткевіч У. Зямля пад белымі крыламі: Нарыс.— Мн., 1977.

Караткевіч, Каласы — Караткевіч У. Каласы пад сярпом тваім, кн. 1—2.— Мн., 1968.

Карский, Материалы бел.— Карский Е. Ф. Материалы для изучения белорусских говоров, вып. 1—5.— СПб, 1897—1907.

Карский, Материалы сев.-малор.—Карский Е. Ф. Материалы для изучения северно-малорусских говоров, а также переходных от белорусских к малорусским, вып. 1, 2.— СПб, 1898, 1903.

Киркор — Киркор А. К. Этнографический взгляд на Виленскую губернию.— Этнографический сборник, вып. 3. СПб, 1858.

Крачковский — Крачковский Ю. Ф. Быт западно-русского селянина.— М., 1874.

Крывіч — Час. «Крывіч».

ЛіМ — Газета-штотыднёвік «Літаратура і мастацтва».

Лужанін — Лужанін М. Бабчын месяц. З кнігі: Людзі, птушкі, прастор.— Полымя, 1975, № 9.

Максимов — Максимов С. В. Обитель ■ житель: (Из очерков Белоруссии).— У зб.: Древняя и Новая Россия. СПб, 1876, т. 2.

Маладосць — Час. «Маладосць».

Мин. губ. вед.— Газ. «Минские губерниские ведомости».

Мин. листок — Газ. «Минский листок».

Мин. старина — Минская старина.

Мой родны кут — Зб. Мой родны кут.— Беласток, 1963.

Могил. губ. вед. — Газ. «Могилевские губернские ведомости».

Мяцельская, Камароўскі — Мяцельская Е. С., Камароўскі Я. М. Беларуская дыялекталогія: Хрэстаматыя / Рэд. М. В. Бірыла.— Мн., 1979.

Наш край — Час. «Наш край».

Неман — Час. «Неман».

Ніва — Газета-штотыднёвік «Ніва».

Никифоровский, Нечистики — Никифоровский Н. Я. Нечистики: Свод простонародных в Витебской Белоруссии сказаний о нечистой силе. — Вильна, 1907.

Никифоровский, Простонар.—Простонародные приметы и поверья, суеверные обряды ■ обычаи, легендарные сказания о лицах и местах / Собрал в Витебской Белоруссии Н. Я. Никифоровский.— Витебск, 1897.

Основа — Основа: Южно-русский литературно-ученый вестник.

ПГКБ — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі: Інфармацыйны навукова-метадычны бюлетэнь Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры.

Пракопчык, 1977 — Пракопчык Л. Даўгінаўскія вёрсты: Нарысы.— Мн., 1977. [Нарыс «Легенды старога Лоска»].

Пракопчык, 1981— Пракопчык Л. Адкуль у вёскі імя: Нарысы.— Мн., 1981.

Праменьчык — Праменьчык: Рукапісны літаратурна-мастацкі альманах Гудзевіцкай СШ Мастоўскага р. Гродзенскай вобл. (АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 113, сш. 1).

Романов, Бел. сб.— Романов Е. Р. Белорусский сборник, вып. 3, 4, 6.— Витебск, 1887, 1891; Могилев, 1901.

Романов, Материалы — Романов Е. Р. Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. 2.— Вильна, 1912.

Россия — Россия: Полное географическое описание нашего Отечества / Под ред. В. П. Семенова, т. 9: Верхнее Поднепровье и Белоруссия.— СПб, 1905.

Рыбаков — Рыбаков Б. А. Язычество древних славян.— М., 1981.

Сахараў — Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў, вып. 2. Рукапіс 1944 г. Захоўв. у Аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай б-кі імя Я. Коласа АН БССР (ЦНБАН), ф. 3, воп. 1, спр. 7.

Сементовский — Сементовский А. М. Белорусские древности, вып. 1.— СПб, 1890.

Сербов — Сербов И. А. Белорусы-сакуны: Краткий этнографический очерк.— Пг., 1915.

Сержпутовский, Сказки — Сержпутовский А. К. Сказки и рассказы белорусов-полешуков.— СПб, 1911.

Сержпутоўскі, Казкі — Сержпутоўскі А. К. Казкі і апавяданні беларусаў з Слуцкага павета.— Л., 1926.

Сержпутоўскі, Прымхі — Сержпутоўскі А. К. Прымхі і забабоны беларусаў-палешукоў.— Мн., 1930.

Славутинский — Славутинский А. Этнографические очерки Гродненской губернии.— Вилен. вестник, 1867, №119, 120.

СУС — Сравнительный указатель сюжетов: Восточнославянская сказка / Сост.: Л. Г. Бараг, И. П. Березовский, К. П. Кабашников, Н. В. Новиков; Отв. ред. К. В. Чистов.— Л., 1979. [В. Легендарные сказки, с. 185—217].

Суднік — [З запісаў Т. М. Суднік 1974—1978 гг.]— У кн.: Конференция: Этнолингвистические балто-славянские контакты в настоящем и прошлом. 11—15 декабря 1978 г. Предварительные материалы. М., 1978.

Тураўскі сл.— Тураўскі слоўнік / Склад.: А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін.— Мн., 1982, т. 1—2.

Хрэстаматыя — Хрэстаматыя па беларускай дыялекталогіі / Пад. рэд. Р. І. Аванесава і М. В. Бірылы.— Мн., 1962.

Чубинский — Чубинский П. Труды этнографическо-статистической экспедиции в Западно-Русский край, т. 1—2.— СПб, 1872, 1878.

Шейн, Материалы — Шейн П. В. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. 2, 3.— СПб, 1893, 1902.

Шейн, Песни — Шейн П. В. Белорусские народные песни с относящимися к ним обрядами, обычаями и суевериями...— СПб, 1873.

Шлюбскі — Шлюбскі А. Крывічанскія (беларускія) народныя легенды, не дазволеныя да друку царскай цэнзурай.— Крывіч, 1926, № 1. [Зап. на Віцебшчыне М. Я. Нікіфароўскім у 60—80-х гадах XIX ст.].

Шпилевский, Бел.— Шпилевский П. М. Белоруссия в характеристических описаниях и фантастических поверьях.— Пантеон.

Шпилевский, Путеш.— Шпилевский П. Путешествие по Полесью и Белорусскому краю.— Современник, 1853, т. 40; 1854, т. 48.

Этногр. обозрение — Час. «Этнографическое обозрение».

Этногр. сб.—Этнографический сборник, издав. ИРГО, вып. 3.—СПб, 1858. Заметки о западной части Гродненской губернии.

Янчук — Янчук Н. По Минской губернии: (Записки из поездки в 1886 г.). — Труды Этнографического отд-ния О-ва любителей естествознания, антропологии и этнографии. М., 1899, т. 61, кн. 9, вып. 1.

AT — The types of the folktale and bibliography Antti Aarn's Verceichnis der Märchentypen translated and enlarged by Stith Thompson. Second Revision (FFC, № 184).— Helsinki, 1961.

Barącz — Barącz Ks. Sadok. Bajki, fraszki, podania, przysłowia i pieśni na Rusi.— Lwów, 1886.

Barszczewski — Barszczewski J. Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach, t. 1—4.— Petersburg, 1844—1846.

Federowski — Federowski M. Lud Białoruski na Rusi Litewskiej, t. 1—3.— Kraków, 1897, 1902, 1903.
K.— Krzyżanowski J. Polska bajka ludowa w układzie systematycznym, t. 1—2.— Wrocław; Warszawa; Kraków, 1962.
Karłowicz — Karłowicz J. Podania i bajki zebrane na Litwie.— Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. 11—12.— Kraków, 1887, 1888.
Kerb.— Kerbelytė B. Lietuviu liaudies padavimų katalogas.— Vilnius, 1973; (Lietuvos TSR mokslų Akademija. Lietuvių kalbos ir literatūros institutas). Каталог літоўскіх нар. паданняў.
Kolberg — O. Kolberg. Dzieła wszystkie, t. 52. Białoruś — Polesie.— Wrocław; Poznań, 1968.
Moszyński — Moszyński K. Polesie Wschodnie.— Warszawa, 1928.
Pietkiewicz — Pietkiewicz Cz. Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego.— Warszawa, 1938.
Siemieński — Podania i legendy polskie, ruskie i litewskie / Zebrał L. Siemieński.— Poznań, 1880.
Swajak — Biełaruski Kalendar «Swajak» na 1919 hod.— Wilnia, 1919.
Switeź — Switeź: Księga pamiętkowa na uczczenie setnej rocznicy urodzin Adama Mickiewicza (1798—1898), t. 2.— Warszawa, (б. г.).
Tyszkiewicz K.— Tyszkiewicz K. Wilija i jej brzegi.— Drezno, 1871.
Weryha — Weryha W. Podania białoruskie zebrane przez Władysława Weryhę poprzedzone wstępem przez Jana Karłowicza.— Lwów, 1889.
Wisła — Час. «Wisła».

## АРХІВЫ

АБДУ — Архіў кафедры беларускай літаратуры філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна.— Мінск.
АГТ — Навуковы архіў Геаграфічнага таварыства СССР.— Ленінград.
АІМЭФ — Архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.— Мінск.
БВУ — Бібліятэка Вільнюскага дзяржаўнага універсітэта імя В. Капсукаса. Рукапісны аддзел.— Вільнюс.
ЦНБАН — Цэнтральная навуковая бібліятэка імя Я. Коласа АН БССР. Аддзел рэдкіх кніг і рукапісаў.— Мінск.

## ІНШЫЯ СКАРАЧЭННІ

а. з. — адзінка захавання
бл.— блакнот
в. — вёска
вар. — варыянт
ваяв.— ваяводства
воз. — возера
вол. — воласць
воп. — вопіс
г. — горад
гм. — гміна
г. н.— год нараджэння
г. п. — гарадскі пасёлак
губ. — губерня
збір.— збіральнік
л.— ліст
м.— мястэчка
п. — павет
пер. — пераклад
разр. — разрад
р. — раён
с. — старонка
спр. — справа
сш. — сшытак
ур. — урочышча
ф. — фонд
х. — хутар

## 157. [Пра шчодрыя вечары]

Шейн, Материалы, т. 3, с. 114—115. Зап. І. А. Карскі ў Лашынскай вол. Гродзенскага п.

Л а к о м а — тут: працавітая; а б с а р в а в а ц і — пільнаваццa, прытрымліваццa; н а й м н е й — сама меней; в ы ш к а — гарышча.

Шчодрыя вечары — вечары на каляды пачынаючы з 25 сн. па 6 студз. ст. ст. зваліся яшчэ святымі, або крывымі. У гэтыя вечары забаранялася прасці, шыць, гнуць што-небудзь, каб не пашкодзіць маладняку свойскай жывёлы, што народзіцца ўзімку.

Падобныя легенды звязаны з пятніцай (гл. 155—158).

## 158. Нечысць заманьвае ў балота

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 221—222, № 2149. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Хамы Кругліка.

К р у г о в і н а — круглы ўчастак-выпас; н е л а п ы — немалы, ладны; з а я д з ь — розныя насякомыя, якія кусаюць жывёлу (камары, авадні і інш.).

## 159. [Страх]

Демидович, с. 108—109. Зап. у с. Нікольск Мінскага п.

А д с т р э м п с я — адступіся; н е т у р а е — не зважае, не турбуецца.

Старыя павер'і: ад нячысцікаў, ваўкалакаў і іншых можна абараніцца, толькі набіўшы стрэльбу сярэбранымі манетамі (вядома і літоўцам); у поўнач, калі заспявае певень, уся нячыстая сіла знікае.

## 160. [Лоб у лоб]

Демидович, с. 110—111. Зап. у с. Нікольск Мінскага п.

П а д з е р ы ч ы — вёска ў тым жа Мінскім п. (зараз у Дзяржынскім р.); з а м а н у л а с я — захацелася; з а н я х а ц ь — панюхаць.

## 161. [Памяняў]

Демидович, с. 111. Зап. у в. Крамушаўка Навагрудскага п. ад селяніна.

В ы б р а н ы — убраны, прыгожа апрануты; д в у х р у л ь н а е р у ж'ё — двухстволка.

Вар.: Мост праз стагоддзі.— Беласток, 1982, с. 129. Зап. М. Шаховіч у 1973 г. у в. Ступнікі Бельскай гм. (Памяняліся на люлькі).

## 162. [Чорт]

Federowski, т. 2, ч. 1, с. 323, № 380. Зап. у в. Дубкі Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Шыцко.

Н а д в о р н а — чарада, пасвіць па чарзе ад кожнага двара.

## 163. [Пярун і чорт]

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 158, № 6. Зап. у Раснінскай вол. Сенненскага п. Магілёўскай губ.

В ы т о п а к — атопак, збіты, стаптаны лапаць.

Вар.: там жа, с. 157—158, № 5. Зап. у Мсціслаўскім п.

### 164. [Пярун і змей]

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 158, № 7. Зап. у в. Слідцы Сенненскага п. Магілёўскай губ.

Пачаевічы — сяло ў тым жа павеце (цяпер вёска ў Чашніцкім р. Віцебскай вобл.); змей — тут: нячысцік, чорт; перашчук — перастаў.

Вазілі зямлю на пеўні для пахавання змея не выпадкова. Певень, асабліва яго спяванне апоўначы, па нар. павер'ях, адпуджвае ўсякую «нячыстую сілу».

### 165. Скуль у чорта рогі знайшліся

Federowski, т. 2, ч. 1, с. 211, № 194. Зап. у в. Новікі Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Зосі Седачыхі.

### 166. Чорт у віхры

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 226—227, № 2152. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Лябедзіка.

Макавей — свята, першы спас, спраўлялі 1 жн. ст. ст.; лапікло — лапік, загон; канчаты нож — даўгі, вузкі і з вострым канцом; ку — кажу.

### 167. [Сусед-чорт]

Демидович, с. 112. Зап. у в. Лешчаўкі Навагрудскага п. Мінскай губ.

Прэндзінка — хуценька (польск. prędzaj — хутка); сцішна — тут: вусцішна.

### 168. [Сват-чорт]

Демидович, с. 113. Зап. у с. Нікольск Мінскага п.

### 169. Чорт у постаці цяляці

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 227, № 2153. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Купрэя Гаравых.

Гіра — грыўка над лобам; плішчыць — цягне, валачэ.

### 170. Чорт скінуўся бараном

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 223—226, № 2151. Зап. у в. Зажэвічы Слуцкага п. ад Паўлюка Саўчыка.

Багатнік — свята багач або другая прачыстая, адзначалася 8 верас.; кучыць — вельмі упрошваць, енчыць; Смятанічы — вёска, зараз у Петрыкаўскім р.; запалач — чырвоныя ніткі для вышывання; алёс, валёс, альса — нізіна, зарослая хмызняком; шамялях — шусь, раптам; гертаванне — замацаванне.

### 171. [Баран-чорт]

Демидович, с. 112. Зап. у в. Лешчаўкі Навагрудскага п. Мінскай губ. ад сялян.

## 172. [Пра чорта]

Ніва, 1977, № 37, с. 4. Зап. М. Гайдук у в. Баратынец Рускі Сямяціцкай гм.

## 173. [Сабака-чорт]

Демидович, с. 112. Зап. у с. Нікольск Мінскага п.

Б у д ы — урочышча паблізу сяла; ш у м — тут: пена.

Вар.: Этногр. обозрение, кн. 10, 1891, № 3, с. 240. Е. Ляцкий. Черт — изобретатель машин. Зап. у Пінскім п. Мінскай губ. Заўважаецца ўплыў таго ўражання, якое зрабіла будаўніцтва чыгунак і з'яўленне першых паяздоў у глухіх месцах б. Расійскай імперыі, калі паравоз («машыну») палічылі праявай «нячыстай сілы».

## 174. Чорт дурыць падарожных

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 222—223, № 2150. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Данілы Куляша.

А б о з н я — заезд у карчме, стайня для коней дарожных; л а н д а р — рандар, арандатар карчмы; д а к о л а — наўкола; к у ц ы — тут: чорт.

## *175. Бутрымава прыгода

Каганец, с. 49—50. 1902 г.

З а с у л л е — зараз вёска ў Стаўбцоўскім р. Мінскай вобл.; П а п о ў ш ч ы н а, Т у р ы — урочышчы; Б у т р ы м — нар. форма мужч. асабовага імя Барталамей (Варфаламей).

## 176. У лазе

Тураўскі сл., т. 2, с. 267. Зап. П. А. Міхайлаў у 1981 г. у в. Старажоўцы Жыткавіцкага р. Гомельскай вобл. ад Праскоўі Мікітаўны Жукоўскай, 1907 г. н.

## 177. [Пра чорта]

Ніва, 1980, № 5, с. 1. Зап. М. Гайдук у в. Вярхлес Супрасльскай гм.

К р э к а ц ь — багна, дрыгва.

Паводле даўніх нар. павер'яў, чорт, як і іншыя «нячысцікі», баіцца крыжа і ўсяго таго, што мае дачыненне да бога і царквы. Адсюль выслоўі: «Баіцца як чорт крыжа (храста, свянцонай вады, ладану, папа)».

## 178. [Як адна бабка бабіла чарцяня]

Демидович, с. 101—102. Зап. у в. Дубровіцы Навагрудскага п. Мінскай губ.

## 179. Дзяўчына і чорт

Тураўскі сл., т. 2, с. 259. Зап. В. Д. Лабко ў 1977 г. у в. Хачэнь Жыткавіцкага р. Гомельскай вобл.

Б у р к у н і т о я — расліны, якія ў народных вераваннях выконвалі магічную, ахоўную функцыю («Ек карову шчо-небудзь гоніць, а вана́ мокра робіцца, то буркун на шыю вешаюць». Тураўскі сл., т. 1, с. 95).

### 180. [Як выгналі чорта з балота]

Демидович, с. 100—101. Зап. у с. Нікольск Мінскага п.
Прышчыцъ — смажыць, пячэ.

### *181. Грай, грай, іграчу

Зорка, 1980, № 37, с. 2—3 (Нашы легенды і паданні). Зап. і апрац. М. Гайдук.
Войшкі — вёска ў Юхнавіцкай гм.; Нарва — Нараў, правы прыток Буга (бас. Віслы); звітна — спрытна; вужы і курачкі — сузор'і.

### 182. [Пра чартоў]

Ніва, 1974, № 16, с. 7. Зап. П. Гутнік у в. Азяблы б. Беластоцкага п.
Багон — багун (Ledum).

### *183. Курыш ці нюхаеш

Зорка, 1980, № 26, с. 3 (Нашы легенды і паданні). Зап. і апрац. М. Гайдук у в. Васількова Васількоўскай гм.
Студзянкі, Волька, Варашылы, Сахані — вёскі ў той жа гміне; шыткі — санкі-развалкі.

### *184. Чаму чэрці цяпер у хатах не водзяцца

Ніва, 1962, № 11, с. 5. Зап. і апрац. А. Чабор у Гайнаўскім п.
Параўн. «Як скарб з-пад печы выходзіў». Federowski, т. 1, с. 45—50.

### *185. [Шатан]

Barszczewski, т. 2, с. 20—21. З Расоншчыны (зараз Віцебская вобл.).
Расона і Нешчарда — азёры ў Расонскім р.

### 186. Відзімыя і нявідзімыя

АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 72, сш. 2, л. 71, № 80. Зап. В. І. Скідан у 1973 г. у в. Вялікі Бор Хойніцкага р. ад С. Ф. Дземідзенкі.
Вар.: Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 157, № 9. Зап. у м. Хіславічы Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ.; Добровольский, ч. 1, с. 87, № 19а, 19б.

### *187. [Лясун]

Barszczewski, т. 2, с. 51—52.
У карла — у карліка.

### 188. Дабрахот (лесавік)

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 215, № 59. Зап. у Раднянскай вол. Клімавіцкага п. Магілёўскай губ. ад селяніна Сцяпана Паўлава, 80 г.

## 189. Дамавы ездзіць на конях

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 231—232, № 2158. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Круглік.

Той, ён — тут: чорт. Па даўніх народных павер'ях, чорта небяспечна было называць яго уласным імем (каб ён не з'явіўся), таму пра яго гаварылі, называючы займеннікам або якім іншым словам; цёска — лучына; учвал — галопам; уздзеяна — «прыроблена», пычаравана знахаром; глупась — глыбокая ноч; сарока, чучала яе лічылася засцерагальным магічным сродкам ад «нячыстай сілы», яе вешалі асабліва ў стайнях.

## 190. Хут

Зап. Л. М. Салавей у 1975 г. у в. Навасёлкі Мядзельскага р. Мінскай вобл. ад сваёй бабулі Марыі Мацееўны Чарняўскай, 1878 г. н.

Хут (відаць, ад хуткі) — своеасаблівы вобраз дамавіка, духа-апекуна дома і дамовай гаспадаркі ў спалучэнні з некаторымі рысамі лятучага вогненнага змея (прылятае ў хату і прыносіць золата).

## 191. Гуменнік

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 89—90, № 51. Зап. у в. Кунтароўка Рагачоўскага п. Магілёўскай губ. ад селяніна Сяргея Аўтухова, 70 г.

Прыніжалі — збяднелі; Мікалай-угоднік — тут: Мікола зімовы, 6 сн. ст. ст.

## 192. Гуменніха

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 91, № 53. Зап. у в. Балсуны Рагачоўскага п. Магілёўскай губ.

'він — авін, ёўня; 'сець — асець, тое ж, што ёўня, сушня для снапоў.

## 193. Баннік

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 216, № 60. Зап. у с. Палуж Чэрыкаўскага п. Магілёўскай губ. ад селяніна Мікалая Паўлава.

## 194. [Русалкі]

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 140. Зап. у в. Балсуны Рагачоўскага п. Магілёўскай губ. ад селяніна Фёдара Канстанцінава.

Граная, або русальная, нядзеля — тыдзень пасля сёмухі; голючка — галінка; кружка — вакол; малнасць — невялікая колькасць.

## *195. [Пра русалку]

Шейн, Материалы, т. 3, с. 317—318. Зап. А. Астаповіч у с. Навасёлкі Ігуменскага п. Мінскай губ.

## 196. [Русалкі]

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 139—140. Зап. у в. Прыбор Гомельскага п. Магілёўскай губ. ад сялянкі Мар'і Івановай, 66 г.

З канюшні — з начлегу, начнога выпасу коней.

## 197. [Русалкі]

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 139. Зап. у в. Прыбор Гомельскага п. Магілёўскай губ. ад сялянкі Мар'і Івановай, 66 г.

Царкавішча — сяло, дзе было валаснос праўленне, Гомельскага п.; гутатахацца — гушкацца.

198. Русалкі

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 139, № 80. Зап. у м. Бялынічы Магілёўскага п. ад сялянкі Агаф'і Антонавай, 65 г.

У в. Хотамель Столінскага р. занатавана: «Росаўкі зкмецілі чалавека, пабралі жалезныя пранікі і забілі ў жыце» (Тураўскі сл., т. 2, с. 153).

199. Русалка

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 216, № 61. Зап. у м. Родня Клімавіцкага п. Магілёўскай губ.

Напрадка — напратка, вопратка.

200. [Русалка]

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 216. Зап. у Хіславіцкай вол. Мсціслаўскага п. Магілёўскай губ.

Вар. папярэдняга запісу.

201. [Пра прыгожую дзяўчыну, якая зносіла маладых пастухоў у лес]

Сахараў, л. 163. Зап. вучань Дзвінскай бел. гімназіі Ян Малаток у 1929 г. у Прыдруйшчыне Даўгаўпілскага п. ад бабулі, 1859 г. н.

Шкапляры (польск.)— ладанкі; ражанец — нітка з нанізанымі пацеркамі для адліку малітваў і паклонаў у католікаў.

202. Прысыпуш

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 217, № 62. Зап. у м. Родня Клімавіцкага п. Магілёўскай губ.

Дзейкаюць — кажуць.

203. Русалчын востраў

Тураўскі сл., ч. 1, с. 251. Зап. М. А. Саскевіч у 1980 г. у в. Пагост Жыткавіцкага р. Гомельскай вобл. ад Усціны Рыгораўны Герман, 1907 г. н.

Тонеж — вёска, зараз у Лельчыцкім р. Гомельскай вобл.; Купалны Йван — купалле.

*204. [Пра русалак і лоймаў]

Ніва, 1980, № 5, с. 1. Зап. і апрац. М. Гайдук у в. Верхлес Супрасльскай гм.

Лойма — істота, блізкая да русалкі. Уплыў літоўскай дэманалогіі: літ. laume — ведзьма.

205. Лойма

Federowski, т. 2, ч. 1, с. 266—267, № 294. Зап. у в. Хадароўка Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Антона Дзежкі.

Лойма — гл. заўв. 253; кіянкамі — пранікамі.

## 206. [Чаму маці перастала плакаць па дачцэ]

Демидович, с. 136. Зап. у с. Нікольск Мінскага п.

Усесвятыя — царкоўнае свята (1 лістап. ст. ст.); прытвор — бабінец, пярэдняя частка царквы; смярцьвіцэ — нябожчыкі; рачы — ручаі (поту).

## *207. Зачараваная дзяўчына

Шейн, Материалы, т. 2, с. 427—428. Зап. навучэнцы Свіслацкай наст. семінарыі Тараскевіч і Габроўскі ў в. Цераховічы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ.

Параўн. паданні пра заклятыя скарбы (713—747).

## *208. Зачараваная жанчына

Шейн, Материалы, т. 2, с. 449—450, № 272. Зап. навучэнец Свіслацкай наст. семінарыі Ціт у в. Ражковічы Пружанскага п. Гродзенскай губ.

## 209. Начніцы

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 233—234, № 2159. Зап. у в. Рожан Слуцкага п. ад Рэдкага.

Сак — рыбалоўная прылада; начніцы — тут: істоты, падобныя на русалак.

## 210. [Пра мару́]

Ніва, 1978, № 26, с. 3. Зап. Я. Леанчук, М. Шаховіч у в. Багушэва Сакельскай гм. ад Данілоўскага.

Мара — вобраз нар. дэманалогіі, прывід, злы дух.

Вар.: там жа. Зап. у в. Сакі Бельскай гм.

## 211. [Пра мару́]

Ніва, 1978, № 26, с. 3. Зап. Я. Леанчук і М. Шаховіч у в. Галіцкія Заблудаўскай гм.

## 212. Мара́

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 234—235, № 2160. Зап. у в. Колкі Слуцкага п. ад Сямёна Кручка.

Не на панкі — няўцям, ні пра што не дбаць; лабаза — жорсткае сена або розная трава, пустазелле; воз — тут: сузор'е; па загумеччу — па загуменню; прашкі — нічога; вузгалавень — частка воза; жумрыць — хрумсціць.

## 213. Ваўкалака

Романов, Бел. сб., вып. 4, с. 102—103, № 59. Зап. у с. Марковічы Гомельскага п. Магілёўскай губ. ад селяніна Філіпа Іванова.

Для — ля, каля; папняўся — тут: пасварыўся (параўн. рус. пенять — скардзіцца, дакараць); ку — кажу; байдужа — канец; чараднік — пастух.

Ваўкалак, пярэварацень, чалавек, ператвораны ў воўка, персанаж міфалогіі, які быў вядомы не толькі славянам, у прыватнасці беларусам, але і суседнім літоўцам. Паводле даўніх павер'яў, ваўкалак валодаў незвычайнай сілай.

Пра глыбокія карэнні міфалагічнага вобраза ваўкалака гл. Рыбаков, с. 581—585.

### 214. Ваўкалакі

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 257—258, № 2221. Зап. у в. Бучча Слуцкага п. ад Рыпіны Бортнікавай.

Ш э н я — плеценая з бяросты кашолка; з я х а е м — раскрываем рот; п а с т ы р ч а к а — патарчака.

### * 215. [Ваўкалакі]

Основа, 1861, № 11—12, с. 135—136. П. Ревякин. Сближение и следы. 1. Вовкулаки (невро-литвины). Зап. на х. Воўча Даліна Васількоўскага п. Кіеўскай губ.

Л і ц в і н о к — тут: беларус, бо на Украіне ў той час беларусаў называлі ліцвінамі; н і ш к а м — (укр.) — ціха; п л у г в а л о ў — пара валоў; А ў д а к е я — свята, адзначалася 1 сак. ст. ст.; н у ж а — чужое.

### 216. [Як чалавек жыў ваўкалакам]

Демидович, с. 144—145. Зап. у Мінскай губ.

П а з о р ы с т а я — статная, відная.

### 217. Як чараўнік абярнуў вясельны поезд у ваўкоў

Шейн, Материалы, т. 3, с. 256. Зап. наст. нар. вучылішча Несцярук у Кастравіцкай вол. Слонімскага п. Гродзенскай губ.

Д р у ж б а — тут: вясельная дружына; т о ч к а ю — стаяй, гайняй; д з я ж к і — тут: паскі, палоскі.

### 218. [Жаніх-ваўкалак]

Демидович, с. 142—143. Зап. у с. Нікольск Мінскага п.

К л а н я ц ц а — тут: запрашаць на вяселле.

### * 219. Заклятае вяселле

Siemieński, c. 134—135, № 139.

### 220. [Сын-ваўкалак]

Демидович, с. 144. Зап. у м. Усялюб Навагрудскага п. Мінскай губ.

П р у г м е н ь — прыгуменне; п а в я с — пояс; т а т ы к — як, падобны.

### 221. Жаўнер і ваўкалак

Сахараў, л. 30—31. Зап. С. Сахараў у 1940 г. у в. Стырблі Ілукстэнскага п. ад Пятра Касінскага, 1891 г. н.

П а к у р ы — тут: абкуры.

**222. [Вядзьмак-ваўкалак]**

Шейн, Материалы, т. 3, с. 257. Зап. А. Астаповіч у 70-х гадах XIX ст. у с. Навасёлкі Ігуменскага п. Мінскай губ.

**223. Перавернуты**

Афанасьеў, с. 55—56. Зап. М. Дзмітрыеў у Навагрудскім п. Мінскай губ.

*** 224. Пра хцівага пана, якога абярнулі ў вупара, і пра яго збавенне**

Karłowicz, 1887, с. 259—260, № 21. Зап. у 1870 г. у Лідскім п. Віленскай губ.

**225. Расамаха**

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 262—263, № 2225. Зап. у в. Рожан Слуцкага п. ад Рэдкага.

Б а б р а в і н а — бабровая хатка; л а н о — калені; х і с т а ц ь — гойдаць; з а к м е л а — прыкмеціла, заўважыла; ш ч у р а ч к і — тут: бурбалкі.

**226. Кадук**

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 231, № 2157. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Рыпіны Гаравых.

*** 227. Дамавікова ўдзячнасць**

Зорка, 1976, № 39, с. 2—3. Казкі пушчы. Зап. у в. Крывец Нараўскай гм. і апрац. М. Гайдук.

Г о л ь к а — дубец.

*** 228. Літоўскі вуж**

Народные славянские рассказы, изданные И. Боричевским.— СПб, 1844, с. 121—123.

Адзначаны як «расказ чарнарускі».

А к а п і р н а с, Ж а л г і у н-К а р а л ю с — вобразы літоўскай дэманалогіі. Паколькі твор змешчаны сярод «славянскіх расказаў» і адзначаны як «чарнарускі», дык можна меркаваць, што пад ліцвінам тут трэба разумець беларуса. Наогул жа, культ змяі, асабліва вужа, уласцівы вераванням абодвух суседніх народаў. Тое, што апавядаецца ў гэтым паданні пра вужа, у значнай меры было вядома ў беларускай вёсцы. Вужы сапраўды вяліся ў многіх хатах, і да іх ставіліся як да свяшчэнных істот, як і да буслоў. Паводле даўніх павер'яў, яны прыносілі шчасце дому, ахоўвалі яго ад усякай злыбяды.

**229. Цар гадзюк**

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 255, № 2217. Зап. у в. Буччa Слуцкага п. ад Грышкі Бондара.

З в і ж а н н е — царкоўнае свята, 14 верас. ст. ст.; к л ю ч — тут: чарада гадзюк.

**230. Вужава карона**

Гоман, 1916, № 15, с. 2—3. Беларускія легенды.

Д а к о н ч а — д а к о н ц а — абавязкова; т ы к е л я — толькі; в о р а ш н а — страшна; с у т а н к а в а т а (ад сутонне) — вечарэла; н а д о б н ы я — прыгожыя; н а д з і л і — вабілі; з р а і л і с я — зрасліся, з'ядналіся.

Легендарная казка, у якой адлюстравана тая ж даўняя вера ў змяінага цара і чарадзейную сілу яго кароны або ражкоў.

Міфалагічны вобраз цара змеяў выкарыстаў М. Багдановіч у вершы «Змяіны цар» з цыкла «У зачараваным царстве» (у якім ёсць яшчэ вершы «Лясун», «Вадзянік» і інш.). Багдановіч М. Збор твораў. У 2-х т.— Мн., 1968, т. 2.

## 231. [Пра змея]

АІМЭФ, ф 8, воп. 74, спр. 84, сш. 2, л. 37—38. Зап. Л. М. Салавей у 1974 г. у в. Вялікія Хальнявічы Крупскага р. Мінскай вобл. ад Н. К. Красняковай.

## 232. Аб стральцы і змею

Ніва, 1975, № 28, с. 1—2. М. Гайдук. Альхоўка (Краязнаўчы слоўнік). Зап. М. Гайдук у в. Вальхоўка Нараўскай гм. ад сталяра Янкі Скепка, 60 г.

А б р у б — дзялянка, участак лесу.

## 233. [Трасца]

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 268, № 2236. Зап. у в. Рожан Слуцкага п. ад Рэдкага.

Персаніфікаваныя хваробы таксама належаць да вобразаў нар. дэманалогіі, а вусныя расказы пра іх — да жанру страхаў.

## 234. Паморак

Сержпутовский, Сказки, с. 139—142, № 69. Зап. у в. В. Рожан Слуцкага п. Мінскай губ. ад Рэдкага.

П л я г а — тут: напасць, ліха; о с т у п — аблога; л о с к а м — покатам, у рад.

## 235. [Паморак]

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 273, № 2250. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Данілы Куляша.

## 236. Паморак

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 272, № 2246. Зап. у в. Гаўрыльчыцы Слуцкага п. ад Мікіты Сергяені.

З а г у м е ч а — загуменне; с м о л н а — моцна, неадчэпна; в а ў ё з — прывёз.

## 237. Пошасць і паморак

Сержпутовский, Сказки, с. 39—40, № 17. Зап. у в. Лучыцы Мазырскага п. Мінскай губ. ад І. Аземшы.

Х о ц ь ш у п л ю й — бяры шуфлем; г у б а — усякія грыбы ядомыя, апрача баравікоў; з у б л ё н к і — рыбалоўныя восці.

## 238. [Халера]

Federowski, т. 1, с. 7, № 10. Зап. у в. Азяранкі Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Фелікса Феранчука.

Шылавічы — вёска, цяпер у Ваўкавыскім р.

## 239. Халера

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 266—267, № 2229. Зап. у в. Вёска Слуцкага п. ад Рамана Канцавога.

Курава — пыл; маскаль — салдат.

У 1830 і 1840 гг. у Беларусі сапраўды былі эпідэміі халеры. Памяць аб ёй захавалася, напрыклад, у абзыванні: «Халера трыццатага года!» (Выслоўі.— Мн., 1979, с. 269).

## 240. [Пра халеру]

Ніва, 1975, № 36, с. 5. Зап. М. Шаховіч у в. Сакі Бельскай гм.

Так зв. абыдзённыя ручнікі, напраныя і вытканыя ў адну ноч, служылі магічным сродкам пазбаўлення рознай бяды (пошасці, мору, засухі і інш.). Вядомы выпадкі, калі ў гады Вялікай Айчыннай вайны на часова акупіраванай тэрыторыі Беларусі жанчыны ткалі такія ручнікі «на пагібель фашыстаў».

## * 241. Халера саракавога року

Каганец, с. 38—40. 1902 г.

Волма — вёска, зараз у Дзяржынскім р. Мінскай вобл.; руб — тут: нітка або шво; пакалкам — граззю.

## * 242. Баб'ягорац і пошасць

Зорка, 1976, № 44, с. 4—5 (Казкі пушчы). Зап. і апрац. М. Гайдук.

Варыва — гародніна: буракі, капуста.

## 243. Воспа

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 267, № 2230. Зап. у в. Абідземле Слуцкага п. ад Рыгора Рэпчына.

Гародня — вёска Гародная, зараз у Столінскім р. Брэсцкай вобл., даўні асяродак ганчарнага рамяства.

## 244. Напасць

Шейн, Материалы, т. 2, с. 400—401, № 226. Зап. валасны пісар А. Ганус у Мсціжскай вол. Барысаўскага п. Мінскай губ. ад М. Стрэльчанка.

Касцюкі — зараз вёска ў Барысаўскім р.; прыжорнаўскія молаты — вострыя прылады, якімі насякаюць, «наклёўваюць» жорны каменныя.

## 245. [Урокі]

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 245, № 2195. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Данілы Куляша.

П а д з і ў — урокі ад здзіўлення.
Гэты і наступныя 8 запісаў — страхі, звязаныя з павер'ямі і забабонамі, верай у чарадзейства, знахарства, урокі, долю і г. д.

## 246. Доля добрая, та й жытка добрая

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 260—262, № 2224. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Матруны Гаравых.
К а л і т к і — відаць, калітнік, жоўтыя гарлачыкі (Nymphaea).

## 247. Даліна

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 265—266, № 2228. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Рыгора Бохмата.
Н а г д ы р а ц ц а — надрывацца, занадта старацца; п л ю ш н а — шкодная для каровы балотная расліна, падобная на аер.
Пра веру ў ліхую гадзіну і сілу праклёнаў.

## 248. [Панскі заклён]

Ніва, 1967, № 2, с. 2. Зап. М. Давідзюк у в. Відава Бельскай гм.

## * 249. [Папарадь-кветка]

Киркор, с. 156—157. Тое ж: Вестник ИРГО, т. 21, ч. 6, с. 286; тое ж: A. H. Kirkor. O pierwotnej Słowiańszczyźnie. Zarysy mitologiczne, podania, legendy, pieśni.— Niwa, 1875, rok 4, t. 7, c. 358.

## * 250. Ноч на Івана Купалу

Славутинский, с. 458—459, № 119. Зап. у в. Стрыеўкі Азерскай вол. Гродзенскага п. ад селяніна Пятра.

## 251. Кветка папараці

АІМЭФ, ф. 13, воп. 10, спр. 5, сш. 2, л. 21. Зап. З. І. Тоўсцік у 1964 г. у в. Міхневічы Ваўкавыскага р. Гродзенскай вобл. ад Тафілі Антонаўны Голец, 1900 г. н.

## 252. Цвет папараці

Сержпутоўскі, Казкі, с. 235—237, № 92. Зап. у в. В. Рожан Слуцкага п. ад Сасноўскага.
Г а ў р ы л ь ч ы ч ы — в. Гаўрыльчыцы, зараз у Лунінецкім р. Брэсцкай вобл.; ш а б а с — шабаш, па даўніх павер'ях, зборышча ведзьмаў.

## 253. Папарадь-кветка

АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 89, бл. 2, л. 2. Зап. В. І. Скідан у 1974 г. у в. Цаюны Валожынскага р. Мінскай вобл. ад В. І. Цаюна, 1906 г. н.

## 254. Папарацъ

Сахараў, л. 139—140. Зап. Г. Сахарава ў 1935 г. у Сярэдняй Пагулянцы (каля Дзвінска) ад дзеда Даната Мачаноўскага, 100 г.

## * 255. Лысая Гара

[У ноч на купалле]

Пракопчык, 1981, с. 69—70.
Лысая Гара — вёска ў Мінскім р.

## 256. Пекла

Federowski, т. 1, с. 15, № 39. Зап. у в. Куклічы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Янкі Прасняка.
Кавалы — вялікія кавалкі, глыбы.

## 257. [Вы́рай]

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 23, № 239. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Лявона Лябедзіка.

## 258. Калдун насылае нячыстую сілу

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 252—253, № 2211. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Данілы Куляша.
Абалонь — раўніна; птушачая дарога — Млечны Шлях, па якому, згодна даўніх павер'яў, птушкі ляцяць у вырай (гл. папярэдні запіс).

## 259. Чарадзейнік замовіў стрэльбу

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 247—248, № 2200. Зап. у в. Рожан Слуцкага п. ад Рэдкага.

## 260. Моцны чарадзей

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 245—247, № 2199. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Данілы Куляша.
Усерадная — сярэдні тыдзень мясаеду, перыяду ад каляд да масленіцы; караўкі — бярвенні, не ачышчаныя ад кары; з Міколы — тут: з зімовага Міколы, 6 сн. ст. ст.; каладзьё — калоды, дрэвы; хвіля — тут: завея; прашкі — пустыя, непраўдзівыя чуткі; гэ — так; Дзяніскавічы — вёска, цяпер у Ганцавіцкім р. Брэсцкай вобл.; алькерык — бакоўка.

## 261. Смерць чараўніка

Шейн, Материалы, т. 3, с. 258. Зап. валасны пісар А. Ганус у Мсціжскай вол. Барысаўскага п. Мінскай губ.
Строп — верх двухсхільнай страхі.

### 262. Ведзьма цягне малако

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 240—241, № 2165. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Данілы Куляша.

Маскоўка — салдатка; сляк — сляпень.

### 263. [Вядзьмаркі адбіраюць малако ад кароў перад Янам]

Шейн, Материалы, т. 3, с. 263. Зап. настаўнік нар. вучылішча Г. А. Несцярук у в. Ягнешчыц Слонімскага п. Гродзенскай губ.

Абруцця — аброць; каложына — калюга, лужына.

### * 264. [Пра вядзьмарку]

Barszczewski, т. 3, с. 29—30.

Клішкова — зараз вядомы в. Клішкі ў Браслаўскім р., Клішава ў Віцебскім р. або Клішы ў Бешанковіцкім р. Клішкова не выяўлена.

### 265. [Вядзьмарка можа мець малако і масла без каровы]

Шейн, Материалы, т. 3, с. 264—265. Зап. настаўнік нар. вучылішча Г. А. Несцярук у в. Ягнешчыц Слонімскага п. Гродзенскай губ.

Цёска — лучына; прымень — сенцы.

### 266. Ведзьма ў постаці жабы

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 238—239, № 2163. Зап. у в. Гаўрыльчыцы Слуцкага п. ад Паўліны Цундрыкавай.

Суваратьі — ямка.

### 267. [Ведзьма-жаба]

Шейн, Материалы, т. 3, с. 265—266. Зап. настаўнік нар. вучылішча Г. А. Несцярук у в. Ягнешчыц Слонімскага п. Гродзенскай губ. ад старой сялянкі Варвары.

Сцéпка — істопка, свіронак; спяршэў — спярша; здысь — смяротэльна.

### * 268. [Пра бабку-чараўніцу]

Славутинский, с. 459, № 119. Зап у в. Стрыеўкі Азерскай вол. Гродзенскага п. ад селяніна Пятра.

Заўв. эбір.: Напярэдадні купалля чараўніцы заломвалі жыта на полі (на чатырох вуглах нівы рабіліся «куклі»). У «куклі» падкладвалі вугаль, шкарлупіну ад яйца, камяк зямлі. Гэта лічылася вялікім ліхам: калі гаспадар своечасова не заўважыць гэтыя «чары», яго чакала бяда ў гаспадарцы (вугаль — пагарэць), голад (шкарлупка) і нават смерць (зямля). Каб пазбавіцца ліха, селянін наймаў свяшчэнніка або ксяндза для малебна.

### 269. Ведзьма ў постаці кабылы

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 236—238, № 2162. Зап. у в. Смолічы Слуцкага п. ад Лявона Ліцвіна.

Спрэсу — спрэс, зусім; ожаг — тут: кол асмалены; лайко — адзежына старая; луне — памрэ.

### 270. Удзеяно

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 250—252, № 2210. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Круглік.

Лены — тут: відаць, адзінокі дуб, што расце на лузе, на полі; сутачкі — прамежак паміж будынкамі.

### 271. [Заломы]

Демидович, с. 118. Зап. у м. Усялюб Навагрудскага п. Мінскай губ.

Патрактавалі — пачаставалі.

### 272. Заліто

Сержпутоўскі, Прымхі, с. 249—250, № 2205. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Ганны Бохмат.

На бляк — бяліць.

### * 273. Хвоя

Ніва, 1980, № 32, с. 3—4 (Нашы легенды і паданні). Зап. у в. Ванева Гайнаўскай гм. і апрац. М. Гайдук.

### 274. Чарадзейная татарка

Шейн, Материалы, т. 2, с. 450—451. Зап. вучань Свіслацкай настаўніцкай семінарыі В. Клімюк у Беластоцкім п. Гродзенскай губ.

Няміла — аглушвала.

### 275. [Татарка]

Этногр. сб., с. 90—91.

Фудзея — крамнёвая стрэльба; ледаякая — звычайная; зачаіцца — прытаіцца; лёхі — падвалы; патык — палка.

## ПАДАННІ

## ПРА ГІСТАРЫЧНЫЯ ПАДЗЕІ І ГІСТАРЫЧНЫХ АСОБ

### 276. Бяздоннае багацце

[Пра князя Яраслава]

Крывіч, 1923, № 3, с. 2. Пераказаў А. Снітка.

Адно з паданняў аб паходжанні шляхецкіх родаў, якія бытавалі на Беларусі ў асяроддзі дробнай засцянковай шляхты.

У аснову данага варыянта пакладзена вядомая казка аб бацьку, які пе-



30. Зак. 1230

рад смерцю завяшчаў сваім сынам незлічоны скарб, закапаны ім нібыта ў зямлі. Гэтым скарбам аказалася сама зямля. Паходжанне свайго роду Ранцэвічы звязваюць тут з імем князя Яраслава, які нібыта выдаў ім «дарагую грамату» на валоданне зямлёй.

Церы — відаць, цяцера, цецерукі; ратар — араты; Вялемічы — вёска паблізу Турава (зараз Жыткавіцкага р. Гомельскай вобл.).

Вар.: Мин. старина, вып. 2, 1911, с. 216—218. Зап. А. І. Раздзялоўская ў 1894 г. у в. Вялемічы Мазырскага п. Мінскай губ. ад старога дзеда Захар'евіча.

### * 277. Пра папа ідальскага

Мин. старина, вып. 2, 1911, с. 214—215. Зап. А. І. Раздзялоўская ў Тураўскай вол. Мазырскага п. Мінскай губ.

Збір. адзначае, што, па іншай версіі, «поп ідальскі» не сваёй смерцю памёр, а яго «ўбілі некія зладзеі, бо думалі багата грошай». А яшчэ іншыя расказвалі, што старога знайшлі з адсечанай галавой з той жа прычыны.

### * 278. [Рагвалодаў камень]

Живоп. Россия, с. 245—246. У скарач.

Рагвалод — князь полацкі і друцкі (XII ст.).

### * 279. [Курган Рагнедзін]

Сементовский, с. 16—17.

Ягнеда — Рагнеда (X ст.), полацкая князёўна, дачка Рагвалода, жонка вялікага князя кіеўскага Уладзіміра Святаславіча, маці князя Ізяслава.

### * 280. Гара Рагвалода і Рагнеды

Живоп. Россия, с. 248.

### 281. Гара Чорная

БВУ, ф. 34, спр. 573, л. 2. Зап. у 1873 г. у с. Тапары Невельскага п. Віцебскай губ.

### 282. Князь Барыс і чорт

Крывіч, 1923, № 3, с. 3—4. Зап. ад полацкага мешчаніна Тарноўскага. Легендарная казка пра царкву ў Полацку.

Тут, відаць, гаворка ідзе пра князя Барыса Полацкага (XII ст.), бацьку Рагвалода.

### 283. Адкуль Рубеж

АІМЭФ, ф. 9, воп. 5, спр. 9. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1956 г. у в. Дзяражычы Лоеўскага р. Гомельскай вобл.

Паданне пра ўрочышча, месца бітвы з татарамі. Эпізод бітвы двух асілкаў, у якой перамагае рускі асілак, зближае паданне з былінным багатырскім эпасам (параўн., напр., адзінаборства Алёшы Паповіча з Тугарыным). Бел. эпас.— Мн., 1959, с. 213, 309.

## 284. Поле Татарына

АІМЭФ, ф. 9, воп. 5, спр. 9. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1956 г. у в. Тонеж Тураўскага р. Гомельскай вобл. ад І. Калеснага, 101 г.
Паданне пра месца бітвы з татарамі.

## 285. Пра ўрочышча Татарскі Каўдоб

АІМЭФ, ф. 9, воп. 5, спр. 9. Зап. К. П. Кабашнікаў у 1956 г. у в. Абакумаў Лоеўскага р. Гомельскай вобл.
К а ў д о б — вялікая калдобіна, яр.

## * 286. [Пра татарскія курганы]

Киркор, с. 185—187.
К у р ж э н е ц — м. Куранец (зараз вёска ў Вілейскім р. Мінскай вобл.); М а л м ы г і — вёска ў тым жа р-не.

## * 287. [Пра татарскія магілы]

Основа, 1861, № 11—12, с. 100—101. П. Якушкин. Путевые письма. Зап. у Погарскім п. Чарнігаўскай губ.

## 288. Дзяды расказвалі

Kerb. 99 А. Тураўскі сл., т. 1, с. 241. Зап. М. А. Саскевіч у 1980 г. у в. Пагост Жыткавіцкага р. Гомельскай вобл. ад Анастасіі Рыгораўны Ліцвіненка, 1913 г. н.
Т у р к і — тут: татары; Т у р — рачулка, што ўпадае ў С ц в і г у, правы прыток Прыпяці; у п о л е т у — улетку, летам; д а л і н а — тут: ніэкае месца, дзе вада стаіць; к а п я л ю ш н і к — лопух, дзядоўнік (arctium); д а ж а н é — дагоніць; к р ы ш а н ы — булён з крышанай, парэзанай бульбаю; к р о п — вар, кіпень.

## * 289. Капцы каля вёскі Сукрэмна

БВУ, ф. 51 (Е. Р. Раманава), спр. 6, л. 3. З апісанняў раскопак курганаў, якія праводзіліся Е. Р. Раманавым у Сенненскім п. Магілёўскай губ.
Курганы гэтыя некаторыя мясцовыя жыхары лічылі шведскімі, але данае паданне звязвае іх з татарамі, якіх празвалі «белымі арапамі».

## 290. Вітаўт

Добровольский, ч. 1, с. 378, № 18.
Паданне, якое тлумачыць, з чаго «пайшлі бунты ў Польшчы».
В і т а ў т (1350—1430) — вялікі князь літоўскі (1392—1430), пры якім Вялікае княства Літоўскае значна расшырыла свае прасторы і дасягнула найбольшай магутнасці.
Пра Вітаўта пісаў Мікола Гусоўскі (XVI ст.):

Княжанне Вітаўта лічаць усе летапісцы
Росквітам княства Літоўскага, нашага краю...

(Гусоўскі М. Песня пра зубра. Пер. з лацінскай мовы. Я. Семяжон.— Мн., 1973, с. 63).

Акапіруем — экіпіруем.

## * 291. [Баторава гара]

Шпилевский, Путеш., 1853, т. 40, с. 2—3.

Баторый Стэфан (1533—1586) — польскі кароль з 1576 г.

## * 292. Пра паходжанне бяздзедавіцкіх і вусцянскіх курганаў

Сементовский, с. 21. Пер. з рус.

Тут яўнае змяшэнне эпох, уласцівае многім легендам, бо польскі кароль Баторый (Батура) жыў у XVI ст., а руская імператрыца Кацярына II (асілак-Кацярына) — у XVIII ст.

Бяздзедавічы, Вусце — вёскі ў Полацкім павеце (цяпер у Полацкім р. Віцебскай вобл.).

## 293. Казацкі гаёк

Ніва, 1961, № 50, с. 4. Фальклор Беласточчыны. Вызваленчая барацьба ў фальклоры Беласточчыны (1648—1651). Зап. Ліда Германюк у в. Белкі Нараўскай гм.

## * 294. Гарадкі

БВУ, ф. 34. Зап. у 1872 г. у Ровенска-Слабодскай вол. Рэчыцкага п. Мінскай губ.

## * 295. [Князь Бой і яго псы Стаўры і Гаўры]

Barszczewski, т. 2, с. 6—7. Зап. у Дрысенскім п. Віцебскай губ.

Падобны да князя Боя першапасяленец Бай і яго верныя псы Стаўры і Гаўры фігурыруюць таксама (у іншай сітуацыі) у легендзе «Адкуль пайшлі беларусы» (гл. 125).

Перадрук: Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego.— Wilno. 1847, с. 376—377; Шейн, Материалы.— СПб, 1890, т. 1, ч. 2, с. 630. У Барысаўскім п., каля Докшыц, перад сёмухай спраўлялі стаўроўскія дзяды (там жа, с. 629—630). Гл. таксама: Памятная книжка Гродненской губ. на 1869 г.— Гродна, 1868, с. 89.

## 296. [Бутрым Няміра]

Гоман, 1917, № 5, 6. Каменная труна (Скароч.).

Паданне пра баярскі род Няміраў, сярод якіх асаблівай лютасцю вызначаўся Бутрым.

Бутрым — размоўная форма бел. мужч. імя Баўтрамей, Варфаламей; Дзісна — б. павятовы горад Віленскай губ.; Германавічы — зараз вёска ў Шаркоўшчынскім р. Віцебскай вобл.; парубы — падвалы, склепы; павернік — даверaная асоба; Стаўра — адна з размоўных форм мужч. імя Стаўрэй, Ставер. (Параўн. імя героя рускай быліны пра ноўгарадскага купца Стаўра Гадзінавіча.)

*** 297. [Пра князя Слуцкага і яго замак на Князь-возеры]**

Караткевіч, Зямля, с. 39—40.

**298. Літоўская крэпасць**

Kerb. 137 (прыбл.). АІМЭФ, ф. 8, воп. 76, спр. 117, сш. 8, л. 69, № 58. Зап. Г. А. Барташэвіч у 1976 г. у в. Карабы Ашмянскага р. Гродзенскай вобл.

*** 299. Літоўскі камень**

Kerb. 32 C. Tyszkiewicz K., с. 119.

Ж о д з і ш к і, Т у п а л ь ш ч ы н а — зараз вёскі ў Смаргонскім р. Гродзенскай вобл.

*** 300. [Тайна цэглы, з якой пабудаваны касцёл у Вільні]**

Wisła, 1889, t. 3, с. 645—646. Biruta. Dwa podania.

Касцёл св. Ганны ў Вільнюсе ўпершыню ўпамінаецца ў 1501 г. у пісьме папы рымскага Аляксандра VI. Архітэктар касцёла дакладна невядомы. Адны даследчыкі называюць імя Нікалауса Карпентарыя, іншыя (Нарбут) — майстроў Пурбаха ( у паданні Юрбах) і Рэтке (А. Янкевичене. Ансамбль готики Вильнюса.— Вильнюс, 1981).

*** 301. Гара Серая**

Kerb. 86. БВУ, ф. 34, спр. 569, л. 3—4. Зап. настаўнік Далыскага нар. вучылішча Р. Смародзін у 1873 г. у в. Колесава Невельскага п. Віцебскай губ.

*** 302. Царава гара**

БВУ, ф. 34, спр. 542, л. 1—2. Зап. настаўнік Якубовіч у 1873 г. у в. Зябкі Дрысенскага п. Віцебскай губ.

Вёскі З я б к і, Д о ў г а е і С л а б а д а — у Верхнедзвінскім р. Віцебскай вобл.; С в о л н а — правы прыток р. Дрысы (басейн Зах. Дзвіны).

**303. Пятро Вялікі**

Сержпутовский, Сказки, с. 136—137, № 67. Зап. у в. Чудзін Слуцкага п. ад Грышко.

**304. Як Пётр у Рызе прысматрываўся к ліццю пушак**

Добровольский, ч. 1, с. 383—384, № 25.

**305. Пётр манастыр асматрываець, вяліць жырнаму манаху ў кузніцы паработаць**

Добровольский, ч. 1, с. 386—387, № 28.

**306. Як на ахоту Пётр ездзіў**

Добровольский, ч. 1, с. 381—383, № 24.

**307. [Злодзей выратоўвае Пятра ад смерці]**

Добровольский, ч. 1, с. 384—385, № 26.

**308. Вайна шведска**

Kerb. 98, 98 A. Federowski, т. 3, ч. 2, с. 5. Зап. у в. Ходараўка Сакольскага п. Гродзенскай губ. ад Яна Дзежкі.

Вар.: АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 82, сш. 4, л. 40. Зап. М. Я. Грынблат у 1974 г. у в. Саланая Валожынскага р. Мінскай вобл.

**309. Селішча**

Kerb. 98. 98 A. АІМЭФ, ф. 8, воп. 73, спр. 70, бл. 1, л. 49. Зап. А. С. Фядосік у 1973 г. у в. Кашэвічы Петрыкаўскага р. ад Агапы Савічны Раманоўскай, 1891 г. н.

**310. [Вайна са шведамі]**

Kerb. 99 A. Ніва, 1980, № 18, с. 4. Зап. Ф. Хлябіч у в. Рыбакі Шымкаўскай гм.

**311. Бітва пад Лясной**

Kerb. 95 (прыбл.). Беларусь, 1946, № 5—6, с. 47. М. Грынблат. Адлюстраванне ў фальклоры барацьбы нашага народа з іншаземнымі захопнікамі. Зап. І. А. Сербаў у 1938 г. у в. Кульшычы, цяпер Слаўгарадскага р. Магілёўскай вобл.

Паданне пра разгром шведскага корпуса Левенгаўпта пад в. Лясная 28 верасня 1708 г. Перамога над шведамі пад Лясной з'явілася важным этапам Паўночнай вайны, мела важнае значэнне ў далейшым ходзе вайны і падрыхтавала разгром шведскай арміі пад Палтавай. Таму Пётр I назваў яе пазней «матерью Полтавской баталии» (гл. Тельпуховский Б. С. Северная война 1700—1721 гг.— М., 1946).

Л я с н а я — вёска, цяпер у Слаўгарадскім р.; Л е в е н г а ў п т — Адам Людвіг Левенгаўпт (1659—1719), шведскі генерал, камандаваў войскамі, якія былі разбіты пад Лясной. Пасля разгрому арміі Карла XII пад Палтавай (1709 г.) быў захоплены ў палон; П р а п о й с к — цяпер Слаўгарад, раённы цэнтр Магілёўскай вобл.

*** 312. Маскоўскае табарышча**

ПГКБ, 1971, № 3, с. 56. М. Ф. Войценкаў. Маскоўскае табарышча.

Д у б р о в а — ур., вялікі лясны масіў, які быў раней на поўначы ад г. Мсціслава; М а с к о ў с к а е т а б а р ы ш ч а — паляна ва ур. Дуброве на Бялішчанскай дарозе.

*** 313. [Пра вайну са шведамі]**

БВУ, ф. 34. Зап. у 1872 г. у Валожынскай вол. Ашмянскага п. Віленскай губ.

### 314. Асінавы Гарадок

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 43, сш. 4, л. 46—48. Зап. М. Я. Грынблат у 1971 г. у в. Казароўшчына Пастаўскага р. Віцебскай вобл. ад Астафея Валяр'янавіча Казароўца, 1897 г. н.

Асінавы Гарадок — Асінагарадок і Сарокі — вёскі ў Пастаўскім р.

### * 315. Насыпы шведаў

Kerb. 86 А. Шейн, Материалы, т. 2, с. 446. Зап. навучэнец Свіслацкай настаўн. семінарыі А. Габроўскі ў в. Цераховічы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ.

### * 316. [Рвы часоў руска-шведскай вайны]

БВУ, ф. 34, спр. 295, л. 1—2. Зап. настаўнік нар. вучылішча М. Шчарбоў у 1873 г. у в. Гарадзец Чаускага п. Магілёўскай губ.

### 317. Магілы шведскія

Federowski, т. 2, ч. 1, с. 321, № 368. Зап. у м. Лыскоў Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ. ад Францішка Куляша.

Нарэндзе — рыштунак.

### * 318. [Пра шведскія курганы ў Слуцкай воласці]

БВУ, ф. 34, спр. 280, л. 1. Зап. настаўнік нар. вучылішча М. Пласкавіцкі ў 1873 г. у в. Лучнікі Слуцкага п.

### * 319. [Курганы каля сяла Дубовіца Клімавіцкага павета]

БВУ, ф. 34, спр. 324, л. 2. Зап. настаўнік Дубовіцкага нар. вучылішча А. Цацоха ў 1873 г. у с. Дубовіца Клімавіцкага п. Магілёўскай губ.

### 320. [Пра шведскія магілы]

Ніва, 1975, № 36, с. 5. М. Шаховіч. Каб зямля твае косці выкінула. Зап. у в. Сакі Бельскай гм.

### * 321. Пра шведаў

Шейн, Материалы, т. 2, с. 446. Зап. навучэнец Свіслацкай настаўн. семінарыі Тараскевіч у в. Цераховічы Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ.

Лыскава — зараз вёска ў Пружанскім р. Гродзенскай губ.

### * 322. Вітаўка

Kerb. 99, 105. Каганец, с. 33—35.

Груд — узвышанае месца сярод балот; перамёт — пярэдняя частка двара перад уваходам у палац; Вітаўка — ёсць такая вёска ў цяперашнім Дзяржынскім р. Мінскай вобл.

## 323. Пра 1812 год

Бальшавік Беларусі, 1945, № 4, с. 59. Ф. Канстанцінаў. Роля беларускага народа ў разгроме Напалеона.

Заўв. аўтара артык.: Апавяданне, якое перадавалі з пакалення ў пакаленне сяляне в. Сімакоўкі Карэліцкага р., запісанае гісторыкам Айчыннай вайны 1812 г. Б. Харкевічам.

Паданне, у якім адлюстравана дапамога беларускіх сялян рускім войскам у вайне з Напалеонам. У аснову падання пакладзен сапраўдны факт: селянін Дэяніс з в. Сімакава каля Міра (зараз Карэліцкага р.) непрыкметна правёў казакаў генерала Платава праз лес і балоты з м. Стоўбцы у м. Мір і гэтым садзейнічаў разгрому ворага (История БССР.— Мн., 1954, т. 1, с. 222). Палякі, аб якіх гаворыцца ў паданні,— польскі атрад, што ваяваў на баку Напалеона супраць рускіх войск.

С т о ў б ц ы — б. мястэчка, зараз горад, раённы цэнтр Мінскай вобл.; М і р — б. мястэчка, зараз г. п. Карэліцкага р. Гродзенскай вобл.; М я д з в е д к а, Ж у к а в і ч ы — вёскі, якія ляжаць на захад ад Сімакава (зараз таксама Карэліцкага р.).

## 324. Платон-казак

Сержпутоўскі, Казкі, с. 166—167. Зап. у в. Перавалока Слуцкага п. ад казачніка Калесніка.

П л а т а ў Мацвей Іванавіч (1751—1818) — граф, данскі казачы генерал, які праславіў сябе перамогамі над французамі ў вайне 1812 г., асабліва пры праследаванні французскай арміі, што адступала з Масквы (каля Гжацка, Духаўшчыны, Смаленска, Дуброўны і інш.). Кіраваў таксама народным партызанскім рухам. Платаў зрабіўся адным з любімых герояў народных песень і паданняў аб лоўкім і няўлоўным казаку Платаве. Народ у сваёй творчасці апявае вобраз Платава-казака, надзяляе яго рысамі нацыянальнага героя (гл. Смирный. Жизнь гр. Платова.— М., 1821).

У запісу Сержпутоўскага спалучаюцца пашыраныя ў народзе паданні аб галодных французах і партызанскай вайне супраць ворага з вядомымі паданнямі аб Платаве, які, пераапрануўшыся, пранікае ў варожы стан, да самога Напалеона. На аснове гэтых паданняў узнік рад песень пра Платава-казака, якія шырока вядомы і ў рускім, і ва ўкраінскім фальклоры. У гэтых адносінах характэрна, што і ў данай казцы казачнік, выкладаючы эпізод прыезду Платона-казака да Напалеона, пераходзіць на песенны склад, мерную рыфмаваную мову.

Даны твор заканчваецца смерцю Платона-казака, прычым месца яго смерці аднесена да раёна мястэчка Раманава. І тут важна вызначыць, што Платаў, які са сваімі казакамі граміў французаў на беларускай зямлі (пад Дуброўнай, Барысавам, Мірам, Гродна і інш.), у беларускім эпасе стаў сваім, мясцовым героем. Згодна з беларускімі паданнямі, Платаў геройскі загінуў, вызваляючы Беларусь ад французскіх рабаўнікоў. Так, каля в. Дашкаўкі Магілёўскага р. знаходзіцца старадаўні курган, які лічыцца магілай «партызана Платава», што нібыта загінуў у баі з французамі. (Даваенны архіў Сектара археалогіі Ін-та гісторыі АН БССР, справа № 7.) У сапраўднасці ген. М. І. Платаў памёр у 1818 г. і пахаваны ў г. Новачаркаску.

Р а м а н а в а — мястэчка ў б. Слуцкім п. Мінскай губ. (зараз в. Леніна Слуцкага р.).

### 325. Пявун-звон

Сахараў, л. 148—149. Зап. вуч. Лудзенскай бел. гімназіі В. Казлоўская ў 1923 г. у в. Райкі Янавольскай вол. Лудзенскага п.

Скакуны — конікі.

### 326. Пра французаў

АІМЭФ, ф. 8, воп. 2, спр. 50, сш. 4, л. 19—20. Зап. М. Я. Грынблат у 1972 г. у в. Абухава Верхнядзвінскага р. ад Васіля Вікенцьевіча Урбана, 1889 г. н.

Сыр'янка — рака Сар'янка ў Латв. ССР і БССР (у Верхнядзвінскім р.), правы прыток Зах. Дзвіны.

### 327. У плітках

Ніва, 1973, № 28. М. Хмялеўскі, Крушынянскія легенды. Зап. у в. Крушыняны Крынкаўскай гм. ад Кастуся Пятэльскага, Кастуся Макаля і Вінцука Каханоўскага.

Расстайная дарога — ростань.

### 328. Грэбля

Ніва, 1966, № 16. Зап. А. Макаль у в. Крушыняны Крынкаўскай гм.

### * 329. Гара Замак

Kerb, 95. БВУ, ф. 34, спр. 558, л. 1. Зап. настаўнік Ветрынскага нар. вучылішча І. Гішаўскі ў 1872 г. у Лепельскім п. Віцебскай губ.

Глінскія — зараз вёска ў Полацкім р. Віцебскай вобл.

### 330. Пра Чорную даму

АІМЭФ, ф. 8, воп. 82, спр. 202, бл. 1, л. 19—25. Зап. А. І. Гурскі ў 1982 г. у г. Нясвіжы Мінскай вобл. ад Георгія Ксенафонтавіча Лістапада, 1922 г. н.

Барбара (1520—1551), з роду Радзівілаў, на самай справе была сястрой не Мікалая Чорнага (1515—1565), а Мікалая Рудага (1512—1584), жонка вялікага князя літоўскага і польскага караля Сігізмунда (Зыгмунда, Жыгімонта) II Аўгуста (1520—1572).

Кар. вар. у кн.: Кириллова Ю. М. Прибалтика. Белоруссия.— М., 1978, с. 174.

### 331. Чорная дама ў труне

АІМЭФ, ф. 8, воп. 82, спр. 202, бл. 1, л. 39—43. Зап. А. І. Гурскі ў 1982 г. у г. Нясвіжы ад Васіля Вікенцьевіча Кярко, 1905 г. н.

## 332. Радзівіл-Сіротка

[Папова горка]

АІМЭФ, ф. 8, воп. 82, спр. 202, бл. 1, л. 11—14. Зап. А. І. Гурскі ў 1982 г. у г. Нясвіжы ад Георгія Ксенафонтавіча Лістапада, 1922 г. н.

Радзівіл-Сіротка — адзін з прадстаўнікоў магнацкага роду Радзівілаў, Мікалай Крыштоф Сіротка (1549—1616).

## 333. Князь Радзівіл Каханка

Сержпутоўскі, Казкі, с. 145—148, № 63. Зап. у в. Бохава Слуцкага п. ад старога дзеда Савіцкага.

Каханка, або Пане Каханку,— празванне князя Ка́раля Станіслава Радзівіла (1734—1790), найбуйнейшага магната, ардыната нясвіжскага, ваяводы віленскага, вядомага сваімі дзівацтвамі і сваволлем.

## 334. Пра «пане Каханку»

АІМЭФ, ф. 8, воп. 82, спр. 202, бл. 1, л. 26—31. Зап. А. І. Гурскі ў 1982 г. у г. Нясвіжы ад Георгія Ксенафонтавіча Лістапада, 1922 г. н.

## 335. Марысін парк

Kerb. 166. АІМЭФ, ф. 8, воп. 82, спр. 202, бл. 1, л. 15—18. Зап. А. І. Гурскі ў 1982 г. у г. Нясвіжы ад Георгія Ксенафонтавіча Лістапада, 1922 г. н.

## * 336. [Пра пана Оштарпа]

Работніца і сялянка, 1966, № 6, с. 2. А. Балаш. Дукорская легенда.

Оштарпы, Францішак і яго сын Леон — з к. XVIII ст. валадары Дукоры (цяпер Пухавіцкага р. Мінскай вобл.), буйныя прыгоннікі. Пан Ф. Оштарп і ў сапраўднасці патануў у р. Свіслач.

## * 337. [Пра пана Кошчыца]

Вилен. вестник, 1870, № 26. М. Радевич. Старо-мядельское предание.

Кошчыц — магнат, жорсткі прыгоннік, якому з 1697 г. належала мястэчка Мядзель, зараз г. п., раённы цэнтр Мінскай вобл.

## 338. Пра графа Тышкевіча

АІМЭФ, ф. 8, воп. 79, спр. 170, сш. 1, л. 34—35. Зап. М. Я. Грынблат у 1979 г. у в. Ерхі Вілейскага р. Мінскай вобл. ад Якава Антонавіча Залуцкага, 1903 г. н.

Тышкевічы — дваранскі род, які валодаў Лагойскам і іншымі маёнткамі. Два браты — Канстанцін Піевіч Тышкевіч (1806—1868) і Яўстафій Піевіч Тышкевіч (1814—1873) — вядомыя беларускія этнографы і краязнаўцы.

Каго з роду Тышкевічаў датычыцца гэта паданне, невядома.

Даўгінаў — зараз в. Даўгінава Вілейскага р.

## 339. Свіслацкае возера

[Граф Тышкевіч прымае купцоў]

Шейн, Материалы, ч. 2, с. 436. Зап. вучань Свіслацкай настаўніцкай семінарыі А. Руткоўскі ў м. Свіслач Ваўкавыскага п. Гродзенскай губ.

Гл. заўв. да папярэдняга запісу.

Л а л ы ш ы н а — від алешыны; х а р н і ў к а — скажонае польск. Chorągiewka, пратэса, сцяжок.

## 340. Пра пана Карпінскага і Чортава акно

Kerb. 102. З запісаў студэнтаў Гродзенскага дзярж. ун-та. Зап. М. А. Каляда ў 1969 г. у в. Багданаўка Шчучынскага р. Гродзенскай вобл. ад А. І. Каляды, 1906 г. н.

К а р п і н с к і — пан-прыгоннік у Шчучынскай вол. Лідскага п. Віленскага ваяв.

## * 341. [Пра бярозу Міцкевіча]

Przyjaźń, 1980, 30 maja, № 22, с. 7.

М а р ы л я — Марыля Верашчака, каханая А. Міцкевіча; Т у г а н о в і ц к і п а р к — у засценку Туганавічы на Навагрудчыне, дзе жыла М. Верашчака.

## 342. «Пан Багушэвіч вас слухае»

ЛІМ, 1980, 5 верас., с. 16. Зап. У. Содаль.

К у ш л я н ы — вёска ў Смаргонскім р. Гродзенскай вобл., у якой жыў Францішак Багушэвіч.

## * 343. [Пра чэрві і халеру]

БВУ, ф. 34, спр. 318, л. 6—7. Зап. мясцовы настаўнік у 1872 г. у Халбнянскай вол. Горацкага п. Магілёўскай губ.

Заўв. збір.: Гэта было ў вёсках К. і З. Пад гэтымі літарамі ў павеце існавалі ў той час заштатны гарадок Копысь і в. Засценак.

## 344. [Пра халеру]

БВУ, ф. 34, спр. 7, л. 2. Зап. настаўнік сельскага вучылішча ў 1873 г. у с. Кленікі Бельскага п. Гродзенскай губ. ад мясцовых жыхароў.

К л е н і к і — зараз вёска ў Беластоцкім ваяв. ПНР, у Кляшчэльскай гм.

## 345. Чаму кажуць: «У Падцацкіх жывымі хаваюць»

АІМЭФ, ф. 8, воп. 81, спр. 191, сш. 4, л. 2. Зап. А. І. Гурскі ў 1981 г. у в. Пясочнае Капыльскага р. Мінскай вобл. ад Аляксандра Васільевіча Астрэйкі, 1937 г. н.

П а д ц а ц к і я — вёска Уздзенскага р.

## 346. [Чаму цяпер халеры не чуваць]

Демидович, с. 134—135. Зап. у м. Усялюб Навагрудскага п. Мінскай губ.

# ПРА ПАХОДЖАННЕ ГАРАДОЎ І МЯСТЭЧАК, ВЕСАК, УРОЧЫШЧАЎ, РЭК, АЗЁР І ІХ НАЗВАЎ; ПРА ЎЗНІКНЕННЕ ПРОЗВІШЧАЎ

## ГАРАДЫ І МЯСТЭЧКІ

### * 347. Брагінь

Kerb. 167. БВУ, ф. 34. Зап. у 1872 г. у Ровенска-Слабодскай вол. Рэчыцкага п. Мінскай губ.

Брагін — г. п., раённы цэнтр Гомельскай вобл.; Хваніччына — Хойніччына (Хойнікі р. Гомельскай вобл.); Ровенская Слабада — вёска ў Рэчыцкім р. Гомельскай вобл.; Дзедаў Остраў — урочышча.

### 348. Пра Браслаў

Зап. А. У. Пястун у 1980 г. у Браслаўскім р. Віцебскай вобл. ад Вінцэнты Людвікаўны Кезік, 1918 г. н.

Вар.: Клаз І. Па Дзвіне на вёслах. Нарыс.— Мн., 1975, с. 126—127.

### 349. [Адкуль Бялынічы]

Kerb. 172. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 105, л. 173. Зап. В. І. Скідан у 1967 г. у в. Галаўчын Бялыніцкага р. Магілёўскай вобл. ад Юліі Андрэеўны Марозавай, настаўніцы-пенсіянеркі.

### * 350. [Як узнікла Бярэсце]

Kerb. 163. ЛіМ, 1972, 18 жн., с. 13. Б. Лобан. Дзядзінец Бярэсце... Унікальныя знаходкі.

Бярэсце — даўняя назва горада Брэста.

### 351. Адкуль Валожын

Kerb. 162. АІМЭФ, ф. 8, воп. 74, спр. 82, бл. 6, л. 41. Зап. М. Я. Грынблат у 1974 г. у г. п. Валожын Мінскай вобл. ад Фёдара Мікалаевіча Гарбачэўскага, 1904 г. н.

Жэнь, або жані,— формы загаднага ладу дзеяслова жануць — гнаць, вядомага ў палескіх гаворках.

Вар: там жа, спр. 89, бл. 1, л. 18. Зап. В. І. Скідан у 1974 г. у в. Цаюны Валожынскага р.

### * 352. Як узнік Ваўкавыск

Kerb. 166. Вилен. вестник, 1881, № 277. Д. Булгаковский. Исторический очерк Волковыска, уездного города Гродненской губ.

### * 353. Як узнік Ваўкавыск

Kerb. 166. Jodkowski J. Grodzisko Wołkowyskie.—Grodno, 1925, c. 12—13.

## 354. Адкуль Веліж

Kerb. 164. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 29. Зап. М. Я. Грынблат у 1955 г. у г. Веліж Смаленскай вобл. (раней — Віцебскай губ.) ад І. Саскова.

## 355. Адкуль Глыбокае

Kerb. 163. АІМЭФ, ф. 8, воп. 75, спр. 102, л. 31. Зап. М. Я. Грынблат і С. Т. Асташэвіч у в. Забор'е Глыбоцкага р. Віцебскай вобл. ад Пятра Пятровіча Петрашкевіча, 1906 г. н.

Абляту — аббегаю.

## 356. Адкуль Гомель

АІМЭФ, ф. 8, воп. 81, спр. 191, сш. 4, л. 1. Зап. А. І. Гурскі ў 1981 г. у поездзе ад пасажыра, 1921 г. н.

## * 357. [Давыд-Гарадок]

Kerb. 160. Живоп. Россия, с. 380.

Гл. таксама Вольскі, с. 110—111.

Па іншай версіі мясцовага падання, мястэчка заснаваў тураўскі князь Давыд (Россия, с. 559).

Гарынь — правы прыток Прыпяці; Давыд-Гарадок — зараз горад у Столінскім р. Брэсцкай вобл.

## 358. Адкуль Дывін

Kerb. 164. АІМЭФ, ф. 8, воп. 1, спр. 29. Зап. М. Я. Грынблат у 1953 г. у пас. Дзівін Брэсцкай вобл. ад старога, 1883 г. н.

Дывін — б. мястэчка, зараз в. Дзівін у Кобрынскім р.

Вар.: там жа. Другая версія («Месныя жыхары» вылечылі дачку «вяльможы» і гэта было ўспрынята, як «дзіва»).

## 359. Адкуль Заблудаў

Kerb. 164. Этногр. сб., с. 88—90.

Заблудаў — у XVI ст. маёнтак гетмана Р. Хадкевіча, пазней — мястэчка ў Гродзенскай губ., цяпер — горад у Беластоцкім ваяводстве (ПНР), цэнтр гміны. У 1569—1572 гг. у заблудаўскай друкарні Хадкевіча працаваў рускі першадрукар Іван Фёдараў, які выдаў там некалькі кніг.

Абанона — абалона, поплаў; ксёнжа (польск.) — князь.

## * 360. [Адкуль Івянец]

Kerb. 164. БВУ, ф. 34, спр. 213, л. 1. Зап. настаўнік М. Астроўскі ў 1872 г. у м. Івянец Івянецка-Старынскай вол. Мінскага п.

Івянец — зараз г. п. Валожынскага р. Мінскай вобл.

## * 361. Пра Кажан-Гарадок, Майдан і Відушаву гару

Kerb. 162. Вольскі, с. 79—83. Зап. ад Паўла Лукіча Вайцяхоўскага, 75 г., старажыла Кажан-Гарадка (Даецца ў скарачэнні).

Кажан-Гарадок — зараз вёска ў Лунінецкім р. Брэсцкай вобл., былое мястэчка.

